НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК
БЕЛАРУСІ
Інстытут гісторыі

В. Ф. Голубеў

# СЕЛЬСКАЯ АБШЧЫНА Ў БЕЛАРУСІ XVI-XVIII стст.

Мінск
«Беларуская навука»
2008

УДК 94(476) “15/17”
ББК 63.3 (4Беи)
Г 62

Рэцэнзенты: доктар гістарычных навук, прафесар А. А. Каваленя, доктар гістарычных навук, прафесар С. В. Марозава, доктар гістарычных навук Ю. М. Бохан, доктар гістарычных навук В. М. Ляўко

*Выданне падрыхтавана ў рамках выканання Дзяржаўнай комплекснай праграмы навуковых даследаванняў на 2006-2010 гг. «Гісторыя беларускай нацыі, дзяржаўнасці і культуры» (навуковы кіраўнік праграмы - доктар гістарычных навук, прафесар А. А. Каваленя).*

*Заданне «Гісторыя і культура» 02 - «Эканамічнае, сацыяльнае, палітычнае, этнаканфесіяльнае і культурнае развіццё беларускіх земляў у IX-XVIII стст.»*

*(навуковы кіраўнік задання - кандыдат гістарычных навук А. І. Груша)*

**Голубеў, В. Ф.**

Г 62 Сельская абшчына ў Беларусі XVI-XVIII стст. / В. Ф. Голубеў. - Мінск: Беларус. навука, 2008. - 407 с.
ISBN 978-985-08-0970-4.

Дадзеная манаграфія – гэта першае даследаванне становішча сялянскай абшчыны ва ўсіх відах феадальнага землеўладання на тэрыторыі Беларусі ў XVI-XVIII стст. Паказана становішча абшчыны ў розных рэгіёнах Беларусі, вызначаны агульныя тэндэнцыі і асаблівасці развіцця ў дзяржаўных, прыватных і царкоўных уладаннях. Разгледжаны асноўныя функцыі грамады як інстытута сялянскай самаарганізацыі, службовых асоб грамады, яе адносіны з землеўласнікамі.

Разлічана на навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў і студэнтаў, усіх, хто цікавіцца гістарычным мінулым Беларусі.

**УДК 94(476)**"15/17"
**ББК 63.3 (4Беи)**

ISBN **978-985-08-0970-4**

# УВОДЗІНЫ

Станаўленне і развіццё чалавечага грамадства ў многім звязана са з'яўленнем і функцыяніраваннем такога сацыяльна-гаспадарчага інстытута, як абшчына. Вядома, што абшчына як эканамічна-вытворчая і сацыяльная адзінка прайшла доўгі шлях эвалюцыі. Узнікшая ў першабытную эпоху як аб'яднанне кроўных родзічаў з калектыўнай формай уласнасці для сумеснай барацьбы з сіламі прыроды і навакольным асяроддзем за сваё выжыванне, яна паступова трансфарміравалася і ў перыяд феадалізму ператварылася ў тэрытарыяльную абшчыну (грамаду) з сямейна-індывідуальнай уласнасцю і эканамічнай дыферэнцыяцыяй насельніцтва і дзейнічала ўжо галоўным чынам на падставе не кроўных, а гаспадарчых сувязей.

Дакладна прасачыць арганізацыю сацыяльнага ладу на беларускіх землях у дадзяржаўны (у нашым выпадку – дафеадальны) перыяд немагчыма. Разам з тым археалагічныя даныя сведчаць, што ўжо ў самым пачатку жалезнага веку (VIII-VII стст. да н. э.) на тэрыторыі Беларусі адбывалася распадзенне першабытнаабшчынных адносін. Пацвярджэннем гэтаму стала з'яўленне асобных гарадзішчаў, у якіх жылі вялікія патрыярхальныя сем'і, што вылучыліся з роду. На аснове аналізу археалагічных матэрыялаў беларускія даследчыкі прыйшлі да вываду, што «ўсе плямёны, якія засялялі тэрыторыю Беларусі з самага пачатку жалезнага веку, жылі ва ўмовах патрыярхату. Вялікая патрыярхальная сям'я з'яўлялася асноўнай гаспадарчай адзінкай. Аб'яднанне некалькіх такіх кроўных сем'яў насіла родавы характар. І гэтае злучэнне мела сваю тэрыторыю для пражывання і гаспадарання»[1]. Некаторыя даследчыкі знаходзяць родавую абшчыну ў славян у больш позні перыяд, спасылаючыся на літаратурныя крыніцы, у прыватнасці на «Аповесць мінулых часоў» (пачатак XII ст.), у якой канстатавалася «жывяху кождо с родом своим и на своих местех»[2]. Прынята лічыць, што члены роду вялі супольную гаспадарку і сумесная праца і агульная ўласнасць складалі аснову ўсяго жыцця абшчыны. Род складаўся з некалькіх кроўных (патрыярхальных) сем'яў, кожная з якіх жыла ў асобным паселішчы (гарадзішчы). Гарадзішчы звычайна канцэнтраваліся групамі (па два, тры, чатыры) і, хутчэй за ўсё, належалі да аднаго роду. На чале родаў стаялі старэйшыны. Некалькі блізкіх родаў складалі племя, якім кіравалі правадыры, што выбіраліся з ліку старэйшын.

З пачатку І тысячагоддзя н. э. ў першую чаргу ў сувязі з развіццём земляробства адбываўся працэс распаду патрыярхальнай абшчыны на малыя сем'і. Аб гэтым сведчыць змяненне тыпу жылых пабудоў на гарадзішчах. Вялікія (доўгія) абшчынныя дамы, якія адпавядалі сумеснаму пражыванню адзінага калектыву, паступова саступілі месца невялікім пабудовам, дзе асобна жылі малыя сем'і[3].

З-за адсутнасці дакладных сведчанняў у гістарычнай навуцы не існуе адзінай думкі аб развіцці абшчыны ва ўсходніх славян у другой палове І тысячагоддзя н.э. Найбольш верагодна, што згаданы час быў перыядам, «калі ў славян у пераходных

---

[1] Шадыра, В. Развіццё грамадства ў жалезным веку. 4. Сацыяльныя адносіны і грамадскі лад / В. Шадыра // Гісторыя Беларусі: у 6 т. / рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. - Мінск: Экаперспектыва, 2000-2005. - Т. 1. Старажытная Беларусь. Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. / В. Вяргей і інш. - 2000. - С. 115.

[2] История крестьянства СССР с древнейших времен до Великой Октябрьской социалистической революции. В пяти томах. – Т. 1. Предпосылки становления крестьянства. Крестьянство рабовладельческих и раннефеодальных обществ (VI-V тысячелетие до н. э. – I тысячелетие н. э.). – М.: Наука, 1987. – С. 369.

[3] Шадыра, В. Развіццё грамадства ў жалезным веку. 4. Сацыяльныя адносіны і грамадскі лад. С. 116.

формах абшчыны перапляталіся розныя родавыя і суседскія сувязі»[4].

Некаторыя даследчыкі вылучаюць тры асноўныя тыпы абшчыны пераходнага перыяду ад першабытнага да класавага грамадства: «1) вялікасямейную VI-VII стст.; 2) земляробчую (суседска-вялікасямейную VIII-IX стст.) і 3) суседскую раннефеадальную»[5].

Такім чынам, на працягу VIII-IX стст. на змену саюзу роднасных патрыярхальных сем'яў прыйшла новая грамадская форма сацыяльнай арганізацыі насельніцтва – сельская, ці суседская, абшчына. Яна складалася ўасноўным з малых індывідуальных сем'яў. Даследчыкі звычайна адзначаюць, што пісьмовыя крыніцы прыводзяць некалькі назваў усходнеславянскай абшчыны: «пагост», «мір». «верв»[6]. На думку Б. А. Рыбакова, род у навуковым сэнсе, а пазней і суседская абшчына па маштабу адпавядалі такім летапісным назвам населеных пунктаў, як «весь», «градок», «село», «деревня». Больш буйныя абшчынныя аб'яднанні адпавядалі тэрмінам «мір», «пагост». «воласць»[7]. А. В. Іоў адзначаў, што «асноўным тыпам паселішча на землях Беларусі ў IX-XIII стст. была «весь», дзе жылі свабодныя абшчыннікі. У пісьмовых крыніцах яна ўпамінаецца ў агульнай форме, як супрацьлегласць гарадам. Другім тыпам паселішчаў, дзе першапачаткова жылі свабодныя сяляне, было «сяло». Пазней гэты тэрмін пачаў ужывацца ў адносінах да паселішчаў, што належалі свецкай і духоўнай знаці і засяляліся залежнымі ад іх людзьмі»[8]. У гэты час тэрыторыю сельскіх абшчын і іх цэнтральнае паселішча называлі тэрмінам «пагост».

З канца IX ст. з пашырэннем дзяржаваўтваральных працэсаў на ўсходнеславянскіх землях і ўмацаваннем княжацкай феадальнай улады адбывалася паступовае падпарадкаванне абшчыны (ці асобных яе функцый) феадальнаму ўласніку. Для гэтага перыяду былі характэрны наступныя формы суседскай абшчыны: «1) адносна свабодная сялянская абшчына-верв; 2) феадальна-залежная абшчына; 3) гарадская (пасадская) абшчына»[9]. Самай масавай арганізацыяй сельскага насельніцтва заставалася сялянская абшчына-верв, якая з'яўлялася аб'яднаннем галоўным чынам сялян-уласнікаў ворыўнай зямлі. Яе члены, паступова пападаючы ў розную ступень феадальнай залежнасці, станавіліся ўжо не ўласнікамі, а толькі трымальнікамі ворыўнай зямлі. Феадальна-залежныя абшчыны X-XI стст., на думку даследчыка ўсходнеславянскай абшчыны гэтага перыяду Б.А. Цімашчука, «з'яўляліся састаўной часткай такіх сацыяльных мікраарганізмаў, як княжацкія (дзяржаўныя) крэпасці»[10]. Яны ўяўлялі сабой княжацкія сёлы, якія размяшчаліся побач з крэпасцю ці недалёка ад яе.

Гарадскія абшчыны з'яўляліся важнай структурнай часткай горада, мелі сваё

---

[4] Штыкаў, Г. В. Абшчына і яе эвалюцыя Пачатак працэсу станаўлення сялянства ў славян / Г. В. Штыхаў / Гісторыя сялянства Беларусі: у 3 т. / рэдкал.: В.І. Мялешка (гал. рэд) [і інш.]. - Мінск Беларус. навука, 1997-2000 .- Т. 1. Гісторыя сялянства Беларусі ад старажытнасці да 1861 г. / Я. Анішчанка [і інш.] .- 1997. - С. 29 .

[5] Тимощук, Б. А. Восточнославянская община VI-X вв. н. э. / Б. А. Тимощук. -М.: Наука, 1990.- С. 141 .

[6] Черепнин, Л. В Формирование крестьянства на Руси / Л. В. Черепнин // Историня крестьянства в Европе. Эпоха феодализма. - Т. 1.- М.: Наука. 1985.- С 325 ; Іоў. А. Сельская абшчына і вёска / А. Іоў // Гісторыя Беларусі: у 6 т. / рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. - Мінск: Экаперспектыва, 2000-2005.- Т. 1. Старажытная Беларусь. Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. / В. Вяргей і інш. - 2000.- С. 261.

[7] История крестьянства СССР с древнейших времен до Великой Октябрьской социалистической революции.- С. 371 .

[8] Іоў, А. Сельская абшчына і вёска.- С, 262.

[9] Тимощук, Б. А. Восточнославянская община VI-X вв. н. э.- С 142-143.

[10] Тамсама.- С. 143.

самакіраванне, тэрыторыю, але да сярэдзіны XVI ст. часта ўваходзілі ў склад валасных абшчын, у якасці іх адміністрацыйных цэнтраў[11].

Для сельскай абшчыны X-XI стст. па-ранейшаму былі характэрныя рысы самакіравання (выбары кіраўніка, уласны грамадскі суд), але паступова яна трапляла ў залежнасць ад землеўласнікаў, губляючы частку сваіх функцый. Менавіта ў часы феадалізму абшчына стала адным з важных суб'ектаў сацыяльнай і эканамічнай арганізацыі грамадства і аказвала непасрэдна ці апасродкавана значны ўплыў на многія сферы грамадскага і гаспадарчага жыцця. Да таго ж грамада, асабліва ў сельскай мясцовасці. садзейнічала захаванню гаспадарчых, юрыдычных. бытавых і культурных традыцый, фарміраванню этнічнай агульнасці насельніцтва, якое там пражывала.

Вывучэнне ролі абшчыны ў сацыяльна-эканамічным жыцці феадальнага грамадства выклікае вялікую навуковую зацікаўленасць у вучоных розных краін. Але ў беларускай гістарычнай навуцы ў адрозненне як ад еўрапейскай гістарыяграфіі, так і гістарыяграфіі краін – суседзяў Беларусі (Расіі, Польшчы, Украіны) пытанне існавання і функцыянiравання сельскай абшчыны ў феадальную эпоху амаль не даследавана. У беларускай гістарыяграфіі ёсць толькі адна спецыяльная работа, прысвечаная сельскай абшчыне ў эпоху феадалізму, – манаграфія М. В. Доўнар-Запольскага «Западно-русская сельская община в XVI веке», якая была напісана яшчэ ў канцы XIX ст.[12] Дадзеная праца ўяўляе сабой даследаванне сялянскай абшчыны толькі ў дзяржаўных уладаннях усходу Беларусі ў XVI ст і таму не дазваляе скласці дакладнае ўяўленне аб гэтым інстытуце сялянскай самаарганізацыі ў розных відах землеўладання ў феадальную эпоху на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Між тым даследаванне ўнутранай арганізацыі грамады, развіцця форм яе дзейнасці, вывучэнне асаблівасцей прававога і гаспадарчага становішча ў розных рэгіёнах Беларусі і розных відах феадальнага землеўладання, характару ўзаемаадносін з дзяржавай, прыватнымі і царкоўнымі ўласнікамі дазваляе на больш высокім узроўні праводзіць далейшую навуковую распрацоўку праблем эвалюцыі аграрнай гісторыі, сацыяльна-эканамічнага жыцця сялянства, характару міжсаслоўных адносін, унутранага ўладкавання феадальнай вёскі, ролі грамадскіх норм і традыцый у жыцці насельніцтва, а таксама шэрагу іншых праблем гісторыі Беларусі.

У феадальную эпоху сялянская абшчына на землях ВКЛ уяўляла сабой даволі складаны грамадска-вытворчы інстытут, які выконваў дзве асноўныя функцыі: арганізацыйна-абарончую для насельніцтва, якое ўваходзіла ў склад грамады, і прадстаўнічую ў адносінах абшчыны з землеўласнікам ці дзяржавай. Разам з тым нярэдка абшчына выкарыстоўвалася землеўласнікам і нават дзяржавай у сваіх інтарэсах, напрыклад пры зборанні падаткаў, арганізацыі агульных работ і інш.

У адносінах да тэрыторыі Беларусі тэрмін «абшчына» ў гістарычных крыніцах да канца XVIII - пачатку XIX ст. не зафіксаваны, але ў беларускай гістарыяграфіі ён атрымаў дастаткова шырокае распаўсюджанне для абазначэння

---

[11] Голубеў, В Ф. Эвалюцыя абшчыны як грамадска-тэрытарыяльнай супольнасці на Магілёўшчыне ў XVI ст./ В. Ф. Голубеў // Мінулае і сучасная гісторыя Магілёва: зборнік навуковых прац / уклад. І. А. Пушкін. - Магілёў: УПКП «Магілёўская абласная ўзбуйненая друкарня», 2001. - С. 37-41; Дворниченко. А. Ю. Русские земли Великого княжества Литовского (до начала XVI в.). Очерки истории общины, сословий, государственности / А. Ю. Дворниченко. - СПб.: Изд-во С.-Петербург. ун-та, 1993. - С. 54-55, 131.

[12] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке / М. В. Довнар-Запольскнй. - СПб.: Типография В. С. Балашева и К°, 1897. - 56 с

формы самаарганізацыі насельніцтва ад першабытнай да феадальнай эпохі ўключна. Тэрмін «абшчына» выкарыстоўваецца даследчыкамі гісторыі Беларусі да пачатку XIII ст. нароўні з назвамі «мір», «вервь», «пагост»[13]. Як сведчаць гістарычныя крыніцы, назва «грамада» ў адносінах да інстытута сялянскага самакіравання з'явілася на беларускіх землях не раней за першую палову XVII ст. (у крыніцах XVI ст. не сустракаецца ніводнага выпадку ўжывання тэрміна «грамада») і, хутчэй за ўсё, прыйшла ў беларускую мову з польскай. Назвы «абшчына» і «сельская грамада» беларускія даследчыкі прымяняюць пры характарыстыцы адпаведнай структуры на беларускіх землях пасля іх уключэння ў склад Расійскай імперыі як адпаведнік рускаму тэрміну «община»[14]. Таму ў адносінах да дадзенай працы лічым магчымым і навукова абгрунтаваным ужыванне яго нараўне, а ў некаторых выпадках замест ідэнтычнага і распаўсюджанага ў беларускіх гістарычных крыніцах тэрміна «грамада».

Адзначым таксама. што тэрмінам «грамада» не заўсёды абазначалася толькі сялянская абшчына. У некаторых выпадках у гістарычных крыніцах так называлася проста вялікая колькасць людзей, сабраных у адным месцы, альбо людзі, аб'яднаныя нейкай адной справай, і да т. п. Больш за тое, гістарычныя крыніцы змяшчаюць і некаторыя іншыя вызначэнні сельскай грамады, выкарыстоўваць якія неабходна з улікам усяго кантэкста дакумента. Так, на Палессі і ў некаторых мясцовасцях усходу Беларусі даволі доўга працягвалі існаваць рэлікты старажытных сямейных, або патрыярхальных абшчын, што звычайна захоўвалі свае патранімічныя назвы. Часцей за ўсё гэта былі дворышчы, селішчы, жарэбі, службы. У некаторых выпадках гэтыя патранімічныя назвы пасля валочнай памеры сярэдзіны XVI ст. пераносіліся на новыя надзелы гэтых сямей. Такія факты сустракаліся, напрыклад, на Берасцейшчыне і Кобрыншчыне яшчэ ў XVIII ст. Так, у 1722 г. у вёсках Гарадзецкага ключа Кобрынскай эканоміі ўсе валокі мелі патранімічныя назвы кшталту «Барысавін», «Здановіч», «Нестароўская», «Кузьмінская» і г. д., прычым прозвішчы сялян, якія трымалі гэтыя валокі, не заўсёды супадалі з прозвішчам-назвай валокі. хутчэй за ўсё гэта былі прозвішчы ранейшых трымальнікаў надзелаў[15].

На беларускіх землях для абазначэння тэрытарыяльнай абшчыны, якая складалася з некалькіх вёсак, аб'яднаных звычайна па прымеце прыналежнасці да таго ці іншага землеўладальніка. ужываўся тэрмін «воласць». Тэрытарыяльная. ці валасная, абшчына складалася з меншых адзінак, якія таксама былі абшчынамі і мелі назву «весь» альбо «сяло». Якраз гэтыя сельскія абшчыны і атрымалі пазней назву «грамада».

Членамі грамады былі жыхары сяла, але кожную асобную гаспадарку («дым») прадстаўляў, верагодна, яе кіраўнік. Гэтыя людзі, якія валодалі правам прыняцця рашэнняў, правам галасавання, называліся «мужы». Калі ў іншых сітуацыях селянін у дакументах мог быць названы хлопам, падданым, дзедзічам, отчычам і да т. п.. то ў адносінах з абшчынай выкарыстоўваўся толькі тэрмін «муж», «мужы». Дарэчы, знаходка такога тэрміна ў гістарычным тэксце часта становіцца сведчаннем існавання грамады ў вёсцы ці маёнтку, пра якія ідзе размова.

Органамі грамады былі агульныя сходы жыхароў, яны таксама называліся

---

[13] Черепнин, Л. В. Формирование крестьянства на Руси. - С. 325 ; Іоў. А. Сельская абшчына і вёска. - С. 261-268.

[14] Панютич, В. П. Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861-1900 гг. / В. П. Панютич. - Минск Навука і тэхніка, 1990. - С. 69-82.

[15] AGAD. A RP, sing. 187, p. 2-8.

«грамадой». Збірацца на грамаду, ці ў грамаду, абазначалася тэрмінам «грамадзіцца», «зграмадзіцца». Часта грамадой увогуле называўся любы калектыў жыхароў вёскі.

Грамада ў Беларусі найбольш выразна прасочваецца ў буйных дзяржаўных, магнацкіх і духоўных уладаннях. Часта такія ўладанні здаваліся ў арэнду, іншае часовае трыманне, і землеўласніку з дапамогай грамады было прасцей весці кантроль за аканомамі і арандатарамі, каб яны не нашкодзілі маёнтку і не абцяжарвалі сялян звыш норм. прадугледжаных у інвентарах. У гэтым сэнсе можна нават сцвярджаць пра наяўнасць у беларускай феадальнай вёсцы пэўных элементаў сельскага самакіравання.

У беларускай гістарыяграфіі замацавалася няправільная думка аб тым, што грамада ў Беларусі ў XII-XIII стст. не мела агульнай уласнасці, а толькі валодала правам карыстання пашамі, сенакосамі, ляснымі ўступамі і ўваходамі, а таксама рыбнымі і птушынымі ловамі, бабровымі гонамі і да т. п. Аналіз апрацаваных аўтарам крыніц паказвае, што ў сельскай грамадзе звычайна ў сумесным валоданні знаходзіліся тыя ж пашы і сенакосы, нават млыны. рудні,васкабойні і інш., а ў некаторых выпадках і ворыўная зямля, з правам распараджэння аж да магчымасці ажыццяўляць аперацыі куплі-продажу.

Паказальным з'яўляецца тое, як высока ацэньвала феадальная адміністрацыя дагаворы, што заключаліся з грамадой. Крыніцы паказваюць, што да абшчыны з боку феадальнага ўласніка былі вельмі паважлівыя адносіны, у тым ліку і да сялянскіх скаргаў, напісаных ад імя грамады. Звычайна пагадненні, прынятыя «на грамадзе», мелі сілу закона і не парушаліся ні сялянамі, ні феадаламі.

Тэрмін «грамада» (у цяперашнім разуменні«абшчына») у адносінах да тэрыторыі Беларусі шырока замацаваўся ў крыніцах прыблізна з першай паловы XVII ст. У дадзенай працы тэрміны – «сельская абшчына» і «сялянская абшчына» ўжываюцца як раўназначныя, паколькі першы абазначае тэрыторыю, на якой пражывалі абшчыннікі, а другі – насельніцтва, якое ўваходзіла ў гэтую тэрытарыяльную структуру.

Такім, чынам. праблема функцыяніравання сялянскай абшчыны (грамады) на тэрыторыі Беларусі ў XVI-XVIII стст., уплыву яе дзейнасці на фарміраванне беларускай народнасці і нацыі, на афармленне правіл і традыцый жыцця беларусаў патрабуе правядзення спецыяльнага, больш поўнага і глыбокага комплекснага даследавання, што і імкнуўся зрабіць аўтар дадзенай працы.

Праца заснавана на ўсталяванай у гістарыяграфіі перыядызацыі сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі ў XVI-XVIII стст. У працэсе даследавання былі вылучаны тры храналагічныя перыяды, якія характарызуюцца пэўнымі зменамі, што адбываліся ў сацыяльна-эканамічным жыцці грамадства: XVI – першая палова XVII ст. – перыяд замацавання таварна-грашовых адносін ва ўсіх сферах гаспадаркі, пераход да фальварачна-паншчыннай сістэмы гаспадарання ў спалучэнні са значнай доляй грашовай рэнты ў сістэме павіннаснага абкладання сялянства; другая палова XVII – першая палова XVIII ст. – перыяд, звязаны з войнамі, што пракаціліся па тэрыторыі Беларусі, гэта час эканамічнага заняпаду і гаспадарчага аднаўлення, пашырэння грашовай рэнты і ўвядзення практыкі прымянення разнастайных ільгот для феадальназалежнага насельніцтва; другая палова XVIII ст. – час эканамічнага адраджэння на аснове як ўмацавання фальварачна-паншчыннай сістэмы ў спалучэнні з іншымі формамі гаспадарання, так і мадэрнізацыі эканомікі на аснове правядзення разнастайных гаспадарчых і адміністрацыйных рэформ. Храналагічна

даследаванне завяршаецца канцом XVIII ст., калі пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ў адпаведнасці з Палажэннем аб валасным і сельскім упраўленні (1797 г.) у дзяржаўных уладаннях была ўведзена сістэма сельскага абшчыннага кіравання (сельскія таварыствы), аналагічная расійскай.

У працэсе даследавання асобна разглядаецца эвалюцыя сельскай грамады ў дзяржаўных, прыватнаўласніцкіх і царкоўных уладаннях на працягу ўсяго вывучаемага перыяду. Акрамя таго, для выяўлення больш поўнага ўплыву тых ці іншых тэндэнцый гаспадарчага развіцця на месца і ролю сельскай абшчыны ў сацыяльна-эканамічным жыцці Беларусі XVI-XVIII стст. даследаванне праводзілася асобна па дзвюх эканоміка-геаграфічных зонах. Гэтыя зоны, якія ў працы адзначаны як захад (ці захад і цэнтр) і ўсход Беларусі, падзелены па ўмоўнай лініі Браслаў – Менск – Слуцк – Пінск і адрозніваюцца як характарам эканамічнага (перавага фальварка і паншчыны на захадзе, даніны і грашовай рэнты на ўсходзе). так і сацыяльна-палітычнага развіцця (усход – «украінныя» тэрыторыі, якім пастаянна пагражалі ваенныя напады, што абумоўлівала ў адносінах да іх больш гнуткую сацыяльную палітыку).

Даследаванне ахоплівае тэрыторыю Беларусі пераважна ў сучасных межах. Разам з тым выкарыстоўваліся матэрыялы ўладанняў, размешчаных на так званых памежных тэрыторыях, якія ў свой час былі ў складзе ВКЛ, а цяпер знаходзяцца ў Полышчы, Расіі, Літве і Украіне. Даныя, змешчаныя ў гэтых матэрыялах, з'яўляюцца такімі ж рэпрэзентатыўнымі, як і звесткі з суседніх «уласнабеларускіх» уладанняў. таму што сацыяльна-эканамічнае развіццё маёнткаў у асобных рэгіёнах ВКЛ XVI-XVIII стст., з аднаго боку, вызначалася аднолькавымі ўплывамі дзяржаўнай палітыкі, а з другога – мела сваю рэгіянальную спецыфіку.

Параду збіраць любыя звесткі аб наяўнасці абшчыны на тэрыторыі Беларусі за перыяд, які доўжыўся да далучэння яе да Расійскай імперыі, аўтар дадзенай працы атрымаў ў свой час ад вядомага даследчыка гісторыі Беларусі эпохі феадалізму, вядучага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктара гістарычных навук З.Ю. Капыскага, якога, на жаль, ужо няма з намі. Вельмі ўдзячны за такую навуковую падказку, аўтар на працягу некалькіх гадоў, займаючыся іншымі праблемамі гісторыі Беларусі, назапашваў адпаведны матэрыял па гісторыі абшчыны.

З вялікай удзячнасцю хачу адзначыць, што завяршэнне дадзенага навуковага даследавання і падрыхтоўка да выдання манаграфіі сталі магчымымі ў тым ліку і ў выніку прызнання аўтара дадзенай працы ў 2006-2007 навучальным годзе Першым лаурэатам акадэмічнай узнагароды імені Льва Сапегі, якая была прысуджана яму прадстаўнікамі пяці вядучых універсітэтаў Польшчы і знаходзіцца пад ганаровым патранатам Прэзідэнта Рэчы Паспалітай Леха Качыньскага. Дзякуючы гэтаму аўтар атрымаў магчымасць не толькі выяўляць дакументы аб сялянскай абшчыне ў раней недаступных для беларускіх даследчыкаў бібліятэках і архівах Польшчы, але і працаваць у кантакце з гісторыкамі вядучых польскіх універсітэтаў у справе абагульнення крыніцазнаўчай і гістарыяграфічнай базы і падрыхтоўкі да друку гэтага даследавання.

У выніку працы ў архівах Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны, Расіі ў аўтара з'явілася магчымасць не толькі сабраць значную крыніцазнаўчую базу па гісторыі сельскай абшчыны на беларускіх землях у эпоху феадалізму, але ў нейкай ступені асвятліць адну з найбольш складаных праблем беларускай гістарыяграфіі эпохі феадалізму, даследаваць дзейнасць грамады, гэтай спецыфічнай арганізацыі

сельскага насельніцтва на працягу трох стагоддзяў ва ўсіх відах феадальнага землеўладання.

Выказваю шчырую падзяку Фонду падтрымкі навукі – Касе імя Ю. Мяноўскага за прадастаўленую магчымасць працы ў архівах і бібліятэках Варшавы, асабіста дырэктару Studium Europy Wschodniej Варшаўскага універсітэта прафесару Яну Маліцкаму і ўсім членам савета па прысуджэнню ўзнагароды імені Льва Сапегі, а таксама кіраўніцтву і супрацоўнікам Ягелонскага, Беластоцкага, Варшаўскага, Познаньскага і Вроцлаўскага універсітэтаў, архіваў і бібліятэк Польшчы. у якіх мне давялося з вялікай прыемнасцю працаваць і дзе мне была аказана прыязная і ўсебаковая дапамога.

Аўтар выказвае шчырую падзяку за дапамогу і карысныя парады ў працы над дадзеным даследаваннем І.Ф.Кітурка, А.І.Грушы, А.В.Губін, А.Б. Доўнару, а таксама ўсім супрацоўнікам аддзела гісторыі Беларусі сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

# 1

## ГІСТАРЫЯГРАФІЧНЫ АГЛЯД І КРЫНІЦЫ ДАСЛЕДАВАННЯ

У гістарыяграфіі агульнапрынята думка аб тым, што вывучэнне гісторыі сялянства не можа адбывацца без даследавання сельскай абшчыны (грамады), яе сутнасці і месца ў гістарычным працэсе. Такога пункту гледжання прытрымліваліся гісторыкі самых розных накірункаў: памешчыцка-дваранскага і ліберальна-буржуазнага – у Расійскай імперыі. марксісцка-ленінскага – у СССР і БССР. У гістарыяграфіі многіх еўрапейскіх краін, у тым ліку і ў суседніх з Беларуссю, ёсць каля некалькіх дзесяткаў сур'ёзных прац па гісторыі сельскай абшчыны ў эпоху феадалізму. Перш за ўсё гэта тычыцца расійскай гістарычнай навукі, дзе сотні навуковых работ прысвечаны гісторыі абшчыны. Пытанні, звязаныя з грамадой, даследавалі таксама многія польскія і ўкраінскія гісторыкі.

### 1.1. Праблема сельскай грамады на тэрыторыі Беларусі ў гістарыяграфіі

Дзейнасць грамады аказвала вялікі ўплыў на фарміраванне гаспадарчых, прававых і культурных традыцый беларусаў. Таму зразумела, што без грунтоўнай распрацоўкі праблемы функцыянiравання абшчыны як гаспадарчай, сацыяльнай і этнакультурнай супольнасці ў перыяд феадалізму немагчыма поўнае і ўсебаковае асвятленне самых розных аспектаў гісторыі Беларусі ў часы яе знаходжання ў складзе ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

На жаль, пытанне аб існаванні і функцыяніраванні абшчыннай арганізацыі на землях Беларусі ў XVI-XVIII стст. не толькі не стала ў беларускай гістарыяграфіі XX-XXI стст. прадметам спецыяльнага даследавання. але часта зусім неапраўдана выпадала з работ, прысвечаных вывучэнню самых розных бакоў жыцця беларускага грамадства перыяду феадалізму. Галоўная прычына гэтага заключаецца ў абмежаванай крыніцазнаўчай базе, амаль поўнай адсутнасці крыніц, якія адназначна сведчылі б аб існаванні дадзенага інстытута самаарганізацыі сялянства ў пэўных рэгіёнах ці відах феадальных уладанняў на тэрыторыі Беларусі. У якасці адной з прычын можна адзначыць таксама невалоданне даследчыкамі-папярэднікамі асноўным комплексам крыніц, якія прама ці апасродкавана маглі б даць інфармацыю аб дзейнасці сельскай абшчыны, і недастатковую вывучанасць замежнай (асабліва польскай) гістарыяграфіі абшчыны.

Разам з тым на абшчыну як форму самаарганізацыі сялянства звярталі ўвагу амаль усе даследчыкі, якія займаліся праблемамі сацыяльна-эканамічнага развіцця ВКЛ ці асобных яго частак. У поўнай меры гэта датычыць навукоўцаў, якія ў другой палове XIX – пачатку XX ст. даследавалі мінулае ВКЛ. У першую чаргу тут трэба назваць імёны М. Ф. Уладзімірскага-Буданава, М. К. Любаўскага. Ф. І. Леантовіча, М. В. Доўнар-Запольскага, якіх у папярэдні час, проціпастаўляючы марксісцкаму накірунку, у гістарычнай навуцы называлі прадстаўнікамі «буржуазнай гістарыяграфіі Беларусі», якая склалася ў другой палове XIX ст.[16]

Аднак падкрэслім яшчэ раз, што ў беларускан гістарычнай навуцы ў

[16] Копысский, З. Ю. Историография БССР (эпоха феодализма): учеб. пособне / З. Ю. Копысский, В. В. Чепко ; подр ед. Я. Н. Мараша - Минск Университетское, 1986. - С 31.

адрозненне як ад еўрапейскай гістарыяграфіі, так і гістарыяграфіі краін – суседзяў Беларусі (Расіі, Полышчы, Украіны) пытанне існавання і функцыяніравання сельскай абшчыны ў феадальную эпоху амаль не вывучалася. У беларускай гістарыяграфіі маецца толькі адна спецыяльная работа (дакладней – два яе варыянты), прысвечаная сельскай абшчыне ў эпоху феадалізму. Гэта манаграфія М. В. Доўнар-Запольскага «Западнорусская сельская община в XVI веке», напісаная яшчэ ў канцы XIX ст.[17] Яе дапрацаваны варыянт выйшаў у якасці самастойнага нарыса пад назвай «Западно-русская волостная и сельская община» ў складзе працы «Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке», якая была прадстаўлена М. В. Доўнар-Запольскім на суісканне ступені доктара рускай гісторыі ў Кіеўскім універсітэце[18].

Доўгі час у беларускай гістарыяграфіі ўказанае даследаванне ацэньвалася толькі станоўчым чынам. Сапраўды, М. В. Доўнар-Запольскі стаў першапачынальнікам вывучэння абшчыны на тэрыторыі Беларусі ў эпоху феадалізму. Згаданае даследаванне М. В. Доўнар-Запольскага ў цэлым не страціла свайго навуковага значэння і зараз, хаця яно і прысвечана вывучэнню сельскай абшчыны толькі ў беларускім Падняпроўі ў XVI ст. Але на сённяшні дзень некаторыя вывады, зробленыя М. В. Доўнар-Запольскім, патрабуюць значнай карэкціроўкі з улікам як новых крыніц, так і новых метадалагічных падыходаў. І гэта натуральна. як прамое сведчанне таго, што беларуская гістарычная навука не стаіць на месцы.

Аднак толькі станоўчая характарыстыка дзейнасці М. В. Доўнар-Запольскага ў вывучэнні ім абшчыны на тэрыторыі Беларусі была б няпоўнай ацэнкай. Такія станоўчыя заключэнні давалі некаторыя рэцэнзенты прац вучонага адразу пасля іх выхаду ў свет, але і цяпер відаць, што яны былі, мякка кажучы, «некрытычнымі». Для сённяшняй беларускай гістарыяграфіі разам з безумоўным прызнаннем велізарнага ўкладу М. В.Доўнар-Запольскага ў станаўленне беларускай гістарычнай навукі і вывучэнне многіх праблем гісторыі Беларусі вельмі важным з’яўляецца ўсведамленне таго, што пэўныя метадалагічныя і фактычныя памылкі, а таксама некаторыя недастаткова абгрунтаваныя вывады, зробленыя гэтым вучоным. напрыклад пры даследаванні аграрнай рэформы XVI ст. у ВКЛ (валочнай памеры) і змяненняў, якія адбыліся ў сувязі з гэтым у становішчы сельскай абшчыны, значна паўплывалі на ступень даследавання гэтых пытанняў у беларускай навуцы і фактычна прыпынілі на значны час разгляд вывучэння праблемы існавання і дзейнасці сельскай грамады.

Да заняцця вывучэннем сельскай абшчыны – тэмай, якая мела надзвычанную папулярнасць у другой палове XIX ст. у Расіі, М. В. Доўнар-Запольскага падштурхнулі некалькі абставін. Па-першае, у Расійскай імперыі ў той час практычна кожны гісторык выказаў свае адносіны да праблемы сельскай абшчыны і абшчыннага землекарыстання – праблемы, якая ў сувязі з правядзеннем сялянскай рэформы 60-х гадоў XIX ст. насіла не толькі навуковы, але і палітычны характар. Па-другое, у М. В. Доўнар-Запольскага ў распараджэнні аказаліся унікальныя архіўныя матэрыялы з Метрыкі ВКЛ, якія выразна сведчылі аб існаванні абшчыны ў Беларусі і якія ніхто да яго ў навуковых мэтах не выкарыстоўваў.

Пасля заканчэння ў 1894 г. гісторыка-філалагічнага факультэта Кіеўскага

[17] Довнар-Запольский. М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке. – 56 с.

[18] Довнар-Запольский, М. В Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке / М. В. Довнар-Запольский. - Киев 1-я артель Печатного дела, 1905 .- VI, 307, VIII, 168 с.

універсітэта М. В. Доўнар-Запольскі з 1895 г. жыў у Маскве і працаваў у архіве Міністэрства юстыцыі старшым памочнікам архіварыуса па Метрыцы ВКЛ[19]. Ужо з восені 1895 г. вучоны пачаў афармляць да выдання два зборнікі дакументаў, выяўленых ім у складзе кніг Метрыкі ВКЛ[20]. Першы зборнік пад назвай «Документы Московского архива Министерства юстиции»[21] выйшаў у 1897 г., а другі – «Акты Литовско-Русского государства» – у 1899 г.[22] Менавіта на аснове матэрыялаў, змешчаных у гэтых зборніках, і пісаў названыя працы М. В. Доўнар-Запольскі. Сапраўды, не скарыстацца такой нагодай даследчык проста не мог. Але тут разам з дадатнымі бакамі (сярод якіх галоўным было першынство ва ўвядзенні гэтых матэрыялаў у навуковае абарачэнне) былі і адмоўныя: абмежаваная храналагічна (у асноўным толькі XVI ст.), тэрытарыяльна (толькі ўсход Беларусі) і па відах уласнасці (як правіла, толькі дзяржаўныя ўладанні) крыніцазнаўчая база, хаця і са шматлікімі вельмі выразнымі па сваёй форме і зместу дакументамі, у спалучэнні з некаторымі метадалагічнымі пралікамі не дазволіла, на наш погляд, аўтару зрабіць дастаткова абгрунтаваныя і пераканаўчыя высновы адносна дзейнасці і перспектыў развіцця сельскай абшчыны ў Беларусі ў эпоху феадалізму. Разам з тым на гэтых жа матэрыялах была падрыхтавана яго магістэрская дысертацыя «Дзяржаўная гаспадарка Вялікага княства Літоўскага пры Ягелонах»[23], якая была абаронена ў Кіеўскім універсітэце і даволі высока ацэнена навуковай грамадскасцю[24].

Міжволі складваецца ўражанне, што доктарская праца М. В. Доўнар-Запольскага рыхтавалася спецыяльна (ці толькі) для абароны і атрымання адпаведнай ступені, аб чым выказвалі меркаванне і некаторыя супрацоўнікі Кіеўскага універсітэта, у прыватнасці М. С. Грушэўскі[25].

Як адзначалася вышэй, першы варыянт свайго даследавання ўсходнебеларускай абшчыны пад назвай «Западно-русская сельская община в XVI веке» М. В. Доўнар-Запольскі выдаў у 1897 г. (у тым жа годзе. калі ўбачыў свет і першы зборнік дакументаў) адначасова ў «Журнале Министерства Народного Просвещения»[26] і асобным выданнем, як адбітак з гэтага часопіса[27]. Нам вядома толькі адна рэцэнзія на гэтую публікацыю, яна належыць І. Чаркаскаму[28],

---

[19] Михальченко, С. Н. Киевская школа в российской историографии (В. Б. Антонович, М. В. Довнар-Запольский и их ученики) / С. Н. Михальченко. - М.: Прометей - Брянск: Изд-во БГПУ, 1997. - С. 88.

[20] Улащик, Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода / Н. Н. Улащик. - М.: Наука, 1973. - С. 240.

[21] ДМАМЮ. - XXIII, 570 с.

[22] АЛРГ. - II, 258 с.

[23] Довнар-Запольский, М. В. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. - Т. I / М. В. Довнар-Запольский. - Киев: Тип. Н. Т. Корчак-Новицкого, 1901. - VIII, 807, CXII с.

[24] Михальченко, С. Н. Киевская школа в российской историографии (В. Б. Антонович, М. В. Довнар-Запольский и их ученики). - С. 89.

[25] Грушевский, М. [Рецензия] / М. Грушевский // Рецензия на М. Довнар-Запольский «Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке». - Киев, 1905. - VI+307+168 с. // Записки наук. товариства імені Шевченка, 1906. - Т. 70. - Кн. 2. - С. 200.

[26] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке / М. В. Довнар-Запольский // Журн. М-ва Народн. Просвещения. - 1897. - № 7. - С. 73-128.

[27] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке / М. В. Довнар-Запольский. - СПб.: Типография В. С. Балашева и К°, 1897. – 56 с.

[28] Черкаський, І. [Рецензия] / 1. Черкаський // Рецензия на М. Довнар-Запольский «Западно-русская сельская община в XVI веке». - С. 56 (відбітка з ЖМНП, 1897, VII) // Записки наук. товариства імени Шевченка. - Львів, 1899. - Т. XXIX. - Кн. III. - С. 10-12.

украінскаму гісторыку. які пазней напісаў працу пра копныя суды ў Беларусі і ва Украіне[29] і які, хутчэй за ўсё, працаваў разам з М. В. Доўнар-Запольскім у Кіеўскім універсітэце. Рэцэнзент адзначыў, што ў сваім невялікім артыкуле, напісаным на архіўным матэрыяле, які пазней быў апублікаваны ў зборніку пад назвай «Акты Литовско-Русского государства», М. В. Доўнар-Запольскі «паставіў шмат пытанняў і калі ён з-за недахопу крыніц не змог іх поўнасцю вырашыць, то дзякуй яму і за тое. што ён іх паставіў і адкрыў дарогу для іх вырашэння»[30]. У сваёй кароткай станоўчай рэцэнзіі, якая з'яўляецца сціслым пераказам асноўных тэзісаў згаданага артыкула, І. Чаркаскі звярнуў увагу на тое, што М. В. Доўнар-Запольскі адзначаў існаванне ў тагачаснай гістарыяграфіі двух поглядаў на абшчыну – прафесара М. Ф. Уладзімірскага-Буданава, загадчыка кафедры гісторыі рускага права Кіеўскага універсітэта, які прызнаваў існаванне грамады ў заходнерускіх землях, і дацэнта Маскоўскага універсітэта М. К. Любаўскага, які тлумачыў «некаторыя з'явы як быццам грамадскага жыцця «простай суседскай і павіннаснай салідарнасцю». Сам М. В. Доўнар-Запольскі далучаецца да першай думкі, але заўважае, што мае на ўвазе валасную (тэрытарыяльную) грамаду, а не сельскую»[31]. Адзначым, што навуковыя спрэчкі і, магчыма, нават нейкае суперніцтва ці спаборніцтва ў пытаннях даследавання гісторыі ВКЛ прасочваецца паміж М. В. Доўнар-Запольскім і М. К. Любаўскім і ў далейшым.

Сапраўды, М. В. Доўнар-Запольскі падтрымліваў меркаванне М.Ф. Уладзімірскага-Буданава, хаця ні адзін, ні другі не здолелі прывесці рэальных фактаў размеркавання ці перадзелу зямлі ўнутры абшчын. Нягледзячы на гэта, у другім. дапрацаваным выданні свайго даследавання пра абшчыну ў беларускіх Падняпроўскіх і Падзвінскіх валасцях, якое выйшла пад назвай «Западно-русская волостная и сельская община» ў складзе «Очерков по организации западно-русского крестьянства в XVI веке»[32], М. В. Доўнар-Запольскі працягваў сцвярджаць, што М. К. Любаўскі не прызнаваў існавання абшчыны ў Беларусі, адмаўляючы права абшчыны ўдзельнічаць у перадзеле зямлі: «Проф. М. К. Любавский вообще очень отрицательно относится ко всякого рода проявлениям общинной жизни в Западной России... Он совершенно отрицает право сельских общин участвовать в раздаче свободных участков. Нечего и говорить, что проф. М. К. Любавский не признает поземельной связи в волостной общине, находит совершенно противоречивым положение проф. Буданова, по которому право частной собственности совмещается с общинным, так как само общинное землевладение является «неуловимым призраком»[33]. Складваецца ўражанне аб пастаяннай спрэчцы М.В. Доўнар-Запольскага і М. К. Любаўскага, і, магчыма, карані яе ляжаць у Маскве, у часы восені 1899 г. – лета 1901 г., калі М. В. Доўнар-Запольскі працаваў прыват-дацэнтам Маскоўскага універсітэта, а М. К. Любаўскі быў там прафесарам (з 1901 г. - *В.Г.*)[34]. Але гэта толькі нашыя здагадкі.

---

[29] Черкаський, І. Громадський (копний) суд на Україні-Русі XVI-XVIII вв./І. Черкаський // Праці комісії для вивчування історії західньо-руського та вкраїнського права. - Вип.4,5. - Київ: З друкарні Україн. Акад. Наук, 1928. - 714 с.

[30] Черкаський, І. [Рецензия]. - С. 12.

[31] Тамсама.

[32] Довнар-Запольский. М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. - VI, 307, VIII, 168 с.

[33] Тамсама. - С. 8-9.

[34] Михальченко, С. Н. Киевская школа в российской историографии (В. Б. Антонович, М. В. Довнар-Запольский и их ученики). - С. 89.

Разам з тым азнаямленне з тэкстам працы М. К. Любаўскага «Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута»[35], на якую спасылаўся М. В. Доўнар-Запольскі, паказвае, што М. К. Любаўскі сапраўды крытыкаваў фармальна-юрыдычны падыход М. Ф. Уладзімірскага-Буданава да некаторых з'яў сацыяльна-эканамічнага жыцця ВКЛ. М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў, гісторык права, часта дазваляў сабе даволі свабодныя параўнанні. перанос юрыдычнай практыкі XIX ст. на рэаліі XVI ст., як з прыкладам разважання аб тым, што землі сяла некалі былі ў распараджэнні ўсяго сяла, якое потым дзяліла іх на дворышчы[36]. У гэтым выпадку, на наш погляд, прасочваецца прамая аналогія з жыццём расійскай вёскі пасля прыняцця Маніфеста 19 лютага 1861 г. Акрамя таго, М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў, сцвярджаючы пра «правы сельскіх абшчын» размяркоўваць зямлю ў беларускай вёсцы XVI ст., не назваў ніякага дакумента, які б пацвердзіў існаванне такіх правоў, не прывёў ніводнага факта такога размеркавання. З улікам гэтага М. К. Любаўскі проста не мог не адказаць М. В. Доўнар-Запольскаму, тым больш што яны займаліся блізкімі пытаннямі сацыяльна-эканамічнага развіцця ВКЛ. спасылаючыся галоўным чынам на матэрыялы Метрыкі ВКЛ, прычым кожны ў асноўным на выяўленыя і апрацаваныя ім асабіста.

Неабходна звярнуць увагу і на тое, што ў пытанні паходжання абшчыны і ацэнцы яе ролі ў гісторыі Расіі М. В. Доўнар-Запольскі падзяляў пазіцыі прадстаўнікоў расійскай так званай дзяржаўнай школы. Прадстаўнікі гэтага накірунку расійскай гістарыяграфіі найбольш выразна сфармулявалі свае пастулаты падчас спрэчкі аб магчымых шляхах развіцця Расіі, якая разгарнулася ў 50-60-я гады XIX ст. і пазней перарасла ў дыскусію аб ролі абшчыны ў жыцці гэтай дзяржавы. Гэтыя навукоўцы выступілі з канцэпцыяй аб «дзяржаўным паходжанні абшчыны ў Расіі». Адпаведна ёй гісторыя абшчыны як універсальнага інстытута, што існаваў ва ўсіх народаў Еўропы. мела ў Расіі тры асноўныя этапы. Першы – родавая абшчына, якая была разбурана на Русі з прыходам нарманаў. Другі – уладальніцкая абшчына, пабудаваная на адносінах паміж феадалам і сялянамі, якія свабодна пасяліліся на яго землях. Трэці – «з XV ст., калі ўзнікшая руская дзяржава ў цяглавых інтарэсах ператварыла ўладальніцкую абшчыну ў дзяржаўную, якая ўяляе саюз людзей, аб'яднаных ужо не на прыватнай аснове, а на агульных абавязках у адносінах да дзяржавы»[37]. Гэтая тэорыя развіцця рускай абшчыны, сфармуляваная перад правядзеннем сялянскай рэформы 1861 г., была пабудавана не на навуковых фактах, а ў асноўным на пажаданнях яе аўтараў, але паслужыла своеасаблівым абгрунтаваннем магчымасці чарговага прымацавання дзяржавай сялян да абшчыны, а саму абшчыну зрабіць амаль поўнасцю падкантрольным дзяржаве інстытутам.

Па меркаванню аўтара, галоўным недахопам прац М. В. Доўнар-Запольскага па гісторыі сельскай абшчыны было тое, што ён, знаходзячыся пад уплывам расійскай «дзяржаўнай школы», лічыў і беларускую абшчыну XVI ст. не інстытутам сялянскай самаарганізацыі, а некалі раней створанай уладамі структурай. Таму,

[35] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута / М. К. Любавский. - М.: Университет. типография, 1892. - 998 с.

[36] Владимирский-Буданов, М. Ф. Формы крестьянского землевладения в Западной России XVI века / М. Ф. Владимирский-Буданов // Киевский сборник в помощь пострадавшим от неурожая - Киев, 1892.- С 377.

[37] Лаптин, П. Ф. Община в русской историографии последней трети XIX - начала XX в / П. Ф. Лаптин. - Киев: Наук. думка, 1971. - С. 10.

адзначаючы рысы самастойнасці ў дзеяннях грамады ў дзяржаўных уладаннях на ўсходзе Беларусі ў XVI ст., якія праяўляліся ў першую чаргу ў змаганні сельскіх і валасных абшчын за свае правы ў асноўным пры дапамозе апеляцый да вярхоўнай улады ВКЛ, і не знайшоўшы жаданага для яго кіравання грамадою з боку дзяржавы, вучоны зрабіў памылковы вывад аб тым, што абшчына тут у XVI ст. знікала. Праявы рэальнага жыцця абшчыны – калектыўнае адстойванне сялянствам сваіх агульных інтарэсаў, дзейнасць грамады, арганізаванай «знізу» сялянамі, а не «зверху» ўладамі, – даследчык чамусьці ацаніў не як сілу, а як слабасць абшчынных інстытутаў у Беларусі. Паказальна, што ва ўводзінах і да першага і да другога выданняў вышэйзгаданай працы па гісторыі абшчыны ў XVI ст. М. В. Доўнар-Запольскі адзначаў, што ён не проста вывучае абшчыну, а даследуе «яе распадзенне»[38]. Больш за тое, сваю першую працу, прысвечаную абшчыне, ён закончыў словамі, якія паказвалі і яго ўпэўненасць у тым, што абшчына да канца XVI ст. знікне: «Гэтыя рэформы (валочная памера і звязаныя з ёй мерапрыемствы. – *В. Г.)* завяршылі разлажэнне абшчыны, падрыхтаванае папярэднім жыццём. На самой справе да канца XVI стагоддзя праявы абшчыннага жыцця заміраюць»[39].

Трэба адзначыць, што ў канчатковым варыянце даследавання абшчыны М. В. Доўнар-Запольскі прызнаў несумненнасць самога факта «общинного самоуправлення и притом не созданного какими нибудь специальными мероприятиями правительственной власти»[40]. Але канчатковыя вывады ён зрабіў амаль тыя ж самыя, што і ў папярэдняй працы, заснаваныя на тым жа самым памылковым меркаванні пра знікненне абшчыны ў выніку рэформ: «Но историк застает общину в момент ея агонии. Она локализовалась среди данников Поднепровских и Подвинских волостей, хотя основательные следы ея можно наблюдать в тех жмудских и русских областях, которые опоясывали собственную Литву, частью даже в самой Литве; в последних областях общинная жизнь достаточно заметна в частновладельческих землях даже в сравнительно позднее время (во второй половнне XVI в.) и почти исчезла на господарских землях. Это обьясняется тем, что в западных дворах было введено управление на основании устав»[41].

На пэўныя хібы даследавання М. В. Доўнар-Запольскага і звярнуў увагу М. К. Любаўскі. У сваёй грунтоўнай рэцэнзіі на «Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке» ён не толькі жорстка раскрытыкаваў методыку даследавання М. В. Доўнар-Запольскага, але і заявіў, што, «ставя своею задачею воссоздание из старинной западно-русской общины, *как исторической реальности известнаго времени,* автор поддался влиянию взглядов, которые господствовали в нашей историографии в пятидесятых-шестидесятых годах XIX ст., но которые в настоящее время уже не встречают признання в науке»[42]. М. К. Любаўскі доказна сцвярджаў, што М. В. Доўнар-Запольскі памыляўся і тады, калі заяўляў, што

---

[38] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке. - С. 4; Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. - С. V.

[39] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке. - С. 55-56.

[40] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. - С. 154.

[41] Тамсама.

[42] Любавский, М. К. [Рецензия] / М. К. Любавский // Рецензия на М. Довнар-Запольский «Очерки по организации западно-русскаго крестьянства в XVI веке». - Киев, 1905. I+VI+307+167 (Приложения) стр. - Отзыв профессора М. К Любавского. - СПб. : Типография импер. атор. Акад. наук, 1907. - С. 3-4.

сельская абшчына на тэрыторыі Беларусі перастала існаваць пасля правядзення валочнай памеры і звязаных з ёй мерапрыемстваў.

У гэты ж час выйшла кароткая рэцэнзія на «Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке» вядомага ўкраінскага гісторыка М. С. Грушэўскага[43]. Вучоны, адзначыўшы, што кніга М. В. Доўнар-Запольскага, хоць і пад новым тытулам, «дае не вельмі многа новага», растлумачыў гэта тым, што яе аўтару было проста неабходна выступіць з кнігай, якая была прапанавана Кіеўскаму універсітэту ў якасці доктарскай дысертацыі і якую ён зрабіў з двух сваіх раней апублікаваных і пэўным чынам дапрацаваных артыкулаў (нарысаў). (Першы – «Западнорусская волостная и сельская община», другі – «Крестьянская реформа половины XVI века». – *В. Г*). Многія заўвагі М. С. Грушэўскага і М. К. Любаўскага амаль супалі, асабліва аб штучнасці аб'яднання нарысаў пра аграрную рэформу і грамаду пад адной вокладкай: «...аўтар... верагодна быў вымушаны старацца прыладзіць адзін (нарыс. – *В. Г.*) да другога, аднак яны злучаюцца паміж сабой слаба і робяць уражанне механічнага спалучэння, выклікананага больш пабочнымі матывамі, чым зместам»[44]. На думку М. С. Грушэўскага, гэта адбылося таму, што М. В. Доўнар-Запольскі ў сваім другім артыкуле «займаецца больш тэхнікай кадастрацыі і тых рэформаў, якія праводзіў урад В. кн. Літоўскага ў сярэдзіне XVI ст., і вельмі мала ўваходзіць у пытанне. пастаўленае ў першай разведцы, – ўплыву тых рэформаў на сялянскія ўзаемаадносіны, спецыяльную грамадскую арганізацыю беларускага (і часткова ўкраінскага) сялянства, якім (уплывам. – *В. Г*) ён займаецца ў першым артыкуле»[45].

Становучая рэцэнзія на «Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке» выйшла за подпісам дэкана гісторыка-філалагічнага факультэта Кіеўскага універсітэта У. Б. Антановіча, навуковага кіраўніка М. В Доўнар-Запольскага, пад якой стаіць таксама надпіс «згодзен», што належыць П. В. Галубоўскаму[46]. У зробленай па даручэнню гісторыка-філалагічнага факультэта рэцэнзіі на кнігу М. В. Доўнар-Запольскага, прадстаўленай ім для суіскання ступені доктара рускай гісторыі, змяшчаецца наступны вывад: «Некаторыя здабытыя ім палажэнні: як выдзяленне сельскай абшчыны з воласці, розніца паміж уздзеяннем іншаземнага ўплыву на абшчыны заходняй і ўсходняй палавін руска-літоўскіх зямель, адносіны рэформ другой паловы XVI стагоддзя да будучага запрыгоньвання сялянства – усе гэтыя палажэнні самастойныя і робяць станоўчы ўнёсак у скарбніцу навук»[47]. Звяртае на сябе ўвагу тое, як У. Б. Антановіч расставіў акцэнты адносна двух нарысаў, якія склалі рэцэнзуемую кнігу М. В. Доўнар-Запольскага: «...у першай ён разглядае ўладкаванне і дзейнасць абшчын у першай палове XVI стагоддзя; у другой знішчэнне абшчыннага ладу рэформамі в. к. Сігізмунда-Аўгуста ў другой палове таго ж стагоддзя»[48]. Магчыма, У. Б. Антановіч

---

[43] Грушевский. М. [Рецензия] / М. Грушевский // Рецензия на М. Довнар-Запольский «Очерки по организации западно-русскаго крестьянства в XVI веке». - Киев, 1905. – VI+307+168 с. // Записки наук. товариства імені Шевченка, 1906. - Т. 70. - Кн. 2. - С. 200-201.

[44] Грушевский, М. [Рецензия]. - С. 200.

[45] Тамсама. - С. 200-201.

[46] Антонович, В [Рецензия]. - С 24.

[47] Антонович, В. [Рецензия] / В. Антонович, П. Голубовский // Рецензия на соч. магистра Довнар-Запольскаго «Очерки по организации западно-русскаго крестьянства в XVI веке», представленное для приобретения степени доктора русской истории // Университетские известия. - 1906. - № 3. - С. 21-24.

[48] Тамсама. - С. 21.

такім чынам проста «згладзіў» заўвагі да кнігі М.В. Доўнар-Запольскага, зробленыя М.К. Любаўскім.

На жаль, гэтыя рэцэнзіі ў беларускай гістарыяграфіі аказаліся па сутнасці незаўважанымі. Пазней памылковае сцвярджэнне М. В. Доўнар-Запольскага аб знікненні сельскай абшчыны ў Беларусі ў выніку аграрнай рэформы паўтарыў, не займаючыся спецыяльна вывучэннем грамады, У. І. Пічэта[49], які лічыў сябе вучнем М. В. Доўнар-Запольскага[50]. Пэўныя недахопы працы У І. Пічэты «Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве» адзначыў К. Хадыніцкі ў сур'ёзнай рэцэнзіі, надрукаванай яшчэ ў 1923 г. у часопісе «Ateneum Wileńskie», але на тэрыторыі Савецкай Беларусі яна засталася незаўважанай, магчыма, і па палітычных прычынах. У. І. Пічэта ў гэты час быў не толькі вядучым беларускім гісторыкам, але і даволі вядомым дзяржаўным дзеячам Савецкай Беларусі. А рэцэнзент між тым даволі дакладна адзначыў, што аўтар у сваёй манаграфіі аб аграрнай рэформе Жыгімонта-Аўгуста не паказаў змен, «якія адбыліся ў сувязі з правядзеннем аграрнай рэформы», а толькі бяздоказна сцвярджаў, што рэформа ўдарыла па селяніну і пазбавіла яго старажытных форм землеўладання і землекарыстання, хаця гэтымі праблемамі ў сваёй працы нават не займаўся[51]. Не пагаджаўся з вышэйзгаданымі высновамі У. І. Пічэты і вядомы даследчык аграрнай гісторыі ВКЛ Д. Л. Пахілевіч[52].

Вывады такіх карыфеяў гістарычнай навукі, як М. В. Доўнар-Запольскі і У. І. Пічэта, у Беларусі ніхто не правяраў і сумненню не падвяргаў, таму ва ўсіх працах па гісторыі беларускай феадальнай вёскі сцвярджалася, што абшчыны ў ёй не было. Апошнім, хто публічна адкрыта паўтарыў тэзіс аб неіснаванні сельскай абшчыны ў Беларусі XVII-XVIII стст., быў Я. П. Шлосберг, які заявіў пра гэта на сесіі па праблемах аграрнай гісторыі Усходняй Еўропы. якая адбылася ў Таліне ў 1958 г.[53] Такі падыход быў падвергнуты крытыцы з боку Д.Л. Пахілевіча[54] і Ю. Можы[55]. Але і ў пазнейшых працах беларускіх гісторыкаў сцвярджалася, што ў Беларусі абшчыны не было альбо што яна знікла ў выніку аграрнай рэформы XVI ст.

Можна канстатаваць, што пры адсутнасці айчынных даследаванняў аб сельскай абшчыне ў Беларусі ў XVI-XVIII стст., у работах, прысвечаных апісанню жыцця беларускага сялянства, нярэдкімі былі выпадкі механічнага перанясення абшчынных традыцый рускай вёскі (часцей за ўсё за час з канца XVIII ст., і пазней) на гістарычную глебу Беларусі. Яскравым прыкладам таму з'яўляецца абсалютная

---

[49] Пичета, В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве / В. И. Пичета. - М.: Изд-во АН СССР, 1958. - С. 543; Пичета, В.Н. Основные моменты исторического развития Западной Украины и Западной Белоруссии / В Н. Пичета.- М.: Государственное социально-экономичческое издательство, 1940.- С. 28; Пичета, В.Ж. [Рецензия] / В.Н. Пичета // Вопросы истории.- 1946. - № 10. - С. 121-123. - Рецензия на «Ученые записки» Ярославского государственного педагогического института. - Вып. VII (XVII). - История – Ярославль, 1945. - С. 122.

[50] Михальченко, С.Н. Киевская школа в российской историографии (В. Б. Антонович, М. В. Довнар-Запольский и их ученики). - С. 89.

[51] Chodynicki, K. Przegląd krytyczny / K. Chodynicki // Ateneum Wileńskie. – Rok I.- Nr. 2.- Wiho, 1923.- S. 295.

[52] Похилевич, Д. Л. Селянська громада в західних воєводствах Великого Князівства Литовського після аграрної реформи Сигизмунда-Августа / Д. Л. Похилевич // Наукові записки Жвівського Державного Університету імені Івана Франка. - Сер. історична. - Львів, 1948.- Т. 10.- Вып. 3.- С. 103.

[53] Шлоссберг. Е П. К вопросу об изменении феодальной ренты в Белоруссии XVII-XVIII веков / Е. П. Шлоссберг // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1958 г.- Таллин, 1959.- С 105-127.

[54] Похилевич, Д. Л Выступление по докладу Е. П. Шлоссберга «К вопросу об изменении феодальной ренты в Белоруссии XVII-XVIII веков» на сессии по аграрной истории Восточной Европы 1958 г. / Д. Л. Похилевич // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1958.- Таллин, 1959.- С. 147-148.

[55] Morzy, J [Рэцэнзія] / J Morzy // Roczniki dziejów spolecznych I gospodarczych.- 1962. - T. XXIII.- Poznań, 1962. - 8. 300-302.- Рэц. на арт.: Шлоссберг Е.П. К вопросу об изменении феодальной ренты в Белоруссии XVII-XVIII веков.- С 105-127.

большасць навуковых прац, падручнікаў і дапаможнікаў пад назвай «Гісторыя Беларусі», дзе ёсць тэксты пра абшчыну часоў Кіеўскай Русі і абшчыну ў Расійскай імперыі ў XIX ст., але няма матэрыялаў пра існаванне грамады на тэрыторыі Беларусі ў XVI-XVIII ст.ст. Амаль не змяшчае інфармацыі пра абшчыну нават акадэмічная «Гісторыя сялянства Беларусі»[56] Такім чынам, любую гістарычную праблему трэба вывучаць у дынаміцы, развіцці, не абмяжоўваючы даследаванне, па магчымасці, ні крыніцазнаўчай базай, ні тэрытарыяльна, ні па часе. Важна таксама не аказацца пад уплывам чужых канцэпцый (навуковы кіраўнік М. В. Доўнар-Запольскага У. Б. Антановіч значна перабольшваў ролю абшчыны ў жыцці старажытнарускай дзяржавы. - *В. Г)*, а рабіць вывады толькі на падставе той інфармацыі, якую даюць крыніцы. У любым іншым выпадку могуць быць зроблены сур'ёзныя памылкі, якія не дадуць магчымасці разгледзець рэальны ход гістарычнага працэсу.

Такім чынам, даследаванне М. В. Доўнар-Запольскага «Западно-русская сельская община в XVI веке», як і дапрацаваны нарыс пад назвай «Западно-русская волостная и сельская община», аказалася абмежаваным не толькі відам уласнасці (дзяржаўныя ўладанні), але і тэрытарыяльна і хранaлагічна, што не дазваляе скласці больш-менш поўнае ўяўленне аб дзейнасці абшчыны на беларускіх землях на працягу ўсяго часу існавання ВКЛ.

Цікавасць уяўляюць апублікаваныя параўнальна нядаўна працы па гісторыі абшчыны ў беларускай вёсцы, падрыхтаваныя супрацоўнікамі Інстытута этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Першую спробу аб'яднаць разам звесткі аб арганізацыі беларускага сярэднявечнага грамадства і абшчынных адносінах зрабіў калектыў беларускіх этнографаў у складзе С. Ф. Цярохіна, І. У. Чаквіна і У. С. Гуркова ў выдадзенай у 1993 г. калектыўнай працы «Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі»[57]. Гэтая публікацыя пэўным чынам падагульняла даследаванні па арганізацыі жыцця беларускай вёскі ад старажытнасці да 1990-х гадоў, але разглядаемая намі праблема не вырашалася ўзгаданай працы на якіх-небудзь новых крыніцах альбо вывадах і таму можа разглядацца толькі як чарговы этап вывучэння дзейнасці грамады ў Беларусі. Падобнае характэрна і для тэксту С. Ф. Цярохіна «Сельская грамада і звычаёвае права», які выйшаў у 1998 г. у Маскве ў кнізе «Беларусы» ў серыі «Народы і культуры»[58]. На жаль, і даследаванне пра грамаду калектыву аўтараў «Традыцыйныя грамадскія аб'яднанні і формы самакіравання», змешчанае ў 2002 г. у 8-м томе шматтомніка «Беларусы»[59], заснавана ў асноўным на прыкладах з работ, якія былі напісаны ў XIX - пачатку XX ст. і часта апавядаюць пра абшчыну, якая ўсталявалася ў Беларусі пасля ўключэння яе тэрыторыі ў склад Расійскай імперыі.

Такім чынам, выкладзенае дазваляе яшчэ раз канстатаваць, што ў беларускай

---

[56] Гісторыя сялянства Беларусі: у 3 т. / рэдкал.: В. І. Мялешка (гал. рэд.) [і інш.]. - Мінск: Беларус. навука, 1997. - Т. 1. Гісторыя сялянства Беларусі ад старажытнасці да 1861 г. / Я. Анішчанка [і інш.]. - 1997. — 431 с.

[57] Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі / В. К. Бандарчык [і інш.]; пад навук. рэд. В. К. Бандарчыка. - Мінск: Беларус. навука, 2002. - 256 с.

[58] Терёхин, С. Ф. Сельская община и обычное право / С. Ф. Терёхин // Белорусы / Рос. акад. наук, Ин-т этнологии и антропологии им. Н.Н. Миклухо-Маклая, Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т искусствоведения, этнографии и фольклора им. К. Крапивы / под науч. ред. В. К. Бондарчика. - М.: Наука, 1998. - С. 349-355.

[59] Бацяеў, В. Ф. Традыцыйныя грамадскія аб'яднанні і формы самакіравання / В. Ф. Бацяеў, В. М. Бялявіна, Г. І. Каспяровіч, І. У. Чаквін // Беларусы: у 8 т. - Мінск: Беларус. навука, 1995 - 2002. - Т. 6. Грамадскія традыцыі. - Мінск, 2002. - С. 9-149.

гістарыяграфіі даследаванняў. прысвечаных гісторыі абшчыны ў Беларусі ў XVII-XVIII стст., практычна няма.

Увогуле першыя даследаванні сялянскай абшчыны на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага былі зроблены прадстаўнікамі так званай кіеўскай школы, заснаванай прафесарам юрыдычнага факультэта Кіеўскага універсітэта М. Дз. Іванішавым, дарэчы аўтарам адной з першых прац па гісторыі абшчыны на тэрыторыі «Паўднёва-Заходняй Расіі»[60]. Многія з вучоных «кіеўскай школы» (У. Б. Антановіч, М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў, Ф. І. Леантовіч, М. В. Доўнар-Запольскі, І. А. Маліноўскі, А. С. Грушэўскі, М. С, Грушэўскі, М. Н. Ясінскі і інш.), якія ў сваіх працах пісалі і пра беларускія землі. у поўнай меры могуць быць аднесены як да ўкраінскай, так і да расійскай, а ў пэўнай ступені і да беларускай гістарыяграфіі (як па месцы, дзе яны працавалі, так і па тэме даследавання). Паказальна, што вядомы расійскі гістарыёграф С. І. Міхальчанка выдаў манаграфію з характэрнай назвай «Кіеўская школа ў расійскай гістарыяграфіі (У. Б. Антановіч, М. В. Доўнар-Запольскі і іх вучні)» [61].

М. В. Доўнар-Запольскі разглядаецца намі як прадстаўнік беларускай гістарыяграфіі ў першую чаргу таму, што ён беларус па паходжанню, яго працы па гісторыі абшчыны прысвечаны тэрыторыі Беларусі, ён працаваў у тым ліку і ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, і. галоўнае, таму, што ён з'яўляецца адным з заснавальнікаў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі[62]. Разам з тым мы поўнасцю ўсведамляем той вялікі ўклад, які М.В. Доўнар-Запольскі зрабіў у першую чаргу ва ўкраінскую і расійскую гістарыяграфію, аб чым яскрава сведчаць яго навуковая біяграфія і бібліяграфічны паказальнік яго прац[63].

На існаванне і дзейнасць абшчыннай арганізацыі ў беларускай вёсцы XVI ст. пры даследаванні самых разнастайных праблем гісторыі Вялікага княства Літоўскага звярталі ўвагу і іншыя вучоныя – прадстаўнікі «кіеўскай гістарычнай школы»: Ф. І. Леантовіч – у працы «Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве»[64], М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў – у сваіх працах па гісторыі сялянскага землеўладання (нават з пэўным перабольшваннем)[65]. Існаванне сельскай валаснай абшчыны на беларускіх землях адзначаў і М. К. Любаўскі ў працы «Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута»[66].

Важнасць зробленага вышэйназванымі аўтарамі з'яўляецца несумненнай. Разам з тым неабходна адзначыць, што ўсе яны будавалі свае даследаванні ў асноўным на адных і тых жа матэрыялах з Метрыкі ВКЛ, якія адносіліся да

[60] Иванишев, Н. О древних сельских общинах в Юго-западной России / Н. Иванишев.- Киев, 1863.-72 с.

[61] Михальченко, С.И. Киевская школа в российской историографии (В.Б. Антонович, М.В. Довнар-Запольский и их ученики). - 228 с.

[62] Ліс, А. Доўнар-Запольскі Мітрафан Віктаравіч / А. Ліс // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. - Т.3. - Мінск: Беларус. энцыкл. імя Петруся Броўкі, 1996. - С.272-273.

[63] Матяш, Н. К вопросу о концепции научной биографии М. В. Довнар-Запольского / Н. Матяш // Чацвёртыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні «Рэчыца ў часе і прасторы: 790 год заснавання горада». Рэчыца, 18-19 верасня 2003 г. - Ч.І. - Гомель, 2004. - С.5-17; Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі. Бібліяграфічны паказальнік. - Выданне другое, дапоўненае. Уклад: В.М. Лебедзева і інш. - Мінск: БелНДІДАС, 2007. - 168с.

[64] Леонтович, Ф. Н. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве / Ф.Н. Леонтович. – Вып. I. - Спб, 1897. - 321 с.

[65] Владимирский-Буданов, М. Ф. Крестьянское землевладение в Западной России до половины XVI века / М, Ф. Владимирский-Буданов. - Киев, 1892. - 83 с.; Владимирский-Буданов, М. Ф. Формы крестьянского землевладения в Западной России XVI века / М. Ф. Владимирский-Буданов. - Киев, 1911-24с.

[66] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута.- 998 с.

гаспадарскіх Падняпроўскіх валасцей сярэдзіны – другой паловы XVI ст. Аб'ектам даследавання гэтых аўтараў стала абшчынная арганізацыя дзяржаўных сялян-даннікаў усходніх абласцей Беларусі. Роля і месца абшчыны ў іншых відах феадальнага землеўладання (прыватнага і царкоўнага) не разглядаліся, амаль выпалі з поля вывучэння таксама цэнтральны і заходні рэгіёны краіны. Храналагічна рамкі даследавання ўзвычайна абмяжоўваліся XVI ст. Такім чынам, інфармацыя і вывады, што змяшчаюцца ў вышэйназваных працах, не дазваляюць скласці поўнае ўяўленне аб эвалюцыі развіцця інстытута абшчыны ў Беларусі XVI-XVIII стст., убачыць своеасабліваcці яе функцыяніравання ў розныя гістарычныя перыяды і ў розных рэгіёнах Беларусі, зрабіць параўнанні з гісторыяй абшчыны на тэрыторыі суседніх народаў.

Беларускія савецкія гісторыкі даследаваннем сельскай грамады на землях Беларусі ў феадальную эпоху спецыяльна не займаліся, спасылаючыся ў асноўным на раней згаданае меркаванне У. І. Пічэты аб тым, што грамады ў Беларусі не было ўжо ў XVI ст., таму і няма чаго вывучаць. Справа даходзіла да казусаў, калі замежныя гісторыкі даказвалі беларускім вучоным, што грамада ў Беларусі не проста існавала, а дзейнічала. Так, калі без належнай аргументацыі думку аб адсутнасці ў Беларусі ў XVII-XVIII стст. сельскай грамады выказаў Я. П. Шлосберг у сваім дакладзе на сесіі па аграрнай гісторыі Усходняй Еўропы. прысвечанай гісторыі земляробства ў XVI-XIX стст., якая адбылася ў Таліне 9-12 снежня 1958 г.[67]. з яго высновамі не пагадзіўся ўкраінскі дaслед-чык гісторыі сялянства Беларусі і Літвы Д. Л. Пахілевіч. Пра гэта пісаў вядомы польскі гісторык Ю. Можы, расказваючы пра работу вышэйзгаданай сесіі ш аграрнай гісторыі Усходняй Еўропы. У прыватнасці, ён працытаваў словы з вы-ступлення Д. Л. Пахілевіча, калі той заявіў, што Я. П. Шлосберг беспадстаўна ліквідаваў у XVI ст. у Беларусі сельскую абшчыну. «Валочная рэформа не ліквi-даваласумеснага карыстання выганамі, сенакосамі і пашамі. Засталіся сумесныя бабровыя і звярыныя гоны, а таксама свабодны ўступ да пушч і лясоў. Доўгі час яшчэ захоўваўся копны суд. На землях усходняй Беларусі яшчэ доўга існавала вялікая складаная сям'я, якая супольна апрацоўвала зямлю (так званае сяброўства) і захоўвалася выкарыстанне зямлі разам з пастароннімі людзьмі (так званымі патужнікамі)»[68].

Той жа польскі даследчык гісторыі ВКЛ Ю.Можы ва ўласнай рэцэнзіі на артыкул Я. П. Шлосберга «Да пытання аб зменах феадальнай рэнты ў Беларусі XVII-XVIII стагоддзяў» адзначыў яго дыскусійнасць у спалучэнні з тым, што высновы аўтара пабудаваны толькі на невялікай колькасці інвентароў. Слушнай была заўвага адносна галаслоўна зробленай Я.П.Шлосбергам адмоўнай ацэнкі пазіцыі польскіх гісторыкаў, якія займаліся гаспадарчай гісторыяй, таму, што гэтая ацэнка, па словах Ю.Можы. «была зроблена без азнаямлення з працамі тых гісторыкаў»[69]. Ю.Можы таксама, як і Д. Л.Пахілевіч, крытыкаваў выказванні Я. П. Шлосберга аб тым, што ў Беларусі ў XVII-XVIII стст, як быццам ужо не было сялянскай абшчыны»[70].

---

[67] Шлоссберг, Е П. Кво просу об изменении феодальнойрентывБелоруссии XVII-XVIII веков.- С.105-127.

[68] Morzy, J [Рэцэнзія] / J.Morzy // Rocznik idziejów społecznych I gospodarczych.- 1962. - T. XXIII.- Poznan,1962.- S. 282-290. - Рэц.на Ежегодник по аграрной истори и Восточной Европы 1958 г.- Таллин,1958.- 324 с.- 5. 287.

[69] Morzy, J [Рэцэнзія] / J.Morzy // Rocznik idziejów społecznych I gospodarczych.- 1962. - T. XXIII.- Poznan,1962.- S. 300-302. - Рэц.на арт.: Шлоссберг Е.П.К вопросу об изменении феодальной рентыв Белоруссии XVII-XVIII веков // Ежегодникпо аграрной истории Восточной Европы1958 г.- Таллин,1958.- С.105-127.- S. 300.

[70] Morzy ,J. [Рэцэнзія].- С.105-127.- 8. 302.

Неабходна адзначыць, што факты існавання грамады ў Беларусі ў эпоху феадалізму прыводзілі ў сваіх працах некаторыя даследчыкі, якія займаліся пытаннямі сацыяльна-эканамічнай гісторыі. Напрыклад, В. І. Мялешка ў сваёй манаграфіі, прысвечанай пытанням класавай барацьбы сялянства Беларусі ў XVII-XVIII стст., звярнуў увагу на частыя выпадкі падачы сялянамі скаргаў калектыўна, прыводзіў факты пратэсту сялян Крычаўскага староства супраць адмены старажытнага звычаю штогадовых выбараў сялянамі староства старца – кіраўніка сельскай абшчыны[71]. Пра сумесныя дзеянні паўстанцаў у Крычаўскім старостве ў 1740-1744 гг. і актыўны ўдзел у сялянскіх выступленнях кіраўнікоў сялянскіх абшчын войтаў (старцаў) Івана Белькі, Васіля Вашчылы і іншых пісалі В. І. Мялешка і П. А. Лойка[72]. На тое, што ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску ёсць матэрыялы аб скліканні капы (абшчыннага суда), а таксама скаргі сельскіх грамад з Падняпроўя за XVI ст., звяртаў увагу вядомы беларускі даследчык З. Ю. Капыскі[73]».

Адзінкавыя факты, якія сведчылі аб дзейнасці грамады, прыводзіў у сваіх працах П. Р. Казлоўскі, але пры гэтым не заўсёды даваў ім належную ацэнку. Так, адзначыўшы вялікую важкасць калектыўных скаргаў сялян у параўнанні з індывідуальнымі суплікамі, ён не звярнуў ўвагі на тое, што першыя падаваліся звычайна ад імя абшчын, устойлівых супольнасцей сялян[74]. Даючы характарыстыку сельскай адміністрацыі і пералічваючы яе функцыі, ён тут жа без усялякіх спасылак рабіў вывад аб поўным падпарадкаванні сялянскай абшчыны панскаму двару[75]. Больш станоўча гэты даследчык ацэньваў абшчыну, якая існавала ў Беларусі ў канцы XVIII - першай палове XIX ст.[76]

На ўзрастанне ролі грамады ў часы гаспадарчага аднаўлення ў канцы XVII - першай палове XVIII ст. звярнула ўвагу І. Ф. Кітурка, даследуючы палітыку гаспадарчага развіцця дзяржаўных уладанняў на тэрыторыі Беларусі. Аўтар адзначыла, напрыклад, што пры нестабільнай дэмаграфічнай сітуацыі, якая склалася ў 1765 г. у Рэчыцкім павеце ў сувязі з «вывадам» расійскім войскам генерала Маслава стараабрадцаў з беларускіх зямель, «дзяржаве было выгадна, каб за выплаты некаторых падаткаў адказвалаўся сельская грамада»[77].І. Ф. Кітурка прывяла некалькі цікавых прыкладаў, калі скарб абавязваў сельскія абшчыны займацца зборам даніны альбо арганізацыяй выплаты падаткаў. Аўтар адзначыла, што ўзрастала роля абшчыны і на захадзе Беларусі, аб чым, між іншым, сведчыла ў

---

[71] Мелешко, В. Н. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII-XVIII в. / В. Н. Мелешко. – Минск: Наука и техника, 1982 .- С 85, 89.

[72] Мелешко, В. Н. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII-XVIII в. -С. 191; Мялешка, В І. Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы / В. І. Мялешка, П. А. Лойка. -Мінск: Народная асвета, 1988 .- С 47-49.

[73] Копысский, З. Ю. Источниковедение аграрной истории Белоруссии / З. Ю. Копысский .- Минск: Наука и техника, 1978. - С 98,100,102 ,103.

[74] Козловский, П. Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII-XVIII в. / П. Г. Козловский. - Минск Наука и техника, 1969 . - С. 164.

[75] Козловский, П. Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. / П. Г. Козловский. - Минск: Наука и техника, 1974. - С. 101, 105.

[76] Козловский, П. Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII - первой половине XIX в. /П. Г. Козловский. - Минск: Наука и техника, 1982. - С. 154-165.

[77] Кітурка, І. Ф. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII-XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця / І. Ф. Кітурка. - Гродна: ГрДУ, 2003. - С. 134 .

тым ліку тое, што сярод павіннасцей валашчан Васілішкаўскага староства Лідскага павета была замацавана адказнасць грамады за апрацоўку ўсіх зямель[78].

Цікавасць для даследавання ўяўляе спецыфічны суд грамады – копны суд, адно з першых даследаванняў якога зрабіў у канцы XIX ст. І. Я. Спрогіс[79]. Артыкул, прысвечаны копным судам у Беларусі, заснаваны на апублікаваных матэрыялах Віленскай археаграфічнай камісіі, напісаў М. Шкялёнак[80]. У канцы мінулага стагоддзя да разгляду дзейнасці суда грамады звяртаўся Я. А. Юхо[81]. Але, на наш погляд, неабходнасць працягу даследавання інстытута копнага суда, як і іншых форм дзейнасці грамады ў комплексе, застаецца актуальнай.

Адно з апошніх даследаванняў беларускіх гісторыкаў, дзе прыводзяцца звесткі пра існаванне грамады, – праца А. Б. Доўнара «Сяляне-слугі Беларусі другой паловы XVI - сярэдзіны XVIII ст.»[82] Так, аўтар назваў шэраг катэгорый «адміністрацыйных» слуг, якія маглі і ў многіх выпадках выконвалі абавязкі не толькі панскіх адміністратараў, але і службовых асоб сельскай грамады (старцы, войты, падвойскія, дзесятнікі, старшыя і інш.), прывёў прыклады іх выбараў ці прызначэння на пасаду, разгледзеў абавязкі і павіннасці такіх асоб на прыкладах некаторых уладанняў[83].

Глыбокія назіранні адносна стану вывучэння гісторыі сялянскай абшчыны ў Беларусі зрабіў у сваёй працы, прысвечанай аналізу савецкай гістарыяграфіі сацыяльна-эканамічнага развіцця беларускай вёскі сярэдзіны XVII - першай паловы XVIII ст., Э. Р. Іофе[84]. Так. вучоны адзначыў, што «праблема сялянскай абшчыны ў Беларусі эпохі феадалізму закраналася ў працах М. В. Доўнар-Запольскага, М.Ф. Уладзімірскага-Буданава, Ф. І. Леантовіча. М. В. Каяловіча і іншых буржуазна-дваранскіх гісторыкаў. У сваіх працах па гісторыі Беларусі, асабліва ў двухтомнай манаграфіі «Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве», У. І. Пічэта свярджаў, што аграрная рэформа 1557 г. «знішчыла сельскую абшчыну». Шэраг аўтараў, па сутнасці, раздзяляюць гэтую пазіцыю. Сярод іх – Я. П. Шлосберг і М. Ф. Піліпенка, які падкрэслівае, што ў заходняй і цэнтральнай Беларусі валочнай памерай абшчыннае землекарыстанне

---

[78] Тамсама.- С.135.

[79] Спрогис, Н. Я Древний народный копный суд в Северо-Западной Руси / И. Я. Спрогис.- Витебск, 1895. - 19 с.; Спрогис, И. Я. Древний русский документ - декрет граничного копного суда 1531 г. / И. Я. Спрогис.- Витебск, 1898.- 14 с

[80] Шкялёнак, М. Копныя суды ў Беларусі / М. Шкялёнак // Беларусь і суседзі. Гістарычныя нарысы. - Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2003.- С.196-216.

[81] Юхо, Я А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі / Я. А. Юхо. - Мінск: Універсітэцкае, 1992. - 270 с.

[82] Доўнар, А. Б. Сяляне-слугі Беларусі другой паловы XVI - сярэдзіны XVIII ст. / А. Б. Доўнар.- Мінск: Беларус. навука, 2007. - 193 с.

[83] Доўнар, А. Б. Сяляне-слугі Беларусі другой паловы XVI - сярэдзіны XVIII ст. - С.57-58, 73-74, 103-108.

[84] Иоффе. Э. Г. Из истории белорусской деревни (Советская историография социально-экономическо го развития белорусской деревни середины XVII - первой половины XIX века) / Э. Г. Иоффе.- Минск: Ураджай, 1990.- 246 с.

заменена падворным»[85]. Пры гэтым Э. Р. Іофе спаслаўся на артыкул М. Ф. Піліпенкі «Абшчына» ў Кароткай энцыклапедыі Беларускай ССР[86].

Э. Р. Іофе адзначыў таксама, што з такімі поглядамі беларускіх гісторыкаў на абшчыну не пагаджаўся вядомы даследчык гісторыі сялянства Беларусі і Літвы Д. Л. Пахілевіч, які пераканаўча сцвярджаў, што «сялянская абшчына, хаця і пад панскім наглядам, але праіснавала ў Беларусі да канца феадалізму»[87].

Сярод выказванняў пра абшчыну П. Р. Казлоўскага Э. Р. Іофе працытаваў яго думку аб тым, што абшчына ў XVIII ст. толькі месцамі валодала ў Беларусі пазямельнымі функцыямі, але «у ролі выразніка суседскай салідарнасці сялян, абаронцы іх інтарэсаў перад іншымі вёскамі, перад «сваімі» і «чужымі» феадаламі ў ролі рэгулятара выканання павіннасцей і зборшчыка падаткаў абшчына праіснавала паўсюдна на працягу ўсёй эпохі феадалізму ў Беларусі»[88].

Зрабіўшы канчатковы вывад аб тым, што ў беларускай савецкай гістарыяграфіі «вельмі павярхоўна асветлены лёсы і функцыі сялянскай абшчыны»[89], Э. Р. Іофе ўсё ж адзначыў, што яе вывучэнне адбывалася «на якасна больш высокім узроўні» і што «цікавыя пункты гледжання выказаны Д. Л. Пахілевічам, Я. П. Шлосбергам. П. Р. Казлоўскім, В. У. Чапко. В. Ф. Голубевым»[90].

Сапраўды, у апошнія гады спробы разгляду некаторых пытанняў дзейнасці сялянскай грамады ў дзяржаўных, прыватных і царкоўных уладаннях Беларусі на працягу XVI-XVIII стст. зроблены аўтарам дадзенай публікацыі ў працы, прысвечанай сялянскаму землеўладанню і землекарыстанню[91] і некалькіх артыкулах, прысвечаных розным аспектам дзейнасці гэтага сялянскага інстытута[92].

---

[85] Тамсама.- С 152.

[86] Пилипенко, М. Ф. Община / Пилипенко М. Ф. // Белорусская ССР. Краткая энциклопедия. - Т. I. - Минск: Главная редакция Белорусской Советской Энциклопедии, 1979.- С 442-443.

[87] Иоффе, Э. Г. Из истории белорусской деревни (Советская историография социально-экономического развития белорусской деревни середины XVII - первой половины XIX века). - С. 153.

[88] Тамсама.

[89] Тамсама. – С.158.

[90] Тамсама. - С. 156.

[91] Голубеў, В. Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI-XVIII стст. В. Ф. Голубеў. - Мінск: Навука і тэхніка, 1992. - 176 с.

[92] Голубеў, В. Ф. Сацыяльна-тэрытарыяльныя супольнасці ў Беларусі 14-18 ст.: стан навуковай распрацаванасці праблемы / В.Ф. Голубеў // Гістарычны альманах. - Т. 4. - Гародня, 2001. С. 139-143; Голубеў, В Ф. Грамадска-тэрытарыяльныя супольнасці ў Беларусі: ад родавай абшчыны да суседскай грамады / В. Ф. Голубеў // Гістарычна-археалагічны зборнік. - Мінск, 2005. - № 20. - С. 206-211; Голубеў, В Ф. Абшчынны (копны) суд у Беларусі ў XVI-XVIII стст. / В. Ф. Голубеў / Беларускі гістарычны часопіс. - Мінск, 2007. - № 1. - С. 24-29; Голубеў, В. Ф. Абшчына ў сацыяльным і гаспадарчым жыцці насельніцтва Горвальскай воласці Рэчыцкага павета (паводле інвентарных апісанняў першай паловы - сярэдзіны XVIII ст) / В. Ф. Голубеў // Чацвёртыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні «Рэчыца ў часе і прасторы: 790 год заснавання горада». Рэчыца. 18-19 верасня 2003 г. - Ч. II. - Гомель, 2004. - С. 64-74; Голубеў, В. Ф. Абшчына ў сацыяльным і гаспадарчым жыцці насельніцтва Стрэшынскай воласці Рэчыцкага павета (паводле інвентарных апісанняў XVI-XVIII ст) / В. Ф. Голубеў // Пятыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Рэчыца, 22-23 верасня 2005 г. - Гомель. 2005. - С 204-214 і інш.

Былі выказаны меркаванні аб павышэнні ролі грамады падчас эканамічных разбурэнняў, падтрымцы яе дзейнасці ў такі час з боку феадалаў. Найбольш моцныя абшчынныя арганізацыі сялянства захоўваліся ў буйных дзяржаўных, царкоўных і некаторых прыватных уладаннях. Аўтарам зроблены вывад аб тым, што арганізацыя сялянскай абшчыны (грамады) на захадзе Беларусі значна адрознівалася ад традыцыйнай абшчыннай структуры на ўсходзе, якую падтрымлівала дзяржава. У вёсках заходу Беларусі абшчына рэдкаператваралася ў інструмент феадала-ўласніка па збору падаткаў ці выкананню павіннасцей, а больш існавала як самаарганізацыя сялянства для абароны сваіх інтарэсаў.

Такім чынам, на аснове аналізу беларускай гістарыяграфіі па гісторыі грамады можна зрабіць вывад аб тым, што праблема функцыяніравання сялянскай абшчыны – грамады на тэрыторыі Беларусі ў XVI-XVIII стст. на сённяшні дзень вывучана недастаткова і патрабуе правядзення больш глыбокага комплекснага даследавання.

## 1.2. Сельская грамада ў польскай гістарыяграфіі

Праблема арганізацыі і дзейнасці сельскай абшчыны ў часы феадалізму канчаткова не вырашана не толькі ў беларускай, але і ў польскай гістарыяграфіі Адсутнічаюць працы, прысвечаныя комплекснаму вывучэнню дзейнасці сялянскай абшчыны, унутранаму ўладкаванню вёскі ў часы феадалізму на ўсёй тэрыторыі краіны і ва ўсіх відах землеўладання. Больш за тое, на думку расійскай даследчыцы Л. В. Разумоўскай, выказаную яшчэ ў канцы 1960-х гадоў, сярод польскіх гісторыкаў не склалася адзінага пераканання па пытанню аб тым, ці існавала абшчына ў Польшчы ў часы развітога феадалізму. На гэта яна звярнулі ўвагу ў сваёй працы, прысвечанай гісторыі польскага сялянства ў XV-XVI стст., адзначаючы, што Ф. Буяк выступаў у абарону абшчыны, А. Вольф яе прызнаваў. а О. Бальцар і І. Відаевіч адмаўлялі яе існаванне[93].

На нашу думку, гэта вельмі спрошчаны падыход, як і вельмі павярхоўны агляд гістарыяграфіі праблемы ў цэлым. Але, сапраўды, сярод польскіх гісторыкаў у тыя часы не было адзінства ў ацэнцы, якім чынам функцыяніравала сельская абшчына ў польскай вёсцы. На нявысветленасць у польскай гістарыяграфіі таго, што сабой уяўляла абшчына: структуру, поўнасцю падпарадкаваную феадальнай адміністрацыі, ці орган сялянскага самакіравання (samorząd), звяртаў увагу і З. Цьвек[94]. Радыкальных змен у польскай гістарыяграфіі не адбылося і пазней, хаця з'явілася некалькі цікавых прац па гісторыі грамады. Таму, што так адбылося, на наш погляд, ёсць некалькі прычын, сярод якіх дзве вылучаюцца як найбольш важкія. У якасці першай прычыны можна ўказаць на тое, што доўгі час польскія гісторыкі, займаючыся ў асноўным пытаннямі ўнутры- і знешнепалітычнага развіцця і падзелаў Рэчы Паспалітай, не вылучалі ў якасці аднаго з асноўных

[93] Разумовская. Л. В. Очерки по истории польских крестьян в XV-XVI вв. / Л. В. Разумовская.- М.: Наука, 1968.- С. 292.

[94] Ćwiek, Z. Z dziejów wsi koronnej XVII wieku / Z. Ćwiek - Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1966.- S. 83.

аб'ектаў гістарычнага даследавання вёску, а сялянства (такім чынам, і сельская грамада) не вывучалася ў якасці важнага суб'екта гістарычнага працэсу. Другая прычына заключаецца ў тым, што ўзровень развіцця грамады ў розных рэгёнах Польшчы быў неаднолькавы, таму ў выніку гэта адбілася і на ўзроўні даследавання дадзенага інстытута сялянскай самаарганізацыі і на змесце вывадаў, якія рабілі розныя даследчыкі.

На наш погляд, дзейнасць польскай гістарыяграфіі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай умоўна можна падзяліць на чатыры гістарычныя перыяды, якія адрозніваліся ў тым ліку і адносінамі да гісторыі сялянства і сельскай абшчыны: 1) ад страты незалежнасці да першай сусветнай вайны (канец XVIII - пачатак XX ст.); 2) польская гістарыяграфія часоў Другой Рэчы Паспалітай (пачатак XX ст. – другая сусветная вайна); 3) гістарыяграфія часоў Польскай Народнай Рэспублікі (1946-1988 гг.); 4) гістарыяграфія часоў Трэцяй Рэчы Паспалітай (1989-2008 гг.).

Так, калі гаварыць пра першы вызначаны намі перыяд, польскія гісторыкі XVIII-XIX стст., прадстаўнікі як традыцыйнай «кракаўскай школы», так і ліберальнай «варшаўскай», якая ўзнікла пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, займаліся ў асноўным даследаваннем унутранай і знешняй палітыкі краіны. Польская гістарыяграфія XX ст. адзначала ў якасці аднаго з галоўных мінусаў «кракаўскай школы» якраз «недахоп аналізу становішча сялян у Польшчы»[95]. Прадстаўнікі ж варшаўскай школы даказвалі, што Рэч Паспалітая ў сярэдзіне - другой палове XVIII ст. была краінай з даволі высокім узроўнем гаспадарчага развіцця, якая імкнулася да правядзення эканамічных, палітычных і вайсковых рэформ. Толькі замежнае ўмяшанне, на іх думку, спыніла гэты паступальны працэс. У спрэчках з прадстаўнікамі кракаўскай школы найбольш вылучаўся Т. Корзан, які нават назвай сваёй фундаментальнай шасцітомнай працы «Унутраная гісторыя Польшчы за часы Станіслава Аўгуста (1764-1794)» падкрэсліваў важнасць таго, што адбывалася тады менавіта ўнутры краіны[96]. Але, абапіраючыся на ідэі Асветніцтва, станоўча ацэньваючы гаспадарчыя і палітычныя дасягненні польскіх рэфарматараў другой паловы XVIII ст., варшаўскія гісторыкі таксама вывучалі ў асноўным дзейнасць правячых колаў краіны, зусім мала ўвагі пакідаючы сялянству – асноўнай вытворчай сіле феадальнага грамадства.

Пачатак XX ст. у польскай гістарыяграфіі, як і ў гістарыяграфіі многіх іншых еўрапейскіх краін, быў адзначаны пашырэннем даследавання праблем сацыяльна-эканамічнага развіцця. Разам з разглядам пытанняў эвалюцыі феадальнага землеўладання, фальварка, рамяства і гандлю значная ўвага пачала ўдзяляцца вывучэнню аграрнай гісторыі і становішчу сялянства Рэчы Паспалітай. Важна, што тагачасныя польскія даследчыкі звычайна не абмяжоўвалі свае працы толькі тэрыторыяй Кароны, а вывучалі гісторыю і ВКЛ, у тым ліку і Беларусі.

Даследчыкі польскай гістарыяграфіі адзначаюць, што ў польскай гістарычнай навуцы ў першай палове XX ст. таксама існавалі дзве вядучыя даследчыцкія школы: львоуская і познаньская[97]. Прадстаўнікі львоўскан школы займаліся даследаваннем розных аспектаў сацыяльна-эканамічнага жыцця Рэчы Паспалітай.

---

[95] Bobińska, C. Historiografia (1764-1795) / C. Bobińska // Historia Polski. Pod redakcią S. Kieniewicza I W. Kuli. - T. II. 1764-1864. - Część I. 1764-1795. - \Warszawa: Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1958. - S.16.

[96] Korzon, T. Wewnętrzne dzieje Polski za Stanisława augusta (1764-1794) / T. Korzon. - T. I-VI. – Kraków; Warszawa, 1897-1898.

[97] Historia Polski. Pod redakcją S. Kieniewicza I W. Kuli. - T. II. 1764-1864. - Część I. 1764-1795. - \Warszawa: Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1958. - S.25.

Менавіта тут з'явіліся бадай што першыя даследаванні па гісторыі сялянскага самакіравання ў розных рэгіёнах Польшчы. Гэта ў першую чаргу працы К. Дабравольскага[98] і С. Саханевіча[99], прысвечаныя вывучэнню працэсу пераўтварэння даўніх сялянскіх солтыстваў і войтаўстваў у інстытуты, залежныя ад землеўласнікаў.

Але сапраўдную аснову для вывучэння ўнутранага ўладкавання польскай вёскі, дзейнасці сялянскай абшчыны склалі працы Б. Уляноўскага[100] і Ю. Рафача[101]. Б. Уляноўскі, як сведчыць сама назва яго працы «Польская вёска з прававога пункту гледжання ў XVI-XVIII стст», разглядаў рэаліі жыцця польскай вёскі XVI-XVIII стст. зыходзячы ў асноўным з юрыдычна-прававых пазіцый: паказваючы не толькі і не столькі, як рэальна было, але ў асноўным як магло быць у адпаведнасці з тагачаснымі нормамі права. Ю. Рафач у сваёй грунтоўнай манаграфіі «Ustrój wsi samorządnej małopolskiej w XVIII wieku» («Уладкаванне вёсак з самакіраваннем у Малапольшчы ў XVIII ст») паспрабаваў даследаваць унутранае жыццё малапольскай вёскі з усіх бакоў, робячы асноўны акцэнт на агульнасць, якую складалі жыхары адной вёскі ці гаспадарчага ключа. Нягледзячы на тое што аўтар шмат увагі ўдзяліў уладзе, якую меў землеўласнік у вёсцы, аналізу прававога і фактычнага становішча сялянства, раздзел «Грамада», на нашу думку, з'яўляецца цэнтральным ва ўказанай працы. Аўтар прапанаваў сваю трактоўку грамады, якую ён разумеў «як усіх падданых, што пражывалі ў вёсцы»[102], разглядзеў амаль усе бакі жыцця грамады – ад спосабаў яе склікання і арганізацыі ўнутранага жыцця вёскі да выбараў службовых асоб грамады і ажыццяўлення ёю судовых функцый. Ю. Рафач некалькі рамантызаваў жыццё польскай вёскі з самакіраваннем, асабліва гэта заўважна ў яго імкненні паказаць узгодненасць адносін паміж панамі і падданымі, калі ён сцвярджаў, што пан быў вымушаны лічыцца з сялянскімі «пажаданнямі, выкладзенымі ў форме просьбаў»[103]. І З. Цьвек называў гэта салідарыстычнымі тэндэнцыямі польскай «аптымістычнай» гістарыяграфіі, да якой адносіў і Я. Рутькоўскага, у першую чаргу за выказаныя ў яго «Studiach nad położeniem włościan w Polsce w XVIII wieku» («Нарысы аб становішчы сялянства ў Польшчы ў XVIII ст»)[104] меркаванні аб узнікненні ў Польшчы пад уплывам публіцыстыкі XVIII і XIX стст. так званай новай сельскай аўтаноміі і наяўнасці пэўнай супольнасці інтарэсаў сялянства і панскага двара.

Увогуле, як паказвае аналіз гістарыяграфіі, сітуацыя з вывучэннем гісторыі польскага сялянства радыкальна змянілася ў перыяд пасля другой сусветнай вайны, калі даследаванне сацыяльна-эканамічнага развіцця вытворчых класаў стала прыярытэтным у гістарыяграфіі краін так званага сацыялістычнага лагера.

---

[98] Dobrowolski, K. W sprawie skupu sołectw w dawniej Polsce w XV i XVI wieku / K. Dobrowolski // Kwartalnik Historyczny. - 1924. - T. XXXVIII. - S. 1-28.

[99] Sochaniewicz, S. Wójtowstwa i sołtystwa pod względem prawnym I ekonomicznym w ziemi Lwówśkiej / S. Sochaniewicz. – Lwów : nakł. Towarzystwa Naukowego – Kraków: J. Filpowski, 1921. - 415 s.

[100] Ulanowski, B. Wieś polska pod względem prawnym od wieku XVI do XVIII / B. Ulanowski // Rocznik Akademii Umiejętności. - R. 1893-1894.- Kraków, 1894.- S. 120-178.

[101] Rafacz, J. Ustrój wsi samorządnej małopolskiej w XVIII wieku / J. Rafacz – Lublin: Nakladem Uniwersytetu Lubelskiego.– Bblioteka Uniwersytetu Lubelskiego.– Wydział prawa I nauk społecznoekonomicznych.– Nr. 5. - 1922.– 384 s.

[102] Rafacz, J. Ustrój wsi samorządnej małopolskiej w XVIII wieku.– S. 189.

[103] Ibidem.

[104] Rutkowski, J. Studia nad położeniem włościan w Polsce w XVIII wieku / J. Rutkowski // Studia z dziejów wsi polskiej XVI-XVIII w.– Warszawa, 1956. - S. 145-240.

Праблемы дзейнасці сялянскай грамады, адносін паміж панскім дваром і сялянамі аналізаваліся ў асноўным у працах, прысвечаных пытанням класавай барацьбы сялянства, сацыяльна-эканамічнага становішча сельскага насельніцтва. Так, ужо ў 1948 г. у Варшаве выйшла манаграфія С. Сьрэнёўскага, прысвечаная праблеме уцекаў сялян з маенткаў сваіх феадалаў[105]. Аутар акрамя высвятлення прычын бегстваў сялян з феадальных маёнткаў (хто, куды і чаму ўцякаў), накірункаў уцёкаў, судовых спраў аб уцекачах (збегах) і інш. паспрабаваў разгледзець таксама адносіны саміх сялян да ўцёкаў і ўцекачоў. І хаця даследчык не паказваў ролі грамады ў адносінах да гэтай сацыялнай з'явы, яго разважанні аб сялянскай салідарнасці, у тым ліку і ў выпадках сялянскіх уцёкаў, даюць падказку ў накірунку далейшай працы. Да таго ж беларускаму даследчыку важна, што ў гэтай рабоце, пабудаванай у асноўным на апублікаваных крыніцах, прыводзяцца факты не толькі адносна тэрыторый Кароны, але і земляў ВКЛ, робяцца цікавыя супастаўленні і параўнанні.

Па праблеме сялянскіх уцёкаў праз зусім невялікі час пасля выдання вышэйзгаданай работы С. Сьрэнёўскага выйшлі працы другога даследчыка гісторыі польскага сялянства – С. Шчоткі, які высока ацаніў працу папярэдніка, але адзначыў, што ў ёй маюцца недахопы. У свой артыкул «Uwagi o zbiegowstwie włościan w dawnej Polse» («Заўвагі аб сялянскіх уцёках у старажытнай Польшчы»)[106], у адрозненне ад С. Сьрэнёўскага, С. Шчотка ўключыў спецыяльны раз-дзел «Stanowisko Gromady wobec zbiegowstwa» («Адносіны грамады да бегстваў»), які пакінуў і ў наступнай сваёй рабоце «Z dziejów chłopów polskich» («З гісторыі польскага сялянства»)[107]. Так, С. Шчотка паказаў, што землеўласнікі рабілі ўсё для таго, каб сяляне не спрыялі і не дапамагалі адзін аднаму ва ўцёках. Згодна са спецыяльна выдадзенымі ўставамі, сельскім жыхарам не дазвалялася прымаць на начлег невядомых людзей без паведамлення панскімураднікам, забаранялася аказваць якую б то ні было дапамогу збеглым. Суседзі павінны былі сачыць за суседзямі і дакладваць аб парушэннях дзесяцкім, а тыя – дваровай адміністрацыі. Самым вялікім цяжарам на грамаду клаўся абавязак апрацоўваць пусткі, якія з'яўляліся ў вёсках з прычыны сялянскіх уцёкаў.

У 1950-я гады ў Польшчы выйшла з друку яшчэ некалькі прац па гісторыі польскага сялянства. сярод якіх неабходна адзначыць даследаванні Я. Руткоўскага, дзе разглядаліся і пытанні функцыяніравання сельскай абшчыны[108].

Над праблемамі сялянскай грамады ў часы феадалізму працавалі не толькі польскія гісторыкі, але і юрысты. Сярод прац такога роду вылучаюцца артыкулы Л. Лысяка « U podstaw formowania się polskiego stanu sołtyskiego» («У асноваў афармлення саслоўя польскіх солхысаў») і «Sądownictwo królewskie w sprawach chłopskich do połowy XVI wieku» («Каралеўскае судаводства па сялянскіх справах да сярэдзіны XVI века»)[109]. Аўтар змог не толькі паказаць асаблівасці прымянення

---

[105] Śreniowski, S. Zbiegowstwo chłopów w dawniej Polse jako zagadnienie ustroju społecznego / S. Śreniowski. – Warszawa: Spółdzielnia wydawnicza «Książka», 1948. – 210 s.

[106] Szczotka, S. Uwagi o zbiegowstwie włościan w dawnej Polse / S. Szczotka // Rocznk i dziejów społecznych I gospodarczuch. – Rok 1949. - T. XI. – Poznań: Nakładem Poznańskiego Towarzystwa Przyjació l Nauk z zasiłku Rady Ministrów, 1949. – S. 119-176.

[107] Szczotka, S. Z dziejów chłopów polskich / S. Szczotka. – Warszawa: Ludowa Spółdzielnia Wydawnicza, 1951. – 310 s.

[108] Rutkowski, J. Historia gospodarcza Polski (do 1864 r.) / J. Rutkowski. Z przedmową prof. Dra Witolda Kuli. – Warszawa: Ksiązka i Wiedza, 1953. – 568 s.; Rutkowski, J. Skup sołectw w Polsce w XVI wieku / J. Rutkowski // Studia z dziejów wsi polskiej XVI-XVIII w. – Warszawa, 1956 / - S. 145-240; Rutkowski, J. Studia z dziejów wsi polskiej XVI-XVIII w. / J. Rutkowski – Warszawa, 1956 / - 366 s.

[109] Łysiak, L. U podstaw formowania się polskiego stanu sołtyskiego / L. Łysiak / Czasopismo Prawno-Historyczne. Instytut Historii Polskiej Akademii Nauk. Zaklad Historii państwa i prawa. – T. XVI. – Zeszyt 1. – Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1964. – S. 231-

«нямецкага права» на польскіх тэрыторыях, але даказаў, што гэтае права лягло на падрыхтаваную глебу. Так, солтысы на польскіх землях мелі сваіх папярэднікаў у асобе вясковых стараст, вядомых яшчэ з XIII ст.[110] Аўтар раскрыў значэнне пасады солтыса ў жыцці польскай феадальнай вёскі, паказаў прычыны змагання за гэтую пасаду. Цікавасць уяўляе той факт, што значная колькасдь сялянскіх спраў, якія дайшлі да разгляду на каралеўскім судзе, зыходзілі ад групы сельскіх жыхароў, звычайна ад сялянней кай канкрэтнай вёскі, напэўна, ад грамады гэтай вёскі.

Артыкул С. Плаза «Funkcijonowanie chłopskich sądów wójtowskich w Sądeczyźnie XVI-XVIII w» («Функцыяніраванне сялянскіх войтаўскіх судоў на Сандэчызне ў XVI-XVIII стст.»), як адзначана ва ўступе да яго, прысвечаны адной з найменш вывучаных галін гісторыі права – вясковаму судаводству[111]. Аўтар разглядаў дзейнасць сялянскіх судоў з фармальна-юрыдычнага, працэсуальнага пункту гледжання (прыводзячы рэальныя гістарычныя прыклады) – ад права склікання войтаўскага суда, тэрмінаў, у якія ён павінен быў адбыцца, ходу судовага працэсу да вынясення прысудаў і іх выканання.

Як ужо адзначалася, у пасляваеннай Польшчы выйшаў шэраг публікацый розных аўтараў, мэтай якіх было вывучэнне сацыяльна-эканамічнага становішча сялянства і развіцця панскай гаспадаркі ў розных рэгіёнах краіны ў феадальную эпоху. Разглядаючы згаданыя пытанні, гісторыкі па магчымасці не абміналі і праблем сельскай грамады і сялянскага самакіравання. Так, Б. Барраноўскі ў працы, прысвечанай становішчу сялянскай і фальваркавай гаспадаркі ва ўсходняй Вялікапольшчы ў XVIII ст., зрабіў вывад аб слабым развіцці ў гэтым рэгіёне сялянскага самакіравання, якое мела большую вагу ў каралеўшчынах, магнацкіх і духоўных уладаннях, а ў малых шляхецкіх маёнтках яго ўвогуле не было альбо яно поўнасцю залежала ад волі пана[112].

А. Мончак у манаграфіі «Gospodarstwo chłopskie na Żuławach Malborskich w początkach XVII wieku» («Сялянская гаспадарка на Мальборскіх Жулавах у пачатку XVII ст.») у асобнай главе пад назвай «Organizacja chłopska i walka klasowa» («Сялянская арганізацыя і класавая барацьба») паспрабаваў разгледзець дзейнасць інстытута сялянскага самакіравання на Жулавах[113]. Арганізацыя сялянскага самакіравання тут мела шматступенную структуру, на ніжэйшым узроўні якой знаходзіўся «урад солтыскі» (солтыс, якога выбіралі сельскія радныя), а на вышэйшым – «сялянскае самакіраванне вышэйшага ўзроўню», якое нават мела паўнамоцтвы куплі і продажу маёмасці (кузні, крамы, корчмы). Аўтар адзначыў, што сельскае самакіраванне вышэйшага ўзроўню мела на Жулавах даўнюю традыцыю і шмат падабенства з уладкаваннем на іншых тэрыторыях узбярэжжа Балтыйскага і Паўночнага мораў[114].

---

251; Łysiak, L. Sądownictwo królewskie w sprawach chłopskich do połowy XVI wieku / Łysiak, L. // Czasopismo Prawno-Historyczne Instytut Historii Polskiej Akademii Nauk. Zaklad Historii państwa i prawa. – T. XVII. - Zeszyt 2. Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1965. – S. 11-69.

[110] Łysiak, L. U podstaw formowania się polskiego stanu sołtyskiego. – S. 231.

[111] Płaza, S. Funkcijonowanie chłopskich sądów wójtowskich w Sądeczyźnie XVI-XVIII w. / S. Płaza // Czasopismo Prawno-Historyczne. Aklad Historii państwa i prawa. – T. XVII. - Zeszyt 1. Warszawa Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1966. – S. 119-180.

[112] Baranowski, B. Gospodarstwo chłopskie i folwarczne we Wschodniej Wielkopolsce w XVIII wieku / B. Baranowski. – Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1958. – S. 63.

[113] Mączak, A. Gospodarstwo chłopskie na Żuławach Malborskich w początkach XVII wieku / A. Mączak. - Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1962. – S. 138-146.

[114] Ibidem. – S. 142.

А. Ваўжыньчык, разглядаючы праблему развіцця буйной зямельнай уласнасці ў XV-XVI стст. на пагранічным з Берасцейшчынай Падляшшы[115], а часткова і на тэрыторыі Берасцейскага павета, не займаючыся спецыяльна разглядам форм грамадскагаі гаспадарчага жыцця сялянства, прывяла даныя за 1521 г. паволасці з назвай Аполе (Opole). Яшчэ К. Тымянецкі ў рэцэнзіі на вышэйзгаданую працу адзначыў. што гэтыя звесткі не вельмі адрозніваюцца ад «аполя». вядомага на поўдні Вялікапольшчы яшчэ ў XV ст.[116] Цяжка гаварыць, наколькі можна праводзіць прамую аналогію з Вялікапольшчай, паколькі назва Аполе сустракаецца і на самым усходзе Беларусі, але прыведзеныя матэрыялы, хутчэй за ўсё, сведчаць аб існаванні тут абшчыны.

Другая праца А. Ваўжыньчык была прысвечана сялянскай гаспадарцы ў каралеўскіх уладаннях на Мазоўшы ў XVI - пачатку XVII ст.[117] Хаця аўтар манаграфіі і не зрабіла выдаду аб існаванні ў гэтым рэгіёне Польшчы сялянскай абшчыны, прыведзеныя ёю звесткі (напрыклад, па карыстанні сялянамі лугамі, пашамі і лясамі) сведчаць аб тым, што ў большасці выпадкаў згаданыя ўгоддзі належалі ўсяму сялу і сяляне карысталіся імі сумесна. Пазней А. Ваўжыньчык спецыяльна занялася вывучэннем сельскага самакіравання на Мазоўшы ў XVI ст. – амаль праз дваццаць гадоў пасля выхаду рэцэнзуемай манаграфіі з-пад пяра даследчыцы выйшаў артыкул пад назвай «Urząd wiejski na Mazowszu w XVI w. (Ze studiów nad ustrojem społecznym wsi mazowieckiej XVI w.)» («Сялянская адміністрацыя на Мазоўшы ў XVI ст. (З даследавання сацыяльнага ўладкавання мазавецкай вёскі XVI ст.)»)[118]. А. Ваўжыньчык даволі падрабязна і доказна, на значнай крыніцазнаўчай базе раскрыла механізм дзейнасці сельскага самакіравання, якое на Мазоўшы было арганізавана на падставе так званага нямецкага права. Інстытуты сельскага самакіравання, па назіраннях А. Ваўжыньчык, былі распаўсюджаны ў XVI ст. на Мазоўшы ў большасці вёсак усіх катэгорый феадальнай уласнасці. Кіруючымі структурамі сельскага самакіравання тут былі солтыс альбо войт, прызначаны панам, і сямёра выбраных сялянамі лаўнікаў, ці прысяжных, якія праводзілі вясковыя суды.

Акрамя вышэйзгаданых даследаванняў у сярэдзіне XX ст. значныя навуковыя работы пра ролю абшчыны ў малапольскай вёсцы былі напісаны Ц. Бобіньскай[119] і Э. Раствароўскім[120]. Так. Ц. Бобіньска прывяла шмат цікавых прыкладаў удзелу грамады ў выкарыстанні зямлі сялянамі, у прыватнасці, звесткі аб змаганні сялянства за грамадскія землі, у першую чаргу за лугі і лясы, якія, па іх разуменню, былі натуральна прыналежнасцю кожнай вёскі[121].

---

[115] Warzyńczyk, A. Rozwój wielkiej własności na Podlasiu w XV i XVI wieku / A. Warzyńczyk. – Wrocław: Prace Wrocławskiego Towarzystwa Naukowego. – Seria A. – Nr. 48, 1951. – 357 s., 2 mapy.

[116] Tymieniecki, K. [Рэцэнзія] / K. Tymieniecki // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. - 1957. - T. XIX. - Poznań, 1958. - Рэцю на кн..: Wawrzyńczyk A. Rozwój wielkiej własności na Podlasiu w XV i XVI wieku. - Wrocław. Prace Wrocławskiego Towarzystwa Naukowego. - Seria A. - Nr.48, 1951. -S. 301.

[117] Wawrzyńczyk, A. Gospodarstwo chłopskie w dobrach królewskich na Mazowszu w XVI i na początku XVII w. / A. Wawrzyńczyk. - Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe 1962. - 224 s.

[118] Wawrzyńczyk, A. Urząd wiejski na Mazowszu w XVI w. (Ze studiów nad ustrojem społecznym wsi mazowieckiej XVI w.) / A. Wawrzyńczyk // Społeczeństwo staropolskie. Studia i szkice. - T. II. Pod red. A. Wyczańskiego. - Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1979. - S. 23-68.

[119] Bobińska, C. Wstęp; Pewne kwestie chłopskiego użytkowania gruntu i walka o ziemię / C. Bobińska // Studia z dziejów wsi Małopolskiej w drugiej połowie XVIII wieku. - Warszawa Książka i Wiedza, 1957. - S. 7-38, 261-362.

[120] Rostworowski, E. Rola urzędu wiejskiego w walce klasowej wsi małopolskiej /E. Rostworowski / l Studia z dziejów wsi małopolskiej w drugiej połowie XVIII wieku. - Warszawa: Książka i Wiedza, 1957. - S. 363-400.

[121] Babińska, C. Pewne kwestie chłopskiego użytkowania gruntu i walka o ziemię / C. Bobińska // Studia z dziejów wsi

Э. Раставроўскі разгледзеў пытанне ролі сельскага грамадскага ўрада ў класавай барацьбе сялянства Малапольшчы ў сярэдзіне - другой палове XVIII ст. Аўтар прызнаваў, што сельская адміністрацыя «ў пэўнай ступені рэпрэзентавала антыдваровыя інтарэсы грамады», але, будучы даўнім элементам унутранай арганізацыі вёскі, «аказалася ў фальварачна-паншчынную эпоху ў прынцыпе падпарадкаванай дваровай адміністрацыі і ўключанай ў апарат феадальнага ўціску»[122]. Даследчык адзначаў, што ўзалежнасці ад канкрэтнан лакальнан сітуацыі і ад інтэнсіўнасці класавай барацьбы сельская адміністрацыя магла нават стаць начале антыфеадальнага руху, арганізуючы салідарныя выступленні грамад. Па яго сцвярджэнні, улада ў грамадзе ў многіх выпадках аказвалася ў руках найбольш багатых сялян, якім не заўсёды было выгадна змаганне ці спрэчка з панам і якія ўвыніку сваімі дзеяннямі разбівалі ўнутраную салідарнасць вёскі. Э.Раставроўскі быў паслядоўным крытыкам вывадаў прадстаўнікоў так званай аптымістычнай гістарыяграфіі і знаходзіў рэальныя падставы для гэтага, хаця зразумела, што пісаць пра «класавую барацьбу сялянства» і пагаджацца з тэзісам пра магчымаць праз дзеянні грамады або дамову з панам змяншаць феадальны уціск не выпадала.

У ацэнцы папярэдняй гістарыяграфіі з думкамі Э.Раставроўскага шмат у чым супадалі вывады З. Цьвека, зробленыя ім у грунтоўнай манаграфіі, прысвечанай гісторыі дзяржаўнай вёскі ў Польшчы ў XVII ст.[123] Паміж іншым, аўтар спецыяльна даследаваў дзейнасць сельскага самакіравання і ўладкавання дзяржаўнай вёскі ў XVII ст., прааналізаваў яе сацыяльную структуру і формы антыфеадальнай барацьбы сялянства. Работа заснавана на багатай гістарыяграфічнай і крыніцазнаўчай базе і змяшчае шэраг цікавых аўтарскіх заключэнняў і абагульненняў. Напрыклад, важным з'яўляецца яго назіранне аб тым, што ў кароннай вёсцы XVII ст. назвы «войт» і «солтыс» выступаюць як сінонімы, а ў Каралеўскіх Прусах, на Памор'і ў гэты ж час «войтаўства» і «солтыства» ўяўлялі дзве зусім розныя інстытуцыі[124]. Важным з'яўляецца і сцвярджэнне аўтара наконт таго, што становішча грамады было больш моцным у дзяржаўных і капітульных уладаннях у параўнанні з прыватнымі маёнткамі. З. Цьвек адзначыў, што ў некалькіх дзесятках даследаваных інвентароў прыватных маёнткаў у Кракаўскім ваяводстве за XVII ст. ён знайшоў толькі тры ўпамінанні пра солтысаў[125]. Сітуацыя вельмі нагадвае становішча абшчыны на беларускіх землях – яна існавала ў першую чаргу ў буйных дзяржаўных, капітульных і магнацкіх уладаннях, хаця практычна ніколі не мела такіх правоў, як у польскай вёсцы.

Напрыканцы мінулага стагоддзя з улікам вопыту папярэднікаў былі напісаны дастаткова арыгінальныя работы па гісторыі сельскай грамады А. Фальнёўскай-Градоўскай[126], Б. Кубяк[127], Е.Выразумскага[128]. Дарэчы, гэтыя публікацыі выйшлі ў

---

Małopolskiej w drugiej połowie XVIII wieku. - Warszawa: Książka i Wiedza, 1957. -S. 266-267, 353-358.

[122] Rostworowski, E. Rola urzędu wiejskiego w walce klasowej wsi małopolskiej. - S. 367, 369.

[123] Ćwiek, Z. Z dziejów wsi koronnej XVII wieku. - 272 s.

[124] Ibidem. - S. 87-88.

[125] Ibidem. - S. 96.

[126] Falniowska-Gradowska, A. Dwór a gromada wiejska w województwie Krakowskim w XVIII wieku / A. Falniowska-Gradowska // Studia nad gospodarką, społeczeństwem i rodziną w Europie późnofeudalnej pod redakcją Jerzego Topolskiego przy współudziale Cezarego Kukło. - Lublin: Wydawnictwo Lubelskie, 1987. - S. 269-282.

[127] Kubiak. B. Gromada wiejska i jej funkcjonowanie w Małopolsce w XVI i XVII wieku / B. Kubiak // Społeczeństwo staropolskie. Studia i szkice. - T. III. Pod red. A. Wyczańskiego. - Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1983. - S. 139-159.

выданнях, з саміх назваў якіх вынікала, што яны прысвечаны даследаванню польскага феадальнага грамадства: «Społeczeństwo Polski średniowiecznej» («Грамадства сярэдневяковай Польшчы»), «Społeczeństwo staropolskie» («Старапольскае грамадства»), «Studia nad gospodarką, społeczeństwem i rodziną w Europie późnofeudalnej» («Даследаванні гаспадаркі, грамадства і сям'і ў познефеадальнай Еўропе»). Гэта быў адзін з першых выпадкаў, калі, вывучаючы феадальнае грамадства, даследчыкі разглядалі сялян і вясковыя інстытуты. створаныя імі, у якасці раўнапраўных суб'ектаў грамадства, разам са шляхтай, мяшчанамі і інш. На тое, што зборнікі. дзе былі надрукаваны ў тым ліку і згаданыя артыкулы пра грамаду, былі прысвечаны пытанням польскага сярэдневяковага грамадства (праўда, без упамінання пра Люблінскае выданне. прысвечанае познефеадальнай Еўропе), звярнуў увагу М. Дэрвіх, які зрабіў навуковы аналіз публікацый у серыі «Społeczeństwo Polski średniowiecznej»[129], якім даў высокую ацэнку (тут быў надрукаваны і вышэйзгаданы артыкул А. Ваўжыньчык[130] пра сельскую адміністрацыю на Мазоўшы ў XVI ст.). Разам з тым названы артыкул М. Дэрвіха носіць не толькі рэцэнзійны, але і метадалагічны характар. Так, ён адзначыў наватарскае для польскага сярэднявечча даследаванне Е. Выразумскага «Грамада ў самаўрадавым жыцці сярэднявечнай польскай вёскі». Сапраўды, дадзеная праца Е. Выразумскага аб гісторыі грамады ў польскай вёсцы пабудавана, у адрозненне ад работ папярэднікаў. на матэрыялах не XVII-XVIII стст., а на больш ранніх дакументах – аўтар шырока выкарыстоўваў матэрыялы XV і XVI стст. і змог даказаць. што грамада ў польскай вёсцы існавала і ў даследаваны ім час. Дарэчы, у гэтым назіраецца пэўнае падабенства артыкула Е. Выразумскага з артыкулам А. Ваўжыньчык, якая пабудавала сваё даследаванне на матэрыялах XVI ст., і артыкулам Б. Кубяк, якая вывучала грамаду ў Малапольшчы ў XVI і XVII стст. Вельмі цікавыя разважанні Е. Выразумскага аб вызначэнні таго, што ёсць грамада, які сэнс можа быць укладзены ў гэты тэрмін. Так, аўтар сцвярджае: «Грамаду трэба разумець двояка: 1. у шырокім значэнні як аб'яднанне ўсіх жыхароў вёскі. незалежна ад полу і ўзросту; 2. як сход, што прадстаўляе думку альбо волю гэтага аб'яднання, удзел у якім бяруць дарослыя яго члены і то не ўсе, а толькі тыя, хто з'яўляліся галовамі сем'яў у самастойных гаспадарках»[131]. Гэта вельмі ёмкае, але, на наш погляд, не вычарпальнае вызначэнне таго, што такое ўяўляе сабой сельская грамада.

Б. Кубяк у артыкуле «Gromada wiejska i jej funkcjonowanie w Małopolsce w XVI i XVII wieku» («Сельская грамада і яе функцыяніраванне ў Малапольшчы ў XVI і XVII веку») дала сваю фармулёўку сельскай абшчыны, адзначыўшы, што пад грамадой яна разумее «грамадскую адміністрацыю (urząd gromadzki) і сход членаў грамады, альбо органы грамады»[132]. На наш погляд, гэта даволі звужанае абазначэнне грамады. Натуральна, грамадская адміністрацыя прадстаўляла грамаду,

---

[128] Wyrozumski, J. Gromada w życiu samorządowym średniowiecznej wsi polskiej / J. Wyrozumski // Społeczeństwo Polski średniowiecznej. Zbiór Studiów. - T. III. Pod red. S. K. Kuczyńskiego. - Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1985. - S. 219-251.

[129] Derwich, M. [Psiproia] / M. Derwich // Kwartalnik Historyczny. - R. XCV. - T. 2, 1988. - Warszawa; Poznań: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1989. - S. 203-212. – Рэц. на кн.: Społeczeństwo Polski średniowiecznej. Zbiór Studiów. - T. III. Pod red. S. K. Kuczyńskiego. - Warszawa, 1985. - S. 203-212.

[130] Wawrzyńczyk, A. Urząd wiejski na Mazowszu w XVI w. (Ze studiów nad ustrojem społecznym wsi mazowieckiej XVI w.). - S. 23-68.

[131] Wyrozumski, J. Gromada w życiu samorządowym średniowiecznej wsi polskiej. - S. 226.

[132] Kubiak, B. Gromada wiejska i jej funkcjonowanie w Małopolsce w XVI i XVII wieku. - S. 142.

але без самой грамады яна існаваць не магла, не існавала і таму магла разумецца толькі як прадстаўнічы (ці кіраўнічы) орган грамады. Напэўна, грамада найперш з'яўляецца інстытутам самаарганізацыі сялянства, а ўрад і нават сход грамады з'яўляюцца толькі атрыбутамі (хоць і вельмі важнымі) дзейнасці гэтага інстытута. Увогуле згаданы артыкул В. Кубяк стварае вельмі добрае ўражанне, з'яўляючыся, з аднаго боку, працягам зробленага Ю. Рафачам (падабенства нават ў пабудове працы), а з другога – будучы даследаваннем больш ранняга перыяду гісторыі, чым манаграфія Ю. Рафача, напісаным на шырокай крыніцазнаўчай аснове.

Заўважым, што на наяўнасць грамады і яе функцыі звярталі ўвагу і іншыя польскія гісторыкі, і не толькі тыя, хто вывучаў гісторыю сялянства Польскай Кароны, але і даследчыкі гісторыі ВКЛ і Беларусі. Сярод такіх аўтараў у першую чаргу можна назваць Е. Ахманьскага[133], М. Б. Тапольскую[134], В. Камянецкага[135] і некаторых іншых гісторыкаў.

Шэраг цікавых назіранняў адносна дзейнасці грамады ў польскай вёсцы змяшчаецца ў калектыўных публікацыях па гісторыі асобных рэгіёнаў Польшчы, а таксама па гісторыі польскага сялянства. Сярод прац такога рода хацелася б адзначыць тэксты пра сельскае самакіраванне і грамаду, напісаныя Р. Хэкам і Э. Трызнай у «Гісторыі польскага сялянства»[136]. Названыя аўтары. па сутнасці, падагульнілі напісанае іх папярэднікамі ў справе дзейнасці сельскай грамады ў польскай вёсцы. Так, Р. Хэк адзначаў, што ў XIII-XV стст. у польскай вёсцы развівалася сельскае самакіраванне (жыццё самаўрадавае). «Датычыла яно ў першую чаргу пытанняў штодзённых, галоўным чынам узаемаадносін паміж сялянамі»[137]. Даследчык. спасылаючыся на К. Тымянецкага, пісаў таксама, што землеўласнік занадта не ўмешваўся ў справы вёскі і не абмяжоўваў селяніна ў яго штодзённым жыцці, давяраў сельскаму ўраду, які фарміраваўся з яго згоды і быў ад яго залежны, феадал толькі ажыццяўляў агульны нагляд над вёскай і карыстаўся павіннасцямі, якія адбывалі сяляне на яго карысць.

Па меркаванню Э. Трызны, «у пераважнай большасці польскіх вёсак існавала і развівалася надалей у эпоху позняга феадалізму (XVI-XVIII стст.) грамадская арганізацыя»[138]. Абшчыннае самакіраванне мела свае асаблівыя рысы ў вёсках. заснаваных на польскім, рускім і валашскім праве, прычым паміж правам польскім і рускім не было ў гэтым выпадку асаблівых адрозненняў. Грамадскае ўладкаванне паходзіла з раннесярэднявечнага польскага аполя і са старарускай абшчыны, якая пераважала таксама сярод паселішчаў на валашскім праве. Аўтар адзначыў асаблівасці самакіравання ў вёсках, заснаваных на нямецкім праве, якія найбольш праяўляліся ў існаванні так званага солтыскага, ці войтаўскага, суда.

---

[133] Ochmański, J. Położenie społeczno-gospodarcze i walka klasowa chłopów w ekonomii Kobryńskiej w drugiej połowie XVI i pierwszej połowie XVII wieku / J. Ochmański // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. - T. XIX. - Poznań: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1958. - S. 45-91; Ochmański, J. Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa Wileńskiego (1387-1550). Ze studiów nad rozwojem wielkiej własności na Litwie i Białorusi w średniowieczu / J. Ochmański. - Poznań: Druk Politechnika Warszawska, 1963. - 224 s., 6 map.

[134] Topolska, M. B. Dobra Szkłowskie na Białorusi Wschodniej w XVII i XVIII wieku / M. B. Topolska. - Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1969. - 164 s.

[135] Kamieniecki, W. Rozwój własności na Litwie w dobie przed I Statutem (Studia historyczno-gospodarcze) / W. Kamieniecki. - Kraków: Nakładem Akademii Umiejętności, 1914. - 104 s.

[136] Historia chłopów polskich. - T. I / Burszta J. [i inni]; pod redakcją Stefana Inglota. - Warszawa: Ludowa Spółdzielnia Wydawnicza, 1970. - 578 s.

[137] Historia chłopów polskich. - S. 207.

[138] Ibidem. - S. 327.

Коратка, але выразна і зразумела вызначаны функцыі сельскай грамады ў «Гісторыі дзяржавы і права Польшчы», аўтарамі якой з'яўляюцца Ю. Бардах. Б. Леснадорскі і М. Петшак[139].

Пасля 1989 г. у польскай гістарыяграфіі пытанням сацыяльна-эканамічнага развіцця і гістарыяграфіі сялянства ў эпоху феадалізму, на наш погляд, стала надавацца значна менш увагі. Гэта натуральная тэндэнцыя не толькі для польскай гістарыяграфіі, але і для гісторыкаў іншых краін былога «сацыялістычнага лагера», якія ў канцы XX ст. адрадзілі або набылі незалежнасць. Зусім натуральным з'яўляецца тое, што на сучасным этапе значна больш увагі атрымлівае вывучэнне пытанняў знешняй і ўнутранай палітыкі, міжнародных зносін, вайсковай гісторыі і інш. Мяркуем, аднак, што даследаванне праблемы фарміравання і існавання грамады як зародка грамадзянскай супольнасці ў Рэчы Паспалітай будзе мець свой працяг.

Неабходна адзначыць асаблівасці, якія вызначалі і вызначаюць падыходы да вывучэння абшчыны ў Польшчы і Беларусі. У Беларусі ў XVI-XVIII стст. узровень развіцця сялянскай абшчыны, ступень яе ўдзелу ў жыцці як вёскі, так і феадальнага маёнтка залежалі ў першую чаргу ад таго, каму належала сама вёска ці валасць, на тэрыторыі якой абшчына функцыяніравала, да якога віду феадальнага землеўладання (дзяржаўнага, прыватнаўласніцкага ці царкоўнага) яна належала. Абшчына ў Беларусі прасочваецца ў асноўным у дзяржаўных уладаннях у сярэдзіне - другой палове XVI ст. Але пра яе існаванне найчасцей можна даведацца галоўным чынам па ўскосных сведчаннях. Больш за тое, беларуская гістарыяграфія практычна не прыводзіць ніводнага факта пра існаванне ў XVII-XVIII стст абшчыны ва ўладаннях сярэдняй і дробнай шляхты.

У польскай гістарыяграфіі, наадварот, большасць прац прысвечана даследаванню развіцця сельскай абшчыны ў XVII-XVIII стст. У работах падкрэсліваецца якраз не столькі прыналежнасць вёскі да таго ці іншага віду феадальнага землеўладання, а да пэўнага рэгіёна. Гэта выклікана не асабістымі жаданнямі польскіх даследчыкаў. Такога падыходу патрабуюць самі гістарычныя крыніцы, таму што сацыяльна-эканамічныя і юрыдычныя ўмовы развіцця сялянства Польшчы ў розных рэгіёнах, у першую чаргу ў Вялікапольшчы. Малапольшчы, Мазоўшы, Памор'і і Сілезіі, Падляшшы і інш., на працягу XIII-XVIII стст. вельмі адрозніваліся, што значна ўплывала на ўзровень і спецыфіку сялянскай самаарганізацыі і сялянскага самакіравання, і гэта, на наш погляд, з'яўляецца другой важнай прычынай таго, што ў польскай гістарыяграфіі да сённяшняга дня няма абагульняючага даследавання па гісторыі грамады на ўсёй тэрыторыі Польшчы.

Напрыклад, як сведчаць даследаванні польскіх гісторыкаў, на польскія землі, заселеныя напачатку славянамі і дзе жыццё было заснавана на «польскім праве», адразу пасля прыняцця хрысціянства пачаліся нямецкая каланізацыя і ўсталяванне так званага нямецкага права. Нямецкае асадніцтва адбывалася звычайна праз дамову асадніка з мясцовым феадалам-уласнікам. У вёсках, заснаваных нямецкімі асаднікамі, апошнія станавіліся солтысамі, адбываўся пераход на іх судовую сістэму. Як сведчанне згаданых працэсаў, у якасці гістарычных крыніц захаваліся кнігі сельскіх судоў ці, як іх яшчэ называюць, судоў грамады. Гэтыя кнігі з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па вывучэнню сялянскага самакіравання,

[139] Bardach, J. Historia państwa i prawa polskiego / J. Bardach, B. Leśnodorski, M. Pietrzak. -Warszawa Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1976. - 654 s.

сацыяльна-эканамічнага і прававога становішча сялянства на тэрыторыях, дзе дзейнічала «нямецкае права». «Сельскія кнігі вядомы з пачатку XV ст., наогул іх захавалася нязначная колькасць, галоўным чынам з Малапольшчы; перад вайной сельскіх кніг у Сілезіі налічвалася каля 4000, зараз іх захавалася невялікая колькасць»[140]. Аднак паступова інстытут солтыства страчваў сваё першапачатковае значэнне, адбываўся працэс выкупу солтystваў феадаламі[141]. С. Арнольд і А.Вычаньскі выказваліся нават больш катэгарычна, сцвярджаючы, што «выкуп солтystваў прывёў да далейшага абмежавання сельскага самакіравання. Сапраўды, у вёсках, якія раней былі асаджаны на нямецкім праве, захоўваліся лаўніцкія суды, але солтыс ператвараўся ў панскага ўрадніка, а сама сельская лава станавілася на самой справе інструментам у руках пана, з дапамогай якога ён трымаў грамаду ў паслушэнстве»[142]. У XVI-XVIII стст. у Сілезіі сялянства вяло лад жыцця, падобны да жыцця сялян большасці тэрыторыі Польшчы: паравая сістэма апрацоўкі зямлі, індывідуальнае карыстанне сялянскіх сем'яў ворнымі землямі і калектыўнае карыстанне лясамі, пашамі, сенажацямі[143]. У большасці вёсак тут працягваў існаваць урад грамады (urząd gromadzki), які звычайна называюць сельскім самакіраваннем (samoządem wiejskim). Найбольш яркія факты пра яго вядомы ўжо з першай чвэрці XV ст. Сельская адміністрацыя звычайна складалася з войта, падвойта і пяці прысяжных. Войт выбіраўся з прысяжных, прысяжныя абіраліся грамадой. Узровень іх кампетэнцыі ахопліваў амаль усе бакі сельскага жыцця: ад збірання падаткаў дзяржаве і грошай на грамадскія патрэбы да нагляду за выкананнем паншчынных павіннасцей і нават ажыццяўлення ўласнага судаводства, аб чым сведчаць судовыя грамадскія кнігі, якія захаваліся ў многіх вёсках. Але на Памор''і побач з вёскамі, якія прынялі нямецкае права заставалася многа весак «на праве славянскім»[144]. А ў цэнтральных і ўсходні раёнах Польшчы ўплыў «нямецкага права» быў яшчэ меншы. Цікавасць уяўла тое, што навуковая спрэчка паміж прыхільнікамі пазіцыі аб тым, што вышэйі згаданая судовая сістэма з'яўлялася галоўнай прыметай сялянскага самакіравання, і іх апанентамі, якія сцвярджаюць, што яна была поўнасцю падпарадкавана волі феадала, у польскай гістарыяграфіі да сённяшняга дня незавершана.

Такім чынам, даследаванне інстытута абшчыны ў эпоху феадалізму ў полскай і беларускай гістарыяграфіі стаіць на розных узроўнях. Для польскай гісторыяграфіі ўжо няма патрэбы высвятляць, ці існавала грамада ў тым ці іншы рэгіёне краіны, - неабходна даследаваць, як яна дзейнічала на розных тэрыторыях надышоў, на наш погляд, час паспрабаваць абагульніць ужо зробленае ў рамках аднаго даследавання. Больш за тое, у працах польскіх гісторыкаў па праблемах сельскай грамады ставіцца пытанне аб неабходнасці вывучэння юрыдычны і эканамічных падстаў і парадку функцыяніравання вясковага самакіраванн ў розных рэгіёнах Польшчы, дзейнасці і паўнамоцтвах суда грамады і нават аб судовых

[140] Historia Polski / Pod redakcją H. Łowmiańskiego.- T. I. Do roku 1764.- Część II. Od połowy XV w.- Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1965.- S. 15.

[141] Historia Śląska / Pod redakcją Karola Maleczyńskiego.- T. I. Do roku 1763.- Część III. Od końca XVI w. do r. 1763.- Wrocław - Warszawa - Kraków: Zakład Narodowy imienia Ossolińskich. Wydawnictwo Polskiej Akademii nauk, 1963.- S. 106-108.

[142] Arnold, S. Rozwój gospodarczo-społeczny wsi (od połowy XV do trzeciej ćwierci XVI w.) / S. Arnold. A. Wyczański // Historia Polski / Pod redakcją H. Łowmiańskiego.- T. I. Do roku 1764.- Część II. Od połowy XV w.- Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1965. - S. 98.

[143] Historia Śląska. - S. 88.

[144] Historia Pomorza / Pod redakcją Gerarda Labudy.- T. I. Do roku 1466. - Część II. – Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 1969.- S. 185-187.

спрэчках паміж сельскай грамадой і феадалам. У беларускай гістарыяграфіі пытанне аб тым, ці была грамада ўвогуле, а калі была, то як яна функцыяніравала, толькі ставіцца на парадак дня.

## 1.3. Абшчына ў расійскай гістарыяграфіі

Вывучэнне абшчыны ў расійскай гістарыяграфіі на працягу прыблізна 15 апошніх гадоў займае адно з асноўных месцаў сярод даследаванняў сацыяльна эканамічнай гісторыі перыяду феадалізму. Вядучы савецкі даследчык сельскай абшчыны рускага сялянства ў эпоху позняга феадалізму В. А. Аляксандраў прызнаваў, што ў гістарыяграфіі Расійскай імперыі «цяжка знайсці праблему, якая была так цесна звязана з грамадска-палітычнай барацьбой, як праблема сельскаі абшчыны»[145]. Больш таго, і пазней, у працах расійскіх савецкіх гісторыкаў абшчыне надавалася нават занадта шмат увагі пры вывучэнні яе як сацыяльна-эканамічнага інстытута, так і ў прапагандзе абшчыннага ладу жыцця.

Напрыклад, у манаграфіі У. П. Шушарына «Современная буржуазная иториография Древней Руси», якая выйшла пад грыфам Інстытута гісторыі АН СССР сцвярджалася, што абшчына ўжо ў часы Кіеўскай Русі была не толькі эканамічнай, але і палітычнай структурай: «Старажытнаруская абшчына была эканамічнай і палітычнай арганізацыяй. атрыманай у спадчыну ад эпохі першабытнаабшчыннага ладу»[146]. Разам з тым літаральна праз некалькі радкоў аўтар, палемізуючы з замежнымі даследчыкамі гісторыі Расіі, вымушаны прызнаць, што пакуль так і не вызначана дакладна, што ж сабой уяўляла гэтая старажытна-руская абшчына: «...паміж савецкімі аўтарамі (па Б. Д. Грэкаву, верв – тэрытарыяльная, па С. В. Юшкову – сямейная абшчына, па М. В. Косвену, – патранімія. ці «група сем'яў, вялікіх альбо малых, якія ўтварыліся ў выніку разрастання і сегментацыі адной патрыярхальнай сямейнай абшчыны, але захоўвалі ў той ці іншай меры гаспадарчае, грамадскае і ідэалагічнае адзінства і насілі агульную патранімічную, г. зн. утвораную ад уласнага імя падзяліўшайся сям'і назву») няма адзінагалосся ў вызначэнні верві»[147] Гэты прыклад паказвае, якое важнае месца расійская гістарыяграфія адводзіць ролі абшчыны ў гісторыі сваёй краіны. Тут – і разнастайнасць падыходаў да яе вывучэння, і палеміка з замежнымі апанентамі, і наданне гэтаму сацыяльна-эканамічнаму інстытуту статуса палітычнай структуры.

Можна вызначыць некалькі хваляў павышанай цікаўнасці да вывучэння абшчыны ў расійскай гістарыяграфіі. У першую чаргу гэта рэформа 1861 г. з афіцыйным замацаваннем сялян за абшчынай, а таксама рух народнікаў другой паловы XIX ст. Менавіта ў абшчынных каранях шукалі і знаходзілі тагачасныя даследчыкі спецыфічныя рысы характару рускага народа. Напрыкла, народнікі сцвярджалі, што Расія якраз праз абшчыну і арцель пяройдзе да сацыялізма, мінуючы капіталізм, і імкнуліся гэта пацвердзіць гістарычнымі прыкладамі.

Вядомы даследчык гістарыяграфіі рускай абшчыны П.Ф. Лапцін, спасылаючыся на меркаванне Ф. Энгельса аб тым, што некаторыя краіны,

---

[145] Александров, В. А. Сельская община в России XVII - начало XIX в.) / В. А. Александров - М.: Наука, 1976. - С. 3.

[146] Шушарин, В П. Современная буржуазная историография Древней Руси / В. П. Шушарин. - М: Издательство «Наука», 1964. - С. 89.

[147] Тамсама.-С. 91-92.

выкарыстоўваючы рэшткі абшчыннага ўладання і адпаведныя ім народныя звычаі, могуць значна скараціць працэс свайго развіцця да сацыялістычнага грамадства, адзначаў: «Руская гістарыяграфія пытання абшчыны ў гэтых адносінах асабліва павучальная. У ёй адлюстравана цэлая эпоха складанай і бязлітаснай грамадска-палітычнай барацьбы, якая закончылася толькі з перамогай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі»[148]. Атрымалася так, што абшчынныя традыцыі не заўсёды спрыялі пабудове сацыялістычнага грамадства, уладкаванню сацыяльна-эканамічных адносін у вёсцы, якія насілі не столькі грамадскі, колькі дзяржаўны характар. Але гэтая тэма не з'яўляецца прадметам нашага даследавання, хаця школа рускіх «гісторыкаў-дзяржаўнікаў» аказала значны ўплыў як на стан вывучэння рускай сельскай абшчыны, так і на палітычныя працэсы ў грамадстве. Прыведзеная вышэй цытата падкрэслівае дастаткова высокую ступень палітызацыі даследавання праблемы абшчыны ў расійскай і савецкай гістарыяграфіі.

Навуковы інтарэс да вывучэння сельскай абшчыны ўзрос у расійскіх гісторыкаў пачынаючы прыблізна з сярэдзіны XIX ст., мяркуючы па колькасці прац і асоб, якія гэтай праблемай сталі займацца[149]. П. Ф. Лапцін адзначаў, што «ні ў адной з краін Еўропы барацьба вакол абшчыны не набірала такога шырокага размаху і палітычнага напружання, як у Расіі ў 50-60-х гадах XIX ст. Да гэтага часу і адносіцца ўзнікненне тых шматлікіх абшчынных тэорый, якія пасля, у разнастайнай мадыфікаванай форме, працягвалі існаваць у рускай гістарыяграфіі»[150].

Традыцыйныя спрэчкі паміж заходнікамі і славянафіламі аб магчымых шляхах развіцця Расіі выліліся і ў дыскусію гісторыкаў наконт ролі абшчыны ў жыцці гэтай краіны. Славянафілы (А. С. Хамякоў, І. В. Кірэеўскі, А. І. Кошалеў і інш.) даказвалі, што Расія пойдзе сваім, адрозным ад Захаду шляхам і менавіта «руская абшчына, якая захавалася, вызначае своеасаблівы шлях развіцця Расіі і пацвярджае той факт, што яна не пераж ыве рэвалюцыйных лёсаў Захаду»[151].

Аднак і ў лагеры славянафілаў таксама не было адзінства. Так, частка «славянафілаў-лібералаў» (К. Д. Кавелін, С. М. Салаўёў, Б. Н. Чычэрын), наадварот. сцвярджалі, што руская абшчына – гэта аджылы інстытут, які тармазіў працэс развіцця капіталізму ў Расіі. Яны выступілі са сваёй тэорыяй аб «дзяржаўным паходжанні абшчыны ў Расіі».

Цікавасць, у тым ліку з метадалагічнага пункту гледжання, да цяперашняга часу ўяўляюць працы аднаго з найбольш вядомых прадстаўнікоў славянафільскага накірунку рускай гістарычнай думкі XIX ст. І. Д. Бяляева, які актыўна пачаў пісаць пра абшчыну якраз з сярэдзіны XIX ст. Ён меў крыху своеасаблівы погляд на рускую абшчыну ў параўнанні са сваімі калегамі-славянафіламі. Звычайна на яго

---

[148] Лаптин, П. Ф. Община в русской историографии последней трети XIX - начала XX в. – С. 3.

[149] Беляев, Н. Д. Крестьяне на Руси: Исследованне о постепенном изменеии значения крестьян в русском обществе / Н. Д. Беляев. - М.: ГПИБ, 2002. - 419 с. (перавыданне); Беляев, И. Д. [Рецензия] / И. Д. Беляев. Обзор исторического развития сельской общины в России, сочинение Б. Чичерина - Русский вестник. - № 3 и 4 / Н. Д. Беляев // Русская беседа, 1856. - Кн. I. - С. 101-147; Ефименко, А. Я. Дворищное землевладение в Южной Руси / А. Е. Ефименко // Южная Русь. Очерки исследования, заметки. - Т. I. - СПб.: Книгопечатия Шмидт, 1905. - С. 370-412; Ефименко. А. Я. Копные суды в Левобережной Украине / А. Я. Ефименко // Киевская старина - 1885. - № 10, - С. 189-202; Ефименко. А. Я Народный суд в Западной Руси / А. Я Ефименко // Южная Русь. Очерки, исследования, заметки. - Т. I. - СПб.: Книгопечатия Шмидт, 1905. - С. 324-379; Кауфман, А. А. Документы и живая история русской общины (Историко-критический очерк) / А. А. Кауфман. - СПб.: Сенаторская типография, 1907. - 45 с.; Кауфман, А. А. К вопросу о происхождении русской земельной общины / А. А. Кауфман. - М., 1907. - 71 с; Кауфман, А. А. Русская община в процессе ея зарождения и роста / А. А. Кауфман. - М.: Типография Т-ва Н. Д. Сытана, 1908. - 455 с. і інш.

[150] Лаптин, П. Ф. Община в русской историографии последней трети XIX - начала XX в. - С. 120.

[151] Тамсама.

спасылаліся як на аўтара артыкула з гістарычным аглядам развіцця сельскай абшчыны ў Расіі[152]. Акрамя таго, у 1860 г. ён напісаў працу, якая ўяўляла сабой першую ўрасійскай гістарыяграфіі спробу навуковагаразгляду; гісторыірасійскага сялянства ад старажытнасці да канца XVIII ст. Кніга так і называлася «Крестьяне на Руси: Исследование о постепенном изменении значения крестьян в русском обществе»[153]. Новая хваля цікавасці да гэта аўтара з'явілася пасля перавыдання вышэйзгаданай працы ў 2002 г.

І. Д. Бяляеў, прытрымліваючыся славянафільскага накірунку ў расійскай гістарыяграфіі, выступаў таксама ў якасці прадстаўніка вышэйзгаданай «дзяржаўнай канцэпцыі», ці «канцэпцыі дзяржаўнага паходжання рускай абшчыны». Ён нават склаў сваю перыядызацыю развіцця рускай гісторыі, якая базіравалася на характары адносін паміж народнай уладай (абшчынай) і адзінаўладдзем «цара-самадзержца». А ў 1860-я гады І. Д. Бяляеў стварыў сваю канцэпцыю пераходу ад абшчыннага ўладкавання як своеасаблівай формы дзяржаўнай арганізацыі да адзінаўладнага кіравання[154] (тут яго погляды у значнай ступені супалі з поглядамі Б. Н. Чычэрына, лідэра «дзяржаўнай школы»). У яго даследаванні для нас найбольш важным з'яўляецца тое, як аўтар паказвае ператварэнне абшчыны з незалежнай арганізацыі ў структуру, падпарадкаваную дзяржаве.

Па меркаванні І. Д. Бяляева, класічнай мадэллю абшчыннага існавання славянскіх плямён з'яўлялася абшчынная арганізацыя ільменскіх славян. Абшчынная арганізацыя ільменскіх славян, як адзначала ва ўступным артыкуле да перавыдадзенай працы «Сяляне на Русі» А. М. Вакуліна, разглядалася І. Д. Бяляевым «адначасова і як вечавае ўладкаванне, калі ўсё племя складала саюз «мноства абшчын», а кожная абшчына – саюз некалькіх сям'яў, і як арганізацыя побыту сям'і, апошняга, па словах Бяляева, «сховішча» родавых пачаткаў у любым грамадстве»[155].

Да XVI ст., на думку І. Д. Бяляева, «сяляне ў адносінах адзін да аднаго складалі абшчыны, якія мелі сваіх выбарных кіраўнікоў, галоў, соцкіх, стараст і інш. Кожная абшчына ўяўляла асобнае юрыдычнае. альбо хутчэй эканамічнае цэлае, між іншым цэлае вольнае, а не замкнутае; у члены абшчыны кожны ўступаў па сваёй волі, сядаючы на зямлю, якая альбо належала абшчыне, альбо прыслухоўвала да яе ў адміністрацыйных адносінах. Сялянскія абшчыны былі разнастайнымі: у сялян, якія жылі на чорных, альбо абшчынных землях, самай вялікай абшчынай была воласць, якая мела свайго старасту, у гэтую вышэйшую абшчыну цягнулі ніжэйшыя абшчыны – сёлы і вялікія вёскі, прыпісаныя да воласці, якія таксама мелі сваіх стараст; а да сёл цягнулі малыя вёскі, пачынкі і іншыя дробныя пасяленні. У сялян, якія жылі на землях прыватных уласнікаў, абшчыну складала вотчына, г. зн. усе сёлы, вёскі і пачынкі, якія адносіліся да аднаго ўладання знаходзіліся ў адным павеце»[156]. Мы прывялі поўнасцю гэтую цытату ў

[152] Беляев, Н. Д. Крестьяне на Руси: Исследование о постепенном изменении значения крепстьян в русском обществе. - 419 с.

[153] Беляев, Н. Д. [Рецензия]. - С. 101-147.

[154] Вакулина, Е. Н. Исторические взгляды Н. Д Беляева / Е Н. Вакулина // Беляев, Н. Д. Крестьяне на Руси: Исследованне опостепенном изменении значения крестьян врусском обществе. - С. 36.

[155] Тамсама. - С26.

[156] Беляев, И. Д. Крестьяне на Руси: Исследование о постепенном изменении значения крестьян врусскюм обществе. - С. 99-100.

першую чаргу для таго, каб можна было параўнаць структуру абшчыннай арганізацыі да XVI ст. на рускіх землях, на тэрыторыі ВКЛ і, па магчымасці, на тэрыторыі Кароны. Адразу адназначна можна сцвярджаць тое, што ў ВКЛ і Кароне ў гэты час не было тых «чорных» абшчынных зямель, як у Маскоўскай дзяржаве, але ў многіх рэгіёнах, асабліва на ўсходзе Беларусі, і ў пазнейшы час існавала тэрытарыяльная валасная абшчына, якая таксама складалася з асобных сельскіх абшчын.

У даследаванні аб сялянскай абшчыне ў XVI ст. І. Д. Бяляеў выказваўся ўжо як сапраўдны славянафіл, сцвярджаючы, што абшчына – гэта толькі руская з'ява: «Сялянская абшчына, гэтае спрадвечнае рускае ўтварэнне, у XVI ст. не толькі атрымала поўнае, замацаванае законам пацвярджэнне сваіх звычайных правоў, але ў некаторых выпадках закон распрабаваў падтрымаць і аднавіць тое, што некаторыя абшчыны з цягам часу страцілі»[157]. Цікава, але І. Д. Бяляеў такім аднаўленнем старажытных правоў абшчыны лічыў у першую чаргу ўвядзенне Судзебнікам 1497 г. абавязковых выбараў на намесніцкі суд сялянскіх стараст і цалавальнікаў, не заўважаючы таго, што падобным чынам самі абшчыны страчвалі свае судовыя функцыі і правы. Разглядаючы сістэму абшчынных раскладак падаткаў праз «розрубы і разметы», уведзеную і зацверджаную заканадаўча ў Маскоўскай дзяржаве ў XVI ст., можна адзначыць традыцыйную наяўнасць такой сістэмы ў некаторых Падняпроўскіх валасцях на тэрыторыі Беларусі да канца XVIII ст.

Канцэпцыя І. Д. Бяляева «аб значэнні сялянства ў жыцці рускага грамадства» была дакладна выкладзена ў самой структуры (плане) разглядаемай намі працы. Так, кніга складаецца з трох асноўных частак з наступнымі назвамі: «Первое время (крестьяне свободные)», у якой разглядаецца месца сялянства ў сацыяльна-эканамічнай сістэме дзяржавы і становішча сялянскай абшчыны да канца XVI ст.; «Последующее время (крестьяне, прикрепленные к земле)» – гісторыя рускага сялянства да канца XVII ст.; «Позднейшее время (крестьяне крепостные)» – з часоў праўлення Пятра І да 1762 г. Заўважым, што аўтар адзначае рэзкае зніжэнне ролі сялянства ў жыцці грамадства ў XVIII ст. і ўжо не гаворыць пра такую высокую ролю абшчыны, як у папярэднія. вызначаныя ім самім перыяды.

Канцэпцыя ўтварэння абшчыны, дзяржавай была выгаднай як для дзяржавы, так і для памешчыкаў, таму што пазбаўляла сялянскія абшчыны і сялян нават тэарэтычнага абгрунтавання права ўласнасці на апрацоўваемую імі зямлю. Логіка простая: калі абшчыны былі створаны дзяржавай на дзяржаўных ці памешчыцкіх землях для сялян, якія аселі на гэтых землях, то і сяляне і абшчына абавязаны памешчыкам і дзяржаве феадальнай рэнтай за карыстанне прадастаўленай ім зямлёй.

Даследчыца сельскай абшчыны ў Расіі ў другой палове XIX ст. Л. І. Кучумава адзначала, што, нягледзячы на гістарыяграфічныя спрэчкі, у рэальным жыцці перамагла «дзяржаўная тэорыя», уся дзейнасць абшчыны, уведзенай ў Расійскай імперыі пасля аграрных рэформ 1860-х гадоў, была поўнасцю рэгламентавана законамі, а ў выніку сялянскай рэформы 1861 г. выбарныя органы абшчыны ператварыліся ў ніжэйшае звяно адміністрацыйнага кіравання. Абшчына афіцыйна ператваралася з арганізацыі сялянства ў інстытут дзяржаўнага кіравання і паліцэйскага прымусу на вёсцы. Разам з тым даследчыца сцвярджала, што руская абшчына і ў гэты час працягвала жыць сваім жыццём, і «мноства механізмаў.

[157] Беляев, Н. Д. Крестьяне на Руси: Исследование о постепенном изменении значения крестьян в русском обществе. - С. 120.

зафіксаваных у грамадзянскім заканадаўстве, у ёй не працавалі», больш за тое, «абшчына ўсё больш выступала інструментам націску на памешчыцкія маёнткі, асабліва гэта паказала рэвалюцыя 1905-1907 гг.»[158]

Завяршаючы кароткі агляд рускай гістарыяграфіі абшчыны, адзначым яшчэ некалькі важнейшых, на наш погляд, прац, якія як характарызуюць сутнасць абшчыны, што існавала ў Расіі ў феадальную эпоху, так і дазваляюць убачыць агульнае і асаблівае ў развіцці гэтага сялянскага інстытута ў параўнанні з абшчынай, якая існавала на беларускіх землях. У адрозненне ад польскай і беларускай гістарыяграфіі гісторыі сялянства, дзе няма абагульняючых прац па гісторыі абшчыны ў феадальную эпоху, у рускай гістарыяграфіі даследаванні такога роду прысутнічаюць.

Сярод рускіх савецкіх даследчыкаў абшчыны вылучаюцца працы В. А. Аляксандрава, як грунтоўныя артыкулы[159], так і манаграфія пад назвай «Сельская община в России (XVII - начало XIX в.)»[160]. В. А. Аляксандраў уключыў у сваю манаграфію главы «Сельская община в крепостной вотчине», «Сельские миры, их организация и деятельность», «Земельное хозяйство и разверстка повинностей в общине», «Община и рекрутчина» и «Община и семейный быт крестьян».

Работа пабудавана на вывучэнні сельскай абшчыны ў буйных прыватных уладаннях («вотчынах») цэнтральных уездаў Расіі па матэрыялах у асноўным XVIII - пачатку XIX ст. Сведчанняў пра XVII ст. у ён практычна няма. У главе «Сельская община в крепостной вотчине» В. А. Аляксандраў разгледзеў тры тыпы сувязі паміж абшчынай і вотчынай («панска-папячыцельскі альбо паліцэйскі», «мірскі» і «змешаны»). Гэта былі тры тыпы зямельна-перадзельных абшчын, а адносіны з уласнікам у іх залежалі як ад характару вотчыннага кіравання, так і ад форм феадальнай рэнты, якая спаганялася з сялян у канкрэтных маёнтках.

У першым параграфе главы «Вотчынна-паліцэйскі рэжым» на аснове аналізу шматлікіх дакументаў зроблены вывад аб тым, што некаторыя расійскія памешчыкі арганізавалі амаль паліцэйскае рэгуляванне жыцця сялян у сваіх уладаннях, скарыстаўшы для гэтага абшчыну. Так было, напрыклад, у маёнтках А. П. Валынскага ў Дзмітраўскім, Кіняшэмскім і Маскоўскім уездах. У яго вотчынах стваралася сістэма «прыказчык – староста – дзесяцкія», якая рэгламентавала ўсё жыццё сялянства нават да дазволу выехаць з вёскі па дровы альбо на рынак. На таргі. не далей за 10 вёрст ад вёскі, сяляне маглі ехаць толькі з дазволу і пад наглядам аднаго з дзесяцкіх[161]. Штогод у студзені вотчынныя прадстаўнікі складалі ў вёсках спецыяльныя рэестры, у якія запісваліся пасямейны састаў кожнага двара, колькасць жывёлы, збожжа, грашовыя даходы, наяўнасць парабкаў, памеры адпрацовак і падаткаў. Падаткі дзесяцкія збіралі тут штомесяц. Роля абшчыны ў такіх вотчынах была зведзена толькі да абслугоўвання інтарэсаў памешчыка. На чале абшчыннай адміністрацыі стаялі дварэцкі і прадстаўнікі сельскай вярхушкі, прызначаныя памешчыкам, яны, у сваю чаргу, прызначалі дзесяцкіх. Унутры абшчыны існаваў усталяваны памешчыкам узаемакантроль, а прадстаўнікі сялянскіх сем'яў на агульным сходзе абавязаны былі толькі дакладваць аб суме

[158] Кучумова, Л.Н. Сельская община в России (вторая половина XIX в.) / Л, Н. Кучумова. - М.:Знание,1992 .-С. 7

[159] Александров, В.А. Земельно-передельный тип сельской общины в позднефеодальной России / В.А. Александров // Вопросы истории. – 1975 .- № 10.– С. 53-70.

[160] Александров В.А. Сельская община в России (XVII -начало XIX в.). - 223 с.

[161] Тамсама.-С. 55.

падатку, які яны аддалі дзесяцкім[162].

Падобнай рэгламентацыі на тэрыторыі Беларусі не было. Адзіны падобны выпадак – спробы ў канцы XVIII ст. Паўла Ксаверыя Бжастоўскага арганізаваць сялянскае жыццё ў сваім уладанні Паўлава, альбо Мерач, Віленскага ваяводства ў адпаведнасці са складзенай ім уставай. Упрыватнасці, устава маёнтка Паўлава 1771 г. прадугледжвала 51 сялянскую павіннасць, у кожнай з якіх распісвалася ўсё, што сяляне павінны былі рабіць і што ім забаранялася (аж да таго, якога колеру шапкі насіць і якога памеру павінны быць вокны ў хатах)[163]. Праўда, рэгуляванне сялянскага жыцця, у тым ліку і праз абшчыну, спрабаваў увесці ў каралеўскіх сталовых эканоміях ВКЛ Антоній Тызенгаўз.

Разам з тым у аброчных (чыншавых) маёнтках на тэрыторыі Расіі, як адзначаў В. А. Аляксандраў, была распаўсюджана іншая сістэма, калі памешчыкі, кіруючы ўласнай гаспадаркай, «альбо абстрагіраваліся ад абшчын і, не ўмешваючыся ва ўнутраныя справы вёскі, цікавіліся толькі фіскальнымі паступленнямі з боку сялян і выкананнем імі дзяржаўных павіннасцей, альбо перадавалі ўсе функцыі кіравання вотчынай і вёскай выбарным мірскім прадстаўнікам пад сваім, канечне, агульным кантролем»[164]. Пры другім варыянце (мірскім) выбары абшчыннай адміністрацыі адбываліся паводле інструкцый, складзеных памешчыкам. Памешчык абавязкова зацвярджаў кожнага на пасадзе, але жалаванне ім плаціла абшчына. Такім чынам, хаця пры «мірскім» варыянце адносін абшчыны з вотчынай у абшчыне захоўваліся прыметы самакіравання, яна ператваралася з органа сялянскага самакіравання ў структуру кіравання сялянамі, якая фарміравалася з сялян і за кошт сялян.

В. А. Аляксандраў зрабіў вывад аб тым, што найбольш часта сустракаўся трэці варыянт адносін паміж памешчыкамі і абшчынамі, калі адбывалася спалучэнне вотчыннага і мірскога кіравання абшчынай.

Вельмі своеасаблівa і спецыфічна руская абшчына выглядае ў главе «Абшчына і сямейны побыт сялян». Аўтар адзначаў, што «ў мірскіх прысудах і «штрафных кнігах», дзе рэгістраваліся пакаранні сялян, нярэдка можна сустрэць рашэнні аб цялесных пакараннях членаў сем'яў па скаргах бацькоў, удоў-матак альбо старэйшых братоў»[165]. Такім чынам, абшчына рэгулявала і сямейнае жыццё. Абшчыны ў Расіі разглядалі скаргі па пазыках, маглі прыняць рашэнні аб раздзеле вялікай сям'і, сачылі за парадкам утварэння маладых сем'яў і інш.

Прыведзеныя В. А. Аляксандравым матэрыялы сведчаць аб тым, што расійская абшчына ў адрозненне ад грамады на тэрыторыі Беларусі, маючы перадзельны характар і калектыўную адказнасць перад землеўласнікам ці дзяржавай, у адносінах з асобнымі сялянскімі сем'ямі-гаспадаркамі часта кіравалася прынцыпам прыгонніцкай дысцыпліны, асноўнай задачай якой было не парушыць агульную цяглаздольнасць абшчыны.

Акрамя вышэйзгаданай манаграфіі неабходна адзначыць працу А.М. Бакланавай «Крестьянский двор и община на русском Севере (конец XVI – начало XVII в.)», у якой быў зроблены вывад аб тым, што парадак землекарыстання ў паўночнай рускай абшчыне характарызаваўся існаваннем ураўнальнай сістэмы на

---

[162] Александров, В.А. Сельская община в России (XVII- начало XIX в.).- С. 56-57.

[163] AKP.- S. 411-435.

[164] Александров, В.А. Сельская община в России (XVII- начало XIX в.).- С. 69-70.

[165] Тамсама.- С. 295.

ўсе сілы сялянскага двара і абшчыны былі пастаўлены «на службу дзяржавы і вотчыне»[166].

Н.А. Горская ў манаграфіі, прысвечанай манастырскім сялянам Цэнтральнай Расіі ў XVII ст., ў спецыяльнай главе «Мір» і сялянскае землеўкарыстанне» даволі падрабязна разгледзела пазямельныя адносіны ў сельскіх абшчынах[167].

Дзве цікавыя і надзвычай насычаныя інфармацыяй працы па гісторыі сялянства поўначы Расіі выйшлі з-пад пяра А.І. Копанева: «Крестьяне Русского севера в XVI в.»[168] і «Крестьяне Русского севера в XVII в.»[169]. Гэтыя працы звязаны паміж сабой не толькі назвай, сюжэтам, але і зместам. Аўтар сам падкрэслівае, што другая праца з'яўляецца лагічным працягам папярэдняй у сваім даследаванні А.І. Копанеў практычна ўжывае не тэрмін «абшчына», а карыстаўся тэрмінам, які быў зафіксаваны ў крыніцах – «воласць». Па яго сцвярджэнню, «воласць заведавала зямельным фондам, як сялянскі калектыў абараняла яго ад памкненняў феадалаў. Шляхам распрацаваных форм уліку замацоўвала за кожнай сялянскай гаспадаркай яе надзел, фіксуючы змены ў яго складзе. У рамках воласці развівалася сялянская гаспадарка з абавязковым севазваротам, з сенакосамі, якія ў некаторых выпадках пераразмяркоўваліся, з агульным выпасам жывёлы і да т.п. І, галоўнае, воласць адыгрывала рашаючую ролю ў раскладцы падаткаў і павіннасцей і зборы іх. Менавіта на яе абапіралася складаная грамада фіскальнай арганізацыі і праз яе даходзіла да кожнага плацельшчыка. Кругавая парука валашчан забяспечвала дзяржаўныя інтарэсы фіска»[170].

Апісанне пазямельна-гаспадарчай арганізацыі рускай абшчыны, прынцыпы размеркавання падаткаў унутры абшчыны, сутнасць дзеяння абшчыннага суда і некаторыя іншыя аспекты жыцця рускай абшчыны ў другой палове XVIII – першай палове XIX ст. апісала на аснове матэрыялаў вотчын Шарамец'евых Л.С.Пракоф'ева[171]. Даследчыца звярнула ўвагу на тое, што спецыфічнай асаблівасцю пазямельна-гаспадарчай структуры валаснай абшчыны ў буйных прыватных уладаннях у Расіі ў азначаны час быў яе прымусовы характар. «Феадал, як зямельны ўласнік, атрымаўшы вотчыну-сеньёрыю, не толькі «асвойвае» абшчыну з мэт захавання тых інстытутаў, у якіх ён зацікаўлены, але і ў пэўнай ступені ўладкоўвае яе ў межах прыватнаўласніцкага ўладання. Самую па сабе схільную да разлажэння валасную абшчыну феадал спрабуе захаваць праз арганізацыю свае вотчыны па тыпу валаснай абшчыны, пакідаючы ў сваім складзе тэрыторыі г пярэдніх складаных абшчын у форме сёл з прыслухоўваючымі да іх вёскамі»[172]. У выніку, як лічыць Л. С. Пракоф'ева, «абшчына і вотчына зліваюцца ў тэрытарыяльных адміністрацыйна-кіраунічых адносінах»[173]. Але даследчыца

[166] Бакланова, Е.Н. Крестьянский двор и община на русском Севере (конец XVI – начало XVII в.) / Е.Н. Бакланова. – М.: Наука, 1976. – С. 138, 193.

[167] Горская, Н.А. Монастырские крестьяне Центральной России в XVII в. / Н.А. Горская. – М.: Наука, 1977. – С. 207-223.

[168] Копанев, А.И. Крестьяне Русского севера в XVI в. / А.И. Копанев. – Ленинград: Наука, 1978. – 246 с.

[169] Копанев, А.И. Крестьяне Русского севера в XVII в. / А.И. Копанев – Ленинград: Наука, 1984. – 244 с.

[170] Тамсама. – С 204.

[171] Прокофьева, Л.С. Крестьянская община в России во второй половине XVIII – первой половине XIX в. (на материалах вотчин Шереметьевых) / Л.С. Прокофьева. – Ленинград: Наука. Ленинградское отделение, 1981. – 216 с.

[172] Прокофьева, Л. С. Крестьянская община в России во второй половине XVIII – первой половине XIX в. (на материалах вотчин Шереметьевых). - С.21-22.

[173] Тамсама. - С.31.

лічыць, што нават і ў гэтым выпадку, выпадку падпарадкавання феадалу, руская абшчына заставалася формай гаспадарчага і грамадскага жыцця сялян. На яе думку прынцыпураўнальнасці ў рускай абшчыне азначаў «прывядзенне ў адпаведнасць зямельнага надзелу з цяглаздольнасцю сялянскага двара. Зацікаўленасць у перадзелах не толькі сялян, але і самога зямельнага ўласніка была адным з важнейшых сродкаў у сістэме прыгонніцкага рэжыму, якія былі накіраваны на ахову абшчыны і перашкаджалі яе разбурэнню»[174].

У канцы XX ст. выйшла цікавая абагульняючая праца па гісторыі рускай абшчыны ў сярэднявеччы, аўтарам якой з'яўляецца Л.В.Данілава[175]. Неабходна адзначыць, што і да гэтага яна выдала некалькі важных, добра абгрунтаваных крыніцазнаўчай базай работ па праблемах абшчыны[176].

У прыведзеным аглядзе ў межах дадзенай працы мы змаглі прааналізаваць толькі невялікую колькасць работ па гісторыі рускай абшчыны. Вядома, што толькі за 1876-1904 гг. убачылі свет больш за дзве тысячы кніг і артыкулаў, прысвечаных сельскай абшчыне ў Расіі[177]. Можна толькі ўявіць, наколькі павялічылася іх колькасць да цяперашняга часу. Разам з тым аўтар паспрабаваў не толькі зрабіць агляд развіцця «абшчыннай» гістарыяграфіі ў Расіі, але і паказаць на аснове найбольш аўтарытэтных прац расійскіх гісторыкаў і гістарыёграфаў розных пакаленняў сутнасць рускай абшчыны, характар яе адносін з дзяржавай і прыватным уласнікам. Як і ў прыватных уладаннях, абшчыннае жыццё ў дзяржаўнай расійскай вёсцы мела неаднолькавыя формы ў розных рэгіёнах. У якасці абагульнення разглядаемай тэмы можна выкарыстаць вывад В.А.Аляксандрава аб тым, што «існаванне абшчын-валасцей, якія аб'ядноўвалі насельніцтва дзесяткаў вёсак, прасочваецца да другой паловы XIX ст., але з XVI ст. гэтая арганізацыя ўсё больш прыстасоўвалася дзяржавай для сваіх мэт. Забяспечваючы падатковыя, паліцэйскія і судовыя функцыі кіравання, мірская арганізацыя ператваралася ў дзяржаўную адзінку кіравання»[178].

Такім чынам, як сведчаць працы расійскіх гісторыкаў, у XV-XVII стст. у цэнтральнай Расіі існавалі дзве формы абшчыны: беспадзельная ў чарнасошных сялян і зямельна-перадзельная ў прыватнаўласніцкіх. «Уключэнне ў феадальную залежнасць усё большай колькасці чарнасошных зямель і сялян вяло, з аднаго боку, да скарачэння абшчын на чарнасошных землях, а з другога – да ўсталявання абшчынных парадкаў і арганізацыі іх на адабраных феадаламі землях. Такое пераразмеркаванне абшчын закончылася з адносным завяршэннем афармлення разраду сялян да канца XVI-XVII стст.»[179].

[174] Тамсама.-С. 211.

[175] Данилова, Л.В. Сельская община в средневековой Руси / Л. В. Данилова. -М.: Наука, 1994.-316 с

[176] Данилова, Л. В. Место общины в системе социальных институтов / Л. В. Данилова// Проблемы аграрной истории (с древнейших времен до XVIII в. включительно).- Ч.I. - Минск: Наука и техника, 1978. - С. 118-128; Данилова, Л.В. О внутренней структуре сельской общины Северо-Восточной Руси / Л В Данилова // Россия на путях централизации.- М.: Наука, 1982.- С. 16-17; Данилова, Л.В. Роль сельской общины в социально-демографических процессах (по материалам средневековой Руси) / Л. В Данилова // Социально-демографические процессы в российской деревне (XVI - начало XX вв.). (Материалы XX сессии Всесоюзного симпозиума по изучению проблем аграрной истории). - Вып. I. - Таллин, 1986. - С. 15-25.

[177] Александров, В.А. Сельская община в России (XVII- начало XIX в.).- С. 3

[178] Александров, В. А. Российское крестьянство в середине XVII - середине XIX в. / В.А. Александров //История крестьянства в Европе. Эпоха феодализма. В трех томах.- Т.3.- М.: Наука, 1986.-С.343.

[179] Швейковская, Е Н. Крестьянская семья и община как категория социальной структуры феодальной России (конец XV-XVII вв) / Е.Н. Швейковская / Социально-демографические процессы в российской деревне (XVI - начало XX вв.). (Материалы XX сессии Всесоюзного симпозиума по изучению проблем аграрной истории). - Вып. I.– Таллин, 1986.– С.12-13.

Падсумоўваючы выкладзенае ў дадзеным раздзеле, адзначым галоўныя адрозненні абшчыны ў Беларусі і Расіі ў XVI-XVIII стст., якія вынікаюць з аналізу гістарыяграфіі. Па-першае, гэта адсутнасць зямельных перадзелаў у беларускіх вёсках, дзе разам з існаваннем грамады пераважала індывідуальнае землеўладанне сялянскіх гаспадарак. Па-другое, абшчына у Беларусі ніколі не была органам дзяржавы альбо землеўласніка, хаця і адчувала ўплыў з іх боку. Наадварот, абшчына ў Беларусі захавалася ў змаганні з дзяржаўнай палітыкай індывідуалізацыі сялянскага землеўладання і землекарыстання, якая пачалася з правядзеннем валочнай памеры і набыла новыя формы сапраўды сялянскай, хаця і не такой выразнай па афіцыйных дакументах, як у Расіі.арганізацыі.

### 1.4. Абшчына ва ўкраінскай гістарыяграфіі

Украінская гістарыяграфія развіцця абшчыны адрозніваецца ад беларускай большай наяўнасцю адпаведных прац, якія ствараліся як прадстаўнікамі дасавецкай навукі, так і вучонымі Украінскай ССР. Не спыняецца праца па даследаванню абшчыны ўкраінскага сялянства і ў незалежнай Украіне. Разам з тым неабходна адзначыць, што і ва Украіне няма адзінага комплекснага даследавання абшчыны ва ўсіх відах феадальнага землеўладання на працягу феадальнай эпохі. Хутчэй за ўсё, галоўная прычына гэтага заключаецца ў тым, што ўмовы для развіцця абшчыны на Правабярэжнай і Левабярэжнай Украіне былі розныя, і гэта, як нам падаецца, ускладняе стварэнне абагульняючай працы па гісторыі абшчыны ва Украіне.

Перш за ўсё адзначым, што большасць гісторыкаў і юрыстаў, прадстаўнікоў «кіеўскай школы», якія займаліся гісторыяй ВКЛ, звычайна пісалі пра абшчыну не толькі ўкраінскага, але і беларускага сялянства. Адной з першых прац па гісторыі грамады на ўкраінскіх землях, як ужо ўказвалася, была работа заснавальніка «кіеўскай школы» М. Дз. Іванішава «О древних сельских общинах в Юго-западной России»[180]. Пры даследаванні матэрыялаў аб абшчынным судаводстве М. Дз. Іванішаў, будучы прафесарам юрыспрудэнцыі, канцэнтраваў увагу ў першую чаргу на юрыдычных момантах дзейнасці абшчыны. Упрыватнасці, ён звярнуў увагу на тое, што ў Статуце ВКЛ 1588 г. было запісана даручэнне падкаморым прызначыць на падпарадкаваных ім тэрыторыях месцы для правядзення сялянскіх судоў (копаў). Вучоны лічыў, што тэта было зроблена для таго, каб «даць народным сходам законную сілу»[181]. Такое меркаванне магчыма, але больш верагодна, што ўкраіне проста ішоў працэс кадыфікацыі непісанага, звычаёвага права і разам з тым уключэнне абшчыннага судаводства ў агульнадзяржаўную судовую сістэму. Адзначым і тое, што М. Дз. Іванішаў падкрэсліваў, што ўжо ў XVI ст. грамада поўнага права ўласнасці на свае землі не мела[182].

Звяртае на сябе ўвагу, што калі ў даследчыкаў рускай абшчыны ў XIX ст. самая высокая публікатарская актыўнасць назіралася перад сялянскай рэформай 1861 г. і ў час яе правядзення, то найбольшая колькасць прац па гісторыі абшчыны ў ВКЛ з'явілася адразу пасля правядзення рэформы і нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Як вядома, пасля падаўлення паўстання 1863-1864 гг. царызм вырашыў, што адным з самых дзейсных доказаў

[180] Иванишев Н. О древних сельских общинах в Юго-западной России.- 72 с.

[181] Тамсама.- С. 27.

[182] Тамсама.- С. 5.

законнасці яго панавання на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны будзе публікацыя крыніц, якія б даказвалі «праваслаўнасць» і «рускасць» гэтых зямель[183]. На матэрыялах, што выдаваліся Віленскай археаграфічнай камісіяй, Пецярбургскай археаграфічнай камісіяй, Камісіяй для разбору старажытных актаў пры Кіеўскім ваенным, Падольскім і Валынскім генерал-губернатары і інш, засноўвалі свае працы вучоныя, якія займаліся вывучэннем гісторыі ВКЛ, як прадстаўнікі «кіеўскай школы» (М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў, Ф. І. Леантовіч, М. В. Доўнар-Запольскі і інш.), так і вучоныя з другіх навуковых цэнтраў Расійскай імперыі (М. К. Любаўскі, У. І. Пічэта, В. Я. Уланаў і інш.). Палітыка царызму па доказванню «рускасці» Беларусі і Украіны праяўлялася нават у тым, што ў працах па гісторыі Беларусі ў тытуле ставілі назву «Заходняя Расія», а па гісторыі Украіны – «Паўднёвая Расія», ці «Паўднёва-Заходняя Расія». Неабходна мець на ўвазе, што тагачасныя даследчыкі ў сваіх працах звычайна вылучалі асобна тэрыторыю Літвы, але не заўсёды рабілі падзел паміж беларускімі і ўкраінскімі землямі.

Такім чынам, у апошняй чвэрці XIX ст. акцэнт даследавання гісторыі (у тым ліку і вывучэння сялянскай абшчыны) быў перанесены з цэнтра і поўначы ўласна Расіі на заходнія і паўднёва-заходнія ўскраіны Расійскай імперыі. Так, у тэты час выйшла некалькі работ вядомага прадстаўніка рускай пазітывісцкай школы медыявістаў І. В. Лучыцкага, прысвечаных гісторыі валаснoй грамады на Левабярэжнай Украіне і функцыяніраванню тут інстытута сябрыннага землекарыстання[184]. І. В. Лучыцкі лічыў, што сябрынства з'яўлялася такой формай абшчыны, якая ўзнікла ў выніку распаду вялікай сям'і на меншыя сямейныя групы, звязаныя паміж сабой агульнасцю паходжання і кроўнай роднасцю. Па яго назіраннях, сябрынныя землі былі падзелены на часткі (паі) у залежнасці ад колькасці сем'яў у вёсцы. Разам з тым гэта была іншая, чым у Расіі, беспадзельная форма абшчыннага землекарыстання. На тэрыторыі Беларусі таксама вядомы прыклады сябрынства, але тут сябар – гэта не родзіч, а часцей пабочны чалавек, які на пэўных умовах (часцей на ўмовах роўнага падзелу вынікаў працы) заключаў часовую дамову на сябрыннае (сумеснае, на роўных долях) гаспадаранне.

Важным з'яўляецца і тое, што многія з даследчыкаў гісторыі ВКЛ самі займаліся вывучэннем і выданном першакрыніц і менавіта на гэтых крыніцах грунтавалі свае даследаванні. Так, Ф. І. Леантовіч, складальнік двух тамоў Метрыкі ВКЛ[185], пісаў працы па гісторыі ВКЛ і выдаў некалькі артыкулаў, прысвечаных тэорыі паходжання сялянскай грамады, яе існаванню на тэрыторыі Украіны і адлюстраванню ў заканадаўстве Кіеўскай Русі і ВКЛ[186]. Будучы гісторыкам права, ён большую ўвагу звяртаў менавіта на юрыдычныя падставы дзейнасці грамады і

---

[183] Улащик, Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. - С 63-64.

[184] Лучицкий. И. В. Следы общинного землевладения в Левобережной Украине в XVIII в. / И. В. Лучицкий // Отечественные записки. - СПб., 1882. - № 11. - С 92-116; Лучицкий, И. В. Сябры и сябринное землевладение в Малороссии / И. В. Лучицкий. - СПб., 1889. - 33с.

[185] АЛМ. - Т. I. - Вып. I. 1413-1498 гг. / Собраны заслужен. Профессором императорскаго Варшавскаго университета Ф. И. Леонтовичем. - Варшава: Типография Варшав. учебн. округа, 1896. - 169 с.; АЛМ. - Т. I. - Вып. II. 1499-1507 гг. / Собраны заслужен. Профессором императорскаго Варшавскаго университета Ф. И. Леонтовичем. - Варшава Типография Варшав учебн. округа, 1897. - 200, LV с.

[186] Леонтович, Ф. И. Крестьяне Юго-Западной России по литовскому праву XV и XVI ст. / И. Леонтович // Киевские университетские известия. - Киев, 1863. - № 10. - С. 1-48; - № 11.— С. 1-40; Леонтович. Ф. И. О значении верви по Русской Правде и по Литовскому статуту сравнительно с задругою юго-западных славян / Ф. И. Леонтович // Журнал министерства народного просвещения. - 1867. - Т. 134. - № 4. - С. 1-19; Леонтович, Ф. И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. - 321 с.

сялянства, падкрэсліваў, што абшчына, страціўшы права ўласнасці на зямлю, пераставала быць незалежнай, а сяляне, губляючы правы на зямлю, аказваліся ў юрыдычнай залежнасці ад землеўласніка: «У сельскім побыце ўсё вызначаецца тым і другім характарам адносін сялян да землеўладання. Пакуль утрымліваецца абшчыннае самастойнае землеўладанне, да таго часу за ёю прызнаецца і аўтаномія, як і паўнапраўнасць за асобнымі яе членамі. Страта сялянскім насельніцтвам самастойных правоў на зямлю вяла ў старыя часы да ўсталявання залежнасці юрыдычнай...»[187] Важна, што многія даследаванні Ф. І. Леантовіча, як, напрыклад, пра сутнасць паняцця «дворышча», заснаваны на выкарыстанні шматлікага фактычнага матэрыялу[188].

М. В. Доўнар-Запольскі, які таксама займаўся вывучэннем і выданнем матэрыялаў Метрыкі ВКЛ,[189] у сваей працы па гісторыі «заходне-рускай» сельскай абшчыны выкарыстаў некалькі ілюстрацый, якія адносіліся да тэрыторыі Украіны[190].

М. К. Любаўскі, рускі гісторык, які пісаў пра становішча сялянства ў ВКЛ не адмаўляў абшчыннага землекарыстання, сельскай і валасной салідарнасці; адзначыўшы, што агульнае карыстанне зямлёй працягвалася нават тады, калі «сялянская сям'я альбо род прымалі ў сваё асяроддзе пабочных асоб, якія ў такіх і выпадках называліся сябрамі, як і іншыя саўладальнікі-родзічы»[191]. Вучоны справядліва заўважыў, што копны суд быў своеасаблівым «працягам таго следчага суда, які здзяйсняўся яшчэ ў часы Рускай Праўды»[192]. М. К. Любаўскі рашуча аспрэчваў галоўнае тэарэтычнае палажэнне гісторыкаў дзяржаўнай школы (у тым ліку ў спрэчцы з М. Ф. Уладзімірскім-Буданавым і М. В. Доўнар-Запольскім) – «тэзіс аб вырашальнай ролі заканадаўства ў змяненні ўсяго грамадскага жыцця»[193]. Вучоны лічыў, што заканадаўства ўжо падводзіла вынік, юрыдычна афармляла тое, што адбывалася у грамадстве – «толькі замацоўвала і зацвярджала ўжо ўсталяваныя сацыяльныя адносіны»[194].

М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў, прадстаўнік рускай гісторыка-прававой школы другой паловы XIX - пачатку XX ст., кіраўнік кафедры гісторыі рускага права юрыдычнага факультэта Кіеўскага універсітэта, пісаў пра абшчыну, магчыма, болыш, чым яго калегі па «кіеўскай школе». Ён займаўся пытаннямі сялянскага землеўладання і землекарыстання, і таму праблемы жыццядзейнасці вялікай складанай сям'і, гістарычнага паходжання і функцыяніравання такіх сацыяльна-гаспадарчых адзінак, як дворышча, жарэбя, служба, як і сяло і сама валасная абшчына, не маглі застацца па-за яго ўвагай. М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў лічыў, што «галоўная аснова заходне-рускай абшчыны – абшчыннае валоданне зямлёй». На яго

[187] Леонтович, Ф.И. Крестьяне Юго-Западной Россиипо литовскому праву XV и XVI ст. - С. 4.

[188] Леонтович. Ф. И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. - С.19-22.

[189] АЛРГ. - XII, 258 с.

[190] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке - С.31, 49.

[191] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государва ко времени издания первого Литовского Статута.- С 448.

[192] Любавский, М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С приложением текста хартий, выданных великому княжеству Литовскому и его областям / М. К Любавский. - М.: Синодальная Типография, 1910. - С.150.

[193] Копысский, З. Ю. Историография БССР (эпоха феодализма): учеб, пособие. - С. 44-45.

[194] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута.- С 378.

думку, іменна на гэтыя словы спасылаўся ва уступе да сваёй кнігі аб абшчыне М. В. Доўнар-Запольскі[195].

М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў не пайшоў услед за прадстаўнікамі расійскай «дзяржаўнай школы», якія пісалі аб штучным утварэнні расійскай абшчыны. У сваёй працы «Формы крестьянского землевладения в Западной России XVI века» ён як бы даў адказ на славянафільскую канцэпцыю Б. Н. Чычэрына і часткова І. Д. Бяляева з ідэяй аб тым, што «вольная абшчына», якая існавала ў насельніцтва старажытнарускіх княстваў, знікла сама па сабе ў IX-XI стст., а новая «пазямельная» абшчына (XIII-XIV стст.) была ўтворана вотчыннай уладай для забеспячэння цяглавага абкладання, а потым, у XVI-XVII стст., яна была заменена «абшчынай дзяржаўнай», што была ўведзена як фіскальны орган для забеспячэння збору падаткаў і выканання дзяржаўных павіннасцей[196]. Разам з тым М.Ф. Уладзімірскі-Буданаў лічыў, што пагаршэнне становішча сялянства (і ўвогуле змены ў ВКЛ да горшага) было выклікана не ходам развіцця феадальных адносін, а тым, што дзяржава адмяніла старажытныя нормы народнага, традыцыйнага права і ўвяла новыя законы, так званае нямецкае права, якія прыйшлі ў заходне-рускія землі з Польшчы[197]. М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў заяўляў, што «мы павінны прызнаць дворышча з'явай спрадвечнай, бытавой, такой абшчынна-родавай формай, якая караніцца ў найглыбейшай глебе сямейных і маёмасных асноваў грамадства. Але як на сельскую абшчыну Паўночнай Русі, так і на дворышча Заходняй магчымы і іншы пункт гледжання; а менавіта: магчымасць дапусціць штучнае стварэнне дворышчаў з павінна сных мэт дзяржавы»[198]. Прывёўшы некалькі прыкладаў з крыніц, вучоны зрабіў наступны вывад: «прыведзеныя факты паказваюць, што дзяржава (і паны) карысталіся для павіннасных мэтаў гатовымі народнымі адзінкамі (але не стваралі іх)»[199]. М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў лічыў, што іншымі старажытнымі формамі абшчыны было сяло, якое магло складацца з некалькіх дворышчаў, і воласць, якая складалася з некалькіх сёл[200].

Пра тое, што ўкраінскія і беларускія дворышчы былі ўласнасцю вялікай сям'і бліжэйшых родзічаў, пісала А. Я. Яфіменка[201]. Яна адзначала, што «маса несумненных сведчанняў ад XVI ст. пацвярджаюць, што дворышчы былі ўласнасцю... «рода-племені», г. зн. больш-менш абшырнай групы бліжэйшых родзічаў, інакш гаворачы – вялікай альбо задружнай сям'і»[202], хоць рэальных фактаў, якія б дазволілі пацвердзіць гэтае меркаванне альбо даказаць яго, А.Я.Ефіменка не прывяла. Даследчыца, знаходзячыся пад пэўным уплывам расійскай «дзяржаўнай школы», так і не змагла адкрыта прызнаць відавочныя факты існавання «ўласнай» абшчыны ва Украіне, пастаянна спрабуючы знайсці аналаг з Расіяй. Вядома таксама яе праца, прысвечаная сялянскаму судаводству, у

---

[195] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке. - С. 1.

[196] Александров В. А. Сельская община в России (XVII- начало XIX в.). - С. 5.

[197] Владимирский- Буданов, М. Ф. Немецкое право в Польше и Литве / М. Ф. Владимирский-Буданов.- СПб., 1868. - 304 с.

[198] Владимирский- Буданов, М. Ф. Формы крестьянского землевладения в Западной России XVI века.- С. 369.

[199] Тамсама.-С. 370.

[200] Тамсама.- С.375-386 .

[201] Ефименко, А. Я. История Украины и ея народа / А. Я. Ефименко. - СПб., 1907. - С. 37; Ефименко, А. Я. Дворищное землевладение в Южной Руси. - С. 375-429.

[202] Ефименко, А. Я. Дворищное землевладение в Южной Руси.- С 382.

першую чаргу характару дзейнасці копных судоў[203].

Заметку аб правядзенні ў 1690 г. судова-следчых дзеянняў грамадою сяла Азараўкі на Левабярэжнай Украіне апублікаваў у часопісе «Кіеўская старына» М. Бакай[204]. Цікавы дакумент. на падставе якога падрыхтава заметка, быў выяўлены ім сярод матэрыялаў магістрата г. Старадуба. М. Бакай прыводзіць факты, якія сведчаць, што грамада не толькі вяласледства, але пры неабходнасці магла праводзіць катаванні («печен на тортурах») і выносіць для вышэйшага суда рэкамендацыйнае рашэнне («абы с ними в одном селе не мешкал»)[205]. Гэты матэрыял арганічна дапаўняе інфармацыю аб конных судах, з мешчаных ў «Актах Віленскай археаграфічнай камісіі» і іншых зборніках дакумента.

Вельмі грунтоўнае даследаванне аб дзейнасці судоў абшчыны – копных судоў на тэрыторыі Беларусі і Украіны правёў І.Ю.Чаркаскі[206]. ён прааналіваваў амаль усе матэрыялы, апублікаваныя ў «Актах Віленскай археаграфічнай камісіі» і іншых зборніках дакументаў, што цытуюцца амаль на кожнай старонцы кнігі. Цікавая праца пад назвай «Громадський (копний) суд на Украіні-Русі XVI-XVIII вв.» амаль поўнасцю заснавана на матэрыялах, якія адносяцца да тэрыторыі Беларусі. На жаль, назву Беларусь аўтар гэтай працы не выкарыстоўваў, ужываючы тэрмін «Украіна-Русь». Работа І. Ю. Чаркаскага і да цяперашняга часу не страціла свайго навуковага значэння, а што да адзначаных намі недакладнасцей, то гэта, хутчэй за ўсё, пэўны перакос палітыкі «ўкраінізацыі», якая ўводзілася ў другой палове 1920-х гадоў, у час, калі пісалася згаданае даследаванне. Заўважым, што нават у назве адпаведнай камісіі Акадэміі навук Украіны ў адносінах да Беларусі стаяла расійскае імперскае вызначэнне: «Камісія для вывучэння гісторыі заходне-рускага і ўкраінскага права».

Нельга абмінуць увагай працы двух украінскіх даследчыкаў з Львова, якія ў другой палове XX ст. займаліся пытаннямі гісторыі сельскай грамады, – Д. Л. Пахілевіча і В. Ф. Інкіна. Д. Л. Пахілевіч, вывучаючы гісторыю сялянства Беларусі і Літвы, шмат ўвагі ўдзяліў і праблеме сельскай грамады[207]. Так, у сваім арыкуле, прысвечаным становішчу сельскай грамады ў заходніх ваяводствах ВКЛ пасля аграрнай рэформы Жыгімонта Аўгуста, ён паспрабаваў даказаць, насуперак меркаванню У. І. Пічэты і М. В. Доўнар-Запольскага, што абшчына працягвала існаваць таксама і на ўсходзе і на захадзе Беларусі (заўважым, што Д. Л. Пахілеі карыстаўся крыніцамі, якія адносіліся ў асноўным да тэрыторыі Беларусі. -*В.Г.*). Не з усімі вывадамі, якія зрабіў Д. Л. Пахілевіч, можна пагадзіцца. Так, не выклікае пярэчання яго тэзіс аб тым, што «за сялянскімі сельскімі абшчынамі ў асноўным захаваліся грамадскія землі тых угоддзяў, пераважна пашы, лясы, балоты, якімі яны карысталіся і да рэформы, а часта проста тыя ж самыя, як у некаторых выпадках і ворыўныя землі»[208]. Разам з тым яго сцвярджэнне, што «асноўнаю сялянскаю

[203] Ефименко, А. Я. Народный суд в Западной Руси / А. Я. Ефименю // Русская мысль, 1883. - Кн. 8. - Отд. 2. - С. 1-29; - Кн. 9. - Отд. 3. - С. 21-40; Ефименю, А. Я. Конные суды в Левобережной Украине.- С 189-202.

[204] Бакай, Н. Знанение сельской громады в судебном процессе конца XVII в. / Н. Бакай // Киевская старина.-1886.- Т. XVI.-С 567-569.

[205] Бакай, Н. Знанение сельской громады в судебном процессе конца XVII в.- С. 569.

[206] Черкаський. І. Громадський (копний) суд на Україні-Русі XVI-XVIII вв.- 714 с.

[207] Похилевич, Д. Л. Селянська громада в західних воеводствах Великого Князівства Литовского після аграрної реформи Сигизмунда-Августа / Д Л Похилевич // Наукові записки Львівсью Державною Універсйтету імені Івана Франка. - Т. Х. Серія історична - Львів, 1949. - Вип. 3. - С. 103-130; Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. / Д. Л. Похилевич Львов: Изд-во Львов, ун-та, 1957. - 178 с.; Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы второй половине XVIII века / Д. Л Похилевич. - Вильнюс, 1966.- 216 с.

[208] Похилевич, Д. Л. Селянська громада в західних воеводствах Великою Князівства Литовского після аграрної реформи

грамадой замест ранейшай воласці стала войтаўства»[209], наўрад ці можа быць прынята. Дарэчы, гэты тэзіс больш не сустракаўся ў працах Д. Л. Пахілевіча, у якіх ён пісаў пра сельскую грамаду. Праўда, няясна, што вучоны разумеў у дадзеным выпадку пад войтаўствам. Калі гэта тое ж, што і «сельская грамада», ці «грамада сяла», то вучоны меў рацыю.

У манаграфіі, прысвечанай гісторыі сялянства Беларусі і Літвы ў XVI-XVIII стст., у спецыяльным параграфе пад назвай «Сельская абшчына» Д. Л. Пахілевіч выказаў сваё меркаванне аб становішчы сельскай абшчыны ў Беларусі і Літве ў другой палове XVII-XVIII ст. Ён звярнуў увагу на тое, што грамада да гэтага часу змагла захаваць свае землі агульнага карыстання, як захавала права адкрытых палёў і прымусовага севазвароту. На яго думку, у час пасляваенных узрушэнняў скарбу было выгадна перадаць абшчынам права збору і выплаты кантрыбуцый і іншых экстраных збораў. Па яго назіраннях, у некаторых выпадках скарб перадаваў абшчынам нават увесь зямельны фонд. Даследчык зрабіў вывад аб тым, што «на пакрыццё абшчынных плацяжоў ці экстраных збораў абшчыны па старыне практыкавалі раскладкі, ці, як іх яшчэ называлі, «разметы» і «разрубы»[210]. Вельмі важныя і цікавыя заўвагі і вывады аўтара, змешчаныя на дзвюх старонках тэксту, на жаль, не маюць спасылак на выкарыстаныя ім гістарычныя крыніцы і таму носяць характар асабістых выказванняў Д. Л. Пахілевіча, а не навуковага разгляду праблемы.

Са спасылкамі на некаторыя апублікаваныя крыніцы напісана глава, прысвечаная сялянскай абшчыне ў Літве і Беларусі ў другой палове XVIII ст. манаграфіі Д. Л. Пахілевіча «Сяляне Беларусі і Літвы ў другой палове XVIII ст.»[211] У ей у асноўным на падставе аналізу эканамічных інструкцый да інвентароў феадальных уладанняў аўтар паспрабаваў разгледзець склад абшчыннай адміністрацыі. Са спасылкай на даследаваныя ім дакументы даследчык адзначаў, што кіраўніком сялянскай адміністрацыі з'яўляўся войт, які дапамагаў аканому ў яго гаспадарчай дзейнасці і кіраванні сялянамі. У некаторых уладаннях з'явіліся новыя пасады сельскай адміністрацыі – падвойцкія і лаўнікі. Ніжэйшай фігурай сельскай адміністрацыі быў «дзесятнік» – асоба, якую Устава 1557 г. не прадугледжвала і, на думку Д. Л. Пахілевіча, «паводле яе лаўнік і дзесятнік – адна асоба»[212]. У выніку Д. Л. Пахілевіч зрабіў вывад аб тым, «што сялянская абшчына, хаця і пад панскай апекай, але праіснавала ў Літве і Беларусі да канца феадальнага грамадства. Больш за тое, да канца яго існавання яна нават некалькі ажывілася»[213].

Вывучэннем розных бакоў дзейнасці сельскай грамады ў Галіцкім Прыкарпацці займаўся В. Ф. Інкін[214]. Вывучаючы арганізацыю ўнутранага жыцця

---

Сигизмунда-Августа - С. 129.

[209] Тамсама.

[210] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв.- С. 162.

[211] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века.- С. 143-154.

[212] Тамсама.-С. 145.

[213] Тамсама.- С. 154.

[214] Інкін, В. Ф. Сільске суспільство Галицького Прикарпаття у XVI-XVIII століттях: історичні нариси /В. Ф. Інкін. - Львів: Інститут історичних досліджень, 2004.- С. 420; Инкин, В. Ф. Крестьянский общинный строй в Галицком Прикарпатье (опыт сравнительного изучения поземельных союзов).- Автореф. диссертации ...доктора исторических наук / В. Ф. Инкин. - Львов, 1978.- 33 с.; Інкін, В. Ф. Сільскі суды німецького права в Галичині XVI-XVIII ст. / В. Ф. Інкін / Вісник Львівського університету. - Серія історична. - Вып. 20. З історії стародавності і середньовіччя.- Львів, 1984.-С. 34-40.

абшчыны ў Самборскай воласці, яе судовую сістэму і адносіны з уладамі, пытанні грамадскага землеўладання і землекарыстання і інш., ён прыйшоў да вываду аб існаванні агульных тэндэнцый развіцця сельскай абшчыны ў розных краінах Усходняй Еўропы.

Манаграфію «Еволюція соціально-територіальних спільнот в середньовічній Україні (волость, дворище, село, сябринна спілка)», прысвечаную даследаванню сельскай грамады ва Украіне XIV-XVI стст., выдаў у Кіеве ў 1998 г. А. А. Гурбык[215]. Аўтар разглядаў праблему на працягу даволі абмежаванага перыяду (асабліва, калі ўлічваць тое, што пісьмовыя крыніцы, якімі можна аперыраваць пры даследаванні, з'явіліся прыблізна ў апошняй чвэрці XV ст.) і прыйшоў да вываду аб тым, што «у XIV-XVI ст. на большай частцы тэрыторыі Украіны... сутнасць працэсу эвалюцыі сельскай грамады складаў пераход ад валаснай яе формы да грамады асобнага многадворнага сяла, якая станавілася асноўнай формай тэрытарыяльнай грамады»[216]. Аўтар зрабіў спробу разгледзець унутранае ўладкаванне грамады ў азначаны перыяд, пазямельныя адносіны і яе функцыі ў фіскальнай сістэме дзяржавы. А. А. Гурбык паспрабаваў выказаць свой пункт гледжання дворышча і сябрынныя суполкі, сцвярджаючы пры гэтым, што дворышча ўяўляла сабой «мікракопію сельскай грамады»[217], а сябрынныя суполкі «па-перш», узнікалі ў выніку распаду вялікасямейных гаспадарак (дворышчаў), а па-другое шляхам дамоўленасці асобных падымных гаспадарак пра сумесную апрацоўку зямлі і выкарыстанне ўгоддзяў, якія пераходзілі ў сумеснае ўладанне сябрыннай суполкі. Створаныя такім чынам грамады сяброў можна лічыць адным з этапаў эвалюцыі сельскай грамады, своеасаблівай пераходнай формай паміж дворышчам-састаўной часткай валаснай формы тэрытарыяльнай грамады і грамадою многадворнага сяла, якое фарміравалася на яго (дворышча) аснове»[218]. Гэтыя тэарэтычныя разважанні аўтара не заўсёды падмацаваны фактамі. Матэрыялы з беларускіх уладанняў паказваюць, што, наадварот, валасная форма грамады захоўвалася ва ўсіх відах феадальнага землеўладання аж да ўключэння беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі. Прычым гэта зусім не адмаўляла існавання грамад асобных вёсак, якія састаўнымі часткамі ўваходзілі ў валасную грамаду.

Пагаджаючыся з А. А. Гурбыкам у тым, што тэрмін «община» «ёсць до Украіны штучным, механічна перанесеным з расійскіх крыніц... і не сустракаўся ў украінскіх дакументальных матэрыялах XIV-XVI ст.»[219], нельга прызнаць сцвярджэнне, што ў гэты час «у іх (крыніцах. - *В. Г.)* шырока рэпрэзентаваны тэрмін «грамада»[220]. Тэрмін «грамада», на наш погляд, ужо «механічна перанесены» ў XIV-XVI стст. з пазнейшых часоў А. А. Гурбыкам. Аўтар не прывёў ніводнага прыкладу выкарыстання ў тагачасных крыніцах тэрміна «грамада» ў якасці інстытута самаарганізацыі сялянства, ні адносна воласці і сяла, хаця менавіта так, – «воласць» і «сяло» – называліся ў крыніцах адпаведна тэрытарыяльная і сельская абшчыны.

[215] Гурбик, А. О. Еволюція соціально-територіальних спільнот в середньовічній Україні (волость, дворище, село, сябринна спілка) / А. О. Гурбик. - Київ: Інститут історії України НАН Укріни, 1998. - 319 с.

[215] Тамсама. - С. 251.

[217] Тамсама. - С. 256.

[218] Тамсама. - С. 258.

[219] Тамсама. - С. 3.

[220] Тамсама.

Такім чынам, з агляду ўкраінскай гістарыяграфіі гісторыі абшчыны ў феадальную эпоху вынікае, што, нягледзячы на пэўную колькасць адпаведных работ, ва Украіне таксама няма абагульняючага даследавання ні ўвогуле па краіне, ні па яе гістарычных частках (Правабярэжная і Левабярэжная), ні па відах феалальнага ўладання.

Напрыканцы гістарычнага агляду трэба яшчэ раз падкрэсліць важнасць і неабходнасць вывучэння існавання і дзейнасці на тэрыторыі Беларусі такога інстытута сялянскай самаарганізацыі, як грамада, тым больш, што, як паказаў аналіз гістарыяграфіі, даследаванне гэтай праблемы ў Беларусі значна адстае ў параўнанні з краінамі-суседзямі.

### 1.5. Крыніцы даследавання

Крыніцазнаўчая база вывучэння праблемы сялянскай абшчыны ў Беларусі ў XVI-XVIII стст. мае шмат асаблівасцей у параўнанні з забяспечанасцю і якасцю інфармацыйнага зместу крыніц па гісторыі сельскай грамады ў суседніх Польшчы і Расіі, дзе, хоць і па розных прычынах, у некаторых выпадках захаваліся цэлыя комплексы дакументаў, якія сведчаць аб дзейнасць абшчыны ў пэўных населеных пунктах на працягу значнага часу.

У адносінах да Беларусі такіх дакументаў прамога сведчання практычна няма. Нягледзячы на значную колькасць назваў відаў крыніц, звесткі аб існаванні ці фунцыяніраванні грамады ў іх у большасці выпадкаў ускосныя, калі не лічыць матэрыялаў пра дзейнасць абшчыннага (копнага) суда і адзінкавыя дакументы заканадаўчага і юрыдычнага характару. Практычна немагчыма знайсці дакумента, які б даваў канкрэтную, ўсебаковую характарыстыку сельскай абшчыны ў Беларусі XVI-XVIII стст. ці хаця б прыблізна адлюстроўваў усе яе асноўныя функцыі. Звычайна ў асобных дакументах знаходзяцца толькі адзінкавыя, па большасці ўскосныя, звесткі пра тыя ці іншыя працэсы, што адбываліся ў абшчыне. Абшчына фактычна была паза дзяржаўным інстытутам, таму ўлады і землеўласнікаў цікавілі ў асноўным толькі навязаныя грамадзе функцыі (збор падаткаў, данін, сумеснае выкананне некаторых відаў павіннасцей). Таму пры даследаванні аўтару дадзенай работы прыходзілася супастаўляць. параўноўваць шэраг розных дакументаў, дапаўняць сведчанні адных крыніц інфармацыяй, якая знаходзіцца ў іншых, выкарыстоўваць метад гістарычнай рэканструкцыі, аднаўляць мінулае на падставе як метаду статыстычнага аналіву і абагульнення, так і з дапамогай гісторыка-эмпірычных абстракцый. Гэта, на наш погляд, спрыяла шырыні даследавання і дакладнасці атрыманых вынікаў.

Мы падзяляем думку, што «гісторык, які даследуе мінулае, задае часам такія пытанні, якія ў мінулым не задаваліся і не маглі задавацца, і, як правіла, інтэрпрэтуе мінулую рэальнасць у рамках сучасных яму паняццяў, мадэляў і тэорый. Менавіта на гэтай аснове фармулююцца аналітычныя (дэдуктыўныя) паняцці.

У гістарычным даследаванні аднолькава неабходныя як гісторыка-эмпірычныя абстракцыі (канцэпты. – *В.Г.*), так і аналітычныя паняцці. Пры гэтым вельмі важна не змешваць канцэпты, выкарыстанне якіх дае магчымасць найбольш адэкватна апісваць мінулую рэальнасць, і дэдуктыўныя паняцці, што неабходны для тэарэтычнага аналіву даследуемай з'явы. Улік рэальнага, гістарчына зменлівага зместу канцэптаў.ю якія пападаюць у поле бачання даследчыка, неабходны для

дакладнага апісання і карэктнага аналізу мінулага»[221].

Неабходна адзначыць, што пра грамаду вядома толькі тое, аб чым сведчаць крыніцы. А ў крыніцах, як правіла, запісваліся толькі факты пра абшчыннае землекарыстанне (яно было не ва ўсіх вёсках), пра суд грамады (копны суд). Штодзённае, традыцыйнае жыццё вясковай грамады на старонках тагачасных дакументаў не адлюстроўвалася, за выключэннем экстраардынарных падзей. На жаль, прыходзіцца канстатаваць, што захавалася вельмі мала крыніц, якія сведчаць пра існаванне і дзейнасць у Беларусі XVI-XVIII стст. абшчыны як інстытута сялянскай самарганізацыі. Адна з прычын гэтага заключаецца ў тым, што пісары, рэвізоры, мернікі, камісары і іншыя службовыя асобы, якія складалі задачу, не адхіляючыся ні на крок у бок: праводзілі ўлік зямлі і сялянскіх гаспадараку вёсцы, падлічвалі памеры збіраемага чыншу ці адбываемай паншчыны, колькасць талок, гвалтаў і да т. п. Якім чынам адбываліся гвалты па рамонту дарог ці мастоў, як прызначаліся і адбываліся «старожы» і «падводы», якім чынам збіраўся чынш і іншыя выплаты, службовыя асобы звычайна не адзначалі ці проста запісвалі, што гэта – справа вёскі ці воласці. І не адзначалі галоўным чынам таму, што для іх саміх, як і для землеўласніка і саміх сялян, было ясна і зразумела – арганізацыяй унутранага жыцця ў вёсцы займалася абшчына. Гэта было настолькі звычайнай і традыцыйнай з'явай, што не патрабавала дадатковых распараджэнняў ці тлумачэнняў, якой-небудзь спецыяльнай рэгламентацыі. Але для нас важна, што ў пэўных выпадках такія ўказанні пра функцыі абшчыны ці спасылкі на іх у некаторых крыніцах ёсць усё ж такі і менавіта яны дазваляюць аднавіць карціну ўнутранага ўладкавання беларускай феадальнай вёскі.

Пры даследаванні крыніц неабходна браць пад увагу тое, што абсалютная большасць з іх, акрамя сялянскіх скаргаў, зыходзіла ад пануючага саслоўя феадалаў-землеўласнікаў. У кожным тагачасным дакуменце выразна прасочваюцца інтарэсы гэтага слоя, амаль у кожным вырашалася пэўная задача, неабходная яе аўтару ці аўтарам. Сяляне цікавілі феадалаў у першую чаргу як сродак для задавальнення асабістых інтарэсаў і патрабаванняў. На праблему ўнутранай арганізацыі жыцця сялян, існаванне і дзейнасць сялянскай грамады ўвагу звярталі звычайна толькі ў выпадку крайняй неабходнасці ці з мэтай выкарыстання абшчыны ў панскіх інтарэсах. Таму, калі зыходзіць толькі з інфармацыі аб грамадзе, якая змешчана ў дакументацыі феадальнага маёнтка, абшчына (асабліва валасная) выглядае як тэрытарыяльная арганізацыя, створаная для таго, каб аддаваць уласніку феадальную рэнту. Гэта расклад і збор падаткаў, сумеснае выкананне некаторых павіннасцей, арганізацыя сялянскай узаемадапамогі (талака, агульныя грамадскія зернесховішчы – «магазіны» і да т. п.).

Але былі і іншыя крыніцы, якія сведчылі аб захаванні пэўных норм і правіл грамадскага і гаспадарчага жыцця ў вёсцы. якія характарызавалі грамаду (асабліва сельскую) як самастойную, самаарганізуемую і ў пэўным сэнсе

[221] Сакалова, М.А. Гістарыяграфічныя і метадалагічныя праблемы вывучэння грамадскіх рухаў на тэрыторыі Беларусі ў XIX ст. / М.А. Сакалова // Гістарыяграфія гісторыі Беларусі канца XVIII – пачатку XX ст.: праблемы, здабыткі, перспектывы / Н.В. Анофранка [і інш.]; пад рэд. В.В. Яноўскай. – Мінск: Беларус. навука, 2006. – С. 231.

самакіруемую структуру, заснаваную на звычаёвым праве, традыцыі, якая мела выбарныя органы кіравання і інш.

Для таго каб высветліць аб'ектыўны стан рэчаў, аднавіць рэальную карціну існавання і дзейнасці сялянскай абшчыны (грамады), прыходзілася падыходзіць крытычна да выкарыстоўваемых крыніц, у тым ліку і да тых, якія зыходзілі непасрэдна ад сялян, супастаўляць іх з іншымі дакументамі, параўноўваць звесткі аб адной і той жа падзеі альбо з'яве з розных крыніц і толькі по тым рабіць вывады.

У ходзе падрыхтоўкі дадзенай працы вывучаліся таксама некаторыя крыніцы, якія характарызуюць узровень сялянскай самаарганізацыі і самакіравання на суседніх з Беларуссю тэрыторыях: у Літве, Польшчы, Расіі і Украіне. Гэта дазваляла як ўбачыць агульнае ў існаванні інстытута абшчыны ва Усходняй Еўропе ў эпоху феадалізму, так і выявіць спецыфіку, своеасаблівасці дзейнасці грамады на беларускіх землях.

Пры распрацоўцы дадзенай тэмы было выяўлена, праналізавана і апрацавана некалькі тысяч сведчанняў, асобных фактаў і цэлых дакументаў аб розных баках функцыяніравання сялянскай абшчыны ў Беларусі, яе арганізацыі, адміністрацыйных асобах, судовых органах, традыцыях, землекарыстанні, адносінах з ўладамі і інш.

Аснову даследавання склалі архіўныя матэрыялы (больш за тысячу адзінак захоўвання), якія былі выяўлены аўтарам у наступных архівасховішчах і рукапісных аддзелах бібліятэк Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны: Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску, Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродна, Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы, Архіве князёў Чартарыйскіх у Кракаве, Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве, Дзяржаўным архіве Польскай Рэспублікі на Вавелі ў Кракаве, Нацыянальным гістарычным архіве Украіны ў Кіеве, Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве, Архіве Інстытута гісторыі Расійскай акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу, Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў, аддзелах рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, бібліятэкі Варшаўскага універсітэта, бібліятэкі Вільнюскага універсітэта, бібліятэкі Польскай акадэміі навук у Кракаве, бібліятэкі Польскай акадэміі навук у Курніку, бібліятэкі імя Рачынскіх у Познані, Нацыянальнай бібліятэкі Літоўскай Рэспублікі, Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх у Вроцлаве, Нацыянальнай бібліятэкі імя У. І. Вярнадскага НАН Украіны, Львоўскай навуковай бібліятэкі імя В. Стэфаніка НАН Украіны, Расійскай нацыянальнай бібліятэкі.

Аўтарам выкарыстоўваліся таксама крыніцы, апублікаваныя ў зборніках дакументаў і матэрыялаў, выдадзеных ў XIX-XX стст. у Беларусі, Літве, Польшчы, Расіі, Украіне. Усяго было апрацавана больш за 140 тамоў зборнікаў апублікаваных дакументаў. Сярод важнейшых з іх можна адзначыць «Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов», «Акты, относящиеся к истории Западной Росии», «Акты Литовской Метрики», «Акты Литовско-Русского государства», «Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России», «Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси», «Архив Юго-Западной России», «Беларускі архіў», «Белоруссия в эпоху феодализма», «Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской», публікацыі Метрыкі ВКЛ, Статутаў ВКЛ і інш.

Найбольш паказальнымі крыніцамі са звесткамі аб дзейнасці грамады з'яўляюцца *велікакняжацкія (гаспадарскія) лісты, граматы і прывілеі*, адрасаваныя насельніцтву тэрытарыяльных ці сельскіх абшчын – воласцей і сёл, ці дзяржаўцам, старостам, велікакняжацкім намеснікам, выдадзеныя ў адказ на скаргі насельніцтва. Менавіта граматы сведчаць аб тым, што насельніцтва, якое ўваходзіла ў склад валаснай грамады, называлася «мужамі», «людзьмі», «валашчанамі». Тэксты грамат пацвярджаюць, што ўзначальваў грамаду старац, які выбіраўся абшчыннікамі. Некаторыя граматы змяшчаюць іншую інфармацыю аб жыцці грамады, аб характары землекарыстання, збору падаткаў, узаемаадносінах грамады з дзяржаўнымі чыноўнікамі і інш.

Велікакняжацкія (каралеўскія) лісты, граматы і прывілеі, накіраваныя на адрас пэўных сялянскіх абшчын, звычайна прадугледжваюць некаторыя льготы ў павіннасным ці падаткавым абкладанні для іх членаў. Звычайна ў разглядаемы час гэта былі лісты аб вызваленні ад паншчыны і пераводзе насельніцтва на чынш, вызваленні ад падводнай павіннасці, павіннасці гарадавой работы да т. п. У тых выпадках, калі граматы і лісты выходзілі як адказ на сялянскія скаргі, то найчасцей у іх аднаўлялася парушаная чыноўнікамі дзяржаўнай адміністрацыі «старына», рабіліся заўвагі часовым трымальнікам, а то і фармуляваўся тэкст новай граматы, дзе былі вызначаны асноўныя абавязкі і павіннасці сялянства.

Да вышэйзгаданай групы крыніц прымыкаюць граматы і лісты ўласнікаў да насельніцтва. Яны маюць у асноўным інфармацыйны характар, выдаваліся ад імя гаспадара ўладання і адрасаваліся грамадзе альбо проста ўсім жыхарам воласці, вёскі, маёнтка з паведамленнямі аб змене ўласніка, прызначэнні новага адміністратара, здачы ўладання ў арэнду ці трыманне, правядзенні нечарговых грашовых збораў і да т. п.

Звесткі аб дзейнасці важнейшага элемента абшчыннай арганізацыі – копнага суда, які дзяржава не толькі прызнала, але і замацавала заканадаўча. утрымліваюцца ў *Статутах ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг.* У Статутах ВКЛ, як і ў некаторых заканадаўчых актах Рэчы Паспалітай, змешчаных у зборніку «Volumina legum»[222], ёсць артыкулы, якія прама ці ўскосна сведчаць аб існаванні і пэўных функцыях грамады.

Паралельна многа звестак аб дзейнасці грамадскага копнага суда знаходзіцца сярод матэрыялаў, змешчаных у кнігах гродскіх і земскіх судоў, куды возныя ўносілі рэляцыі аб такіх судовых працэсах. У прыватнасці, публікацыі дакументаў аб дзейнасці копных судоў быў прысвечаны адмысловы том «Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі»[223].

Важнай крыніцай па гісторыі сялянскай грамады з'яўляюцца *інвентарныя апісанні* (інвентары, рэестры, вопісы, люстрацыі) феадальных уладанняў. Асноўнай мэтай складання інвентароў быў улік уласнасці феадала, а таксама вызначэнне рэнты, якая збіралася з залежнага насельніцтва. Інфармацыя, якая змяшчаецца ў такога роду дакументах, адрозніваецца ў залежнасці ад прычыны, па якой складаўся інвентар, а таксама ад катэгорыі ўладанняў. У залежнасці ад формы феадальнага землеўладання вылучаюцца тры іх асноўныя віды: інвентары дзяржаўных,

[222] Volumina legum. - T. II-IV.- Petersburg, 1859; - T. V-VIII.- Petersburg, 1860.

[223] АВК. -118: Акты о копных судах (1522-1707 гг).- 1891. -61, 574 с.

прыватных і царкоўных уладанняў.

Пры гэтым неабходна адзначыць, што ў інвентарах, як правіла, няма прамых указанняў на існаванне грамады. Звычайна ў іх утрымліваюцца ўскосныя сведчанні пра наяўнасць абшчыны ў вёсцы, калі адзначалася, што сяляне агулам узялі зямлю, агулам складваюцца і плацяць за яе і да т.п.

Часам, хаця і рэдка, інвентары змяшчаюць і прамую інфармацыю пра грамаду. Гэта залежала ад розных фактараў: ад таго, з якой мэтай складаўся інвентар, ад асобы пісара, які яго складаў, і інш. Так, у інвентарах, якія складаліся з нагоды продажу, падзелу, аддачы ў арэнду маёнтка, практычна нельга знайсці інфармацыю аб грамадзе. І наадварот, перыядычныя інвентары магнацкіх ці дзяржаўных уладанняў, якія складаліся для ўліку даходаў, больш часта змяшчалі звесткі пра грамаду.

Да таго ж для пісараў якія складалі інвентары феадальных уладанняў і асобных вёсак, існаванне грамады было такой паўсядзённай рэальнасцю, што не патрабавала спецыяльнага тлумачэння і ўнясення інфармацыі пра яе ў тэкст вопісу, з якой бы нагоды ён ні складаўся. Абсалютная большасць упамінанняў пра абшчыну звязана ці з парушэннямі ўнутры грамады, ці нováўвядзеннямі, ці скаргамі абшчыннікаў на кагосці і да т. п. Апісанняў «стандартнай» абшчыны, як у Расіі ў XVIII-XIX стст., у ВКЛ не было. Заўвагі адносна землекарыстання, кшталту «тую зямлю вёска здаўна агулам трымае», «уся грамада разам узяла», «уся грамада апрацоўвае», «уся вёска разам абрабляе», «за зямлю ўся грамада разам плаціць», «зямля на грамадзе» і да т.п. у дачыненні да пэўных зямельных масіваў несумненна сведчаць як аб наяўнасці ў гэтых вёсках элементаў абшчыннага землекарыстання, так і аб натуральнасці гэтай з'явы для рэвізора, камісара ці пісара. Тым больш, што ў такіх выпадках чынш альбо даніна накладваліся на ўсю вясковую грамаду разам, таму ўласніка цікавіла ў першую чаргу агульная сума сабраных грошай, а не тое, якім чынам яны збіраліся.

Асабісты фактар пры складанні інвентара таксама адыграваў значную ролю. Пісар, не вельмі абцяжараны работай, мог проста перапісваць мінулагодні інвентар, пакідаючы нязменным асноўны тэкст і мяняючы толькі лічбы ў тых выпадках, калі ў селяніна змяніліся памеры надзелу і адпаведна сума выплачваемага чыншу. Гэтым тлумачыцца тое, што сустракаюцца інвентары, дата напісання якіх адрозніваецца некалькімі гадамі, а змест амаль адзін і той жа. У іншых выпадках пісар мог дэталёва апісаць гаспадарчую сітуацыю ў кожнай вёсцы, адлюстраваўшы змены, якія адбываліся ў першую чаргу ў сферы сялянскага землеўладання і землекарыстання, адзначыўшы і месца грамады. Так, нярэдка інвентар складаўся пасля доўгага перапынку ці яго складаў чалавек, новы для гэтай мясцовасці, які запісваў усё, што для яго было новым, незвычайным, што яго найбольш уражвала. Такія інвентары дазваляюць убачыць дынаміку працэсаў, якія адбываліся ў тым ці іншым маёнтку ў дынаміцы.

Бывалі выпадкі, хаця і рэдкія, калі ў інвентарах дэталяваўся нават парадак распараджэння абшчыннымі землямі ці вызначаўся парадак раскладкі («разруба») павіннасцей і выплат унутры грамады. У асноўным такія звесткі змешчаны ў інвентарах сярэдзіны XVII-XVIII ст., у часы гаспадарчых заняпадаў, калі землеўласнік нават сам стымуляваў дзейнасць грамады ў вёсцы.

У інвентарах самых буйных *дзяржаўных уладанняў* – каралеўскіх сталовых эканомій (у ВКЛ гэта былі Гарадзенская, Берасцейская, Кобрынская, Магілёўская эканоміі на землях сучаснай Беларусі і Шавельская і Оліцкая – на землях Літвы)

звычайна змяшчаліся падрабязныя апісанні гаспадарскіх двароў і панскага заворвання, пералічваліся сялянскія гаспадаркі і фіксаваліся віды і памеры павіннасцей насельніцтва ў некалькіх дзесятках (а то і сотнях) вёсак, што належалі да гэтых уладанняў. Перапіс насельніцтва тут звычайна ажыццяўляўся па валасцях, якія прадстаўлялі своеасаблівыя ўнутрымаёнткавыя адміністратыўна-тэрытарыяльныя адзінкі, межы якіх звычайна супадалі з граніцамі тэрытарыяльных абшчын. Інфармацыя аб парадку адбывання сялянамі павіннасцей і іх памерах, наяўнасці ў асобных вёсках агульнага ворыва, зямель сумеснага карыстання, апісанне парадку выплаты чыншу і збору падаткаў і некаторыя іншыя звесткі, змешчаныя ў такіх інвентарах, з'яўляюцца надзвычай каштоўнымі пры спробах высвятліць узровень развіцця сельскай абшчыны ў дзяржаўных уладаннях.

Найбольш грунтоўнымі ў інфармацыйным сэнсе з'яўляюцца інвентары каралеўскіх эканомій, якія складаліся пры перадачы ўладанняў у арэнду. У такіх выпадках у інвентарах звычайна дакладна пералічвалася зямля, жылыя і гаспадарчыя пабудовы, залежнае насельніцтва (часта нават з указаннем складу сялянскай сям'і), падрабязна фіксаваліся ўсе сялянскія павіннасці. Мэтай арандатараў было атрыманне як мага большых прыбыткаў з уладання за час трымання, для землеўласніка ж было важным, каб і пасля завяршэння тэрміну арэнды маёнтак быў не ў горшым стане, чым да яе пачатку, а сяляне дастаткова забяспечанымі, каб у далейшым яны маглі весці пашыраную гаспадарку. Падрабязна складзеныя інвентары прызначаліся для таго, каб утрымаць рознага роду часовых трымальнікаў ад празмернага абцяжарвання падданых, а перад сялянскай грамадой часта прама ставілася задача сачыць за тым, каб дзяржаўца дакладна выконваў умовы трымання. У выпадку парушэнняў сяляне (альбо сялянскія абшчыны) мелі права, а ў некаторых выпадках нават былі абавязаны, аб чым сведчаць запісы ў інвентарах, паведаміць аб гэтым вярхоўнаму ўласніку зямлі.

Пры супастаўленні даных інвентароў аднаго і таго ж уладання за розныя гады ў некаторых выпадках можна прасачыць эвалюцыю развіцця грамады альбо хаця б дакладна ўпэўніцца аб яе існаванні. Часцей за ўсё прамых звестак аб грамадзе інвентары не змяшчаюць, але, напрыклад, пэўная колькасць ускосных сведчанняў у інвентары маёнтка аб наяўнасці ў вёсках сялянскіх складак, калектыўным землекарыстанні, зборах грошай на сумесную выплату падаткаў і да т.п. сведчыць аб тым, што абшчына там, несумненна, існавала.

Некаторыя інвентары падаюць даволі важныя звесткі аб сялянскай грамадзе, называючы яе функцыі пры збіранні падаткаў, правілы правядзення выбараў адміністрацыйных асоб грамады, карыстання агульнымі землямі, лясамі, рэкамі і азёрамі, аб узаемадапамозе аднавяскоўцаў пасля пажараў, неўраджаяў, стварэнні грамадскіх складаў («магазінаў»), адзначаюць факты падтрымкі сялянскай абшчыны з боку феадалаў у часы гаспадарчага аднаўлення пасля войнаў другой паловы XVII і пачатку XVIII ст.. аддачы пустуючых зямель сельскім грамадам у карыстанне з «долі ўраджаю» альбо за невялікі чынш, прызначаны для ўсяго сяла разам і да т.п.

Інвентары *прыватнаўласніцкіх маёнткаў* умоўна можна падзяліць на дзве групы: інвентары буйных магнацкіх уладанняў і інвентары маёнткаў сярэдняй і дробнай шляхты. Першыя ў нечым падобныя да інвентароў каралеўскіх эканомій: вылучаюцца поўным і грунтоўным апісаннем гаспадарчага становішча ўладання, відаў і памераў сялянскіх павіннасцяў, у некаторых выпадках змяшчаюць інфармацыю пра сельскую грамаду. Як і эканоміі, маёнткі магнатаў часта здаваліся

ў арэнду альбо кіраваліся праз спецыяльна прызначаную адміністрацыю. У абодвух выпадках землеўласнік часта выдаваў спецыяльныя інструкцыі для трымальнікаў і арандатараў, дзе не толькі агаворваліся ўмовы трымання, не толькі дакладна апісваліся павіннасці сялянства, але і фіксаваліся правы мясцовага насельніцтва: права падаваць скаргі, не выконваць павіннасці звыш зафіксаваных у інвентарах і інш.

Такога падрабязнага апісання распарадку ўнутранага жыцця вёскі, як правіла, не назіралася ў інвентарах уладанняў сярэдніх і дробных феадалаў. Прадстаўнікі дробнай і сярэдняй шляхты звычайна жылі непасрэдна ў сваіх маёнтках і самі вырашалі тут гаспадарчыя справы, добра ведалі сітуацыю і таму ў іх не было неабходнасці ў складанні інвентароў. Інвентары такіх маёнткаў складаліся ў асноўным пры пераходзе маёнтка да іншага ўладальніка (продаж, застава, дарэнне і да т.п.).

*Інвентары царкоўных уладанняў.* Блізкім па структуры да дзяржаўных з'яўляюцца інвентары царкоўных уладанняў (у асноўным уласнасць каталіцкай, праваслаўнай і уніяцкай цэркваў). Царкоўныя ўласнікі з прычыны даволі частых прэтэнзій з боку прыватных феадалаў надавалі вялікую ўвагу захоўванню дакументаў, якія датычыліся зямельнай уласнасці. Таму ў архівах нярэдка можна сустрэць цэлыя комплексы дакументаў аб царкоўных уладаннях: ад асобных актаў, што сведчаць аб тым, якім шляхам тое ці іншае ўладанне апынулася ў руках духоўных феадалаў, да цэлых зборнікаў інвентароў, што адлюстроўваюць становішча залежнага насельніцтва на працягу дзесяткаў гадоў, а то і стагоддзяў. Асаблівасцю ўладанняў Віленскага каталіцкага біскупства на тэрыторыі Беларусі было тое, што яны часта здаваліся ў арэнду ці знаходзіліся ў кіраванні спецыяльна нанятых адміністратараў (аканомаў). Таму ў інвентарах такіх уладанняў дастаткова падрабязна былі зафіксаваны павіннасці і некаторыя правы сялянства, а ў некаторых выпадках – абавязкі абшчыннай адміністрацыі ці нават усёй грамады.

*Гаспадарчыя рахункі фальваркаў (дваровыя рахункі)* – запісы фактычных расходаў і прыбыткаў канкрэтнага маёнтка (двара). Звычайна яны складаліся на працягу гаспадарчага года. Большасць рахункаў захавалася ў складзе інвентарных апісанняў як дадатак да іх ці як эканамічнае падсумаванне вынікаў гаспадарчага функцыянiравання фальварка. Вядомы як паасобныя дакументы, так і цэлыя зборнікі рахункаў аднаго і таго ж двара за даволі працяглы тэрмін часу. У рахунках звычайна адзначаліся засевак, колькасць прадукцыйнай і цяглавай жывёлы, улічвалася ўраджайнасць, вёўся дакладны ўлік расходу збожжа і жывёлы. У некаторых выпадках тут можна знайсці факты выдачы (пазыкі) адміністрацыяй маёнткаў пад час неўраджаяў ці стыхійных бедстваў сялянам зерня, цяглавай ці прадукцыйнай жывёлы. Такая дапамога, як правіла, выдавалася персанальна, аб чым і рабіўся адпаведны запіс – рэестр пазыкі. Да некаторых дваровых рахункаў прыкладзены распіскі тых, хто атрымаў пазыку ці забеспячэнне з боку двара. У месцах, дзе грамада мела высокую вагу, альбо там, дзе па нейкіх прычынах адміністрацыя мела адносіны не з асобнымі гаспадарамі. а з абшчынай, вышэйзгаданая пазыка давалася «на грамаду», а адпаведныя распіскі ад імя грамады падпісваў старац альбо войт.

Ва ўладаннях, дзе грамада амаль поўнасцю кантралявалася феадальным уласнікам, яе адміністрацыйныя асобы часцей за ўсё атрымлівалі забеспячэнне (аплату) за службу на карысць двара. Пацвярджаецца гэта і запісамі расходаў двара, калі ўказаны выплаты на войта, старца, а то нават і на паборцаў ці дзесятнікаў.

Вельмі блізкімі да інвентароў і гаспадарчых рахункаў фальваркаў па свайму прызначэнню і зместу з'яўляюцца *люстрацыі феадальных уладанняў*. Люстрацыі характэрны ў асноўным для дзяржаўных уладанняў і латыфундый Віленскага каталіцкага біскупства, якое часта, як і дзяржава, здавала свае маёнткі ў трыманне іншым асобам альбо вяла гаспадарку праз спецыяльна прызначаных адміністратараў і таму пры арганізацыі гаспадарання часта карысталася дзяржаўным досведам. Люстрацыі складаліся падчас рэвізій гаспадарчага стану ўладанняў.

Мэтай люстрацый было не апісанне гаспадарчага становішча ўладання, а вызначэнне памераў даходаў, якія можна было атрымаць з яго. Таму гэтыя дакументы звычайна больш лаканічныя, чым інвентары і рахункі. Разам з тым у некаторых выпадках тут змяшчаецца інфармацыя аб існаванні і дзейнасці сялянскай абшчыны, якой мы не сустракалі ў іншых відах крыніц. Так, некаторыя люстратары (асабліва тыя, хто быў высланы на люстрацыю ў незнаёмы для яго рэгіён), прыводзячы лічбы даходаў, занатоўвалі і тое незнаёмае, спецыфічнае, што найбольш кідалася ім у вочы, – у першую чаргу мясцовыя асаблівасці, традыцыі, у тым ліку і ў дачыненні да сялянскай абшчыны. Сярод такіх запісаў знаходзяцца занатоўкі аб арганізацыі сялянскага землекарыстання ў маёнтку (наяўнасць грамады звычайна падкрэслівалася), аб сумеснай выплаце данін, падаткаў і грашовай рэнты. Менавіта ў люстрацыйных дакументах нам удалося выявіць некалькі цікавейшых апісанняў выбараў кіраўнікоў сялянскіх абшчын.

*Уставы сялянам* існавалі як у якасці дадаткаў да тэкстаў некаторых інвентароў, так і як самастойныя акты. Яны зыходзілі звычайна ад імя ўласніка маёнтка і з'яўляліся дакументамі, якія вызначалі формы і памеры феадальнай рэнты, рэгулявалі гаспадарчае, а ў некаторых выпадках і грамадскае жыццё ва ўладанні. Тут, хоць і рэдка, сустракаюцца распараджэнні, адрасаваныя сельскай абшчыне, напрыклад, правілы выбараў яе кіраўніка і службовых асоб грамады, рэкамендацыі аб парадку і правілах раскладкі і збору чыншу і платы, прызначаных для ўсёй грамады, альбо складак на грамадскія патрэбы, умовы карыстання грамадскімі землямі да т. п. Аналіз уставаў дазваляе прасачыць змяненні, якія адбываліся ў эканамічным і часткова сацыяльным становішчы насельніцтва, вызначыць ролю сельскай грамады ў штодзённым жыцці вёскі.

*Інструкцыі і распараджэнні для трымальнікаў ці адміністрацыі ўладанняў* звычайна змяшчаліся ў якасці дадаткаў да інвентароў, хаця маглі існаваць і як асобныя дакументы. Яны характэрныя ў асноўным для магнацкіх уладанняў, але сустракаюцца і сярод дакументацыі маёнткаў Віленскага каталіцкага біскупства і некаторых дзяржаўных уладанняў. У архівах князёў Радзівілаў захаваліся цэлыя зборнікі гаспадарчых інструкцый як для розных уладанняў, так і для аднаго маёнтка за некалькі гадоў. Распаўсюджаныя ў асноўным у XVIII ст., інструкцыі змяшчалі распараджэнні землеўласнікаў адносна арганізацыі гаспадарання, адносін адміністрацыі з падданымі, у іх вызначаліся абавязкі сялян па выкананню работ ва ўладанні. У некаторых выпадках сустракаліся распараджэнні на адрас грамады ці на адрас адміністрацыі аб яе адносінах з грамадой. Інфармацыя ў такіх інструкцыях па аб'ёму звычайна невялікая, але вельмі змястоўная. Яе аналіз дазваляе ўбачыць надзённыя праблемы жыцця канкрэтнага ўладання, выявіць яго спецыфічныя рысы ў параўнанні з сітуацыяй у іншых рэгіёнах краіны ці іншых відах землеўладання, у тым ліку і ролю грамады ў штодзённым жыцці

маёнтка.

Сярод відаў крыніц асабліва вылучаюцца *сялянскія скаргі (суплікі)*. Гэта ішны з тагачасных дакументаў які зыходзіць непасрэдна ад імя феадальназалежнага насельніцтва. Больш за ўсё сустракаецца скаргаў дзяржаўных сялян, а таксама царкоўных падданых. Шляхам «суплікавання» сяляне гэтых уладанняў рэалізоўвалі сваё законнае права звяртацца са скаргамі да вярхоўнага ўласніка зямлі. Тлумачыцца гэта тым, што дзяржаўныя і царкоўныя ўладанні часта знаходзіліся ў трыманні розных асоб, якія для павелічэння даходнасці падчас трымання значна павышалі ўстаноўленыя раней падаткі і павіннасці, што спаганяліся з насельніцтва. Таму сялянскія скаргі фактычна з'яўляліся легальнай формай барацьбы сялянства супраць павіннасна-падатковага ўціску. Такога права не было ў прыватнаўласніцкіх сялян (акрамя выключэнняў, якія, напрыклад, рабіў землеўласнік для сялян сваіх уладанняў, што здаваліся ў заставу ці арэнду), таму, зразумела. іх скаргі сустракаюцца больш рэдка.

Пераважная колькасць сялянскіх скаргаў зыходзіла ад імя сяла, воласці, грамады (хаця сустракаюцца і індывідуальныя суплікі сялян, у тым ліку і са скаргамі на грамаду) і часта падпісвалася кіраўнікамі абшчыны. Гэтыя матэрыялы сведчаць як пра існаванне абшчыны на разглядаемай тэрыторыі, так і пра тое, што пры абароне сваіх правоў сяляне звычайна выступалі калектыўна, грамадой. Паметкі, якія рабіў землеўласнік ці камісар на тэкстах скаргаў, адлюстроўваюць рэакцыю феадальнага ўласніка на розныя крыўды сваіх падданых, паказваюць яго адносіны да абшчыны.

У спалучэнні з іншымі дакументамі суплікі дазваляюць убачыць рэальнае (з пункту гледжання самога сялянства) становішча сялянскай абшчыны ў вёсцы, узаемаадносіны ўнутры абшчыны і дачыненні абшчыны з феадальнай адміністрацыяй, з карчмарамі і гандлярамі, з насельніцтвам суседніх вёсак. У некаторых выпадках у сапліках указваюцца прычыны сялянскіх уцёкаў з уладання, высвятляюцца некаторыя пытанні тагачаснай сялянскай этыкі, міжполавых паводзін, норм сямейнага жыцця, адносін сялянства да касцёла і царквы, захавання язычніцкіх перажыткаў у штодзённым жыцці простага насельніцтва і многія іншыя пытанні. Часта простая, пабытавая інфармацыя, што ўтрымліваецца ў сялянскіх скаргах, дазваляе больш дэталёва разглядзець становішча ў вёсцы, убачыць тыя бакі жыцця грамады, якія ніякія афіцыйныя дакументы не асвятляюць.

*Карэспандэнцыя (перапіска) феадалаў* са сваёй адміністрацыяй, аканомамі і служачымі па гаспадарчых пытаннях якасна дапаўняе заканадаўчыя, гаспадарча-ўліковыя дакументы і матэрыялы. Перапіска дзяржаўных ці прыватных асоб часта дазваляе лепш зразумець некаторыя рашэнні, прынятыя імі пры правядзенні тых ці іншых гаспадарчых і сацыяльных мерапрыемстваў, убачыць рэальную ацэнку становішча падданых з боку феадалаў і іх адміністрацыі, а ў некаторых выпадках і адносіны да сялянскай абшчыны.

*Пабаровыя рэестры (падымнае, чопавае, гіберна і г. д.)*. У некаторых выпадках захаваліся дакументы (распараджэнні, квіты, распіскі, запісы і да т. п.) аб парадку збірання з воласці альбо вёскі пабораў і іх сумах. Удалося выявіць некалькі распісак аб адабранні падаткаў, выдадзеных на імя грамады, высвятліць, што зборам падаткаў з насельніцтва вёскі часта займаліся асобы, якія спецыяльна для гэтага выбіраліся грамадой.

Такім чынам, на падставе вышэйвыкладзенага можна зрабіць вывад аб наяўнасці даволі шырокай крыніцазнаўчай базы, якая дазваляе правесці дастаткова глыбокае вывучэнне гісторыі сельскай абшчыны ў розных відах феадальнага землеўладання ў Беларусі ў XVI-XVIII ст ст.

# 2

## АБШЧЫНА Ў АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЙ СТРУКТУРЫ І СУДОВАЙ СІСТЭМЕ НА ЗЕМЛЯХ БЕЛАРУСІ Ў ХУІ-XVIII стст.

### 2.1. Грамада ў структуры адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Вялікага княства Літоўскага ў канцы XV - XVI ст.

У разглядаемы час ВКЛ з'яўлялася феадальнай манархіяй, на чале якой стаяў гаспадар (вялікі князь). Вялікі князь быў вярхоўным уласнікам зямлі ў дзяржаве, таму ў рознай ступені залежнасці ад яго (і ад дзяржавы, якую ён атасаямляў у сваёй асобе) знаходзілася практычна ўсё насельніцтва краіны, асабліва людзі простага стану, сяляне і гараджане.

Асноўнымі відамі феадальнага землеўладання ў ВКЛ ранняга сярэднявечча былі вотчына і выслуга. Вотчына – гэта ўладанне пэўнага роду, «гэта здабытак роду ў непасрэдным сэнсе гэтага слова»[224], якое перадавалася па спадчыне. Выслугага давалася за службу вялікаму князю і належала не роду, а толькі атрымальніку выслугі[225]. Хаця вотчына была больш старажытнай за выслугу, паступова, да сярэдзіны XVI ст., вотчына ў сферы феадальнага землеўладання пачала саступаць выслузе. Як адзначыў А. І. Груша, «першапачаткова ўплыў вотчыны на іншыя віды землеўладання з'яўляўся настолькі моцным, што, напрыклад, велікакняжацкія выслугі спачатку даваліся «ў вотчыну». Спадкаемцы атрымальніка ў выслуг таксама пашыралі на гэтую выслугу ўяўленне пра яе як вотчыну. І толькі пры вялікіх князях Казіміры і Аляксандры дараванні перасталі атасаямляцца зрадавымі ўладаннямі і ператварыліся ў маёмасць, якую можна было адчужаць без абмежаванняў з боку роду. З Аляксандра зямельныя раздачы «ў вотчыну» амаль спыняюцца (спарадычна яны сустракаюцца і пры Жыгімонце Старым)»[226].

Дзяржава як землеўласнік, і вялікі князь як яе галоўны адміністратар і кіраўнік заўсёды імкнуліся найбольш поўна падпарадкаваць сабе ўсю тэрыторыю краіны і як мага больш дакладна ўрэгуляваць сістэму падатковага і павіннаснага абкладання насельніцтва. Разам з умацаваннем дзяржавы і правядзеннем палітыкі нэйтралізацыі дзяржаўнага кіравання паступова змяняўся адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел ВКЛ. Як адзначаў Я. А. Юхо, на пачатку ўтварэння ВКЛ «дзяржаўны лад характарызаваўся дзяленнем яго на дзве часткі: цэнтральную (галоўную) і землі мяжуючыя («прыслухоўваючыя»). Спачатку адносіны паміж ядром і мяжуючымі землямі будаваліся на асабістай залежнасці князёў асобных

[224] Груша, А. І. «И привильем своим подтвердил»: у вытокаў пісьмовай культуры Вялікага кн-ва Літоўскага / А. І. Груша // Памяць стагоддзяў на карце Айчыны. Зборнік навуковых прац у гонар 70-годдзя Міхаіла Фёдаравіча Спірыдонава. - Мінск: Беларус. навука, 2007. - С. 199.

[225] Тамсама. – С 200.

[226] Тамсама. – С201-202.

зямляў ад вялікага князя, г. зн. на аснове сюверэнітэту – васалітэту. У XV ст. буйныя васальныя княствы былі пераўтвораны ў ваяводствы або паветы, у якіх кіравалі наместнікі вялікага князя – ваяводы і старасты»[227].

Цэнтральную частку ВКЛ складалі Ашмянская, Браслаўская. Берасцейская, Віленская, Вількамірская, Ваўкавыская, Гарадзенская, Клецкая, Кобрынская, Капыльская, Лідская, Менская, Мсціслаўская, Нясвіжская, Наваградская, Пінская, Рэчыцкая, Слонімская, Слуцкая, Трокская, Тураўская і Упіцкая землі, якія ў гістарычных дакументах мелі агульную назву – Літва.

Прыслухоўваючымі лічыліся Падляшша, Валынь, Падолле, Кіеўшчына, Чарнігава-Северская, Смаленская, Віцебская, Полацкая землі і Жмудзь.

Заўважна, што характар і змест сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у пэўных рэгіёнах і становішча ў іх сельскай грамады залежалі не толькі ад эканоміка-геаграфічных фактараў, а і ад палітычнай ролі, якую адыгрывала тая ці іншая тэрытарыяльная адзінка (княства, зямля) у жыцці ВКЛ, і ад таго, каму яна належала (вялікаму князю, прыватным ці царкоўным уласнікам). Напрыклад, Падняпроўскія, Падзвінскія землі і землі Чорнай Русі (Навагародак, Ваўкавыск, Слонім, Здзітаў і Гародня) сталі ўласнасцю вялікага князя[228]. Менавіта на гэтых землях праходзілі найбольш значныя гаспадарчыя і сацыялыныя пераўтварэнні, якія паўплывалі на агульную сітуацыю ў краіне.

На працягу XIV-XV стст. адміністрацыйнымі цэнтрамі феадальных уладанняў (княстваў, зямель. вотчын) з'яўляліся гарады, якія выконвалі ролю абарончых, рамесных, гандлёвых і адміністрацыйных цэнтраў. Часта гарады, мястэчкі ці найбольш значныя сельскія населеныя пункты феадальнага ўладання з'яўляліся і цэнтрамі тэрытарыяльных абшчын. Невялікія мястэчкі звычайна складалі агульную адміністрацыйную адзінку з сельскай воласцю і выконвалі тыя ж самыя павіннасці на карысць скарбу, што і сельскія жыхары – валашчане[229]. Часта цэнтрам воласці быў цэнтральны горад княства, зямлі, уладання. Як адзначаюць даследчыкі, нягледзячы на цэнтралізатарскую палітыку вялікіх князёў літоўскіх, на славянскіх землях ВКЛ «захаваўся папярэдні ўнутраны падзел на воласці і паветы»[230]. Кожная вотчына, зямля магла налічваць у сваім складзе некалькі састаўных частак – валасцей.

У гістарыяграфіі існуе меркаванне аб тым, што ўперыяд да ўтварэння ВКЛ сам «факт існавання простых і больш складаных тэрытарыяльных абшчын пераканаўча пацвярджаецца сведчаннямі летапісаў і юрыдычных помнікаў, якія адносяцца да X-XIII стст., а менавіта ўпамінаннямі ў іх сёл, весяў, вервяў, пагостаў і валасцей»[231]. М. Н. Ясінскі, на наш погляд, вельмі абгрунтавана змог даказаць, што «вервь» і «сяло» часоў Рускай праўды былі, хутчэй за усе, «проста тэрытарыялынай абшчынай, дастаткова аднароднай, альбо тоеснай, з сельскай абшчынай XV-XVI і

[227] Юхо, Я А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі / Я.А. Юхо. - Мінск: Універсітэцкае, 1992. - С.72.

[228] Хорошкевич, А. Л. Исторические судьбы белорусских и украинских земель в XIV – нанале XVI в. / А. Л. Хорошкевич // Пашуто В. Т., Флоря Б. Н., Хорошкевич А. Л Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. - М: Наука, 1982. - С. 72-73.

[229] Łowmiański, H. Wchody miast litewskich / H. Łowmiański, M. Łowmiańska. Dwa doktorat): Uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie. H. Łowmiański. Wchody miast litewskich; M. Łowmiańi Wihio przed najazdem moskiewskim 1655 roku. - Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2005. – C. 27.

[230] Хорошкевич, А. Л. Исторические судьбы белорусских и украинских земель в XIV – начале XVI в.- С 72; Грушевский А. С. Господарские уставы о доходах наместников-державцев / А. С. Грушевский.- Петроград: Сенат, типография, 1916. - С 19-20.

[231] Ясинский, М. Н. «Село» и «вервь» Русской Правды / М. Н. Ясинский // Записки Наук, товариства імені Шевченка, 1906. - Т. 70. - Кн. 2. - С.1.

наступных стагоддзяў, інакш гаворачы, сялому нашым сэнсе»[232]. Пагосты і воласці, на думку гэтага даследчыка, уяўлялі сабой саюзы простых тэрытарыяльных абшчын[233].

З улікам як вышэйсказанага, так і сведчанняў пазнейшых пісьмовых крыніц можна выказаць меркаванне, што тэрмінам «воласць» у часы ВКЛ эпохі феадалізму абазначаліся тэрытарыяльныя абшчыны розных памераў (ад аднаго да некалькіх дзесяткаў сёл). Магчыма, яны па свайму паходжанню звязаны з сельскімі абшчынамі, якія ўтварыліся на стадыі распадзення першабытнага грамадства і фарміравання раннефеадальнай дзяржавы. Зусім верагодна, што і ў справе захавання сялянскай самаарганізацыі – абшчыны дзейнічаў вядомы лозунг непарушнасці традыцый, які выказваўся вялікімі князямі літоўскімі – «новин не уводити, старины не рухати». У ходзе цэнтралізацыі дзяржавы ўлада не проста захавала ніжэйшыя адміністрацыйныя структуры (воласці), але і пастаралася ўключыць іх у новы адміністрацыйны падзел, паставіўшы на чале іх дзяржаўных ураднікаў. Так, мястэчкі разам з воласцю падлягалі ўладзе намесніка-дзяржаўцы, а «ў рускіх Падняпроўскіх і ўкраінных валасцях, дзе існавалі выбарныя ўлады, яны былі сумесныя для горада і воласці»[234].

Як вядома, адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне ВКЛ у XIII-XIV стст. характарызавалася ў асноўным захаваннем старых граніц, якія існавалі паміж асобнымі княствамі яшчэ да ўтварэння ВКЛ. Пасля Гарадзельскай уніі 1413 г. Віленская і Трокская часткі ВКЛ фактычна былі пераўтвораны ў ваяводствы, у склад якіх увайшлі некаторыя былыя ўдзельныя княствы. Ваяводствы падзяляліся на паветы, а яны, у сваю чаргу, складаліся з валасцей. Але строгай аднастайнасці не існавала. Былі выпадкі, калі воласці фактычна супадалі з паветамі, на Полаччыне воласці падзяляліся на станы, а станы на дзясяткі. (На ўсходзе Беларусі нават у XVIII ст., як сведчаць дакументы, заставаліся і іншыя архаічныя, адрозныя ад агульнапрынятых у дзяржаве адміністрацыйныя адзінкі, што аўтар адзначыць у адпаведным раздзеле.)

Больш актыўна праходзіў адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел краіны і пачатку XVI ст.: ствараюцца Віцебскае (1503 г.), Полацкае (1504 г.), Наваградскае (1507 г.) ваяводствы. Пасля адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы 1565 г. на тэрыторыі Беларусі існавалі ваяводствы: Берасцейскае (Берасцейскі і Пінскі паветы), Віцебскае (Віцебскі і Аршанскі паветы), Менскае (Менскі і Рэчыцкі паветы), Наваградскае (Наваградскі, Ваўкавыскі і Слонімскі паветы), Мсціслаўскае (Мсціслаўскі павет), Полацкае (Полацкі павет). У склад Віленскага ваяводства былі ўключаны Ашмянскі, Браслаўскі і Лідскі паветы, а ў Трокскае – Гарадзенскі павет. Адзначым, што ўсе гэтыя змяненні не паўплывалі на тое, што ў дзяржаўных, прыватных і царкоўных уладаннях заставаўся падзел на воласці – традыцыйныя тэрытарыяльна-адміністрацыйныя адзінкі, якія адлюстроўвалі плошчу размяшчэння і дзейнасці сельскай абшчыны.

У гістарыяграфіі выказвалася меркаванне, на якое звычайна спасылаюцца даследчыкі, аб тым, што падчас княжання вялікага князя Вітаўта ў ВКЛ адбылася першая спроба звесці разам усе павіннасці насельніцтва, што выконваліся на

---

[232] Тамсама. - С. 21-22.

[233] Тамсама. - С. 23.

[234] Łowmiański, H. Wchody miast litewskich. - С. 28.

карысць велікняжацкага двара[235]. У якасці адзінкі павіннаснага і падаткавага абкладання была ўзята гаспадарка, якая вялася асобнай індывідуальнай сям'ёй (гэта быў час найбольшага распаўсюджання не малых нуклеарных, а вялікіх складаных сем'яў). Дадзеная адначасова фіскальная і гаспадарчая адзінка атрымала назву «служба». В. Камянецкі выказваў меркаванне аб тым, што «адна сялянская гаспадарка спачатку адпавядала паняццю адной сям'і (і нават аднаго чалавека), адной зямлі, сялыцу. жэрабю ці дворышчу, таму і служба адпавядала ўсім тым тэрмінам і паняццям»[236]. Усё, што адпраўлялася на карысць дзяржавы ці вялікага князя з дадзенага ўладамі надзелу (грашовыя платы, даніна, работы, вайсковыя ці спецыяльныя паслугі), мела агульную назву «служба». Гэтая назва аўтаматычна пераходзіла і на надзел, з якога названыя службы выконваліся. Такім чынам, можна выказаць меркаванне, што служба XV ст. не з'яўлялася пазямельнай адзінкай, як у XVI ст. валока ці дакладна вымераныя службы на ўсходзе Беларусі. У XV ст. «службе» магла адпавядаць самая розная колькасць зямлі. Службы маглі адрозніваццa па памерах не толькі ў розных рэгіёнах ВКЛ, а нават у межах аднаго населенага пункта. Між тым улады імкнуліся прытрымлівацца нейкай сярэдняй нормы ў зямельных наданнях шляхце, таму размешчаныя побач гаспадаркі атрымлівалі спачатку прыблізна аднолькавую колькасць зямлі, ды і службы-павіннасці прызначаліся з улікам нейкага сярэдняга надзелу.

Памеры службы-надзелу часта залежалі як ад аб'ектыўных (месцапалажэнне, якасць зямлі і да т. п.), так і ад суб'ектыўных (воля манарха, жаданне кагосьці выдзеліць над іншымі, няведанне рэальных памераў надаваемага надзелу і да т. п.) фактараў. Яскравым сведчаннем таму, што служба абазначала менавіта людзей і іх павіннасці, з'яўляецца ліст вялікага князя Жыгімонта князю Федару Масальскаму ад 23 чэрвеня 1511 г. на 50 службаў людзей у Жароcлаўскай воласці Гарадзенскага павета. Кожная служба была названа па імені трымаўцаў: «...на имя Лаврина Макаровича з братом,... Нестера Ермолича з братею ... Панка Семеновича з братаничом, ... Пашка Мелеховича з дядьковичи...»[237] Цікавасць уяўляюць заключныя словы ліста, калі вялікі князь загадаў, каб выслалі намесніка гарадзенскага старасты, а таксама «сотников и сорочников тамошних и они тых людей пятдесят служоб и три земли пустовских князю Федору отвели... А потом деи твоя м(и)л(о)сть сам там выехавши и осмотрел тых людей и отнял был ее в него колкое ч(о)л(о)в(е)ков, рекомо бы он болшеи занял людей, нижли как ему заведено пятдесят служоб»[238]. Падагульняючы выкладзенае вышэй, можна зрабіць вывад аб тым, што ў фіскальным сэнсе «служба» аб'ядноўвала ўвесь комплекс павіннасцей і падаткаў, якія прызначаліся з гаспадаркі пэўнай сям'і ці некалькіх сем'яў, а ў гаспадарчым плане служба не ўяўляла сабой зямельнага надзелу дакладна вызначанай плошчы, хаця яе памеры набліжаліся да нейкага сярэдняга стандарта. Дарэчы, складальнікі «Уводзін» да 8-й кнігі судных спраў Метрыкі ВКЛ (1533-1535 гг.) спецыяльна звярнулі ўвагу на тое, што Ю. Юргініс і для сярэдзіны XVI ст. вызначаў, што «служба – гэта аб'яднанне некалькіх сем'яў, звязаных агульнасцю

[235] Kamieniecki, W. Rozwój własności na Litwie w dobie przed I Statutem (Studia historyczno-gpodarcze) / W. Kamieniecki. - Kraków : Nakładem Akademii Umiejętności, 1914. - S. 85.

[236] Ibidem.

[237] LM-25.- P. 98.

[238] LM-25.- P. 99.

феадальных павіннасцяў»[239]. Гэтая думка пацвярджаецца і афіцыйнымі матэрыяламі, якія выходзілі з канцылярыі ВКЛ. Так, у сеймавай пастанове 1568 г. аб наборы на земскую абарону служба і валока называюцца як дзве розныя адзінкі абкладання: валока – адлюстроўвала дакладны зямельны надзел, а служба – гаспадаркі (дымы), якія выконвалі пэўную службу (баярскую, цяглую, спецыяльную) на карысць дзяржавы. Заканадаўца ведаў гэтую розніцу і нават не спрабаваў «перавесці» службы на валокі (калі б служба абазначала зямельны надзел, зрабіць гэта было б вельмі проста і выгадна). Больш за тое, у згаданай пастанове тлумачылася: «ведь же службы литовские так мают быти розумены и покладаны: в одну службу три дымы..»[240]

У прымяненні да тэмы дадзенага даследавання важна ўсведамленне таго, што прыблізна ў першай трэці XV ст. у ВКЛ праз увядзенне службы адбыўся першы этап індывідуалізацыі сістэмы падатковага і павіннаснага абкладання. Гэта вяло да пэўнага адасаблення насельніцтва, якое да гэтага часу здавала даніну і выконвала павіннасці ў асноўным толькі супольна, грамадой. Служба магла быць «цяглай» (работы ці даніна) або спецыяльнай, якая называлася па асноўнай павіннасці насельніцтва (баброўніцкая, цяслярская, стралецкая, асочніцкая і да т.п.).

Разам з тым насельніцтва, у складзе служб ці без іх, па-ранейшаму заставалася ў складзе адной тэрытарыяльнай абшчыны, якую тагачасныя дакументы называлі тэрмінам «воласць». Нягледзячы на тое што правядзенне ў сярэдзіне XVI ст. валочнай памеры з выдзяленнем зямельных надзелаў канкрэтным сялянскім сям'ям і вызначэннем для іх дакладных павіннасцей прывяло да другога этапу індывідуалізацыі сацыяльна-эканамічнага жыцця на вёсцы, воласць аказалася своеасаблівай аб'яднальніцай насельніцтва, у першую чаргу ў яго супрацьстаянні з дзяржавай і землеўласнікамі. Да таго ж воласць стала паказчыкам пэўных стандартаў у арганізацыі абшчыннага жыцця на тэрыторыі Беларусі. Як на захадзе, так і на ўсходзе асобныя сельскія абшчыны афіцыйна былі ўключаны ў склад значна большых тэрытарыяльных арганізацый – валасных абшчын ці проста «валасцей». Калі ў XVI ст. фактычна завяршылася афармленне адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання дзяржавы (ваяводства– павет), воласць як тэрытарыяльная адзінка (частка павета) у большасці выпадкаў працягвала супадаць з воласцю-абшчынай, незалежна ад таго, у складзе дзяржаўнага, прыватнага ці царкоўнага ўладання яна знаходзілася. У гэтым, на наш погляд, выразна праявілася як імкненне землеўласнікаў уключыць грамаду ў рэальна існуючыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя структуры – воласці, так і вымушанае прызнанне ўладамі права грамады на існаванне як самаарганізаванай грамадска-тэрытарыяльнай супольнасці. Воласці ў гэты час, па справядліваму меркаванню В. Насевіча, з'яўляліся асноўнымі структурнымі адзінкамі грамадства і дзяржавы[241].

Такім чынам, з XVI ст. тэрмін «воласць» ужываўся як для абазначэння абшчыннай структуры, якая размяшчалася на пэўнай тэрыторыі, так і для назвы самой гэтай тэрыторыі. Да таго ж «воласць» стала і тэрмінам фіскальным, прызначаным ужо не для індывідуальнага, а для калектыўнага, грамадскага абкладання. Якраз для воласці, валасной грамады вызначаліся сумесныя выплаты і

---

[239] Лазутка, С. Введение / С. Лазутка, И. Валиконите, И. Синкевичюте // Введение. LM-8-S. - S. LXXXI.

[240] LM-531.-P. 108.

[241] Носевич, В. Л. Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе / В. Л Носевич. - Минск: Тэхналогія, 2004. - С. 56.

даніна на карысць дзяржавы ці асобных феадалаў. Увядзенне службы і валокі вяло да большай індывідуалізацыі насельніцтва, у першую чаргу ў справе павіннаснага і падаткавага абкладання. Валасная прывязка, наадварот, некалькі ўзмацняла абшчынныя традыцыі, а дзяржава з яе дапамогай гарантавана атрымлівала даніну, падаткі і да т.п.

Да сярэдзіны XVI ст. сельскае і гарадское насельніцтва воласці як на захадзе, так і на ўсходзе Беларусі звычайна складала аб'яднаную гаспадарчую і павіннасную адзінку. (Гарады, якія атрымалі магдэбургскае права, былі ўжо незалежнымі ў тым ліку і ад тэрытарыяльнай арганізацыі, валодалі правам самакіравання і судовым імунітэтам.) У гэты час гандаль і рамяство яшчэ не сталі асноўным відам гаспадарчай дзейнасці большасці жыхароў гарадоў і мястэчак. У горадзе, як і ў вёсцы, значнымі, а то і пераважаючымі былі заняткі сельскагаспадарчай дзейнасцю, што гарантавала забеспячэнне сялян і гараджан асноўнымі прадуктамі харчавання. Дарэчы, такая з'ява была характэрнай для гарадоў і мястэчак ВКЛ нават у пазнейшы час[242]. Таму, напрыклад на Магілёўшчыне да сярэдзіны XVI ст. горад ці замак не быў для насельніцтва воласці цэнтрам гаспадарчага жыцця, а галоўным чынам месцам размяшчэння адміністрацыі воласці, пунктам, куды прывозілася прызначаная на воласць даніна[243]. Толькі ў XVI ст. пачаўся працэс актыўнага выдзялення мястэчак і гарадоў з воласці, пра што выразна сведчаць дакументы аб спрэчках гарадскіх і сельскіх абшчын наконт зямель і ўгоддзяў агульнага карыстання, так званых увходаў[244].

Насельніцтва, якое складала тэрытарыяльную абшчыну, называлася «мужамі», «людзьмі», «валашчанамі». Акрамя таго, яно мела агульную саманазву па назве зямлі, дзе пражывалі, ці па назве адміністрацыйнага цэнтра воласці («магілёўцы». «палачане», «мазыране», «рэчычане» і да т. п.). Жыхары горада і воласці звычайна не толькі разам выплачвалі падаткі ці адраблялі павіннасці на карысць дзяржавы, але і сумесна карысталіся землямі і ўгоддзямі, разам супрацьўляліся ўціску з боку ўраднікаў і вялікакняжацкіх намеснікаў, падавалі сумесныя скаргі. Напрыклад, у 1565 г. чачэрскія мяшчане і валашчане разам не толькі дабіліся таго, што вялікі князь вызваліў іх ад даніны на старасту звыш уставы, але і атрымалі кампенсацыю за раней незаконна адабранае: «Приходили здеся до нас подданые наши мещане и волощане Чечерские войт Потап с места, а з волости Никон Грунко сами от себя и ото всее брати своее жалуючи о том, што дей вы
им великие кривды чините, волы, яловицы, бараны, вепры и гуси в них Уставою берете на што мы вам Уставы не давали, абы в них беручи и им водле Уставы платили... Приказуем вам што бы есте в них быдла Уставою не брали, але торгом што чого стояти будет платили. А што в них побрали, а бы есте то им поплатили не водле Уставы, але водле торгу, што чого стоит»[245].

Сумесную скаргу напісалі ў 1563 г. на імя вялікага князя Жыгімонта Аўгуста мяшчане горада Барысава і жыхары Барысаўскай воласці («...били нам чолом

---

[242] Ochmański, J. W kwestii agrarnego charakteru miast Wielkiego Księstwa Litewskiego / J. Ochmański // Studia Historica w 35-lecie pracy naukowej Henryka Łowmiańskiego.- Warszawa, 1958.- S. 279-294.

[243] Кітурка, І. Ф. Магілёў і Магілёўская воласць у XVI стагоддзі / І. Ф. Кітурка // Старой гісторыі Магілёва. Зборнік навуковых прац удзельнікаў навуковай канферэнцыі «Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць».- Магілёў, 1998.- С 58.

[244] Łowmiański, H. Wchody miast litewskich. - C.36.

[245] AGAD. AR, dz. II, suplement, 8 (21), p. 1.

подданые наши мещане и волощане замку нашего Борисовского...»[246]) на тое, што дзяржаўныя ўраднікі, калі ехалі да войска праз Барысаў, а таксама паслы, што накіроўваліся ў Маскву, бралі ў іх бясплатна («даром кгвалтом») падводы[247]. У адказ на скаргу вялікі князь вынес рашэнне: «...ино мы хотечи абы в том месте пры замку потребном панствам нашим люди можные заседали, а ведаючи же межи Борисовскими номера влочная и устава платом достаточная вже постановена есть, с которое и на подводы пенязи дают, тогды з ласки нашое господарское от даванья даремных подвод и стацей так панам гетманом, яко и паном послом, ротмистром, гонцом и коморником нашим и чужоземским московским послом и гонцом от даванья стаций тым же станом вызволили есмо и сим листом нашим вызволяем вечно, не мают и не будут повинни никому мещане и волощане подвод и стаций даром давати, але за пенязи водле часу и потребы по Уставе нашой...»[248]

Нават некаторыя гаспадарчыя і судовыя спрэчкі насельніцтва грамады-воласці традыцыйна вырашаліся самімі абшчыннікамі на падставе звычаёвага права. Вядомы выпадкі, калі гэта фіксавалася і ў дакументах, што зыходзілі ад вышэйшых улад. Напрыклад, вялікі князь Жыгімонт Стары ў 1540 г. у грамаце насельніцтву Свіслацкай воласці («мяшчанам і валашчанам свіслацкім») адзначаў, што справы, звязаныя з бортніцтвам, яны будуць вырашаць самастойна: «А о дерево бортное и о бчолы мают сяони сами межи собою судити»[249].

У матэрыялах Метрыкі ВКЛ за першую палову XVI ст. захаваліся сумесныя скаргі гаспадарскіх сялян і мяшчан і адказы на іх службовых асоб ці нават самога кіраўніка дзяржавы. Так, у лісце вялікага князя Жыгімонта Старога да крычаўскага намесніка князя Васіля Сямёнавіча Жылінскага ад 22 лістапада 1522 г, выдадзеным у сувязі са скаргай крычаўскіх мяшчан і валашчан, было выразна зафіксавана эканамічнае адзінства воласці і горада. Вялікі князь адзначаў: «Вжо неоднокроть жалують нам мещане и вся волость Кричовская о том, што ж, дей, ты им кривды великие чиниш и новины уводиш, и береш на них мыто и узвестное так, как бы на чужоволостцох, чого на них здавна не бирывано... и на полюде, дей, до них у великим почте ездиш, а перед тым, дей, первые державцы н(а)ши до них на полюде не езживали»[250] Тэты дакумент цікавы і тым, што ён паказвае, якім чынам насельніцтва збірала ў грамадзе ўскладзеныя на іх падаткі: «они межи собой розмет складуть»[251].

Вядомы выпадкі, калі спрэчкі паміж валаснымі абшчынамі і гараджанамі за зямлю, лясныя ці сенажатныя ўгоддзі перарасталі ў сілавое супрацьстаянне з насельніцтвам іншых валасцей і гарадоў. У скаргах, судовых справах ёсць звесткі аб фактах нападаў («наездаў») членаў абшчын на чале са старцамі (часта з ініцыятывы мясцовых ураднікаў) на суседнія грамады або чужыя вёскі і рабаванне іх. Напрыклад, з такім выпадкам звязана скарга на пана Івана Федаравіча Быкоўскага, бабруйскага ўрадніка, які 6 чэрвеня 1582 г. з «мещаны бобруйскими помочниками своими, а з волости Бобруйское половицы Виленское старца волосного на йме

[246] РГАДА, ф 389, кн.290, арк.379 адв.

[247] Тамсама.

[248] Тамсама.- Арк.379 ада.389.

[249] АЗР.- Т.П.- С. 368.

[250] LM-4.- Р 64.

[251] Тамсама.- Р.65.

Якова Вороновича з села Демидович... и зо всими волощаны тое половицы Виленское из иншыми многими помочниками своими з ручницами, з рогатинами, з сагайдаками и з иншыми военными бронями моцно кгвалтовне наслал на власное его мсти имение... прозываемое Зубаревичи»[252].

У XVI ст. у сувязі з хуткім пашырэннем грамадскага падзелу працы практычна на ўсёй тэрыторыі Беларусі адбывалася аддзяленне гарадской абшчыны ад валасной. Праўда, часцей за ўсё гэта назіралася ў дзяржаўных уладаннях. Прыватным ці духоўным землеўласнікам часта было выгадна ў павіннасным плане не раздзяляць горад і воласць, і яны нават захоўвалі іх «адзінства» сваімі спецыяльнымі распараджэннямі.

Верагодна, першымі сталі адасабляцца ад воласці буйныя гарады, якія пачалі атрымліваць магдэбургскае права. Дарэчы, такія гарады і да атрымання магдэбургскага права звычайна вялі некалькі адасобленае ад воласці жыццё. Невялікія гарады і мястэчкі арганічна ўваходзілі ў воласць, іх жыхары нават маглі ўдзельнічаць у копных сходах, якія ў некаторых выпадках выконвалі функцыю вышэйшага органа самакіравання адначасова для некалькіх суседскіх абшчын.

Яскравым прыкладам працэсу аддзялення горада і вёскі была Магілёўская воласць разам з горадам Магілёвам, сваім адміністрацыйным цэнтрам. Так, менавіта ў XVI ст. і раней за іншыя гарады Падняпроўя Магілёў атрымаў магдэбургскае права, раней за іншыя воласці тут прайшла валочная памера. Значны эканамічны ўздым Магілёва ў XVI ст., калі ён стаў асноўным гаспадарчым цэнтрам рэгіёна, паўплываў на канчатковае размежаванне сельскай грамады і горада.

Да сярэдзіны XVI ст. насельніцтва Магілёва і воласці складала адзіную гаспадарчую і павінасную адзінку. М. В. Доўнар-Запольскі лічыў, што горад і воласць уяўлялі сабой арганізацыю, аб'яднаную валасною зямлёю і самакіраваннем[253]. Аб тым, што насельніцтва Магілёва і воласці ўспрымалася і ўладамі як адзінае цэлае, сведчыць устаўная грамата, складзеная пры наданні ў 1514 г. Магілёва з воласцю пану Юрыю Зяноўевічу і адрасаваная ўсяму насельніцтву разам: «бояром и мещаном Могилевским, и старцом серебреному и медовому и всим людям волости нашое Могилевское»[254].

У далейшым выразна праяўляецца палітыка дзяржавы па падтрымцы горада Магілёва ў яго барацьбе за незалежнасць ад валаснай грамады, з аднаго боку, і імкненне яшчэ больш падпарадкаваць уладам сельскую абшчыну – з другога. Можна вылучыць тры асноўныя этапы такой палітыкі адносна Магілёва і воласці ў XVI ст.: 1561, 1577 і 1594 гг.

Устава Магілёву, падпісаная вялікім князем Жыгімонтам Аўгустам 20 лютага 1561 г., падзяліла горад і воласць у адміністрацыйным плане, поўнасцю адасобіўшы яго ад сельскай абшчыны. У адпаведнасці з Уставай у горадзе ўтваралася самастойная ад воласці сістэма самакіравання, якую ўзначальваў войт з сотнікамі. Гараджане перасталі ўдзельнічаць у размеркаванні павіннасцей і выплат, вызначаных для валаснай грамады[255].

Поўную адасобленасць ад воласці і сапраўднае самакіраванне Магілёў

---

[252] AGAD. AR, dz. X, sign. 99, p. 1.

[253] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке / М. В. Довнар-Запольский. - Киев: 1-я артель Печатного дела, 1905. - С. 25.

[254] ГБДМ. - Т. 1. - С. 105.

[255] Кітурка, І. Ф. Магілёў і Магілёўская воласць у XVI стагоддзі. - С. 60.

атрымаў паводле Прывілея на магдэбурскае права ад 28 студзеня 1577 г. Тлумачэнне такога рашэння можна знайсці ў самім дакуменце: горад атрымаў права на самакіраванне не толькі для ўмацавання свайго гаспадарчага становішча і «скарбу нашому примножения пожитков», але і як пагранічны горад, з паляпшэннем становішча якога ВКЛ «лепей бы обваровано и болшую безпечность против кождого неприятеля оттуль мети могло»[256].

Такім чынам, указанае дазваляе зрабіць вывад аб тым, што воласці ў ВКЛ часцей за ўсё адпавядалі тэрыторыі, што займала тэрытарыяльная абшчына, якая складалася з некалькіх сельскіх абшчын. Тэрмін «воласць», акрамя абазначэння плошчы зямлі і ўгоддзяў, што займала тэрытарыяльная абшчына, адпавядаў тэрмінам «абшчына», «грамада» ў сённяшнім разуменні гэтых слоў як грамадска-тэрытарыяльнай супольнасці. Прыблізна з сярэдзіны XVI ст. пачаўся актыўны працэс выдзялення гарадоў і мястэчкаў са складу воласцяў, у выніку чаго валасная абшчына з тэрытарыяльнай, цэнтрам якой былі населеныя пункты гарадскога тыпу, паступова стала ператварацца ў сельскую (сялянскую, суседскую) арганізацыю, што аб'ядноўвала жыхароў, як правіла, аднаго ўладання, а то і аднаго сельскага населенага пункта. Палітыку выдзялення горада са складу тэрытарыяльнай абшчыны і пераходу ад даўняй традыцыі «старыны» да арганізацыі жыцця насельніцтва, заснаванай на пісаным праве, падтрымлівалі землеўласнікі і дзяржава, таму што гэта стварала большыя магчымасці для кантролю дзейнасці грамады. Падобная тэндэнцыя назіралася на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Аднак неабходна заўважыць, што нават у XVII і XVIII стст. былі выпадкі, калі мяшчане і жыхары воласці (як правіла, па распараджэнні землеўласніка) сумесна адбывалі некаторыя павіннасці.

Разам з тым, нягледзячы на паскарэнне індывідуалізацыі падаткавага і павіннаснага абкладання і землекарыстання феадальназалежнага насельніцтва пра ўвядзенне «службы» і «валокі», сялянская абшчына працягвала сваё існаванне ў форме як сельскай абшчыны, так і супольнасці асобных сельскіх абшчын воласці.

Дарэчы, воласць як тэрытарыяльная, адміністрацыйная і сацыяльная структура не заставалася нязменнай. Тэрытарыяльныя памеры яе мяняліся ў сувязі з велікакняжацкімі наданнямі прыватным феадалам і царкоўным арганізацыя адпаведнымі падараваннямі прыватных феадалаў, а таксама купляй, атрыманнем уласнасці ў спадчыну і інш. Звяртае на сябе ўвагу тое, што такім чынам маглі «адпадаць» ад валаснай абшчыны як асобныя вёскі (ці іх часткі з гаспадарамі-абшчыннікамі), так і часткі вёсак. У сувязі з гэтым цікавасць выклікае сама спроба рэканструкцыі дзейнасці сельскай грамады ў вёсцы, насельніцтва і зямля ў якой належалі розным уласнікам.

Іншыя вядомыя падаткавыя і павіннасныя адзінкі – «двары», «дворышчы», «жарэбі» ў большасці выпадкаў уяўлялі сабой гаспадаркі вялікіх складаных сем'яў і з'яўляліся састаўнымі часткамі сельскіх абшчын. Яны не былі абшчынамі ў сэнсе грамадска-тэрытарыяльных арганізацый, хаця некаторыя даследчыкі і ўжываюць у адносінах да іх выраз «сямейныя абшчыны».

## 2.2. Абшчынны (копны) суд у судовай сістэме Вялікага княства Літоўскага

Судова-прававая сістэма ВКЛ эвалюцыяніравала і фарміравалася разам з

[256] ГБДМ. - Т.1. - С.350.

развіццём дзяржавы. Змены, якія адбываліся ў судова-прававой сістэме, былі звязаны ў першую чаргу з узмацненнем велікакняжацкай улады, удасканальваннем заканадаўства, а таксама з упарадкаваннем тэрытарыяльна-адміністрацыйнага падзелу краіны і ўсталяваннем больш дасканалай сістэмы дзяржаўнага і мясцовага кіравання.

На працягу XVI-XVIII стст. судова-прававая сістэма ВКЛ мела тыповыя рысы прававой сістэмы феадальнай эпохі. У якасці галоўнай з іх неабходна адзначыць прававую няроўнасць насельніцтва, калі заканадаўства замацоўвала прыярытэт правоў і прывілеяў прадстаўнікоў пануючага класа, іх уласнасць на зямлю, асабістую залежнасць сялян ад феадалаў. Найбольш поўную правздольнасць у гэты час мелі вышэйшыя слаі насельніцтва (саслоўе феадалаў), а людзі простага стану валодалі значна меншай правздольнасцю.

Але нават із прыняццем Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг. судовая сістэма, якая існавала на тэрыторыі Беларусі, заставалася дастаткова складанай і не ў поўнай меры замацаванай у статутах і сеймавых пастановах. Верхнюю частку гэтай судовай сістэмы складалі суды вышэйшых дзяржаўных інстытуцый: гаспадарскі суд, суд паноў Рады і сеймавы суд. З 1581 г. вышэйшай судовай інстанцыяй у дзяржаве стаў Трыбунал Вялікага княства Літоўскага, які станавіўся і вышэйшым апеляцыйным судом. Аснову ж гэтай судовай сістэмы складала заканадаўча афармленая структура судаводства для найвышэйшага саслоўя – шляхты. Саслоўныя шляхецкія суды былі ў значнай ступені самастойнымі, аддзеленымі ад органаў дзяржаўнага кіравання. Гэта дазволіла некаторым даследчыкам лічыць, што яны былі створаны ў адпаведнасці з тэорыяй раздзялення ўлад[257]. Акрамя таго, у ВКЛ існавалі суды, якія дзейнічалі з улікам канфесійнай (хрысціяне, іудзеі, мусульмане) ці сацыяльна-эканамічнай (мяшчане, сяляне) спецыфікі жыцця асобных груп насельніцтва. Функцыі гэтых судоў былі вельмі слаба замацаваны ў заканадаўстве, а іх дзейнасць была заснавана на царкоўным альбо звычаёвым праве. Да апошняй групы належаў і абшчынны копны суд.

Неабходна адзначыць, што разам з кадыфікацыяй заканадаўства, усталяваннем пераваг пісанага права, якое было правам пануючага класа, над правам няпісаным традыцыйным правам, якім карысталіся ў асноўным «людзі простыя», члены сельскіх і гарадскіх абшчын, у ВКЛ не адбылося поўнай адмены ці забароны апошняга, як і копных судоў, якія гэтым правам карысталіся. Больш за то е, крыніцы пацвярджаюць, напрыклад, што ў другой палове XVI ст. суд грамады (копны суд) быў уключаны ў сістэму дзяржаўнага судаводства. стаў адным з элементаў дзяржаўнай судовай сістэмы[258]. Адбылася пэўная рэгламентацыя дзейнасці копных судоў, павялічылася залежнасць іх рашэнняў ад усталяваных у дзяржаве юрыдычных нормаў. Але само захаванне копных судоў стала сведчаннем таго, што ўлады прызнавалі факт існавання ў ВКЛ такога інстытута сялянскага самакіравання, як абшчына (грамада). Такім чынам, паступова, з умацаваннем пісанага права, копныя суды пачалі разам з традыцыйным правам выкарыстоўваць у сваёй практыцы палажэнні статутаў ВКЛ.

Копны суд існаваў у ВКЛ у якасці судовага інстытута з дастаткова шырокай сферай дзеяння і шырокімі паўнамоцтвамі. Ён мог як вырашаць любыя справы ўнутры канкрэтнай сялянскай абшчыны, так і рэгуляваць міжабшчынныя адносіны

---

[257] Юхо, Я А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. - С. 115.

[258] Статут ВКЛ 1588 г. - С. 337.

(паміж рознымі сёламі і нават валасцямі), а таксама паміж асобнымі людзьмі. Яго кампетэнцыя распаўсюджвалася не толькі на сялянства – у некаторых выпадках копныя суды разглядалі справы, у якіх адказчыкамі выступалі жыхары гарадоў і мястэчак, а то і шляхта. Дзейнасць копных судоў распаўсюджвалася на насельніцтва як дзяржаўных, так і прыватных і духоўных уладанняў. Праўда, вядомы прыклады, калі шляхта пазбягала ад удзелу ў судзе капы, насуперак праву адмаўлялася ставіць сваіх сялян на суд капы, а тым больш аддаць свайго селяніна на пакаранне. Гэта адносіцца і да духоўных феадалаў, якія заўсёды імкнуліся вызваліць сваіх падданых ад юрысдыкцыі не толькі абшчыннага, але і дзяржаўнага суда. У сувязі з гэтым цікавасць выклікае ўпамінальны ліст «аб капе» ўраднікаў Полацкага гродскага суда за 1646 г., адрасаваны уніяцкаму мітрапаліту Антонію Сяляве, кзяндзу Яну Кандэраўскаму, а таксама некалькім гаспадарскім зямянам і зямянкам Полацкага ваяводства[259]. Полацкі падваявода Ян Лісоўскі, гродскі суддзя Міхал Корсак, пісар Ян Буйноўскі і судовыя ўраднікі паведамлялі, што ў суд звярнуўся гаспадарскі зямянін Іван Шаблінскі, са скаргай на тое, што яму асабіста і падданым яго маёнткаў Наўліны і Валкоўскае наносяцца «вялікія і нязносныя крыўды» праз крадзеж некаторых рэчаў, які чыніцца невядома кім. З падобнымі скаргамі ён не адзін раз звяртаўся «свецкім звычаем» да вышэйзгаданых асоб, каб «...падданыя вашых міласцей паводле даўняга звычаю на капавішча звыклае станавіліся і вінаватых станавілі і не ўкрывалі», але гэтыя падданыя не хацелі станавіцца на капу. Таму Іван Шаблінскі прасіў гродскі суд, каб згаданым панам пра гэта «...праз наш копчы напамінальны ліст напомніілі. І таму мы, уладай яго каралеўскай міласці і з прыналежнасці гэтай справы да нашага ўраду, напамінаем, каб вашы міласці сваім падданым, не ўкрываючы ніводнага, як старым, так і малым і суседзям іх, якія каморамі жывуць, а не перамешківаюць, у року цяперашнім 1646 месяца лістапада 30 дня на месцы звыклым пад ліпаю на грунце пана Шаблінскага Наўліцкім насупраць сялка Глыбочка, на дарозе, якая ідзе з сяла Селігор і Сушына... тыя вёскі станавілі і пра шкоды апытанне рабілі і вінаватых не ўкрывалі і за іх не стаялі пад вінамі ў праве паспалітым на непаслухмяных апісанымі. А хто б на тое прызначанае месца ў той дзень сваім падданым станавіцца не гаварыў, тады пры вінах тыя вёскі тыя шкоды на капе менаваныя плаціць павінны будуць»[260]. У дакуменце паведамляецца і пра даўнюю традыцыю копнага суда і пра абавязковасць яго для сялян і, у пэўным сэнсе, для шляхты і нават пра магчымае, у адпаведнасці з заканадаўствам, пакаранне за няяўку ці за нестаўленне людзей на копны суд.

Суд грамады ў XVI-XVIII стст. называўся «капа», а ў гістарычнай літаратуры для яго абазначэння ўсталяваліся таксама выразы «копны», альбо «абшчынны суд». Увогуле ў старабеларускай мове тэрмін «капа» меў некалькі значэнняў. Сярод іх і абазначэнне мяжы, граніцы пэўнай тэрыторыі. З крыніц вынікае, што капой называлася граніца (канец) тэрыторыі пэўнай суседскай абшчыны ці сяла. Капой называўся і сход людзей, якія збіраліся на пэўным месцы, часцей за ўсё менавіта на гэтай мяжы. Напрыклад, у 1594 г. «подданые Реваницкие и Шыпяньские на коповищо стародавное, на граннцу, зышлисе» і там «копа дей засела»; у 1600 г. Ян Вахарлоўскі, возны Менскага ваяводства, пісаў у квіце, унесеным у кнігі Менскага гродскага суда пра «коповищо стародавное звыклое... где се подданые Плещенские с подданными... Каменскими на копе з давних часов становят, на рубежу через

[259] LVIA. F. 599, ap. 1, bib. 3, p. 357.

[260] Тамсама. - P. 357-358.

границу з грунтом Плещеницким и грунтом Каменским»[261] і інш. Граніца паміж землямі розных сельскіх абшчын абазначалася спецыяльнымі межавымі знакамі — капцамі. За капцамі як граніцамі зямельных уладанняў пэўных сялянскіх абшчын сачылі не толькі самі абшчыннікі, але і землеўласнік. Так, яшчэ і ў XVIII ст. у дакумент для радзівілаўскіх уладанняў пад назвай «Гаспадарчая інфармацыя і прадпісанні» было ўнесена распараджэнне аб тым, што, каб не руйнаваліся і не заворваліся граніцы, «мужыкожнай вёскі» восенню і вясною павінны былі аглядаць гранічныя капцы і аднаўляць папсаваныя»[262]. Вядома таксама, што ў Бабруйскім старостве ў пачатку XVII ст. старац павінен быў сачыць за тым, каб кім-небудзь, а асабліва суседзямі-шляхтай, не былі «капец або граніцы папсаваныя», і кожны год аглядаць захаванасць «межаў, граніц і капцоў» і пры неабходнасці выпраўляць іх разам з мернікам[263].

Капой у некаторых выпадках называўся проста сход людзей. Але ўжо ў другой палове XVI ст. для абазначэння абшчыннікаў, якія сабраліся на суд, пачаў паступова ўжывацца тэрмін «грамада», пазней, у XVII-XVIII стст., ім сталі называць саму сельскую абшчыну[264].

Лічыцца, што копы як сходы, на якіх вырашаліся самыя разнастайныя пытанні жыцця людзей адной абшчыны, бяруць свой пачатак яшчэ з часоў язычніцтва. Тады галоўнымі месцамі збору людзей былі старажытныя свяцілішчы – капішчы. Месцы збору капы ў XVI-XVIII стст. маюць у крыніцах вельмі падобную назву – капавішчы. Не выключана, што ў некаторых мясцовасцях копы традыцыйна працягвалі збіраліся якраз на месцах старажытных свяцілішчаў. Асабліва гэта магло датычыць тых капавішчаў, якія знаходзіліся ў глухіх, аддаленых ад сяла месцах: «зобравши дей копу на врочышчу над речкою, прозываемою на Ушанце», «над рекою Дроздою, где з давних часов копа бывала», «урочищо у Грушовой горы, у Курганов», у Белавежскай пушчы «на капавіску даўнім, урочышчам у Пезнецкаго Хвалава мастка», «над рэчкаю Нараўкай» і інш. На карысць гэтай версіі сведчыць і тое, што ў ходзе капы, падчас самога судовага працэсу нярэдка праводзіліся некаторыя магічныя і язычніцкія абрады (кіданне шапкі ў круг ці стаўленне яе на лінію, прысяга за падазронага яго крэўнымі («обрали были трех кревных его, абы за него присягнули») і інш.[265]

Існаванне і дзейнасць копных судоў разам з вызначэннем ролі сельскай абшчыны ў жыцці тагачаснага грамадства дазваляюць таксама зрабіць спробу разгледзець пытанне аб суадносінах на розных гістарычных этапах традыцыйнага, няпісанага (абшчыннага) і афіцыйнага, агульнадзяржаўнага права. Судовая сістэма, якая дзейнічала на тэрыторыі Беларусі да канца XV ст., была заснавана на звычаёвым праве, традыцыі. Я. А. Юхо адзначаў: «У старажытнасці звычаёвае права рэгулявала ўсе праваадносіны ў грамадскім жыцці: структуру і кампетэнцыю органаў дзяржаўнай улады, правы і абавязкі розных класаў і сацыяльных груп насельніцтва, сямейныя, зямельныя, судова-працэсуальныя і інш.

---

[261] АВК. - Т.18.- С. 123, 173.

[262] AGAD. AR, dz. XXIX, sign. 3, p. 94.

[263] LVIA. F. 11, ap. 2, bib. 65, p. 546.

[264] АВК. - Т.18.- С. 295, 511.

[265] Тамсама.- С. 5, 36, 174, 198, 278, 436.

праваадносіны»[266]. Такім чынам, звычаёвае права адыгрывала важную ролю ў жыцці феадальнага грамадства. Гэтае права абапіралася ў асноўным на вопыт папярэдніх пакаленняў і таму было дастаткова кансерватыўным, але не нязменным. Яно эвалюцыяніравала разам з развіццём дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў, змянялася, часта прыстасоўваючыся да абставін ці запатрабаванняў улады. Звычаёвае права не толькі рэгулявала жыццё простага насельніцтва, у першую чаргу сялянства, але і вызначала правілы і парадак дзейнасці службовых асоб сельскай адміністрацыі, а ў некаторых выпадках і дзяржаўныхураднікаў, у тым ліку і ў выпадках судовых спрэчак сельскага насельніцтва паміж сабой або ў адносінах да адміністрацыйна-крымінальных спраў паміж сялянамі і мясцовай дробнай шляхтай. Мясцовыя органы ўлады кіраваліся ў сваёй дзейнасці звычаёвым правам, мелі шырокія паўнамоцтвы ў вырашэнні мясцовых спраў і мала залежалі ад цэнтра. Да выдання Статутаў ВКЛ звычаевае права рэгулявала дзяржаўныя павіннасці насельніцтва і грамадска-прававыя адносіны[267]. Паступова, пасля з'яўлення пісьмовых прававых актаў, звычаёваму праву стала адводзіцца толькі дапаможная роля ў рэгуляванні тых праваадносін, якія не былі апісаныя ў заканадаўчых актах.

Найбольш паказальным ва ўказаным сэнсе з'яўляецца шырокае захаванне традыцыі «старыны» ў жыцці вясковага насельніцтва. Гэтая традыцыя распаўсюджвалася на самыя розныя сферы жыцця, прызнавалася ўладай і разумелася менавіта як непарушнае звычаевае права[268]. Увядзенне «навін» звычайна расцэньвалася насельніцтвам як пасяганне на іх даўнія правы і выклікала рашучы пратэст, што афармляўся часцей за ўсё ў выглядзе скаргаў, падаваных сялянскімі абшчынамі на імя вялікага князя. На сённяшні дзень выяўлена некалькі дзесяткаў такіх скарг сялян гаспадарскіх уладанняў толькі за першую палову - сярэдзіну XVI ст., у якіх яны просяць не ўводзіць навін і не парушаць старыны. Так, вялікі князь Аляксандр у лісце віцебскаму намесніку ад 11 красавіка 1495 г. у адказ на скаргі насельніцтва заявіў: «приказуем тобе, штобы еси им через то больш кривд не чинил, и новин не уводил, и делал бы все по старому, как будет первей того бывало за предков наших и за отца нашего...»[269] Калі ў 1535 г. жыхары Усвяцкай і Азярышчанскай валасцей паскардзіліся вялікай княгіне Боне на тое, што віцебскія ўраднікі пачалі іх «пад свой прысуд да Віцебска вярнуць», то рашэнне ўласніцы было прынята на карысць валашчан якраз са спасылкай на старыну, паводле якой у адносінах да вышэйназванага насельніцтва не маюць права «ани пан воевода витебский, ани его врядники витебские ни судити, ни радити...»[270] У Метрыцы ВКЛ змяшчаецца шэраг падобных лістоў, у якіх вялікія князі патрабуюць ад дзяржаўных чыноўнікаў аднавіць «старыну».

Паступова некаторыя нормы звычаёвага права замацоўваліся ў праве пісаным і станавіліся агульнадзяржаўнымі нормамі. Копнае ж права заставалася ў большай ступені заснаваным на традыцыі, якая прызнавалася і дзейнічала ў асноўным на тэрыторыі пэўнай сялянскай абшчыны ці некалькіх абшчын (валасцей). Напрыклад,

[266] Юхо, Я. А. Звычаёвае права / Я. А. Юхо // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. - Т. 3. - Мінск: Беларус. энцыкл. імя Петруся Броўкі, 1996. - С. 433.

[267] Юхо, Я. А. Звычаевае права. - С. 434-435.

[268] Голубеў, В. Ф. Старына / В. Ф. Голубеў // Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Тэксты. Даведнік. Каментарыі. - Мінск: Беларус. савец. энцыкл. імя Петруся Броўкі, 1989. - С. 529.

[269] АЗР. - Т. I. - С. 151.

[270] БЭФ. - Т. I. - С. 195.

распаўсюджаная ў копным судзе форма расследавання злачынства, якая атрымала назву «ганенне следу», была зафіксавана яшчэ ў Рускай Праўдзе[271]. Сутнасць працэдуры ганення следу заключалася ў вядзенні следчых дзеянняў па выяўленню і абвінавачванню злачынцы. «Ганенне» ініцыіравалася самім пацярпелым з апеляцыяй да членаў абшчыны, але, як правіла, без прыцягнення прадстаўнікоў улады. Пазней гэтая працэдура была дэталізавана ў Статуце ВКЛ 1588 г.[272] Прычым як сам суд капы, так і «ганенне следу» адбываліся на тэрыторыі канкрэтнай суседскай абшчыны, калі ж «след» вёў да іншай вёскі ці воласці, туды пераносілася расследаванне і суд капы.

Цікавы вывад аб суадносінах абшчыннага (грамадскага) і дзяржаўнага права зрабіў расійскі гісторык А. Ю. Дварнічэнка са спасылкай на даследчыка расійскага заканадаўства амерыканскага вучонага Д. Кайзера[273]. Згодна з тэорыяй аб «гарызантальных» і «вертыкальных» структурах у праве ён выказаў меркаванне аб тым, што абшчына з'яўляецца гарызантальнай структурай, а дзяржаўная ўлада і яе ўмяшанне ў справы абшчыны – вертыкальнай. Сапраўды, на прыкладзе існавання копных судоў можна прасачыць як працэс захавання традыцыі ў вырашэнні злачынстваў сярод насельніцтва на тэрыторыі пэўнай абшчыны, так і паступовыя спробы дзяржавы «адрэгуляваць», узяць пад кантроль і гэтую функцыю абшчыны. Першыя спробы рэгулявання грамадскага права назіраюцца ўжо ў Статуце ВКЛ 1529 г. Так, у пачатку раздзела «О судьях» сцвярджалася, што « ... кождый воевода наши старост, и маршалок земский и маршалок дворный, и державцы наши кождый в своем повете не мають подданых наших иначей судити и справовати, леч тыми писаными правы, которые всим подданным нашим Великого князьства дали»[274]. Аднак ужо ў канцы гэтага раздзела ўдакладнялася: «А которых бы артикулов не было ещо в тых правах выписано, тогды тое право маеть сужено быти водлуг старого обычая»[275]. Заканадаўца ў дадзеным выпадку вельмі выразна паказаў як прыярытэт права пісанага, так і вымушанае захаванне традыцыі, права звычаёвага.

У Статуце 1529 г. змяшчаюцца і адны з першых згадак пра капу, што разглядалася тут у першую чаргу ў якасці шляхецкага або пазямельнага суда, які праводзіўся на граніцах спрэчных тэрыторый. На копныя суды, што праходзілі ў сялянскіх абшчынах, заканадаўца ў дадзеным выпадку проста не звярнуў увагі, магчыма таму, што Статут ВКЛ 1529 г. быў прызначаны галоўным чынам для людзей шляхецкага саслоўя. Селянін нават не мог выступіць сведкам у працэсе: « не маеть быти простый человек поличон за Светки, кром шляхты...»[276]

Але Статут ВКЛ 1588 г. ужо выразна зафіксаваў, што копны суд існаваў здавён на тэрыторыі Беларусі менавіта як суд сельскай грамады.

У дакументах, якія выйшлі з дзяржаўнай канцылярыі ў пачатку XVI ст., «капою» таксама нярэдка называліся і судовыя расследаванні шляхецкіх спрэчак, у

---

[271] Греков Б. Д. Крестьяне на Руси с древнейших времен до XVII века / Б. Д. Греков - Москва; Ленинград: Изд-во Акад. наук СССР, 1946.- С. 73.

[272] Статут ВКЛ 1588 г.- С 336.

[273] Дворниченко, А. Ю. Русские земли Великого княжества Литовского (до начала XVI в). Очерки истории общины, сословий, государственности / А. Ю. Дворниченко. - СПб.: Издательство С.-Петербургского университета, 1993. - С. 61; Kaiser D. H. The Growth of the Law in Mediewal Russia.- Princeton; New Gersey, 1980.- P. 61.

[274] Статут ВКЛ 1529 г.- Т. II, ч. I.- С. 158.

[275] Тамсама.- С. 160.

[276] Тамсама.- С. 224.

асноўным па справах парушэння правоў карыстання зямельнымі і ляснымі ўгоддзямі, па аднаўленню ці ўсталяванню пазямельных межаў. Для разгляду такіх спраў накіроўваліся спецыяльныя гаспадарскія суддзі, якія і выносілі прысуд. Адметнасцю гэтых коп было абавязковае правядзенне судовага следства на месцы і прысутнасць на іх шляхты-суседзяў, якія звычайна выступалі у якасці сведак. Так, у 1526 г. вялікі князь Жыгімонт распарадзіўся, каб Аляксандр Іванавіч Хадкевіч, Мацей Янавіч Вайцеховіч і Васіль Багдановіч «были судьями з руки пана Яна Петровича Пенка на той копе, которую ж копу вел его м(и)л(о)сть с паном Юрем, его милост(ь)ю, Ивановичем Ильинича..., з ымен(ь)я своего Лунина оловы, а пан Юрей... з ымения своего Маяковского»[277]. У 1530 г. старосціч берасцейскі Станіслаў Юрэвіч Ілініч скардзіўся вялікаму князю Жыгімонту на тое, што баяры навагародскія Пратасовіч і Бейнаровіч хочуць правесці капу «в землях и дубровах» маёнтка Мір. Ілініч прасіў капу не праводзіць, таму што браты Ілінічы самі яшчэ не вызначылі дакладныя межы сваіх частак згаданага маёнтка[278].

Даследчыкі выказвалі меркаванне, што да канца XVI ст. копны суд быў з'явай, характэрнай у першую чаргу для беларускіх і ўкраінскіх (Валынь, Галіцкая зямля, Правабярэжжа Украіны і Левабярэжная Кіеўшчына) земель ВКЛ. Так, члены Віленскай археаграфічнай камісіі, якія рыхтавалі том, прысвечаны копным судам, і апрацавалі каля 300 кніг Берасцейскага, Вількамірскага, Ваўкавыскага. Гарадзенскага, Ковенскага, Лідскага, Менскага, Мазырскага, Навагрудскага, Пінскага, Расіенскага, Слонімскага, Слуцкага, Трокскага і Упіцкага гродскіх судоў за 1560-1699 гг. і выявілі 448 дакументаў аб копных судах, прыйшлі да вываду аб тым, што абсалютная большасць сведчанняў аб існаванні і дзейнасці копных судоў тычыцца менавіта тэрыторыі Беларусі. Больш за тое, у матэрыялах Вількамірскага, Ковенскага, Расіенскага і Упіцкага гродскіх судоў, размешчаных на землях, дзе пражывалі этнічныя літоўцы, не было знойдзена ніякіх звестак аб існаванні і дзейнасці на падсудных гэтым судам тэрыторыях копных судоў[279]. Адзначым аднак, што па сведчаннях Метрыкі ВКЛ капа як пазямельны шляхецкі суд існавала ў XVI ст. і на ўласналітоўскіх тэрыторыях. Напрыклад, у 1525 г. адбылася капа ў Вількійскім павеце Жамойцкай зямлі паміж баярынам Жамойцкай зямлі Андрушкам Вілімовічам і баярыняй Віленскага павета Янушкавай Саўгіновіча па справе адабрання апошняй «мацярыстага» (дастаўшагася ў спадчыну ад маці. - *В. Г.*) маёнтка Вілімовіча пад назвай Пoштаўскі[280]. Але гэта быў копны суд аб шляхецкіх пазямельных спрэчках, прадугледжаны яшчэ Статутам 1529 г. Факты дзейнасці ў гэты час абшчыннага копнага суда на этнічнай літоўскай тэрыторыі нам невядомы.

Як сведчаць шматлікія дакументы, дзейнасць сялянскіх копных судоў здаўна не аспрэчвалася ўладамі і землеўласнікамі, а прыблізна ў сярэдзіне XVI ст. гэтыя суды былі не толькі афіцыйна прызнаны, але і заканадаўча замацаваны дзяржавай у якасці аднаго з інстытутаў судовай сістэмы. Так, у Статуце ВКЛ 1566 г. ужо дакладна было зафіксавана не толькі тое, што капа з'яўляецца судом сельскай грамады («сяла»), але і тое, што яе рашэнні павінны прымацца пры ўдзеле прадстаўніка гродскага суда. Так, у артыкуле 6 «О гоненье следом в якой кольвек

---

[277] LM-4. - P.139.

[278] Тамсама. - P.357-358.

[279] Hurbyk, A. Wspólnota wiejska na Ukrainie w XIV-XVIII w. Ewolucja podstawowych form społeczno-terytorialnych / A. Hurbyk // Przegląd Historyczny. - Warszawa, 1999. - T. XC. - Zesz. 1. - S. 15.

[280] Спрогис, И. Предисловие / И. Спрогис // АВК. - Т.18. - С. XIX-XX.

шкоде покраденой» прадугледжвалася, што ў выпадку крадзяжу жывёлы, або рэчаў «водле давного обычаю» пачынаецца «ганенне следу» ад аднаго сяла да другога. «А естли бы тое село, до которого след приведен, от себе следу не вывели або от следу отбили, або выгнавши быдлом затоптали; на таком зостановившисе копа тая, где следу не отведено або отбито, мают послати по возного до вряду нашего замкового, и с тым возным и люди сторонные копа тую шкоду осумовати...»[281]

У Статут ВКЛ 1588 г. была ўключана больш поўная фармулёўка адносна дзейнасці копных судоў, у якой указвалася на абавязковасць гэтых судоў па справах, звязаных з расследаваннем крадзяжоў, пазямельных спрэчак, чарадзейства і некаторых іншых злачынстваў, і распаўсюджванні дзейнасці гэтых судоў на ўсю тэрыторыю краіны: «А на Руси и инде, где здавна копы бывали, там мают быти и тепер копы отправованы на старых коповищах тым обычаем, яко первей того бывало. А на тых теж местцах, где досель копы не бывали, таковым же порядком и поступком копы збираны и отправованы быти мають, яко ся и на Руси заховывало и заховуеть»[282]. Адначасова гэтая цытата сведчыць аб тым, што копны суд як традыцыйная з'ява ў першую чаргу быў характэрны для ўсходняга і цэнтральнага рэгіёнаў Беларусі.

Больш за тое, Статут 1588 г. дакладна акрэсліў межы судовай акругі копнага суда: «околицы вокол на милю со всих четырех сторон»[283] і абавязаў мясцовыя ўлады вызначыць па ваяводствах, там, дзе раней коп не было, пастаянныя месцы, дзе магла збірацца капа – орган, які вёў следства, разбіраў справу і выносіў прысуд. Абавязкі па вызначэнню такіх месцаў ускладваліся Статутам на падкаморыяў: «А естли бы укривжоный злодейством хотел шкоды своее доходити копою, тогды вси в той околицы вокол на милю со всих четырех сторон мають казати подданым своим на копу сходиться, *а то ся лшеть розумети вперед на тые местца, где досимест копы не бывали* (выдзелена намі. — *В. Г.*), которые коповища кождый подкоморий в повете своем назначити и села тых, хто ся там становити будеть, описати маеть»[284]. Заўважым, што гэта рабілася і там, дзе «досель копы не бывали». Д. Л. Пахілевіч у сувязі з гэтым выказаў меркаванне, што Статут 1588 г. абавязаў падкаморыяў стварыць «копавыя цэнтры», якія аб'ядноўвалі сёлы на мілю ўрадыусе і не супадалі з адміністрацыйнымі адзінкамі[285].

Норма, унесеная ў Статут 1588 г., на месцах, хутчэй за ўсё, выконвалася дакладна. Напрыклад, 2 лютага 1590 г. гарадзенскі падкаморый Грыгорый Масальскі «оповедал и покладал, и ку записаню до книг земских отдал лист свой подкоморский на постановене и расписане во всем повете пэвных местц на коповища для схожэнья на копы для обыску шкоды од злодейства и выпытанью шкодников злодеев водле порадку права стародавнего земль руских и полских, яко о том, в праве посполитом в розделе четырнадцатом, артыкул девятый, значке учыть»[286]. Гэты ліст вызначаў месцы капавішчаў на тэрыторыі ўсяго Гарадзенскага

[281] Статут ВКЛ 1566 г. - С. 204-205.

[282] Статут ВКЛ 1588 г. - С. 337.

[283] Тамсама.

[284] Тамсама.

[285] Похилевич, Д.Л. Селянська громада в західних воеводствах Великого Князівства Литовського після аграрної реформи Сигізмунда-Августа. - С. 126.

[286] Бобер, І. М. Ліст падкаморага Грыгорыя Масальскага насельніцтву Гарадзенскага пав. аб правілах склікання копы і прызначэнні месцаў капавішчаў / І. М. Бобер // Архіварыус. Зборнік навуковых паведамленняў і артыкулаў. - Мінск: НГАБ, 2001. - С. 73-74.

павета. Трокскі падкаморый князь Багдан Агінскі ў тым жа годзе вызначыў месцы капавішчаў у Трокскім ваяводстве[287]. Такім чынам, дзяржава не толькі заканадаўча афарміла існаванне судоў грамады, але пашырыла іх дзейнасць на тэрыторыю ўсяго ВКЛ і ўзяла пад свой кантроль. З гэтага часу капа, якая збіралася не на ўстаноўленым уладамі месцы, магла быць прызнана неправамоцнай. Напрыклад, у судовым квіце вознага Менскага ваяводства Станіслава Багданавіча Волка, унесенага ў судовую кнігу Менскага гродскага суда 25 студзеня 1599 г., адзначалася пра збіранне капы у вёсцы Мацевічы маёнтка Лошыца. Адмоўная ацэнка гэтай падзеі вынікае са слоў аб тым, што капа «постановившисе моцно кгвалтом» у вёсцы «иж дей тут перед тым от стародавных веков николи не бывала». Праўда, у дадзеным выпадку рашэнне («прислуханье») капы не аспрэчвалася, пра што сведчыць тэкст квіту вознага[288].

Як ужо адзначалася, звычайна копы збіраліся на спецыяльна ўстаноўленых для гэтага месцах – капавішчах. Да таго часу пакуль уладамі не пачалі вызначацца абавязковыя месцы капавішчаў, капа, як правіла, збіралася за вёскай, у лесе ці на граніцах тэрыторый суседніх абшчын: «коповищо давнее, урочищем у Пезнецкого Фалева моста», «коповищо стародавнее, на врочищу у копца нарожного», «коповищо стародавнее, звыклое, которое есть на дорозе, где се подданые Плещенские с поддаными Каменскими на копе з давных часов становят, на рубежу», «была копа звыклая на границе Логойской с Колодежаны» і да т. п.[289] Паступова ўлады пачалі выбіраць больш зручныя для кантроля месцы капавішчаў – пры рынках, цэрквах і касцёлах. Так, з 60 капавішчаў, вызначаных у 1590 г. у Гарадзенскім павеце, 33 былі прызначаны «пры касцёле», 17 – «пры царкве», 5 – пры гаспадарскіх дварах, 3 – пры рынках і толькі 2 – «под гаем березовым» (у Гудзевічах і Лабне)[290].

Вышэйзгаданы гарадзенскі падкаморый Грыгорый Масальскі сваім лістом не толькі абавязаў шляхту павета ў выпадку неабходнасці адпраўляць сваіх людзей на капу, але і вызначыў мінімальную колькасць прадстаўнікоў на судзе ад вёскі: «абы ся на кождом (капавішчы. - *В. Г.*) становили люди в(аших) м(илостей) и урадов в(аших) м(илостей) зъ сел по три чоловеки. А подданых в(аших) м(илостей) шляхецких, у ког(о) чоловеков десять, абы человек десятый становилъся. А в кого меньше, пятый будь и третий, а которие шляхта людей не мають, сами абы ставал на копы, зъ села по три особы даючи, справу о собе и о своих суседов захованью и обжитю, и очищаючи себе и своих сусед звычаем и прикладом копъ земль руских и полеских»[291]. Выкладзенае сведчыць аб тым, што дзяржава не толькі заканадаўча афарміла існаванне судоў грамады, але пашырыла іх дзейнасць на тэрыторыю ўсяго ВКЛ, вызначыўшы нават квоту ўдзельнікаў судовага пасяджэння.

У копным судзе звычайна бралі ўдзел (і з'яўляліся, такім чынам, суддзямі) усе сяляне-абшчыннікі («мужы») і кіраўнікі сялянскіх абшчын – старцы. Але не заўсёды ў разглядзе справы і вынясенні прысуду прымалі ўдзел усе члены грамады. У прыватнасці, як сведчыць запіс у кнізе Берасцейскага гродскага суда за 1664 г., на

[287] Спрогис, И. Предисловие. - С. XXI.

[288] АВК. - Т. 18. - С. 166-167.

[289] Спрогис, И. Предисловие. - С. XXV-XXVI.

[290] Бобер, І. М. Ліст падкаморага Грыгорыя Масальскага насельніцтву Гарадзенскага пав. аб правілах склікання копі прызначэнні месцаў капавішчаў. - С. 74-75.

[291] Бобер, І. М. Ліст падкаморага Грыгорыя Масальскага насельніцтву Гарадзенскага пав. аб правілах склікання копі прызначэнні месцаў капавішчаў. - С. 75.

капе, якая сабралася «на звычайным месцы на граніцы Сегневінаўскай з Мошкавічамі, дзе заўсёды копы праводзілі», удзельнікі капы абралі са свайго складу «паводле копнага права мужоў сумленных і веры годных, абы злодзея таго за ўчынак яго асудзілі..»[292]

У судзе грамады маглі ўдзельнічаць таксама і прадстаўнікі іншых саслоўяў і абавязкова прысутнічалі ўпаўнаважаныя земскіх судоў – возныя, альбо іншыя прадстаўнікі земскага ці гродскага суда (часцей за ўсё гэта быў віж). Апошнія абавязкова ўносілі свае «квіты» (справаздачы) пра ўдзел у копным судзе ў кнігі земскіх ці гродскіх судоў. З гэтага часу рашэнне копнага суда набывала юрыдычную сілу. У некаторых выпадках на капе прысутнічаў і святар, асабліва тады, калі была верагоднасць вынясення злачынцу смяротнага прысуду.

Нельга лічыць, што копныя суды былі судамі, прызначанымі толькі для сялянства. Нягледзячы на тое што суд грамады перш за ўсё вырашаў пытанні, звязаныя з праблемамі «простых» жыхароў воласці, у шэрагу выпадкаў у якасці раўнапраўных суб'ектаў судовага працэсу побач з селянінам маглі выступаць і баярын, і нават шляхціц. Абшчыннае копнае права не заўсёды прытрымлівалася саслоўнага падзелу грамадства, характэрнага для феадалізму, таму там маглі разглядацца справы, што закраналі інтарэсы шляхты, асабліва той, чые ўладанні межавалі з сялянскімі землямі. Вядомы выпадкі, калі ў судовай пазямельнай спрэчцы паміж шляхціцам і дзяржаўнымі сялянамі чыноўнікі, а то нават і сам вялікі князь выступалі на баку сялян. Зразумела, што ў такіх выпадках на першы план звычайна выходзілі эканамічныя інтарэсы вярхоўнага ўласніка зямлі, але гэта неабходна разглядаць таксама як паказчык ролі копнага суда і сельскай абшчыны ў жыцці грамадства.

Шляхта прымала ўдзел у судовых пасяджэннях капы ў асноўным у тых выпадках, калі разгляд справы датычыўся непасрэдна яе інтарэсаў. Так, у кастрычніку 1625 г. «под час небеспеченьства от повитрыя у Берестью» ў кнігу Берасцейскага гродскага суда была ўнесена рэляцыя вознага Берасцейскага ваяводства Аляксандра Лазавіцкага пра сход капы сялян вёсак Ходліна, Грушавая, Падзямене, Камень, Запронніца, Мехведзевічы, Зарэчча, Залессе, Бародзіны, Ліпавая і Турна, у ім прыняў удзел пан Стэфан Нарушэвіч. Апошні «сам будучы особою своею поведил прычыну згромаженья тое копы» – знайсці яго слугу, які прапаў[293].

На капу людзі прыходзілі не як асобныя жыхары, яны прадстаўлялі грамаду сваёй вёскі ці воласці. Так, 8 кастрычніка 1687 г. па ініцыятыве суддзі Полацкага гродскага суда Хрыстафора Неміравіча Шчыта, які падаў скаргу ў Полацкі гродскі суд на сялян паноў Бенедыкта і Самуэля Прысецкіх, адбылася вальная капа: «у пэўным месцы, паміж мястэчкам пана Шчыта Вярхоўем і паміж вёскай паноў Прысецкіх, названай Кухі, на самай мяжы..»[294] Разглядалася справа аб чарадзействе, якое як быццам учыніла жанчына па прозвішчу Мачульнікава з в. Пугачы і Гаўрыла Кухель з в. Кухі – «большым аб дваццаці заломах, зробленых у розных месцах у жыце»[295]. Капа павінна была адбыцца рана, на пачатку дня, але сам

---

[292] НГАБ, ф. 1705, воп. 1, спр. 13, арк. 44 адв. - 45.

[293] АВК. - Т. 18. - С. 284.

[294] ИЮМ. - Вып. VI. - С. 316.

[295] Тамсама. - С. 315.

суддзя Х. Шчыт на яе не з'явіўся. Вось як апісваў падзею яе ўдзельнік, генерал Полацкага гродскага суда Якуб Раманоўскі: «Там з грамадой сваёй воласці а восьмай гадзіне раніцы стаўшы, доўга чакалі ў полі, і калі дачакацца доўга не маглі, выслалі з асяроддзя сваей грамады, з волі ўсіх там будучых, трох мужоў, разам са мной, Якубам Раманоўскім, генералам, да двара яго міласці пана суддзі, званага Касправа, у полацкім ваяводстве лежачага»[296] адправіліся. Не застаўшы Х. Шчыта дома, «вярнуліся да сваёй грамады» і вырашылі адкласці капу на два тыдні. Дакумент адзначае, што для таго, каб прыняць канчатковае рашэнне, возныя раіліся «з войтамі і мужамі розных валасцей»[297].

Падсуднасць спраў копнаму суду была дастаткова шырокай. Пасутнасці, гэтыя суды маглі разглядаць любыя справы аб злачынствах, здзейсненых на падсуднай ім тэрыторыі ў радыусе прыблізна 2-3 мілі (15-20 км)[298]. Вось што, напрыклад, паведамляецца пра гэта ў крыніцы: «...паводле права копнага сабралася капа, навокал аб міль дзьве, то ёсць дзяржавы Сакалоўскай яснавельможнага я. м. пана ваяводы віленскага з маёнтка Старога Здзітава з сёл...»[299] Капа разглядала пераважна справы аб разнастайных крадзяжах, патравах, псаванні борцяў і забранні мёду з іх, бойках, рабаваннях на дарогах, маёмасных спрэчках сярод сялян, сварках і да т. п.

Копнае судаводства ўперыяд, які разглядаецца, мела дзве формы: звычайную і гвалтоўную. Звычайная капа збіралася па ініцыятыве зацікаўленых асоб у загадзя вызначаны тэрмін, які часта быў прымеркаваны да рэлігійнага свята. Гвалтоўная, ці «гарачая», капа збіралася ў выпадку забойства. падпалу, нападу. калі пацярпелы «падымаў гвалт»[300]. Таму «гарачая» капа збіралася звычайна на месцы ўчынення злачынства. Гвалтоўная капа пачынала следства адразу з моманту з'яўлення інфармацыі аб учыненні злачынства – «гнала след», г. зн. перадавала злачынца. Калі яго ўдавалася злавіць, тая ж капа яго і судзіла. Згодна копным правам злачынец мог быць пакараны адразу, нават на смерць.

Капа выконвала адначасова судовыя і следчыя функцыі. Яе ўдзельнікі самі праводзілі расследаванне, пры неабходнасці адшуквалі злачынца («гналі след»). Следства на капе вялося звычайна на трох яе пасяджэннях. Калі за гэты час расследаваць справу не ўдавалася, іх праводзілася і больш. Апошняе пасяджэнне называлася «завітой» капой, на якой завяршалася («завівалася») справа.

Следства ў форме «гнаць след» часта іменна такім і было: капа ішла па слядах злачынцы. Калі след прыводзіў на тэрыторыю іншай абшчыны (воласці ці сяла), то капа выклікала на сход яго жыхароў і патрабавала «адвесці след», г. зн. даказаць, што ён ідзе далей, а не абрываецца на тэрыторыі гэтай абшчыны. Калі след адводзіўся, капа «гнала след» далей, калі не – грамада, у якой след абрываўся лічылася вінаватай і сама павінна была знайсці сярод сваіх членаў злачынца, і аддаць яго на прысуд капы.

Судовы працэс мог праходзіць у іншай форме і пачынацца адразу з «апытання копнага»: прадстаўнік улады распытваў абшчыннікаў, што яны ведаюць

---

[296] Тамсама.- С 316.

[297] Тамсама.- С 325.

[298] Юхо , Я. А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі.- С.121.

[299] НГАБ, ф.1705 ,воп .1, спр .13, арк. 44 адв.

[300] Маслыка, Г. Копны суд / Г Маслыка// Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6-ці тамах .- Мінск: Беларус. энцыкл. імя Петруся Броўкі, 1997 .- Т.4 .- С.232.

па ўзбуджанай справе. Пры невысвятленні акалічнасцей справы падазрэнне аўтаматычна падала на таго чалавека, які не выйшаў на капу[301].

У выпадках, калі злачынец не пакінуў яўных улік для таго, каб можна было «гнаць след», капа збіралася на сваім звычайным месцы ў поўным складзе. Хутчэй за ўсё збіраліся ўсе гаспадары вёскі (некалькіх вёсак), а пры неабходнасці кіраўнікі абшчын з бліжэйшых тэрыторый. На такіх пасяджэннях, калі ніхто адразу не быў абвінавачаны, то звычайна шукалі злачынцу «паміж сабой». Кожны ўдзельнік капы (копнік) тлумачыў, што яму вядома па справе, і прыводзіў доказы адносна невінаватасці сваёй уласнай і сваіх кроўных. Кіраўнікі суседскіх абшчын (старцы) даводзілі аб вінаватасці ці невінаватасці членаў сваіх грамад і звычайна прыносілі прысягу. Напэўна, прысяга капе была вельмі сур'ёзным учынкам, бо вядомы выпадкі, калі людзі адмаўляліся прысягаць за ўсю абшчыну. Напрыклад, у 1597 г. на капе ў маёнтку Дзевяткавічы тры селяніны з сяла Мсціслаўскага прысягнуць адмовіліся: «и мовили тыми словы, хотя ж дей вы, панове копа, дали сетей вину селу нашому о выкраденье клетей и о иншых шкод, тогды мы за всё село свое присегать не будем...»[302] Чалавек, якога абвінавачвалі, мог даваць «адвод», прыводзіць доказы аб тым, што ён не вінаваты.

Адказчыкамі на капе ў абсалютнай большасці выпадкаў былі сяляне. Гэта тлумачыцца тым, што для шляхты існавалі свае, саслоўныя, суды. Аднак крыніцы сведчаць, што ў некаторых выпадках, калі злачынцамі з'яўляліся шляхціцы ці мяшчане на разгляд капы «пападалі» прадстаўнікі дробнай шляхты, якія ў дакументах праходзяць як зямяне. Часцей за ўсё гэта былі малазямельныя людзі, якія жылі побач з прыгоннымі, вялі аднолькавае з імі гаспадарчае жыццё і адрозніваліся ад іх толькі шляхецкім званнем.

Следства, што вяла капа, абапіралася як на матэрыяльныя доказы (украдзеныя рэчы, сляды і да т. п.), так і на паказанні сведкаў. Калі капа не магла знайсці доказаў злачынства і адсутнічалі сведкі, да асобы, якая падазравалася ў здзяйсненні злачынства, маглі быць прыменены даволі цяжкія спосабы і прыёмы дазнання: «проба» (допыт), «туртуры» (катаванне), «мука». Спачатку абвінавачанаму прапаноўвалі самому прызнацца ў здзяйсненні злачынства, у многіх выпадках так і адбывалася. Калі ж абвінавачаны не прызнаваўся, а падазрэнне заставалася, да яго прымянялася «проба» ці «мука». Звычайна першы допыт праводзіўся з прымяненнем дубца. Калі і ў гэтым выпадку абвінавачаны не прызнаваўся, яго маглі катаваць праз агонь. Так, напрыклад, у 1595 г. на капе ў маёнтку Старынкі Менскага ваяводства быў абвінавачаны ў шматлікіх крадзяжах селянін Валенцей Очкас. Пасля таго, як ён прызнаўся ва ўчыненні крадзяжоў, стараста маёнтка Старынкі аддаў яго падданым Старынскім «на муку», каб даведацца пра іншыя крадзяжы і саўдзельнікаў, «а по тому пытанью и по муце того злодея подданные Старинские и вся волость на шибеницу узогнали»[303].

Прысуд капы мог быць самым разнастайным, у залежнасці ад вінаватасці злачынцы, памераў учыненай ім шкоды. Капа магла прыгаварыць нават да смяротнага пакарання («на горла»), якое звычайна адбывалася з дапамогай шыбеніцы. Ёсць прыклады, калі капа прысуджала злачынцу да чвартавання і нават да спалення.

[301] АВК. – Т.18. С.8.

[302] НГАБ, ф.1785, воп.1, спр. 15, арк.220.

[303] АВК. - Т.18.- С. 132.

Вядомы выпадак, калі прысуд капы да смяротнага пакарання («на горла») выконваў спецыяльна запрошаны на капу кат. Падобнае адбылося, напрыклад, у 1631 г. на Пужыцкай граніцы каля Высоцкага двара Берасцейскага ваяводства, дзе на капе быў асуджаны за крадзяжы селянін Даніла Амельяновіч, і возны «таго Даніла паставіў і містру сказаў пакараць на горла ў адпаведнасці з артыкулам чатырнаццатым з раздзела чатырнаццатага (Статута ВКЛ 1588 г. - *В. Г*)[304].

Аднак існуюць сведчанні і аб тым, што капа магла дараваць злачынцу жыццё і нават пасля вынясення прысуду, калі вінаваты каяўся і абяцаў больш не займацца падобнымі непатрэбнымі справамі. Так, у 1664 г. на капе каля Старога Здзітава асудзілі на смерць за крадзяжы нейкага Севасцяна Кандратовіча, «і калі яго, на горла асуджанага, і свяшчэннік Мацееўскі яго выспавядаў і на шыбеніцу яго узагналі, дзе той Севасцян Кандратовіч ужо на астатняй прыступцы свайго жыцця пачаў прасіць пана Бернатовіча (у яго злачынца ўкраў рэчы і збожжа. - *В. Г.*) і свяшчэнніка і ўсю капу, каб яму міласэрнасць зрабілі, абяцаючы прысягнуць Богу ў Троіцы Адзінаму і ўсёй капе, што больш той работы рабіць не будзе, тады пан Бернатовіч па просьбе паважаных людзей горлам дараваў і з шыбеніцы, зысці сказаў, а яго (злачынцу) капа пану Бернатовічу на адработкі аддала»[305].

Як ужо адзначалася, з сярэдзіны XVI ст. рашэнні капы абавязкова ўносіліся ў кнігі судовых спраў земскіх альбо гродскіх судоў. Рашэнні копных судоў былі канчатковымі, як правіла, выконваліся адразу і абскарджанню не падлягалі. Разам з тым возны, альбо віж, які прысутнічаў на копным судзе, мог затрымаць выкананне яго рашэння.

Аб тым, што рашэнні копнага суда павінны былі выконвацца нароўні з рашэннямі любых іншых судоў ВКЛ, сведчыць судовая справа, якая цягнулася з 1622 па 1623 г. і прайшла наступныя судовыя інстанцыі: копны суд – гродскі суд – Трыбунал ВКЛ – вялікі князь. Спрэчка ішла паміж князем Ярашам Жыжэмскім, падкаморыем Мазырскім, які адстойваў інтарэсы свайго слугі зямяніна Яна Федаровіча, з аднаго боку, і панам Янам Быкоўскім, дзедзічам маёнтка Пятаўшчызны і сяла Куркавічы і панам Самуэлем Слаўскім, трымальнікам на той час сяла Куркавічы, – з другога боку. Справа датычылася чарадзейства. Селянін Барыс Славіковіч, з сяла Куркавічы Менскага павета, якое належала Яну Быкоўскаму і знаходзілася ў трыманні Самуэля Слаўскага, «в року прошлом тысеча шестьсот двадцать втором мца юня двадцат шестого дня взявши перед себе злый и незбожный умысл а непамятаючи на боязнь Божую и на срокгость права посполитого смел и важыл ест попелнил чародейство а пришодши на власный кгрунт его Яна Федоровича в день светый недельный подчас Купала Руского нарвавши жита с коренем и колосом, когды у самом квете было, и розщепивши кол осиновый того жита наклал и коло того кола обвинул и тот кол з тым житом на могиле, где умерлый лежит, на кгрунте того Яна Федоровича, закопал. На котором том злом и незбожным учинку заразом тот Яном Федоровичем пойман был»[306].

Натуральна, што Я. Федаровіч палічыў такія дзеянні скіраванымі «на здоровье его, Яна Федоровича, альбо ку шкоде не малой его»[307]. Як сведчыць вытрымка з гродскіх кніг Менскага суда ад 27 снежня 1622 г., калі Я. Федаровіч

---

[304] Тамсама. - С. 324.

[305] НГАБ, ф. 1705, воп. 1, спр. 13, арк. 45.
[306] LY IA. F. 599, ap. 1, bib. 3, p. 357.

[307] АВК. - Т. 18. - С. 263.

прывёў у сяло злоўленага ім Б.Славіковіча і расказаў пра тое, што адбылося, назаўтра ўсе падданыя сяла сабраліся на капу. На капе Б. Славіковіча «за признаньем его власным, быть винным узнали», але не прынялі ніякага прысуду і справу адклалі «до другое копы и большого згромаженья людей околичных»[308]. Самога Б.Славіковіча да другога этапу суда перадалі цівуну пана С.Слаўскага, які паабяцаў паставіць абвінавачваемага на наступную капу.

Але далей працэс пайшоў нетрадыцыйным шляхам. Пачаліся спрэчкі паміж Самуэлем Слаўскім і прадстаўнікамі судовай сістэмы, галоўны змест якіх быў у тым, ці мае права копны суд разглядаць справы аб чарадзействе і прымаць па іх судовае рашэнне. Пан С.Слаўскі не палічыў вінаватым свайго падданага і «не паметаючи на строкгость права посполитого, а чинечи зволоку справедливости светое, так тому злочынцы, яко и всим подданым своим на копе становитьсе не шал и не становил...»[309]. Капа, паслаўшы возная разам са сваімі прадстаўнікамі да пана Слаўскага і не атрымаўшы адказу, улічваючы прызнанне Барыса Славіковіча на папярэдняй капе, прыгаварыла апошняга да пакарання на смерць: «спаленем огнём осудила»[310]. У пацвярджэнне такога рашэння капы падкаморый Мазырскі князь Яраш Жыжэмскі паклаў перад судом «декрет копный з сознаньем возных вписаный» са спасылкай на адпаведныя артыкулы Статута ВКЛ 1588 г.

Пан С. Слаўскі заявіў на судзе адвод супраць такога рашэння, паколькі, на яго думку, справы аб чарадзействе павінна разглядаць не капа, а гродскі суд: «якобы не копа о чары, але суд кгродский, водлуг артыкулу тридцатого з розделу четвертого, судити мает»[311].

У адказ на гэта Пётр Тышкевіч, ваявода і староста Менскі, які вёў у Менскім судзе дадзеную справу, не пагадзіўся з панам Слаўскім і загадаў паставіць перад ім, суддзёю, асуджанага на капе селяніна. Пасля адмовы С. Слаўскага гэта зрабіць, «видечи пана Славского упорным и права посполитого непослушны Пётр Тышкевіч запісаў: «декрет копный во всем ствержаю, и того подданого Бориса Словиковича на покаранье водлуг того декрету вказую, абы пан Слава подданых своих и того Бориса Словиковича ... за недель две, на копе третьей покаранью поставил; а где бы того подданого на копе поставити не казал, и того подданого Бориса Словиковича, где кольвек можно будет постигнувши водлуг декрету копного, покарати. Которая справа, яко се у суду точила, до книг кгродских Менских справ вечистых есть записана»[312].

Здавалася, рашэнне прынята, зацверджана вышэйшай судовай інстанцыяй і павінна быць выканана. Але, як аказалася, С.Слаўскі адмовіўся выканаць не толькі пастанову капы, але і рашэнне Менскага гродскага суда. Выяўленыя аўтарам у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў фондзе вядомага гісторыка Р.Меніцкага матэрыялы паказваюць, што падкаморый Мазырскі Я.Жыжэм 29 красавіка 1623 г. звярнуўся ў Трыбунал ВКЛ з просьбай прыцягнуць пана Яна Фёдаравіча Быкоўскага і Самуэля Слаўскага да Трыбунальскага суда за невыкананне пастаноў (дэкрэтаў) капы і гродскага суда[313].

[308] Тамсама.- С.263.

[309] Тамсама.- С.264.

[310] Тамсама.

[311] АВК. - Т.18.- С. 265.

[312] Тамсама.

[313] LVIA. F. 599, ap. 1, bib. 3, p. 357.

Вышкам стаўліст караля і вялікага князя Жыгімонта III, у якім, у прыватнаці, указвалася: «Земяном нашим воеводства Минского Яну Федоровичу Быковскому ... вечности а дедичу, а Самуелю Андреевичу Славскому на сей час державчому заставою села Курковичу воеводстве Минском лежачого. Жаловал на вас у суду нашего головного трыбунального подкоморый наш повету Мозырскского его милость князь Ярош Жиземский о том што ж дей вы Быковский и Славский маючи с ним подкоморим справу в кривде слуги и земянина его Яна Федоровича уделаню от подданого вашого на име Бориса Словиковича в селе Курковичах домом мешкаючого... В которой справе заховываючысе водлуг права посполито его милость пан подкоморий запозвал вас до суду кгродского Минского а за вказом на спаленье огнем того чародейника и отосланем от суду кгродского до суду копного, в которой справе той абы был огнем спалон сталсе и декрет копный.

Нижли дей вы, Быковский и Славский, неслушне будучи права посполйтого а заживаючи розмаитых фортелев и выкрентов считичисе, якуюсь декретом того явно злочинцу и чародейника окрваючы так перед судом кгродским, я и на копе становитисе не казали и не становили и во всем декретом кгродско и копным спротивили. О што его милость пан подкоморый видечи явное спротивенство сам от себе в несланеню того мужика водлуг тых декретов суду кгродского и копного выш помененых особ перед суд наш головный Трибунальный от положенья сего позву за недель шест позывает, што вам часу права ширей поло жоно буде. Прото приказуем вам Быковский а Славский а ешче за сим позвом земским Менским перед судом нашим головным трибунальным в сем року тысеча шестсот двадцать третього в Вильни яко на року завёлом стали и во всем сем на жалобу его пана подкоморего усправедливили. Писан в Менску, року тысеча шестсот двадцать третего Мца апреля двадцать девятого дня»[314].

Такім чынам, матэрыялы гэтай судовай справы пераканаўча сведчаць аб тым, што копныя суды сапраўды з яўляліся часткай судовай сістэмы ВКЛ. Менавіта гэта, у спрэчцы са шляхціцамі Я. Быкоўскім і С. Слаўскім, пацвердзілі Менскі гродскі суд, Трыбунал ВКЛ і сам вялікі князь. Як відаць, копныя суды функцыяніравалі ў судовай сістэме дзяржавы як самабытны, але рэгулюемы заканадаўствам судовы інстытут.

Зыходзячы з выкладзенага, уяўляецца важным яшчэ раз падкрэсліць, што суд грамады (копны суд), які здаўна быў традыцыйным, звычаёвым органам расследавання злачынстваў і судовага пакарання сярод сельскага насельніцтва, з XVI ст. у выніку дзеяння Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг. быў уключаны ў судовую сістэму дзяржавы як самабытны, але рэгулюемы заканадаўствам судовы інстытут. Дзейнасць копных судоў спынілася пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі і ўвядзення ў беларускай вёсцы сістэмы сельскага абшчыннага кіравання (сельскія таварыствы), аналагічнай расійскай, якая не прадугледжвала права сялян на ажыццяўленне судовых функцый. Копныя суды былі характэрнай з’явай для тэрыторыі Беларусі на працягу XVI-XVIII стст. і, несумненна, паўплывалі на фарміраванне своеасаблівасцей беларускага этнасу, менталітэту беларусаў.

[314] LVIA. F. 599, ap. 1, bib. 3, p. 357.

# 3

## СЕЛЬСКАЯ АБШЧЫНА Ў ДЗЯРЖАЎНЫХ УЛАДАННЯХ

### 3.1. Спецыфіка абшчыннай арганізацыі ў дзяржаўных уладаннях усходу Беларусі ў XVI - першай палове XVII ст.

У канцы XV-XVI ст. на ўсходзе Беларусі ў асноўным пераважала дзяржаое землеўладанне. Як адзначаў У. І. Пічэта, «калі ў заходняй частцы Беларусі гаспадарскія землі перамяжоўваліся з прыватнаўласніцкімі, то на Беларусі ўсходняй у XV і ў пачатку XVI ст. уся зямельная тэрыторыя была вялікакняжацкай[315]. У гэтым сцвярджэнні ёсць некаторае перабольшванне. На ўсходзе Беларусі існавалі не толькі гаспадарскія, але і прыватнаўласніцкія і царкоўныя маёнткі. А праўда заключаецца ў тым, што дзяржаўнае землеўладанне ў гэты час пераважала ў структуры феадальнага землеўладання ва ўсім ВКЛ і на тэрыторыі Беларуі ў прыватнасці. Так, толькі дамен вялікага князя Літоўскага ў сярэдзіне XVI ст. займаў амаль палову тэрыторыі краіны[316], а на ўсходзе ж сапраўды большая частка маёнткаў належалі дзяржаве ці асабіста гаспадару. Гэтым тлумачыцца тое, што гаспадарчая і сацыяльная палітыка, якая праводзілася ў дзяржаўных уладаннях у значнай меры ўплывала на характар развіцця ўсяго рэгіёна.

Можна сцвярджаць таксама, што вызначальны ўплыў на развіццё эканомікі на сацыяльнае становішча насельніцтва ўсходу Беларусі аказвалі два асноўныя гаспадарча-тэрытарыяльныя рэгіёны – Падзвінне і Падняпроўе, у якіх пераважалі менавіта вялікакняжацкія (гаспадарскія) уладанні. Дакладна вызначаных межаў гэтых рэгіёнаў не існавала. Падзвінне займала тэрыторыю, што ў асноўным знаходзілася ў сярэднім і верхнім басейне Заходняй Дзвіны, на поўнач ад Лагойска і Барысава да паўночных і ўсходніх межаў Беларусі. У раёне верхняга цячэння Бярэзіны адбываўся паступовы пераход земель Падзвіння ў Падняпроўскія тэрыторыі. Падняпроўе ахоплівала землі ў басейне верхняга Дняпра, яго прытока Сожа, Друці, а таксама ў верхнім цячэнні Бярэзіны.

Указаныя землі з даўніх часоў мелі адметныя сацыяльныя і палітычныя асаблівасці свайго становішча ў ВКЛ. Так, Падзвінне было галоўнай часткай тэрыторыі старажытнага Полацкага княства, а пазней стала асновай Полацкай і Віцебскай земель, якія ўвайшлі ў ВКЛ на правах аўтаноміі[317]. У XV-XVIII ст ст. на тэрыторыі Паддзвіння размяшчаліся гаспадарскія Паддзвінскія воласці – Аболецкая, Азярышчанская (Езярышчынская), Браслаўская, Віцебская, Дзісенская, Друйская, Дрысвяцкая, Опеская (Опская), Полацкая, Укольская, Усвяцкая і інш. Тут

---

[315] Похилевич, Д. Л. Статус домена Великого князя Литовского и его населения в XV-XVI вв. Д. Л. Похилевич // Тезисы докладов и сообщений XV сессии межреспубл. симпоз. по аграрной истории Восточной Европы, Вологда, 17-13 сент. 1974 г. /Акад. наук СССР, Отделение истории АН СССР, Ин-т истории СССР АН СССР, Вологод. проблемное объединение по агр. Истории Европ. севера СССР; редкол.: В. Л. Янин [и др.]. - М., 1974. - С. 52.

[316] Пичета, В. И. Юридическое положение сельского населения на частновладельческих землях ко времени издания Литовского статута 1529 г. / В. И. Пичета // Белоруссия и Литва XV-XVI (исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития В. И. Пичета.- М: Изд-во Акад. наук СССР, 1961. - С. 360.

[317] Ціцоў, В. Паддзвінне / В. Ціцоў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі у 6 т. – Мінск: Беларус. энцыкл. імя Петруся Броўкі, 1999. – Т. 5. – С. 372.

у адрозненне ад іншых рэгіёнаў ВКЛ больш шырокія правы мела не толькі шляхта, але і людзі простага стану, сяляне, якія жылі ў дзяржаўных уладаннях выконвалі спецыяльныя службы, звязаныя ў першую чаргу з абаронай краіны. Сярод гэтых правоў вылучалася права простага насельніцтва на захаванне ўласнай самаарганізацыі, права самім збіраць і аддаваць дзяржаве чынш і даніну і некаторыя іншыя, што ўжо не было ў такой ступені характэрна для дзяржаўных уладанняў захаду і цэнтра Беларусі.

Падобнымі правамі валодала таксама сельскае насельніцтва, якое пражывала ў гаспадарскіх Падняпроўскіх валасцях: Аршанскай, Бабруйскай, Барысаўскай, Бярэзінскай, Брагінскай (Пціцкай), Гомельскай, Горвальскай, Дубровенскай, Крычаўскай, Любашанскай, Магілёўскай, Мазырскай, Прапойскай, Рэчыцкай, Свіслацкай, Чачэрскай і інш.[318] Хаця Палняпроўе не было напрамую звязана з Паддзвіннем гаспадарчымі сувязямі, гэтыя рэгіёны мелі некаторыя агульныя рысы ў сацыяльна-эканамічным развіцці.

Як ужо адзначалася ў главе "Гістарыяграфічны агляд і крыніцы даследавання", існаванне сялянскай абшчыны ў дзяржаўных уладаннях усходу Беларусі ў XVI ст. на матэрыялах Метрыкі ВКЛ паказаў М.В. Доўнар-Запольскі. Ён таксама звярнуў увагу на тое, што абшчынная арганізацыя ў дзяржаўных уладаннях усходу Беларусі з XVI ст. была двухўзроўневая, мела валасную і сельскую структуры. Валасную, ці тэрытарыяльную, абшчыну ўказаны аўтар вызначыў як «сялянскую самакіруючую арганізацыю ў складзе Літоўска-Рускай дзяржавы»[319], у складзе якой існавалі «меншыя арганізацыі, сельскія абшчыны»[320]. З такім падыходам менавіта для дзяржаўных уладанняў усходу Беларусі XVI ст. неабходна пагадзіцца, адначасова маючы на ўвазе, што з іншых відах уладанняў і ў іншыя гістарычныя перыяды існавалі абшчыны асобных вёсак, не аб'яднаныя ў воласці.

Выкарыстоўваючы ў тым ліку і вывады М.В. Доўнар-Запольскага, паспрабуем прасачыць дзейнасць абшчыны ў дзяржаўных уладаннях усходу Беларусі на больш шырокай крыніцазнаўчай базе, разгледзіць дынаміку яе развіцця да сярэдзіны XVII ст., да часоў войнаў і гаспадарчых разбурэнняў, калі змяніўся і характар сацыяльна-эканамічнай палітыкі дзяржавы.

Вывучыючы становішча сельскай абшчыны ў Беларусі ў XVI - першай палове XVII ст., неабходна адзначыць своеасаблівасці яе развіцця ва ўсходнім і заходнім рэгіёнах. Захад і ўсход Беларусі пачалі значна адрозніваца паміж сабой па ролі і месцы абшчыны ў сацыяльна-эканамічным жыцці сялянства і ўсяго грамадства прыблізна з сярэдзіны XVI ст., галоўным чынам з часоў правядзення валочнай памеры. Пры гэым захоўваліся і агульныя элементы абшчыннай арганізацыі на захадзе і ўсходзе Беларусі. Рахам з правядзеннем валочнай памеры і звязанай з ёй індывідуалізацыяй сельскага гаспадарання своеасаблівым паказчыкам аднастайнасці абшчыннай арганізацыі захаду і ўсходу Беларусі стала воласць. Справа ў тым, што як на захадзе, так і на ўсходзе асобныя сельскія абшчыны афіцыйна былі ўключаны ў склад значна большых тэрытарыяльных арганізацый – валасных абшчын, ці проста «валасцей».

Воласці ў пераважнай большасці належалі вялікаму князю (гаспадару) і, як

---

[318] БЭФ. – Т.І. – С.188; LM-3. Р. 28; МВКЛ. – Кн.43. – С. 62.

[319] Довнар-Запольский, М.В Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке / М.В. Довнар-Запольский. – Киев 1-я артель Печатного дела, 1905. – С 10.

[320] Тамсама. – С 11.

дзяржаўная ўласнасць, супрацьпастаўляліся вотчыне – уладанню на правах прыватнай уласнасці, радавому ўладанню, якое даставалася ў спадчыну[321]. Рахам з тым у крыніцых сустракаюцца факты перадачы воласці ці яе часткі ў вотчыну (напрыклад, у 1470 г. вялікі князь Казімір аддаў «Баце волость Свадитов у вотчину[322]») або ў часовае трыманне. Такім чынам, тэрыторыя воласці не была нязменнай: яна магла як павялічвацца, так і змяншацца. Аднак межы тэрыторыі воласці былі даволі дакладна для таго часу вызначаны і дэмаркіраваны з дапамогай спецыяльных межавых знакаў – капцоў. Адзначым, што ў некаторых выпадках дзяржаўныя воласці ці іх часткі, перададзеныя гаспадаром прыватным ці царкоўным уласнікам, з цягам часу «памяншалі» свае абшчынныя паўнамоцтвы, асабліва ў сёлах, пераведзеных на паншчыну. Але так было не ўсюды і не заўсёды. Так, у былой гаспадарскай Стрэшынскай воласці, падараванай ў 1399 г. вялікім князем Вітаўтам Віленскаму каталіцкаму біскупству, грамада працягвала існаваць на працягу XVI-XVIII стст.[323]

У дакументах XVI ст. тэрытарыяльная абшчына ў цяперашнім разуменні гэтага паняцця абазначалася словам «воласць». Хутчэй за ўсё, пасля правядзення ў ВКЛ адміністрацыйнага падзелу на ваяводствы і паветы тэрмін «воласць» захаваўся ў асноўным для абазначэння сельскай абшчыны як грамадскай, падаткавай і адміністрацыйна-тэрытарыяльнай (у складзе павета, староства, эканоміі) структуры.

Воласці знаходзіліся галоўным чынам у складзе тых дзяржаўных, прыватных ці царкоўных уладанняў, дзе сялянская абшчына не проста працягвала існаваць, але і прызнавалася з боку феадальнага ўласніка, што было зафіксавана і ў дакументах. Крыніцы сведчаць аб тым, што не існавала аднастайнага ўладкавання ці падзелу валасцей як тэрытарыяльных абшчын на меншыя структурныя адзінкі. Тэрыторыя, якую займала воласць, з цягам часу магла мяняцца, у рамках адной воласці маглі з'яўляцца новыя абшчыны-воласці, частка воласці магла змяніць свой статус у выніку гаспадарскіх падараванняў і інш.

Валасная грамада складалася з грамад асобных вёсак. У XVI - першай палове XVII ст. тэрыторыю сельскай грамады складалі ворыўныя землі, а таксама сенакосныя, лясныя ўгоддзі, рэкі і азёры. Межы кожнай вёскі былі добра вядомы па традыцыі, пры неабходнасці яны фіксаваліся дакументальна і адпаведныя запісы ўносіліся ў судовыя кнігі. Угоддзі звычайна знаходзіліся ў сумесным карыстанні. Валочная памера хоць і вяла да індывідуалізацыі землекарыстання, але ўводзіла і абавязковае трохполле, якое практычна рэгулявалася іменна праз грамаду.

Да сённяшняга дня, на жаль, не выяўлена ніводнага дакумента, што дэталёва адлюстроўваў бы ўнутраную арганізацыю воласці (хутчэй за усе, такой аднастайнасці і не было), але абсалютная большасць даследчыкаў, якія займаліся пытаннямі жыцця сельскага насельніцтва і адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання ВКЛ, прыходзілі да думкі аб тым, што воласці, у прыватнасці ў XV-XVI стст., уяўлялі сабой адначасова адміністрацыйна-тэрытарыяльныя, гаспадарчыя і падаткавыя адзінкі, у межах якіх нават пасля правядзення вялікай аграрная рэформы XVI ст. працягвала функцыяніраваць абшчына як форма сацыяльнай,

[321] Груша, А.І. «И привильем своим подтвердил»: у вытокаў пісьмовай культуры Вялікага княства Літоўскага / А.І. Груша // Памяць стагоддзяў на карце Айчыны. Зборнік навуковых прац у гонар 70-годдзя Міхаіла Фёдаравіча Спірыдонава. – Мінск: Беларус. навука, 2007. – С. 199-210; Насевіч, В.Л. Воласць / В.Л. Насевіч, В.П. Панюцін // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. – Мінск: Беларус. энцыкл. імя Пятруся Броўкі, 1994. – Т. 2. – С. 350.

[322] LM-3. – P. 45.

[323] LMA BRS. F 43, bib. 8782, 17486, 17487, 17538.

тэрытарыяльнай і ў пэўным сэнсе эканамічнай арганізацыі сельскага насельніцтва[324].

Існаваў цікавы, не тэрытарыяльны, а павіннасны падзел воласці на «нядзелі», якія адлюстроўваў парадак адбывання падводнай павіннасці ўнутры валаснай грамады. Напрыклад, у 1528 г. у матэрыялах адносна Бабруйскай воласці ўпаміналіся сёлы «Прывалічы і Іванавічы Балашоўскай нядзелі»[325]. Сёлы «Балашоўскай нядзелі» - гэта сёлы, якія разам з цэнтральным сялом Балашэвічамі «служылі» свой чарговы тыдзень у Бабруйскім замку. У 1529 г. старцы Віленскай палавіцы Бабруйскай воласці Кузьма Вошка і Губар падалі вялікаму князю скаргу на людзей паноў Касцевічаў з сёл Зубарэвічы і Колчыцы. Раней, з часоў Казіміра, гэтыя людзі «недели с подводами посполу с ними стерегивали и городы, и мосты робливали, и в подачках, и во всяких розметех им помогивали, а тепер им в том ни в чом помогати не хотят»[326]. Верагодна, гэтыя сёлы раней уваходзілі ў склад гаспадарских валасцей, таму што бабруйчане спасылаліся на сваіх паплечнікаў, падданых іншых гаспадарскіх валасцей («поплечников своих, до людей Бобруйское волости Троцкое половины и теж до Свислочан, и до Горволичан, и до Пчичан, который здавна з ними подводы менивали»)[327]. Да 1621 г. падданыя Бабруйскай воласці кожны тыдзень па чарзе павінны былі хадзіць на старожу ў Бабруйскі замак і замкавыя фальваркі (пазней яны пачалі рабіць складкі па шэсць грошаў і асьміне жыта, перадавалі іх старцу, а той за кошт гэтых складанак наймаў вартаўнікоў на цэлы год)[328].

М. К. Любаўскі таксама адзначаў, што адносна падводнай павіннасці воласці дзяліліся на «нядзелі», і кожная такая частка павінна была ставіць падводы ў пэўным населеным пункце і трымаць напагатове ў чаканні гаспадара альбо яго паслоў і ганцоў[329]. Так, у Мазырскай воласці ў 1552 г. налічвалася 27 сёл, якія дзяліліся на 6 нядзель, у Бчыцкай воласці (15 сёл) таксама было 6 нядзель[330]. Цікавы запіс, які сведчыў аб тым, што ў склад валаснай абшчыны ўваходзілі толькі сяляне, якія ўжо страцілі волю і права пераходу, быў зроблены пры апісанні Мазырскай воласці ў 1552 г. Згодна з гэтым запісам, вольныя людзі, якія жылі ў сёлах нядзелі, былі абавязаны дапамагаць толькі абшчыне свайго сяла: «Прихожие люди в той же волости Мозырское в той же неделе и селех верху писаных, нижли города ни паркана, ни перекопов не копают, кром под присудом Старостиным, а на старосту сено косят и подымщину, на подводы, на ставе, своему селу помогают в котором живут, а земл теж бортных под собой не мают»[331].

Дзяржава як землеўласнік, а таксама вялікакняжацкія намеснікі і

---

[324] Довнар-Запольский, М. В Западно-русская сельская община в XVI веке / М. В. Довнар-Запольский. - СПб.: Типография В. С. Балашова и К°, 1897. - С. 15, 16, 17, 18; Гурбик, А. О. Еволюція соціально-територіальних спільнот в середньовічній Україні (волость, дворище, село, сябринна спілка) / А. О. Гурбик. - Київ: Ін-т історії України НАН України, 1998. - С 23-24, 33-54, 54.

[325] LM-12.-P.523.

[326] LM-4. - P.324.

[327] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута.- С 14.

[328] LVIA. F. 11, ap. 2, ЫЬ. 65, p. 544.

[329] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута.- С 473.

[330] НГАБ, ф. 1728, воп. 1, спр. 19, арк. 413-424 адв

[331] Тамсама. - Арк. 423 адв. - 424.

адміністрацыя на месцах звычайна пазбягалі залішняга ўмяшання ў жыццё вёскі. Ім было выгадна, каб пытанні, якія не датычыліся непасрэдна выканання павіннасцей і выплаты чыншу і даніны, вырашаліся сялянамі самастойна, без удзелу землеўласніка ці дзяржавы, без затраты сродкаў і часу з боку ўрада і яго ўраднікаў. Вышэй ужо адзначалася, што сельскія абшчыны мелі нават сваю судовую арганізацыю (копны суд), афіцыйна прызнаную дзяржавай. Гэты суд распаўсюджваў свае паўнамоцтвы на тэрыторыю некалькіх суседскіх абшчын, што несумненна сведчыла аб яго даволі глыбокіх гістарычных каранях.

Верагодна, існаваў свой абшчынны суд і ў асобных сёлах, асабліва калі разглядаліся простыя, некрымінальныя справы. Аб гэтым, напрыклад, сведчыць упамінанне ў велікакняжацкай грамаце насельніцтву Свіслацкай воласці ад 19 ліпеня 1540 г.; «А о дерево бортное и о бчолы мають они сами межи собою судити»[332].

Магчыма, што разам з правядзеннем палітыкі цэнтралізацыі дзяржаўнага кіравання пры ўсталяванні новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу і пастаяннай рэарганізацыі сістэмы падаткаабкладання ўлады выкарыстоўвалі як абшчынныя структуры, так і адміністрацыйных асоб валасной грамады. Так. у дакументах XV-XVI стст. вельмі часта сустракаюцца прыклады, калі інфармацыю аб новых падатках і павіннасцях, змене ўласніка і нават падараванні дзяржаўных сялян у прыватныя рукі вялікі князь дасылаў не толькі свайму намесніку, але і валасному старцу (ці абодвум разам). Напрыклад, у 1440-1447 гг. вялікі князь Казімір у лісце «наместнику бобруйскому троцкое половицы и старцу» інфармаваў іх аб тым, што ён перадаў некалькі сялян-даннікаў Рагачоўскай і Бабруйскай валасцей пану Доўкшу[333]. Падобны ліст вялікага князя Аляксандра ад 14 лістапада 1492 г. аб тым, што ён падараваў маршалку гаспадарскаму Грыгорыю Осцікавічу людзей Дурынічаў, быў адрасаваны «наместнику бобруйскому виленское половицы и старцу»[334]. Захаваліся таксама велікакняжацкія граматы, адрасаваныя толькі старцу ці старцам.

Пры зборы падатку 1561 г. у гарадах з магдэбургскім правам для спагнання пабораў устанавілі сотнікаў, пяцідзесятнікаў і дзесятнікаў, а ў валасцях – войтаў і лаўнікаў. Акрамя таго, да лаўнікаў і войтаў пры зборы падатку было рэкамендавана дадаваць двух прадстаўнікоў грамады, а сам пабор павінен быў збірацца на грамадзе, публічна, «паспаліта»: «придаючи по двух мужов веригодных, и нехай бы везде посполите выбирали...»[335]

Калі ў 1562 г. збіралася серабшчызна, то лісты аб яе зборы накіроўваліся па ўсёй дзяржаве з прыпіскай «до врадников и до подданых»[336]. У некаторых выпадках удакладнялася больш канкрэтна: «До державцы речицкого и до подданых»[337]. Больш за тое, у агульнадзяржаўным дакуменце аб зборы серабшчызны ў 1562 г. на прыкладзе Браслаўскай воласці ў якасці дадатку быў змешчаны эталон ліста, які дасылаўся да насельніцтва. У адпаведнасці з дадзеным узорам пісаліся лісты да

332 МВКЛ - Кн.28.- С.116-117.

333 LM-10.- P.87.

334 LM-3 .-P.71.

335 LM-564.- P.87 .

336 Тамсама.- P.112.

337 Тамсама- P.113.

насельніцтва іншых гаспадарскіх валасцей. Гэта можна разглядаць як прамое сведчанне таго, што зварот аб зборы серабшчызны быў накіраваны іменна да валаснойграмады: «А мы до войтов, старцов, десятников и всих подданых наших тамошних писати велели приказуючи, жебы они тую серебщизну на час от тебе назначоныи отдали, проволоки и сплошеньства в том не чинечи... А до подданых тым обычаем писано: Войтом, старцом, десятником, мещаном и всим подданым нашим волости Браславское местским и волостным...»[338]

Такім чынам, аб тым, што валасная грамада прызнавалася ўладамі ў якасці рэальнага сацыяльна-гаспадарчага інстытута дзяржавы, яскрава сведчаць факты прамых кантактаў паміж кіраўніком дзяржавы і валаснымі абшчынамі. Воласць у адносінах з вялікім князем выступае як адзінае цэлае, інтарэсы якога прадстаўляе яе кіраўнік – старац.

Як сведчаць крыніцы, найбольш распаўсюджаным найменнем кіраўніка абшчыны было «старац», але ў другой палове XVI ст. пачалі з'яўляцца і новыя. Так, да правядзення валочнай памеры ў Магілёўскай воласці было два старцы: мядовы і сярэбраны, верагодна, у залежнасці ад таго, за збор якой даніны кожны з іх нёс адказнасць. Напрыклад, ліст вялікага князя Жыгімонта Старога ад 1520 г. «Надержане замку и волости Могилевское», адрасаваўся «Бояром и мещаном могилевским, и старцом серебреному и медовому, и всим людем нашим волости нашое Могилевское»[339]. Звесткі аб старцах – кіраўніках абшчыны сустракаюцца ў дакументах, якія датычацца Свіслацкай, Любашанскай, Бабруйскай, Прапойскай, Чачэрскай, Горвальскай, Рэчыцкай, Брагінскай, Мазырскай і Бчыцкай валасцей – 1500 г.[340], а таксама Любашкоўскай воласці Віцебскага павета – 1563 г.[341], Бабруйскай воласці Рэчыцкагапавета – 1492 г.[342],1560 г.[343] і 1639 г.[344], Бчыцкай воласці Мазырскага павета – 1571 г.[345], Азярышчанскай воласці Віцебскага павета – 1625 г.[346], Гомельскага староства Рэчыцкага павета – 1640 г.[347] і інш. У 1560 г. старцы былі ў большасці сёл, што ўваходзілі ў склад валасцей, якія адносіліся да Аршанскага (Рошскага) замку[348]. Колькасць такіх прыкладаў можна было б павялічыць.

Падчас Лівонскай вайны, калі рускія пісары рабілі апытанне насельніцтва «Азярыцкага ўезда і Усвяцкай воласці» наконт таго, якія павіннасці сяляне адбывалі тут раней, то яны назвалі кіраўніка і мужоў-абшчыннікаў па-свойму «старастам» і «лепшымі людзьмі» («Озерищской войт Азар Офонасов да Усвяцки лости староста Офрем Петров, да бывший староста Усвяцкие же волости Иван Ефремов сын

[338] Тамсама. - Р.114.

[339] LM-10.-P.60.

[340] БЭФ. - Т. I. - С. 187.

[341] LM-51.- P. 155.

[342] LM-3. – P 71.

[343] AGAD. AR, dz. X, sign. 287, p. 19, 32, 33.

[344] LVIA. F. 11, ap. 2, bib. 65, p. 546, 548.

[345] AGAD. AR, dz. X, sign. 13, p. 17.

[346] Тамсама. - Sign. 305, p. 9.

[347] АВК. - Т.14.- С. 376.

[348] ДМАМЮ. - Т. I.- С. 130-134.

Брюхно, да лутшие люди Озерищского уезда и Усвяцкие волости…»)[349].

Пасля пасады старца найбольш часта ў крыніцах сустракаецца ўпамін аб пасадзе войта (асабліва ў маёнтках, дзе прайшла памера на валокі). Але гэта не было правілам, бо ў Бабруйскай воласці, напрыклад, пасля валочнай памеры кіраўніком валасной абшчыны заставаўся старац. Войт, які станавіўся кіраўніком абшчыны, звычайна прызначаўся ўладамі. Натуральна, што ён быў у большай ступені залежным ад тых, хто яго прызначыў, у параўнанні са старцам, якога да валочнай памеры звычайна выбірала насельніцтва.

На ўсходзе Беларусі ў XVI - першай палове XVII ст. былі і іншыя адміністрацыйныя асобы грамады, якія з'яўляліся памочнікамі старцаў ці войтаў. Так можна назваць лаўнікаў (Барысаўскае староства – 1634 г.[350], Гомельскае староства – 1635 г.[351]), заказнікаў (Свіслацкая воласць – 1560 г.[352] і Бабруйская волаа першая палова XVII ст.[353a]). У велікакняжацкай грамаце Падняпроўскім валасцям за 1537 г. разам са старцамі згадваліся дзесятнікі[354]. Дзесятнікі і заказнікі ўпаміналіся таксама і ў матэрыялах адносна Прапойскай і Чачэрскай валасцей 1561 г.[355] Азярышчанскага староства Віцебскага павета ў першай палове XVII ст.[356]

Аднастайнасці ў спосабе вылучэння на пасаду старца ў XVI – першай палове XVII ст. у гаспадарскіх Падняпроўскіх і Падзвінскіх валасцях не было. Па меншай меры, крыніцы такой аднастайнасці не падаюць. Аўтару ўдалося выявіць пяць варыянтаў заняцця старцамі сваёй пасады, усе яны былі адобраны вялікім князем. Гэта наступныя варыянты: аддача пасады старца вялікім князем за грошы; прызначэнне вялікім князем; выбары сялянамі; прызначэнне вялікім князем ці намеснікам са згоды воласці; прызначэнне намеснікам. Верагодна, маглі быць і іншыя камбінацыі згаданых варыянтаў выбараў (ці прызначэння) старца.

Адносна першага варыянта вядомы так званы памятны запіс, калі 30 лістапада 1482 г. вялікі князь Казімір аддаваў пасады намеснікаў і старцаў у Падняпроўскіх валасцях пэўным людзям, якія плацілі за атрыманае намесніцтва, ці «старчэнне», пэўную суму грошай. Так, «у Троцех почали наместництва и старченства роздават, мца ноября 30 день, индикт 15. Речицкое наместництво взял Квач, королю от того дал 8 корабельников. А старченство Речицкое взял Комар, королю дал 2 корабельники. У Вильни дано наместництво Могилевское Митку Стародубцу, королю дал шестьдесят золотых вгорьских. От серебряного старченья могилевского Юрко дал 13 коп. От медового старченья Андрейко дал 4 копы»[357]. Гэта адзіны выяўлены аўтарам выпадак, калі кіраўнік дзяржавы браў плату за прызначэнне ў воласць старца. Невядома, наколькі моцна ўкаранілася такая практыка аплаты пасад, якія раздаваліся. Можна меркаваць, што гэта было пэўным чынам звязана са спробай дзяржавы ўзяць пад больш кантроль абшчыну ў

---

[349] ПКМГ. - 4.1. - Отд .II .- С. 433.

[350] AGAD. AR, dz. X, sign. 204, p. 21.

[351] Czart. Rkps. 11918, nienumer.

[352] Даўгяла, 3.1. Свіслацкая воласць у 1560 г. / 3.1. Даўгяла / Наш край. - 1927 .- №12. - С. 22.

[353a] LVIA. F. 11, ap. 2, bib. 65, p. 546.

[354] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке.- Приложение.- С. 40.

[355] СПБ. - Т. I. - С. 66.

[356] AGAD. AR, dz. X, sign. 308, p. 10.

[357] АЛРГ. – Вып. I - Т. 2. - С. 52.

Падняпроўі. Разам з тым з улікам такога прызначэння (звернем увагу на тое, што намеснік і старац у воласць прызначаліся адначасова) становіцца больш зразумелай пэўная прастата (вялікі князь мог ведаць старцаў асабіста) адносін вялікага князя з кіраўнікамі валасных абшчын у Падняпроўі. У прыватнасці тое, чаму вялікі князь звяртаўся да старцаў персанальна і чаму старцы маглі ў любы момант паскардзіцца на парушэнне намеснікам альбо іншым дзяржаўным чыноўнікам папярэдніх дамоўленасцей.

Асабіста гаспадаром быў прызначаны старац Олучыцкай валасці Крычаўскага замка ў 1529 г. Так, вялікі князь Жыгімонт Стары адносна валаснога старца гэтай воласці пісаў: «которому мы сами господар старченства были поручили»[358].

А. Б. Доўнар у сваёй працы, прысвечанай сялянам-слугам у Беларусі другой паловы XVI - XVIII ст., прывёў выяўлены ў Метрыцы ВКЛ прыклад зацвярджэння вялікім князем старца Рэчыцкай воласці. Так, 13 мая 1596 г. Жыгімонт Ваза зацвердзіў на гэтай пасадзе селяніна Сямёна Сямёнавіча. У дакуменце гаварылася, што старац «пастаўлены для лепшага парадку паміж падданымі, і што ён мае права браць на сябе даходы, якія здаўна прыходзіліся на пасаду старца (праўда, з ведама рэчыцкага старосты Пятра Жыжэмскага, які і прасіў вялікага князя даць Сямёну пацвярджальны ліст»)[359].

Разам з тым у многіх валасцях старца выбірала само насельніцтва. Адзіных правілаў такіх выбараў таксама не існавала. Напрыклад, на чале Любашанскай воласці ў 1500 г. знаходзіўся старац, якога выбіралі прадстаўнікі (ці старцы) асобных вёсак воласці: «Мы мужы Любошанцы, с порученья всея волости Любошанское вызнаваем сим нашим листом, - Ясь с Кекерова, Панко с Стоял, Мышке Кожыч, Слуц Высоки, Симон з Суши, Сорока з Хочич, Дорош Старынчич, Платон з Вирикошич, Иван з Дален, Семен Старынчич, Андрей Хороховский з Добрилович, Фома с Добрылович, Данило Сланкович з Дален, Мокей с Височких. Илейка з Бросневич, Толстый з Довгоед, Селивон, старец, з Лешницы, Прыкрый в Любошанех, Овсей Семенович з Любошан – обобрали есмо всполок старцом человека волости Любошанское ж на имя Селивона Хласовича»[360].

Традыцыйна (і гэта традыцыя захавалася да канца XVIII ст.) выбіралі старца жыхары Барысаўскай воласці. У XVI ст. гэта рабілася вясной, калі збіраліся «мужы» і дамаўляліся аб тым, «которого межи себе старца уставить хочем»[361].

У 1537 г. вялікі князь Жыгімонт Стары пацвердзіў права насельніцтва Гомельскай воласці на самастойныя выбары старца: «А што ся дотычеть старца, хто бы мел старченство у той волости заведовати, ино которого человека волость на старченьство выбереть, то нехай старцом у них будет»[362]. Каралева Бона ў 1544 г. таксама засведчыла права выбару старца жыхарамі Усвяцкай воласці: «Нижли дей тот в них есть обычай стародавный, што они сами старца межи собою

---

[358] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута.- Приложения.- С XLVIII-XLIX.

[359] Доўнар, А. Б. Сяляне-слугі Беларусі другой паловы XVI - сярэдзіны XVIII ст. / А. Б. Доўнар. -Мінск: Беларус. навука, 2007. - С. 103.

[360] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке.- С 113.

[361] АЮЗР.- Т. I.- С.62.

[362] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке.- Приложения.- С 37.

выбираюць»[363].

Але паступова ўлада імкнулася ўзяць прызначэнне кіраўніка валаснай абшчыны ў свае рукі. Падкрэслім яшчэ раз, што прызначаны, хоць і са згоды насельніцтва, старац адчуваў большую залежнасць і адказнасць перад тымі, хто яго прызначыў. З гэтага часу функцыі і паўнамоцтвы старцаў пэўным чынам раздвойваліся. Старац у адной асобе з'яўляўся як дзяржаўным адміністратарам, які перадаваў абшчыннікам загады і пажаданні ўлад, так і лідэрам сваей абшчыны, інтарэсы якой абавязаны быў бараніць, выступаючы перад уладай ад імя валашчан.

У некаторых спрэчных выпадках кіраўнік дзяржавы самастойна кантраляваў выбары старца, відаць, імкнучыся не выклікаць незадаволенасці насельніцтва занадта рэзкімі дзеяннямі ўрадавых чыноўнікаў. Так, у 1535 г. вялікі князь Жыгімонт Стары ў адказ на прызначэнне дзяржаўцам старца без згоды на тое магілёўскіх валашчан выдаў распараджэнне аб прызначэнні старцам іншай асобы: «человека доброго, а годного, кого волость похочет»[364].

Формы прызначэння кіраўніка абшчыны часта змяняліся на працягу некалькіх гадоў нават у межах адной воласці. Напрыклад, вялікі князь Жыгімонт Аўгуст у дзвюх ідэнтычных граматах ад 14 ліпеня 1547 г., адрасаваных «старцом и всим под(дан ны)м» суседніх Прапойскай і Чачэрскай гаспадарскіх валасцей у адказ на скаргі насельніцтва на дзяржаўцу пана Юрыя Мікалаевіча Зяноўевіча, заявіў, што валашчане самі парушаюць старыну, «выламываючися с тых стародавных повинностей, их полнити не хочете и што деи перед тым стародавна в тых волостях наших заховывалося, так яко и в ынших волостях и тепер обычай есть, иж державца старца обравши и над волостью уставляет»[365]. Такім чынам, гэта была спроба пацвердзіць, што прызначэнне старца з'яўляецца даўняй прэрагатывай намесніка. Разам з тым аналіз тэксту граматы паказвае, што сам гаспадар не ўпэўнены ў гэтых паўнамоцтвах намесніка. Так, вялікі князь, адзначыўшы, што валасныя людзі без ведама велікакняжацкага намесніка «сами межи собою старца обравши, уставили без ведома и воли его», не здалі дзяржаўцу ўсё прызначанае палюддзе і яшчэ хочуць самі збіраць «мыто воденое от гостей», адназначна заявіў: «Ино што ся дотычит мыта и выбираня старца, то ест реч наш(а) г(о)спо(д)(а)рьская, а не в(а)ша хлопская»[366]. З тэксту відаць, што гаспадар спрачаецца з насельніцтвам Прапойскай і Чачэрскай гаспадарскіх валасцей, даказвае ім сваю праваты, заяўляючы, што менавіта ён, а не сяляне валодае правам выбіраць мыта і прызначаць старца. Прыведзены тэкст адназначна сведчыць аб тым, што сяляне згаданых валасцей імкнуліся да поўнага самакіравання, спрабуючы забяспечыць сваю абшчыну ў тым ліку і фінансава («мыто... на себе брати хочете»[367]), і, хутчэй за ўсё, засноўваліся ў гэтым на ранейшай традыцыі.

У 1548 г. каралеўскія камісары пры разглядзе скаргі сялян Чачэрскай воласці на згаданага пана Ю. Зяноўевіча ўдакладнілі працэдуру ўвядзення на пасаду валаснога старца – сяляне ўсё ж-такі выбіралі яго, але абавязкова зацвярджаў староста: «Што ся теж дотычет старца, иж не по их воли есть мают они завжды старца себе чл(о)в(е)ка доброго неподозренного, а годного обирати... и обравши его,

[363] Тамсама. - С. 113.
[364] Тамсама. - С. 23.

[365] СПБ. - Т. 1. - С. 37.

[366] Тамсама. - С. 38, 40.

[367] Тамсама.

мают пану старосте объявити и будет ли годный пан староста его людем г(оспо)д(а)рьским старцем установити маеть»[368].

Часта за права выбару старца абшчыннікі ў дзяржаўных уладаннях усходу Беларусі былі абавязаны плаціць грошы. Напрыклад, у Барысаўскай воласці ў XVI ст. сяляне па традыцыі валодалі правам выбару старца, але вялікакняжацкі намеснік паспрабаваў абмежаваць яго, беручы за гэтае права спецыяльную плату[369].

Ва Уставе гаспадарскім дварам Віленскага і Трокскага паветаў за 1542 г., якая адлюстроўвала агульнадзяржаўны падыход да выбараў абшчыннай адміністрацыі, прадугледжвалася: «Теж, абы державца дворов нашых, врадники дворныи: яко заказники, старцы, тивунове, прыставы, сорочники, гуменники обирали, што лепшыи мужы верный, а который бы большей стерегли роботы, пашне и иных...»[370]

Валасныя старцы прадстаўлялі сваю воласць у дачыненнях з гаспадаром і яго намеснікамі, іншымі феадаламі і ўраднікамі. На імя старцаў у першую чаргу адрасаваліся велікакняжацкія граматы, адказы на скаргі валашчан: «Старцом и всим людем волости н(а)шое Чечерское», «Старцом и всим людем волости н(а)шое Пропоиское»[371], менавіта старцы, як ужо адзначалася, збіралі даніну ў сваіх валасцях і адвозілі яе ў прызначаныя месцы. У матэрыялах Метрыкі ВКЛ сустракаюцца некалькі выразаў, якія абазначалі раскладку даніны ці падаткаў на асобных плацельшчыкаў («меты мятаць», «даніну мятаць», «рабіць разметы» і да т. п. Так, у 1522 г. вялікі князь Жыгімонт Стары забараніў крычаўскаму намесніі Васілю Жылінскаму прысутнічаць у воласці, калі сяляне «...межи собой розмі складуть»[372]. У грамаце вялікага князя Жыгімонта Старога да насельніцтва Сві лацкай воласці ў 1534 г. адзначалася, што «...мають сами подле стародавного обічая дань зметати и до замку нашего отвезти...»[373] Ва Уставе Магілёўскай воласі 1536 г. адзначалася, што валашчане «...мети мечуть на место и на волость на сво потребы...»[374] Вялікі князь Жыгімонт Аўгуст у 1554 г. абмежаваў правы насельніцтва Прапойскай воласці па прызначэнню і раскладцы разнастайных грашовых збораў: «А метов никоторых не мают они без ведомости державцы тамошнего метат и розрубывати, Але коды потреба вкажеть для платов н(а)ших г(оспо)д(а)рски: або для якое слушное потребы волостное розруб чынити и мет метати. Тогды ош з ведомостью державцы тамошнего и за вижом его и без бытности державцы ши за ведомом и вижом наместника его розрубы чинити и меты метати мають»[375].

Нярэдкімі былі выпадкі, калі сяляне таксама падавалі скаргі на кіраўнікоў сваіх абшчын за розныя гаспадарчыя і фінансавыя парушэнні. Такія дакументы цікавыя тым, што ў іх апісваюцца некаторыя эпізоды штодзённага жыцця абшчын, аб чым не паведамлялася ў інвентарах і рэестрах, якія звычайна складаліся ў

[368] Тамсама. - С. 47.

[369] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке. - С. 5.

[370] LM-6. - P. 210.

[371] СПБ. - Т. 1. - С. 37, 39.

[372] LM-4. - P. 65.

[373] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. - Приложения. - С. 19.

[374] Тамсама. - С. 27.

[375] СПБ. - Т. I. - С. 51.

стандартнай форме і нічога «лішняга» не змяшчалі. Напрыклад, сяляне Гарбавіцкай воласці Віцебскага ваяводства скардзіліся ў 1616 г. на сваіх войтаў, што яны, «выбраўшы з кожнай валокі на арэнду карчмы Гарбавіцкай і за млын, тыя грошы сабе пабралі...»[376] У скарзе сялян Бабруйскай воласці на сваіх старцаў указвалася: «иж старцы частый меты мечут на волость, а тыи пенязи беручы на своя потребы оборочають»[377].

Пры змене трымальнікаў эканомій, староставаў, прызначэнні новых велікакняжацкіх намеснікаў, увядзенні новых павіннасцей, як правіла, звярталіся да насельніцтва воласці з неабходнай інфармацыяй. Напрыклад, пры аддачы Аляксандру; Палубінскаму Бабруйскай эканоміі ліст ад каралевы і вялікай княгіні Людовікі Марыі быў адрасаваны «ўсім урадзнікам, падстаросту, пісарам, бурмістрам, райцам, войтам, солтысам, уладарам і ўсім увогуле падданым..»[378]

У кастрычніку 1634 г. браслаўскі падкаморы К. Стэцкевіч паведамляў, што ў Барысаўскім старостве «ў прысутнасці войта, уласнікаў і ўсіх падданых тамашняй дзяржавы»[379] адбылася перадача ў трыманне К. Валадковічу вёсак Вяляцічы і Мёдча, а таксама засценка Аўрамаўскага.

Валашчане дзяржаўных уладанняў хутчэй за ўсё валодалі больш шырокімі правамі, чым сяляне прыватных маёнткаў, дзе дзейнасць грамады абмяжоўвалася феадальным уласнікам. Па-першае, сяляне дзяржаўных уладанняў мелі права падаваць скаргі на імя вярхоўнага ўласніка - гаспадара, чым яны шырока карысталіся. У матэрыялах Метрыкі ВКЛ захаваліся як скаргі гаспадарскіх сялян, так і адказы на іх, прычым большасць такіх скаргаў зыходзіла якраз ад валаснай грамады. Па-другое, з сялянамі, арганізаванымі ў грамаду, вымушаны былі лічыцца нават дзяржаўныя чыноўнікі і ўласнікі суседніх панскіх маёнткаў. Ёсць многа фактаў аб тым, як дзяржаўныя сяляне спрачаліся з велікакняжацкімі намеснікамі і даказвалі сваю праваты. Вядома, напрыклад, што з валашчанамі Рэчыцкага гаспадарскага замка з сяла Ліпінічы ў прысутнасці мясцовай шляхты межы атрыманага грунту ўзгадняў каралеўскі дваранін пан Андрэй Длугабаньскі: «Поведал теж мне старец Липиницки Андрей Жолуд и вси подданые липиницкие перед сторонами людьми добрыми шляхтой, иж тая земля одних отделена»[380].

Некаторыя змены ва ўнутранай структуры абшчыны дзяржаўных уладанняў усходу Беларусі адбыліся ў канцы XVI - першай палове XVII ст. і былі звязаны ў асноўным з аграрна-падатковай рэформай, якая пачалася з 1560-х гадоў. Найбольш яскрава гэта праявілася ў зменах у сістэме кіравання валасцямі і асобнымі сёламі. І нават ва ўсходніх уладаннях гэта адбывалася па магчымасці бліжэй да рэкамендацый «Уставы на валокі» 1557 г. Напрыклад, калі Устаўная грамата вялікага князя Жыгімонта Старога Магілёўскай воласці за 1514 г. была адрасавана ўсім разам «бояром и мещаном Могилевским, и старцом серебреному и медовому, и всим людем волости нашое Могилевское»[381] і ўсталёўвала агульную суму падаткаў і

[376] LMA BRS. F. 17, b b. 99, p. 7.

[377] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута.- С. 472.

[378] AGAD. AR, dz. X, sign. 290, p. 1.

[379] Тамсама. - Sign. 204, p. 21.

[380] AGAD. ADD, sign. 19, p. 10.

[381] АЗР. - Т. 2. - С. 112-113.

даніны, прызначаных з воласці на гаспадара і намесніка, то Устава павіннасцей Магілёўскай воласці 1594 г., выдадзеная ў сувязі з правядзеннем тут валочнай памеры, прадугледжвала ўжо большую (але не поўную) індывідуалізацыю сялянскага землекарыстання і падаткаабкладання[382] Устава 1594 г. была складзена з улікам «Уставы на валокі», але не паўтарала ўсіх яе палажэнняу. Як і па «Уставе на валокі», у Магілёўскай воласці ў якасці ніжэйшых прадстаўнікоў велікакняжацкай улады і адначасова кіраўнікоў валасной абшчыны замест пасады старцаў уводзіліся пасады валасных войтаў, а ў сёлах – лаўнікаў[383]. У згаданай Уставе, з аднаго боку, прымяняўся пэўны індывідуальны падыход праз прывязку селяніна да свайго надзелу, а з другога – замацоўваліся абшчынныя традыцыі праз сумесны збор падаткаў, мядовай даніны, якую воласць павінна была «дать и отвезти, где будет росказано»[384], супольную працу на замкавых работах, рамонце мастоў і інш.

Згодна з Уставай Магілёўскай воласці 1594 г. абавязкам валаснога войта было «выганяць» сялян на работу, папярэдзіўшы іх праз лаўнікаў пра яе сутнасць, наглядаць за працай людзей свайго войтаўства замест прыстава, прысутнічаць пры перавозцы і здачы збожжавай даніны, а таксама, у выпадку неабходнасці, замест дзецкага прысутнічаць на дваровым судзе, калі судзілі кагосьці з падданы «окром прычыны крывавое и кгвалтовное... А пры суде войт быть и справедливости подданому допомагать мает»[385]. У выпадку уласнай правіннасці войт мог быць зняты з пасады, і тады неабходна было «иншого мужа тоеж волости устоновить неподозроного, на которого се подданые зезволят»[386]. Такім чынам, ва Уставе ўжо прадугледжвалася магчымасць «устанавіць» войта са згоды і прапановы насельніцтва, а не абраць. Натуральна, што прызначаны войт больш залежаў ад дзяржаўных чыноўнікаў, чым ад грамады. І войты, і лаўнікі, паводле Уставы, былі абавязаны прынесці прысягу аб дакладным выкананні сваіх абавязкаў. Калі ж войт «затаил» або камусьці здаў у наём пустую валоку, то яго маглі нават «горлом скарать», як злачынца[387]. Абавязкам лаўніка было дапамагаць войту па агульнавалясных справах і забяспечваць парадак у сваім сяле.

Ва Уставе прадугледжвалася значная свабода пазанадзельнага землекарыстання сялян, якое звычайна ажыццяўлялася разам, «агулам». Бортныя дрэвы дзялілі ў кожным сяле пароўну да кожнай валокі, адпаведна колькасці бортных дрэваў на сяло прызначалася і мядовая даніна[388]. Ва Уставе дэкларавалася свабода бабровых гонаў, а «за ловы зверыные, як великого, так и малого зверу, куничные, белочны и иные всякие, а также и пташыные и за рыбные уходы... пры кождом таком селе плачоно быти мает»[389]. У той жа час дакумент прадугледжваў калектыўнае, грамадскае карыстанне тымі ж бабровымі і рыбнымі ловамі: «Бобровых и рыбных ловов по рекам без поделенья берегов огулом кождое село

[382] АС. - Т. 1. - С. 186-196.

[383] АЗР. - Т. 3. - С. 73-74; АС. - Т. 1. - С. 191-192.

[384] АС. - Т. 1. - С. 187.

[385] АС. - Т. 1. - С. 191.

[386] Тамсама.

[387] Тамсама. - С. 192.

[388] Тамсама. - С. 194-195.

[389] Тамсама. - С. 187-188.

уживати мает, а особливе один без другого бобров неловить из ручниц небить»[390]. На ўсходзе Беларусі, у прыватнасці на рэчыцкім Палессі, яшчэ ў канцы XIX - пачатку XX ст. прытрымлівалiся некаторых падобных правіл карыстання грамадой прыроднымі здабыткамі, напрыклад у збіральніцтве. Як адзначаў вядомы беларускі этнограф Ч. Пяткевіч, «часам дамаўляюцца не хадзіць у журавіны па аднаму кожны дзень, а толькі ўсёй грамадой у нядзелю ці ў святы»[391], а рэхі збіралі «цэлымі сем'ямі і ўсёй вёскай разам»[392].

Даволі выразна прасочваецца наяўнасць грамады у Бабруйскім старостве паводле рэвізіі 1639 г. Як і ў іншых валасцях усходу Беларусі, насельніцтва Бабруйскай воласці «на будаўніцтва новага замку, рамонту паркана і іншай замкавай работы... не ўхіляючыся, як раскажуць, павінна быць грамадой...» [393]. У тэксце рэвізіі знаходзілася Устава павіннасцей і вольнасцей падданых Бабруйскай воласці, дзе былі дэталіваваны ў тым ліку і абавязкі службовых асоб грамады (валасных старцаў, заказнікаў, мерніка) і некаторыя функцыі валаснай і сельскіх абшчын. Неабходна адзначыць, што ў Бабруйскай воласці, як і ў Магілёўскай да 1594 г., было два старцы. Але калі ў Магілёўскай воласці кожны з іх адказваў за збор спецыфічных форм рэнты: за чынш – старац сярэбраны (грашовы), а за даніны – старац мядовы, то на Бабруйшчыне падзел быў тэрытарыяльны. Напрыклад, у дакуменце адзначана, што «здаўна ў той дзяржаве воласць яго каралеўскай міласці на двое дзеліцца: на палавіцу Віленскую і палавіцу Тройскую. З гэтай прычыны аж да сённяшніх часоў старцаў таксама два было. І зараз палавіцы Віленскай старац Хведар Варановіч, а палавіцы трокскай старац Сцяпан Парахня. Па сёлах у кожным павінен быць абраны заказнікам чалавек добры, непадазроны, веры годны, павіннасць якога – «за указанием старцавым»[394]. Увогуле павіннасці бабруйскіх валасных старцаў і заказнікаў былі вельмі падобнымі на абавязкі згаданых некалькі раней войта і лаўнікаў Магілёўскай воласці. Старцы на тэрыторыі свайго «старчэнства» збіралі чынш і даніну з сялян, сачылі за пазямельнымі межамі, аддавалі распараджэнні заказнікам адносна выхаду на працу сялян. Прысутнасць старца была абвязковай і пры перадачы дзяржаўным урадмікам сабраных з воласці грошай ці даніны. У дакуменце адзначалася, што ў Бабруйскай воласці старац быў і раней, і, паводле «старой рэвізіі», на старцаву пасаду («Urzęd Starcowski») належала адна вольная служба зямлі. Указвалася, што пакалькі службы «парэзаны» на валокі, старац павінен мець дзве вольныя ад павіннасцей валокі і, «паводле старога звычаю, увосень пасля аддання чыншу, з кожнага валаснога дыму па два грошы, прэнтаку аўса і адной куры»[395].

У Бабруйскай воласці пасля правядзення валочнай памеры застаўся свой, грамадскі мернік. Гэта службовая асоба абшчыны, як і ўсе сяляне, падпарадкоўвалася феадальнай адміністрацыі. Але сама наяўнасць такой пасады і яе функцыянальныя абавязкі сведчаць аб імкненні ўлады, з аднаго боку, завяршыць валочную памеру з выгадай для дзяржавы, а з другога – забяспечыць падтрыманне

---

[390] Тамсама. - С. 194.

[391] Пяткевіч, Ч. Рэчыцкае Палессе / Ч. Пяткевіч. - Мінск: Беларус. кнігазбор, 2004. - С. 21.

[392] Тамсама. - С. 23.

[393] LVIA. F. 11, ap. 2, bib. 65, p. 546, 548.

[394] Тамсама. - P. 547.

[395] АВК. - Т. XXV. - С. 115.

спакою і вырашэнне ўнутрызямельных праблем у абшчыне сіламі самой абшчыны, без умяшання феадальнай адміністрацыі. Магчыма, на прызначэнне ўласнага мерніка аказала ўплыў і тое, што ў Бабруйскай воласці было аказана значнае супраціўленне правядзенню валочнай памеры, калі сяляне не дапускалі на грунты рэвізораў[396], а ужо памераныя валокі «папсавалі» і «трымать не хотят» . Мернікам быў прызначаны Гардзей Нікіціч, селянін гэтай жа воласці з сяла Кавалевіч, які « як у рамястве тым умелы, быў прыцягнуты да памеры»[397]. Абавязак яго – выязджаць разам са старцамі аглядаць землі, граніцы, межавыя капцы і пры неабходнасці аднаўляць іх. У выпадку, калі паміж сялянамі ўзнікала якая-небудзь спрэчка адносна валок, засценкаў, сенажацей, мернік павінен быў усё «справядліва перамераць» і супакоіць падданых.

Калі заказнікі ў сёлах выбіраліся грамадой, то адносна таго, выбіраўся старац у Бабруйскай воласціці прызначаўся, з аналізуемага дакумента не вынікае. Затое ў названым дакуменце ёсць вельмі цікавыя звесткі аб існаванні ў Бабруйскай воласці некаторых форм сумеснага землекарыстання і падзелу некаторых зямляў у абшчыне, зборах грошай на агульныя патрэбы і інш. Так, адносна засцянковых зямель, якія засталіся па-за межамі памераных валок, пісар адзначаў, што «калі хто-небудзь засценак прыняў, *альбо веска ўся разабрала і падзяліла паміж сабой сама*» (выдзелена намі. - *В. Г.)*, то павінен будзе заплаціць пэўную суму чыншу[398].

Старцу ў Бабруйскай воласці прадпісвалася абавязкова прысутнічаць пры выбіранні з сялян стацыі на жаўнераў, а ў выпадках, калі яна выбіралася грашыма, гэтую стацыю « на воласць парахаваўшы на роўныя часткі раскласці»[399]. Яго ж абавязкам было збіраць іншыя сумесныя складкі грошай як на выплату падаткі дзяржаве, так і на розныя грамадскія патрэбы (напрыклад, на плату нанятым вартаўнікам). Грашыма, сабранымі « на розныя агульныя» («wszelakie pospolit або «агульныя ўсей воласці патрэбы, якія яны порубамі называюць» («oga wszystkiey Włości potrzeby które oni Porubami zową»), павінен быў таксама завіваць і распараджацца старац[400]. У выпадку ж, «калі таго захоча воласць», ад яго патрабавалася ўсё падлічыць і зрабіць справаздачу перад мясцовымі ўладамі рэвізорамі[401]. Гэты тэкст выразна сведчыць як пра грамадскія складкі, якія былі ў грамадзе, роўны падзел паміж абшчыннікамі пэўных выплат, так і пра магчымасць абшчыны кантраляваць правільнасць расходавання грамадскіх грошай. Згодна з дакументам, гэтыя складкі прызначаліся « на агульныя ўсёй воласці патрэбы», але акрамя наймання варты іншых артыкулаў валасных расходаў з тэксту крыніцы вызначыць немагчыма.

Сустракалася, што сельскія абшчыны ў час спрэчак за зямлю ці сенажаці пераходзілі да сілавога супрацьстаяння паміж сабой. Нярэдкімі былі так званы наезды прадстаўнікоў вясковых абшчын на чале са старцамі (часта з ініцыятывы мясцовыхураднікаў) на суседнія вёскі і рабаванне іх. Напрыклад, аб такім выпадку сведчыць скарга на бабруйскага ўрадніка пана Івана Федаравіча Быкоўскага, які 6

---

396 Тамсама.- С. 118.

397 LVIA .F. 11, ap .2, bib. 65, p. 549.

398 LVIA .F .11, ap.2 ,b ib. 65, p.543.

399 Тамсама.- P. 547 .

400 Тамсама.

401 Тамсама.- P. 548 .

чэрвеня 1582 г. з «мещаны бобруйскими помочниками своими, а з волости Бобруйское половицы Виленское старца волосного найме Якова Воронюча з села Демидович... и зо всими волощаны тое половицы Виленское и з іншымі многими помочниками своими з ручницами, з рогатинами, з сагайдаками и з іншыми военными бронями моцно кгвалтовне наслал на власное его м(ило)сти князі п(а)на моего (имение. - В. Г.) прозываемое Зубаревичи»[402]. Такія дзеянніназіраліся з боку сялянскіх абшчын як дзяржаўных, так і прыватнаўласніцкіх уладанняў Часта як арганізатарамі, так і пацярпелымі былі менавіта кіраўнікі абшчын ці іх родзіны. Магчыма, што старцы, якія мелі не толькі права, але і абавязак інфармаваць улады аб такіх падзеях, маглі і не паведамляць аб выпадках, калі цярпелі простыя сяляне, пра страты ж у сваіх уласных гаспадарках яны паведамлялі часцей. Так, у 1571 г. быў зафіксаваны выпадак, калі людзі князя Палубенскага «наехалі» на каралеўскае сяло Волнецкае пад Глускам. І хаця там пацярпела многа людзей, па імёнах названы толькі родзічы старца: «окрыкучынившы на село ударили людей у том селе побили помордовали и з села порозганяли, и зымавши девку дочку старца Волнецкого Дениса Бобровича на йме Овдотью, а другую Еву а сестру старцову на йме Марью тых збили и змордовали и иншых невест и мужов загнавшы яко быдла в хоромину, выводечи по одному привязываючи к тыну дубцы били и збившы змордовавшы плате з них познимовали и за мертвых покинувши отошли...»[403]

Верагодна, што такім гвалтоўным чынам сяляне вырашалі некаторыя спрэчныя справы, дабіваліся такой «справядлівасці» (для сябе і сваіх уласнікаў), як яны яе разумелі. Напрыклад, падобная справа была унесена ў чэрвені 1571 г. у судовыя кнігі гродскага суда Навагрудскага ваяводства. Як паведамляў навагрудскі намеснік М. І. Грынявецкі, ураднік глускі Ян Мацкевіч падаў скаргу «на старца Волосовицкого на йме на Микиту Пуховича и на подданых его мсти Гайковых села Волосович о том иж дей в тых часех апреля двадцать пятого дня подданные пана Гайковы волосовские подышодши под село его королевское милости Поречье моцно кгвалтом на власном кгрунте того села Порецкого у подданых его королевское мсти порецких быдло двадцатеро взяли о чом дей семи неоднокрот посылал справедливости просечи до старца Волосовского, а старец дей Волосовский справедливости и до тых вчинити не хочет поведил перед стороною людми добрыми и то вызнал же дей подданые пана моего быдло побрали и того ж дей часу порезали, ворочати нечего...»[404]

З умацаваннем гаспадарчага і палітычнага жыцця звычайна пачынаўся наступ уласнікаў на абшчыну як на інстытут самаарганізацыі сельскага насельніцтва, рабілася спроба поўнасцю падпарадкаваць абшчыну волі ўласніка. Гэта дасягалася рознымі спосабамі. Дзяржава імкнулася рэгуляваць дзейнасць грамады законам, часта шляхам адмены яе традыцыйных правоў (выбары старца, расклад павіннасцей паміж абшчыннікамі, сумеснае карыстанне зямлёй і г. д.) і ўвядзення новых правіл («навіны»), паводле якіх грамада набывала рысы не самакіруемай арганізацыі насельніцтва, а органа, прызначанага ў першую чаргу для выканання распараджэння ў феадала. Як ужо адзначалася, часцей за ўсё гэта адбывалася праз прызначэнне землеўласнікам кіраўніка абшчыны – старца ці войта. Але нават і ў такой напаўпадпарадкаванай сітуацыі абшчыннікам часта ўдавалася адстойваць

[402] AGAD. AR, dz. X, sign. 99, p. 1.

[403] AGAD. AR, dz. X, sign. 13, p. 17.

[404] Тамсама.

сваё традыцыйныя правы ў змаганні з землеўласнікам. У старцаў, што знаходзіліся ў становішчы ўраднікаў, якіх адначасова прызначаў феадал і выбірала грамада, таксама з'яўлялася, можа, і больш шырокая магчымасць зрабіць нешта для сваёй грамады, дапамагчы некаму з абшчыннікаў. У выпадку спрэчкі селяніна з дзяржаўным чыноўнікам кіраўнік абшчыны вельмі часта займаў бок падданага, аб чым сведчаць тыя ж скаргі, падпісаныя старцамі («Били нам чолом старец и вся волость Бчицкая»)[405]. У спрэчцы воласці ці асобных сялян з намеснікам ці адміністратарам старац звычайна станавіўся на бок сялян. Верагодна, тут спрацоўвала сялянская салідарнасць у адносінах да блізкіх сабе па статусу людзей. У таго ж старца ў вёсцы жылі родзічы, уклад яго жыцці не адрозніваўся ад укладу жыцця ўсёй вёскі. Ён добра разумеў, што калі грамада выкажацца супраць яго кандыдатуры на наступных выбарах, то і землеўласнік на гэтым настойваць не будзе, таму што ў такіх выпадках стаўка рабілася на асобу, якая прымалася абодвума бакамі.

Значную ролю ў жыцці сялянства на ўсходзе Беларусі адыгрывалі традыцыя і звычаёвае права, якое панавала ў феадальным грамадстве да ўвядзення пісаных норм сацыяльнага і гаспадарчага жыцця. Роля традыцыі і звычаёвага права заставалася даволі важнай і пасля з'яўлення пісаных законаў і правіл, тым больш што сельскае насельніцтва ў той час ў абсалютнай большасці было непісьменным і не магло шырока карыстацца пісанымі нормамі. Традыцыя ці, як тады гаварылі, «старына» (звычаі, парадкі, правілы, якія складваліся ў сацыяльнай і гаспадарчай дзейнасці, арганізацыі побыту, грамадскага жыцця і працы сельскага насельніцтва на працягу доўгага перыяду часу і перадаваліся ад аднаго пакалення да другога), і звычаёвае права ў XVI-XVIII стст. прызнаваліся дзяржавай і вызначалі многія палажэнні сацыяльнага і гаспадарчага жыцця сельскага насельніцтва. Праўда, паступова яны і самі змяняліся, прыстасоўваліся да абставін ці патрабаванняў улады. Традыцыя распаўсюджвалася на самыя розныя сферы жыцця і разумелася менавіта як непарушнае звычаёвае права[406]. Галоўнай ідэяй прынцыпу старыны было велікакняжацкае «мы новин не уводим, а старин не рухаем»[407]. Даволі выразна гэты прынцып быў сфармуляваны ў велікакняжацкім лісце ад 19 ліпеня 1540 г. да насельніцтва Свіслацкай воласці ў сувязі з іх просьбай выдаць новую: «Для чого они просили нас, абыхмо знову лист, уставу н(а)шу на то им дали»[408]. У адказ на гэта вялікі князь заявіў: «А прото, естли будет так, як они нам жаловали, и будет ли то обычай звечный стародавный, а они от давных часов от нас и от врядников свислоцких на тых податкох захованы будут ли были, и то ест старина, мы никому с подданых н(а)ших новины не уводим, а старины не рушаем, при той старине тых подданых н(а)ших мещан и волощан свислоцких зоставуем. Не мают они никоторых податков над старину врядником свислоцким давати, одно врядники мают доходов своих с них смотрети подле старого давного обычая, як за первых врядников свислоцких, которые от нас тот заме н(а)ш Свислочь держали, бывало»[409].

---

[405] LM-8.- P.456.

[406] Голубеў, В. Ф. Старына / В. Ф. Голубеў // Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Мінск: Беларус. савец. энцыкл. імя Петруся Броўкі, 1989. - С.529.

[407] РИБ. - Т. 27.- С.595-596.

[408] МВКЛ - Кн.28.- С.116.

[409] Тамсама.- С.117.

Але з цягам часу новаўвядзенні («навіны») самі станавіліся «старыной», ператвараліся ў традыцыйныя правілы, стандарты дзейнасці і паводзін. Шмат якіх сведчанняў захавалася ў Метрыцы ВКЛ, судовых справах, разнастайных матэрыялах з архіваў феадальных уладанняў.

Напрыклад, у лісце вялікага князя Аляксандра да Віцебскага намесніка ад 11 красавіка 1495 г. у адказ наскаргі насельніцтва прадпісвалася: «приказуем тобе, штобы еси им через то больш кривд не чинил, и новин не уводил, и делал бы все по старому, как будет первей того бывало за предков наших и за отца нашого...»[410] Грамата вялікага князя Жыгімонта ад 2 кастрычніка 1511 г., выдадзеная ў адказ на скаргі насельніцтва гаспадарскіх «волостей наших Поднепрьских и Задзвиньских, т. е. с Кричова, с Пропойска, с Чечерска, с Горволя, с Речицы, с Брягина, с Мозыра. с Бчича. с Бобруйска, с Свислочи, с Любошан, с Усвята, с Озерищ» аб тым, што пры зборы даніны яе зборшчыкі прыходзяць у валасці з войскам, «их ницують и грабят; а наболей отяжають собе од писарей наших, которых жо посылаем по тым волостем нашим недополнков даней наших правити, иж слуги их, от году до году, не выезжаючи на тых волостех мешкають, корчмы сытят для своего пожитку, а волости наши мусят им на каждую неделю страву давати грошми и стацеею...»[411], таксама пацвердзіла па просьбе насельніцтва «старыну». «И били нам чолом вси тых волостей наших данники наши, абыхмо их при старине зоставили, как бывало за предков наших, за вел. кн. Витовта и Жикгимонта, иж они сами, собравши дань грошовую, и бобры, и куницы, отношивали до скарбу нашего, а мед пресный до ключа; и подвязалися нам тым обычаем штож всю тую дань нашу, грошовую, и медовую, и бобровую, и куничную, мають нам относити до скарбу и до ключа нашего, всю сполна, подле стародавнего обычая...»[412] Вялікі князь пайшоў насустрач сялянам «с паны радами нашими помысливши о том и бачучи их слушную прозьбу, которая ж есть з нашим пожитком, тым есмо их пожаловали...»[413] Пазней, калі ў 1535 г. жыхары тых жа Усвяцкай і Азярышчанскай валасцей паскардзіліся вялікай княгіне Боне на тое, што віцебскія ўраднікі пачалі іх «пад свой прысуд да Віцебска вярнуць», то рашэнне ўласніцы было прынята зноў на карысць валашчан якраз са спасылкай на старыну, паводле якой у адносінах да вышэйназванага насельніцтва не маюць права «ани пан воевода витебский, ани его врядники витебские ни судити, ни радити...»[414]

Але трэба мець на ўвазе і тое, што сяляне не заўсёды маглі пісьмова пацвердзіць сваю «старыну», бо паперы, выдадзеныя ім, маглі папсавацца, згарэць падчас пажараў. Нярэдкімі былі выпадкі, калі дзяржаўцы ці адміністратары папросту адбіралі ў сялян граматы ці лісты, нават выдадзеныя вялікім князем. Менавіта на такую з'яву звярнуў увагу вялікі князь Жыгімонт Стары, які ў згаданым лісце ад 19 ліпеня 1540 г. да насельніцтва Свіслацкай воласці адзначаў: «Били нам чолом подданые наши свислоцкие, мещане и вся волость, жалуючи о том, иж которую уставу лист н(а)ш первей того в себе мели на тые податки и дань, што на нас, г(о)сп(о)д(а)ра, и на врядников свислоцских приходить подле стародавного

---

[410] АЗР. - Т. 1. - С. 151.

[411] БЭФ. - Т. I. - С. 188.

[412] Тамсама.

[413] Тамсама.

[414] Тамсама. - С. 195.

обычая, як тот замок наш Свислоч стал. Тая дей устава в них, як люди неприятельские татарове были, згорела, а иншую дей уставу н(а)шу отнял в них наместник свислоцски и почал им новины уводити, платы и вины непомерные з них брати через уставу н(а)шу[415].

Вялікі князь Жыгімонт Аўгуст у 1560 г. у сваей грамаце да прапойскага і чачэрскага дзяржаўцы Ю. Зяноўевіча пісаў, што мяшчане і валашчане Прапойскага замка паведамілі аб тым, што апошні адабраў у насельніцтва ўставу і пачаў уводзіць у згаданых валасцях навіны. Сяляне, відаць, моцна супраціўляліся, не аддавалі запісаную на паперы велікакняжацкую ўставу. У выніку два валашчаніны (верагодна, тыя, хто яе захоўваў) былі збіты насмерць: «То пак деи не ведати, для чого тую вставу в них модно и кгвалтом отнял, для чог(о) деи и двух подданных тамошних поплечников их на смерть позабивал»[416].

У выпадках сумеснай абароны сваіх правоў насельніцтва часта дабівалася і прызнання сваей праваты. Напрыклад, у 1565 г. чачэрскія мяшчане і валашчане разам не толькі дабіліся таго, што вялікі князь вызваліў іх ад выплаты даніны на старосту звыш уставы, але і атрымалі кампенсацыю за раней незаконна ўзятае: «Приходили здеся до нас подданые наши мещане и волощане Чечерские войт Потап с места, а з волости Никон Грунко сами от себя и ото всее брати своее жалуючи о том, што деи вы им великие кривды чините, волы, яловицы, бараны, вепры и гуси в них Уставою берете на што мы вам Уставы не давали, абы в них іберучи и им водле Уставы платили... Приказуем вам што бы есте в них быдла Уставою не брали, але торгом што чого стояти будет платили. А што в них побрали, а бы есте то им поплатили не водле Уставы, але водле торгу, што чого стоит»[417].

Пры зямельных спрэчках са шляхтай сяляне звярталіся нават да вялікага князя і часта знаходзілі падтрымку. Так, у 1583 г. вялікі князь Стэфан Баторый у адказ на чалабіцце сялян сёл Бытча і Студзёнкі Барысаўскай воласці выдаў ім пацвярджэнне рашэння камісарскага суда па справе гэтых сялян з зямянінам Менскага павета Янам Курашам аб обрубе зямлі пад назван Брылёў. Як указвалася ў велікакняжацкім лісце, каралеўскія камісары «за росказанем и листы нашыми комисерными выехавши» ўстанавілі, «иж тот обруб Брылев есть властный кгрунт наш г(о)с(по)д(а)рский, подданых нашых тамошних волости Борисовское стюденковских и бытчанских»[418].

Разам змагаліся сяляне гаспадарскіх уладанняў усходу Беларусі і супраць свавольства дзяржаўцаў, а у некаторых выпадках супольна выступалі супраць перамеру сваіх надзелаў і абшчыннай зямлі на валокі, бо лічылі, што гэтым парушаюцца іх правы. Так, у 1610 г. «узбунтаваліся» супраць дзяржаўцы пана Мікалая Жарчынскага сяляне сёл Ольса, Бердыж і Валосавічы Рэчыцкага павета Менскага ваяводства. Кароль і вялікі князь Жыгімонт III у сваім лісце абвінавачваў сялян наступным чынам: «...на роботу ходить, податков звыклых и послушенства отдавать не хочете», «...своволне спротивляючысе воли нашой кгрунтов на волоки в тых селах розмерати недопущаете и кгвалтом бороните...»[419] Падкрэсліўшы, што

---

[415] МВКЛ - Кн. 28. - С. 116.

[416] СПБ. - Т. I. - С. 61.

[417] AGAD. AR, dz. II, suplement, 8 (21), p. 1.

[418] МВКЛ - Кн. 70. - С. 21.

[419] Fastnacht, A. Bunt chłopski na Białorusi / A. Fastnacht // Ze skarbca kultury. Biuletyn informacyjny Zakładu Narodowego im. Ossolińskich. - Zeszyt l (2). - Wrocław: Wydawnictwo Zakładu Narodowego im. Ossolińskich, 1952. - S. 18.

такія паводзіны сялян наносяць значны ўрон скарбу, вялікі князь адзначаў: «Прото хочем меть и росказуем вам, абы есте яко померы водочное неборонили так теж пры помере сами будучы помоцы всякое мернику додавали иначей нечынечы для ласки нашое и под строкгим каранем»[420]. На жаль, невядома, як разгортваліся падзеі ў далейшым, але звычайна, калі насельніцтва выказвала свой пратэст сумесна, вялікі князь на першы раз выносіў простае папярэджанне.

Прыблізна ў гэты ж час адбыліся і «бунты» сялян Бабруйскай воласці, таксама накіраваныя супраць перамеру надзелаў на валокі. Кіраўнік дзяржавы ў дадзеным выпадку таксама толькі папярэдзіў сялян, каб вымераныя на валокі «грунты трымали и псовать их не отваживались...»[421]

Гаспадарскія сяляне разумелі перавагі свайго эканамічнага і сацыяльнага становішча перад прыватнаўласніцкімі падданымі. У крыніцах захаваліся сведчанні аб тым, як насельніцтва змагалася супраць змены свайго статуса: з сялян дзяржаўных на прыватных. Так, жыхары сяла Багушэвічы, якое да 1560 г. уваходзіла ў склад гаспадарскай Свіслацкай воласці, а потым было перададзена вялікім князем Жыгімонтам Аўгустам у якасці замены за маёнтак Сакоўшчына (Ашмянскі павет) пану Войцеху Руткоўскаму, на працягу некалькіх гадоў усёй грамадой адмаўляліся падпарадкоўвацца новаму ўласніку. Як відаць са скаргі пана Войнеха Руткоўскага, якая разглядалася на Люблінскім сейме 1569 г., «люди его села Богушевицкого (пералічвае ўсіх пайменна. - В. Г.) ...не хотечи его бытии послушни и службы пригонное ему служити, взбунтовавшися, проч вышли с села его Богушевицкого до волости замку г(оспо)д(а)рского Свислоцкого в село Задобрицкое з жонами, з детьми и з маетностями своими...»[422] Звяртае на сябе ўвагу тое, што сяляне выйшлі цалкам усім сялом, усей грамадой. Суседняе сяло Задобрычы ўваходзіла разам з Багушэвічамі ў адну, Свіслацкую, валасную абшчыну, таму яго жыхары актыўна дапамагалі багушэвіцкім сялянам у іх змаганні. Напэўна, яны таксама баяліся таго, што іх можа напаткаць лес суседзяў (гэтае апасенне спраўдзілася, у канцы XVI ст. сяло Задобрычы зафіксавана як прыватнаўласніцкае. - В. Г).

Барацьба працягвалася сама меней да 1569 г., калі па даручэнню вялікага князя Жыгімонта Аўгуста ў Свіслацкую воласць прыехалі камісары для вырашэння справы аб спыненні сялянскіх хваляванняў у воласці. Па некаторых сведчаннях, змаганне ўзначаліў заказнік Свіслацкай воласці з сяла Задобрычы Аляксей Сцяпанавіч Пашковіч. Разам з сялянамі свайго сяла і ўцекачамі з сяла Багушэвічы ён неаднаразова арганізоўваў нават нападзенні на двор Войцеха Руткоўскага ў Багушэвічах. У Войцеха Руткоўскага сяляне стралялі з ручніцы і двойчы паранілі[423]. Нават на капе, якая была сабраная па ініцыятыве В. Руткоўскага 18 чэрвеня 1564 г., кіраўнік абшчыны сяла Задобрычы Сцяпан Пашковіч (напэўна, бацька згаданага Аляксея Пашковіча. - В. Г.) адмовіўся ад імя свайго сяла выдаць збеглых з Багушэвіч: «...заказник господарский волости Свислоцкое з села Задобрыцкого Степан Пашкович сам от себе и от всих людей села Задоб-рыцкого перед ним вижом и стороною людьми добрыми и всими старцы сел околичных, ку селу

---

[420] Fastnacht, A. Bunt chłopski na Białorusi. - S. 18.

[421] АВК. - Т. XXV. - С. 118.

[422] СПБ. - Т. I. - С. 82.

[423] Тамсама. - С. 84-85, 92.

Богушевицкому прылеглых, на копе будучыми, сознал и поведил, иж люди села Богушевицкого, збегове Рутковского, вышей имены помененые ест, властными шкодниками пану своему Воитеху Рутковскому, але их на копу не ставили и в селе Задобрыцком их быти не прызнали»[424].

Як сведчыць камісарская справаздача, калі ў сяло Задобрычы пачалі ўсё часцей прыязджаць гаспадарскія пасланнікі з патрабаваннем да мясцовага насельніцтва аб тым, каб яны абвінавачаных сялян з сяла Багушэвічы «межы собою не таили», то ў адказ «...вси люди села Задобрыцкого... поведили, иж никгды в селе Задобрыцком люди села Богушевицкого, збегове Рутковского, не мешкали и тепер их в себе не мают и о них не ведают»[425]. Больш за тое, сялянскую салідарнасць праяўлялі жыхары і ўсіх астатніх сёл Свіслацкай воласці. Пасля таго, як гаспадарскі камісар Ян Цадроўскі нейкім чынам даведаўся, у якіх іншых сёлах перахоўваюцца сяляне-уцекачы з Багушэвіч («вземши певную ведомость, где тые збегове... а по которым селам з того села Задобрыцкого розбеглися»), і пачаў ездзіць з мэтай знайсці збеглых сялян, то ў яго нічога не атрымалася. Ні ўадным з сёл Свіслацкай воласці сяляне не аддалі нікога з багушэвіцкіх уцекачоў, прычым валашчане схавалі абшчыннікаў з Багушэвіч ад улад. Як паведаміў вышэйзгаданы Я. Цадроўскі, «...але иж их везде таено и закрывано, нигде постигнута, и знайти не могл...»[426]. Гэта, на наш погляд, вельмі яскравы прыклад адстойвання сваіх правоў як сялянскай грамады сяла Багушэвічы, так і ўсёй Свіслацкай валасной абшчыны. Усе ж сялянскае выступлениe было падаўлена, некалькі актыўных яго ўдзельнікаў былі пакараны на смерць, іншыя былі вернуты В. Руткоўскаму як прыгонныя[427].

У матэрыялах Метрыкі ВКЛ за XVI ст. захавалася шмат сумесных скарг гаспадарскіх сялян і мяшчан. а таксама адказаў на іх службовых асоб ці нават самаго кіраўніка дзяржавы. Напрыклад, у лісце вялікага князя Жыгімонта Старога да крычаўскага намесніка князя Васіля Сямёнавіча Жылінскага ад 22 лістапада 1522 г., выдадзеным у адказ на скаргу крычаўскіх мяшчан і валашчан, было не выразна зафіксавана эканамічнае адзінства воласці і горада. Вялікі князь адзначаў «Вжо неоднокроть жалують нам мещане и вся волость Кричовская о том, што дей, ты им кривды великие чиниш и новины уводиш, и береш на них мыл» узвестное так, как бы на чужоволостцох, чого на них здавна не бививано... иш полюде, дей, до них у великим почте ездиш, а перед тым, дей, первые державе н(а)ши до них на полюде не езживали»[428]. Названы дакумент цікавы і тым, што паказвае, як насельніцтва збірала ўскладзеныя на грамаду падаткі: «они межи собой розмет складуть»[429].

Нават паны-рада ў некаторых выпадках разглядала скаргі грамад. Так, у 1528 г. быў прыняты «Вырок людем Свислоцкое волости болочаном с паном Григорем Исаевичом Громыкою, яко бы о забранье земль их ку именью его Лещинце», які Жыгімонт Стары разглядаў з «паны радами н(а)шими»[430]. Разам з панамі-радай разглядалася, у прыватнасці, скарга валашчан Віленскай палавіны Бабруйскай

[424] СПБ. - Т. I. - С. 86.

[425] Тамсама. - С. 94.

[426] Тамсама.

[427] Спиридонов, М. Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV-XVI вв.) / М. Ф. Спиридонов. - Минск: Навука і тэхніка, 1993. - С. 66.

[428] LM-4. - P. 64.

[429] Тамсама. - P. 65.

[430] LM-4. – P. 224. Ł.

воласці на сялян прыватных сёл Зубарэвічы і Колчыцы, якія «здавна за отца нашого Казимира, короля, его милости, недели с подводами по сполу с ними стерегивали и городы, и мосты робливали, и в подачках, и во всяких розметехь им помогивали, а тепер им в том ни в чом помогати не хотять, а в том им кривды и тяжкости великий деють. И тые люди пана подчашого и пана Венцлавовы: зубаревичи и колчичане, перед нами мовили, иж они з давных часов как в подводах, так в роботах замковых и мостовых, и в подачках, а ни в которых розметех им николи не помогивали. Ино ты люди нашы, бобруяне, слали ся о том до по пленников своих, до людей нашых Бобруйское ж волости, Троцкое половины и теж до свислочан, и до горволичан, и до пчичан, которые здавна с ними подводы менивали. И люди пана подчашого, и пана Венцлавовы: зубаревичи и колчичане, до тых волостей ся не слали»[431]. У выніку вялікі князь прызнаў правату бабруйскіх сялян.

Архіўныя дакументы яскрава сведчаць аб тым, што на палітычнае і сацыяльна-эканамічнае становішча ўсходніх зямель Беларусі ў часы ВКЛ карэнным чынам уплывала іх пагранічнае становішча з Маскоўскай дзяржавай. У той час, калі на астатняй тэрыторыі ВКЛ праб авалі правесці рэформы, у тым ліку і ў сферы гаспадарчай, сацыяльнай і тэрытарыяльнай арганізацыі насельніцтва, на ўсходзе і прылягаючых тэрыторыях улады прымалі больш кансерватыўныя меры, улічваючы як мясцовыя традыцыі, так і дзяржаўныя патрэбы. Такая тэндэнцыя асабліва праявілася ў 20-50-я гады XVI ст., калі ў першую чаргу ў дзяржаўных уладаннях усходу краіны не была праведзена аднастайная з іншымі рэгіёнамі ВКЛ рэарганізацыя эканамічнага і сацыяльнага жыцця насельніцтва, распачатая на захадзе і ў цэнтры краіны ад начасова з валочнай памерай. У гаспадарскіх уладаннях усходу Беларусі ў 1560-1561 гг. была праведзена палавінчатая рэформа «параўнанне грунтаў і платаў». На ўсходзе толькі ў дзяржаўных гарадах землі былі перамераны на валокі і ўстаноўлены выплаты з іх у адпаведнасці з «Уставай на валокі» ад 1 красавіка 1557 г. У сельскіх Падняпроўскіх і часткова ў Падзвінскіх валасцях было зроблена, і то далека не ўсюды, прыблізнае «параўнанне грунтаў» праз увядзенне ці замацаванне таму якасці зямельнага надзелу і адзінкі падаткавага і павіннаснага абкладання службы, якая была прыблізна роўная валоцы[432]. Да таго ж нават службы былі ўведзены не ва ўсіх дзяржаўных уладаннях Падзвіння і Падняпроўя. Хутчэй за усе, на такую сацыяльна-эканамічную палітыку ўлады ВКЛ аказалі ўплыў войны з Маскоўскай дзяржавай, асноўнай арэнай ваенных дзеянняў якіх ад канца XV па канец XVI ст. стала Падзвінне і часткова Падняпроўе (1492-1494, 1500-1503, 1507-1508, 1512-1522, 1534-1537, 1558-1583 гг.).

Аднолькавым у гаспадарчым жыцці Падняпроўя і Падзвіння было тое, што аснову феадальнай рэнты, якая збіралася з залежнага насельніцтва гэтых рэгіёнаў, складалі чынш і даніна розных відаў, прычым натуральныя выплаты пераважалі. У абшчынах гаспадарскіх Падняпроўскіх і Падзвінскіх валасцей пераважалі сяляне-даннікі. Як адзначаў М. К. Любаўскі, «Сапраўднае царства сялян *даннікаў* уяўлялі сабой так званыя Задзвінскія воласці, якія знаходзіліся ў Віцебскай зямлі, Падняпроўскія воласці па сярэдняму Дняпру, Бярэзіне і Сожу і іх прытоках, Северскія воласці па Дзясне, Сейму і Суде, а таксама і Кіеўскія»[433].

[431] Тамсама. - Р.324.

[432] Голубеў, В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI-XVIII стст. / В.Ф.Голубеў. - Мінск: Навука і тэхніка, 1992. - С.53-55.

[433] Любавский, М. К Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С приложением текста хартий,

На высокую ўдзельную вагу даніны і грашовых выплат у структуры сялянскіх павіннасцей, магчыма, паўплывала тое, што на ўсходзе Беларусі знаходзілася многа ўмацаваных замкаў, як дзяржаўных (Азярышча, Бабруйск, Барысаў, Браслаў, Віцебск, Гомель, Дрысвяты, Крычаў, Любашаны, Магілёў, Мсціслаў, Мядзел, Орша, Полацк, Прапойск, Радамль, Рэчыца, Чачэрск і інш.), так і прыватнаўласніцкіх (Баркалабава, Быхаў, Бялынічы, Галоўчын, Горы, Друцк, Дуброўна, Копысь, Круглае, Смальняны, Цяцерын, Шклоў, Усвяты і інш.). Гарнізоны, якія ў іх размяшчаліся, неабходна было забяспечыць правіянтам, фуражом, грашамі і да т. п. У такіх абставінах падаткі натуральнымі прадуктамі і грашамі былі найбольш эканамічна абгрунтаванымі і выгаднымі, таму што дазвалялі на месцы, без затрымкі забяспечваць войска і праводзіць аплату службы жаўнераў.

Дзяржава прымала ўсе неабходныя меры для таго, каб замкі знаходзіліся ў добрым стане, а ваяры былі накормлены і забяспечаны ўсім неабходным. Вышэйшая ўлада клапацілася пра ахову і абарону памежных з Маскоўскай дзяржавай тэрыторый, сачыла за тым, каб замкі і крэпасці былі дагледжаныя і хапала людзей на іх ахову. Традыцыйна адным з абавязкаў насельніцтва гаспадарскіх валасцей было выкананне работ, звязаных з умацаваннем таго ці іншага пагранічнага замка. Звычайна такія работы ўскладваліся на валасную грамаду ў цэлым. І нават калі з тэрытарыяльнай грамады «выпадалі» некаторыя двары і вёскі ў выніку падаравання ў іх вялікім князем прыватным уласнікам, людзі ўсё роўна заставаліся абавязанымі «службай замкавай». Напрыклад, у 1528 г. у Мазырскай воласці перададзеныя прыватным феадалам былыя дзяржаўныя сяляне разам з мяшчанамі і валашчанамі распараджэннем вялікага князя былі абавязаны замкавай работай, дзяклам і грашамі на замак[434]. На будаўніцтва Кіеўскага замка павінна была пасылаць людзей Свіслацкая воласць. Але, як вынікае з ліста вялікага князя Жыгімонта Старога ад 20 студзеня 1542 г. да свіслацкага дзяржаўцы, ад гэтай павінасці воласць старалася ўхіляцца[435].

Паводле Уставы 1639 г. грамадой на чале са старцам павінны былі выходзіць на замкавыя работы «падчас будовы новага замка, рамонту паркану і ўсякай работы замкавай» і сяляне Бабруйскай воласці[436].

Але і сяляне, і гараджане пры любой магчымасці імкнуліся пазбегнуць гэтай цяжкай і працяглай па часу працы. Звычайна адмаўляліся ад такіх работ усёй абшчынай, бо такім чынам было прасцей абараняць свае інтарэсы ў змаганні з дзяржаўнай сістэмай.

Прыкладам такога супольнага змагання могуць паслужыць падзеі першай паловы XVII ст. у Азярышчанскім (Езярышчанскім) старостве Віцебскага ваяводства. Як сведчаць дакументы, па нейкіх прычынах (па ўскосных сведчаннях, хутчэй за ўсё, з-за значна павялічанай колькасці дзён працы на замкавай работе паводле загаду Азярышчанскага старосты) цэлыя сельскія абшчыны і асобныя жыхары (баяры і простыя сяляне) пачалі адмаўляцца ад вельмі цяжкай працы па рамонту і адбудове Азярышчанскага замка. Баяры да таго ж адмовіліся і ад самых

---

выданных великому княжеству Литовскому и областям / М. К. Любавский. - М.: Синодальная Типография, 1910. - С. 94.

[434] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке - С. 15.

[435] МВКЛ - Кн. 28. - С. 61-62.

[436] LVIA. F. 11, ap. 2, bib. 65, p. 547.

земляных работ і аднясення службы па ахове замка.

Сітуацыя разбіралася на дзяржаўным узроўні, а сам разгляд справы ішоў з 1613 па 1646 г. На тое, што «дей бояро ве и подданые... избегают чинить замок наш тамошний украинный», канцлеру ВКЛ у 1613 г. скардзіўся Азярышчанскі староста князь Крыштаф Друцкі-Сакалінскі[437]. У адказ на тэта 3 жніўня 1613 г. Л. Сапега выслаў ліст да насельніцтва і ўраднікаў Полацкага і Віцебскага ваяводстваў, у якім заявіў, што ў цяперашні небяспечны час замак «не может и в небеспеченстве явном от неприятелязостават», і папярэдзіў усіх, каб беглых «своволных бояр и подданых наших озерицких до именей своих так же до мест наших не приймовали а ни их укрывали и охраняли»[438a].

Але жыхары старства не сталі выконваць распараджэнне канцлера ВКЛ. Непадпарадкаванне ўладам пашыралася, таму ў справу ўмяшалася першая асоба краіны. Як стала вядома з ліста караля Уладзіслава IV, адпраўленага 9 студзеня 1634 г. з Багданавай аколіцы з-пад Смаленска, на яго думку, на тэрыторыі Азярышчанскай воласці ўзнік сапраўдны «бунт», які ініцыіравалі і ўзначалілі баяры гэтай воласці. Уладзіслаў IV, у тытуле якога прыводзіліся словы «абраны Вялікі Цар Маскоўскі», звяртаючыся да баяраў Азярышчанскай воласці, спасылаўся пры гэтым на існаваўшую ў той час «небяспеку ад масквіціна»[439]. Баяры абвінавачваліся не толькі ў тым, што адмаўляліся служыць у замку, але і ў тым, што жылі незалежнай і непадкантрольнай ад улад абшчынай, кіраваліся сваімі нормамі: «старца і дзесятнікаў прызначаных... панам кашталянам полацкім скідваеце, а самі іншых самаўладна ставіце і розныя бунты робіце»[440]. Непадпарадкаванне, а тым больш стварэнне самастойнай грамадскай структуры беспакараным для падданых прайсці не магло. Да таго ж кароль адназначна загадаў выконваць баярскую службу, слухацца пастаўленых ураднікамі старца і дзесятнікаў і чакаць разбору іх справы.

Але, як сведчаць крыніцы, нежаданне працаваць на будаўніцтве замка паступова ахоплівала ўсё большую колькасць вёсак Азярышчанскай воласці, салідарнасць з баярамі выказвала ўсё больш і больш сельскага насельніцтва. Копіі каралеўскіх лістоў аб прыцягненні сялян воласці для замкавых работ развозіліся па воласці судовымі выканаўцамі, перадаваліся трымальнікам ці кіраўнікам сялянскіх абшчын. Але і ў гэтых выпадках каралеўскія распараджэнні часта не выконваліся. Так, выпіс з гродскіх кніг Віцебскага ваяводства ад 2 мая 1642 г. сведчыў аб тым, што судовы выканаўца Полацкага ваяводства Ян Мастра 26 красавіка 1642 г. адвёз у дзяржаўную вёску Азярышчанскай воласці Церабяжаны (Теробежаны) ліст да трымальніка вёскі «о памаганні і будаванні замку Азярыцкага», які пакінуў ліст у хаце старца вёскі Івана Скаварады[441]. Сведчанняў пра тое, што сяляне пачалі ўдзельнічаць у гэтым «памаганні», у дакуменце няма.

Уладзіслаў IV 1 чэрвеня 1644 г. выдаў грамату, адрасаваную «баярам і ўсім падданым староства нашага Езярышчанскага», у якой змяшчаецца ў тым ліку важная інфармацыя аб грамадскім становішчы ў рэгіёне. У прыватнасці аб тым, што

---

437 AGAD. AR, dz. X, sign. 304, p. 1.

438a Тамсама.- P. 1.

439 Тамсама.- P. 12.

440 Тамсама.

441 AGAD. AR, dz. X, sign. 308, p. 8.

вялікая колькасць насельніцтва не толькі адмовілася выконваць папярэдняе распараджэнне караля і палажэнні Уставы, якую выдалі прыехаўшыя ў воласць каралеўскія камісары, але і пачалі выстаўляць уласныя прэтэнзіі і патрабаванні, накіраваныя ў першую чаргу супраць старосты замка. Больш таго, бунтаўшчыкі ўсяляк пагражалі замкаваму падстаросце і, як вынікае з тэксту, «дзесятнікаў, заказнікаў і тых падданых, якія памочнікамі ў тых бунтах быць не хочуць, білі»[442].

Некалькіх падданых, якіх улады прысудзілі да выгнання з воласці, насельніцтва перахавала па вёсках і не выдавала ўраднікам. Верагодна, пагроза выгнання са сваёй воласці, са сваёй абшчыны была ў той час дастаткова рэальным пакараннем для сельскіх жыхароў. Вядома, што ніхто па добрай волі ў тыя часы сваю абшчыну не пакідаў. (Пры гэтым размова не ідзе пра ўцёкі злачынцаў лайдакоў і г.д., якія свядома выстаўлялі сябе па-за межы вясковых правіл, традыцый і норм грамадскага жыцця). Сапраўды, уцёкі селяніна са сваёй вескі былі дастаткова рэдкімі і, як правіла, вымушанымі. Простаму чалавеку было вельмі складана ўвайсці ў новую абшчыну, члены якой звычайна насцярожана, а то і варожа ставілася да чужакоў. Стаць нароўні з вясковымі «мужамі» прадстаўнікам першага пакалення перасяленцаў звычайна не ўдавалася. У крыніцах зафіксавана шмат фактаў, калі феадал засцерагаў валашчан ці сялян асобных вёсак ад дыскрымінацыі новых жыхароў (слабаджан, прыхадняў, навікаў) старажыламі. Уцекачы, калі іх толькі не вывеў да сябе чужы пан, вымушаны былі напаўлегальна жыць у новых для сябе вёсках-абшчынах у якасці падсуседкаў, кутнікаў, у лепшым выпадку сяброўці прымакоў. На новым месцы ў межах сельскай абшчыны яны былі абмежаваны ў сваіх правах у параўнанні з паўнавартасным і абшчыннікамі-мужамі. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што перад тым, як пайсці з вёсак сяляне звычайна папярэджвалі пана аб сваіх праблемах, прасілі паменшыць павіннасці ці ўціск з боку аканомаў ці арандатараў і заяўлялі, што ў адваротным выпадку яны, нягледзячы на жаданне застацца, вымушаны будуць пайсці з вёсак. Сяляне добра ўсведамлялі, што калі пойдуць са сваёй вёскі і адмовяцца ад нажытага, то, хутчэй за ўсё, будуць ужо не гаспадарамі, а жабракамі.

Звернем увагу на тое, што пакаранне выгнаннем у далейшым будзе характэрным пры разборы сітуацыі ў Азярышчанскай воласці, а ў разгледжаным выпадку кароль папярэдзіў бунтаўшчыкоў аб неабходнасці выканання ўсіх распараджэння ў «заказнікаў і дзесятнікаў, а калі яны будуць прыцягваць да работы, біць іх не адважваліся (значыць, факты такія былі. - В. Г.), а бунтаўшчыкоў, якіх паводле нашага (каралеўскага. - *В. Г.)* дэкрэта будуць караць і з воласці выганяць, не баранілі»[443]. Зусім верагодна, што ў некаторых выпадках, а можа і ў большасці, баяры пераводзіліся ў разрад цяглых, а цяглыя (а потым, магчыма, і баяры) перадаваліся ў рукі прыватных феадалаў, у маёнтках якіх простае насельніцтва не мела такіх правоў, як у дзяржаўных уладаннях. Сведчаннем таму могуць служыць справы аб адданні ўжо ў 1625 г. падданых, якія раней уцяклі з Азярышчанскага староства, а потым былі схоплены, у прыватныя ўладанні[444].

Дынаміка падзей прасочваецца па тэксту наступных каралеўскіх грамат. Грамата Уладзіслава IV ад 28 лістапада 1644 г. была адрасавана «баярам путным і падданым цяглым староства нашага Азярыцкага» і папярэджвала, што ў староства

[442] Тамсама. - P.10.
[443] AGAD. AR, dz. X, sign. 308, p. 10.

[444] Тамсама. - Sign. 305, p. 8.

высылаюцца рэвізоры для праверкі рэальнай колькасці зямлі ў баяр, дакладнага вымярэння 30 валок для баярскай службы і вызначэння з іх павіннасцей, а таксама для выслухоўвання крыўд і скаргаў як з боку Азярышчанскага старосты, «так і таго, што вы да старосты прэтэндуеце»[445].

Хутчэй за ўсё, простыя сяляне воласці пасля пагроз і націску не выказвалі болыш такой шырокай падтрымкі баярам, як раней. Наступная каралеўская грамата ад 3 ліпеня 1645 г. была адрасавана ўжо толькі путным баярам. У ей сцвярджалася, што апошнія працягваюць бунтаваць і не выконваюць павіннасці, не захацелі прыняць каралеўскіх камісараў, зноў збілі абшчынных старцаў і іншых людзей, якія адмаўляліся быць іх памагатымі[446]. Больш за тое, баяры працягвалі адмаўляцца хадзіць на работы па будаўніцтву замка і адпраўляць, у адпаведнасці з загадай, «па дзесяць чалавек на тыдзень сцерагчы альбо пехатою з пушкамі на ім быць васемнаццаці чалавекам». Кароль папярэджваў баяр, каб не баранілі двух бунтаўнікоў, якія былі прысуджаны «на публічнае біццё і на пакаранне выгнаннем з воласці, а таксама іншых вінаватых не баранілі»[447].

Справа закончылася перамогай дзяржавы і над прадстаўнікамі баярства, і над тымі сялянскімі абшчынамі, якія падтрымлівалі першых у знак аднадумства і сялянскай салідарнасці. Аб тым, што такая абшчынная салідарнасць існавала, упершую чаргу сведчаць пастаянныя папярэджанні ўраднікамі сялян, каб яны не падтрымлівалі тых, хто не згодны з уладамі. Да таго ж аўтару ўдалося знайсці звесткі, як на самой справе сяляне, цэлыя сялянскія абшчыны ставіліся да тых, каго ўлады называлі бунтаўнікамі. Напрыклад, згодна з адным з данясенняў, 16 сакавіка 1625 г. судовы выканаўца Полацкага ваяводства генерал Ян Бедыцкі «до звышменованой данины Невельской прозываемой Неречова зьезджал и заставшы там подданых нашых Езерыцких имены в той реляцыи вписаных, выданья их упоминал я, *тогды старец и иншые подданые тамошние* (выдзелена намі. - В. Г.), не только збегов не выдали, але и его возного шляхетного... бить хотели, грозячыся на них словы уфытливыми лаяли...»[448]

Справа «Аб бунтах баяр Азярышчанскага староства» скончылася ў 1646 г. Як паведамілі каралю камісары, баярына Грышку Логвінава «за бунты і за тое, што неўчцівы... і воласць ізноў да бунту вёў», пакаралі «на сыпанне валу ў замку Азярыскім у аковах цэлыя паўгады»[449]. Больш за дзесяць чалавек былі пакараны за тое, што выбіралі сабе старшых і дзесятнікаў без ведама Азярышчанскага старосты. Васіля Каваля, Цімошку Пшаніцу, Дзмітра Хадонка, Хаму Дзітравянка, Аляксея Кузка, Лазука Аўсянiковіча, Івана Шупіка і Данілу Друка, якія прымалі актыўны ўдзел у бойках ізабойствах, камісары рэкамендавалі пакараць на смерць, але кароль прысудзіў іх на публічнае біццё і працу па насыпанню вала ў Азярышчанскім замку на цэлы год у аковах. Баяр з вёсак Уса і Вайхані прысудзілі на 12 тыдняў насыпання вала, а калі яны «выконваць гэтага не захочуць, тады за гэтую віну будуць пакараныя на горла, альбо на публічнае біццё і выгнаньне з воласці»[450]. Многія

[445] Тамсама. - Sign. 308, p. 17.

[446] Тамсама. - P. 26.

[447] Тамсама.

[448] AGAD. AR, dz. X, sign. 305, p. 9.

[449] Тамсама. - Sign. 308, p. 30.

[450] Тамсама. - P. 31.

іншыя людзі таксама атрымалі пакаранне, хаця і крыху менш цяжкае.

Так, улада жорсткім чынам спыніла праявы людской самастойнасці і супраціўлення. Галоўным аказалася нават не пакаранне, а тое, што дзяржава дабілася свайго. Хоць у ланцугах, а на будаўніцтва замка непакорныя вымушаны былі пайсці. Усім астатнім улады паказалі, што і адмова ад выканання павіннасцей, і спробы грамадскай самаарганізацыі, выбары кіраўнікоў абшчыны без дазволу ці ведама адміністрацыі староства будуць строга пакараныя.

Разам з тым адзначым, што ў гэты ж час улады шукалі і іншыя шляхі вырашэння праблемы з бесперабойным функцыяніраваннем замкавай службы. Перш за ўсё на службу набіралі новых людзей. Напрыклад, 3 мая 1636 г. Уладзіслаў IV даў шляхціцу Аляксандру Мерацкаму дажывотным правам вёску Арлее (Орлее) Азярышчанскай воласці, «каб ён служыў для абароны замка таго Азярыцкага»[451] Такім чынам, прыведзеныя вышэй архіўныя матэрыялы сведчаць як аб асаблівасцях пагранічнага становішча Усходняй Беларусі, так і аб дастаткова шырокіх правах насельніцтва гэтага рэгіёна, існаванні сялянскай абшчыны з яе салідарнасцю. Выразна відаць і імкненне ўлад поўнасцю ўзяць абшчыну пад свой кантроль.

Вядома, што адной з асноўных прымет існавання і функцыяніравання грамады з'яўляецца яе ўдзел у арганізацыі землекарыстання, выплаты падаткаў і выканання павіннасцей. У разглядаемы час сялянская грамада ў гаспадарскіх валасцях Усходняй Беларусі паступова страчвала магчымасць поўнасцю самастойна праводзіць раскладку і збор падаткаў. Напрыклад, у 1533 г. вялікі князь так пісаў пра ўдзел старцаў у раскладцы павіннасцей у Бабруйскай воласці: «Иж старцы тых розметов сами вжо не мають на волости метати, нижли коли, на их потребу волостную пенязей потреба вкажет, тогды они мают, зволившися вся волость и весполок с старцы объявить то врднику твоей милости, а врадник маеть им прыдати вижа, перед которым они вижом мають на всю волость размет кинути так, як бы сума не перевышала, едно толко, сколько бы им на тую потребу пенязеи вказывало»[452]. У прыведзеным вышэй тэксце змяшчаецца вельмі важная інфармацыя аб тым, што сяляне праводзілі збор грошай унутры абшчыны на агульнагрмадскія патрэбы. Цікавасць выклікае і тое, што такія зборы раней праводзіліся грамадой і яе кіраўніком самастойна і, відаць, пры неабходнасці. Згодна з Уставай Магілёўскай воласці за 1536 г., раскладка платаў у грамадзе павінна была праводзіцца пад кантролем трымальніка, як было заяўлена, дзеля таго, каб не абцяжарваць падданства[453]. Верагодна, што ў дадзеным выпадку велікакняжацкая ўлада проста перастрахавалася ад магчымага празмернага ўмацавання грамады, якая магла такім чынам збіраць сродкі для функцыяніравання ўласных інстытутаў, тым больш што падобныя выпадкі былі адзначаны ў размешчанай непадалёку Бабруйскай воласці[454]. Разам з тым у суседнім Крычаўскім старостве некалькі раней, у 1522 г., уладай было пацверджана традыцыйнае права падданства Падняпроўскіх валасцей на самастойны збор даніны[455]. У Свіслацкай

---

[451] LVIA. F. 599, ap. 1, bib. 3, p. 253.

[452] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление - Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута.- С 472.

[453] Довнар-Запольский М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке - С. 5.

[454] Тамсама.- С. 7-8.

[455] Тамсама.- С. 5-6.

воласці, паводле велікакняжацкай граматы 1540 г., сяляне таксама самі дзялілі паміж сабой даніну, якая прызначалася для здачы гаспадару. Пры чым рабіць гэта яны павінны былі самастойна, без удзелу і ўціску дзяржаўныхураднікаў: «А коли дей дань заметывати, тогды ни врядник, а нихто к ним не въеждчати, одно сами мужи и закидывають»[456].

У межах тэрытарыяльна-грамадскіх інстытутаў з назвай «воласць» захоўваліся значныя своеасаблівасці сялянскага землекарыстання ў параўнанні з «безабшчыннымі» валочнымі рэгіёнамі. Шырокія аграрныя пераўтварэнні ва ўсходніх валасцях ВКЛ пачаліся толькі пасля Лівонскай вайны 1558-1583 гг. і завяршыліся прыблізна ў 20-30-я гады XVII ст., значна пазней, чым на захадзе і ў цэнтры. Як ужо адзначалася, адным з асноўных адрозненняў рэформы на ўсходзе было тое, што пераважнае распаўсюджанне ў якасці стандартнага зямельнага надзелу і адзінкі абкладання падаткамі і павіннасцямі тут атрымала служба, блізкая па памерах да валокі. Але ў некаторых месцах па-ранейшаму існавалі даўнейшыя, традыцыйныя адзінкі вымярэння зямлі і найменні зямельных надзелаў. У крыніцах прыводзіцца каля дзесятка розных найменняў надзелаў: валока, служба, кадзь, капа, пуд, бязмен, отчына, зямля і інш. Памеры гэтых надзелаў ведала толькі сама грамада, яна вызначала і адпаведныя павіннасці і падаткі з іх. У распараджэнне грамады пераходзілі ўсе пакінутыя гаспадарамі землі. Грамада па свайму меркаванню магла іх сумесна апрацоўваць або здаваць у арэнду пабочным асобам ш тых ці іншых умовах. Права сельскай грамады на усе землі яе тэрыторыі праяўлялася таксама ў сумеснай абароне не толькі зямель агульнага карыстання, але і ўласных надзелаў членаў грамады. Асабліва выразна гэта відаць з дакументаў аб спрэчках з сялянамі суседніх вёсак-грамад і аб спробах захопу абшчынных зямель (з людзьмі ці без) з боку «чужога» ўласніка.

Архіўныя матэрыялы за XVI ст. не змяшчаюць прамых звестак аб тым, што грамада поўнасцю перастала ўплываць на працэсы сялянскага землекарыстання. Больш за тое, як вынікае з дакументаў, грамада працягвала рэгуляваць карыстанне выганамі, лясамі, бабровымі гонамі і рыбнымі ловамі, ворыўнымі землямі, якія па розных прычынах не апрацоўваліся, «пусткамі» і да т. п. У некаторых выпадках на грамаду ўскладвалася задача асваення і асаджвання людзьмі пустуючых зямель. Так, старцы Дубровенскай воласці ў 1560 г. былі абавязаны ў адпаведнасці з велікакняжацкай уставай асаджваць незаселеныя землі («водле уставы его королевской милости старец таковые пустовшины осаживать мает»[457]. Разам з тым неабходна адзначыць, што аўтару не ўдалося выявіць ніводнага выпадку ўдзелу абшчыны ў распараджэнні надзельнымі землямі.

Ёсць звесткі аб тым, што валасная, а у некаторых выпадках і сельская абшчына мела акрамя зямлі сумеснага карыстання і іншую агульную маёмасць. Так, у сумесным валоданні сялян Крычаўскай воласці ў 1522 г. знаходзілася васкабойня, якую ў іх спрабаваў адабраць велікакняжацкі намеснік, князь Васіль Сямёнавіч Жылінскі[458]. Мазырскія мяшчане мелі свой перавоз на р. Прыпяць і збіралі на ім мыта з жыхароў іншых валасцей, а насельніцтва Мазырскай воласці перавозілі» праз раку бясплатна[459]. Насельніцтва Чачэрскай воласці даказвала ў 1548 г.

[456] МВКЛ - Кн. 28.- С. 116-117.

[457] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке - С. 117.

[458] LM-4.-P. 64-65.

[459] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке.- С 99.

каралеўскім камісарам «...што ж деи мы с давных часов мыто воденое на себе бирали і на тые п(е)н(я)зи на замок г(оспо)д(а)рьский кликунов наимовали»[460].

Адзін з важных прынцыпаў дзейнасці грамады – прынцып ураўноуваня і прынцып калектывізму. Разам з тым землеўласнік (у дадзеным выпадку дзяржава) быў не супраць парушыць яго, замяняючы прынцыпам кругавой парукі, але перакладаючы частку павіннаснага цяжару бяднейшых абшчыннікаў на больш заможных. Так, у велікакняжацкай грамаце 1500 г. аб відах і памерах пабору, якія збіраліся з насельніцтва Падняпроўскіх валасцей, адзначалася: «А которни у вас будут земли пустовские або люди голтяйные, абы то по себе роскинулия болшого болшей, а на меншого меншей, як здавна бывало»[461]. Тое, што было згадна дзяржаве і забяспечвала гарантаванае атрыманне рэнты ў прызначаных памерах, не заўсёды падтрымлівалася багацейшымі людзьмі ў грамадзе. Абсалютная большасць матэрыялаў сведчаць, што абшчыннікі імкнуліся размяркоўваць павіннасці і падаткі пароўну паміж гаспадарамі, а не ўзалежнасці ад іх матэрыяльнага становішча.

Такім чынам, выразна відаць, што ў дзяржаўных уладаннях на ўсходзе Беларусі ў XVI - першай палове XVII ст. сялянская абшчына як сацыяльна-падаткавы інстытут працягвала сваё існаванне. Але разам з праяўленнямі яезначнай самастойнасці прыкметна пастаянна ўзрастаючая юрыдычная падпарадкаванасць грамады ўладам феадальнай дзяржавы. Валасная (тэрытарыяльная) абшчына складалася з асобных сельскіх абшчын. Валасная абшчына (воласць) была адначасова і адзінкай самаарганізацыі сялянства, і аб'ектам павіннаснага і падаткавага абкладання. У сувязі з гэтым, на нашу думку, нельга пагадзіцца з заключэннем М. В. Доўнар-Запольскага аб тым, што «асноўнай сувяззю, якая аб'ядноўвала воласць, была валасная зямля»[462]. Абсалютная большасць крыніц сведчыць аб тым, што воласць была не пазямельнай структурой, а сацыяльнай і павіннасна-падаткавай арганізацыяй, якую сам М. В. Доўнар-Запольскі называў «цяглаадміністрацыйным саюзам»[463]. Аб'ядноўвалі воласць у першую чаргу павіннасці і падаткі, што прызначаліся разам на ўсіх яе жыхароў, якія яны вымушаны былі разам выконваць.

Сельская абшчына ў параўнанні з валасной ужо ў большай меры была пазямельнай структурай, заснаванай на агульных правілах надзельнага і пазанадзельнага землекарыстання, наяўнасці зямель і ўгоддзяў, якія належалі менавіта дадзенаму сялу з дакладна вызначанымі межамі і да т. п. Падаткі, вызначаныя для воласці, раскладваліся на асобныя сёлы, дзе яны дзяліліся (розруб, поруб, разметы, меты) паміж асобнымі гаспадаркамі. На наш погляд, меркаванне М. В. Доўнар-Запольскага памылковае ў тым сэнсе, што ўсе падаткі і павіннасці ў гаспадарскіх уладаннях усходу Беларусі ўскладваліся на воласць. Як сведчаць крыніцы, амаль заўсёды былі падаткі і на асобныя адзінкі, не толькі на воласць, але і на асобную вёску, службу, дым і да т. п.

Пасля правядзення ў дзяржаўных уладаннях на ўсходзе Беларусі аграрнай рэформы, якая ў асноўным завяршылася да 1630-1640 гг., гаспадарчая і сацыяльная

---

[460] СПБ. - Т. I. - С. 42.

[461] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута - Приложения. - С. XII-XIII.

[462] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке - С. 10.

[463] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке.- С 137.

сітуацыя склалася там не ў такім выглядзе, як на захадзе. На ўсходзе не стваралася шырокая сістэма фальваркаў, а адбываўся масавы перавод насельніцтва на грашовую рэнту (чынш). Валокі былі ўведзены не ўсюды, у якасці зямельнага надзелу ўводзілася «новая» служба, блізкая па памерах да валокі. Былая даніна не адмянялася, а ў большасці выпадкаў ацэньвалася ў грашовым эквіваленце. Матэрыялы інвентароў дзяржаўных уладанняў усходу Беларусі другой паловы XVII ст. выразна паказваюць, якія змены адбыліся ў павіннасным абкладанні: вельмі часта ў гэтых дакументах пазначана ранейшая даніна з указаннем канкрэтных памераў платы грашамі за яе. У грашовым эквіваленце ацэньвалася не толькі прадукцыя сельскай гаспадаркі (жыта, авёс, ячмень, сена і інш.), але і паслугі – адвоз даніны, перавозка сена, прадастаўленне падвод і інш.

Напрыклад, інвентар Магілёўскай воласці за 1635 г. сведчыць аб тым, што тут у той час яшчэ ішоў працэс замацавання сялян за валокай (на захадзе і ў цэнтры Беларусі так было ў XVI ст.), а не зямлі за сялянамі. Справа ў тым, што на пачатку правядзення валочнай памеры ўся зямля перамяралася на валокі, за валокай ж адзінкай уліку і падаткаабкладання замацоўваліся адна, дзве, тры і больш гаспадарак, якія прынялі менавіта гэтую валоку ці яе частку[464]. У іншых інвентарах, складзеных пры правядзенні памеры, таксама паведамляецца пра пераважнае сумеснае трыманне валокі некалькімі сем'ямі. Менавіта да валокі ці да яе часці дадаваліся сенакосы, выганы. Такая сістэма сапраўды разбуральна ўздзейнічала на існаванне грамады, асабліва ў сферы землекарыстання. Сітуацыя на ўсходзе Беларусі змянілася ў перыяд войн і разбурэнняў сярэдзіны XVII - пачатку XVIII а, калі зямлі было многа, а людзей не хапала. У выніку стаў прымяняцца парадак замацавання валокі ці яе часткі за асобнай сям'ёй, у інвентарах указваўся гаспадар і побач з яго прозвішчам адзначалася колькасць зямлі і на якіх умовах (аседлая, чыншавая, прыёмная, з трэцяга снапа, наездам і да т. п.), якую яе частку атрымае. Згаданы інвентар Магілёўскай воласці 1635 г. сведчыць аб актыўным увядзенні ўладамі механізма замацавання сялянства за валокай, індывідуалізацыі землеўладання і землекарыстання. Усталёўваўся прынцып, найбольш выразна сфармуляваны ў лісце каралеўскага рэвізора Яна Вілчка магілёўскаму падстаросту пану Галубіцкаму ад 16 студзеня 1599 г.: «...а тым болей по розмереню и розданю кгрунтов на плате и повинности волощаном, где вжо всякий своего кгрунту и плате принятого, заборонял...»[465]

Нават сенакосы, якія звычайна былі ў абшчынным землекарыстанні. пры валочнай памеры імкнуліся падзяліць, дадаць да валокі, каб атрымаць дадатковую плату на карысць дзяржавы. Напрыклад, ва Уставе Магілёўскай эканоміі за 1594 г. адзначалася неабходнасць роўнага падзелу ўгоддзяў паміж сялянамі: «...лугі лесу да валок у роўны дзел давана быць мае»[466]. З інвентарных вопісаў дадзенай эканоміі за 1616 і 1635 гг. вынікае, што гэта указанне было рэалізавана амаль поўнасцю. Так, усе гэтыя гады сяляне сяла Вейна «...сенажаці маюць на валок; па аднаму моргу... і па два моргі балотных»[467], а сяло Навасёлкі «...сенажаць маюць на валоку па моргаў 2 і балотных па аднаму»[468]. Такое становішча было амаль у кожнай вёсцы эканоміі.

[464] НГАБ, ф. КМФ-5. воп.1, спр. 2505, арк. 15-126.

[465] БА. - Т.1. - С.50.

[466] АС.- Т. I.- С.184.

[467] НГАБ, ф. КМФ-5, воп.1, спр. 2503, арк. 2; спр. 2505, арк.15-17.

[468] Тамсама.- Арк.45,53.

Але грамада і грамадскае землекарыстанне заставалася там, дзе без іх сялянам проста немагчыма было абысціся. Так, у 1635 г. у сяле Мхінічы Магілёўскай воласці «...на выган усяму сялу дадзена сенажатных моргаў чатыры», а сяло Вільчыцы «...сенажацяў балотных трымае агулам 58 моргаў па тры грошы»[469].

У другой палове XVII ст., пасля пачатку татальнай дзяржаўнай практыкі віннаснага і падаткавага абкладання індывідуальных гаспадарак, а не валасцей і сёл, роля абшчыны ў сістэме дзяржаўнага кіравання некалькі зменшылася, а яе сацыяльныя пазіцыі значна пагоршыліся. Разам з тым назіраецца тая ж тэндэнцыя, што і на захадзе Беларусі ў сярэдзіне - другой палове XVI ст., г. зн. працяг дзейнасці абшчыны не дзякуючы, а нават насуперак уладам ці пры абыякавасці адносін апошніх да грамады. Адбывалася замацаванне і развіццё тых абшчыных традыцый, якія былі неабходны менавіта сялянам. Напрыклад, калі сяляне Любашоўскага фальварка Віцебскага ваяводства ў 1649 г. чынш плацілі з дыму рознымі сумамі, то падарошчыну яны аплачвалі агулам, напэўна ім было так больш выгадна[470]. Падобныя факты зафіксаваны ў большасці прааналізаваных інвентароў дзяржаўных уладанняў усходу Беларусі канца XVI - пачатку XVII ст.

Дзяржава таксама працягвала падтрымліваць ў дзейнасці абшчыны тое, што было ёй выгадна: кругавую паруку пры выплаце даніны і адказнасці пры ўчыненні злачынства кім-небудзь з жыхароў сяла, дзейнасць копнага суда, сумесны збор стацыі на жаўнераў і экстраардынарных падаткаў і інш. Пра гэта яскрава сведчаць крыніцы.

Абшчына працягвала функцыяніраваць у дзяржаўнай усходнебеларускай вёсцы і ў канцы XVI - першай палове XVII ст. Пасля правядзення тут у 1560-1561 гг. абмежаванай рэформы ў шэрагу валасцей захоўваўся ранейшы парадак збірання даніны і чыншу, калі некаторыя (а не усе) павіннасці прызначаліся не на індывідуальныя сялянскія гаспадаркі, а цалкам на вёску. Так, насельніцтва Нішчанскай воласці Полацкага павета ў 1589 г. працягвала выконваць павіннасці «па-старому»[471]. Устава Рэчыцкай воласці 1561 г., хаця і вызваляла старцаў ад абавязкаў размеркавання павіннасцей паміж сялянамі («маюць ужо перастаці разрубаў і разметаў класці на падданых гаспадарскіх»), усё ж яшчэ вызначала шэраг павіннасцей. накладзеных на ўсю вёску[472]. У 1634 г. сяляне шасці вёсак маёнтка Горніцы Полацкай эканоміі сумесна выконвалі павіннасці па даўняй традыцыі[473]. Падобная практыка існавала і ў іншых дзяржаўных уладаннях, размешчаных на ўсходзе Беларусі.

У азначаны перыяд сялянская абшчына рэгламентавала сумеснае карыстанне пашамі, сенакосамі, ляснымі ўгоддзямі. У некаторых выпадках на грамаду ўскладвалася задача асваення пустак. Так, старцы Дубровенскага (1560 г.) і Бабруйскага (1639 г.) старостваў у адпаведнасці з велікакняжацкай уставай абавязаны былі незаселеныя землі «добрымі людзьмі» асаджваць[474]. Магчыма, што

[469] Тамсама. - Спр. 2505, арк. 24-26.

[470] НГАБ, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 4599, арк. 1 адв. - 2.

[471] АЮЗР. - Т. I. – С. 229.

[472] АЗР. – Т. 4. – С. 120.

[473] ИЮМ. – Вып. 22. – С. 305.

[474] АВК. – Т. 25. – С. 326.

ў гаспадарскіх сёлах сяляне мелі ў абшчынным карыстанні і некаторыя ворыўныя землі. Пра што сведчаць, напрыклад, факты, калі сяляне надзялялі землёй царквы[475].

Больш за тое, прыкметна, што з канца XVI ст. выразна выяўляецца тэндэнцыя поўнага аднаўлення абшчынных парадкаў у тых дзяржаўных уладаннях усходу Беларусі, дзе раней прайшла валочная памера і правы абшчыны былі некалькі абмежаваны. У прыватнасці, сялянскія абшчыны пачалі прымаць у сваё распараджэнне дадатковыя землі (часцей за ўсё пазанадзельныя), сенакосы, якімі карысталіся ўсе жыхары сяла. Арганізацыяй збору і выплаты чыншу з іх таксама займалася абшчына[476]. Гэта схіляе да думкі аб тым, што феадальнаму ўласніку было выгадна аддаваць такія землі пад калектыўную адказнасць: грамада ў любым выпадку гарантавала выплату поўнай сумы прызначанага чыншу ці дастатку даніны ў памерах, прызначаных цалкам на валасць. На жаль, крыніцы недаюць магчымасці дакладна прасачыць, як адбывалася раскладка дадатковых зямель у самой абшчыне. Разам з тым адной з галоўных асаблівасцей у валасцях было тое, што многія павіннасці прызначаліся не на кожнага асобнага гаспадара, а на ўсю валасную абшчыну. Ужо ўнутры воласці адбываўся падзел прызначанай сумы падаткаў ці даніны на асобных гаспадароў, калі «меты кідалі» і «разрубы чынілі»[477].

Такім чынам, вышэйсказанае дазваляе зрабіць выснову, што на ўсходзе Беларусі ў XVI - першай палове XVII ст. дзяржава не спяшалася поўнасцю разбураць грамаду. Наадварот, тут грамада падтрымлівалася ў тых межах, наколькі гэта было выгадна ўладам. Дзяржава імкнулася рэгуляваць дзейнасць грамады заканадаўчымі актамі, часта адмяняючы яе традыцыйныя правы (выбары старшыні, расклад павіннасцей, сумеснае карыстанне зямлёй і г.д.) і ўводзячы новыя правілы («навіны»), у адпаведнасці з якімі грамада набывала рысы не самакіруемай арганізацыі насельніцтва, а органа, прызначанага выконваць распараджэнні феадала. Напрыканцы адзначым, што валасная грамада ва ўсходняй Беларусі ў разглядаемы перыяд выконвала і шматлікія функцыі ў інтарэсах насельніцтва. Больш за тое, роля яе значка ўзрастала ў часы пагаршэння агульнай сацыяльна-экамічнай сітуацыі ў краіне.

### 3.2. Аграрная рэформа і эвалюцыя абшчынных інстытутаў у дзяржаўных уладаннях захаду і цэнтра Беларусі ў XVI - першай палове XVII ст.

Аўтар фундаментальнага даследавання «Аграрная рэформа Жыгімонта-Аўгуста ў Літоўска-Рускай дзяржаве» У. І. Пічэта выказаў меркаванне, што ў выніку правядзення ў Беларусі ў сярэдзіне - другой палове XVI ст. валочнай памеры і індывідуалізацыі сялянскага землекарыстання сельская абшчына на беларускіх землях перастала існаваць[478]. Але крыніцы сведчаць аб адваротным. Сялянскія

---

[475] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке.– С. 131.

[476] НГАБ, ф. 1882, воп. 1, спр. 1, арк. 50 адв. - 59 адв., 80, 85, 90 адв.; ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2205, арк. 17, 45, 53, 65, 58.

[477] Довнар-Запольский, М. В. Западно-русская сельская община в XVI веке. - С. 4-5.

[478] Пичета, В. И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве В. И. Пичета. - М.: Изд-во АН СССР, 1958. - С. 543; Пичета, В. И. Основные моменты историчеcкого развития Западной Украины и Западной Белоруссии / В. И. Пичета. - М.: гос. Социально-экономич. изд-во, 1940. - С. 28; Пичета, В. И. [Рецензия] / В. И. Пичета // Вопросы истории. – 1946. - № 10. - С. 121-123. - Рецензия на «Ученые записки» Ярославского государственного педагогического института. - Вып. VII (XVII). - История. - Ярославль, 1945. - С. 122.

абшчыны, у тым ліку на захадзе і ў цэнтры Беларусі, існавалі да рэформы, функцыяніравалі падчас рэформы і нават уплывалі на яе ход. Засталіся яны і пасля правядзення валочнай памеры, праўда, перажыўшы пэўную эвалюцыю.

Даць вычарпальную характарыстыку абшчыны ў дарэформенны перыяд, дакладна высветліць, як яна дзейнічала, якія мела паўнамоцтвы, не ўяўляецца магчымым. Гэта тлумачыцца тым, што крыніцазнаўчая база за першую палову XVI ст. адносна дзяржаўных уладанняў захаду і цэнтра Беларусі значна вузейшая ў параўнанні з комплексам дакументаў за той жа перыяд па гаспадарскіх Падзвінскіх і Падняпроўскіх валасцях усходу краіны. Матэрыялы ж, звязаныя з валочнай памерай і сацыяльна-эканамічным развіццём пасля яе правядзення, даюць значна большы масіў інфармацыі аб сельскай абшчыне. Але і адзінкавыя сведчанні аб існаванні абшчыны ў дзяржаўных уладаннях захаду і цэнтра Беларусі ў дарэформенны час вельмі важныя для разумення яе ролі ў дзяржаве наогул і ў жыцці сялянства ў прыватнасці.

Значная частка гаспадарскіх уладанняў у XVI ст. знаходзілася ў заходнім і цэнтральным рэгёнах Беларусі. Так, на аснове аналізу Уставы на валокі 1557 г. М. Ф. Спірыдонаў сярод дзяржаўных уладанняў захаду і цэнтра Беларусі вылучыў: у Ашмянскім павеце – Ашмяны, Валожын, Геранёны, Дунілавічы, Крэва, Лебедзева, Маркава, Мядзел, у Берасцейскім – Бярэсце (Брэст) і Камянец, у Ваўкавыскім – Ваўкавыск, Волпу, Зэльву, Лыскава, Межырэчча і Мсцібогаў, у Гарадзенскім – Ожу, Пераваалкі, Пералом, у Лідскім – Астрыну, Беліцу, Васілішкі, Ліду і Радунь, у Менскім – Гайну, Краснае Сяло і Менск, у Навагрудскім – Ляхавічы, Навагрудак, і Цэрын, у Слонімскім – Байкевічы, Ласасіную і Слонім[479].

Акрамя таго, пасля выдзялення, у адпаведнасці з рашэннем сейма у 1588 г., з дзяржаўных уладанняў «сталовых» маёнткаў для забеспячэння асабістых патрэб караля на захадзе Беларусі з'явіліся Берасцейская, Гарадзенская, Кобрынская і Камянецкая эканоміі, утвораныя адпаведна з Берасцейскага і Гарадзенскага староставаў, Кобрынскай і Камянецкай дзяржаў.

Заходні і цэнтральны рэгіёны Беларусі на працягу ўсяго разглядаемага перыяду вылучаліся першынствам у эканамічным развіцці і, натуральна, хутчэйшым распадам старых форм грамадскага і гаспадарчага жыцця. У параўнанні з усходам, дзе на працягу ўсяго XVI ст. яшчэ даволі моцнымі былі традыцыі абшчыннага землекарыстання і асабліва сумеснай выплаты падаткаў і адбывання павіннасцей, на захадзе ўжо з канца XV ст., яшчэ да валочнай памеры, выразна праяўлялася тэндэнцыя да індывідуалізацыі сялянскага землеўладання, павіннаснага і падатковага абкладання.

Рост у канцы XV - пачатку XVI ст. попыту на прадукцыю сельскай гаспадаркі, у першую чаргу на збожжа, які быў выкліканы перабудовай гаспадарчай сістэмы ў некаторых краінах Заходняй Еўропы, павышаў зацікаўленасць феадалаў ВКЛ у павелічэнні экспарту зерневай прадукцыі. Гэта, у сваю чаргу, стымулявала стварэнне гаспадарак па вытворчасці збожжа (фальваркаў). Ужо ў другой палове XV ст. у некаторых дзяржаўных уладаннях Беларусі. у асноўным на захадзе і ў цэнтры, існавалі так званыя двары – праобразы будучых фальваркаў. Але гэтыя двары яшчэ не былі арыентаваны на вытворчасць збожжа ці іншай сельскагаспадарчай прадукцыі для яе рэалізацыі за межамі феадальнага маёнтка. Галоўнай мэтай «двароў» было забеспячэнне ўласнай сельскагаспадарчай

[479] Спиридонов, М. Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV-XVI вв.). - С 34.

прадукцыяй велікакняжацкай адміністрацыі, якая там пражывала. Сяляне, прыпісаныя да такіх двароў, як правіла, былі абавязаныя цяглай службай (паншчынай).

У святле разглядаемай праблемы важна разуменне таго, што нормы працы на паншчыне прызначаліся звычайна асобна на індывідуальную сялянскую гаспадарку, у адрозненне ад таго, як агулам на ўсю воласць прызначаліся даніна і чынш у дзяржаўных уладаннях на ўсходзе Беларусі. Натуральна, што гэта вяло да аслаблення калектывісцкіх, абшчынных традыцый у першую чаргу ў сферы адбывання сялянскіх павіннасцей. У сувязі з адзначаным звяртае на сябе ўвагу тое, што ва ўліково-гаспадарчых дакументах дзяржаўных уладанняў, размешчаных на захадзе і ў цэнтры Беларусі, на першае месца звычайна ставілася не насельніцтва воласці з іх павіннасцямі, а гаспадарскі двор з людзьмі, прыпісанымі да яго. Так, на ўсходзе гаспадар надаваў (ці даваў у трыманне) шляхце даходы з валасцей, а на захадзе – гаспадарскія двары з іх прыналежнасцямі. І калі на ўсходзе даніна і чынш трэба было толькі збіраць (што было найбольш зручна праз выкарыстанне інстытута сялянскай абшчыны-валасці), то на захадзе ў большасці выпадкаў трымальніку трэба было арганізоўваць працу сялян на панскім заворванні (у тым ліку вызначаючы норму для кожнай індывідуальнай гаспадаркі) і толькі пасля гэтага разлічваць на пэўныя вынікі. Натуральна, што ўмовы для функцыянiравання грамады ў заходнім рэгіёне былі менш спрыяльнымі, чым на ўсходзе.

Гаспадаркі, у якіх паншчына выцясніла даніну, на захадзе Беларусі размяшчаліся ў асноўным у басейнах сплаўных рэк Заходняга Бута і Немана, праз рэгіён быў звязаны з балтыйскімі портамі – буйнымі цэнтрамі гандлю сельскагаспадарчай прадукцыяй[480]. Нягледзячы на тое што гаспадаркі з агульнай назвавай «фальварак» ці «двор» (у блізкім да фальварка разуменні) сустракаліся ў розных відах феадальнага землеўладання, у першай палове - сярэдзіне XVI ст. перавагі такіх гаспадарак заўважна іменна ў дзяржаўных, ці велікакняжацкіх, уладаннях. Але і на захадзе таксама заставаліся дзяржаўныя маёнткі, заснаваныя не на паншчыне, асноўу павіннасцей насельніцтва ў якіх складала выплата даніны або чыншу. У такіх маёнтках да сярэдзіны XVI ст. прыметы сялянскай самаарганізацыі прасочваліся больш выразна, чым у «цяглых» уладаннях.

Да пачатку валочнай памеры сялянская тэрытарыяльная абшчына (складалася з некалькіх сельскіх абшчын) у дзяржаўных уладаннях захаду і цэнтра Беларусі мела, як і на ўсходзе, назву «воласць». Аднак калі на ўсходзе воласць на працягу XVI - першай паловы XVII ст. у кантактах з дзяржавай выступала як адноса самастойная грамадская і падатковая адзінка, то на захадзе так было не заўсёды.

Большую незалежнаць у гаспадарчым і штодзённым жыцці на захадзе і у северы Беларусі захоўвалі тыя валасці, аснову павіннасцей насельніцтва якіх склала даніна натурай або грашыма. У іх, як і ў валасцях, размешчаных на усходзе Беларусі, да сярэдзіны XVI ст. нярэдкімі былі выпадкі прызначэння згаданай даніны або чыншу (ці іх часткі) цалкам на воласць і арганізацыі сумеснай платы іх сялянамі. Так, выніковы дакумент, складзены ў 1520 г. старостам дарагіцкім і слонімскім панам Янам Мікалаевічам у вышку разгляду скаргі насельніцтва Здзітаўскай воласці на здзітаўскіх мяшчан на тое, што апошнія адмаўляліся разам з воласцю адбываць некаторыя павіннасці. змяшчае інфармацыю аб тым, што воласць тут выступала як арганізацыя ўсяго сельскага насельніцтва дадзенай тэрыторыі. Тэрмін «воласць» разумеўся мясцовымі жыхарамі менавіта як абшчына.

480 Спиридонов, М. Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV-XVI вв.). - С. 68.

Пацвярджэннем таму з'яўляюцца выказванні прадстаўнікоў воласці, унесеныя ў тэкст у якасці іх дасл оўных цытат, што дазваляе ацаніць воласць-абшчыну словамі саміх валашчан. З аналізу гэтага дакумента вынікае, па-першае, што Здзітаўская воласць, як і воласці на ўсходзе Беларусі, выступала ў якасці грамадскай і павіннаснай арганізацыі ўсяго насельніцтва. Пра гэта сведчаць словы саміх абшчыннікаў: *«...мы, волость* (курсіў наш. - *В. Г.)*, твоей милости даем в кождый год по семи яловиц, а по семи боранов, а по куряти, а по десяти яецз дыму, а по две бочки рыб, а по две троски угонов, и иные поплатки, а по полчетверти жита, а по полчетверти овса...»[481] Звяртае на сябе ўвагу пералік агульнаваласных павіннасцей, хаця адзначаны і некаторыя індывідуальныя выплаты (з асобнай сялянскай гаспадаркі - «дыму» збіралася па курыцы і дзесятку яек). Па-другое, сем чалавек, якія прынеслі скаргу да Яна Мікалаевіча, названыя старостам як «люди наши Здитовские» і пералічаныя па імёнах, выступалі не толькі ад сябе, а «от всее волости»[482] як грамадскай адзінкі. І, па-трэцяе, у аналізуемым тэксце некалькі разоў прыводзяцца выказванні валашчан, якія адлюстроўваюць сацыяльна-гаспадарчую агульнасць насельніцтва пад назвай воласці. Гэта, напрыклад, «мы, воласць» (тут і далей выдзелена намі. - *В. Г)*, якая разам адбывае павіннасці, а таксама «приискивали нас, волость, в тяглую службу»[483]. Адзначанае сведчыць аб тым, што ва ўспрыманні здзітаўскіх сялян «воласць» была сацыяльна-гаспадарчым і грамадскім інстытутам, у якім было аб'яднана насельніцтва менавіта іх рэгіёна.

Як паказваюць гістарычныя крыніцы, у некаторых мясцовасцях на захадзе Беларусі (Берасцейскі, Ваўкавыскі, Слонімскі паветы) да валочнай памеры ў дзяржаўных уладаннях сустракаліся такія тэрытарыяльна-грамадскія адзінкі, як дзесяткі. А. І. Груша прыйшоў да высновы аб тым, што «сялянскія дзесяткі, саракі і сотнікі з іх дзесятнікамі, сарочнікамі і сотнікамі (соцкімі) сустракаюцца ў розных рэгіенах ВКЛ, але канцэнтруюцца яны пераважна на этнічных беларускіх, украінскіх і рускіх землях»[484]. Сапраўды, вядомыя гісторыкам дакументы адпавядаюць менавіта такому меркаванню. Так, вялікі князь Аляксандр у 1503 г. выдаў ліст, які пацвердзіў падараванне пану Мікалаю Юндзіловічу зямлі пустаўскай і людзей «у Волковыйском повете, Кремяницкого десятка...»[485] У гэтым лісце вялікага князя Аляксандра ўпамінаецца і дзесятнік Аніхім, у якога М. Юндзіловіч «прикупил собе землицы»[486]. У 1504 г. вялікі князь даў прывілей маршалку ВКЛ пану Войцеху Янавічу на «люди наши у Волковыйском повете, в Лысковском десятку... а в Жомоитском десятку... а на Лопеницы... и з братею и з потужники их. и суполными службами тых людей...»[487] Дзесятнікі валкініцкія і лепуньскія ўпамінаюцца ў дакументах за 1507 г.[488] і 1534 г.[489] Прыстаў і дзесятнік былі ў

---

[481] РИБ. - Т. XX. - С 1453.

[482] Тамсама. - С. 1452.

[483] Тамсама. -С.1453 .

[484] Груша, А. Рэтраспектыўны метад у даследаванні гісторыі Вялікага княства Літоўскага / А. Груша // Вялікае княства Літоўскае. Метадалогія і метады даследавання. - СПб.: Неўскі прасцяг, 2003. - С.108.

[485] АЛРГ. - Т. І - Вып.ІІ - С.133.

[486] АЛРГ. - Т. І. - Вып. ІІ. - С. 133 .

[487] АЛМ. - Т.І. - Вып.ІІ - С.149.

[488] LM-8. - Р.233.

[489] Тамсама. - Р.172.

Радунскай воласці ў пачатку XVI ст.[490], а у 1508 г. адзначана «чотыры пустовщыны в Радунском повете Даниловича десятку»[491]. У 1507 г. «...пан Миколаи Рачкович поведил... штож ещо отец его покупил земли и сеножати в людей наших Волковыиского повета Кремяницкого десятку, и теж Кгрунтиковича десятку...»[492] М.К. Любаўскі таксама прыводзіў прыклады падзелу тэрыторыі на дзесяткі, сярод якіх указваліся Асецкі (1497 г.) і Ловецкі (1507 г.) дзесяткі ў Наваградскім павеце, Падляшскі (1495:,). Пабалоцкі (1522 г.), Памухаўскі (1511 г.) дзесяткі ў Берасцейскім павеце і інш.[493]

У 1511 г. да вялікага князя Жыгімонта Старога звярнуўся дваранін Косця Пішчыкаў з просьбай замяніць сяло Турышчэвічы і востраў Бердыж Чачэрскай воласці, якія ён атрымаў ад гаспадара за службу, на жарэбя з людзьмі ў Берасцейскім павеце. Вялікі князь дазволіў такую замену, у выніку чаго вышэйзгаданы дваранін атрымаў у Берасцейскім павеце адно жарэбя з людзьмі, «...а другого жеребии пустого в Старом Селе в Помухавском десятку на имя Лигатовского...»[494]

У 1528 г. вялікі князь Жыгімонт Стары рабіў зямельныя наданні шляхце ў Берасцейскім павеце. Тэкст адпаведнага дакумента таксама сведчыць аб тым, што ўнутры павета меліся меншыя тэрытарыяльна-адміністрацыйныя адзінкі – дзесяткі: «Берестейского ж повету десятка Поболоцкого розданое. Его ж м(и)л(о)сть господар король Жикгимонт того ж десятку дал пану Горностаю писарю жеребей пустый на имя Потоловский. Хоживало с того жеребья овса и жита дякло»[495]. (У 1512 г. у гэтым жа Пабалоцкім дзесятку Берасцейскага павета было два пустых жарэбі[496].)

Прыведзеныя вышэй прыклады паказваюць, што дзесяткі з'яўляліся састаўнымі часткамі павета і, магчыма, воласці. Падобная сістэма тэрытарыяльна-грамадскага ўладкавання, калі сярод першых асоб воласці згадваліся сотнікі і сарочнікі, і дзесятнікі, па дакументах XV - сярэдзіны XVI ст. прасочваецца і ў некаторых рэгіёнах Украіны (на Правабярэжнай Украіне, на Валыні, у Осцерскай воласці і інш.), а таксама ў Расіі (Тарапецкай воласці і на Браншчыне)[497].

На жаль, архіўныя матэрыялы не дазваляюць дастаткова глыбока раскрыць паходжанне і функцыяніраванне вышэйзгаданай сотенна-дзесяткавай сістэмы тэрытарыяльнага ўладкавання на землях Беларусі. Але на гэтую асаблівасць у функцыяніраванні сялянскай абшчыны звярталі ўвагу даследчыкі, адзначаючы яе шырокую тэрытарыяльную распаўсюджанасць яшчэ ў X-XIII стст. Так, М.К. Любаўскі, адзначыўшы, што «...такі ж валасны падзел і тыя ж самыя сотнікі і дзесятнікі» сустракаліся ў Кіеўскай, Чарнігаўскай, Северскай і Полацкай землях,

---

[490] РИБ. - Т. XX.- С 349.

[491] LM-8. - P. 285.

[492] LM-8. - P. 211.

[493] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута.- С 428-429.

[494] ZNIO. Rkps. BO, sign. 2289, p. 1.

[495] AGAD. APR, sign. 308, p. 1 - lv.

[496] LM-8. - P. 394.

[497] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута.- С 431; Гурбик, А. О. Еволюція соціально-територіальних спільнот в середньовічній Україні (волость, дворище, село, сябринна спічка).- С 25-26.

зрабіў на падставе гэтага наступны вывад: «...само сабой выходзіць, што гэта былі старадаўнейшыя рускія ўсталяванні (у арыгінале - «установления». - В.Г.)»[498].

А. І. Груша прыйшоў да высновы, што «дзесяткі і сотні з іх дзесяцкімі і сотнікамі (соцкімі), таксама станы і старцы, палюддзе і павоз, - маюць храналагічныя паралелі і засведчаны ў крыніцах X-XIII ст.ст. Крыніцы XIII ст. ведаюць падзел на сотні Берасцейскай зямлі (пад 1289 г., у сувязі з устанаўленнем тут «ловчего»). З X і XII ст.ст. ідуць звесткі аб соцкіх і дзесяцкіх у Кіеве. Соцкіх XII-XIII ст.ст. знаходзім у Вялікім Ноўгарадзе, Пскове і пры галіцкім князе Даніле Раманавічы»[499].

На думку ўкраінскага гісторыка А. А. Гурбыка, соценна-дзесятковая сістэма сельскага тэрытарыяльнага ўладкавання «прайшла трывалы час эвалюцыі ад перыяду Кіеўскай Русі, захаваўшы і ў XVI ст. свае асноўныя рысы. Праўда, у працэсе эвалюцыі соценнай сістэмы яна аб'ядналася з гарадской грамадой»[500]. Сапраўды, соценна-дзесятковая сістэма ў гарадах ВКЛназіралася на працягу ўсяго XVI ст. і нават пазней, а сотнікі як кіраўнікі сельскіх абшчын упамінаюцца ў дакументах толькі на захадзе Беларусі, прычым пераважна ў час да правядзення валочнай памеры.

М. К. Любаўскі паспрабаваў зрабіць рэканструкцыю арганізацыі сельскага тэрытарыяльнага ўладкавання ў дзяржаўных уладаннях на захадзе Беларусі ў XVI ст. Вучоны выказаў меркаванне аб тым, што сотнік стаяў на чале павета, а ў кожным з паветаў было па некалькі валасцей, якія ўзначальваліся сарочнікамі. Дзесятнікі, на яго думку, кіравалі грамадамі асобных сёл ці групай суседніх сёл[501]. Пацвярджэннем такога вываду можа быць тэкст Уставы на валокі ад 1 красавіка 1557 г., якая ў многім улічвала як новаўсталяваны лад сялянскага жыцця, так і раней існаваўшую на месцах інфраструктуру. Так, у артыкуле «О войтах» апошнім прадпісваўся абавязак пры ўсялякіх работах «...замест прystава над людзьмі войтаўства свайго стаяці»[502]. У некаторых месцах дзесятнікі, па назіраннях М.К. Любаўскага, называліся сельскімі («посельскими») прыставамі[503]. Вучоны лічыў, што ў Гарадзенскім павеце ўвогуле не было дзесяткаў і дзесятнікаў, абавязкі апошніх тут, верагодна, выконвалі прыставы[504].

Версія М. К. Любаўскага аб існаванні такога тэрытарыяльнага ўладкавання (павет – сотнік; валасць – сарочнік; сяло – дзесятнік) мае права на існаванне, але толькі з улікам таго, што гэта мог быць толькі адзін з варыянтаў тэрытарыяльнай арганізацыі сельскага насельніцтва. На практыцы на захадзе Беларусі ў той жа час існавалі таксама валасці і без падзелу іх на сотні і дзесяткі, існавалі і іншыя службовыя асобы сельскіх абшчын акрамя сотнікаў, сарочнікаў і дзесяцкіх.

Прыведзеныя факты, па меркаванню аўтара, сведчаць на карысць вываду аб тым, што ў перыяд да сацыяльна-гаспадарчых пераўтварэнняў, звязаных з правядзеннем валочнай памеры, улады выкарыстоўвалі назвы рэальна існаваўшых адзінак сельскага ўладкавання і мясцовыя найменні прадстаўнікоў сельскіх абшчын,

---

[498] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. - С. 427.

[499] Груша, А. Рэтраспектыўны метад у даследаванні гісторыі Вялікага княства Літоўскага. - С. 110.

[500] Гурбик, А. О. Еволюція соціально-територіальних спільнот в середньовічній Україні. - С. 26.

[501] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. - С. 428

[502] АЗР. - Т. III. - С. 73.

[503] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. - С. 425

[504] Тамсама - С. 429.

што знайшло адлюстраванне ў матэрыялах уліковa-гаспарадчага характару. Разам з тым у дакументах агульнадзяржаўнага прызначэння маглі называцца як усе вядомыя іх аўтарам тэрміны разам, так і толькі найбольш распаўсюджаныя, мясцовыя адпаведнікі якіх насельніцтва несумненна ведала.

У крыніцах змяшчаюцца розныя тэрміны, што абазначаюць людзей, якія з'яўляліся службовымі асобамі сельскіх абшчын ці іх частак, і рэпрэзентавалі насельніцтва вышэйзгаданых тэрытарыяльна-грамадскіх адзінак як ва ўнутрыабшчынных дачыненнях, так і пры кантактах з насельніцтвам іншых сёл і землеўласнікамі.

Так, у час да валочнай памеры ў дзяржаўных уладаннях, размешчаных на захадзе і ў цэнтры Беларусі, можна выдзеліць дзве групы службовых асоб у сельскай мясцовасці: 1) асобы, якія ажыццяўлялі адміністрацыйна-гаспадарчае кіраванне дзяржаўнымі ўладаннямі; 2) асобы, якія прадстаўлялі сялянства ў адносінах з уладамі і, верагодна, былі адміністрацыйнымі асобамі грамады.

Сярод асоб першай групы вылучаюцца велікакняжацкія намеснікі і дзяржаўцы, якія адносіліся да шляхецкага саслоўя, з'яўляліся афіцыйнымі прадстаўнікамі органаў дзяржаўнага кіравання і прызначаліся на свае пасады гаспадаром. Нярэдка ва ўладанні былі і іншыя асобы, напрыклад «панаместнічкі», «ураднікі дзяржаўчыныя», якія дапамагалі намеснікам і дзяржаўцам у выкананні іх абавязкаў або пры неабходнасці падмянялі іх[505].

Як сведчаць дакументы, часцей за ўсё непасрэдную сувязь паміж урадам гаспадарскіх двароў і сельскім насельніцтвам ажыццяўлялі цівуны, яны ж кіравалі гаспадаркай у гэтых дварах, арганізоўвалі і кантралявалі работу сялян на апрацоўцы дваровага ворыва, падчас сенакосу, збору збажыны і да т. п. Цівун - гэта даволі цікавы суб'ект у гісторыі беларускай феадальнай вёскі, асабліва з улікам таго, што роля цівуноў у розныя перыяды існавання ВКЛ і ў розных рэгіёнах змянялася. На наш погляд, правільным з'яўляецца вывад аб неабходнасці аднясення цівуноў XVI-XVIII стст. да катэгорыі сялян-слуг[506]. Разам з тым адзначым, што вядомы выпадкі, калі ў некаторых мясцовасцях пасада цівуна рэальна адпавядала ўзроўню пасады велікакняжацкага дзяржаўцы (пераважна гэта было да сярэдзіны XVI ст. у асноўным у Жмудскай зямлі) і яе займалі шляхцічы[507].

Ёсць таксама прыклады таго, што цівуны фактычна былі прадстаўнікамі грамады ў маёнтку, калі яны, па сутнасці, выконвалі функцыі старцаў ці войтаў. Напрыклад, з дакумента 1545 г. вынікае, што Асташка, цівун воласці двара Заварноцкага Мядзельскага староства, быў звычайным селянінам, напэўна вызваленым ад цяглай службы, аб чым сведчыць тое, што «ўсіх заварнічан» пералічана «дымов двaнадцать, а служоб одиннадцать...»[508]

Ва Устаўной грамаце вялікага князя Жыгімонта Старога гарадзенскаму старосце Юрыю Радзівілу за 1514 г. пры пераліку службовых асоб староства цівун двойчы названы сярод прадстаўнікоў велікакняжацкай адміністрацыі. Найперш гэта зроблена ў прэамбуле граматы: «Жикгимонт, Божьею милостью король польский и великий князь Литовский, князем и паном и дворяном нашим, и войту и мещаном, и

[505] АЗР. - Т. II. - С. 197.

[506] Доўнар, А. Б. Сяляне-слугі Беларусі другой паловы XVI - сярэдзіны XVIII ст. - С. 27

[507] АЗР. - Т. II. - С. 199-201; Любавский, М. К. Областное деление и местное управ. Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. - С. 421-423.

[508] ДМАМЮ. - Т. 1. - С. 80-81.

тивуном и сотником, и людем нашим путным и тяглым дворов наших Городенских»[509]. Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў згаданым дакуменце кіраўнік дзяржавы дакладна вылучыў чатыры групы насельніцтва, якім адрасаваны дакумент: 1) прадстаўнікі шляхецкага саслоўя; 2) мяшчане з кіраўніком гарадской абшчыны; 3) прадстаўнікі велікакняжацкай адміністрацыі, якія маглі быць і сялянамі; 4) феадальназалежнае насельніцтва. Яшчэ больш канкрэтна цівуны названы ў складзе прадстаўнікоў сельскай адміністрацыі ў наступным тэксце: «А сотництва маем мы господарь подавати, подле давнего обычая: нижли староста Городенский и врядники его мают доходы свои с сотников и с тивунов и с приставов и с сорочников...»[510] Прыведзены тэкст можа быць сведчаннем таго, што кіраўнікоў тэрытарыяльнай абшчыны – сотнікаў па традыцыі прызначаў сам гаспадар, астатніх службовых асоб сельскай грамады прызначаў ці зацвярджаў староста, з якіх ён, верагодна, браў за гэта плату.

Ва Уставе двароў Віленскага і Трокскага паветаў ВКЛ за 1529 г. у адным выпадку цівун называецца дзяржаўным служачым, які займаецца арганізацыяй гаспадаркі ў велікакняжацкіх дварах і ў пэўных справах можа нават замяняць дзяржаўцу, а ў другім – пералічаны сярод асоб сельскай адміністрацыі. З тэксту яўна вынікае, што цівун тут аднесены да гаспадарскіх ураднікаў: «...кгды подданый наш возмет державцу на спорчизну якую, на суд, о землю або сеножать, тогды подданый наш, который винен зостанет, мает заплатити яловицу, або полкопы грошей; а врядник державцын выедет, тогды десять грошей; а коли понаместничок або тивун выедет, тогды пять грошей»[511]. Але іншы фрагмент таго ж дакумента дазваляе выказаць меркаванне аб тым, што цівун мог адначасова выконваць і функцыі прадстаўніка сялянскай грамады пры гаспадарскім двары. Да такой думкі схіляе змест артыкула 34 згаданай Уставы, у якім цівуны пералічаны сярод асоб, якія дакладна вядомы як прадстаўнікі сельскай абшчыны (старцы, пыставы і інш.). Тут, не гаворачы аб абавязках цівуноў у сельскай абшчыне, вялікі князь адзначае, што выбірацца яны павінны з сялян, прычым з такіх, якія будуць дбайна клапаціцца аб гаспадарскай уласнасці і прыбытках: «Теж, абы державцы дворов наших и вси врядники дворные, яко, заказники, старцы, тивуны, приставы, сорочники, гуменники, обирали што з лепших служоб, верных, который бы больши стерегли роботы, пашни и наших пожитков, нижли лупежства, або отступованья от повинных робот»[512].

Ва Уставе двароў Віленскага і Трокскага паветаў ВКЛ 1542 г., якая ў многім супадае з вышэйцытаванай Уставай 1529 г., вышэйназваныя асобы адназначна называюцца дваровымі ўраднікамі: «Теж, абы державца дворов нашых, врядники дворныи: яко заказники, старцы, тивунове, приставы, сорочники, гуменики обирали, што лепшыи мужи верный, а который бы большей стерегли роботы, пашне и ишых, нижли лупежства альбо откупованья от повинных робот»[513].

Такі падыход з боку ўлад да названых асоб не з'яўляецца чымсьці экстраардынарным. Як адзначаў М. В. Доўнар-Запольскі, даныя, змешчаныя ўдзяржаўных актах, паказваюць, «што ўжо ў пачатку XVI ст. каралеўскія ўраднікі

[509] АЗЕ- Т.II.- С. 113.

[510] Тамсама.- С.114.

[511] Тамсама.- С.197.

[512] АЗР.- Т.II.- С.198.

[513] LM-6.- P.210.

імкнуцца абмежаваць абшчыннае жыццё, або замяняючы старца ўласным слугою, або збіраючы непамерную плату за выбары»[514]. Але гэта зусім не азначае, што такія людзі пераставалі быць кіраўнікамі ці службовымі асобамі сялянскай абшчыны. Наадварот, землеўласнік, як правіла, прызначаў на вызначаную ў дакументах пасаду (старца, войта, цівуна і інш.) менавіта ўжо рэальнага лідэра грамады («таго каго падданыя пажадаюць»). Дакументы нярэдка дазваляюць меркаваць, што старцы ці войты сумяшчалі абавязкі кіраўніка грамады і панскага адміністратара.

На падставе ўказанага можна зрабіць вывад аб тым, што ў некаторых выпадках цівуны ў дзяржаўных уладаннях захаду Беларусі ў першай палове - сярэдзіне XVI ст., выконваючы пэўныя адміністрацыйныя функцыі ў гаспадарскіх дварах маглі быць таксама прадстаўнікамі сялянства і, магчыма, уваходзілі ў лік кіруючых асоб грамады.

На сённяшні дзень немагчыма вызначыць, чаму ў адзін і той жа час нават у размешчаных побач уладаннях службова-распарадчыя і кіраўнічыя асобы сілянскіх абшчын называліся рознымі тэрмінамі. Пералічым асноуныя з іх, якія сустракаліся ў выкарыстаных аўтарам крыніцах, пазначаючы ўладанне і дату, пад якой яны зафіксаваны ў дакументах (у перыяд да правядзення валочнай памеры):

*старцаў* як кіраўніко ў сялянскіх абшчын у дзяржаўных уладаннях захаду і цэнтра Беларусі крыніцы называюць у сёлах Дарагіцкай воласці (1474 г.)[515], у Азярыцкай і Крынкаўскай валасцях Гарадзенскага староства (1518 г.)[516], Маркаўскай воласці Ашмянскага павета (1528 г.)[517], у Пінскім старостве (1536 г.)[518] у сяле Лебедзева Берасцейскага павета (1540 г.)[519], у Мядзельскай воласці (1545 г.)[520], войты валасныя згадваюцца ў дакументах Слонімскага староства і валасцей двароў Здзітаў і Молчадзь (1550 г.)[521];

*сотнікі* былі ў дварах гаспадарскіх гарадзенскіх (1514 г.)[522], у Жараслаўскай воласці Гарадзенскага павета (1511 г.)[523];

*сарочнік* – у маёнтку Цэрын Навагародскага павета ў 1499 г. названы «сарочнік цэрынскі Сенька»[524], сарочнікі згадваюцца таксама ў Жараслаўскай воласці Гарадзенскага павета (1511 г.)[525];

*дзесятнікі* адзначаны ў сёлах Дарагіцкай воласці (1474 г.)[526], Крэмяніцкім дзесятку (1503 г.)[527] і ў маёнтку Лопеніцы Ваўкавыскага павета (1507 г.)[528], у

---

[514] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке.- С 59.

[515] LM-25.- P. 263-264.

[516] LM-10.- P.44.

[517] LM-4.- P 227.

[518] АС.- Т. I - С.43.

[519] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке.- С. 131-132.

[520] АЛРГ.- Т. I.- Вып. II.- С.75.

[521] AGAD. ZK, sign. 61/81, p .2 .

[522] АЗР.- Т. II .- С. 113.

[523] LM-25.- P. 99.

[524] АЛРГ.- Т. I.- Вып. II.- С.46.

[525] LM-25.- P. 99.

[526] Тамсама.- P .263-264 .

[527] АЛРГ.- Т. I - Вып .II .- С.133.

Лідскім павеце (1524 г.)[529], у Радуньскай валасці (пачатак XVI ст.[530] і 1523 г.[531]), у Маркаўскай валасці «... сено на двор косят за своим приставом и кони наши паствят» (1528 г.)[532], у Камянецкай валасці (пачатак XVI ст.[533] і 1540 г.[534]);

*приставы* ўпамінаюцца ў Радуньскай валасці (пачатак *XVI* ст.[535] і 1523 г.[536]), «пристав боярский радунский. поспол с десятники радуньскими» (1523 г.)[537], «пристав заболотский» Васілішкаўскай валасці (1537 г.)[538], у Трокскім павеце (1522 г.)[539], у Радашкоўскай валасці (1549 г.)[540], Слонімскім старостве і валасцях двароў Здзітаў і Молчадзь (1550 г.)[541].

Адзначым, што шмат падобных прыкладаў таксама прыводзілі ў сваіх працах М.К. Любаўскі[542] і А. І. Груша[543].

Простыя абшчыннікі па ўсёй Беларусі называліся мужамі – (маёнтак Цэрын Навагародскага павета - (1499 г.)[544], Маркаўская валасць (1528 г.)[545] і інш.), а проста жыхары валасцей – валашчанамі, людзьмі, людзьмі валаснымі, радзей – мужыкамі.

Адной з прыкмет абшчыннага жыцця сялянства было сумеснае выкананне імі некаторых павіннасцей, асабліва тых, якія патрабавалі размеркавання паміж сялянамі пэўных абавязкаў, усталявання чарговасці ў іх адбыцці. Такой, напрыклад, была падводная павіннасць. Дзяржаўныя сяляне на захадзе і ў цэнтры, таксама як і на ўсходзе Беларусі, адбывалі падводную павіннасць пры пераездах вялікага князя ці яго пасланнікаў. Гэты абавязак звычайна ўскладваўся цалкам на сельскія ці валасныя абшчыны. Для яго выканання сёлы ці трупы сёл звычайна аб'ядноўваліся ў нядзелі, прадстаўнікі якіх на працягу тыдня дзяжурылі з коньмі ў вызначаных месцах. Так, вядома, што падданыя маёнтка Цэрын Навагародскага павета ў 1499 г. «недели стерегивали с подводами в Новогородку»[546].

---

[528] LM-8.- P 233.

[529] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута.- С 425.

[530] РИБ- Т. XX.- С.349.

[531] LM-25.- P.90.

[532] LM-4.- P.228.

[533] РИБ - Т. XX.- С 289-290.

[534] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке.- Приложения.- С 49-52.

[535] РИБ - Т. XX.- С 349.

[536] LM-25.– P.90.

[537] Тамсама.

[538] Тамсама.- P.253.

[539] LM-4.- P.67.

[540] АЛРГ - Т.I.- Вып.II - С.102.

[541] AGAD. ZK, sign. 61/81, p.2.

[542] Любавский, М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута.- С 420-437.

[543] Груша, А. Рэтраспектыўны метад даследаванні гісторыі Вялікага княства Літоўскага.- С. 108.

[544] АЛРГ.- Т. I.- Вып. II.- С.46.

[545] LM-4.- P 227.

[546] АЛРГ.- Т. I.- Вып. II.- С.46.

З ліста вялікага князя Жыгімонта Старога да ваўкавыскага дзяржаўцы пана Мацея Войцэхавіча ад 29 снежня 1525 г. вынікае, што на яго імя была накіравана скарга ваўкавыскіх мяшчан з просьбай аб адмене для горада падвод: «Бил нам чолом войт и бурмистры, и радцы, и вси мещане места нашего Волковыского и поведили перед нами, иж они здавна под послов и гонцов наших подводы даивали поспол с волостью нашою Волковыскою, волость деи поднимывали тры недели, а мещане волковыские четвертую неделю поднимывали, а тепер деи там людей наших волостных много волости нашое Волковыское роздано князем и паном, и дворяном нашим, и которые деи послы и гонцы тых часов через Волковыск ездят, тые деи вси у мещан наших на волостных неделях кони их моцно берут и грабят, и для деи таковых частых подвод шкоды и втиски великий мещане наши волковыские мают, а иные с места проч ся росходят»[547]. Вялікі князь адмяніў плату з горада («два гроши, што они нам с права своего даивали»), але не вызваліў ад падвод: «...еси помоч им казал учинити с волости нашое. мещане нехаи поднимали три недели, а люди наши вси волостные нехаи бы поднимали неделю всими речми конечно...»[548] Дарэчы, гэта прыклад сумеснага адбывання дзяржаўных павіннасцей мяшчанамі і валашчанамі, які захаваўся напэўна з тых часоў, калі горад быў цэнтрам воласці і яны складалі адзінае гаспадарчае і павіннаснае цэлае. Вялікі князь на захадзе і ў цэнтры Беларусі, як і на ўсходзе, звычайна звяртаўся да грамады альбо да яе кіраўніка з інфармацыяй аб змене ўласніка ці трымальніка ўладання. Такія звароты да сялянскай грамады існавалі ў практыцы дзяржаўнай канцылярыі. Аб гэтым сведчаць выяўленыя аўтарам практычна аднатыпныя гаспадарскія лісты да насельніцтва дзяржаўных маёнткаў, падпісаныя вялікімі князямі Аляксандрам, Жыгімонтам Старым і Жыгімонтам Аўгустам. Для падмацавання вываду прывядзём змест падобнага ліста вялікага князя Аляксандра да грамады Чэрвішскай: «Сам Александр божью милостью великий кн в литовский, руский, жомойтский и иных. Старцу Червишскому и всим мужом, дали есмо вас з даныю воеводе виленскому канцлеру нашему пану Миколаю Радзивилови и выбы его послушни во всем потому как и самих нас, а увязати еге у вас послали есмо дворанина нашего Станчика Ожаковича. Писан в Вильни августа 29 день индикта 10»[549].

У лісце, накіраваным вялікім князем Жыгімонтам Старым у лютым 1510 г. да насельніцтва, якое пражывала «пад пушчаю Мерацкай воласці», пры аддачы іх Юрыю Радзівілу падкрэслівалася наяўнасць у сялян (магчыма, і ў грамады) зямельных надзелаў і дадатковых угоддзяў: «Дали есмо вас всих подчашому на тому... со всими вашими землями пашными и бортными, з сеножатми, з дяклы. І и со всим тым как есте нам служили и как на нас держаны, и вы бы жо ему служили и во всем ему послушны были»[550].

Войтам гарадскім і валасным слонімскім, здзітаўскім і моўчадскім як кіраўнікам гарадскіх і сельскіх абшчын, а таксама насельніцтву накіроўваў ліст вялікі князь Жыгімонт Аўгуст у 1550 г. з інфармацыяй аб адданні ў трыманне Слонімскага староства і двароў гаспадарскіх Здзітаў і Молчадзь пану Грыгорыю Валовічу: «Войтом местским и волостным, мещанам, приставом и всим подданным нашим людям тяглым слонимским, здитовским и молчадским. Дали есмо з ласки

[547] LM-12. - P.434.

[548] Тамсама. - P.434-435.

[549] AGAD. AR.02. XV, teka 9, plik. 1. p. 18.

[550] LM-25. – P.97.

нашое г(оспо)д(а)рское староство Слонимское и дворы наши Здитов и Молчадь от нас держати маршалку нашему державцы Ляховицкому пану Григорию Воловичу и ввезти есми его в то послали дворянина нашего Степана Грыгорьевина. Вы бы о том ведаючы послушни его были потому як и первых старост тамошних»[551].

Да старца і ўсіх людзей валасных Радашкоўскага замка звяртаўся ў 1552 г. вялікі князь Жыгімонт Аўгуст з паведамленнем аб аддачы ўладання ў трыманне пану Івану Гарнастаю: «Ко всим бояром и слугам путным, войту мещаном и людем волостным замку н(а)шого Радошковского и теж старцу и всим людем волости Реваницкое, а тивуном и людем Каменецким и Костюшковицким. Даем вам ведати иж тых часов з ласки н(а)шое г(оспо)д(а)рское дали есмо замок наш Радошковичи з местом и з дворы к нему прислухаючими с Каменцом с Костюшковичи с волостью Реваницкою з бояры с слугами путными з людми тяглыми волестными и данными и со всими платы и пожитки што от колвек есть и как на нас господара было держано ничого на нас не заставуючи воеводе Новгородскому маршалку дверному подскарбему земскому старосте Слонимскому пану Ивану Горностаю... до живота его. И вы бы о том ведали и вжо от того часу его м(ило)сти служыли и доходы платы и всякий пожитки к рукам его сполна в кождый год отдавши потому яко первей до скарбу н(а)шого даивано»[552] Гэтыя лісты сведчаць як аб тым, што сяляне тут былі аб'яднаны ў абшчыны, якія называліся валасцямі, так і аб тым, што вярхоўная ўлада прымала да ўвагі думку гэтых людзей. лічыла неабходным іх інфармаваць аб усіх зменах, што планаваліся на тэрыторыі, дзе яны пражывалі. Разам з тым галоўнай задачай такіх лістоў было не проста давесці інфармацыю, але і папярэдзіць насельніцтва аб неабходнасці выканання распараджэння вялікага князя «быць паслушымі».

Як ужо адзначалася ў гістарыяграфічным аглядзе, усе даследчыкі, якія пісалі пра абшчыну ці пра аграрную рэформу XVI ст. у Беларусі, сцвярджалі, што рэформа спрыяла распадзенню, а то і знікненню абшчыны. Для пацвярджэння такога вываду звычайна спасылаліся на тое, што абшчына пасля валочнай памеры не мела ў сваім распараджэнні ворыўнай зямлі і не займалася яе перадзелам або раздачай. Аднак сведчанняў аб тым, што такія функцыі ў абшчыны былі і да рэформы, няма. Па меншай меры, у гістарыяграфіі такія прыклады ў адносінах да першай паловы XVI ст. не прыводзіліся. У той жа час крыніцы, наадварот, паказваюць наяўнасць якраз індывідуальнага землекарыстання сялян у дзяржаўных уладаннях на захадзе і ў цэнтры Беларусі яшчэ перад рэформай, прынамсі ў першай палове XVI ст.

Разам з тым з дакументаў вынікае, што сельскія абшчыны (а ў некаторых выпадках грамады некалькіх суседніх сёл, што, як правіла, уваходзілі ў адну тэрытарыяльную абшчыну) у дзяржаўных уладаннях на захадзе і у цэнтры Беларусі мелі ў сваім распараджэнні бортныя землі, бабровыя і звярыныя гоны, лясныя і рачныя ўваходы, сенажаці, выганы. Гэтыя ўгоддзі, як і ворыўныя землі, сяляне лічылі сваёй уласнасцю і абаранялі іх як ад «чужых» сялян, так і ад феадалаў. Так, М. В. Доўнар-Запольскі прыводзіў прыклад, калі дзяржаўныя сяляне сяла Токарава Берасцейскага павета судзіліся ў 1529 г. перад каралём з панам Ваганаўскім, не жадаючы, каб ён распрацоўваў зямлю ў Пужыцкай пушчы, якую яны лічылі

[551] AGAD. ZK, sign. 61/81, p. 2.

[552] Тамсама. APR, sing. 309, p. 1.

сваей[553].

Неабходна адзначыць, што аўтару ўдалося выявіць некалькі запісаў у крыніцах, якія дазваляюць меркаваць, што кіраўнікі ці службовыя асобы грамады ўдзельнічалі ў размеркаванні ў тым ліку і ворыўных зямель на тэрыторыі сваей абшчыны. Так, калі ў 1511 г. вялікі князь Жыгімонт Стары надаў князю Фёдару Іванавічу Масальскаму «пяцьдзесят служоб і тры зямлі» ў Гарадзенскім старостве, то «адводзілі яе», відаць, забіраючы ад воласці, мясцовыя сотнікі і сарочнікі: «...а сотников и сорочников тамошних и они тых людей пятдесят служоб и три земли пустовских князю Федору отвели и в реистр имена тых людей пописавши ему дали...»[554]

Галоўнымі крыніцамі, якія выразна паказваюць, што паўнамоцтвы грамады ў ранейшыя часы былі больш шырокімі, чым у пасляр эформенны перыяд, з'яўляюцца сялянскія скаргі са спасылкамі на «старыну» і імкненнем аднавіць папярэднія парадкі і велікакняжацкія адказы на іх (лісты, граматы, прывілеі), а таксама матэрыялы рэвізорскіх ці камісарскіх праверак. Многія дзяржаўныя ўладанні захаду і цэнтра Беларусі даволі працяглы час знаходзіліся ў трыманні прыватных асоб, менавіта на іх самаўпраўства (як і на самаўпраўства дзяржаўных урраднікаў) скардзіліся сяляне. У велікакняжацкіх граматах, складзеных у адказ на сялянскія скаргі, часта змяшчаўся і кароткі пераказ зместу сялянскіх скарг, таму, гэтыя дакументы дазваляюць убачыць аднaчасовую рэакцыю на пэўную з'яву з боку як сялянства, так і ўладных структур. Аднак трэба мець на ўвазе, што спасылкі на «старыну», ці даўні звычай, часта браліся насельніцтвам на ўзбраенне для таго, каб зацвердзіць нешта больш выгаднае для сябе, нават калі сапраўднай «старыной» яно і не з'яўлялася. Для ўлады ж старыной у большасці выпадкаў з'яўлялася тое (правілы адбывання павіннасцей, нормы феадальнай рэнты, парадак узаемаадносін сялян з феадальнай адміністрацыяй і да т. п.), што ўжо было зафіксавана ў велікакняжацкіх граматах і прывілеях у час, папярэдні пададзеным скаргам.

Напрыклад, адным з самых ранніх дакументаў, які не толькі сведчыць аб існаванні ў дзяржаўных сялян на захадзе Беларусі абшчыннай арганізацыі, але і дае магчымасць аднавіць старонку з жыцця сельскай грамады, з'яўляецца судовы ліст дарагіцкага намесніка Петрашкі Пашкавіча за 1474 г., у якім расказваецца, як ён па даручэнню вялікага князя Казіміра разглядаў справу Сенькі Васковіча і яго сына Пашка з Дарагіцкай воласцю «о нечиненье повинности с ними с жеребья их»[555].

Са зместу дакумента выразна відаць, што Дарагіцкая воласць уяўляла сабой тэрытарыяльную абшчыну, падзеленую на часткі – жарэбі, на якія воласць раскладвала долі ад агульных павіннасцей. Сенька Васковіч з сынам, напэўна, адмовіліся ад выканання прызначаных на іх жарэбій павіннасцей, у сувязі з чым воласць падала скаргу на імя вялікага князя: «Жаловали на Сенка а на сына его Пашка рус, Дорогицкая волость, а хотели, абы Сенько Васкович а сын его Пашко з жеребьи с ними потяж тягнули, недели стерегли а на город кликали»[556]. Васковічы адправілі каралю сустрэчную скаргу на воласць. У адказ кароль загадаў Васковічам запрасіць старцаў з розных сёл воласці, якія б растлумачылі Дарагіцкаму намесніку

[553] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке.- С 118.

[554] LM-25.- P.99.

[555] LM-25.- P.263.

[556] Тамсама.- P.264.

сутнасць справы: «А приказал король его м(и)л(о)сть Сеньку а сыну его Пашку передо *мною* старце поставити. И они передо мною старце поставили: Кожуховского Якуша а Коровицкого Петра, а брата его Яцка, а Трубицкого Творка, а Савицкого Данила, а брата его Мацка, Андреи Лисецкий брата его Якуб, а Репко Дмитр, а брат его Семен, а трети брат их Гостило, а Спуткович Левош, а Дмитр Испуткович, а Коцко Испуткович, Яцко Испуткович, а Янко десятник»[557].

У выніку намеснік прызнаў, што Сенька Васковіч не павінен адбываць павіннасці разам з воласцю, таму што яго бацька служыў у войску: «А тые старцы, рус и ляхове, так сознали передо мною и на то хотели присягнути, што ещо отец их Васко хоругов ношивал за великого кн(я)зя Витолта а за Жикгимонта, Сенко Васкович из жереб а сын его Пашко потяжи, и с ними не тягнули, недели не стерегли, на город не кликивали и на потяж не тягивали, и з секирою не хоживали, адякол не даивали, подводы не служивали за великого кн(я)зя Витолта а за Жикгамонта. И мы, подлуг их сведоцтва, отправили есмо Сенька Васковича в том и сына его Пашка и лист есмо им судовыи дали»[558].

Гэты дакумент, дарэчы, цікавы яшчэ і тым, што адзначае канфесійную прыналежнасць як згаданых Васковічаў - «рус», так і старцаў - «рус і ляхове»[559]. Падобных прыкладаў аўтару не сустракалася ў дакументах з іншых рэгіёнаў Беларусі. Зусім верагодна, што складальнік ліста сам такім чынам зафіксаваў канфесійную і, магчыма, нацыянальную прыналежнасць удзельнікаў судовага працэсу. Не выключана і тое, што так назваліся старцы самі. У любым выпадку можна меркаваць, што вызначэнне «рус и ляхове» было натуральнай з'явай на беларуска-польскім этнаканфесійным памежжы, да якога можна аднесці ў XVI ст. Дарагіцкую воласць.

Абсалютная большасць звестак аб існаванні грамады ў першай палове XVI ст. знаходзіцца ў матэрыялах Метрыкі ВКЛ. Напрыклад, адны з самых ранніх пісьмовых сведчанняў аб існаванні сялянскай грамады на тэрыторыі Ашмяншчыны ўтрымліваюцца ў складзе кнігі судовых спраў Метрыкі ВКЛ за 1522-1530 гг. Пад датай 17 мая 1528 г. ёсць запіс аб разглядзе вялікім князем Жыгімонтам Старым скаргі панцырных слуг Маркаўскай воласці на ўціск з боку дзяржаўцы і ўраднікаў. Па скарзе, якую падалі панцырныя слугі «Гринь Одинцевич а Борос Ходорович, а Иван Олешкович, а Кузма Васкович з братьями своими»[560], была прынята аформленая ад імя вялікага князя і адрасаваная васілішскаму і маркаўскаму дзяржаўцу пану Мікалаю Мікалаевічу Радзівілу спецыяльная пастанова. У ёй, у прыватнасці, адзначалася: «...што ж дей, им от тебе и от твоих врадников кривды и тяжкости ся великие деют, новины, дей, им уводишь»[561]. У дакуменце паведамлялася таксама, што панцырныя слугі прадаставілі для доказу сваіх правоў ліст дзядзькі М. М. Радзівіла – Яна Мікалаевіча Радзівіла, які трымаў уладанне Маркава яшчэ раней (пры панаванні вялікага князя Аляксандра, брата вялікага князя Жыгімонта) і ў свой час таксама спрабаваў увесці для маркаўскіх панцырных слуг пэўныя «навіны»: «з листы своими у подводу их посылати и кони а собою

[557] Тамсама.

[558] Тамсама.

[559] Тамсама.

[560] LM-4. - P.227.

[561] Тамсама.

водити, и подгребати»[562]. Падданыя падалі скаргу вялікаму князю Аляксандру, у адказ на якую ён загадаў Я. М. Радзівілу даведацца, як гэтыя панцырныя слугі раней «служивали», і пакінуць іх служыць па-старому. Дакумент сведчыць аб тым, што для дакладнага высвятлення пытання Я. М. Радзівіл звярнуўся да сялянскай грамады, дакладней да яе кіраўнікоў і найбольш паважаных прадстаўнікоў: «И пан Ян опытывал в том старцев и мужей старых волости Марковскоe и они перед ним поведили, иж то им новина: а з листы они у подводу ездчывали и коней не вожывали, и не подгребали, толко конем служат, на войн ездят и з сохою, и з бороною, и з косою и серпом некоторое врочные дни робят. И опытавшы их в том, подле приказанья брата (вялікага князя Аляксандра. - В. Г) и сведоцтва старцов и людей, в том тых слуг правых знашол»[563].

Вялікі князь Жыгімонт, прымаючы рашэнне, спаслаўся якраз на папярэдняе «росказанне» вялікага князя Аляксандра, ліст Я.М. Радзівіла і «старыну» (значыць, і на меркаванне валасной грамады): «А так, мы, тебе с ними в том досмотревшы, и тых слуг нашых путных зоставили есмо при старине, и, ты бы, вжо рез то кривд им не делал и новин не уводил, и в подводу и к роботе их выганяти не казал, и заховал их во всем, подле листу дяди своего, небожчыка пана Яна Миколаевича, и по тому, и как перед тым бывало конечно, абы то инак не было»[564]. Такім чынам, панцырныя слугі маёнтка Маркава Ашмянскага павета ў 1528 г. з дапамогай прадстаўнікоў сельскіх абшчын (старцаў і мужоў) Маркаўскай воласці змаглі адстаяць свае даўнія правы. Пры дэталёвым аналізе гэты дакумент дае шмат каштоўнай інфармацыі пра абшчыну. Па-першае, ліст, датаваны 1528 г., пацвярджае, што сялянская абшчына існавала ў Маркаўскай воласці ўжо ў канцы XV - пачатку XVI ст., у часы панавання вялікага князя Аляксандра (1492-1506 гг.). Па-другое, валасная абшчына складалася тут, як і ў іншых рэгіёнах Беларусі, з абшчын асобных сёл, бо апытвалі не аднаго валаснога старца, а «старцов и мужей старых волости». Па-трэцяе, у Маркаўскай воласці ў гэты час кіраўнік абшчыны называўся старцам, яе члены – мужамі, а своеасаблівы «савет старэйшын» складаўся з «мужоў старых». Па-чацвёртае, сам факт звяртання дзяржаўцы да грамады і безумоўны давер з боку вышэйшай улады да меркавання яе прадстаўнікоў пацвярджае, што абшчына была рэальным, прызнаным уладамі інстытутам сацыяльнай і гаспадарчай арганізацыі феадальна-залежнага насельніцтва.

Дарэчы, толькі неабходнасць для Я. М. Радзівіла звярнуцца да абшчыны і ўнясенне сведчання пра гэта ў велікакняжацкі ліст дазволіла даведацца, што грамада ў Маркаўскай воласці існавала ўжо на пачатку XVI ст. Гэта яшчэ раз падкрэслівае цяжкасці ў выяўленні і зборы крыніц са сведчаннямі аб існаванні на тэрыторыі Беларусі сялянскай абшчыны.

Цікава, што ў тым жа 1528 г. да вялікага князя Жыгімонта дайшла яшчэ адна скарга на Яна Мікалаевіча Радзівіла, Маркаўскага дзяржаўцу, але ўжо ад людзей путных і даннікаў. У лісце вялікага князя, адрасаваным Я. М. Радзівілу, паведамлялася: «Жаловали нам люди наши Марковского повета Куренецкое волости о том, штож ты деи им от тебе и от твоих врядников крывды и тяжкости ся великие деют, новины еси им поуводил: уставляет деи там лесничих своих, где перед тым тыи данники наши сами пущы стерегивали и входы свои и дерево

[562] Тамсама.

[563] Тамсама.

[564] LM-4. - P.228.

бортное мают. ...И за тыми твоими лесьничыми пуща наша спустошена, а дерево их бортное повырубано; и для того не мают с чого дани нашое сполнити»[565]. У гэтым выпадку да вялікага князя звярнулася цэлая валасная абшчына, у сувязі з чым вялікі князь улічыў і задаволіў просьбы абшчыннікаў, загадаўшы Я. М. Радзівілу прытрымлівацца ранейшага парадку – «зоставили во всем при старыне»[566].

Дзяржава звычайна лічылася з грамадой, прызнавала яе права на абарону сваіх правоў і інтарэсаў. У некаторых выпадках нават самі назвы спраў, зафіксаваных у актах Метрыкі ВКЛ, пацвярджаюць факт прызнання такога права за абшчынай. Так, у 8-ю кнігу судовых спраў Метрыкі ВКЛ была унесена «Справа подцаных волости Радунское с паном Шымком, державцою радунским, о незвыклые повинности з них»[567].

Матэрыялы, якія датычацца захаду і цэнтра Беларусі першай паловы XVI ст, амаль не змяшчаюць прыкладаў таго, якім чынам у грамадзе збіраліся падаткі, як прымалася рашэнне аб вызначэнні размераў падатку з канкрэтных гаспадарак-членаў абшчыны. Разам з тым ёсць сведчанні аб правядзенні раскладкі падаткаў на асобныя гаспадаркі, ці правядзенні «порубаў». Так. аб правядзенні порубаў у Дарагіцкім павеце сведчыць факт, зафіксаваны ў лісце вялікага князя Жыгімонта Старога ад 7 красавіка 1530 г. да намесніка гарадзішчанскага і высоцкага Станіслава Аленскага. У ім адзначана: «Жаловали нам земяне городищьские Дорогицкого повета... што ж не мают никоторое службы городовое с тяглыми людми служыти ани порубов, ни дякла давати. толко мають одным конем на войну ходити, как и иншые бояре ходят...»[568] Тое, што практика такіх падзелаў была распаўсюджана на тэрыторыі Беларусі ў разглядаемы час даволі шырока, пацвярджаецца фактамі падобных «порубаў», якія адбываліся ў дзяржаўных маётках у іншых рэгіёнах Беларусі, а таксама ва ўладаннях прыватных і царкоўных феадалаў.

Вышэйсказанае дазваляе зрабіць вывад аб тым, што ў жыцці сялянства дзяржаўных уладанняў захаду і цэнтра Беларусі ў дарэформенны перыяд тэрытарыяльная (валасная) абшчына адыгрывала меншую ролю ў параўнанні з гаспадарскімі валасцямі ўсходу Беларусі. На ўсходзе ў гэты час дзяржава свядома падтрымлівала існаванне і функцыяніраванне тэрытарыяльнай сялянскай абшчыны, паколькі гэта было выгадна для яе як рэнтаатрымальніка. На захадзе ж і ў цэнтры Беларусі абшчына захоўвалася і існавала толькі ў тых галінах гаспадарчага і сацыяльнага жыцця (пазанадзельнае землекарыстанне, забеспячэнне грамадскага парадку ў вёсцы, выкананне існуючых здаўна норм паводзін і да т. п.), дзе гэта было абумоўлена традыцыямі або аб'ектыўнымі рэаліямі сялянскага жыцця (неабходнасць сумеснага выпасу жывёлы, адначасовага правядзення палявых работ па засяванню і збору ўраджаю і да т.п.).

Роля сельскай абшчыны ў жыцці насельніцтва захаду і цэнтра Беларусі значна змянілася пасля правядзення тут у сярэдзіне XVI ст. валочнай памеры. Галоўнай задачай аграрнай рэформы была рэарганізацыя архаічнай сістэмы землекарыстання і абкладання павіннасцямі, заснаванай на разнастайных па свайму складу адзінках абкладання (дымы, службы, дворышчы, жарэбі і інш.). Праводзіўся

565 LM-15. - P.56.

566 Тамсама.

567 IM-S-S. - P. 39.

568 IM-4. - P. 390.

перамер ворыўнай зямлі на валокі (21,36 га), якія станавіліся стандартнымі адзінкамі абкладання павіннасцямі і падаткамі для індывідуальных сялянскіх гаспадарак[569]. Мэтай гэтых пераўтварэнняў было павелічэнне даходнасці («памнажэнне пажыткаў») гаспадарскіх уладанняў. У маёнтках, дзе адбываўся перамер зямлі на валокі, у абавязковым парадку ўводзілася трохполле. Павіннасці і падаткі прызначаліся ўжо не з вёскі, не з сялянскай гаспадаркі, як было у некаторых выпадках раней, а іменна з валокі. Напачатку валочнай рэформы гэта правіла выконвалася дакладна. Як паказваюць інвентары, сялянскія гаспадаркі замацоўваліся за валокай ці яе часткай і павіннасці выконваліся прапарцыянальна колькасці «прынятай» імі зямлі. У дадатку да «Уставы на валокі» прадугледжвалася, што адной валокай зямлі маглі карыстацца як асобны селянін, так і гаспадар з сынам ці два браты[570]. «Прывязка» селяніна менавіта да свайго участка зямлі і аднаасобнае выкананне з яго прызначаных павіннасцей і падаткаў, несумненна, спрыялі большай індывідуалізацыі сялянскага землекарыстання, змяншалі значэнне некаторых ранейшых традыцый абшчыннага жыцця. Нягледзячы на тое, што некаторыя павіннасці сяляне адбывалі разам і заставаліся землі агульнага карыстання, у дакументах, складзеных у час правядзення валочнай памеры, напрамую пра абшчыну не гаворыцца практычна нічога. Гэта тлумачыцца тым, што ў адпаведнасці з асноўнай мэтай рэформы, якая заключалася ў павелічэнні даходаў з дзяржаўных уладанняў, не абшчына, а валока, замацаваны за ёй селянін і сума выплачваемай рэнты былі галоўнымі як для мернікаў, якія складалі першыя інвентары валочнай памеры, так і для рэвізораў, якія правяралі правільнасць правядзення рэформы.

Але матэрыялы перыяду правядзення валочнай памеры даюць магчымасць убачыць некаторыя іншыя, чым у папярэднні перыяд, аспекты дзейнасці сялянскай абшчыны. Галоўны дакумент аграрнай рэформы – «Устава на валокі» не толькі прадугледжвала сістэму адносін паміж гаспадаркай асобнага селяніна і землеўласнікам, але і рэгулявала адносіны сяла (абшчыны) з гаспадарскім дваром і яго ўраднікамі, вызначала размяшчэнне жылых і гаспадарчых пабудоў увёсцы, устанаўлівала прынцыпы ўзаемаадносін сялян. Больш таго, Устава на дакументы, якія складаліся пры правядзенні валочнай памеры, паказвалі асноўныя накірункі тагачаснага гаспадарчага развіцця як панскай, так і сялянскай гаспадаркі, у некаторых выпадках вызначалі межы тэрыторыі абшчыны, прынцыпы індывідуальнага і сумеснага карыстання лясамі, рэкамі, сенакосамі, увогуле адносіны да навакольнага асяроддзя і да т. п. Выкарыстаўшы дадатковыя крыніцы з інфармацыяй пра традыцыйныя нормы і правілы паводзін паміж людзьмі ў абшчыне, можна паспрабаваць стварыць мадэль існавання і функцыянiравання пэўнага соцыуму – абшчыны канкрэтнага сяла ці трупы сёл – воласці ў іх натуральным асяроддзі.

У ходзе валочнай памеры ў маёнтках, дзе яна праводзілася, былі ўтвораны гаспадарча-тэрытарыяльныя адзінкі – войтаўствы на чале з войтамі. Войтаўства складалася з адной вялікай ці некалькіх вёсак і па сваёй арганізацыі было падобна на сельскую абшчыну. Некалькі войтаўстваў ці сёл утваралі валасную абшчыну. Памеры войтаўстваў залежалі ад колькасці сялянскіх валок: згодна з паправкай да

[569] Спірыдонаў М. Ф. Сялянства ў перыяд усталявання паншчыны і прыгонніцтва / М. Ф. Спірыдонаў // Гісторыя сялянства Беларусі: у 3 т. / рэдкал.: В. І. Мялешка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 1997-2002. - Т. 1: Гісторыя сялянства Беларусі ад старажытнасці да 1861 г. / Я. Анішчанка [і інш.]. - С. 76-77.

[570] РИБ. - Т. 30. - С. 590-591.

«Уставы на валокі» ад 20 кастрычніка 1557 г. войтаўствы маглі быць да 300 - 400 валок з асаднымі сялянамі і каля 100 валок - з цяглымі[571].

Паводле «Уставы на валокі», сельскае кіраванне ўзначальваў войт, які адначасова з'яўляўся і адміністратарам, падсправаздачным каралеўскаму рэвізору. Войт выбіраўся з мясцовага насельніцтва членамі абшчыны. Яго павінен быў зацвердзіць на пасадзе рэвізор: «...войта... уставити, мужа тоеж волости, неподо зреного, на кого подданые зволят»[572]. Войт атрымліваў вольную ад павіннасцей валоку (у адпаведнасці з дадаткам да Уставы на валокі ад 20 кастрычніка 1557 г. - дзве[573]), але выконваў пэўныя абавязкі, ці «службу». Так, войты былі абавязаны па распараджэнню адміністрацыі арганізоўваць выхад сялян на работы і кантраляваць іх выкананне («при работах всяких вместо пристава над людьми войтовства своего стояти»), збіранне чыншу і платы, прысутнічаць пры зборы чыншу і іншых складак з сяла: «...и при отдаваныо платов обытии...»[574], а таксама адвозіць разам са сваімі сялянамі ў прызначаныя месцы даніну і чынш. Абавязкамі войта быў і «стаўленне» перад урадам падданых, якія ў чымсьці правініліся, і таксама прысутнасць на гэтым судзе, для таго, каб «справедливости подданому допомогати»[575].

Напрыклад, у Кобрынскай эканоміі ў 1563 г. было 6 валасцей (Кобрынская, Чараваціцкая, Вежацкая, Дабучынская, Блудзенская і Гарадзецкая). Кожная воласць, у сваю чаргу, падраздзялялася на войтаўствы (усяго іх было 18). На чале кожнага войтаўства стаяў войт, прызначаны з сялян. Усіх сёл у эканоміі было 98[576].

Войт павінен быў таксама сачыць за захаваннем межаў паміж сялянскімі надзеламі і непарушнасцю граніц і гранічных знакаў (капцоў) уладання і пры неабходнасці іх аднаўляць. Граніцы сёл і асобных надзелаў амаль заўсёды ўдакладняліся ў прысутнасці кіраўнікоў ці прадстаўнікоў грамады. Так, у Мілейчыцах Берасцейскай эканоміі граніцы ўдакладнялі «пры мужах веры годных»[577].

У адпаведнасці з дадаткам да «Уставы на валокі», прынятым 20 кастрычніка 1557 г., войт і лаўнік павінны былі прынесці прысягу: «А при обираню на войтовства, войтове и лавники присегати мают, водле первое уставы»[578]. Войт абавязаны быў пры неабходнасці выконваць і абавязкі мерніка, для чаго ён пры сабе заўсёды павінен быў мець «шнур однакое меры, справленый і досветченый». У сувязі з гэтым адмянялася ранейшая практыка вырашэння пазямельных спрэчак на абшчынным копным судзе, усе спрэчныя сітуацыі павінен быў вырашыць у месцы войт: «...естли подданый один другому межу переорет и сказит, ино вряднику на копу не ездити и проезду не брати, але войт межу направит и возьмет том, хто ее сказил, на вряд двенадцать грошей, а собе за працу чотыры грошы»[579]

Войту ў выкананні яго абавязкаў дапамагалі лаўнікі: «Лавники по селам по

[571] АЗР. - Т. III. - С. 74, 90.

[572] АЗР.-Т. III. - С. 74.

[573] Тамсама. - С. 74, 90.

[574] Тамсама. - С. 73.

[575] Тамсама.

[576] РКЭ - С. III.

[577] AGAD. AR, dz. X, sign. 278, p. 11.

[578] АЗР. - Т. III. - С. 90.

[579] Тамсама. - С. 74.

два и по три, альбо и больш, подле великости села, мают быти становлены, веры годные, которых повинность шкод межи подданых в испасех и в иншых речех огледати..»[580] Ад звычайных сялянскіх павіннасцей лаўнікі не вызваляліся, дакладны парадак іх прызначэння на пасаду ва «Уставе на валокі» не агаворваўся. Ва Уставе быў прадугледжаны вольны доступ насельніцтва да лясоў, рэк і азёр, арганізацыя карыстання якімі складвалася традыцыйна. Сярод павіннасцей, у выкананні якіх несумненна павінна была браць удзел грамада, указвалася старожа («на сторожу замков и дворов подданые наши ходити повинни»), рамонт мастоў і дарог і інш.[581]

Трэба адзначыць, што «Устава на валокі» была не эталонам, а хутчэй рэкамендацыяй для арганізацыі гаспадарчага жыцця ў дзяржаўных уладаннях. З тэксту дадзенага дакумента вынікае, што гэта была інструкцыя рэвізорам для праверкі вынікаў правядзення памеры і што існавала Устава папярэдняя – «первая устава»[582]. Аўтару ўдалося высветліць, што першая Устава аб правядзенні валочнай памеры ў дзяржаўных уладаннях на тэрыторыі ВКЛ была выдадзена вялікім князем Жыгімонтам Аўгустам яшчэ ў 1551 г.[583] Так, у рэестры валочнай памеры Гарадзенскай эканоміі, складзеным у 1558 г., устноўлены асноўныя прынцыпы першай памеры і адзначана, што ў Гарадзенскай эканоміі яна завяршылася ў 1552 г.[584] Аднак поўны тэкст першай уставы пакуль што не знойдзены.

Магчыма, што рэвізоры і мернікі ў некаторых уладаннях захоўвалі традыцыйныя назвы пасад сялянскай адміністрацыі, абавязваючы толькі асоб, якія займалі гэтыя пасады, выконваць функцыі войтаў і лаўнікаў. Зусім верагодна, што ў іншых, асабліва невялікіх староствах і дзяржавах арганізацыя абшчыннага жыцця і пасля перамеру зямлі на валокі не змянялася.

Як бы то ні было, але дакументы сведчаць, што і пасля валочнай памеры, у другой палове XVI - першай палове XVII ст. і пазней, на захадзе і ў цэнтры Беларусі на практыцы сустракаліся і іншыя акрамя войтаў і лаўнікаў пасады кіруючых і прадстаўнічых асоб сялянскіх абшчын. Але вышэйзгаданыя назвы не выклікалі поўнай адмены карыстання тэрмінам «старац», які ўжываўся на працягу XVI-XVIII стст. у некаторых уладаннях, у тым ліку і ў тых, дзе прайшла валочная памера. Так, раней ужо ўпаміналася, што ў Бабруйскім старостве і пасля валочнай памеры кіраўнік сялянскай абшчыны называўся старцам. У некаторых уладаннях войту дапамагалі не толькі лаўнікі, але і падвойты (падвойцкія), дзесяцкія (дзесятнікі), заказнікі і інш. Ва «Уставе на валокі» цівуны пералічваліся сярод дзяржаўных чыноўнікаў, а не сярод сялян – «старосты, державцы и тиуное»[585] Разам з тым з тэксту дакументаў многіх уладанняў вынікае, што гэта селянін, прычым часцей за ўсё выбраны ад грамады. Таксама трэба браць пад увагу, што памера не ахапіла адразу ўсе дзяржаўныя ўладанні. У некаторых невялікіх староствах і дзяржавах землі не былі перамераны і ў XVII ст., натуральна, што і сацыяльна-эканамічнае жыццё ў іх грунтавалася на старых традыцыях.

---

[580] Тамсама.

[581] АЗР. - Т III. - С.88.

[582] Тамсама.- С.90.

[583] AGAD. AT. D-1/ XIV, p. 147.

[584] Тамсама.- P.147-148.

[585] АЗР.- Т.III. - С.88.

В.Уланаў адзначаў, што «абаронцамі насельніцтва ад самавольства дзяржаўцаў былі цівуны і іншыя ўлады ад сялян (накшталт прыставаў, сотнікаў, стражнікаў і т. п.)»[586]. Разам з тым ён лічыў, што гэтыя «сялянскія ўлады» не былі такімі рэальнымі абаронцамі сялян, як старцы у дзяржаўных уладаннях усходу Беларусі, «фігуруючы толькі як асістэнты на судзе дзяржаўцы, ды і то толькі у тым выпадку, калі апошні іх запросіць»[587].

Больш за тое, вядомы выпадкі, калі выбарныя прадстаўнікі абшчыны выкарыстоўвалі сваю пасаду на ўласную карысць. Гэта найчасцей праяўлялася ў прысвойванні сабраных сялянамі грошай. У такіх выпадках сяляне звычайна падавалі скаргі на службовых асоб абшчыны ці ўраднікаў, прызначаных для працы з грамадой. Так, У.І.Пічэта адзначаў, што «падданыя Бельскай воласці скардзіліся на свайго войта, які адабраў у іх грошы, зробленыя сялянамі на работах у Тыкоцінскім замку»[588].

Згодна з «Уставай на валокі», уся вымераная зямля дзялілася на тры часткі («на тры поля»), адпаведна замацоўвалася і трохпольная сістэма землекарыстання. Сяло павінна было размяшчацца ў сярэднім полі. Хаты неабходна было будаваць уздоўж асноўнай вуліцы, прычым гаспадарчыя пабудовы размяшчаліся насупраць, праз дарогу. Д.Л.Пахілевіч адзначаў, што «пры планіраванні сяла ў сярэднім полі ўлічваліся перш за ўсё гаспадарчыя выгоды – сяло размяшчалася ў цэнтры сваіх палёў, і паравое поле заўсёды было побач з сялом, каб было зручна пасвіць жывёлу... Такі выгляд мелі амаль 90% усіх сёл Гарадзенскай эканоміі, а таксама ў велізарнай ступені сёлы Кобрынскай эканоміі, Берасцейскага, Пінскага, Жамойцкага і іншых старостваў»[589]. Такім чынам, трохполле і новая ша-ніроўка сёл яшчэ больш збліжалі сялян у іх гаспадарчай дзейнасці, яны проста вымушаны былі разам вызначаць, што на якім полі сеяць, калі пачынаць сяўбу і жніво, як пасвіць жывёлу і да т.п.

Будынкі, у якіх жылі кіраўнікі ці службовыя асобы грамады, былі своеасаблівымі грамадскімі цэнтрамі сяла: у іх адбываліся сходы і нарады, у хаты афіцыйных прадстаўнікоў грамады прыязджалі ўраднікі і рэвізоры.

Аграрная рэформа, у ходзе якой былі ўдакладнены памеры зямельнага надзелу для кожнай гаспадаркі, зусім не парушыла ранейшы парадак сялянскага землекарыстання. Яна не дзейнічала разбуральна на грамаду, не ліквідавала абшчыннага землекарыстання, таму што ў першай палове XVI ст. яго ужо не было. Урад і не ставіў задачу разбураць абшчыну, бо ў гэтым не было ніякага сэнсу. Разам з тым спроба ўзяць грамаду ў час правядзення валочнай памеры пад больш кантроль землеўласніка, на нашу думку, на захадзе Беларусі была даволі паспяховай. Гэтага ўдалося дабіцца ў першую чаргу праз наданне лідэрам сельскіх абшчын абавязкаў прадстаўніка землеўласніка ў вёсцы. Аб гэтым сведчыць той факт, што войтамі і лаўнікамі выбіралі, як правіла, сялян, прапанаваных грамадой. Войт, такім чынам, адначасова прадстаўляў інтарэсы грамады перад уладамі і забяспечваў выкананне пажаданняў ці загадаў улад сіламі членаў сваёй абшчыны. У

[586] Уланов, В. Я. Водочная номера и устава и ее значение в истории Литовско-Русского государства / В. Я. Уланов. - Минск: Издатель В. Хурсик, 2005. - С. 42.

[587] Уланов, В. Я. Водочная номера и устава и ее значение в истории Литовско-Русского государства. - С. 42.

[588] Пичета, В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. С.416.

[589] Похилевич, Д. Л. Землеустройство и поземельный кадастр в Белоруссии, Литве и Украине в XV-XVII вв. / Д. Л. Похилевич // Материалы по истории земледелия СССР. – Сборник I. - М.: Изд-во Акад. наук СССР, 1952. - С. 356.

адпаведнасці з «Уставай на валокі» войта выбіралі сяляне, а зацвярджаў каралеўскі рэвізор. В. Уланаў знайшоў для гэтай пасады даволі трапнае вызначэнне: «напаўвыбарны, напаўпрызначаны з асяроддзя сялян войт»[590].

Д. Л. Пахілевіч прыйшоў да высновы аб тым, што скарб разглядаў войтаў і лаўнікаў як прадстаўнікоў насельніцтва, а не проста ніжэйшых слуг дваровай адміністрацыі. Вучоны спасылаўся на інструкцыі рэвізорам 1569 г., «дзе імраілася склікаць на месцах сялян разам з войтамі і лаўнікамі, правяраць ход гаспадарчай дзейнасці дваровай адміністрацыі, разбіраць скаргі на яе злоўжыванні»[591]. Д. Л. Пахілевін адзначаў таксама, што ўсялякія звесткі пра становішча на месцах, арыгіналы або копіі лістоў скарбу да насельніцтва і іншыя дакументы сяла таксама захоўваліся ў войтаў.

Падчас правядзення валочнай памеры не парушылася, а захавалася, а ў некаторых выпадках нават пашырылася сфера грамадскага землекарыстання. Акрамя свабоднага карыстання лясамі і пушчамі практычна ва ўсіх сёлах мернікі і рэвізоры адводзілі сельскім абшчынам бясплатныя сенажаці і выганы. Так, у старых сёлах гэта былі даўнія абшчынныя ўгоддзі, а ў новых – выдзеленыя з дзяржаўнага зямельнага фонду[592]. Выганы сельскім абшчынам прадастаўляліся амаль заўсёды бясплатна, агульнымі для сяла былі і сенажаці.

Аднак у многіх выпадках мернікі перамяралі частку сенакосаў і іх можна было ўзяць асобным гаспадарам за дадатковую плату. Так, пры правядзенні валочнай памеры ў Гарадзенскай эканоміі звычайнай практыкай было прыпісванне сенакосных моргаў да ворыўных валок. За карыстанне гэтымі моргамі з сялян збіраўся прызначаны чынш. У некаторых выпадках чынш збіраўся цалкам з усёй абшчыны, пра што рэвізоры нават рабілі адпаведныя запісы. Напрыклад, у 1558 г. у сяле Трышэвічы Гарадзенскай воласці ўсяму сялу было дадзена 6 сенажатных моргаў, пры гэтым адзначана: «Плаціць будуць павінны з морга па 1 грошу, альбо грошаў 6. Трэба будзе складвацца з кожнай з 20 валок...»[593] Плата за выган магла спаганяцца з усяго сяла. Так, у сяле Нарэйкі Гарадзенскай эканоміі было «19 моргаў выпасу сярэдняга грунту, які аддадзены таму ўсяму сялу на выпуст, - павінны плаціць па 1 грошу за морг»[594].

Разам з тым вядома. што на пачатку аграрнай рэформы сялянскія сем'і атрымлівалі ў індывідуальнае карыстанне толькі надзел ворыва. Іншыя ўгоддзі, неабходныя для вядзення гаспадаркі (сенажаці, уваходы ў пушчы і лясы, звярыныя і рыбныя ловы), заставаліся ў абшчынным карыстанні і звычайна былі вызвалены ад усялякай платы[595]. Магчыма, што імкненне да змяншэння уплыву абшчыны на жыццё тагачаснай вёскі, да большая індывідуалізацыі сялянскага землеўладання прывяло пануючы клас да думкі аб мэтазгоднасці перадачы ў асабістае карыстанне сялянскіх сем'яў за дадатковую плату асноўных угоддзяў, якія прылягалі да сялянскага надзелу.

З рэестру рэвізіі правядзення валочнай памеры ў Берасцейскім старостве,

[590] Уланов, В. Я. Водочная по мера и устава и ее значение в истории Литовско-Русского государства - С. 166.

[591] Похилевич, Д. Л. Селянська громада в західних воєводствах Великого Князівства Литовського після аграрної реформи Сигизмунда-Августа - С. 119.

[592] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. / Д. Л. Похилевич.- Львов: Львовского ун-та. 1957.- С. 14.

[594] Тамсама.- С. 17.

[595] АС.- Т. I.- С. 187; VUB RS. F. 4, bib. 39700.

складзенай ў 1566 г., відаць, што бясплатна («от плату вольних») атрымалі выганы сялянскія абшчыны сёл Малашэвічы. Кабыляны, Сычы, Волмавічы, Навасёлкі, Крынкі, Бердзічы і інш.[596] У сяле Мікелевічы Гарадзенскай воласці ў 1558 г. было дадзена на ўсіх сялян два моргі вольнага выгану[597]. Аб тым, што гэтыя выганы прадастаўляліся ўсёй грамадзе, сведчаць запісы кшталту «всему тому селу» або «всем подданым». Такія ж выпадкі назіраліся і ў Кобрынскай воласці.

Сельскія абшчыны пры памеры атрымлівалі не толькі выганы, але і ў некаторых выпадках лясныя надзелы на дровы, як у сёлах Сычы («то дано на дрова и випуст всему тому селу от плат волних»[598]) і Крынкі («на выпуст и дрова им то дано»[599]). Падданыя сяла Збураж мелі права свабоднага «ўступу» ў балоты, сенажаці, у лес (для нарыхтоўкі лыка, драўніны на будоўлю, дроў), але толькі для ўласнага карыстання, а не на продаж: «только на свою власную домовую потребу...»[600]

Як вынікае з тэксту рэвізіі Берасцейскага староства 1566 г, сяляне некаторых вёсак разам, калектыўна прымалі і ворыўныя валокі (акрамя сваіх надзелаў), а таксама іншыя землі, што сведчыць аб наяўнасці тут элементаў абшчыннага землекарыстання. Так, жыхары сяла Нехалсты Сычоўскага войтаўства разам прынялі засценак у 46 моргаў («мор 46 подлих, приняли все поддание того села...»[601]), у сяле Сычы дзве валокі ўзялі «все подданые того села»[602], у сяле Гершановічы «...от пущи Прилуцкой бору на выробене годного мор, 120 преподлих, приняли подданы того села»[603], а ў сяле Прылукі - 21 морг подлага грунту «приняли все подданые того села» толькі на адзін 1567 год[604]. Сяло Княжнае Берасцейскага староства ў 1566 г. акрамя двух засценкаў, дадзеных «таму ўсяму сялу на выпуст і дровы ад плату вольных», разам прыняло нераспрацаваную дуброву памерам у 37 моргаў[605]. У 1563 г. у сяле Шарчэева Кобрынскай эканоміі 40 моргаў у засценку прынялі сумесна ўсе падданыя таго сяла[606]. У сяле Тулічы гэтай жа эканоміі насельніцтва атрымала 4 валокі лесу «толькі на дровы годнага», па 15 грошаў з валокі, а таксама з валокі, «дадзенай усім падданым сяла Легатовічы на дровы і на выпуст ад платы вольных, толькі кожны са сваёй валокі павінен да замка ў год адвезці 4 вазы дроў»[607]. У 1597 г. у сяле Паляцічы Кобрынскай эканоміі быў засценак 9 моргаў, з якога сяляне плацілі агулам 1 капу грошаў літоўскіх[608]. У

[596] ДМА МЮ. - Т, І .- С.239 , 240-244, 246,248, 251 ,253, 255.

[597] ПКГЭ. - Ч.І. - С.191.

[598] ДМА МЮ. - Т.І. - С.246.

[599] Тамсама.- С.253.

[600] Тамсама.- С.323.

[601] Тамсама.- С.244.

[602] Тамсама.- С.245.

[603] Тамсама.- С.258.

[604] Тамсама.- С.259.

[605] АЛРГ.- Вып.І.- Т.2.- С.356 ,358.

[606] РКЭ - С.39-40.

[607] Тамсама.- С.99, 102-103.

[608] АВК. - Т.XIV.- С.571.

сёлах Шахец, Арабнікі, Падлессе таксама засценкі трымалі ўсе падданыя разам[609]. Падобнае назіралася ў 1558 г. і ў некаторых сёлах Гарадзенскай воласці. Так, у сяле Пыхавічы было дадзена па 3 грошы за морг «10 моргаў грунту ворыўнага ўсяму сялу»[610]. У 1563 г. жыхары сяла Кобцява Кобрынскай эканоміі сумесна прынялі «ў баку валок таго сяла... у кліне бору, на разрабленне годнага, 108 моргаў грунту прэподлага»[611]. Усе падданыя гэтага сяла, якія ўзялі агульную зямлю, на чатыры гады вызваляліся ад усялякай платы за карыстанне ёю (пакуль бор не будзе распрацаваны на ворыва). Падобных фактаў можна было б прывесці больш. Дакументы не дазваляюць выявіць, як у абшчыне дзялілася ці размяркоўвалася зямля, якую падданыя бралі разам па свайму жаданню. Няма сумнення, што ў кожнай вёсцы існавалі свае традыцыйныя правілы такіх падзелаў. Е. Ахманьскі адзначаў, што ў Кобрынскай эканоміі «права сумеснага карыстання не было новым, не было прадуктам аграрнай рэформы»[612]. Гэтае права, на яго думку, было рэліктам старажытнай вясковай супольнасці (абшчыны. - В. Г.).

Д. Л. Пахілевіч выказаў думку аб тым, што землі, узятыя на сяло, на грамаду, і выплаты з іх павінны былі неяк размяркоўвацца паміж сялянамі: «сапраўды, калі сяло брала ў двара за плату зямлю агульнага карыстання або права на ловы, то неабходна было вызначаную суму падзяліць паміж дварамі, сабраць грошы і аддаць іх у скарб»[613]. Даследчык звярнуў увагу на тое, што пра складчыну як форму збірання грошай для агульнаграмадскіх патрэб гаварылі і самі рэвізоры. Для пацвярджэння сваёй думкі Д. Л. Пахілевіч спаслаўся на інвентар двара Перстунь Гарадзенскай эканоміі, у якім указвалася, што сяло агароднікаў узяло 10 моргаў сенакосу, «для гэтага прыйдзецца скласціся кожнаму з іх па 2,5 дынарыя»[614]. Па назіраннях Д. Л. Пахілевіча, неабходная сума пароўну раскладвалася на поўную валоку-надзел і так збіралася. Раскладка ў сёлах рабілася для збору платы не толькі за зямлю або звярыныя і рыбныя ловы, але і за падводы, што прадугледжвала і Устава 1557 г., «а таксама для іншых патрэб (правіянт жаўнерам, стацыя гаспадару, найманне старажоў і раменнікаў на замак, выпраўленне падводчыкаў на ваяну, утрымання падстаростаў і віцэ-аканомаў у XVII ст. і інш.)»[615].

Звяртае на сябе ўвагу, што такіх яскравых, як прыведзеныя вышэй, прыкладаў абшчыннага землекарыстання аўтару, як і іншым даследчыкам, на ўсходзе Беларусі выявіць не ўдалося, хаця ў гістарыяграфіі традыцыйна сцвярджаецца аб больш моцных абшчынных традыцыях у дзяржаўных уладаннях усходу Беларусі. Выяўленыя факты абшчыннага землекарыстання ў Кобрынскай і Гарадзенскай эканоміях, як і прыклады абшчыннага землекарыстання на Берасцейшчыне ў XVII-XVIII стст., дазваляюць выказаць меркаванне аб памылковасці сцвярджэння ў М. В. Доўнар-Запольскага, У. І. Пічэты і некаторых

[609] Тамсама.- С.587-588.

[610] ПКГЭ.- Ч I.- С.566.

[611] РКЭ - С.38.

[612] Ochmański, J. Położenie spoleczno-gospodarcze i walka klasowa chłopów w ekonomii Kobryńskiej w drugiej połowie XVI i pierwszej połowie XVII wieku /J. Ochmański //Rocznik i dziejów społecznych i gospodarczych.- 1957.- T. XIX.- Poznań, 1958. - S.69.

[613] Похилевич, Д. Л. Селянська громада в західних воєводствах Великого Князівства Литовського після аграрної реформи Сигизмунда-Августа - С.116.

[614] Тамсама; ПКГЭ.- Ч I.- С.339.

[615] Похилевич, Д. Л. Селянська громада в західних воєводствах Великого Князівства Литовського після аграрної реформи Сигизмунда-Августа - С.116.

іншых гісторыкаў аб разбурэнні і знікненні ў выніку аграрнай рэформы сялянскай абшчыны на захадзе і ў цэнтры Беларусі.

Неабходна падкрэсліць, што ў тых дзяржаўных уладаннях на захадзе Беларусі, якія пасля правядзення валочнай памеры заставаліся на чыншы ці даніне, валасная абшчына працягвала адыгрываць больш значную ролю ў жыцці сялянства, чым у «цяглых» уладаннях, у прыватнасці пры зборы і выплаце даніны, карыстанні супольнымі ўгоддзямі. Тут рэвізор нават мог рэкамендаваць грамадзе самой правесці падзел сенажацяў, рыбных тоняў і г. д. сярод сваіх членаў. Напрыклад, у Палескай воласці Берасцейскага староства паводле рэвізіі 1566 г. насельніцтву ўсіх сёл воласці прадпісвалася балотныя сенажаці і балотныя і рачныя езы «межи собою наровние части делити повинни, гдиж тое все в померу не шло..»[616].

Частка насельніцтва Палескай воласці Берасцейскага староства знаходзілася на чыншы і, акрамя таго, аддавала даніну мёдам. Складальнік рэестра адзначаў. што да рэвізіі сяляне збіралі грашовыя складкі, каб разам разлічыцца з дзяржавай за мядовую даніну: «Иж перед тим на тую дань медовую подданне на верно складалися и так до замку на е. к. м. даивали»[617]. «Верна» - гэта, хутчэй за ўсё, назва мядовай даніны (у дадзеным выпадку – дакладна вызначаных памераў): «А потом... тую дань медовую поддание на верна розобрали и постановенно на них же с кождого верна брано по две ручки, то есть по пулведра меду мери берестиской, а коли пенязми, тогди за ручку меду по двадцяти, то ест за полведра от верна по сороку, а за верно по осмдесят грошей плачивали тогди»[618]. Такім чынам, сяляне, якія раней сумесна здавалі мядовую даніну, падзялілі яе пароўну (па адной верне) на кожную гасгадарку. Верна, як сведчыць тэкст дакумента, была роўнай палове вядра мёду берасцейсцейскай меры, або васьмідзесяйі грошам.

У вопісах сёл Старое Сяно і Азята Старасельскага войтаўства Палескай воласці ўказаны не валокі, а сялянскія гаспадаркі і каля кожнай адзначана: «1 верна», а ў канцы «В том войтовстве всех верен 18»[619] (столькі, колькі і сялянскіх гаспадарак). У Дарапееўскім войтаўстве (сёлы Чарнякі, Дарапеевічы, Забалоцце) было 28 веран.

У Дзівінскім войтаўстве Палескай воласці сяляне працягвалі збіраць мядовую даніну агулам, грамадою. З дакумента вынікае, што яны складаліся, збіраючы даніну У гэтым войтаўстве таксама захоўваўся ранейшы падзел на дзесяткі: «Зо всего десятку того войтовства з места и з сел Липовой и Клетищ и Осон складатися повинни на ведер 20»[620]. Як запісана ў дакуменце, «сума во всей волости Полеской и войтовстве Прилуцком всех верен 224... выходит меду ведер 112, а особно з места и зо всего войтовства Дивинского дают ведер 20, всего того меду ведер 132»[621]. Верагодна, што абсалютная большасць сялян тут займалася бортніцтвам, асноўнай іх павіннасцю была мядовая даніна. Таму ўлады амаль не ўмешваліся ў жыццё такіх даннікаў, а толькі фіксавалі памеры даволі каштоўнай

[616] ДМА МЮ. - Т. I - С. 261.

[617] Тамсама. - С. 323.

[618] Тамсама.

[619] Тамсама. - С. 324.

[620] Тамсама.

[621] ДМА МЮ. - 1.1. - С. 327 .

мядовай даніны.

Дакументы сведчаць аб тым, што пры правядзенні валочнай памеры і асабліва падчас яе рэвізіі вельмі часта ўлічвалася думка дзяржаўных сялян, якая, натуральна, выказвалася ад цэлых грамад. Грамадамі сяляне бралі дадатковыя сенажаці і ворыва, калектыўна патрабавалі змянення павіннасцей. Як сведчыць інструкцыя караля Уладзіслава IV для рэвізораў Гарадзенскай эканоміі ад 26 сакавіка 1639 г., адмова ў многіх мясцовасцях ад фальваркаў і паншчыны адбылася ў тым ліку і пад уплывам падданых. Болбыш за тое, у некаторых месцах фальваркі былі ліквідаваны таму, што сяляне не прыйшлі да агульнай згоды адносна гэтага. Так, дваровае заворванне ў фальварку Азёры не было ліквідавана толькі таму, што «падданыя ў тым паміж сабою не былі згодныя...»[622] Е. Ахманьскі адзначаў, што і ў сёлах Копцева, Шчэрчова і Жабін Кобрынскай эканоміі ў 1597 г. рэвізоры не павысілі плату з-за дрэннай якасці грунту і нараканняў («skwirku») падданых[623].

У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу да праблемы існавання грамады на захадзе і ў цэнтры Беларусі пасля валочнай памеры прывядзём некалькі прыкладаў, якія датычацца Ашмянскай воласці. Так, інфармацыйны ліст вялікага князя Жыгімонта Аўгуста ад 16 сакавіка 1566 г., складзены ў сувязі з пераходам Ашмян да Віленскага ваяводства, быў адрасаваны насельніцтву ўсіх валасцей-абшчын Ашмянскага гаспадарскага двара: «Вонтом и всим людем волостным, такосадным, яко и тяглым, двора нашого Ошменского. Ознаимуем вам, иж от воеводства Виленского отошло дворов и волостей нешто, прото чинечи нагороду воеводе виленскому etc. etc. пану Миколаю Юревичу Радивилу на отмену дали есмо его м(и)л(о)сти двор наш Ошменский зо всими вами, поддаными н(а)шими, и зо всими кгрунты ку тои державе здавна належачими, приличаючи вас ку воеводству Виленскому...»[624]

Звесткі пра існаванне абшчыны на тэрыторыі Ашмянскага павета ёсць не толькі ў Метрыцы Вялікага княства Літоўскага, але і ў іншых гістарычных крыніцах. Так, у Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве захоўваецца Дубраўлянскі архіў з маёнтка Дубраўляны Ашмянскага павета, дзе ёсць матэрыялы за XVI-XVIII стст. Тут пад 1588 г. згадваецца «Реестр списанья через мене Ивана Хлуса урядника е. м. пана Стефана Львовича Роского кгвалтов, боев, грабежов, долгов и иншых речей поделаных бояром и подданым его м(ило)сти... Дубровлянским, Нестанишским, Заболоцким от бояр и подданых пана Данюшовского»[625]. Сярод пакрыўджаных у рэестры указваюцца адначасова ў якасці кіруючых асоб сельскай абшчыны войт Мікалай Пятровіч Шчасны і старац: «Жалует Иван Кот, боярин путный, который на сес час есть старцом»[626], на баярына Мікалая Сцяпанавіча Стыкачэвіча за тое, што ў мінулым, 1587 г., ён прыйшоў у дом Якуба Шышкі, дзе яны размаўлялі, пілі гарэлку, а потым Стыкачэвіч пабіў сына Я. Шышкі. Гэта, на першы погляд, здавалася б, шэраговае, паведамленне сведчыць і аб наяўнасці абшчыны, і аб прозвішчы яе кіраўніка, і аб

---

[622] ПКГЭ.- Ч II. - С. 172.

[623] Ochmański, J. Położenie społeczno-gospodarcze i walka klasowa chłopów w ekonomi Kobryńskiej w drugiej połowie XVI i pierwszej połowie XVII wieku. - S. 84.

[624] LM-51. - P. 32.

[625] AGAD. AT. G I, p. 269.

[626] AGAD. AT. C-1, p. 269.

тым, што старац займаўся не толькі гаспадарчымі, але і бытавымі справамі ў сваёй вёсцы. У прыведзеным дакуменце ёсць таксама цікавыя звесткі і наконт сябрыннага карыстання маёмасцю. Дарэчы, некаторыя даследчыкі лічаць сябрыннае землекарыстанне ці наяўнасць сяброўу сялянскай гаспадарцы прыметай існавання сямейнай абшчыны. Пытанне гэта спрэчнае, але матэрыялы, якія ёсць у распараджэнні аўтара працы, сведчаць аб тым, што наяўнасць сяброў у сялянскіх гаспадарках, як і прыймітаў і патужнікаў, была звычайна з'явай часовай, таму пра існаванне сямейнай абшчыны ў гэтым выпадку гаварыць не прыходзіцца. Цяжка таксама сцвярджаць, што кароткатэрміновы саюз, кожны з удзельнікаў якога меў свае часовыя гаспадарчыя мэты, можна адназначна трактаваць як ніжэйшае звяно абшчыны. У адным з дакументаў XVI ст. так апісана сутнасць маёмаснага права сяброўства: «Жалуют Щасный... о то иж в року прошлом 1584 м(еся)ца апреля 15 дня тот Степан Стыкачевич прыпустил отца их до двоих пчол и себро-вал з ним два годы. Которых тых пчол всих з прыплодком пятеры то пак тот Степан Стыкачевич в году прошлом 86 меду половицы, што на него прыйти мело не дал и пчол поделити з отцом их не хотел и тепер с ними себровать и пчол делить не хочет»[627]. Пры гэтым важным тут з'яўляецца, па-першае, тое, што сяброўства, ці сябрынства, як вынікае з дакумента, з'яўлялася справай дагаворнай і магло быць спынена па жаданню аднаго з бакоў. Па-другое, сяброўства- гэта роўныя правы ў карыстанні (у дадзеным выпадку – паловай маёмасці). І, па-трэцяе, спыніць «сяброўства» можна было, напэўна, толькі пасля таго, як сумесная маёмасць будзе падзелена папалам ці пароўну, калі сяброў было больш чым два.

Адзначым, што маецца яшчэ шмат адзінкавых звестак аб існаванні грамады ў сёлах і валасцях дзяржаўных уладанняў захаду і цэнтра Беларусі ў XVI-XVII стст. Адным з важных сведчанняў наяўнасці грамады з'яўляецца сумеснае карыстанне ўсімі жыхарамі вёскі землямі, сенакосамі, лясными і рачнымі ўваходамі і інш. Напрыклад, у рэестры валочнай памеры ў маёнтку Лебедзева Ашмянскага павета за 1575 г. паведамляецца, што ў сёлах Лебедзеўскай воласці ўсе ворыўныя землі былі падзелены на тры палі. Трохпольнае землекарыстанне само па сабе вымушала сельскае насельніцтва да супольнага землекарыстання, выканання агульнавясковых правіл. Азімыя, яравыя і папар павінны былі размяшчацца ў трох розных палях. Толькі абшчына магла рэгуляваць такі парадак землекарыстання. Кіраўнік абшчыны пасля памеры ў названых вышэй маёнтках стаў называцца на Ашмяншчыне ўжо не старцам, а валасным войтам, які атрымліваў да сваёй пасады адну валоку, вольную ад павіннасцей: «Войта валасного валока адна»[628].

Як адзначалася ў інвентары маёнтка Лаздуны Ашмянскага павета за 1628 г адносна сяла Русакі, «засценак пад пушчай Лаздунскай усім сялом разам трымаюць»[629] А ў сяле Друднілы гэтага ж маёнтка сяляне трымалі разам у засценку не толькі сенажаці, але і ворыўныя землі[630].

Такім чынам, прыведзеныя прыклады сведчаць аб тым, што сялянская абшчына ў дзяржаўных уладаннях на тэрыторыі захаду і цэнтра Беларусі пасля правядзення валочнай памеры не знікла. Яна не толькі захавалася, але і ў некаторых выпадках прыстасавалася да новых эканамічных і сацыяльных умоў.

---

[627] Тамсама.- P.271.

[628] MDR.-S.139.

[629] AGAD. AR, dz. XXIX, sign. 98, p. 13.

[630] Тамсама.- P.13 v.

Але гэта яшчэ раз пацвярджае тэзіс аб тым, што абшчына не была створана ўладамі, а існавала і дзейнічала як чыста сялянскі, самарэгулюемы сацыяльны інстытут. Матэрыялы аб правядзенні рэформы сведчаць і пра тое, што абшчына даволі часта была інструментам уплыву на палітыку дзяржавы і землеўласнікаў. Яскравым прыкладам таму, што да калектыўнай думкі сялян прыслухоўваліся, з'яўляецца каралеўская грамата (прывілей) для грамады сяла Рэчыца Берасцейскай эканоміі, выяўленая аўтарам у Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве[631].

Указаная грамата – пакуль што адзіны вядомы дакумент такога рода, адрасаваны кіраўніком дзяржавы ў XVII ст. непасрэдна сельскай абшчыне, называючы яе адпаведна мясцовай традыцыі грамадой. Змест гэтага дакумента ўяўляе вялікую навуковую цікавасць, таму для найхутчэйшага ўключэння яго ў навуковае абарачэнне аўтар змясціў яго поўны тэкст на мове арыгінала (польскай) у дадатку да дадзенай працы (гл. Дадатак 1).

Згаданы дакумент з'яўляецца пацвярджальным прывілеем караля Яна III Сабескага (1674-1696 гг). Кароль выдаў яго ў 1672 г. у адказ на зварот грамады сяла Рэчыца Берасцейскай эканоміі, якая прасіла яго аб пацвярджэнні Уставы павіннасцей і чыншу. выдадзенай ў 1649 г. каралём Міхалам (Міхал Карыбут Вішнявецкі, 1669-1673 гг). У прывілеі, складзеным ад імя Яна III, адзначалася, што сяляне прадставілі каралю «ліст пергамінавы, рукой наяснейшага караля Міхала, папярэдніка нашага падпісаны і вялікай пячаткай Вялікага княства Літоўскага зацверджаны, у якім змешчана апісанне або ўстава чыншу і павіннасцей грамады вёскі Рэчыца Берасцейскай эканоміі»[632]. Рэчыцкая грамада прасіла («і супплікавалі да Нас іменем згаданай грамады Рэчыцкай»), каб вышэйзгаданы ліст «павагай Нашай Каралеўскай» быў сцверджаны, узмоцнены і пацверджаны[633]. Прывілей змяшчае «слова ў слова» перапісаны ліст караля Міхала Карыбута, у якім выкладзена гісторыя з'яўлення граматы для сяла Рэчыца. Справа ў тым, што ў 1649 г. да караля звярнуліся сакратары і камісары Берасцейскай эканоміі Андрэй Ушыньскі і Андрэй Катовіч, а таксама Чарняхоўскі ваявода Крыштаф Тышкевіч з прапановай зацвердзіць па просьбе грамад сяла Рэчыца складзеную імі «камісарскую Уставу для грамады сяла Рэчыца»[634].

Гэта звязана з тым, што названыя камісары ў час рэвізіі Берасцейскай эканоміі ўбачылі вялікія цяжкасці для сялян у выкананні імі прызначаных павіннасцей і падаткаў. Яны назвалі падарожчыну, падымшчыну, збіранне з валок гарэлкі, солі, селядцоў, збор рознай гародніны, прадзіва, маку, алею, сена, пазыку сялян на работы да маёнткаў суседняй шляхты і саміх паноў падстаростаў і трымаўцаў, апрацоўку зямлі войтам і дворовым слугам, паездкі на фурманках на далёкія адлегласці і інш.[635]. Рэвізорскай Уставай усе гэтыя павіннасці для сяла Рэчыца былі адменены, а замест гэтага быў уведзены чынш з мядовай данінай з валокі (22 злотых 15 грошаў чынш і 3 ліпечні мёду)[636].

У грамаце ўказваліся і некаторыя абавязковыя падаткі і адзначалася, што

---

[631] Тамсама. - Sign. 1168, p. 1-7.

[632] Тамсама. - P. 3.

[633] Тамсама.

[634] Тамсама.

[635] AGAD. ZMN, sign. 1168, p. 4.

[636] Тамсама. - P. 5.

сяляне «іншых ніякіх складак даваць не павінны»[637]. Зразумела, што сяляне былі задаволены такім рашэннем і таму звярнуліся да новага караля з просьбай пацвердзіць вышэйзгаданую Уставу. Як бачым, просьба грамады была задаволена.

Нягледзячы на тое што ўраспараджэнні аўтара ёсць тэкст толькі адной такой граматы, цяжка паверыць, што яе складанне было з'явай выключнай. Хутчэй за ўсё, падобныя граматы атрымлівалі абшчыны і іншых дзяржаўных вёсак. Пра гэта сведчаць больш познія (за другую палову XVII-XVIII ст.) запісы ў матэрыялах рэвізій дзяржаўных улаланняў аб тым, што грамада на пэўны тэрмін пагаджаецца ўзяць у апрацоўку запусцелыя землі і да т.п.

Вышэйзгаданы прывілей для грамады сяла Рэчыца Берасцейскай эканоміі з'яўляецца важным і ў тым сэнсе, што гэта першы вядомы дакумент адносна тэрыторыі Беларусі, дзе кіраўнік дзяржавы звяртаецца не проста да насельніцтва сяла, а да сельскай абшчыны і называе яе «грамада сяла Рэчыца».

Аб тым, што менавіта абшчыну, а не асобных сялян улады ўспрымалі ў якасці суб'екта пры розных кантактах з насельніцтвам, сведчыць і тое, што пасля валочнай памеры вялікі князь працягваў звяртацца да той ці іншай сельскай грамады з інфармацыяй аб змене ўласніка ці прызначэнні новых норм павіннасцей. Так, у 1576 г. кароль і вялікі князь Стэфан Баторый выдаў ліст «Ку всим подданным нашым волости староства Слонимского села Костеневич», у якім указвалася, што дадзенае сяло «з ласкі гаспадарскае» аддадзена за службу зямяніну Слонімскага павета Івану Адынцу[638]. Гаспадар не толькі інфармаваў грамаду аб змене ўласніка, але папярэджваў аб тым, каб сяляне падпарадкаваліся гэтаму распараджэнню і не супрацьстаялі новаму ўласніку: «Прыказуем вам, абы есте вжо до замку нашого Слонимского послушенства никоторого нечынечы того Ивана Одынца послушны были, платы и доходы до него оддавали и повинности вшелякие ему пелинли, по тому яко до сего часу до замку нашого Слонимского повнини были, а иначей того вчынити и сего розказаня нашого ослухатися и з послушенства некоторого в том противного вделати не смели бы есте конечно»[639].

Сяляне цярпелі ўціск з боку дзяржаўцаў і арандатараў і грамадою выступалі з пратэстамі, скаргамі на імя кіраўніка дзяржавы. Напрыклад, кароль Жыгімонт Ваза ў 1601 г. у адказ на скаргу сялян Крэўскай воласці забараніў Крэўскаму старосце пану Юрыю Волмінскаму патрабаваць ад сялян выплаты чыншу і выканання работ у большым аб'ёме, чым гэта прадугледжвася рэвізорская ўстава. Кароль адзначыў, што выносіць сялянам рашэнне аб пакаранні мог толысі рэвізор, а не староста ці яго ўраднікі, прычым яны не маюць права сялян «...невинне бити, мордовати и горлом карати...»[640]

Такім чынам, можна зрабіць вывад аб тым, што меркаванне аб моцнасці абшчынных традыцый да валочнай памеры XVI ст. і знікненні абшчыны на захадзе і ў цэнтры Беларусі пасля яе правядзення, якое па сутнасці замацавалася ў гістарыяграфіі, не грунтуецца на шырокай крыніцазнаўчай базе і патрабуе пэўных удакладненняў. Так, з аналізу крыніц вынікае, што ўжо ў першай палове XVI ст. у заходнім рэгіёне Беларусі пераважала індывідуальнае, а не абшчыннае землеўладанне і землекарыстанне дзяржаўных сялян, аб чым сведчаць прыведзеныя

[637] Тамсама.

[638] Biblioteka PAN. Rkps., sign. 5753, p. 24.
[639] Тамсама.

[640] СПБ. - Т. L - С. 157-158.

вышэй факты.

Не знойдзена таксама і звестак пра рэальныя факты пераразмеркавання зямлі ўнутры сялянскай абшчыны на захадзе і ў цэнтры Беларусі ў першай палове XVI ст. Больш за тое, на карысць таго, што зямельнымі надзеламі ў гэты час сялянскія сем'і распараджаліся самі, без удзелу абшчыны, сведчаць вынікі даследавання праблемы распараджэння зямлёй сялянамі Беларусі ў XVI ст., праведзенага М. Ф. Спірыдонавым. Прааналізаваўшы вялікую колькасць дакументальных матэрыялаў, аснову якіх склалі адміністрацыйна-судовыя справы, аўтар прыйшоў да вываду, што «аж да валочнай памеры здзелкі аб заставе-закупе зямлі з'яўляліся адным са звычайных сродкаў пераразмеркавання зямлі ў адпаведнасці з патрэбнасцямі і магчымасцямі сялянскіх гаспадарак. Дзяржаўныя сяляне не толькі заставлялі зямлю дзяржаўным сялянам, прадстаўнікам прывілеяваных саслоўяў і іх падданым, але і куплялі ў іх зямлю»[641].

Матэрыялы аб правядзенні валочнай памеры паказваюць, што дзяржава не імкнулася ліквідаваць абшчыну ў маёнтках, дзе была праведзена валочная памера. Наадварот, каралеўскія мернікі і рэвізоры часта ўлічвалі пажаданні абшчыннікаў, у многіх выпадках забяспечвалі сельскія абшчыны бясплатнымі грамадскімі выганамі і сенакосамі. Сялянскія абшчыны захавалі права свабоднага доступу да лясоў, рэк і азёр, якія знаходзіліся ў рамках валасной тэрыторыі.

Аўтару ўпершыню ў беларускай гістарыяграфіі ўдалося ўстанавіць, што ў дзяржаўных уладаннях захаду Беларусі ў другой палове XVI - першай палове XVII ст. меліся факты сумеснага карыстання сялянскімі абшчынамі ворыўнымі землямі, чаго не ўдалося выявіць у дакументах, якія адносяцца да ўсходу краіны.

Аб тым, што абшчына ў першай палове XVII ст. не проста існавала, але і прызнавалася дзяржавай, сведчыць выяўлены аўтарам і разгледжаны вышэй прывілей грамадзе сяла Рэчыца Берасцейскай эканоміі. Гэты адзіны вядомы на сённяшні дзень дакумент такога роду, які датычыць тэрыторыі Беларусі.

На думку аўтара, у дзяржаўных уладаннях Беларусі ў разглядаемы перыяд грамада скарыстала па меншай меры дзве базавыя асновы для свайго існавання і дзейнасці, якія на першы погляд могуць здавацца ўзаемавыключаючымі. З аднаго боку, грамада ў многіх выпадках, асабліва пасля правядзення валочнай памеры. вымушана была стаць часткай самой сістэмы феадальнай эксплуатацыі, кіравання і кантролю. З другога боку, нават вымушаная пайсці на такі кантакт з землеўласнікам грамада захавала шматлікія элементы свайго традыцыйнага жыцця, заснаванага на даўнім звычаёвым праве. Да такіх элементаў можна аднесці карыстанне агульнымі ўгоддзямі і нават ворыўнымі землямі, наяўнасць уласнага суда грамады (копны суд), забеспячэнне правіл і норм паводзін у штодзённым жыцці і інш. Спецыфіка існавання грамады праяўлялася якраз у перапляценні і спалучэнні ўнутры самой арганізацыі гэтых своеасаблівасцей, ва ўменні скарыстаць сітуацыю на карысць грамады і яе членаў.

Такім чынам, на падставе вышэйвыкладзенага можна зрабіць вывад аб тым, што ў XVI - першай палове XVII ст. у дзяржаўных уладаннях захаду і цэнтра Беларусі функцыяніравала сельская абшчына. Яе функцыі мяняліся, прыстасоўваліся да новых сацыяльна-эканамічных умоў. Разам з тым дзяржава прызнавала сялянскую абшчыну, лічылася з ёй і імкнулася па магчымасці

[641] Спиридонов, М. Ф. Застава-закуп земли государственными крестьянами Белоруссии в XVI в. / М. Ф. Спиридонов // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы 1971 г. - Вильнюс, 1974. - С. 58.

скарыстаць пры арганізацыі збору дзяржаўных падаткаў, правядзенні маштабных работ па рамонту крэпасцяў, дарог, мастоў і да т.п.

### 3.3. Абшчына ў дзяржаўных уладаннях Беларусі ў сярэдзіне XVII - першай палове XVIII ст.

Другая палова XVII - першая палова XVIII ст. - перыяд у гісторыі Беларусі, які характарызуецца эканамічным і палітычным заняпадам у выніку войнаў, што адбываліся на яе тэрыторыі. Але менавіта ў межах гэтага часу ішло і гаспадарчае аднаўленне, у краіне была праведзена новая эканамічная палітыка, накіраваная на вывад дзяржаўных уладанняў з пасляваеннага крызісу[642].

Указаны перыяд быў, напэўна, самым цяжкім у гісторыі беларускага народа. Войны, прыўнесеныя на тэрыторыю нашай краіны звонку, прывялі да значных людскіх і матэрыяльных страт, парушылі эканамічную і палітычную стабільнасць, адмоўна паўплывалі на сацыяльнае, этнаканфесійнае і культурнае развіццё Беларусі. Ваенныя дзеяны прайшлі дзвюма вялікімі хвалямі (1648-1667 гг. і 1700-1721 гг.). Казацка-сялянская вайна 1648-1651 гг, якая пачалася з казацкага паўстання на Украіне пад кіраўніцтвам гетмана Запарожскага войска Багдана Хмяльніцкага, прывяла да значных гаспадарчых і асабліва чалавечых страт. Колькасць насельніцтва на беларускіх землях зменшылася з 3 700 тысяч чалавек у 1648 г. да 2 876 тысяч у 1650 г.[643]

Вайна 1648-1651 гг. аказалася папярэдніцай яшчэ больш разбуральных ваенных дзеянняў, якія атрымалі ў Рэчы Паспалітай назву «крывавага патопу». На тэрыторыі Беларусі гэтыя падзеі былі звязаны з вайной, распачатай расійскім царом Аляксеям Міхайлавічам з мэтай далучыць да Маскоўскай дзяржавы тэрыторыі Беларусі і Украіны. Вайна Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай за Беларусь і Украіну (1654-1667 гг.) таксама прынесла велізарнейшыя эканамічныя і людскія страты. Насельніцтва Беларусі ў 1667 г. налічвала толькі 1 352 тысяч чалавек, людскія страты ў параўнанні з 1650 г. склалі 53%[644].

Ваенныя дзеянні, пастоі салдат у вёсках, рабаванне і насілле разбуралі сялянскія гаспадаркі. Эпідэміі і голад, якія заўсёды суправаджаюць войны, ахапілі значную частку Беларусі. Мноства людзей загінула не ў бітвах, а ад голаду і эпідэмій. Але асноўныя страты былі выкліканы тым, што вялікая колькасць людзей трапілі ў маскоўскі палон і былі вывезены ў Рускую дзяржаву[645]. Акрамя захопу ў палон рускія служылыя людзі, асабліва памешчыкі, сілаю вывозілі сялянства з захопленых раёнаў у свае маёнткі[646]. Да таго ж прычынамі наступіўшага эканамічнага заняпаду і гаспадарчага разбурэння ў часы войнаў былі як непасрэдна ваенныя дзеянні, так і празмерныя падаткі на ўтрыманне войска, ваенныя рэквізіцыі, рабаванне і самавольства вайскоўцаў[647].

---

[642] Кітурка, І. Ф. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII-XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця / І. Ф. Кітурка. - Гродна: ГрДУ, 2003. - С. 31-68.

[643] Карпачев А. М. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII -XVIII в. / А. М. Карпачев, П. Г. Козловский // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы 1965 г. - Л: Наука. Ленинградское отделение, 1972. - С. 92.

[644] Карпачев А. М. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII-XVIII в. - С. 92.

[645] Мальцев, А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века / Мальцев А. Н. - М.: Изд-во Москов. ун-та, 1974. - С. 185-189; Сагановіч, Г. Невядомая вайна: 1654-1667 гг. / Г. Сагановіч. - Мінск: Навука і тэхніка, 1995. - С. 130-132, 139-140.

[646] Мальцев, А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. - С. 187.

[647] Кітурка, І. Ф. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII-XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і

Найбольшыя страты панеслі дзяржаўныя ўладанні[648]. Па назіраннях Ю. Можы, найбольш пацярпелі каралеўскія сталовыя эканоміі, змяншэнне колькасці насельніцтва ў іх на 10,5% перавышала сярэдні паказчык па краіне[649]. Так, у Магілёўскай эканоміі колькасць дымоў скарацілася на 76,1%, у Берасцейска-Кобрынскай - на 52%, у Гарадзенскай эканоміі - на 35,2%[650]. Значныя страты насельніцтва былі і ў іншых дзяржаўных уладаннях на тэрыторыі Беларусі, вялізная колькасць зямлі ляжала у пустках, не апрацоўвалася[651].

Вынікі вайны вельмі цяжка адчуваліся на ўсходзе Беларусі. У Прапойскім старостве ў 1681 г. пуставала 72 % валок. У 1667 г. у Віцебскай эканоміі было 74%, а ў Мсціслаўскім ваяводстве каля 70 % пустых сялянскіх дымоў. Больш за 60 % пуставаўшых сялянскіх двароў налічвалася ў 1671 г. у Крычаўскім старостве[652]. У 1662 г. у Любашанскім старостве Аршанскага павета больш за 90% ворыўнай зямлі ляжала ў пустках (абраблялася 77 пудоў 3 бязмены ворыва, а ў пустках было 743 пуды 3 бязмены)[653].

Кароткі перыяд мірнага развіцця і гаспадарчага ўзнаўлення быў перарваны Паўночнай вайной (1700-1721 гг.). Па беларускіх землях некалькі разоў прайшлі як уласныя войскі, так і арміі Расіі і Швецыі, якія ўдзельнічалі ў ваенных дзеяннях на тэрыторыі Беларусі. Беларускія гарады і вёскі зноў не мінавала спусташальнае разбурэнне. У пачатку XVIII ст. становішча яшчэ больш пагоршыла чума, якая забрала тысячы жыццяў. Пуставала 41% валок у Берасцейскай, 71,5% - у Гарадзенскай эканоміях[654]. Колькасць насельніцтва Беларусі зменшылася з 2 200 чалавек у 1700 г. да 1 500 тысяч чалавек у 1717 г., агульныя страты насельніцтва за гады Паўночнай вайны склалі 31%[655].

Такім чынам, сельская гаспадарка Беларусі ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст. двойчы панесла разбурэнні і двойчы пачынаўся працэс узнаўлення. Аднаўленне перыяду 1667-1700 гг. і гаспадарчае адраджэнне пасля заканчэння Паўночнай вайны мелі падабенства.

У азначаны час становяцца не так заўважнымі адрозненні ў эканамічным развіцці захаду і ўсходу Беларусі. Накірунак эканамічнага развіцця ў гэты час залежаў у першую чаргу ад ступені разбуранасці ўладання і тых мер па выхаду з крызіснага становішча, якія прымяняліся да канкрэтнага ўладання (уладанняў). Заўважна і тое, што ў дзяржаўных уладаннях як усходу, так і захаду Беларусі ўсё больш значнае месца пачала займаць грашовая рэнта, а не паншчына. Вышэйзгаданае не магло не адбіцца і на становішчы сельскай абшчыны. У сувязі з

развіцця - С.34.

[648] Мелешко, В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII-XVIII в.)/В. И. Мелешко. - Минск: Наука и техника, 1975. - С.18, 19.

[649] Morzy, J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku / J. Morzy. - Poznań, 1965. - S.173.

[650] Morzy, J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. - S. 169-172.

[651] Кітурка, І. Ф. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII-XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця - С.38, 40-41.

[652] Мелешко, В.Н. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII-XIII в.). - С 18, 19.

[653] Кітурка, І. Ф. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII-XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця - С.41.

[654] Похилевич, Д Л Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С.134.

[655] Карпачев, А.М. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII-XVIII в. - С 92.

гэтым уяўляецца важным паказаць дзейнасць абшчыны на прыкладах некаторых асобных дзяржаўных уладанняў як з усходняга, так і заходняга рэгіёнаў Беларусі для высвятлення яе месца і ролі ў сацыяльна-эканамічным жыцці краіны ва ўказаны перыяд.

У час вайны і пасляваеннай адбудовы эканомікі ўлады вымушаны былі шукаць кампраміс паміж пастаяннай патрэбай дзяржавы ў грашах і разуменнем неабходнасці стварэння ўмоў для аднаўлення гаспадаркі селяніна – асноўнага падаткаплацельшчыка. Таму скарб ішоў на ўвядзенне значных ільгот для сялянства. Адным з галоўных прынцыпаў аднаўлення гаспадаркі ў каралеўскіх сталовых эканоміях стаў працяг распачатай яшчэ ў 1630-1640-х гг. палітыкі адмовы ад фальварку і паншчыны і пераводу сялян на грашовую рэнту (ачыншаванне) у тых мясцовасцях, дзе фальваркі эканамічна сябе не апраўдалі. Прыкладам правядзення такой палітыкі можа паслужыць Гарадзенская эканомія, для пераводу якой на чынш у 1679 г. была выдадзена спецыяльная інструкцыя караля Яна ІІІ. У ёй тлумачылася неабходнасць усталявання простых і зразумелых для сялянства правілаў збору і выплаты падаткаў[656]. Кароль рэкамендаваў улічыць і пажаданні сялянства, бо некаторыя валасныя абшчыны Гарадзенскай эканоміі звярталіся да яго з просьбамі аб адмене паншчыны і пераводзе сялян на голы чынш[657].

Заўважна і тое, што ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст. адбылося некаторае павышэнне ролі абшчыны не толькі ў зборы падаткаў і сумесным адбыванні павіннасцей, але і ў арганізацыі сялянскага землекарыстання. Ва ўмовах гаспадарчага разбурэння дзяржава як землеўласнік імкнулася выкарыстаць усе даступныя магчымасці, накіраваныя на тое, каб пустуючыя землі апрацоўваліся і з іх можна было атрымаць феадальную рэнту. Скарбу было выгадна, каб пусткі, дадатковае ворыва і сенакосы бралі не сяляне паасобку, а сялянская абшчына і каб іменна абшчына несла адказнасць за выплату чыншу з гэтай зямлі. Напрыклад, у 1742 г. у большасці сёл Берасцейскай і Кобрынскай эканомій абшчыны забралі у свае распараджэнне ўсе пустуючыя землі[658], таму інвентар эканоміі змяшчаў прамое ўказанне аб тым, каб усе павіннасці «накладаліся на грамаду»[659]. У гэтым працэсе была зацікаўлена сама феадальная дзяржава, паколькі ў час правядзення палітыкі ачыншавання грамада адказвала за збор і своечасовую выплату грашовай рэнты. Урад эканомій быў вызвалены ад праблемы спагнання чыншу з кожнага члена сялянскай абшчыны паасобку, бо звычайна падданыя былі звязаны кругавой парукай.

Сельская абшчына на тэрыторыі Берасцейскай і Кобрынскай сталовых эканомій у разглядаемы час не толькі захавалася, а нават набыла яшчэ большую моц. Адзначым, што акрамя інвентарных апісанняў аўтару ўдалося выявіць некаторыя іншыя дакументы, якія значна дапаўняюць звесткі, змешчаныя ў інвентарах, сведчаць аб даволі высокім узроўні развіцця абшчыны ў гэтых уладаннях.

Каралеўская камісія, высланая ў чэрвені 1712 г. у Берасцейскую і Кобрынскую эканоміі, Белавежскае, Сакулкаўскае і Навадворскае лясніцтвы,

[656] НГАБ, ф. 1882, воп. 1, спр. 3. *аш*. 64.

[657] LVIA. F. ПО, ap. I, bib. 3, p. 1v.

[658] Тамсама. - F. SA, bib. 11499, p. 14v, 28-37, 45.

[659] Тамсама. - P. 29v, 36v, 42v.

адзначала, што гэтыя ўладанні вельмі пацярпелі «ад войскаў розных народаў», гарады Бярэсце, Кобрын, Гарадзец, Ламазы зруйнаваны, людзі ж адны праз моравае «паветрые» павыміралі, другія паразыходзіліся, а тыя, што засталіся, знаходзяцца ў вельмі цяжкім гаспадарчым становішчы[660]. Да таго ж у фальварках і ў сялян амаль не галося цяглавай жывёлы: коней забіралі салдаты ў час праходу войскаў па тэрыторыі гэтых эканомій, «рабочыя валы і іншая жывёла таксама праз моравае патрые павыміралі» і няма чым сеяць[661]. Сялянскія грамады скардзіліся на ўціск з боку намеснікаў і « на ўсялякія перашкоды ад праходзячых войскаў ВКЛ»[662].

Напэўна, у дзяржавы не было лепшай магчымасці адрадзіць у гэты час на дадзенай тэрыторыі гаспадарку, як дазволіць сялянам свабодны выбар форм землекарыстання, прызначыўшы толькі агульныя платы за зямлю. Сялянства Берасцейскай і Кобрынскай эканомій, як сведчаць дакументы, гэтым скарысталася і зрабіла выбар на карысць абшчыны. Дзяржава, у сваю чаргу, такі выбар прызнала таму гаспадарчыя і павіннасна-падаткавыя адносіны каралеўскай адміністрацыі і вяскоўцаў у гэтым рэгіёне ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст. ішлі ў асноўным праз грамаду.

У папярэднім параграфе ўжо ўпаміналася пацвярджальны прывілей караля Яна III ад 1678 г. грамадзе сяла Рэчыца Берасцейскай эканоміі (гл. Дадатак 1), якім вярхоўная ўлада прызнала грамаду гэтага сяла як сацыяльна-гаспадарчы інстытут і замацавала яе павіннаснае становішча. (Дарэчы, як адзначыў кароль, сялянская супліка з просьбай пацвердзіць ранейшую ўставу Рэчыцкай грамадзе, была ўнесена праз паноў радных.) Магчыма, гэта не адзіны такі выпадак. Напрыклад, Д. Л. Пахілевіч пісаў, што «ў 60-90-я гады XVII ст. амаль усе сёлы Слонімскага староства атрымалі каралеўскія граматы, якія ў той ці іншай ступені пераводзілі іх павіннасці на грашовую рэнту»[663].

Цікавасць выклікае не толькі тое, што ў адказ на скаргу грамады сяла Рэчыца ёй былі ўстаноўлены ўдакладненыя павіннасці, а сам факт кантакту дзяржаўнай улады (на самым высокім узроўні!) з грамадой асобнага сяла. Між іншым, дакумент сведчыць пра выпадкі набыцця грамадой зямлі і распараджэння ёю, што зусім не адмаўлялася дзяржавай. Для ўлады галоўным па-ранейшаму заставалася тое, каб із гэтых грунтаў у скарб ішоў чынш: «З моргаў новапрынятых, а таксама з даўнейшых па грошы польскія чатыры, а з валокі Маджэеўскай, якую ўсё сяло, купіўшы ў пана Яна Рошчыца, на моргі разабрала, з кожнага моргу па восем грошаў польскіх»[664]. Грамада і надалей адыгрывала важную ролю ў сацыяльным і гаспадарчым жыцці сяла Рэчыца, у прыватнасці ў землекарыстанні. Так, інвентар 1721 г. сведчыў аб тым, што ўсе 9 валок гэтага сяла знаходзіліся ў карыстанні грамады: 2 $^{1}/_{4}$ цяглых валок «уся грамада абрабляе і плаціць з валокі па 1 тынфу і 1 шастаку бітаму», а 6 % валок чыншавых « уся грамада абрабляе і плаціць з валокі па 10 тынфаў»[665].

Грамада карысталася зямлёй і разам адбывала з яе павіннасці і плаціла падаткі не толькі ў Рэчыцы, але і ў суседніх сёлах Рэчыцкага ключа, а таксама ў

[660] НГАБ, ф. 1928, воп. I, спр. 38, арк. 27 ад в

[661] Тамсама. - Арк. 28.

[662] Тамсама. - ADK. 30.

[663] Похилевич, Д Л Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 164.

[664] AGAD. ZMN, sign. 1168, p. 8.

[665] Тамсама. ARP, sign. 198, p. 321.

іншых ключах Берасцейскай і Кобрынскай эканоміі. Гэтыя факты фіксаваліся ў складзеных рэвізорамі дакументах і прызнаваліся дзяржавай за правіла. Так, у сяле Цевялі Чараваціцкага ключа Кобрынскай эканоміі падчас рэвізій 1721, 1722, 1723, 1724, 1726, 1729 гг. камісары запісвалі, што ўсю зямлю трымае «грамада Цевялоўская ў адпаведнасці з законам (у арыгінале «podług prawa». - *В. Г.)* па тынфаў 22»[666].

Паводле інвентару 1668 г, у Берасцейскай эканоміі былі 241 валока аселая, 64 чыншавых і 705 $^{1}/_{2}$ валокі пустых[667]. Прычым практычна ўсе пустыя валокі былі ўлічаны пры сёлах з адзнакай «разабраны з трэццяга снапа». Аднак з інвентару не вынікае, якім чынам пустыя валокі былі раздзелены паміж сялянскімі гаспадаркамі. Пісар звычайна пазначаў пры апісанні вёсак памер устаноўленых павіннасцей, як, напрыклад, у адносінах да сяла Малашэвічы: «з пустых валок калі трэццяга снапа даваць не будуць, плаціць павінны за ўсякія павіннасці па зл. 5»[668].

Інвентар Берасцейскай эканоміі 1680 г. яшчэ больш выразна сведчыць аб тым, што амаль у кожным сяле былі землі, якія знаходзіліся ў карыстанні сельскіх абшчын і за якія сяляне плацілі разам[669]. Так, у адпаведнасці з падлікамі, зробленымі паводле гэтага інвентару Д. Л. Пахілевічам, з 42 валок сяла Кабыляны 9 знаходзілася пад грамадой, у сяле Сакі з 52 валок 4 былі абшчыннымі; 59 валок сяляне выкарыстоўвалі пад выганы і разбіралі на трэці сноп[670].

У інвентары Берасцейскай эканоміі 1682 г. адзначалася наяўнасць у сяле Кабыляны 288 «моргаў прывалочных», з якіх сяло плаціла агулам, а з 15 пустых валок давала трэці сноп[671]. Як і ў 1680 г, значную колькасць зямлі сяляне разабралі на трэці сноп не толькі ў гэтым сяле, а і ў іншых сёлах эканоміі.

Пра тое, што чынш дзяржаве сяляне плацілі не паасобку, а сельскімі абшчынамі, сведчыць наступны запіс у інвентары Берасцейскай эканоміі 1682 г. адносна воласці Рэчыцкага ключа: «чынш трэба аддаць ад Св. Марціна аж да Божага нараджэння... а калі б каторая вёска з упору свайго ў прызначаны час не аддала, тады павінен пад староста рэчыцкі ехаць і той чынш забіраць»[672].

У інвентары Кобрынскай эканоміі 1679 г. пры апісанні амаль кожнага сяла ёсць запіс аб тым, што пустыя землі сяляне разабралі «на 3 сноп» ці «на трацціяк»[673]. Тое, што ў некаторых сёлах пусткі разбірала менавіта грамада, а потым сяляне іх дзялілі паміж сабой, вынікае, напрыклад, з наступнага запісу: «4 валокі грамада на траццяк пасеяла» (сяло Мікіцічы Пружанскага ключа)[674]. Але ў адносінах да абсалютнай большасці сёл выкарыстанне пустак пазначалася выразамі «рэшта хлопамі на сноп засеяна» (сёлы Легаты[675], Уклады[676]) і інш., на падставе

[666] Тамсама. - Sign. 186, p. 2, 27, 45, 87, 112, 161.

[667] НГАБ, ф. 1928, воп. 1, спр. 36, арк. 7-81.

[668] Тамсама. - Арк. 9.

[669] LVIA. F. SA, b ib. 11488.

[670] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 130.

[671] НГАБ, ф. 1928, воп. 1, спр. 37, арк. 7 адв.

[672] Тамсама.

[673] VUB RS. F. 4, b b. A 34321, p. 34-308.

[674] Тамсама. - P. 226.

[675] Тамсама. - P. 37.

[676] Тамсама. - P. 205-208.

чаго можна выказаць толькі меркаванне аб шырокім удзеле грамады ў гэтым працэсе, як гэта было ў суседняй Берасцейскай эканоміі і, па сведчаннях пазнейшых інвентароў, у той жа Кобрынскай эканоміі. Сёлы Восава, Рымкі, Залессе былі тут поўнасцю чыншавымі, у іх указана толькі агульная колькасць зямлі, гаспадары не названы, а каля сумы чыншу, збіраемага з іх, адзначана -«агулам»[677]. Напэўна, арганізацыяй землекарыстання, зборам і выплатай чыншу ў гэтых сёлах займалася грамада.

Аб абшчынным землекарыстанні дзяржаўных сялян Беларусі выразна сведчыць інвентар Берасцейскай і Кобрынскай эканомій 1724 г. У ім прыводзяцца шматлікія прамыя запісы аб тым, што зямлю брала ў карыстанне менна грамада таго ці іншага сяла. Так, пры апісанні сяла Плоскія адзначана: «грамада засеяла 3 валокі па 10 грошаў»[678]. Адметнасцю гэтага інвентару было і тое (на гэта звяртаў увагу Д. Л. Пахілевіч), што ў Берасцейскай эканоміі выплачваўся толькі голы чынш, прычым плацілі яго сяляне «агулам», усёй абшчынай[679]. Практычна адносна кожнага сяла ў інвентары таксама былі пазначаны пустыя валокі і ўказана, што плата з іх ідзе агулам. У абшчынным характары гэтых зямель аўтару ўдалося ўпэўніцца з дапамогай іншых дакументаў – у першую чаргу матэрыялаў рэвізій Кобрынскай эканоміі, праведзеных у першай палове XVIII ст.

Яшчэ адзін інвентар Берасцейскай і Кобрынскай эканомій за той жа 1724 г. быў выяўлены аўтарам у Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве[680]. У інвентары не распісаны сяляне па валоках, а названа толькі агульная колькасць зямлі ў сёлах і сума платы з яе. Але гэта прамое сведчанне таго, што зямлю тут разбірала грамада, што пацвярджаюць і іншыя дакументы, напрыклад вытрымка з апісання воласці Рудскага ключа: «вёска Ольса Барысаўская - валок 24, 18 валок пад падданымі, плата агулам 340 тынфаў; вёска Клецішча - валок 6, моргаў 154. Плацяць з іх агулам 285 тынфаў; вёска Вялікая Рыта - 34 валокі, 497 моргаў, 27 валок пад падданымі і моргі, плацяць агулам 374 тынфы»[681].

Каля апісанняў асобных сёл пазначана, што іншыя іх павіннасці былі ўстаноўлены ў папярэднім інвентары, які быў складзены каралеўскім камісарам Дамброўскім («Inne Powinności tej wsi non Specifikantur, ponieważ są Inwętarzem ostatnim Jmci Pana Dąbrowskiego... jako destinowanego na to od J. Kr. Mci P. N. Mść. Kommis-sarza opisane»)[682].

Інвентар не раскрывае сутнасці таго, хто з сялян колькі плаціў за зямлю і як адбывалася раскладка гэтай платы ў вёсцы. Так, з апісання Гарадзецкай воласці. зробленага ў гэтым інвентары, немагчыма зрабіць адназначны вывад аб тым, існавала грамада ў вёсках воласці ці не. Але пра яе наяўнасць выразна сведчаць матэрыялы выяўленай аўтарам у Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве «рэвізіі валок» Гарадзецкага ключа за 1722-1730 гг.[683]

У «рэвізіях валок» 1722, 1723, 1724, 1726, 1728 і 1730 гг., праведзеных у

---

[677] Тамсама. - P.47.
[678] LVIA. F. SA, bib. 11493, p. 66.

[679] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 136.

[680] AGAD. ARP, sign. 184.

[681] Тамсама. - P.26.

[682] Тамсама. - P.8 i inne.

[683] Тамсама.

Гарадзецкім ключы Кобрынскага павета, у які ўваходзілі вёскі Бярэзна, Грушавая, Худлін, Вуглы, Целяшэвічы і Камень, адзначаецца не толькі наяўнасць грамады, але і пералічваецца колькасць зямлі, якая належала грамадзе кожнай вёскі (Дадатак 13, табл. I)[684]. Асаблівасцю землекарыстання ў гэтых вёсках, як зафіксавана ў «рэвізіях», з'яўляецца тое, што ўсе валокі пазначаны патрыманіяльнымі назвамі (але не па прозвішчу тагачаснага ўласніка), падобна да таго, як гэта было з дворышчамі XVI ст. на Піншчыне. Адзначым, што наяўнасць такіх «скразных» дакументаў, як згаданыя «рэвізіі», што характэрна амаль для дзесяцігоддзя, дазволіла поўнасцю ўпэўніцца ў існаванні сельскай абшчыны ў Гарадзецкім ключы Кобрынскай эканоміі ў першай палове XVIII ст.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што не кожны запіс рэвізора сведчыць аб наяўнасці грамады ў той ці іншай вёсцы. але параўнанне тэкста ў розных «рэвізій» дазваляе зрабіць дастаткова абгрунтаваныя вывады. Так, адносна вёскі Целяшэвічы у запісах за 1722 і 1723 гг. грамада не ўпамінаецца, указана толькі сума выплачваемага чыншу. У запісе 1724 г. адзначана, што вёска плаціць чынш агулам, і толькі у 1726 г. з'яўляюцца звесткі аб наяўнасці «14 валок, усе пад грамадой, засеяных» і ў 1730 г. - аб тым, што з 14 валок «грамада Целяшэвіцкая павінна плаціць» (гл. Дадатак 13, табл. 1). Падобнае характэрна і для іншых вёсак Гарадзецкага ключа (гл. Дадатак 13, табл. 1).

Другой адметнасцю рэвізій Гарадзецкага і іншых ключоў Кобрынскай эканоміі першай паловы XVIII ст. з'яўляецца наяўнасць у графе, якая датычыцца выплачваемага чыншу, запісу ва ўсіх вёсках аб плаце «на пракуратара» ці «пракуратаршчызны», чаго аўтару не сустракалася ў дакументах іншых рэгіёнаў Беларусі і пра што не адзначалася іншымі даследчыкамі. Разам з тым, як сцвярджаецца ў польскай гістарыяграфіі, пракуратары (яны называліся таксама ругоўнікамі, пленіпатэнтамі, моўцамі) выбіраліся з найбольш паважаных членаў абшчыны і ўдзельнічалі ў разглядзе спраў. звязаных з учыненнем розных парушэнняў і злачынстваў, якія адбываліся на тэрыторыі грамады[685]. Акрамя таго, пракуратары былі абавязаны сачыць за тым, ці ходзяць сяляне ў касцёл, святкуюць рэлігійныя святы, не робяць якіх шкод у полі і лесе, не прадаюць без дазволу двара рабочую жывёлу, не разбіраюць і не паляць пустых будынкаў у вёсках і інш. Пры гэтым абавязкі пракуратара Гарадзецкага ключа Кобрынскага павета былі вельмі падобнымі, напрыклад, да абавязкаў дзесятнікаў ці старцаў у суседняй Брашэвіцкай воласці, якая належала Віленскаму біскупству. Лічыцца, што інстытут пракуратарства (ругоўніцтва) быў распаўсюджаны ў Малапольшчы, Памор'і, Жулавах, Чырвонай Русі і ў паўнёва-заходніх раёнах Беларусі[686].

Дарэчы, параўнанне ў разглядаемых рэвізіях выразаў «уся грамада» («cała gromada») і «ўсё сяло» («cała wieś») сведчыць на карысць вываду аб тым, што для рэвізораў яны былі ідэнтычнымі. Хутчэй за ўсё і ў іншых выпадках выраз «усё сяло» можна разумець як «сельская грамада».

У распараджэнні аўтара ёсць таксама матэрыялы рэвізій іншых ключоў Берасцейскай і Кобрынскай эканомій за першую палову XVIII ст.: Чараваціцкага, Кіявецкага, Пружанскага, Віжацкага, Воінскага, Закросніцкага, Кобрынскага, Крывавербскага, Рэчыцкага. Рудскага ключоў і Чахецкага лясніцтва Берасцейска-

[684] Тамсама. - Р 1-85.

[685] Historia chłopów polskich. - *1.11* Burszta J. [i inni]; pod redakcją Stefana Inglota. - Warszawa: Ludowa Spółdzielnia Wydawnicza, 1970. - S. 332.

[686] Тамсама.

Кобрынскай эканоміі 1732 г.[687] У гэтых рэвізіях, як і ў дакументах аб Гарадзецкім ключы, валокі-надзелы зафіксаваны ў якасці імянных – пад патрыманіяльнымі назвамі. Як найбольш насычаныя інфармацыяй пра грамаду, аўтарам зведзены ўасобную табліцу звесткі з рэвізій Чараваціцкага ключа Кобрынскай эканоміі за 1721-1730 гг. (Дадатак 13, табл. 2). Матэрыялы рэвізій астатніх ключоў будуць выкарыстоўвацца ў дадзенай рабоце ў якасці асобных прыкладаў і ілюстрацый. Звяртае на сябе ўвагу тое, што кожная асобная вёска Чараваціцкага ключа складала адну сельскую грамаду. Разам з тым у гэтым ключы існавала і валасная грамада, пра што сведчаць запісы адносна вёскі Батча, у якой за засцянковую валоку плаціла воласць «з засцянковай валокі ад воласці 2/19 тынфаў» (1721 г.)[688], «валокі засцянковай тынфаў 5 воласць плаціць» (1723 г.)[689]. На жаль, вядомыя аўтару дакументы не даюць магчымасці выявіць адносіны паміж членамі валаснай абшчыны ў сферы землекарыстання і нават растлумачыць прыведзены факт аплаты валасцю засценка для вёскі Батча.

Акрамя таго, на падставе матэрыялаў рэвізій Чараваціцкага ключа можна абгрунтавана сцвярджаць, што ва ўсіх пералічаных вёсках існавала абшчына, якая датаго ж выступала перад уладай як калектыўны землекарыстальнік і плацельшчык падаткаў. Дадзены вывад можна праілюстраваць некалькімі цікавымі прыкладамі аб распараджэнні зямлёй з боку грамады. Так, у рэвізіі 1721 г. адносна вёскі Пяскі ўказана, што валоку Жукаўскую атрымаў пан Урбаньскі «за прывілеем і з дазволу грамады» («włoka Zukowśka Jm. P. Urbański za Przywilcem z Gromady pozwalania»)[690]. Аналізуемыя дакументы пацвярджаюць існаванне практыкі, калі сельскія абшчыны выдзялялі зямлю пабочным людзям: «з папару, што пастароннім выдзялілі» («co postronnym pozawodzili»)[691] - вёска Літвінкі (1721 г.). Абшчыны давалі зямлю нават шляхце: у 1723 г. у вёсцы Востраў грамада валоку Козін выдзеліла пану Рушчыку («Gromada Jm P. Ruszczykowi zawiodła») і іншым асобам[692] (гл. Дадатак 13, табл. 2). Зямля прадастаўлялася ў тым ліку і ў заставу. Напрыклад, у 1723 г. у вёсцы Сухаўчыцы валоку Сямёнаўскую грамада заставіла панам Радамыскаму і Залескаму, валоку Віхрэвіч – пану Багуслаўскаму[693]. Характэрна, што гэтыя факты фіксавалі дзяржаўныя рэвізоры і ўспрымалі іх як належнае. Як паказваюць матэрыялы, у сялян было шмат магчымасцей вар'іраваць формамі карыстання зямельнымі надзеламі, нават мяняць іх. Напрыклад, у 1722 г. у сяле Шыпавічы валоку Голадаву (у папярэднім годзе на ёй «сядзеў» селянін Анціпар Голад) грамада выдзеліла пану Задзярноўскаму («Gromada Szypowiecka zawiodła Jm. P. Zadernowśkiemu»)[694]. Аб шматлікасці такіх прыкладаў сведчаць даныя, прыведзеныя ў табл. 2, Дадатак 13.

Грамада не толькі давала шляхце зямлю на ўмовах выплаты чыншу, але сама забірала назад. Дамовы аб арэндзе складаліся ў асноўным на год, што

[687] AGAD. ARP, sign. 185, 186, 187, 188, 189, 190, 192, 195, 197, 198, 199, 200, 201, 203.

[688] AGAD. ARP, sign. 186, p.

[689] Тамсама.- P.46.

[690] Тамсама.- P.23.

[691] Тамсама.- P.11.

[692] Тамсама.- P.30.

[693] Тамсама.- P.59.

[694] Тамсама.- P.35.

пацвярджаецца фактамі змены прозвішчаў шляхціцаў – трымальнікаў валок. Відаць, заключыць такія дамовы было няцяжка, як і вярнуць зямлю ў грамаду. Так, у 1729 г. у вёсцы Вастраў усе валокі, якія раней здаваліся шляхце, пазначаны ўжо ў грамадзе[695]. З аналізу крыніц вынікае, што такія фактыназіраліся і ў іншых вёсках.

У некаторых выпадках рэвізоры запісвалі ў дакуменце, якім чынам грамада брала зямлю. Так, у вёсцы Паляціны, для пазбягання магчымых крыўд сяляне, «парахаваўшыся паміж сабой, пагадзіліся ўзяць зямлю агулам за 143 тынфы» («Po uczynionej w Polu Rewizyi rozumełoi Gromada Polatycka żeby miała iaką krzywdę więc porachowawszy się Sami z Sobą zgodzilisię Ogułem za tynfow 143. Trzeciaku cokolwiek jest excypowano do Dworu iako osobliwy Reestr Świadczy»)[696]. У гэтым тэксце хоць і не раскрываецца парадак размеркавання зямлі ўнутры грамады, затое прыводзяцца прамыя сведчанні аб тым, што менавіта грамада выступала ў якасці правамоцнага суб'екта падчас перагавораў з рэвізорамі, а таксама аб агульным прыняцці рашэнняў пасля абмеркавання праблемы на сходзе грамады.

Матэрыялы рэвізій Берасцейскай і Кобрынскай эканомій першай паловы XVIII ст. сведчаць аб тым, што практычна ніякія сур'ёзныя гаспадарчыя справы ўрадавымі чыноўнікамі не вырашаліся тут без удзелу грамады. У прыватнасці, нават у загалоўку дакумента 1731 г. рэвізор Кіявецкага ключа Берасцейскай эканоміі Антон Масальскі падкрэсліваў, што рэвізія праведзена з удзелам грамады кожнай вёскі: «Гадавая рэвізія збору чыншу, дзякла і збожжавага водсыпу яго каралеўскай міласці Кіявецкага ключа, якая адбылася з грамадой кожнай вёскі на кожным месцы...» («Rewizija roczna Czynszów, dziakła y odsepow klucza JKm Kyowieckiego będąc z Gromadą każdej wsi na każdym mejscu by naymniejszym uczyniona przeze mnie Antoniego Masalskiego do tego klucza na rewizią zasłanego roku 1731 uczyniona»)[697].

У прыведзеным вышэй дакуменце ёсць інфармацыя і аб некаторых функцыях грамады. Напрыклад, адзначаецца, што ў вёсцы Ракітнае падымнае «самі сяляне складаюць і аддаюць»; «па паведамленню грамады ўсяго ёсць 50 валок, з іх 10 пад дваром, 40 пад вёскай»[698]; у вёсцы Дзярэчынцы за сенажаці «ад грамады Дзярэчынскай штогод належыць 8 зл.»[699]

У тым жа 1731 г. пан Чарнецкі збіраў чынш і іншыя падаткі ў Кіявецкім ключы таксама «паводле інфармацыі грамады» («iako Gromada dowodzi»)[700]. Калі ў сяле Міхалкі Фёдар Зайка не змог паказаць квітанцыю аб выплаце чыншу, то за яго заступілася грамада і з яго ўзялі толькі 13 зл. 20 гр., «як вызначыла грамада» («iako gromada wyznała należy 13 zł. 20 gr.»)[701]. У вёсцы Палоскі селянін Давід Круглік таксама не змог даказаць, што заплаціў чынш, а грамада гэтую выплату пацвердзіла («w tejże wsi Dawid Kruglik zeznawał że zapłacił Jmści P. Czarnieckiemu czynsz na to

[695] Тамсама. - P.167.

[696] AGAD. ARP, sign. 186, p. 109.

[697] Тамсама.- Sign. 189, p. 1.

[698] Тамсама. - P.38, 39.

[699] Тамсама. - P.13.

[700] Тамсама. - P.53.

[701] Тамсама. - P.54.

kwit wyznawała i Gromada że zgubił»)[702]. У вёсцы Карашчынка пан Чарнецкі, зборшчык чыншу, увогуле не даў квіт, але грамада пацвердзіла, што ўсё выбралі («S tej wsi JMP Czarnecki odebrał a kwitu nie dał cała Gromada wyznawała że wybrano»)[703]. Такі ж выпадак зафіксаваны і ў вёсцы Малая Дубровіца («Dubrowicy Małey, s tej wsi JMP Czarnecki odebrał a kwitu nie dał, cała Gromada wyznawała że wybrano»)[704].

Такім чынам, у дзяржаўных уладаннях у першай палове XVIII ст., як паказваюць крыніцы, у адносінах з грамадой у першую чаргу ў пытаннях землекарыстання і выплаты падаткаў камісары і рэвізоры прымянялі метады дамовы, а не загаду. Прычына навідавоку- дзяржаве было неабходна, каб зямля апрацоўвалася і прыносіла прыбытак у скарб. Матэрыялы Берасцейскай і Кобрынскай эканомій яскрава сведчаць аб тым, што рэвізоры менавіта дамаўляліся з сялянамі дзеля дасягнення галоўнай мэты – каб ворыўная зямля абавязкова знаходзілася ў гаспадарчым абарачэнні. Так, у 1732 г. у вёсках Кіявед і Малая. Дубровіца за агароды і лугі плата была прызначана па дамоўленасці з грамадой («według ugody z Gromadą»)[705]. Усё павінна было рабіцца так, каб ні грамадзе, ні двару не было шкоды («żeby ani Gromadzie, ani Dworu krywdy nie było»)[706]. Напрыклад, у рэвізіі Сухапольскага ключа Берасцейскай эканоміі сярод матэрыялаў, якія адносяцца да вёскі Дзімітравічы, было адзначана, што грамада згадзілася агулам плаціць за «пустыя» валокі (былыя фальваркавыя. - В. Г.), засеяныя і дзяржаўнымі сялянамі і пабочнымі людзьмі, на што аформіла пісьмовую згоду («wieś Dymitrowicze Pustych zasianych przez postronnych cześcia y przez skarbowych ludzi za który ogułem zgodziła sie Gromada y kartę na dokument»)[707].

Пры правядзенні рэвізіі грунтаў Шахецкага лясніцтва ў 1732 г. у дакуменце названы Шахецкая, Варатнянская, Клятнянская, Сянёўская, Кацёлкаўская грамада, кожная з якіх разам плаціла чынш са сваёй вёскі[708]. У рэвізіі 1732 г. Пружанскага ключа таксама адзначана наяўнасць грамады ва ўсіх вёсках, прычым указваецца, што сяляне мелі чыншавыя валокі і агароды, з якіх плаціла агулам грамада, з гэтай жа сумы вылічвалася ўпіснoе і пракуратаршчына[709]. Напрыклад, адносна вёскі Дабучын было зафіксавана, што: «валок 37, 17% чыншавых трымае грамада Дабучынская па тынфаў 25, агульная плата і з агародаў. упіснoе ад той сумы і пракуратаршчызны 4/4 тынфы» («włok 27, 17% czynszowych Gromada Dobuczańska po t. 25, z morgów ogulnie płacą i z ogorodów, wpisnogo od tey sumy i prokuratorszczyzny tynf 4/4»)[710].

Падчас рэвізіі 1732 г. Рэчыцкага ключа Берасцейскай эканоміі ў дачыненні да абсалютна ўсіх вёсак быў устаноўлены агульны збор «на пракуратара

[702] Тамсама. - P.57.

[703] Тамсама. - P.59.

[704] Тамсама. - P.60.

[705] AGAD. ARP, sign. 185, p. 5,26.

[706] Тамсама. - Sign. 183, p. 201.

[707] Тамсама. - Sign. 199, p. 6.

[708] Тамсама. - Sign. 185, p. 29-32.

[709] Тамсама. - P.40-52.

[710] Тамсама. - P.41.

эканоміі»[711]. Гэта сведчыць, хутчэй за ўсё, аб тым, што пракуратар тут быў адзін на ўсю эканомію і дзейнасць яго аплачвалі сельскія абшчыны. Напрыклад, з сяла Рэчыца з 9 чыншавых валок на пракуратара эканоміі збіралі 4 тынфы[712]. Калі ў астатніх вёсках Рэчыцкага ключа разам з сялянскімі былі і грамадскія валокі, то адносна вёскі Кукарыкі ў дакуменце адзначаецца, што ўсе пяць чыншавых валок знаходзяцца «пад грамадой»[713].

Паметкі аб тым, што ў 1732 г. менавіта грамада плаціла за карыстанне ворывам (напрыклад, «вёска Закроснікі, валок 25, 8 1/8 грамада Закросніцкая па тынфаў 16»[714], змешчаны пры апісанні кожнай вёскі Закросніцкага, Кобрынскага. Крывавербскага ключоў Кобрынскай эканоміі[715].

Параўнанне тэкстаў «рэвізій» і інвентароў вёсак Берасцейскай і Кобрынскай эканомій за першую палову XVIII ст. паказала, што нават пры наяўнасці ў рэвізіі выразу «грамада плаціць» у інвентары можа быць зафіксавана раскладка чыншу па асобных валоках і нават гаспадарах. На падставе ўказанага можна выказаць меркаванне аб тым, што ў некаторых выпадках у інвентарах гэтага перыяду не проста фіксаваўся прызначаны на асобныя вёскі ці сялянскія гаспадаркі чынш, але і адначасова адлюстроўваўся таксама парадак яго раскладак, ці разрубаў, унутры грамады.

Аўтару ўдалося выявіць матэрыялы аб некалькіх выразных фактах продажу або здачы ў арэнду зямлі як сялянамі, так і цэлымі сялянскімі абшчынамі ў дзяржаўных уладаннях, што дагэтуль не адзначалася ў беларускай гістарыяграфіі. Найбольшае распаўсюджанне такая з’ява атрымала якраз на захадзе Беларусі, у Берасцейскай і Кобрынскай эканоміях. Так, у 1731 г. у дакладной запісцы да Яна Дуцкага, віцэ-аканома Берасцейскай і Кобрынскай эканомій, рэвізор В. Траяноўскі паведамляў, што пан Марцін Грабоўскі разам са сваімі братамі трымаў кавалак грунту у сяле Косішча ва ўрочышчы Груды, які, на яго думку, ён набыў ад яляніна па закону (у арыгінале «od chłopa nabytym Prawem». - В. Г), і з той зямлі ўжо некалькі гадоў «ніякіх падаткаў не плаціць ні да грамады, ні да двара»[716]. У выніку праведзенага расследавання высветлілася, што пан Грабоўскі «штогадовага чыншу і з іншых земляў і лугоў, якія, акрамя згаданых Грудоў, належаць да грамады Косіцкай, не хоча аддаваць і яшчэ паборцаў заўжды б’е»[717], таму рэвізор у мінулым 1730 г. «пасля данясення Косіцкай грамады адабраў з яго поўарткі капы траццяку (трэцяга снапа. - В. Г.), праўда з жаўнерамі, бо не хацеў дабраахвотна пан Грабоўскі аддаць...»[718]

Згаданы дакумент уяўляе цікавасць з пункту гледжання не толькі таго, што грамада вёскі Косішча Кобрынскага павета валодала і распараджалася землямі ўгоддзямі, але і таго, што ўлада не выступала супраць гэтага. Больш за тое, адміністрацыя Кобрынскай эканоміі фактычна стала на бок сялянскай грамады яе

[711] Тамсама, - P.95-100.

[712] Тамсама. - P.96.

[713] Тамсама. - P.97.

[714] AGAD. ARP, sign. 185, p. 107.

[715] Тамсама. - P.106-110, 111-120, 122-126.

[716] Тамсама. - Sign. 214, p. 121.

[717] Тамсама. - P.121v.

[718] Тамсама. - P.176.

спрэчцы са шляхціцам. Зразумела, што чыноўнік, які пісаў вышэйзгаданы ст, абараняў дзяржаўныя інтарэсы, таму галоўным для яго было сабраць чынш «эканамічны грунт», і калі б пан Грабоўскі своечасова аддаваў сваю долю чыншу ў грамаду, а тая перадавала яе дзяржаўным зборшчыкам, мы б маглі і не даведацца, што грамада тут існавала і мела такія шырокія правы.

Дакумент аб факце перадачы грамадой вёскі Руда Вялікая зямельнага ўчастка селяніну вёскі Восы датаваны 20 ліпеня 1721 г. (Дадатак 2) сведчыць: «Перада мною, Янам Дуцкім, віцэ-аканомам Берасцейскім, Кобрынскім і лясніцтва я. к. м. Белавежскага, станавілася персанальна ўся грамада вёскі Вялікарудскай, як то Макар, войт, Гусцей Скурат, Аляксей Літкаў, Якаў Хапул, Кірыла Хапулік, Антон Мельнік, Хвесь Літка і іншыя, дабраахвотна паведамілі, што грамада шэсць моргаў, названых Ігнатоўшчызна з палявым урочышчам Гаралазы, якое адносіцца да тых жа моргаў, адвяла Радзівону Латыкаву, падданаму я. к. м. з вёскі Восы, жонцы яго Марыне Парбоцяўне Радзівонавай Латыкавай і патомству іх, з якіх моргаў памянёны Радзівон не павінен нічога больш даваць, чым прадугледжана ўставай і правам той грамады.

Падаткі іншыя нароўні з другімі павінен будзе выплочваць, акрамя таго, тое палявое ўрочышча можа Радзівон Латыкаў каму хоча даць, падараваць, прадаць, заставіць...»[719] Разам з тым адзначалася, што Радзівон Латыкаў, які з'яўляўся рамеснікам, павінен заставацца пры сваёй уласнасці (напэўна, пры асноўным надзеле ў вёсцы Восы).

Тэкст працытаванага дакумента сведчыць аб тым, што грамада вёскі Руда Вялікая калектыўна распараджалася некаторымі землямі, якія былі ў яе агульным карыстанні. У дадзеным выпадку ў прысутнасці прадстаўніка ўлады грамада выдзеліла («адвяла») шэсць моргаў зямлі рамесніку з суседняй вёскі. Значную цікавасць у святле разглядаемай намі праблемы ўяўляе спасылка на наяўнасць спецыяльнай уставы грамады вёскі Руда Вялікая і пэўных правіл арганізацыі гаспадарчага і сацыяльнага жыцця ў ёй («права той грамады»)[720]. На жаль, ні ўставы, ні дакумента, у якім зафіксавана «права той грамады», выявіць не прадаставілася магчымым.

Другі арыгінальны дакумент падобнага роду –astаўны запіс грамады вёскі Закроснікі Кобрынскай эканоміі на ўчастак зямлі селяніну Даніле Калюшыку, датаваны 1724 г. (Дадатак 3). Пачатак дакумента змяшчае пералік членаў грамады вёскі і тлумачэнне прычыны, па якой гэты заставны ліст складаецца: «Мы, мужове вёскі Закросніцкай Кобрынскай эканоміі, я, Зміцер Шнарбачэвіч, Карп Лакічыц, Даніла Гапяйчук, Сцяпан Багдановіч, Паўлюк Багдановіч, Мірон Багдановіч, Язэп Хвядыніч, Піліп Валасовіч, Аніска Латышыц, Яска Пеляювіч, Пятрук Лакішыч Нядзерка, Саўка Алейнік, Якаў Хвалевіч, Леўка Лакічыц, Хведар Накуневіч. Ад імя нашых жон і дзяцей нашых, ад імя суседзяў нашых, якія з-за цяжкасцяў ад праходзячых войск розных паразыходзіліся, а іншыя памёрлі. З волі і вядомасці двара Закросніцкага... з той прычыны, што мы вымушаны за ўсіх вышлых усялякія падаткі за іх выплочваць... і таму былі вельмі неабходныя грошы на ліквідацыю запазычанага падатку...»[721] У сувязі з гэтым сяляне пазычылі ў Данілы Калюшыка, падданага пана Гераніма Бухавецкага з вёскі Турнай сто польскіх злотых. Пад

[719] AGAD. ARR sign. 207, p. 41.

[720] Тамсама.

[721] Тамсама. - Sign. 215, p. 6.

указаную суму абшчына «заставіла» Даніле Калюшыку два ўчасткі грамадскай зямлі: «пустку грунту з сенажацямі вёскі нашай Закросніцы... і ўсімі прыналежнасцямі да той пусткі належачымі... і другую пустку пры той жа ляжачай... палову валокі». У дакуменце адзначаецца, што падаткі на Закросніцкі двор з застаўленай зямлі павінны выплачваць за сябе і сваіх суседзяў сяляне, тэрмін заставы пачынаецца ў 1724 г., а грошы неабходна аддаць у 1726 г.

Такім чынам, дакументы сведчаць аб тым, што ў чыншавых вёсках дзяржаўных эканомій былі выпадкі (пэўна, нават шматлікія), калі дзяржава давала магчымасць сялянам (грамадзе) здаваць зямлю ў арэнду староннім людзям, толькі з умовай поўнай выплаты з гэтай зямлі чыншу і, пры неабходнасці, адбыванне іншых павіннасцей. Дакументы, на падставе якіх аўтарам зроблены гэтыя вывады, напрамую пацвярджаюць, што сельскія абшчыны ў Берасцейскай і Кобрынскай эканоміях распараджаліся (прадавалі, перадавалі, застаўлялі) ворыўнымі землямі, прычым такія здзелкі ў некаторых выпадках учыняліся не толькі з ведама, але із гарантыяй іх правамоцнасці з боку прадстаўнікоў улады. Пры гэтым нельга сцвярджаць, што права распараджэння зямлі сельскімі абшчынамі было неабмежаваным. Наадварот, дакументы сведчаць аб тым, што такія аперацыі павінны былі праводзіцца толькі пад кантролем із ведама ўладаў. Для дзяржавы як землеўласніка было важна, каб падобныя аперацыі з зямлёй ажыццяўляліся з ведама, а то і пад кантролем яе адміністрацыі. Так, у выяўленых аўтарам чарнавых накідах да інвентару Берасцейскай і Кобрынскай эканомій, датаваных 1732 г., адносна вёскі Стрыева адзначалася, што трэба «пры продажы зямлі, каб двор ведаў аб яе продажы» («przy przedaniu Gruntów aby Dwór wiedział ich przedadżę»)[722].

Прыведзеныя прыклады кардынальна мяняюць усталяванае ў беларускай гістарыяграфіі меркаванне аб пазбаўленні пасля сярэдзіны XVI ст. абшчыны ў беларускай вёсцы ўсялякіх правоў і нават аб спыненні яе існавання. Удзел абшчыны ў землекарыстанні, наяўнасць абшчыннага зямельнага фонду і распараджэнне ім, хаця б із ведама прадстаўнікоў дзяржаўнай улады, - важная прымета высокай ролі грамады ў жыцці беларускай дзяржаўнай вёскі ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст.

Але разам з аднаўленнем гаспадаркі пачынаючы прыблізна з 40-х гадоў XVIII ст. такое права сялянскай абшчыны на распараджэнне зямлёй уладай паступова стала абмяжоўвацца. Так, у дэкларацыі, унесенай у інвентар Берасцейскай і Кобрынскай эканомій за 1742 г., ужо канстатавалася, што «хлопства... са злосці і сваволі сваёй грунты эканамічныя пастаронні́м людзям прадаваць, застаўляць і заводзіць звыклі»[723]. У тэксце дэкларацыі ўказвалася, што з моманту яе выдання ні адзін селянін «прадаваць, застаўляць і ніякім іншым спосабам заводзіць грунтаў эканамічных не павінен»[724] Больш за тое, сялянам рэкамендавалася выкупляць назад зямлю, якую яны раней здалі ў заставу. У большасці выпадкаў гэтую зямлю здавала грамада, таму яна і павінна была яе выкупляць.

Дарэчы, сярод архіўных матэрыялаў аўтарам выяўлены сведчанні і аб іншых выпадках распараджэння зямлёй сялянскімі грамадамі на Кобрыншчыне і

[722] AGAD.ARP, sign. 182, p. 49.

[723] LVIA. F. SA, bib. 11499, p. 72v, 176-177.

[724] Тамсама.

Берасцейшчыне. Вышэй ужо прыводзіліся прыклады фіксацыі рэвізорамі ў інвентарах Берасцейскай і Кобрынскай эканомій выпадкаў, калі грамада здавала сваю зямлю ў карыстанне «пастароннім людзям» (недзяржаўным сялянам) і нават шляхце. Напрыклад, у 1722 г. у вёсцы Востраў таго ж Чараваціцкага ключа, дзе кожная валока па даўняй традыцыі мела сваю назву, «у валоцы «Косіч» грамада я. м. пану Рушчыку адвяла («zawiodła») 1/3 чыншавай і 1/6 пустой», «валоку «Русіновіч» грамада адвяла п. Міхалу Андраноўскаму», а ў «валоцы «Крошчыц» грамада адвяла я. м. пану Рушчыку 14 чыншавай»[725]. Падобныя факты здачы абшчыннай зямлі мелі месца і ў іншых суседніх вёсках (Дадатак 13, табл. 2). Звяртае на сябе ўвагу тое, што дзяржаўныя чыноўнікі звычайна не процістаялі такім дзеяннням сялян, не забаранялі іх, а толькі фіксавалі іх у інвентарах.

Сярод матэрыялаў Кобрынскай эканоміі за 1723-1724 гг. аўтарам выяўлены дакумент пад характэрнай назвай «Пералік грунтаў і лугоў, якія былі перададзены ў заставу ад грамад Кобрынскага ключа іх міласцям панам шляхце і цяжкасцях іх (грамад. - В. Г.) у некаторых месцах, звязаных з межамі», які дадаткова сведчыць на карысць вываду аб шырокіх правах, што мела грамада ў справе землеўладання і землекарыстання ў гэтым рэгіёне. У пераліку змяшчаецца інфармацыя аб дванаццаці вёсках Кобрынскага ключа (Быстрыца, Лушчыкі, Зосімы, Косішча, Харкі, Шчэрашава, Легаты, Дубава, Плоскія, Рухавічы, Лохчыцы і Баршчы), грамады ў якіх здавалі пэўныя ўчасткі абшчыннай зямлі ў заставу шляхце. Прычым у дакуменце пазначана, які менавіта ўчастак, каму і на якіх умовах грамадой быў перададзены. Так, раней згаданая грамада Косіцкая акрамя здачы зямлі пану Марціну Грабоўскаму заключыла такую ж здзелку з панам Міхалам Ласкоўскім, прычым у абодвух выпадках указана, што згаданыя шляхціцы «чынш плацяць грамадзе»[726]. Грамада гэтай жа вёскі аддала ў заставу пану Яну Гузельфу «трэцюю частку валокі 20 гадоў таму з лугам, належачым датаго грунту»[727]. Дакумент сведчыць аб тым, што Ян Гузельф бясплатна карыстаўся яшчэ адной трацінай валокі, але пра ўмовы перадачы яе ў такое карыстанне «грамада не ведае, бо дзедзічаў няма»[728].

Аб аперацыях па заставе сельскімі грамадамі абшчыннай зямлі шляхце ў дакуменце адзначалася прымянялына да ўсіх вышэйпералічаных вёсак Кобрынскага ключа. Напрыклад, у вёсцы Легаты «грамада Легатаўская аддала ў заставу 30 гадоў таму ўсе валокі над ракой Сеўняй на 100 вазоў сена за 1000 злотых пану Беклеўскаму... потым, 4 гады таму, дасталіся яны пану Ляснічаму»[729]. Здавалі зямлю ў заставу шляхце таксама грамады вёсак Востраў, Шыпавічы, Сухаўчыцы, Патрыкі, Перкі Чараваціцкага ключа Кобрынскай эканоміі (Дадатак 13, табл. 2).

Нягледзячы на тое што ўлада стала забараняць абшчынам прадаваць і застаўляць зямлю з зямельнага фонду каралеўскіх эканомій, абшчыннае землекарыстанне падтрымлівалася і нават стымулявалася. Вельмі выразна арыентацыя скарбу на ўмацаванне ролі сельскай абшчыны ў арганізацыі землекарыстання ў каралеўскіх сталовых эканоміях вынікае са зместу інвентару

---

[725] AGAD. ARP, sign. 186, p. 31.

[726] Тамсама. - Sign. 190, p. 4, 5.

[727] Тамсама. – P. 4.

[728] Тамсама.

[729] Тамсама. - P. 7v.

Берасцейскай і Кобрынскай эканомій 1742 г. Рэвізоры не проста аддавалі зямлю ў распараджэнне сельскіх абшчын, а прапаноўвалі ўзяць яе на льготных умовах. Так, пры апісанні Кобрынскай воласці было прама адзначана, што пры ўмове, калі воласць забярэ «пад сябе» ўсе пустыя землі, то рэвізіі тут праводзіцца не будуць[730]. У далейшым, напрыклад, пры апісанні вёсак Дубава, Козішча, Лушчыкі Кобрынскага ключа рэвізоры адзначылі: «усе грунты пад сябе забіраюць»[731] у вёсцы Сялец - «ад рэвізіі вольная»[732], у вёсцы Рымкі - «ўсё пад грамадой»[733]. Адносна вёскі Горск было пазначана, што ўсю зямлю «грамада трымае паводле камісіі 1679 г»[734].

Цалкам на грамаду рэвізоры Берасцейскай і Кобрынскай эканоміі ўскладалі абавязкі выплаты феадальнай рэнты і тады, калі ў вёсцы было вельмі многа людзей, якія былі не ў стане выплаціць падаткі. У прыватнасці, на аркушы інвентару 1742 г. з апісаннем павіннасцей вёскі Патрыкі запісана: «так як тая вёска ва ўбоства ўпала - падаткі павінны на грамаду раскладвацца»[735].

Грамада несла адказнасць за сваіх членаў не толькі за невыкананне імі павіннасцей, але і за розныя супрацьпраўныя ўчынкі, грашовыя і матэрыяльныя пазыкі і г. д. Напрыклад, у дэкларацыі для Кобрынскага ключа 1742 г. прадпісвалася, што крэдыторам, якія «на грамадзе ... людзям пазычалі, а цяпер якіх у вёсцы няма, грамада за іх абы плаціла»[736]. Крыху далей рэвізор яшчэ раз падкрэсліў гэтае правіла: «за тых людзей, якіх зараз у сяле няма, абы грамада за іх плаціла»[737].

Падобная, але са сваімі асаблівасцямі была сітуацыя ў размешчанай таксама на захадзе Беларусі Гарадзенскай эканоміі. Першыя спробы перавесці яе насельніцтва на чынш адносяцца яшчэ да 1639 г.[738] Як ужо адзначалася вышэй, для гэтай эканоміі ў 1679 г. ізноў была выдадзена спецыяльная інструкцыя, згодна з якой планаваліся перавод сялянства на чынш, усталяванне простых і зразумелых для сялянства правіл аў збору і выплаты падаткаў[739]. Тут разам з пераводам сялян на голы чынш улада імкнулася перастрахавацца і перакласці адказнасць за любыя непрадугледжаныя выпадкі (неўраджай, пажар і інш.) на сялянскую абшчыну. Напрыклад, пры апісанні вёскі Пагараны Квасаўскага ключа быў змешчаны стандартны тэкст, які потым паўтараўся ў запісах адносна іншых вёсак Гарадзенскай эканоміі[740]. У адпаведнасці з ім сяляне кожнага ключа павінны былі не толькі складвацца ў выпадку нейкіх катаклізмаў, але і «ўсе за аднаго. а адзін за ўсіх выплачваць абавязаліся» («A iesliby się Casus iaki stał na którego Prawne

[730] LVIA .F . SA ,bib. 11999, p85.

[731] Тамсама. - P.85-86v.

[732] Тамсама. - P.89.

[733] Тамсама. - P.135.

[734] Тамсама. - P.151.

[735] Тамсама. - P.109v.

[736] Тамсама. - P.104, 122.

[737] Тамсама. - P.122.

[738] Похилевич, Д Л Крестьяне Белоруссии и Литвы вXVI-XVIIIвв. - С.121.

[739] НГАБ, ф.1882, воп.1, спр.3, арк.64.

[740] LVIA .F . 110, ap. 1, bib.3 ,p .25.

poparcia znacznego by kosztu tedy na to cały Klucz na to się składać za wiadomoscią Dwora będzie powinen. A względem wypłacenia czynszu wszyscy za iednego, a ieden za wszystkich wypłacać obowiązali się. A za tym iuż od wszystkich innych powinności i ciżarow wolnymi zostawać maią»)[741]. Дарэчы, гэты прыклад яскрава сведчыць аб наяўнасці на тэрыторыі Гарадзенскай эканоміі менавіта валасной, ці тэрытарыяльнай, абшчыны, у якую ўваходзілі грамады асобных сёл.

У адносінах да іншых сёл эканоміі, дзе такой кругавой парукі не было, прадугледжвалася, што калі хто-небудзь з сялян не выплаціць у прызначаны тэрмін чынш, то «ўсё сяло ці іншы падданы... узяўшы грунт яго, чынш і іншыя падаткі выплаціць павінен»[742].

У Гарадзенскай эканоміі былую фальваркавую зямлю таксама раздавалі сялянскім абшчынам, на грамаду агулам накладваўся і чынш. Але ў эканоміі склалася практыка (пра гэта адзначалася і ў інвентары 1708-1712 гг.), згодна з якой сяляне, узяўшы фальваркавую зямлю, потым «перазакладвалі» яе прыватнаўласніцкім сялянам, а то і шляхце за больш высокія сумы[743]. Рэвізоры прыводзілі прыклады, калі сяляне здавалі «слуп пашні дворнай» за 100 зл., а самі абавязаны былі заплаціць з гэтай зямлі толькі 50 зл. чыншу ў скарб[744]. Іншыя сяляне засявалі для сваіх патрэб зямлю «на старане», напэўна яшчэ на больш выгадных умовах, чым у эканоміі. У інвентары 1680 г. зафіксавана патрабаванне спыніць такую практыку: «калі б хто з падданых чужыя грунты дзе на старане засяваў, а свае або ад вёскі прынятыя запусціў, той павінен будзе заплаціць грамадзе сваёй вёскі штраф 30 зл. і страчвае права на пасеянае за межамі вёскі збожжа» («Aiesli-by ktory z Poddanych cudze Grunty gdzie na Stronie zasiewał, a swoie abo ode wsi przięte opuszczał, tedy takomu każdy zł. 30 winy Gromadzie swoiey zapłaci y od zboża ktoreby na Stronie zasiał odpadać będzie»)[745]. Такія выразы сведчаць таксама пра тое, што былое фальваркавае ворыва прымала іменна грамада, яна размяркоўвала зямлю паміж абшчыннікамі ці дазваляла ім «прыняць» той ці іншы ўчастак («слуп»). Натуральна, што абшчына ў гэтым выпадку выступала перад скарбам у якасці плацельшчыка агульнай сумы чыншу за прынятую ёю зямлю.

Як адзначаў Д. Л. Пахілевіч, згодна з запісамі ў інвентарах у Гарадзенскай эканоміі, землі былі дзвюх катэгорый: аселыя і чыншавыя. Аселыя – гэта асноўны надзел, з якога прызначаліся ўсе павіннасці; чыншавыя – землі, за якія плацілі толькі прызначаны чынш, прычым платы за чыншавыя землі былі меншымі, чым за аселыя. Даследчык звярнуў увагу на тое, што сяляне Гарадзенскай эканоміі да 1712 г. «ужо даўно змяшалі ў адзін фонд і перадзялілі іх паміж сабой, выплачваючы двару за кожную валоку суму, што атрымлівалася ад дзялення ўсёй колькасці грошай, якія былі прызначаны на сяло, на агульную колькасць валок»[746].

Аналізуючы сітуацыю ў Гарадзенскай эканоміі ў 1712 г., Д. Л. Пахілевіч адзначыў, што сялянскія абшчыны часта бралі ў апрацоўку былое фальваркавае ворыва і апрацоўвалі яго поўнасцю, нягледзячы на тое што ў пустках ляжала многа

[741] LVIA. F. 110, ap. 1, bib. 3, p. 25, 47, 50v.

[742] Тамсама. - P. 7.

[743] Тамсама. - F. SA, bib. 11290, p. 6, 70v.

[744] Тамсама. - P. 6.

[745] Тамсама. - P. 25v.

[746] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 127; LVIA. F. SA, bib. 11291, p. 20, 21v, 27, 27v.

сялянскіх валок. На думку вучонага, тлумачылася гэта наступным: «...па-першае, што дваровыя землі былі лепшымі ад сялянскіх (у 1563 г. яны лічыліся «добрымі»), а па-другое, тым, што плату за іх двор збіраў з сялянскай абшчыны незалежна ад таго, засеяныя яны, ці не»[747]. Як бы там ні было, і ў такіх выпадках плацельшчыкам перад дзяржавай звычайна выступаў не асобны селянін, а грамада, бо ў некаторых крыніцах прама паведамляецца, што сяляне «разбіралі» зямлю і, склаўшыся, плацілі за яе[748].

Дарэчы, былая дваровая, ці фальваркавая, зямля, якая разбіралася сялянскімі абшчынамі, часта абазначалася не толькі ў валоках і моргах, а і ў адзінках, памеры якіх высветліць аўтару не ўдалося. Так, у Гарадзенскай эканоміі ў 1712 г. гэта былі «слупы». Д.Л. Пахілевіч заўважыў, што «за «слуп» дваровага ворыва сёлы плацілі агулам, г. зн. разам, як яны плацілі разам і за абшчынныя землі. Аднак «слупом» яны карысталіся, можна меркаваць, не разам, а развёрсталі яго паміж гаспадаркамі»[749].

Магчыма, гэта былі цэлыя загоны былога дваровага ворыва, памеры якіх рэвізорам не былі дакладна вядомыя, а паколькі мерніка ў у неабходнай колькасці не мелася, то фальваркавыя землі аддаваліся сялянскім абшчынам «на пагляд». Тым больш што перад рэвізорамі стаяла задача раздаць на чынш ці «трэці сноп» усе фальваркавыя землі, без астатку.

У Берасцейскай і Кобрынскай эканоміях у першай палове XVIII ст. сялянскія ўчасткі на былых фальваркавых землях называлі «стаямі». Так, у «рэвізіі засеяных палёў Кобрынскага ключа», праведзенай у ліпені 1723 г., пры апісанні зямель вёскі Баршчы было адзначана, што пры ёй «няма валок шнуровых, а толькі стаі» («Pod tą wsią żadnych włok sznurowych niemasz, ale tylko przy Rewizy i teraźniejszej na łasztosie po Boru pozasiewali Stay na wlokę wyrachowanych 35 dla lepszienie kładzie się ogułem na te wieś czynszu 45 t., groszowego 11., na Prokuratora 6»)[750]. Ва ўказаных вышэй эканоміях «стаі» сялянамі разбіраліся на трэці сноп, так, як гэта было і ў Гарадзенскай эканоміі са «слупамі». Напрыклад, у 1730 г. у Кобрынскім ключы ў вёсцы Хабавічы зямлю ўзяла «грамада стаямі на трацяк»[751]. Як сведчыць інвентар Белавежскага лясніцтва 1698 г., там у некаторых вёсках (напрыклад, у вёсцы Поліны[752]) зямля таксама засявалася «стаямі». Пры апісанні ў 1721 г. павіннасцей вёскі Крывая Вярба Кобрынскай эканоміі пісар адзначыў, што пустыя валокі ўлічваюцца на стаі, з кожнай стаі збіраецца па аднаму тынфу («puste włoki stajami kładą się z każdego staju wiecznego tynfn należy»)[753].

У выпісцы з інвентару генеральнай рэвізіі Берасцейскай і Кобрынскай эканомій 1721 г. у адносінах да Крывавербскага ключа Кобрынскай эканоміі быў яшчэ раз пацверджаны парадак выбрання чыншу: «...чынш войты або лаўнікі па вёсках збіраць павінны ад Св. Марціна аж да Св. Юр'я і аддаваць у Крывавербскі двор. Калі якая вёска з супрацiву свайго на працягу таго часу яго не аддала, тады

[747] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 127.

[748] НГАБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1556, арк. 1; ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 1625, арк. 21; LVIA. F. SA, b. 1199, p. 104, 122.

[749] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 126.

[750] AGAD. ARP, sign. 190, p. 23.

[751] Тамсама. - P. 150.

[752] LWA. F. 1292, ap. 1, bib. 304, p. 5.

[753] AGAD. ARP, sign. 183, p. 310.

павінен пан падстароста ехаць і збіраць затрыманы чынш» («...czynsz zaś wójtowie lub ławniki po wsiach wybierać mają od Sw. Marcina aż do S. Jeżego narodzenia oddawać i wynosić mają do dworu Krzywowerbskiego. A jeżeli by ktura wieś z uporu swego w tym czasie nie oddala, tedy pan podstarości ma ziechać y czynsz zatrzymany wybierać...»)[754].

Пры зборы чыншу ў грамадзе адбываліся «складанкі» і «порубы» (раскладкі на асобных членаў грамады), што вынікае з тэксту ўставы сялу Любянцы, якое адносілася да двара Ламазы Берасцейскай эканоміі, які датаваны 5 лютага 1680 г. Акрамя агульных павіннасцей сяла ў гэтай уставе былі пазначаны і некаторыя выключэнні, якія якраз і раскрываюць сутнасць гэтых складанак і порубаў. Так, аб тым, што ў сяле былі складанкі грашыма не толькі на выплату агульнага чыншу, але і на іншыя патрэбы, сведчыць запіс, паводле якога рэвізоры вызвалілі на тры гады «ад складанак і порубаў сельскіх», пакінуўшы толькі чынш Ігната Заневіча, пагарэльца («Ichnat Zaniewicz pogorzelec wolny do lat trzech od składanek y Porubow, z Sielskich tylko Czynszu płacić będzie do Skarbu JKMci 2. 25 gr.»)[755]. На адзін год быў вызвалены ад складанак і пабораў Мікіта Кравец як новаасельы («Mikita Krawiec płacić będzie Składok i Poborów Sielskich że nowo osiada, wolen do roku, a kiedy na ustawiczney będzie Dworskiej robocie czynszu dawać nie powinen»)[756]. Тут таксама прысутнічае стандартны выраз аб зборы чыншу. «Чынш войты або лаўнікі па вёсках збіраць і да двара аддаваць павінны. А калі ў той час «якая вёска з свайго ўпору, чыншу не аддала, тады пан падстароста Ламазскі павінен ехаць і збіраць затрыманы чынш...» («Czynsz zaś wójtowie lub ławnicy po wsiach wybierać i na dwór oddawać powinni. A jeżli by w tym czasie która wieś z uporu swego, szyn-szu nie oddała, tody dopiero pan Podsarości Łomazski ma ziechać i czynsz zatrymany wybierać...»)[757].

Выразныя звесткі пра існаванне абшчыны ёсць таксама ў дакументах дзяржаўных уладанняў усходу Беларусі. Так, у 1668 г. у сёлах Валосавічы і Палканечы, прыпісаных да Бабруйскага замка, было больш за валоку грунту, які «ўсё сяло на чыншу прыняло», агулам на грамаду была прызначана мядовая даніна («мёду агулам камянёў 8 па коп 2»), меліся засценкі агульнага карыстанння, рыбныя ловы і бабровыя гоны[758]. Практычна ў кожнай вёсцы Бабруйскага староства ў 1738 г. былі засцянковыя землі, з якіх сяляне сумесна плацілі чынш[759]. Запісы ў інвентары маюць стандартны характар, напрыклад, адносна вёскі Кабылічы: «Тая вёска агулам плаціць за свой обруб» («Ta wieś ogułem płaci za swoi obrąb»)[760]. Аб тым. што ў дзяржаве Азарычы Гомельскага староства ў 1738 г. функцыяніравала грамада, сведчыць наступны запіс: «Поп на адной чвертцы таго ж грунту сядзіць, да скарбу не плаціць, толькі гіберну зароўна з грамадой... (выдзелена намі. - В. Г)»[761]. У інвентары Дрысвяцкага ключа Віленскага ваяводства за 1694 г. у адносінах да ўсіх пералічаных вёсак былі зроблены адзнакі аб сумеснай аплаце за ворыўныя

[754] AGAD. ARP, sign. 183, p. 310.

[755] Тамсама. - Sign. 181, p. 7.

[756] Тамсама.

[757] Тамсама. - P. 8.

[758] НГАБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1584, арк. 11-12.

[759] LVIA. F. SA, bib. 3774, p. 1335-1341.

[760] Тамсама. - P. 1339.

[761] LVIA. F. SA, bib. 3774, p. 1294v.

валокі («гэтыя ўсе агулам плацяць» ,« да агульнай платы валок дзвс» і да т. п.)[762].

На ўсходзе Беларусі, дзе былі яшчэ большыя разбурэнні, выкліканыя войнамі, сяляне актыўна карысталіся дзяржаўнымі землямі, якія ляжалі ў пустках. Адной з найбольш распаўсюджаных форм супольнага землекарыстання, асабліва пры выкарыстанні пустак, у гэты перыяд была снопаўшчызна. У крыніцах, як правіла, не раскрываецца механізм размеркавання зямлі ўнутры грамады (стандарту, відаць, і не было). Звычайна ў інвентарах адзначалася, што грамада пагадзілася ўзяць пэўную колькасць валок на трэці ці чацвёрты сноп. У іншых выпадках паведамлялася, што за ўзятую зямлю сяляне будуць плаціць «агулам»[763]. Можна меркаваць, што дадатковыя землі разбіраліся сялянскімі гаспадаркамі ў залежнасці ад іх патрэбы ў зямлі і забяспечанасці рабочымі рукамі і цяглавай жывёлай. Існаванне снопаўшчызны пацвярджаецца таксама запісамі ў інвентары ста-роства Радашковічы (1738 г.[764]).

Трэці сноп з пустак грамада давала ў Дрысвяцкім ключы эканоміі Віленскага ваяводства ў 1682 г.[765], у Прапойскім старостве ў 1681 г.[766], у Чачэрскім старостве ў 1726 г.[767], пусткі трымала грамада ў сёлах Усвяцкага староства ў 1743 г.: «1/2 валокі пустых, грамада плаціць павінна»[768]. Хутчэй за ўсё, ва Усвяцкім старостве пад службай разумелася цэлая вёска-абшчына. На карысць такой думкі сведчыць і адсутнасць тэрміна «сяло» пры апісанні павіннасцей воласці. Выраз «тыя ж самыя жыльцы»[769] пры апісанні адной з служб, на нашу думку, пацвярджае меркаванне аб тым, што размова ідзе пра населены пункт, а не зямельны надзел. Амаль каля кожнай назвы службы-вёскі, дзе ёсць пусткі пазначана «на пяціне да замку»[770]. Гэта, напэўна, пяты сноп, які давала служба з пустак (як трэці ці чацвёрты - у іншых рэгіёнах). Паказальна і тое, што гэтая пяціна была прызначана на ўсю службу, а не распісана па сем'ях.

Як указвалася раней, пусткі з трэцяга снапа сяляне бралі і ў заходніх уладаннях. Так, у першай палове XVIII ст. Станіслаў Тадэвуш Куцкі, лоўчы Берасцейскай і Кобрынскай эканомій, паведамляў аканому Яну Дуцкаму, што пры рэвізіі рунтаў многія вёскі выказалі жаданне ўзяць зямлю з трэцяга снапа («ktoreby wsie z gruntu snop trzeci dawać chceli»). Адзначалася, што гэта можна будзе зрабіць, неабходна толькі «траціннікаў слушных» (тых, хто будзе падлічваць трэці сноп) паставіць і каб яны прынеслі прысягу[771].

У Любашанскім старостве Аршанскага павета ў 1737 г. у вёсках Мацеевічы, Стаялы, Усакіні, Доўгая, Загацце, Цярэшын, Дулебы, Варыкосічы, Ляскавічы, Журоўка за пусткі плаціла грамада («за пусткі уся веска плаціць»)[772].

---

[762] Тамсама. - F.1292, ap. 1, bib.299, p.4v-7.

[763] НГАБ, ф.320, воп.1, спр. 1, арк. 133; ф.694, воп.4, спр. 1556, арк. 203-213; ф. КМФ-5, воп. 1, 51924, арк. 26, 27; спр.1925, арк. 42; спр. 1926, арк. 22; спр. 1928, арк. 65, 100; ф. 1882, воп. 1, ). 1, арк. 27; ф.1928, воп. 1, спр. 1, арк. 103 адв., 104; спр.9, арк. 251-256.

[764] LWA. F. SA, bib. 3774, p. 1255v-1256v.

[765] VUB RS. F. 4, bib. A 1789, p. 1-12.

[766] НГАБ, ф.694, воп.4, спр.1556, арк. 205 адв. - 210.

[767] ZNIO. Rkps. 5771, p. 36.

[768] Czart. Rkps. S. L 9319, p. 6.

[769] Тамсама.

[770] Тамсама. - P.25.

[771] AGAD. ARP, sign. 183, p. 378.

[772] Тамсама. APJ, sign. 147, fascykul 3, nienumer.

У інвентары таго ж староства 1738 г. таксама паведамлялася, што з пустак плаціла разам сельская грамада. Так, у інвентарным апісанні ў радку насупраць вёскі Гарэнічы было пазначана «за пусткі плацяць 5 тынфаў», у радках насупраць вёсак Лешніца, Мацеевічы, Сталяры, Усакіні, Доўгая, Забалоцце, Цярэшын, Варыюсічы, Вязеўцы, Кукарава, Высокая Гара, Тылькаўка, Ляскавічы - «за пусткі ўся вёска... тынфаў»[773]. Адносна вёскі Дулебы была ўказана назва зямельнага ўчастка, які ўзяла грамада: «за грунт Восаў уся вёска 13 тынфаў, за пусткі ўся вёска - 15», а адносна вёскі Журоўка: «за пусткі ўся вёска 7 тынфаў, за грунт Енеральскі - 10»[774]. Са староства яшчэ збіралася 80 пудоў мёду, «зсыпка» 90 пудоў ячменю і 85 пудоў аўса. Хутчэй за ўсё, гэтая даніна прызначалася на вёскі агулам.

Падобная сітуацыя існавала і ў Прапойскім староства ў 1675 г. У рэестры збірання чыншу пры назве амаль кожнага сяла было адзначана, што «цэлым сялом трымаюць» пэўную колькасць моргаў[775], а каля сёл Абакунавічы, Дуброўкі, Палужжа, Собалі нават дэталізавана, як грамада плаціла за гэтыя землі: «усім сялом складваюцца і плацяць»[776]. У інвентары паведамлялася таксама пра выган у сяле Шыкаўка, які трымала за плату ўсё сяло («паша моргаў 26 2/3, плата 13 злотых 10 грошаў»[777]. У рэестры 1676 г. адносна сяла Палоскі таксама запісана «цэлым сялом складваюцца і плацяць»[778]. Сумесныя землі адзначаны ва ўсіх сёлах названага староства, і не выклікае сумнення, што там таксама адбывалася раскладка зямлі па асобных гаспадарках, і пры выплаце чыншу з сяла кожная з такіх гаспадарак рабіла адпаведны ўзнос у агульную касу.

Такая ж карціна назіралася ў Прапойскім старостве і ў 1681 г. Ва ўсіх сёлах староства былі пустыя землі, яны называліся «польнымі моргамі» (напэўна таму. што ворыўную, палявую зямлю абшчына дзяліла паміж сваімі членамі на моргі), з іх плаціла ўсё сяло[779]. Пазначыўшы колькасць польных моргаў, рэвізор абавязкова запісваў, што яны дадзены «ўсяму сялу» ці што іх «ўсё сяло трымае». Акрамя польных моргаў у сёлах былі пазначаны і землі «пустыя на снапе», сяло Хварасцяны разам трымала «айчызну» («та вёска агулам трымае адну айчызну»)[780].

У інвентары Прапойскага староства 1681 г. адзначалася таксама, што сяло Жэромы мае сенажаць, якой «па даўняму звычаю карыстаецца бясплатна», абшчыны сёл Устання, Шыкаўка, Хварасцяны, Палужжа, Бірулі, Собалі, Абакунавічы разам трымалі не толькі польныя моргі, але і айчызны, плата з якіх была большай[781].

У 1750 г. зямельныя надзелы сялян Прапонскага староства выбіраліся і ўвалоках і ў айчызнах. Многія сялянскія гаспадаркі мелі як частку валокі, так і

---

[773] Тамсама. - Sign. 149, nienumer.

[774] Тамсама. ZMN, sign. 1168.

[775] НГАБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1556, арк. 147 адв. - 152 адв.

[776] Тамсама. - Арк. 149, 151 адв.

[777] Тамсама. - Арк. 149.

[778] Тамсама. - Арк. 160 адв.

[779] Тамсама. - Арк. 205 адв. - 210.

[780] Тамсама. - Арк. 208.

[781] НГАБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1556, арк. 203 адв - 213 адв.

частку айчызны, прычым інвентар не дазваляе высветліць розніцу паміж імі. Практычна ва ўсіх сёлах засталіся не толькі польныя моргі, але і іншыя землі агульнага карыстання: айчызны (сёлы Хварасцяны, Устанна), лугі (сёлы Рынкаўка, Дуброўкі, Доўгая, Аляксандраўка, Прыпяценка) і інш.[782] Але заўважна, што землеўласнік ужо адмаўляецца ад ранейшай падтрымкі грамады, зямля ў вёсках распісана не агулам, а па асобных гаспадарках, і адзначана. што «той, хто трымае цэлую валоку грунту, павінен плаціць рускай манетай 36»[783]. Разам з тым у сяле Ржаўка юлькасць зямлі не абазначана, а толькі запісана, што «тое сяло агулам плаціць 40 зл.»[784] Напэўна, арганізацыя й землекарыстання ў гэтым сяле, па аналогіі з сіуацыяй у іншых уладаннях, займалася грамада.

Пра існаванне абшчыны ў Магілёўскай эканоміі сведчыць яе інвентар за 1672 г, кладзены падчас рэвізіі, якая адбылася па распараджэнню вялікага князя і караля Міхала Вішнявецкага[785]. Эканомія была падзелена на 12 войтаўстваў на чале з войтамі, якія адначасова з'яўляліся і прадстаўнікамі абшчыны перад уладамі, даследаваных аўтарам матэрыялаў, якія датычацца 187 вёсак Магілёўскай эканоміі (не браліся да разгляду татарскія вёскі і тыя, што знаходзіліся ў трыманні шляхты, бо ў іх адсутнічае інфармацыя аб сельскім насельніцтве), удалося выявіць сведчанні аб існаванні грамады ў 68 вёсках. Гэта перш за ўсё трыманне вёскай разам ворыўных або сенажатных моргаў і агульная плата за іх разам. Ворыўныя моргі былі адзначаны ў сумесным карыстанні грамады ў вёсках Возе, Васілевічы, Даманы[786]. Як паведамляў рэвізорам войт, падданыя вёскі Рыжыўка ўзялі каля 5 пустых валок і «абяцалі плаціць з валокі па коп 2»[787]. Падданныя сяла Доўгі Мост узялі ў карыстанне разам ажно 322 моргі[788]. У вёсцы Чанкі, або Кішчыцы, з 252 моргаў «мужове моргаў 2114 трымаюць»[789].

Сенажатныя моргі, з якіх вёска плаціла склаўшыся разам, у распараджэнні абшчыны былі ў вёсках Падгайцы («моргаў 29 сяло само трымае»[790]), Алюціна, Ірадзец, Кісялі, Пудоўня, Цямровічы[791]. Адносна вёскі Гарошкі ў дакуменце азвалася, што сяло ўзяло дзве з паловай валокі ворыўнай зямлі («Siołowzięłowłok 2 $^1/_2$»[792]), а ў вёсцы Рыкі сяляне «захапілі» паўтары валокі («Sielaiiie zaczepneli połtory wl. Płacić będą kop 3»[793]).

Сустракаюцца сведчанні пра тое, што сяляне разам разбіралі пусткі, напрыклад у вёсках Трылесін, Пуцкі[794]. У вёсцы Кругі Плешчыцкага войтаўства

[782] Тамсама.- Арк.219 адв.- 229 адв.

[783] Тамсама.- Арк.219 адв.

[784] Тамсама.- Арк.221.

[785] ZNIO. Rkps. 243, p. 1-233.

[786] Тамсама.- P. 20, 37v, 42v.

[787] Тамсама.- P. 99.

[788] Тамсама.- P. 106.

[789] Тамсама.- P. 113v.

[790] Тамсама.- P. 23v.

[791] Тамсама.- P. 26v, 38v, 40v, 48, 78v.

[792] ZNIO. Rkps. 243, p. 57.

[793] Тамсама.- P. 58.

[794] Тамсама.- P63, 73

.

была адна прыёмная валока ўзасценку, якую «сяло разабрала»[795]. У вёсцы Бобцы «Дзяніс Кадуноў і Мацка Паўлаў сваім і іншых мужоў іменем з лустых 8 валок, каторыя па частках разабралі, пастанавілі плаціць па грошаў 30.г.зн.коп4»[796].

Аб тым, што грамада дзяліла паміж сваімі членамі ўзятую зямлю, сведчыць выраз «паміж сабой разабралі». Так, насупраць назвы вёскі Перакладавічы ў дакуменце пісар пазначыў: «прыёмныя і пустыя сяло разабрала»[797]. Больш за чатыры валокі падзялілі сяляне вёскі Запруддзе[798], у вёсцы Машчаны 11 валок «мужове між сабой разабралі» («11 pustych włok Mużowie między sobą rozebrali»)[799].

У інвентары адзначаны таксама выпадак, калі грамада прадавала сенажаці. Так, 20 моргаў сегажаці прадала магілёўскаму пушкару Арцёму Цішкевічу грамада вёскі Падгайцы Плешчыцкага войтаўства: («Z tych 20 morgów wieś przedała Arciomowi Ciszkiewiczowi, Puszkarzowi Mohilowskiemu, a morgów 20 wieś sama trzyma»)[800].

У некаторых вёсках Магілёўскай эканоміі ва ўласнасці грамады знаходзілася нават нерухомая маёмасць, найчасцей – млыны. Так, сяляне вёскі Здановічы Бардзілоўскага войтаўства трымалі млын («...з млына, каторы ў той вёсцы хлопы трымаюць»[801]). Млынам валодалі і сяляне вёсак Гасподы («Młyn sioło trzyma»[802]), Агеевіны, Рымінка, Мхінічы[803]. У вёсцы Ханкевічы сялянам дазволілі пабудаваць млын разам з грамадой вёскі Хількевічы, за што ім прадпісвалася плаціць штогод па 16 коп літоўскіх[804]. Прасілі дазволу на пабудову млыну і сяляне вёскі Шастакі[805].

Сялянам Магілёўскай воласці рэвізоры дазволілі стварыць свой, уласны паром («перавоз») для пераправы праз Днепр («Dozwalamy Włości mieć inszy Przewoź pod Miastem»)[806]. Указвалася, што паром павінен быць зроблены адразу пасля ледаходу за кошт воласці, прычым сяляне воласці будуць карыстацца ім бясплатна пры неабходнасці адвезці нешта ў Магілёўскі замак. Паром, якім сяляне карысталіся раней, належаў манахам (чарняцам манастыра Св. Спаса), і за яго прыходзілася дорага плаціць.

Ва Уставе, прыкладзенай да інвентару Магілёўскай эканоміі 1672 г., вызначаны парадак збору чыншу з валок: «на чым каторы муж сядзіць», ён павінен аддадь «дарук лаўніка свайго, лаўнік дарук войта свайго» (значыць, лаўнікі былі ў кожнай вёсцы. - В. Г.)[807] Пасля гэтага лаўнікі ўсяго войтаўства разам з войтам павінны былі аднесці чынш у Магілёўскі замак, аддаць яго падстаросту ці

---

795 Тамсама. - Р.28.

796 Тамсама. - Р.65.

797 Тамсама. - Р.108v.

798 Тамсама. - Р.178v.

799 Тамсама. - Р.191.

800 Тамсама. - Р.23v.

801 Тамсама. - Р.48-49.

802 Тамсама. - Р.61v.

803 Тамсама. - Р.166, 172 v, 189.

804 Тамсама. - Р.54 v.

805 Тамсама. - Р.26-26v.

806 Тамсама. – Р.233 v.

807 ZNIO. Rkps. 243, p.228.

магілёўскаму намесніку і атрымаць у пацвярджэнне адпаведную квітанцыю. У інструкцыі для адміністрацыі эканоміі рэвізоры яшчэ раз падкрэслілі, што ў Магілёўскай эканоміі чынш збіраюць самі лаўнікі ў сваіх сёлах, а не замкавыя зборшчыкі («бірчыя»)[808].

Рэвізоры адзначылі, што больш заможныя члены абшчын пры зборы чыншу, падаткаў і іншых складанак крыўдзяць беднякоў, бо пры раскладцы не ўлічваецца тое, хто колькі зямлі трымае, і сума падатку з усіх збіралася аднолькавая: («W składankach czynsze y inne wszystkie tak Zamkowe iako publiczne Rzeczy P(ospoli)tey podatki ponieważ inueteratoerrore po całey włości Oekonomiczney bogatsi Mużowie ubożczym krzywdę czynią przez to że nie maiąc żadnego respektu, iako wiele który gruntów *zarabia*, wszystkie podatki zarówno na nayuboższych iako i naibogats/ych z Miedzy na Miedzę, żyle włoki z pustemi confunduiąc nakładała»)[809].

Таму рэвізоры зрабілі рээстр – перапісалі ўсіх сялян па імёнах і прозвішчах разам з колькасцю зямлі, пасля чаго загадалі надалей кіравацца гэтым дакументам пры зборы чыншу і падаткаў («раскладаць на падданых»), Для насельніцтва гэта было навіной, таму рэвізоры загадалі «па войтаўствах з кожнага сяла лаўнікам і мужам старшым» перад зборам падаткаў у адпаведнасці са згаданым рээстрам разлічыць паводле інвентару, колькі на канкрэтнага селяніна прыпадае якога падатку.Рэвізоры, валодаючы інфармацыяй аб тым, што ў грамадзе падаткі збіралі па-іншаму, патрабавалі: «раз, другі і трэці павінны зрабіць гэта, пакуль той парадак слушных і справядлівых складанак не будзе ўведзены» («Coraz, drugi i trzeci ma uczynić póki ich w ten porządek słusznych y sprawiedliwych składanek nie wprawi»)[810].

Адміністрацыя, ведаючы аб нежаданні старых абшчыннікаў прымаць чужых людзей, прыхадняў, новікаў, спецыяльна запісала ў якасці абавязку члена абшчыны саступіць сваю прыёмную валоку ў выпадку, калі новік захоча ўзяць яе ў якасці аседлай («Kto zechce z Nowikow Uroczną włókę a Przyiemnę wziąć na żyłość, temu iey każdy Muz powinen ustąpić y od Zamku mu ma bydz podana»)[811]. Абавязкам усёй Магілеўскай воласці, як і раней, заставаўся рамонт сваёй часткі гарадскога вала»[812].

На чыншы заставалася большасць насельніцтва Магілёўскай эканоміі паводле інвентару 1742-1743 гг. Але рэвізоры яшчэ больш удакладнілі правілы збірання чыншу і падаткаў. Прадугледжвалася выдача ўсім сельскім гаспадарам спецыяльнай кніжкі, у якой неабходна адзначаць як выплачаныя селянінам падаткі, так і яго даўгі («kwituiąc gdy co na którym mężu zalega, nomen et Cognomen każdego aby było wyrażone y zapisane, a nie anonime, aby niewinny pod czas za winnego nie pokutował...»)[813].

Грамада працягвала існаваць не толькі ў каралеўскіх эканоміях, але і ў староствах і дзяржавах. Як і ў маёнтках, здадзеных у арэнду, яна выступала тут у якасці штодзённага кантралёра дзейнасці трымальнікаў і арандатараў.

На прыкладзе дакументаў аднаго з самых вялікіх староостваў на ўсходзе Беларусі – Любашанскага можна прасачыць дзейнасць грамады, змяненне яе ролі ў залежнасці ад накірунку гаспадарчага развіцця ўладання. У 1662 г. у старостве не

[808] Тамсама. - P.231.
[809] Тамсама. - P.231v.

[810] Тамсама.

[811] Тамсама. - P.232v.

[812] Тамсама. - P 233.

[813] AGAD. AK, sign. III/240, p. 297-298.

было фальваркаў, а сяляне плацілі з аднаго пуда зямлі 10 злотых і давалі дзякла. Складальнік інвентару Любашанскага староства за 1662 г. адзначаў, што «ў той воласці двара няма, толькі фальварачак, які называецца Журоўка. Збожжа не знайшоў, бо гумна няма, а таксама ніякога быдла... На сябе толькі ў гэтым годзе ўраднік пасеяў жыта салянак 2, пшаніцы 8...»[814] Але ў інвентары 1698 г. ужо паведамлялася аб існаванні Бярэзінскага фальварка і новых павіннасцях насельніцтва: «выконваць павіннасці двару, а менавіта старожы калейныя з цэлай воласці... Фальваркавае ворыва Бярэзінскаму двару цэлая воласць як азімыя і яравыя, так і агародніну паводле даўняга звычаю засеяць, з поля потым сабраць і змалаціць, па чарзе на работу ідучы; луті дворныя касіць, гной з двара на дворныя палі вазіць і ўсялякія іншыя работы, якія двор будзе патрабаваць, як рамонт дворных будынкаў або будаўніцтва новых, па чарзе адпрацоўваць павінны»[815]. Некаторыя палажэнні дакумента прама сведчаць аб наяўнасці сумеснага землекарыстання ў вёсках Любашанскага староства. Так, вёскі Слабада з Навасёлкамі «з грунтаў сваіх і сенажаці павінны агулам плаціць зл.64»[816]. Шэраг вёсак разам плацілі і за пусткі: «асабліва цэлая вёска за пусташ плаціць 5 зл» (вёска Стаялы)[817]; «уся вёска за пусташ Вялікая Ніва плаціць 10 зл» (вёска Доўгая)[818]. Такія ж запісы ёсць пры назвах вёсак Загацце, Дабрыловічы, Ігліца, Дулебы, Матошкі, Вары-косічы, Кукарава, Вязеўцы[819].

З аналізу зместу рэвізорскай Уставы Прапойскага і Чачэрскага староستваў, складзенай у другой палове XVII ст., вынікае, што раней насельніцтва сядзела на службах і было абавязана толькі агульнымі чыншам і данінай (жыта, авёс, мёд, са службы адзін баран, два гусі, з дзвюх служб – вепр, з трох служб – ялавіца)[820]. З аднаго пераліку зразумела, што аддаваць гэтую даніну можна было толькі калектыўна. З асобных гаспадарак давалі толькі па курыцы («з дыму по кокошы»). Але рэвізоры адмянілі гэтую Уставу і прызначылі падаткі і павіннасці з «айчызн» («oyczyzn»), якіх было па шэсць у службе. Адбылася значная індывідуалізацыя падаткаабкладання: нават за бабровыя гоны, звярыныя і рыбныя ловы, старажоўшчыну збіралі спецыяльную плату з кожнай «айчызны». Воласць павінна была сабраць за падводную павіннасць з кожнай айчызны па 50 грошаў. Але валасная абшчына заставалася, поўнасцю не адмяняліся яе паўнамоцтвы ўсферы павіннаснага абкладання: агулам з Чачэрскай воласці на старосту трэба было аддаць 6 ялавіц, 5 вепраў, 20 бараноў, а з Прапойскай - 5 ялавіц, 5 вепраў, 15 бараноў[821].

Устава Рагачоўскай воласці крыху адрознівалася ад Уставы папярэднім валасцям. У Рагачоўскай воласці быў Забалоцкі фальварак, і «задняпроўскія вёскі павінны былі са службы па 12 дзён пешых адпрацаваць па чалавеку, бо летам праз

[814] Тамсама. APJ, sign.143, p.31.

[815] Тамсама.- Sign.131, p. 12.

[816] Тамсама.- P.3v.

[817] Тамсама.- P.5v.

[818] Тамсама.- P.6.

[819] Тамсама.- P.6v,7v-10.

[820] Czart. Rkps. S. L 11921, nienumer.

[821] Czart. Rkps. S. L 11921, nienumer.

раку ні з коньмі, ніз валамі прыбыць немагчыма»[822] Аб існаванні абшчыны ўвёсках задняпроўскіх валасцей можа сведчыць і наступны запіс: «На тым баку Дняпра з вёскі даюць коп 5»[823]. Звычайна ў Падняпроўскіх валасцях падобныя запісы рабілі тады, калі даніну і чынш прызначалі на ўсё сяло разам. Рагачоўцы разам таксама плацілі за бабровыя гоны, рыбныя і звярыныя ловы і павінны былі аддаць з чатырох служб ялавіцу, вепра, 20 бараноў з усёй воласці. «Старажоў паводле дауняга звычаю па 5 з воласці да замка і фальварка даваць павінны»[824].

Існаванне грамады пацвярджае і інвентар Чачэрскага староства Рэчыцкага павета, складзены ў 1726 г. камісарам Томашам Станіславам Чачотам, які прыехаў для правядзення рэвізіі. Інвентар пачынаецца з пераліку баярскіх вёсак: Жалезнікі, Грамыкі, Хізы, Чарпловічы, Шылавічы, Багдановічы, Струмень, Сябровічы, Свяцілавічы, Лапічы, Жабін, Енцы, Воранаўшчына, Луракі, Караткевічы і Сапагі[825]. Кожная з гэтых вёсак уяўляла сабой адну службу і налічвала розную колькасць дымоў. Абавязкам баяр было ўтрымліваць у парадку свае часткі Чачэрскага замка, у тым ліку байніцы, брамы, масты. Па загаду мастаўнічага кожная з названых вёсак павінна была рабіць масты «на рэках, рэчках, балотах». Падчас ярмарак у Чачэрску згаданыя баярскія вёскі адпраўлялі на варту ў горад пачалавеку з кожнай вёскі, яны ж утрымлівалі за свой кошт казачка для пасылак і інш.[826]

Сельская Чачэрская воласць дзялілася на войтаўствы. У кожным сяле былі названыя службы, у якіх звычайна ўваходзіла па 60 коп зямлі[827]. У некаторых сёлах частка зямлі знаходзілася пад грамадой. Так, у сяле Аўсімковічы Залескага зойтаўства за «1/2 капы аседлай усё сяло плаціць павінна»[828]. У сяле Валосавічы Талескага войтаўства пустыя землі былі разабраны сялянамі паміж сабой. Сяляне паведамлялі камісару, што войт таксама засеяў вялікі кавалак той пусткі, плаціць жа за гэтыя землі трэба было ўсім сялом[829]. З сохамі і баронамі кожнае цяглае войтаўства Чачэрскага староства павінна было па чарзе хадзіць «на зарабенне замкавай валокі і іншых палёў, як і на вываз гною, кашэнне сена... рамонт замкавага астрога, мастоў, грэбляў»[830].

У інвентарах Крычаўскага староства за канец XVII - першую палову XVIII ст. часта ўказваюцца сёлы, у якіх сяляне плацілі чынш з усёй зямлі ці асобна прынятых валок або моргаў «агулам», разам усім сялом. Як сведчаць гэтыя дакументы, дадатковыя агульныя землі грамада магла і не прымаць. Па меншай меры, ёсць выпадкі, калі ў адным і тым жа сяле пісар, адзначыўшы наяўнасць агуль-най зямлі, праз некалькі год ужо не фіксуе яе, затое яна можа быць указана як прынятая грамадой іншага сяла. Напрыклад, у інвентары Крычаўскага староства за

---

822 Тамсама.

823 Тамсама.

824 Тамсама.

825 ZNIO. Rkps. 5771, p. 3-7.

826 Тамсама. - P. 8; НЮМ. - Вып. XXVIII. - С. 39-40.

827 Тамсама. - P. 15-19.

828 Тамсама. - P. 15.

829 Тамсама. - P. 19.

830 ZNIO. Rkps. 5771, p. 36.

1670 г. такія землі адзначаны ў сяле Ушаковічы[831], у 1673 г. - у сёлах Ушаковічы. Вепрын[832] (адносна сяла Дамамерычы запісана: «Тыя хлопы не трымаюць жаднага грунту асобна»[833]), у 1682 г. - у сёлах Палужжа, Забяжаны, Панкі[834], у 1694 г. - у сёлах Міхевічы, Дрычава, Стары Стан, Палуж, Бярозкі[835], у 1709 г. - у сёлах Палуж, Курбакі, Баханы, Брацкевічы, Блудзімль, Тарасавічы, Галічы, Гулькі, Юрэвічы, Людкавічы[836], у 1712 г. - у сёлах Цімошкі, Галічы, Хоцімск Вялікі, Баханы, Блудзімль, Палуж[837]. Прыведзеныя факты сведчаць аб тым, што грамады некаторых сёл пастаянна мелі зямельны фонд агульнага карыстання. Да таго ж у гады эканамічнага аднаўлення абшчына, хутчэй за ўсё, даволі проста магла ўзяць у апрацоўку пэўную колькасць зямлі і, напэўна, магла адмовіцца ад яе.

Сенакосы, лугі, выганы, лясныя ўгоддзі працягвалі заставацца ў агульным карыстанні. Як правіла, яны лічыліся ўласнасцю грамады і імі часта карысталіся бясплатна, па старому звычаю, у адрозненне ад сенажатных моргаў, якія за плату магло ўзяць усё сяло ці асобны гаспадар. Хаця, як адзначаў Д. Л. Пахілевіч, сельскія абшчыны ў гэты час трымалі землі і бясплатна, і за грошы[838].

Прыкладаў, якія пацвярджаюць наяўнасць выганаў і сенакосаў у сельскай грамады, у архіўных матэрыялах зафіксавана вельмі шмат. Так, здаўна на выган вольная 1 валока была ў сяле Пагараны Квасаўскай воласці Гарадзенскай эканоміі (1712 г.)[839]. У сяле Козішча Кобрынскай эканоміі 1679 г. мелася 6 валок выгану[840] у сяле Малашэвічы Берасцейскай эканоміі ў 1668 г. было «на выган здаўна вольных ад платы валок 2»[841]. У 1738 г. у вёсках Барысаўскай воласці сяляне за луг плацілі агулам[842]. З пустаўскіх сенажацяў агульная плата уносілася ў сяле Хатоблін Крычаўскага староства ў 1694 г.[843] У інвентарах староства Ліпнішкі і Геранёны за 1671 і 1687 гг. пры апісанні многіх вёсак таксама адзначана, што яны агулам плацяць за сенажаці і выган[844].

З аналізу некаторых дакументаў вынікае, што сельскія абшчыны валодалі сумесна нерухомай уласнасцю. Вышэй ужо згадваліся абшчынныя млыны і паром у Магілёўскай эканоміі. У 1698 г. у Любашанскім старостве адзначаліся факты таго, што абшчыны валодалі не толькі млынамі, але і шынкамі. «За арэнду Журоўскую ўся вёска Журоўка з іншымі вёскамі, назначанымі плаціць пры вольных сваіх

[831] НГАБ, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 1924, арк. 27.

[832] Тамсама. - Спр. 1923, арк 32, 33.

[833] Тамсама. - Арк. 28.

[834] Тамсама. - Спр. 1926, арк 15, 22, 30.

[835] Тамсама. - Спр. 1928, арк 65, 69, 77, 93, 100.

[836] Тамсама. - Спр. 1929, арк 14, 16, 21, 24, 26, 31-33, 36.

[837] Тамсама. - Спр. 1930, арк 5-7, 13.

[838] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 123.

[839] LVIA. F. SA, bib. 11291, p. 14v.

[840] VUB RS. F. 4, b b. A 34321, p. 46.

[841] НГАБ, ф. 1928, воп. 1, спр. 36, арк. 9.

[842] LVIA. F. SA, bib. 3774, p. 1133-1135.

[843] НГАБ, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 1928, арк. 62.

[844] НГАБ, ф. 1928, воп. 1, спр. 158, арк 1-59; LVIA. F. SA, b b. 11491, p. 8-14.

шынках, павінна пры адбіранні чыншу, а таксама з млыну свайго па-віннааддаць суму 120 зл»[845]

Вядомы выпадкі, калі кіраўнік сельскай абшчыны ці яе прадстаўнік набываў пэўныя рэчы ці прадукты для ўсёй вёскі. Так, у 1743 г. у Любашанскім старостве сяляне пазычалі ў двара жыта на сяўбу («разданае на отсып»). У дакуменце адзначаны факт пазыкі, які быў зроблены абшчынай вёскі Няхонічы (сяляне з іншых вёсак бралі пазыку індывідуальна): «Асабліва войт няхоніцкі з мужамі на ўсю вёску Няхонічы ўзяў восем мерак»[846].

У першай палове XVIII ст. грамада вёскі Царкоўнае Берасцейскай эканоміі скардзілася на падкаморага, які адабраў у іх землі («zemli i grunta poodbierał nam, gdzie na tych grontach hodzi owsa osmaczek 30 y styrta siana na kilka sążni»)[847]. Але, галоўнае, што ён абкладваў вялікімі павіннасцямі млынара з абшчыннага млыну, прымушаючы млынара выкарміць сваім коштам вепра для згаданага падкаморага («Mielnika mamy któregoś my z drugich wsi cudzych zaciągnęli dla wygody Cały Gromady y tego cieszko utrzymać, bo mu wieprze do młyna wrzuca na karmienie a on ni ma czym karmić y tego u nas niebywałe»)[848].

У сяле Вепрын Крычаўскага старостства ў 1694 г. адзначана, што «здаўна ў іх было айчызн 12. зараз трымаюць айчызн 9, а 3 айчызны здалі сялу Вусце»[849].

Факты распараджэння зямлёй, якую грамада лічыла (са згоды ўлады) сваёй уласнасцю, прыводзіліся вышэй, пры апісанні абшчыны на тэрыторыі Берасцейскай і Кобрынскай эканоміі. Вядомы выпадкі, калі сяляне выдзялялі з абшчыннага фонду зямлю для пабудовы царквы або ўтрымання святара. Так было, напрыклад, у вёсцы Хатыславічы Палескага ключа Берасцейскай эканоміі (Дадатак 4), дзе грамада выдзеліла валоку грунту на утрыманне святара[850].

У 1724 г. на разгляд паноў-рады была пададзена супліка грамад вёсак Крынкі і Навасёлкі Рэчыцкага ключа Берасцейскай эканоміі («tak tedy gdy nam Panów Rad naszych przy roku naszym... przełożone y gorąca Supplika przez pracowitych poddannych naszych y Całe Gromady wsiow naszych Krynki i Nowosiołki klucza naszogo Rzeczyckiego...») з просьбай дазволіць адбудаваць уніяцкую царкву. У выніку кароль дазволіў аддаць на царкву «дзве валокі пустыя грамадскія» ў гэтых вёсках, адабраўшы іх ад іншых грунтаў грамады («dwie Włoki Puste Gromadzkie wewsiach ekonomicznych Krynkach y Nowosiołkach zniozszysię y porozumiawszy z Gromadami ich miarą tamtego Kraju zwyczayną według Proporcyi innych włok Gromadzkich ...wydzelit»)[851].

Як і раней, падводная павіннасць накладвалася цалкам на валасную грамаду. У 1698 г. Любашанская воласць за падводы («калі б нікуды не ехалі») павінна была, з бязменаў зрубкавых злажыўшыся, аддаць 250 зл. («włość cała do Skarbu Dobrodzeja z bezmenow zrubkowych złożywszy oddać 250 zł»)[852]. Напрыклад, 30

[845] AGAD. APJ, sign. 131, p. 11.

[846] Тамсама. - Sign. 154/3, nienumer.

[847] AGAD. ARP, sign. 183, p. 349.

[848] Тамсама. - P. 350.

[849] НГАБ, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 1928, арк. 89-91.

[850] AGAD. AR, dz. X, sign. 279, p. 29-30.

[851] AGAD. ARP, sign. 215, p. 3.

[852] Тамсама. APJ, sign. 131, p. 11.

падвод з пянькой да Стоўбцаў было прызначана на год на ўсё Чачэрскае староства (1726 г.[853]). Такі ж парадак існаваў і ў Любашанскім старостве (1743 г.[854]).

У розных месцах абшчыны выконвалі самыя разнастайныя павіннасці. Так, уся Любашанская воласць павінна было паводле даўняга звычаю даваць ссыпку на падстаросту, 50 вазоў сена на двор, па чарзе хадзіць на вартаванне ў Бярэзінскі двор[855]. На рамонт млыноў, фалюшаў, рудні, грэбляў «старац колькі трэба будзе людзей павінен адпраўляць»[856]. «Звера рознага, акрамя лося, якога б'юць стралыцы на самаго я. м. Дабрадзея патрэбу да рук старца без крыўды ўсякай аддаваць маюць...»[857] На ўсю Паложынскую воласць маёнтка Божын быў ускладзены абавязак зрабіць невад для рыбнай лоўлі і арганізаваць вартаванне ў маёнтку: «невад робяць з усёй воласці, страж з усёй воласці»[858].

У дзяржаве Добруш Гомельскага староства ў 1738 г. кожная вёска штогод павінна была здабываць і здаваць дзяржаўцу воўчую скуру («wilka iednego co rok całą wsią»)[859]. У вёсцы Карма названага староства ў 1738 г. сяляне разам з іншай данінай павінны былі з усей вескі разам здаць тры бараны і аднаго вапўка[860].

Для больш хуткага ўключэння ў гаспадарчае абарачэнне пустых зямель шырока выкарыстоўвалася сістэма слабод. Слабада магла давацца як індывідуальна селяніну, так і цэлай вёсцы, абшчыне. Напрыклад, жыхары сяла Тылькаўшчызна Любашанскага староства, якія атрымалі слабаду ў 1695 г. на 8 гадоў, «нічога даваць і ніякай павіннасці выконваць не абавязаны, спакойна сабе сядзець павінны, аддаючы толькі ад сябе пуд мёду або грашыма 7 злотых 15 грошаў»[861].

У «Інфармацыі і генеральнай дыспазіцыі Крычаўскага староства» 1727 г. указвалася: «На слабоды трэба сажаць навапрыходзячых, або тых, якія значна занядалі і не маюць ніякай магчымасці выплачваць падаткі і якіх сама грамада вызваляе»[862]. Гэта сведчыць аб тым, што былі выпадкі, калі абшчына пры зборы агульнаграмадскіх плацяжоў ці падаткаў, прызначаных на ўсю грамаду, вызваляла ад іх бяднейшых абшчыннікаў.

Грамада як орган мясцовага самакіравання і інстытут захавання традыцый працягвала карыстацца павагай і аўтарытэтам з боку ўлады, чыноўнікаў. Практычна ніякія значныя змены ва ўладанні не адбываліся без парады з яе прадстаўнікамі або хаця б інфармавання грамады. Так, удакладненне межаў уладанняў, аднаўленне гранічных капцоў, розныя пазямельныя спрэчкі вырашаліся, як правіла, у прысутнасці прадстаўнікоў абшчыны. Звычайна гэта былі кіраўнікі абшчыны і старэйшыя людзі, якія карысталіся павагай і сярод абшчыннікаў, і з боку паноў. Напрыклад, 12 чэрвеня 1695 г. каралеўскія камісары праводзілі мяжу паміж вёскамі

---

853 ZNIO. Rkps. 5771, p. 36.

854 AGAD. APJ, sign. 154/3, nienumer.

855 Тамсама. - Sign. 131, p. 12.

856 Тамсама.

857 Тамсама.

858 Тамсама. - Sign. 143, p. 57.

859 LVIA. F. SA, bib. 3774, p. 1293v.

860 Тамсама. - P. 1295.

861 AGAD. APJ, sign. 131, p. 9v.

862 НГАБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3981, арк. 7 адв.

Маневічы, Сычы і Усакіні Любашанскага староства і вёскай Колпча разам «з усімі добра вядомымі, карыстаючыміся даверам старадаўнімі мужамі»[863].

Калі 15 красавіка 1730 г. патрэбна было ўдакладніць граніцы паміж вёскай Загацце Любашанскага староства і вёскай Калінонка Старабыхаўскага графства, камісары запатрабавалі, «каб войт гарадзіцкі прысягнуў аб частцы сваёй граніцы... а таксама (прысягнуць. - В. Г) двух мужоў Гарасіма Івячонка і Івана Мянчонка з вёскі Сялец, якое таксама мела сваю граніцу з Загаццем, а таксама ўсю вёску Калічонка»[864]. Прадстаўнікі грамады вёскі Сялец чамусьці не хацелі ўдакладняць граніцу, аб чым іх прасілі абшчыннікі сяла Загацце: «І прасілі сялчан мужове вёскі Загацце каб паказалі як там ёсць граніца, а хлопы сялеццы не хацелі там старацца і паказаць...»[865] Але мяжа была ўсталявана, яе вызначылі прадстаўнікі грамады вёскі Калічонка: «...мужове вёскі Калічонка пачыналі мяжу ад Лапун Балота...»[866] Пры правядзенні граніцы сяла Бродза Любашанскага староства ў 1741 г. прадстаўнікі абшчыны таксама прысягалі аб правільнасці гэтай мяжы, прычым былі зафіксаваны імёны сялян, якія прысягнулі: «Мы, мужове вёскі Бродза (названы імёны. - В. Г), прысягаем»[867]. Калі ў другой палове XVII ст. мілейчыцкі плябан пан Краснадубскі атрымаў 15 валок зямлі ў Берасцейскай эканоміі, граніцы удакладняліся разам з прадстаўнікамі грамады, «пры мужах веры годных»[868]. У інвентары Магілёўскай эканоміі 1742-1743 гг. рэвізоры прама запісалі, што вызначэнне межаў не можа быць аднаасобным, «без грамады людзей у ціхасці»[869].

Пра неабходнасць парады з валаснай абшчынай пісаў у інструкцыі да рэвізораў Магілёўскай эканоміі ў 1672 г. кароль і вялікі князь Міхал Вішнявецкі. Кароль папярэджваў аб тым, што рэвізоры, пераводзячы сялян на голы чынш, не павінны налічыць столькі, што бяднейшыя сяляне не змогуць яго заплаціць. Для гэтага ён загадваў рэвізорам абмеркаваць дадзеныя праблемы сумесна з воласцю («abyście z Włością traktowali»)[870].

Выключэнне складаюць факты ігнаравання грамады з боку часовых трымальнікаў, арандатараў і субарандатараў. У апошніх была канкрэтная мэта – не толькі атрымаць з сялян суму, затрачаную на арэнду, але і зарабіць як мага больш. Арандатара не цікавіў эканамічны стан уладання ў будучым, ці змогуць збяднелыя сяляне ўдалейшым плаціць падаткі і адбываць павіннасці. У такіх выпадках землеўласнік звычайна даваў сялянам права падаваць скаргі на трымальнікаў і арандатараў, а часам і запісваў як абавязак грамады сачыць за парадкам ва ўладанні і паведамляць яму аб усіх парушэннях. Часта на практыцы дажывотнікі і пасэсары парушалі інвентарныя ўставы, пра што сведчаць шматлікія напамінальныя лісты, у якіх звычайна выражалася рэакцыя каралёў на скаргі насельніцтва. У гэтых дакументах амаль заўсёды падкрэслівалася, каб «старосты,

---

[863] AGAD. APJ, sign. 154/2, nienumer.

[864] Тамсама.

[865] Тамсама.

[866] Тамсама.

[867] Тамсама.

[868] AGAD. AR, dz. X, sign. 278, p. 10-11.

[869] Тамсама. AK, sign. Ш/240, p. 297.

[870] ZNIO. Rkps. 243, p. 2v.

арэндныя ўладальнікі і кіраўнікі... падданых нашых каралеўскіх пакідалі пры іх правах і свабодах і да незвычайных работ не прыцягвалі»[871].

Так, Шчасны Шаняўскі, аўтар ліста на імя аканома Берасцейскай эканоміі Яна Дуцкага, пісаў у 1723 г. адносна нейкага пана Мунтуша, што калі будуць скаргі ад сялян вёскі Ворталь, то яны справядлівыя. Справа ідзе, напэўна, аб нейкіх памежных спрэчках, бо сам аўтар піша, што ён «пагодзіў» з сялянамі, пан Мунтуш таксама «з грамадой мяркуе», але, «як чалавек вельмі настойлівы, сваю шкоду бачыць, а што людзі яго чыняць супраць грамады, таго не хоча ведаць» («bo jest czł(owi)ek dużo zawzięty swoje szkody widzi, a co ludzie iego uczynią przeciwko gromadzie to tego nie chce znać»)[872].

Арандатары, як і ўлада, імкнуліся ўвесці ў вёсках кругавую паруку для спрашчэння збору падаткаў і нядоімак. Так, рэвізоры Магілёўскай эканоміі ў інвентары 1742-1743 гг. адзначылі, што сяляне скардзіліся на яўрэяў-арандатараў, якія, «пашукваючы свае даўгі», бяруць для гэтага жаўнераў з замка і не толькі з таго селяніна, які мае запазычанасць, бяруць грошы, а прымушаюць плаціць доўг усю вёску («...nie tylko chłopa dług sobie winnego wyciskała, ale y cała wieś bez racyi żadney do płacenia długu y Exekucyi przymuszaią...»)[873]

Усвяцкая воласць Віцебскага павета ў 1743 г. падзялялася на войтаўствы, войтам дапамагалі лаўнікі і зборшчыкі падаткаў, якіх, напэўна, выбіралі ці назначалі з сялян. Пра тое, што чынш накладваўся на ўсю гэту воласць, а ўнутры яе ішла раскладка на асобныя гаспадаркі, сведчыць рэкамендацыя рэвізораў накладваць больш чыншу на багацейшых сялян і рабіць палёгку для бяднейшых. У абшчыне падаткі і чынш раскладвалі, як правіла, на ўсіх пароўну (гэта адзначалася і ў цытаваным раней інвентары Магілёўскай воласці 1672 г.). З прааналізаваных аўтарам крыніц вынікае, што абшчына сама ніколі не ўводзіла ўзае-маадказнасці ці выплаты падаткаў за бяднейшых. Багацейшыя сяляне, якія звы-чайна верхаводзілі ў абшчыне, не пагаджаліся плаціць за беднату. Дапамога ў арганізацыі гаспадаркі, узаемападтрымка падчас сяўбы ці збору ўраджаю, талака пры будаўніцтве хаты ці гаспадарчых памяшканняў – такіх прыкладаў у жыцці беларускай вёскі можна знайсці шмат. Але плаціць чынш ці здаваць даніну за іншага ніхто ў грамадзе не хацеў, таму ў крыніцах такія прыклады не прыводзяцца. Разам з тым у інвентарах некаторых уладанняў (як дзяржаўных, так і прыватных і царкоўных) ёсць звесткі аб тым, што землеўласнік уласным рас-параджэннем мог даць ільготу бедняку і грамада гэтае распараджэнне вымушана была прыняць і выконваць. Гэта і зразумела, бо феадал імкнуўся даць небагатаму селяніну шанц гаспадарча ўзняцца, каб на наступны год ён мог плаціць чынш у поўным памеры. Так, у інвентары Усвяцкага староства 1743 г. адзначалася, што калі хто-небудзь з сялян з-за ўбоства не змог выплаціць чыншу, «тады войт, даведаўшыся пра тое ад лаўнікаў і паборцаў, павінен паведаміць я. м. пану намесніку, а пан намеснік, параіўшыся з войтам і лаўнікам, павінен разабрацца»[874]. У першую чаргу ўвага звярталася на колькасць зямлі, якая была ў распараджэнні селяніна. Улада ўмешвалася ў справы грамады,

[871] Кітурка, І.Ф. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII-XVIII ст. палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця - С.67 .

[872] AGAD. ARP, sign. 216, p.26.

[873] Тамсама. AK, sign. III 240, p.293.

[874] Czart. Rkps. S. L 9319, p.78.

часта выступаючы супраць абцяжарвання бяднейшых сялян за кошт заможных. Менавіта такая думка была сфармулявана ў тэксце каралеўскага надання Берасцейскай эканоміі ў 1676 г. у трыманне Аляксандру Палубінскаму: «A iеśli by dochodząc sprawiedliwości z winnych, koszt iaki na prawo łożyć przyszło, ten z włości bez uciążenia iednak ubogich poddanych ma być obmyślony»[875].

Не толькі асобныя сяляне, але і абшчына цалкам імкнуліся да выплаты як мага меншай сумы чыншу з зямлі, якой яны карысталіся. Найпрасцейшы спосаб гэтага – не паказваць рэальную велічыню свайго надзелу або не падаваць пад абкладанне ўсе ўчасткі зямлі, якія былі ў гаспадароў ці грамады. Такую практыку рэвізоры называлі словам «затаіць» (ад прызначэння платы з яе)зямлю. Напрыклад, у Олаўскім войтаўстве Падусвяцкага староства ў 1743 г. было выяўлена, што служба Жухіна да гэтага ўвесь час «затаёна была, таму ўсім войтаўствам чынш голы (павінны. - В. Г.) заплаціць 47 тынфаў»[876]. Магчыма, што ўдадзеным выпадку гэтую службу «затаіла» і не ўсё войтаўства, але рэвізор усклаў адказнасць на грамаду. Аб існаванні сельскіх абшчын у Падусвяцкім старостве ў 1743 г. сведчыць і наступны рэвізорскі запіс: «...усе грамады скардзіліся на тое, што няма лесу, годнага на выраб клёпкі»[877].

Кіраўнікі абшчын называліся, як і раней, па-рознаму: войты ў Азярышчанскім старостве Віцебскага ваяводства (1655 г.)[878], Барысаўскім старостве (1658 г.)[879], Парыцкай воласці Бабруйскага староства (1668 г.)[880], Магілёўскай эканоміі (1672 г.[881], 1742 г.[882]), Берасцейскай эканоміі (1682 г.)[883], Кобрынскай эканоміі (1679 г.)[884], Дрысвяцкім ключы Віленскага ваяводства (1694 г.)[885], Любашанскім старостве (1698 г.)[886] і інш.; старцы - у Бабруйскім старостве (пачатак XVIII ст.)[887], Гомельскім старостве (1738 г.)[888], Крычаўскім старостве (1673 г.)[889], Любашанскім старостве (1698 г.)[890] і інш.; у Сакулкаўскім і Навадворскім лясніцтвах Гарадзенскай эканоміі (1680 г.), як адзначаў Д. Л. Пахілевіч, «войты менаваліся старым іменем – цівуны»[891]; памочнікамі войтаў і старцаў былі лаўнікі –

[875] AGAD. AR, dz. X, sign. 275, p. 33.

[876] Czart. Rkps. S. L 9319, p. 51.

[877] Тамсама. - P. 77.

[878] LVIA. F. 1282, ap. l, b ib. 10892, p. lv-3v.

[879] AGAD. APR, sign. 262, p. 7.

[880] Тамсама. AR, dz. XVII, sign. 6, p. 1.

[881] ZNIO. Rkps. 243, p. 231v.

[882] AGAD. AK, sign. Ul/240, p. 301.

[883] НГАБ, ф. 1928, воп. l, спр. 37, арк. 9,20,28 адв.

[884] VUB RS p4 jb ibA 3432 i; p. 196.

[885] LVIA. F. 1292, ap. l, b ib. 299, p. 26v.

[886] AGAD. APJ, sign. 131, p. 3v.

[887] LMA BRS. F. 17, b b. 164, p. 5.

[888] LVIA. F. SA, b ib. 3774, p. 1293.

[889] НГАБ, ф. КМФ-5, воп. l, спр. 1923, арк. 31.

[890] AGAD. APJ, sign. 131, p. 12.

[891] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 123; LVIA. F. SA, b ib. 11291, p. 105-116.

у Магілёўскай эканоміі (1672 г.)[892], Дрысвяцкім ключы Віленскага ваяводства (1694 г.)[893]; кіраўніком зямянскай абшчыны ў Дрысвяцкім ключы Віленскага ваяводства быў паручнік (1694 г.)[894].

Прыклады розных назваў прадстаўнікоў сельскай адміністрацыі і кіраўнікоў сельскіх абшчын можна было б падоўжыць, але ў дадзеным выпадку прыведзены найбольш выразныя. Разам з тым крыніцы не даюць магчымасці дакладна вызначыць структуру абшчыннай арганізацыі як на ўзроўні воласці, так і на ўзроўні асобнага сяла. Сустракаюцца дакументы. якія «глуха» паведамляюць. што нават у другой палове XVII - першай палове XVIII ст. у некаторых мясцовасцях магла дзейнічаць даўняя арганізацыя па сотнях. Нічым іншым нельга растлумачыць пералік у каралеўскім універсале ад 14 лютага 1659 г. для Берасцейскай эканоміі сярод людзей, якія павінны арганізоўваць агульныя работы сялян, разам з войтамі і лаўнікамі таксама сотнікаў («Sławetitym burmistrzom, ławnikom y wszystkiemu pospólstwu miast naszych do ek. Brzeskiey Nalezęcych, także Wójtom, Setnikom, Ławnikom i Włości wszystkiey w tej że ekonomyi Naszej...»)[895]. Войт сотны ўпамінаецца і ў іншым дакуменце, які датычыць Берасцейскай эканоміі і датаваны 1658 г. У ім паведамлялася, што войт прыносіў прысягу аб вялікіх разбурэннях ва ўладанні: «Ja Maxim Czykawczyc woyt setny klucza Poleskego y Ja Jacko Chwicewicz poddani JKMci przysiengamy»[896]. Пасада сотнага войта ўказваецца і ў даку-менце, што датычыцца Рэчыцкага ключа Берасцейскай эканоміі[897].

Сельскія жыхары звычайна называліся «валашчане», «людзі», «мужыкі». Калі ж размова ішла пра грамаду, то для абазначэння яе членаў выкарыстоўваўся тэрмін «мужы», «мужы старшыя» - у Магілёўскай эканоміі (1672 г.)[898], «мужы добрыя» - у Дрысвяцкім ключы Віленскага ваяводства (1694 г.)[899] і інш.

Некаторыя войты адначасова выступалі і як адміністратары ў гаспадарскіх дварах і як прадстаўнікі грамады ў адносінах з землеўласнікам. Вельмі часта іх працу аплачвала сама абшчына. Так, у Кобрынскім ключы ў 1725 г. працу дваровага войта і гаспадыні аплачвала воласць («...Woyta Dwornego i Gospodynią których zapłata z włości...»[900]).

Войты і старцы рабілі справаздачы перад абшчынай аб правільнасці збірання падаткаў і расходаванні сродкаў. У выпадках якіх-небудзь парушэнняў з боку войта або старца грамада звычайна складала скаргі на імя камісараў або кіраўніка дзяржавы. Так, у 1665 г. грамада вёскі Воін Берасцейскай эканоміі падала камісару скаргу аб тым, што, збіраючы грошы на ўланскую харугву пана Аскеркі, яны здалі 866 злотых і 15 грошаў, а войт аддаў з разліку з валокі па 36 злотых, пакінуўшы

[892] ZNIO. Rkps. 243, p. 231.

[893] LVIA. F. 1292, ap. 1, b ib. 299.

[894] Тамсама. - P. 26v.

[895] AGAD. AR, dz. X, sign. 276, p. 1.

[896] Тамсама. - Sign. 277, p. 5.

[897] Тамсама. - P. 6.

[898] ZNIO. Rkps. 243, p. 231v.

[899] LVIA. F. 1292, ap. 1, b ib. 299, p. 26v.

[900] AGAD. ARP, sign. 190, p. 56.

сабе 506 злотых і 15 грошаў[901]. Кіраўнікі абшчын, войтаўстваў прыносілі прысягу аб колькасці людзей, якія павінны былі плаціць падаткі ў іх абшчынах. Тэкст такой прысягі войтаў у Вялікай Рыце, прынесенай 26 чэрвеня 1677 г. пры царкве. змешчаны ў Дадатку 5.

Згодна з «Інфармацыяй і генеральнай дыспазіцыяй Крычаўскага староства» 1727 г., войтам прадпісвалася сачыць і даносіць у замак, каб сяляне не адыходзілі ў іншыя вёскі і не прадавалі свае халупы[902].

Ва Уставе Дрысвяцкага ключа Віленскага ваяводства 1694 г. указвалася на абавязак лаўнікаў кожнай вёскі сачыць за суседзямі, каб кожны там добра засяваў свае палеткі, а калі б хто з якой вёскі выйшаў у іншую, «тады лаўнік з мужамі добрымі павінен пажаць тое жыта...»[903]

Д. Л. Пахілевіч без спасылак на крыніцу адзначыў, што «абшчыны ў дзяржаўных маёнтках раз на год у пачатку лістапада (блізка дня Святога Марціна) павінны былі збірацца для выбараў двух кандыдатаў у войты, аднаго з якіх і зацвярджала адміністрацыя ўладання. У дапамогу войту выбіраліся прысяжныя – лаўнікі»[904]. Захавалася падрабязнае і даволі рэдкае апісанне парадку выбараў войта ў 1738 г. ва Уклеінскім войтаўстве Полацкага ваяводства: «Войт цяглы Уклеінскі так павінен выбірацца паводле даўніх звычаяў, калі сяляне. сабраўшыся на капу, выбраўшы са свайго асяроддзя двух альбо трох чалавек, справядлівых, ні ў якіх эксцэсах не заўважаных, разумных, маюць прапанаваць на войтаўства я. м. пану дваранiну або аканому. Яны ж павінны выбраць аднаго з тых прапанаваных сялян і перадаць яму ўрукі войтаўскае жазло ў знак паслушэнства»[905]. Потым таксама на капе нававыбраны войт павінен прынесці прысягу аб тым, што і баяры і войты нічога не будуць выбіраць зверх устаноўленага ў інвентарах і «толькі пры неабходнасці цяглае войтаўства Уклеінскае на падводы, гіберну, кварту, чопшэ, шэлязнае, зрабіўшы расклад паміж сябе ў прысутнасці я. м. дваранiна Скарбу ВКЛ або аканома... аддаваць павінны да скарбу Рэчы Паспалітай»[906]. Акрамя апісання парадку выбараў войта цікавасць уяўляе факт упамінання жазла («laskę wytowską») як сімвала войтаўскай улады.

У некаторых выпадках грамада патрабавала замены войта ці старца. Напрыклад, у 1721 г. грамада вёскі Нехалсты Берасцейскай эканоміі скардзілася на свайго старца Іллюту. Сяляне пісалі: «Аб тым просім вашу п(а)нскую міласць, каб больш Іллюта на вёсцы не старчаваў, а няхай так паншчыну služыць, як і мы. Лепш няхай двор чаляднiка прышле або войтам прызначаць кагосьці, таго будзем слухаць як самога пана намесніка, бо той наш рэчыцкі хлоп ад нас хабар шастакі бітыя бярэ як бы чужы пастаронні чалавек або слуга дворны» («O to upraszamy Waszej Pańskiej miłości aby więcej Illuta na wsi nie starczował, ale niechaj tak panszczynę służy y płaci co y my. Lepiej niech Dwór Czeladnika zeszłe albo wójtem zakaże którego, tak mamy słuchać iak samego Jm Pana Namieśnika, bo ten że nasz Rzeczycki chłop od nas Exekucyey szostaki bite bierze iakoby inni cudzostronny

901 Тамсама. AR, dz. XVII, sign. 46, p. 5.

902 НГАБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3981, арк. 7 адв.

903 LVIA. F. 1292, ap. l, bib. 299, p. 26v.

904 Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 162.

905 LVIA /F. SA, bib. 3774, p. 943v.

906 Тамсама.

człowiek albo sługa dworny... Cała gromada z wsi Niechoustow»)[907].

Неабходна адзначыць, што скаргі ішлі ў асноўным ад імя грамады і падпісваліся яе кіраўніком або найбольш аўтарытэтнымі мужамі. Так, у пачатку XVIII ст. скаргу сялян Бабруйскага староства на парушэнне панам Прушаноўскім граніц дзяржаўных сёл Кандратовічы, Парычы, Кабылічы і Брожы падпісаў Ціт Марцішонак, «старац староства Бабруйскага іменем цэлай воласці таго ж староства»[908]. Датаго жу канцы скаргі запісам «усе падданыя староства Бабруйскага» пацвяр-жаецца, што скарга ішла ад імя ўсёй валаснай грамады. Усёй грамадой скардзіліся сяляне вёскі Восава Берасцейскай эканоміі на крыўды ад пана Амяцінскага ў 1725-1726 гг. (Дадатак 6).

Некалькі суплік адвозіў да князёў Радзівілаў як да трымальнікаў Крычаўскага староства войт сяла Селішча Васіль Вашчыла, кіраўнік паўстання ў старостве ў 1740 г. Падаваліся яны ад імя старца і ўсёй воласці Крычаўскага староства[909].

Аўтарам выяўлена скарга селяніна з Берасцейскай эканоміі за першую палову XVIII ст. на пана Сымановіча, намесніка Рэчыцкага ключа Берасцейскай эканоміі, які адабраў у грамады сенажаці, членаў грамады забіраў у двор Рэчыцкі як чэлядзь («też ludzie Gromackie za czeladź powracał do Dworu»), усталяваў сістэму даносаў («nie można ani słowa w Gromadzie przemówić zaraz») (гл. Дадатак 7). Аўтар скаргі пісаў, што грамада страчвае карысласць, бо некаторыя нахлебнікі робяць усё толькі для сябе, а бяднейшых членаў грамады вядуць да разарэння («Gromada u tym nie korzysna że samowolniki za swoje pochlebstwa pożytki mimo całą Reczycę odbierają a nas ubogą Gromadą gubio»)[910]. Цікава, што гэтая скарга ўтрымлівае пункт гледжання на сутнасць грамады простага, бяднейшага абшчынніка. На яго думку, багацейшыя члены абшчыны паступаюць няправільна, прыводзячы незаможных сялян да разарэння.

Увогуле сялянскіх скарг з дзяржаўных уладанняў за разглядаемы ў гэтым параграфе час захавалася даволі шмат. Так, аўтарам выяўлены скаргі перыяду першай паловы XVIII ст. ад імя сельскай грамады наступных вёсак Берасцейскай і Кобрынскай эканомій: Кукарыкі, Рэчыца, Нехалсты, Царкоўнае, Слабадзяны, Бальшова, Падасецце, Янявы, Пячаткі. Крываверба, Вількаў, Кадзянец, Гершановічы, Паляціны, Прылукі, Радванічы і інш.[911].

Сяляне імкнуліся бараніць свае правы разам, грамадою. Так, адміністрацыя Слонімскага староства ў заяве, перададзенай у рэферэндарскі суд, абвінавачвала сялян, якія ў 1720 г. змагаліся за раней атрыманыя ад караля льготы, у тым, што яны «сходы грамад і свавольныя купы збіралі, каб на двор Бараціі наехаць...»[912]

Некаторыя звесткі дазваляюць выказаць меркаванне, што даволі высокай была роля грамады як інстытута самаарганізацыі вясковага насельніцтва падчас сялянскага выступлення ў Крычаўскім старостве ў канцы 30-х - пачатку 40-х гадоў XVIII ст. Найперш кідаецца ў вочы тое, што кіраўнікамі сялянскага пратэсту былі

[907] AGAD. ARP, sign. 183, p. 366.

[908] LMA BRS. F. 17, b. b. 164, p. 4-5.

[909] Тамсама. AR, dz. XVII, sign. 123, p. 24.

[910] AGAD. ARP, sign. 183, p. 371.

[911] AGAD. ARP, sign. 183, p. 205, 339, 344, 349, 351, 361, 363, 365; sign. 207, p. 74, 87, 84-86, 114, 126, 127, 133, 216, 252.

[912] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 168.

службовыя асобы грамады – старац Крычаўскага староства Іван Бялько і сельскія войты Васіль Вашчыла (вёска Селішча), Косця (вёска Бярозкі), Іван Карпач, Стэсь Бачко і інш.[913]

У вёсках дзяржавы Добруш Гомельскага староства ў 1738 г. сяляне штогод рабілі збожжавыя ссыпкі, ці складанкі, на агульнаваласныя патрэбы, якія называліся «старчаскім збожжам» («Starczeckiego zboża na rożne potreby całey włości daiąz otczyny żyta po pułczwerci, ieczmienia po czwerci, owsa po czwerci»)[914].

З тэксту «Інфармацыі і генеральнай дыспазіцыі Крычаўскага староства» 1727 г. відаць, што сельскія абшчыны плацілі за пусткі, якія заставаліся пасля «выйшаўшых» з вёскі сялян: «...якія грунты, у пустках ляжачыя, другія хлопы той вёскі або горада аплачваць павінны, а з таго і самі прыходзяць да большага занападу»[915]. Такі ж парадак існаваў і ў Камянецкім старостве, у інвентары якога за 1747 г. адзначалася. што «з валок зараз пустых па вышлых падданых, уся грамада павінна плаціць па 12 злотых»[916].

Звычайна ў выпадку, калі трэба было ўдакладніць колькасць зямлі ў вёсцы, апытвалі ўсю грамаду, бо, напэўна, так надавалася больш веры сялянам. Напрыклад, рэвізорамі адзначалася, што ў 1738 г. у вёсцы Стоўпішчы Бабруйскага староства было валок аседлых, прыёмных і пустых 23 1/3 «паводле прызнання грамады»[917].

У распараджэнні аўтара ёсць больш значная, чым прыведзеная ў дадзеным раздзеле, колькасць дакументаў, якія сведчаць аб існаванні і функцыяніраванні сялянскай грамады ў беларускай вёсцы ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст. З іх вынікае, што роля і месца грамады ў жыцці вёскі на працягу гэтага перыяду былі не аднолькавыя. Калі ў часы крызісаў дзяржава абшчыну нават падтрымлівала, то ў гады эканамічнай адбудовы старалася абмежаваць. але ў любым выпадку імкнулася кантраляваць. Галоўны вывад зводзіцца да таго, што абшчына працягвала існаваць як сацыяльны і гаспадарчы інстытут і, як сведчаць выкарыстаныя намі крыніцы, успрымалася органамі ўлады як аб'ектыўная рэальнасць.

Такім чынам, на падставе вышэйвыкладзенага можна сцвярджаць, што ў дзяржаўных уладаннях, размешчаных як у заходняй, так і ва ўсходняй і цэнтральнай Беларусі, у разглядаемы час працягваў існаваць такі інстытут сялянскай самаарганізацыі і самакіравання, як абшчына. Абшчына ў гады войнаў і пасляваеннага аднаўлення сярэдзіны XVII - першай паловы XVIII ст. значна ўмацавала свае пазіцыі ў дзяржаўных уладаннях на тэрыторыі Беларусі.

З сярэдзіны XVII ст. абшчына ў крыніцах атрымлівае назву «грамада», хаця ў адносінах да тэрытарыяльнай абшчыны працягваў выкарыстоўвацца і тэрмін «воласць». У дзяржаўных уладаннях у сярэдзіне XVII - першай палове XVIII ст. грамада не толькі захавала свае паўнамоцтвы ў арганізацыі паўсядзённага жыц-ця вёскі, але і значна пашырыла іх ў сферы землеўладання і землекарыстання, што

[913] Мелешко, В.Н. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII-XVIII в. / В. Н. Мелешко.- Минск: Наука и техника, 1982. - С. 180, 182, 191; Мялешка, В.І. Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы / В. І. Мялешка, П.А. Лойка.- Мінск: Народная асвета, 1988.- С. 34-42.

[914] LVIA. F. SA, bib. 3774, p. 1293v.

[915] НГАБ, ф. 694, воп. 2, спр. 3981, арк. 7.

[916] Тамсама. Ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 1625, арк. 21.

[917] LVIA. F. SA, bib. 3774, p. 1329v.

было абумоўлена ў тым ліку зацікаўленасцю ў гэтым дзяржавы. Дзяржаве было выгадна, каб вялікія плошчы неапрацоўваемых зямель, сенакосы і моргі разбіраліся не сялянамі паасобку, а цэлай грамадой. Урад ішоў нават на памян-шэнне платы з такіх трыманняў у пасляваенны час для таго, каб сялянская абшчына працягвала імі карыстацца і плаціць падаткі[918].

Падчас вайны чынш у многіх выпадках прызначаўся не на асобныя гаспадаркі, як раней, а цалкам на абшчыну, на ўсё сяло разам. Абсалютная большасць дакументаў сведчыць пра тое, што і на захадзе, і на ўсходзе Беларусі абшчына была больш моцнай якраз у чыншавых сёлах, дзе дзяржаву цікавіла толькі сума збіраемага чыншу, а не тое, як жыла вёска. Да такой жа высновы прыйшоў у свой час і Д. Л. Пахілевіч, адзначаючы, што ў 1742 г. тры сялы Берасцейскай эканоміі: Яцкавічы, Крынкі і Навасёлкі «па старыне плацілі за ўсе свае павіннасці, нават з цяглых валок, рэнту грашыма... Цікава і тое, што перад дваром яны выступалі не індывідуальна, а абшчынай. Яна адказвала за ўсе плацяжы сваіх членаў. Звяртае на сябе ўвагу, што абшчына больш моцная ў сёлах, якія знаходзіліся на грашовай рэнце, чым ў паншчынных, дзе дваровая адміністрацыя занадта яе падпарадкоўвала і апякала»[919].

Абшчыннае карыстанне зямлёй сустракалася пераважна ў «чыншавых» сёлах дзяржаўных уладанняў. У многіх выпадках грашовыя выплаты і даніна аддаваліся ў іх сумесна. прызначаныя працы выконваліся «агулам». Пры гэтым ясна прасочваецца эканамічная зацікаўленасць землеўласніка: у «чыншавых» сёлах грамада гарантавала дакладнасць і своечасовасць збору грошай і даніны.

Звесткі аб існаванні ў гэты час грамады ў «цяглых» сёлах дзяржаўных уладанняў сустракаюцца ў архіўных дакументах значна радзей. Можна меркаваць аб тым, што яна не мела тут такога значнага статуса, як у чыншавых сёлах.

Нягледзячы на тое што функцыі грамады былі даволі шырокімі (збор і здача ўстаноўленага чыншу і падаткаў, кантроль за правільнасцю карыстання сумеснымі ўгоддзямі, абарона інтарэсаў вёскі перад адміністрацыяй ці трымальнікамі ўладання і інш.), дзейнасць яе ў многім рэгламентавалася землеўласнікам.

Цікавасць выклікаюць факты, якія характэрны якраз для часу пасляваеннага аднаўлення. калі грамада распараджалася ўсімі землямі сяла, у тым ліку і надзельнымі. калі «сяляне не трымаюць ніякага грунту паасобку», а ўся зямля знаходзіцца «пад грамадой на чыншы»[920].

Прыметай дзейнасці абшчыны заставаліся традыцыйныя «раскладкі і разрубы». якія адбываліся па розных падставах (часцей за ўсё пры зборы дзяржаўных падаткаў). На жаль, у дакументах сярэдзіны XVII - першай паловы XVIII ст. сустракаецца вельмі мала сведчанняў аб тым, як праходзілі гэтыя порубы. Увогуле іх існаванне пацвярджаюць рэвізорскія запісы ў інвентарах аб вызваленні ад такіх порубаў. На гэта ў свой час звярнуў увагу Д. Л. Пахілевіч, працытаваўшы запіс з інвентару Кобрынскай эканоміі 1680 г.: «на 3 гады вольны ад складак і разрубаў сельскіх»[921].

---

[918] НГАБ, ф. 1928, воп. 1, спр. 36, арк. 9, 10, 13, 17 адв. і інш.

[919] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 140.

[920] НГАБ, ф. 1728, воп. 1, спр. 5, арк. 460, 461; LVIA. F. SA, bib. 11499, p. 10, 21-37, 135, 151-153 і інш.; VUB RS. F. 4, bib. A 34321, p. 205, 208, 247, 270.

[921] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. - С. 133; LVIA. F. SA, bib. 11499, p. 122.

У даследаваных аўтарам крыніцах прыводзяцца факты ўмяшання землеўласніка ў абшчыннае жыццё сяла, што праяўлялася ў прымусовым увядзенні кругавой парукі і адказнасці сялян за нанясенне шкоды маёмасці землеўласніка ці невыкананне устаноўленых павіннасцей і г.д.[922]

### 3.4. Дзяржаўная палітыка ў адносінах да абшчыннай арганізацыі сялянства ў сярэдзіне - другой палове XVIII ст.

Другая палова XVIII ст. стала часам значнага эканамічнага ўздыму краіны, які пачаўся пасля завяршэння аднаўленчага перыяду канца XVII - першай паловы XVIII ст. Гэты ўздым з'явіўся вынікам палітыкі пераводу сялян з паншчыны на грашовую рэнту, так званы голы чынш, якая спачатку праводзілася ў буйнейшых дзяржаўных уладаннях, а потым у многіх прыватнаўласніцкіх і царкоўных маёнтках. Гаспадарчаму аднаўленню спрыяла таксама ўвядзенне льгот для сялян у выбары форм пазанадзельнага землекарыстання, змяншэнне ўзроўню павіннаснага ўціску. У аднаўленчы перыяд значна ўзрасла і роля абшчыны ў сацыяльна-эканамічным жыцці феадальнай вёскі. Так, чынш часта стаў прызначацца не на асобныя гаспадаркі, а на цэлыя вёскі, сельскія абшчыны, што стымулявала актывізацыю дзейнасці грамады. Грамада звычайна брала ад землеўласніка пусткі - ворыўную зямлю, неразабраную сялянамі ў якасці надзелаў, і сама размяркоўвала яе сярод абшчыннікаў. Пашырэнне сістэмы абшчыннага землекарыстання і ўвядзенне сістэмы спецыяльных ільгот, у першую чаргу так званых слабод, апрацоўка зямлі «ў наезд», «з долі ўраджаю» спрыялі развіццю сялянскай гаспадаркі, а праз яе ўмацаванне – увогуле адраджэнню эканомікі краіны.

Дзякуючы такой эканамічнай палітыцы дзяржавы да сярэдзіны XVIII ст. завяршылася гаспадарчае аднаўленне як у сталовых эканоміях, так і ў староствах і дзяржавах, што знайшло сваё адлюстраванне перш за ўсё ў павелічэнні колькасці апрацоўваемай зямлі і росце насельніцтва[923]. Па падліках І. Ф. Кітурка, да сярэдзіны XVIII ст. павялічылася колькасць сялянскіх гаспадарак у многіх дзяржаўных уладаннях: «Лічба валашчанскіх дымоў у Крычаўскім старостве вырасла з 500 да 3 021, або больш чым у 6 разоў; у Чачэрскім старостве - з 156 да 1 056, ці ў 6.8 раза; больш чым у два разы ўзрасла колькасць дымоў у Веляціцкім, Любашанскім, Камянецкім, Крэўскім, Слонімскім і іншых староствах...»[924]

Гаспадарчая палітыка дзяржавы ў другой палове XVIII ст. была накіравана на пошук новых форм гаспадарання, шляхоў павышэння рэнтааддачы сялянства. Менавіта з такой мэтай у дзяржаўных уладаннях у сярэдзіне - другой палове XVIII ст. быў распачаты цэлы шэраг нававўядзенняў, якія ў гістарычнай літаратуры атрымалі назву аграрнай рэформы Антонія Тызенгаўза, хаця дакладней было б называць гэтыя мерапрыемствы эканамічнай, ці гаспадарчай, рэформай, паколькі яна была комплекснай па сваёй задумцы і ахоплівала адначасова сельскую гаспадарку, прамысловасць і гандаль[925]. Рэформа праводзілася ў каралеўскіх

---

[922] НГАБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1159, арк. 149-151, 159; LVIA. F. SA, bib. 3774, p. 1150-1159, 1335-1348.

[923] Кітурка, І. Ф. Дзяржаўныя ўладанні на землях Беларусі ў другой палове XVII-XVIII ст.: палітыка гаспадарчага аднаўлення і развіцця. - С. 86, 98.

[924] Тамсама. - С. 98.

[925] Голубеў, В. Ф. Аграрная рэформа Антонія Тызенгаўза / В. Ф. Голубеў, І. Ф. Кітурка // Гісторыя Беларусі: у 6 т. / рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. - Мінск: Экаперспектыва, 2000-2005. - Т. 3. Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII-XVIII ст.) / Ю. Бохан [і інш.]. - 2004. - С. 181-187.

сталовых эканоміях (у ВКЛ гэта былі Гарадзенская, Берасцейская, Кобрынская, Магілёўская эканоміі на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, Шавельская эканомія ў княстве Жмудскім і Оліцкая - у Трокскім ваяводстве).

Каралеўскія сталовыя эканоміі (акрамя Шавельскай) у сярэдзіне XVIII ст. знаходзіліся ў трыманні графа Юрыя Флемінга. У кантрактах, якія заключаліся з ім на арэнду эканомій, змяшчалася інфармацыя аб іх гаспадарчым становішчы і нават некаторыя звесткі пра сельскую грамаду. Так, упамінанне пра неабходнасць перамеру грунтаў, як і адзначэнне таго, што зямля знаходзілася ў распара-джэнні сельскіх абшчын, ёсць у тэксце кантракта на арэнду Магілёўскай эканоміі графам Ю. Флемінгам, складзенага ў 1757 г. У кантракце адзначалася, што сяля-не эканоміі нанава распрацавалі многа зямлі, а прыбыткі з яе на скарб не паступаюць. Камісарам прадпісвалася прызначыць годных даверу і прыстойных лю-дзей, дасканалых у мастацтве геаметрыі («in arte Geometrika»), і зрабіць перамер усёй зямлі ў Магілёўскай эканоміі для высвятлення таго. колькі зямлі зверх да-ных апошняга інвентару ў данатарыюшаў «і грамад знаходзілася», і прызначыць з іх «справядлівы чынш»[926]. У кантракце на арэнду Гарадзенскай і Оліцкай эканомій на 1757-1763 гг. было адзначана, што ў суседняй з Гарадзенскай Оліцкай эканоміі мае цца многа грамадскага ворыва і лугоў, якія знаходзяцца ў запусценні з прычыны войнаў і чумы («znajdować się maią grunta Gromadzkie orome y łajci, z okazyi powietrza y woyny spustoszałe i zarosłe»). Далей кантракт прадугледжваў неабходнасць вяртання зямлі тым жа сялянскім абшчынам («... tym że Gromadom przywrócone bydz mogły»)[927], каб яны маглі з іх плаціць чынш.

У дадзеным параграфе зроблена спроба прасачыць, як мерапрыемствы А. Тызенгаўза ўплывалі на становішча сялянскай абшчыны ў каралеўскіх эканоміях на тэрыторыі Беларусі, а таксама высветліць ролю грамады ў староствах і дзяржавах, дзе згаданая рэформа не праводзілася.

З улікам таго, што ў Еўропе з сярэдзіны XVIII ст. ізноў рэзка ўзняўся попыт на збожжа, у каралеўскіх эканоміях планавалася аднавіць фальваркавую гаспадарку і правесці перамер ворыўнай зямлі. Справа ў тым, што прысістэме аддачы пустак у карыстанне сельскай грамадзе, дазволе «слабодаў» і іншых ільгот, якая існавала ў аднаўленчы перыяд, як асобныя сялянскія гаспадаркі, так і цэлыя вёскі значна пашырылі сферу свайго землекарыстання. Пры наяўнасці незанятых участкаў зямлі побач з асноўным надзелам сяляне проста прыворвалі да свайго надзелу столькі, колькі маглі апрацаваць. Згодна ж з дакументамі памеры надзелаў заставаліся нязменнымі[928]. Сяляне шырока карысталіся пусткамі, узятымі на грамаду, што ў інвентарах пры ўліку ворыва асобных сялянскіх гаспада-рак таксама ніяк не адлюстроўвалася, а звычайна адзначалася, што гэтую зямлю «ўсё сяло трымае». У выніку феадальная рэнта, як правіла, збіралася толькі з адзначанага ў інвентары надзелу, які прадстаўляў толькі частку зямлі, што была ў карыстанні сялянскай гаспадаркі.

На сейме 1764 г. было прынята рашэнне не аддаваць у далейшым каралеўскія эканоміі ў арэнду ці трыманне, а весці гаспадарку непасрэдна праз уласную адміністрацыю, таму што трымальнікі не клапаціліся пра эканамічнае станові-шча эканомій і празмерна эксплуатавалі сялянства. Да таго ж трымальнікі плацілі ў

[926] AGAD. AT, sign. D-5, p. 63.
[927] AGAD. AT, sign. C-2, p. 78.

[928] Тамсама.

скарб толькі кварту - чацвёртую частку прыбыткаў з уладанняў, прычым не заўсёды выплачвалі яе ў тэрмін і ў поўным аб'ёме.

Паводле аграрнай рэформы А. Тызенгаўза пры перамеры ворыва кожная сялянская гаспадарка павінна была ўзяць адну чвэртку валокі сядзібнай зямлі пад асноўны надзел. З той зямлі, што заставалася ў вёсцы пасля ўтварэння фальварка і забеспячэння сялян асноўнымі надзеламі, дазвалялася ўзяць зямлю дадаткова ўлюбой колькасці. Гэтая зямля называлася прыёмнай, бо ёю сялян не надзялялі, яны самі «прымалі» яе на ўмовах выплаты чыншу. Сялянства падзялялася на дзве катэгорыі – цяглых, якія адпрацоўвалі паншчыну, і зямян, абавязаных грашовай рэнтай (гэта была, па сутнасці, новая назва чыншавых, ці асадных, сялян). Сума платы за прыёмную зямлю ўстанаўлівалася ў адпаведнасці з іх якасцю[929]. Такім чынам, рэформа А. Тызенгаўза разбурала абшчыннае землекарыстанне пусткамі, якое склалася ў чыншавых вёсках каралеўскіх эканомій за гады пасляваеннага аднаўлення, а ў некаторых выпадках і іншымі землямі. Адбывалася новае перамеркаванне зямельнага фонду. Зямлі, якая была ў сялян на чыншы, паводле разлікаў А. Тызенгаўза, павінна было хапіць і на фальваркі, і на надзяленне падданых, і нават для дадатковага фонду прыёмных зямель.

А. Тызенгаўз і яго адміністратары сцвярджалі, што рэформа праводзіцца для паляпшэння становішча сялянства[930]. Польскі вучоны Ст. Касцялкоўскі трапна заўважыў, што з агульнага тону афіцыйных рэляцый можна было зразумець, « што пераход да паншчыны ў каралеўскіх эканоміях ВКЛ у часы Станіслава Аўгуста адбыўся амаль са згоды насельніцтва»[931]. Але, адзначаў даследчык, на справе так не было.

Рэформа рабілася за кошт сялян, таму яны выказвалі нязгоду з ёй, аб чым сведчаць шматлікія скаргі, складзеныя ў асноўным ад імя сельскіх грамад[932]. Папершае, сялянам было значна лягчэй, як і раней, выплачваць чынш, які да таго ж у аднаўленчы перыяд часта прызначаўся на ўсё сяло. Па-другое. і на гэта звярнуў увагу Д. Л. Пахілевіч, ва ўмовах адсутнасці фальваркаў падданыя фактычна распараджаліся «ўсім зямельным фондам сяла, у які ўваходзіла нямала пустак і зараснікаў... Свабодныя землі сяла былі не толькі агульным фондам. які ствараў дадатковыя магчымасці гаспадарчай дзейнасці для кожнага селяніна (выпасы, выганы і да т. п.), але і сродкам пашырэння гаспадаркі і абагачэння для асобных зажытачных сялян, якія пашыралі сваё трыманне за кошт пустых зямель»[933]. Рэформа ж адбірала на фальварак землі не толькі ў асобных сялянскіх гаспадарак, але і тыя, якія былі ў агульным карыстанні сельскіх абшчын, пагаршаючы, такім чынам, іх матэрыяльнае становішча.

Каб забяспечыць новыя фальваркі дармовай рабочай сілай, для сялян каралеўскіх эканомій вяртаўся «стан даўні дачыншовы» («stan rzeczy dawny, przedczyn-szowy») і аднаўляўся іх абавязак працаваць на фальваркавых землях[934].

[929] Kościałkowski, St. Ze studjów nad dziejami ekonomji królewskich na Litwie / St. Kościałkowski // Rocznik Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie - Wilno, 1914. - T. V. - S. 144, 135; Kościałkowski, St. Antoni Tyzenhauz Podskarbi Nadworny Litewski / St. Kościałkowski. - Londyn, 1971. - T. 2. - S. 21-23.

[930] Kościałkowski, St. Antoni Tyzenliauz. Podskarbi Nadworny Litewski. - 1.2. - S. 20.

[931] Ibidem. - T. 2. - S. 23.

[932] AGAD. AK, sign. 11/37; 111/16; 111/33; Ul/112; Ul/114; Ul/130; Ul/165; Ul/166; Ul/270.

[933] Похилевич, Д. Л. Аграрная реформа А. Тызенгауза н Шавельское восстание / Д. Л. Похилевич // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы 1958 г. - Таллин, 1959. - С. 288.

[934] Kościałkowski, St. Antoni Tyzenhauz. Podskarbi Nadworny Litewski. - T. 2. - S. 22.

Неабходна адзначыць, што адміністрацыя эканомій і сяляне зусім па-рознаму ўспрымалі сэнс паняцця «стан даўні»; для першых - гэта стан паншчыны, якая замацавалася тут ў выніку валочнай памеры сярэдзіны XVI ст.; сяляне ж разумелі пад даўніной менавіта перавод на грашовую рэнту ў другой палове XVII - пачатку XVIII ст., якраз свабоду ад паншчыны. Напрыклад, сяляне Скідзельскага ключа Гарадзенскай эканоміі ў сваёй скарзе на імя караля паведамлялі аб тым, што «за ўпраўленнем і адміністрацыяй яго міласці Тызенгаўза... страцілі правы вольных людзей, прымацаваны да ярма паншчыны і надзвычай высокай аплаты»[935].

У ходзе рэформы ўводзіліся некаторыя правілы, якія, калі б яны зыходзілі ад сялян, а не ад улады, можна было б расцаніць як праявы традыцыйнага абшчыннага жыцця. Рэформа А. Тызенгаўза, разбураючы прынцыпы сялянскага самакіравання, што склаліся ў другой палове XVII - пачатку XVIII ст., арганізоўвала абшчыну, якая павінна была існаваць па правілах і пад наглядам адміністрацыі. Да такіх правіл можна аднесці абавязковае правядзенне некалькі разоў у год шарваркаў, прызначаных «на камунальныя патрэбы». г. зн. для саміх сялян, а не скарбу: «...на адбудову па вёсках заняпалых дамоў, на апрацоўку зямлі збядне-лым сялянам, на працярэбліванне зарослых лесам сялянскіх палёў, на рамонт грэбляў, мастоў на трактах і да кожнай вёскі»[936]. Колькасць дзён для шарварка-вых работ была рознай для кожнай эканоміі: ў Гарадзенскай эканоміі яна склада-ла 20 дзён, у Берасцейскай і Кобрынскай - 14, у Шавельскай - 8 на год[937]. Самі сяляне такія «шарваркі на камунальныя патрэбы воласці» расцэньвалі як прымусовыя работы. Жыхары вёскі Старыя Багушы з прадмесця мястэчка Сакулка Гарадзенскай эканоміі скардзіліся каралю на тое, што ім прыходзіцца «служыць паншчыну, адбываць шарваркі на камунальныя патрэбы воласці і гвалты на скарбавыя работы», заяўлялі, што лічаць паншчыну аднятай вольнасцю («Z okazji tedy powszechnie odjętej wolności...»), і прасілі вяртання да ранейшага стану[938].

Д. Л. Пахілевіч заўважыў, што сярод шарваркавых работ былі такія, «якія раней выконваліся фальваркам або за яго кошт»[939]. Сапраўды, раней рамонт мастоў і грэбляў залічваўся сялянам як павіннасць, двор даваў дапамогу ці льготы бяднейшым і слабейшым гаспадарам. Рэформа ўскладвала ўсё гэта на сялянскую абшчыну.

Сяляне і нават дробная шляхта, а таксама яўрэйскае насельніцтва былі абавязаны ўносіць натуральныя і грашовыя выплаты ў так званыя камунальныя магазіны і камунальныя касы, стварэнне якіх прадугледжвалася рэформай А. Тызенгаўза. У «камунальныя», ці «збожжавыя», магазіны ўзносы рабіліся ўсімі відамі зерня, якое прызначалася на выпадак агульнага неўраджаю або для дапамогі збяднелым ці пазыкі для тых, хто пацярпеў ад стыхійных бедстваў, і да т. п. Выплаты ў «камунальныя касы» рабіліся з кожнай сялянскай валокі па 6 зл. 15 гр. (Шавельская эканомія) ці, зыходзячы з маёмаснага стану селяніна, - ад 11,5 гр. да 1

---

[935] AGAD. AK, sign. Ul/166, p. 13.

[936] Похилевич, Д. Л. Аграрная реформа А, Тызенгауза и Шавельское восстание. - С. 288; Kościalkowski, St. Antoni Tyzenhauz. Podskarbi Nadworny Litewski. - T. 2. - S. 23; LVIA. F. SA, bib. 4058. M23v.

[937] Похилевич, Д Л Аграрная реформа А. Тызенгауза и Шавельское восстание. - С. 284.

[938] Kościalkowski, St. Antoni Tyzenhauz. Podskarbi Nadworny Litewski. - T, 2. - S. 24.

[939] Похилевич, Д Л Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века / Д.Л.Похилевич. – Вильнюс, 1966. – С. 27.

зл. 15 гр. (Гарадзенская эканомія)[940]. Гэтыя грошы павінны былі ісці на добраўпарадкаванне вёсак, утрыманне доктара (фельчара), вясковага радзільнага дома і г.д.

Хоць і сцвярджалася, што ўказаныя мерапрыемствы ўводзіліся выключна для паляпшэння дабрабыту сялянства, усё ж відавочна, што пры вялікай колькасці адпрацовачных, грашовых і натуральных павіннасцей дадзеныя новаўвядзенні дадатковым цяжарам ускладваліся на плечы вясковага насельніцтва. Да таго ж, такім чынам дзяржава перакладвала клопат аб пацярпелых ад неўраджаю ці стыхійнага бедства, увогуле аб бяднейшых вяскоўцах на сялянскую абшчыну (грамаду). Грамада часта была павінна не толькі агулам выконваць павіннасці, але і дадаткова клапаціцца аб тых, хто не мог гэтага зрабіць. Улады перакладвалі на абшчыну адпрацоўку шарваркаў і гвалтаў за ўсіх, хто выйшаў з сяла на заробкі, хто працаваў на мануфактурах ці быў забраны на вучобу[941].

Неабходна адзначыць, што камунальныя складкі не былі адменены і пасля згортвання рэформы А. Тызенгаўза. Так, у гаспадарчай Уставе для Нававольскага ключа Гарадзенскай эканоміі яшчэ ў 1780 г. прадугледжвалася, што «складкі камунальныя... павінны складацца на уласныя патрэбы»[942].

Д. Л. Пахілевіч, разглядаючы рэформу А. Тызенгаўза, прыйшоў да высновы, што абшчыну, якая «да гэтага, як правіла, адказвала за спраўнасць выканання і паступленне толькі агульных для ўсёй абшчыны павіннасцей і плацяжоў (рамонт дарог, мастоў, плата па арэндам, карчэмныя, ваенныя і ўсялякія іншыя зборы і раскладкі і да т. п.), зараз робяць адказнай за выкананне асноўных павіннасцяў яе членаў»[943].

Звяртае на сябе ўвагу тое, што вялікая колькасць скарг на новаўвядзенні А.Тызенгаўза была складзена ад імя сялянскай абшчыны – грамады. На нашу думку, сельская грамада, якая так умацавалася ў каралеўскіх эканоміях на працягу другой паловы XVII - першай паловы XVIII ст. у асноўным праз арганізацыю карыстання пусткамі і агульнай выплаты чыншу, імкнулася вярнуць свае паўнамоцтвы і таму актыўна пратэставала супраць новаўвядзенняў. Калектыўныя скаргі паказваюць як тое, што рэформа А. Тызенгаўза закранула практычна ўсё насельніцтва эканомій, так і ўпэўненасць сялян у большай эфектыўнасці сумеснага адстойвання сваіх інтарэсаў.

В. І. Мялешка выявіў 486 скарг сялян дзяржаўных уладанняў Беларусі, складзеных у другой палове XVII-XVIII ст., 430 (88,4 %) з якіх былі калектыўнымі. Адзначым, што 421 скарга, ці 86,6% ад агульнай колькасці, была складзена ў другой палове XVIII ст., а абсалютная большасць іх - 416 (93,1%) тэрытарыяльна адносілася да захаду і цэнтра Беларусі[944]. Такая вялікая колькасць калектыўных скарг яскрава пацвярджае вывад аб тым, што грамада ў гэты час у дзяржаўных сялян Беларусі не проста існавала, а дзейнічала як інстытут сялянскай

[940] Kościalkowski, St. Antoni Tyzenhauz. Podskarbi Nadworny Litewski. - T. 2. - S. 29-30; Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века.- С. 29-30.

[941] Kula, W. Suplik i chłopów z ekonomii litewskich 1777 (1792) // Kula W. Szkice o manufakturach w Polsce XVIII wieku / W. Kula. - Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1956. - S. 242-274; Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века.- С. 51.

[942] НГАБ, ф. 1828, воп. 1, спр. 177, арк. 5 адв.

[943] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века.- С. 143.

[944] Мелешко, В. Н. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII-XVIII в.- С. 84.

самаарганізацыі.

Неабходна адзначыць, што падчас правядзення аграрнай рэформы з ведама і па ініцыятыве А. Тызенгаўза ўводзіліся так званыя павіннасці ўнутранага парадку. Сяляне не мелі права прымаць у сваіх дамах бадзяг, гультаёў, заразных, хворых людзей і тых, хто падазраваўся ў злачынствах; павінны былі засцерагаць сваю жывёлу ад заразы; на таргі і кірмашы абавязаны былі ездзіць ў каралеўскія мястэчкі і толькі там здзяйсняць усе аперацыі па куплі і продажу; у спякотнае лета забаранялася разводзенне агню ў пушчах, а ў выпадкуляснога пажару сяляне былі абавязаны тушыць яго ўсім сялом. Гэтыя правілы рэгламентавалі нават знешні выгляд сялянскіх сядзібаў, якія павінны былі агароджвацца «пад шнур», абсаджвацца дрэвамі, а ў садах штогод неабходна было высаджваць па дзве яблыні і дзве вішні. Сяляне, якія ігнаравалі дадзеныя патрабаванні, выплачвалі ў камунальныя касы штрафы[945].

Пра нешта падобнае ў Расіі пісаў В. А. Аляксандраў у главе «Вотчынна-паліцэйскі рэжым» манаграфіі, прысвечанай абшчыне ў Расіі ў XVII-XIX стст. Так, у маётках А.П. Валынскага стваралася сістэма «прыказчык - стараста - дзесяцкія», якая рэгламентавала ўсё жыццё сялянства нават да дазволу выехаць з вёскі па дровы альбо на рынак[946]. Падобныя меры спрабаваў ажыццяўіць у канцы XVIII ст. Павел Ксаверый Бжастоўскі ў сваім уладанні Паўлава, альбо Мерач, Віленскага ваяводства[947]. Даследчыкі адзначаюць, што ў тагачасных дакументах, якія датычылі аграрнай рэформы А. Тызенгаўза, было прадэкларавана права на свабоду выбару для сялян паміж паншчынай і чыншам. Разам з тым выклікае сумненне. што такая вялікая колькасць сялян добраахвотна перайшла на паншчыну, бо, па назіраннях Д. Л. Пахілевіча, 90-95% сёл каралеўскіх эканомій, як і большасць двароў у сёлах- 75-100%, сталі ў выніку рэформы цяглымі[948]. Хутчэй за ўсё, адміністрацыя эканомій, зыходзячы з уласных патрэб, сама вызначала колькасць цяглых і зямян у кожным асобным маёнтку, не пытаючыся згоды насельніцтва. Менавіта аб гэтым сведчыць з'яўленне шматлікіх сялянскіх скаргаў у адказ на перавод іх на паншчыну. У архівах захаваліся цэлыя тамы такіх скаргаў. Напрыклад, сяляне вёскі Хвалава Гарадзенскай эканоміі скардзіліся на тое, што пасля праведзенай у іх вёсцы памеры «мала не палова грунтаў ад нас адабрана», а «паншчыну і павіннасць сваю адбывалі з даўніх часоў... па два дні, а цяпер і лічбы не знойдзем»[949].

Такім чынам, аграрная рэформа А. Тызенгаўза, праведзеная ў другой палове XVIII ст. у каралеўскіх сталовых эканоміях ВКЛ, паказала, што існавалі шырокія магчымасці павелічэння даходаў з іх, у першую чаргу пры дапамозе розных спосабаў гаспадарчага рэфармавання і нават праз вяртанне да фальваpачна-паншчыннай сістэмы з адмовай ад шырокага абшчыннага землекарыстання пазанадзельнымі землямі і умацаваннем індывідуальнага землекарыстання і павіннаснага абкладання сялянства. Разам з тым заўважна, што ўлада спрабавала зрабіць абшчыну гарантам збірання і выплаты ў скарб падаткаў, ускладвала на яе адказнасць за ўсіх падаткаплацельшчыкаў-абшчыннікаў.

---

945 Kościalkowski, St. Anton i Tyzenhauz. Podskarbi Nadworny Litewski.- T. 2 .- S. 38.

946 Александров В.А. Сельская община в России (XVII-начало XIX в.) / В. А. Александров. М.:-Наука,1976.- С 55.

947 AKP.-S. 411-435.

948 Похилевич, Д Л Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века.- С 16.

949 AGAD. AK, sign. III/270, p. 52.

Становішча ў больш дробных дзяржаўных уладаннях – староствах і дзяржавах некалькі адрознівалася ад сітуацыі ў каралеўскіх сталовых эканоміях. Тут не праводзілася адкрытай палітыкі пераводу ўсіх сялян на паншчыну. Звычай на трымальнік спалучаў розныя формы вядзення гаспадарання, не аддаючы значную перавагу чыншу ці паншчыне. Убачыць агульнае эканамічнае становішча ў тых відах дзяржаўных уладанняў па ўсёй тэрыторыі краіны дазваляюць матэрыялы люстрацыі 1765 г., якая пачала праводзіцца па рашэнню сейма 1764 г.[950], а таксама інвентары асобных уладанняў, складзеныя як да люстрацыі, так і пасля яе. У некаторых апісаннях люстрацыі ёсць прамыя ці ўскосныя сведчанні пра сялянскую абшчыну, таму ў межах даследуемага ў гэтым раздзеле працы пытання ўяўляецца апраўданым прааналізаваць іх больш дэталёва.

Так, захавалася даволі падрабязная «Люстрацыя староства ў, дзяржаў і іншых каралеўшчын, размешчаных у Лідскім павеце», складзеная люстратарамі Ёзэфам Казімірам Стыпаткоўскім і Ёзэфам Длускім з Длугага. Люстрацыя пачалася ў 1764 г., а закончылася ў 1765 г. Усяго пад люстрацыю ў Лідскім павеце трапіла 9 староства ў (Радуньскае, Дубіцкае, Астрынскае, Васілішкаўскае, Ейшышскае, Лідскае, Барцянскае, Каняўскае і Навадворскае), Каняўскае лясніцтва і 25 дзяржаў[951].

Звяртае на сябе ўвагу тое, што там, дзе гэта ўдавалася, люстратары імкнуліся вызначаць павіннасці індывідуальна для асобных гаспадарак, а не для цэлага сяла. Разам з тым спецыяльна вызначаліся агульныя падаткі і павіннасці. Так, адносна вёсак Радуньскага староства зроблены запісы «за сенажаці плацяць разам» («za sianożęci ogułem płacą») і «старажовае агулам» («strażowego ogułem»)[952] У некаторых вёсках акрамя сенажацяў былі і іншыя ўгоддзі, якія знаходзіліся ў сумесным карыстанні. Сяляне вёсак Стражуны, Радзюнцы. Наркуны, Гарадзішча, Ёцюны, Плікі, Ракуны разам плацілі за засценак і моргі («całą wsią za zaścianek y morgi»)[953]. Адносна вёскі Куляўцы Астрынскага староства было адзначана, што ўся вёска трымае $^1/_2$ валокі прыёмнага грунту і разам плаціць з яго[954]. Сумесна трымалі землі і ў вёсках Шастакі, Рыча, Малятычы[955]. Дарэчы, у папярэднім інвентары Радуньскага староства, складзеным ў 1760 г. каморнікам Вілкамірскага павета Ігнаціем Длугашам Выжыкоўскім падчас правядзення памеры зямлі ў старостве[956], няма звестак аб сялянскай грамадзе. Адзінае, што ўдалося выявіць пры разглядзе гэтага дакумента, гэта тое, што ў вёсках былі лаўнікі– прадстаўнікі сельскай адміністрацыі[957].

Пра наяўнасць абшчыны больш адкрыта гаворыцца ў люстрацыі Васілішкаўскага староства. Так, у раздзеле, які называецца «Павіннасць служб і платы воласці староства Васілішскага», тэрмінам «грамада» абазначана не проста супольнасць людзей, а менавіта сельская абшчына. Больш за тое, адзін раз

[950] Yolumina legum.- T. VII.- Petersburg, 1860. - C.79.

[951] LMA BRS. F. 11, b b. 30, p. 1-117.

[952] Тамсама.- P.8-18.

[953] Тамсама.- P.9, 11, 1lv, 15-16v.

[954] Тамсама.- P.32.

[955] Тамсама.- P.32v-33v.

[956] Тамсама.- P.17, p.1-61.

[957] Тамсама.- P.17, p.19, 33, 59 і інш.

складальнік інвентару ўжыў разам з тэрмінам «грамада» як раўназначны тэрмін «лава»: «Калі б з дапушчэння Божага гаспадар які пагарэў ад агня, тады ўся грамада альбо лава павінны будуць дапамагчы яму адбудавацца» («Jeśliby z dopuszczenia Bożego gospodarz który ogniem pogorzał tedy Cała gromadą alias Ławą powinni bydz wszyscy pomoco do zabudowania»)[958]. Лавай называлася грамада ці, дакладней, яе кіраўнічы орган ў некаторых мясцовасцях на тэрыторыі Польшчы, асабліва там, дзе абшчына валодала судовымі функцыямі[959].

Чынш сялянскія гаспадаркі Васілішкаўскага староства павінны былі асабіста здаваць у двор, затое разам «усе ставаць павінны» былі на рамонт грэбляў, ставаў і дворных млыноў; «уся воласць Васілішкаўская ставаць заўжды павінна» на рамонт ці будаўніцтва мастоў; сенажаць у Саснобары «ўся грамада» скасіць і да двара адвезці павінна[960]. Спецыяльна адзначалася, што калі нехта з сялян выйшаў з вёскі, то да той пары, пакуль на яго надзел нехта другі асядзе, «павінны тамашнія сяляне ўсёй вёскай трымаць названы грунт або каму-небудзь ад сябе выдзеліць, а чынш двару поўнасцю выплаціць» («powinni tameczni Chłopi Cała Wsią pomieniony Grunt trzymać albo też komu od siebie zawieść a czynsz Dwo rowi zupełnie opłacić»)[961]. Выраз «Grunt trzymać albo też komu od siebie zawieść», несумненна, сведчыць аб тым, што ў Васілішкаўскім старостве была распаўсюджана практыка здачы зямлі насельніцтвам вёсак у арэнду пабочным людзям. Звяртае на сябе ўвагу тое, што даручэнне «або каму-небудзь ад сябе выдзеліць» зроблена сельскай абшчыне, і гэтая накіраванасць яшчэ больш узмацняецца словамі «ад сябе», што можа разумецца толькі як «ад усяго сяла» ці «ад грамады».

У вёсцы Дворышча Васілішкаўскага староства ўся вёска трымала і плаціла разам за тры з паловай валокі зямлі[962]. У распараджэнні грамады знаходзіліся землі ў вёсках Арцішы, Галасевічы[963]. Паметкі аб тым, што пэўную колькасць зямлі вёска трымае разам і сумесна за яе ўносіць плату, былі зроблены і адносна іншых вёсак Васілішкаўскага староства.

Прыметы існавання грамады прасочваюцца і ў дакументах, якія датычацца іншых вёсак Лідскага павета. Так, у вёсцы Боркі было 1/3 валокі «ў пусташы, за якую ўсёй вёскай плацяць»[964], у вёсцы Цыбары Лідскага павета аўса дзякельнага «ўся вёска дае бочак тры»[965], у вёсцы Пеляса Барцянскага староства Лідскага павета «чыншу злотых 928 грошаў 10, які ўсе разам даюць» («wszyscy ogulnie dają»)[966], у вёсцы Падзітва ўсе разам чынш плацяць («wszyscy ogulnie płacą»)[967]. Падобныя

[958] Тамсама. - P.54v.

[959] Historia chłopów polskich. - S. 330-331; Kubiak, B. Gromada wiejska i jej funkcjonowanie w Małopolsce w XVI i XVII wieku / B. Kubiak // Społeczeństwo staropolskie. Studia i szkice. - T. III. Pod red. A. Wyczańskiego. - Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1983. - S. 146-147; Wawrzyń-ezyk, A. Urząd wiejski na Mazowszu w XVI w. (Ze studiów nad ustrojem społecznym wsi mazowieckiej XVI w.)/A. Wawrzyńczyk // Społeczeństwo staropolskie. Studia i szkice. - T. II. Pod red. A. Wyczań-fego. - Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1979. - S. 23-24.

[960] LMA BRS. F. 11, b b. 30, p. 54v.

[961] Тамсама.

[962] Тамсама. - P.46v.
[963] Тамсама. - P.47, 47v.

[964] Тамсама. - P.79 v.

[965] Тамсама. - P.92.

[966] Тамсама. - P.97v.

[967] Тамсама. - P.98v.

запісы зроблены і адносна вёсак Повалака, Пелюнцы, Лелюшы, Вiганы, Шмыляніны[968].

Пры апісанні павіннасцей насельніцтва Барцянскага староства Лідскага павета ў 1765 г. было адзначана, што чынш кожны гаспадар аддае сам, а «іншыя даніны і падаткі. як то жыта дзякальнае, ячмень і авёс. падаткі грашовыя, гэта значыць ялавічнае, сеннае, старажовае, палатнянае і моргавае ўсе разам цэлай вёскай, як вызначана ў сумарыюшы, злажыўшыся разам, аддаюць» («wszyscy razem całą wsią... złożywszy się ogulnie oddają»)[969].

Такім чынам, звесткі, якія змешчаны ў інвентары люстрацыі Лідскага павета 1765 г., пацвярджаюць наяўнасць у многіх вёсках гэтага павета практыкі сумеснага карыстання некаторымі землямі і ўгоддзямі, а таксама сумеснай выплаты чыншу за іх. Прыведзеныя факты з'яўляюцца важнай прыметай наяўнасці ў іх грамады як сацыяльна-гаспадарчага інстытута. Факты сдачы зямлі ў арэнду ад імя цэлай вёскі. Абавязковай узаемадапамогі пацярпелым ад пажару, як і прысутнасць у вёсках лаўнікаў, таксама сведчаць аб наяўнасці там грамады, але не раскрываюць механізма яе функцыяніравання.

У інвентары Глаўсевіцкага войтаўства Слонімскага строства за 1754 г. сярод іншых павіннасцей сялян быў устаноўлены абавязак кожнаму селяніну з валокі грунту вывезці з пушчы да Слонімскага тартака калоду дрэва. Пры адсутнасці ў селяніна каняці вала, каб вывезці дрэва, гэта павінна была за яго зрабіць абшчына - «грамада павінна за яго адвезці»[970].

Матэрыялы люстрацыі Пінскага староства 1765 г. часта паведамляюць аб тым, што ў многіх вёсках староства (Азёрск, Дуброўск, Волчыцы і інш.) грамада плаціць за засцянковыя моргі («cała wsią płaca z morgów zaściankowych»)[971]. У вёсцы Жытавічы разам плацілі за агароды і сенажаці («za ogorody i sienożaci płaca cała wsią»)[972], у вёсцы Стараконі – за дзве валокі зямлі і нявымераныя моргі (« cała wsią ogulno płacą za morgi, którą znaiduią się bez wymiaru y wiadomośwci»)[973]. У інвентары паведамлялася, што вёскі Семяховічы, Забароўцы, Альшанка і іншыя маюць нявымераныя землі, таму зямлю трымаюць разам і разам плацяць чынш[974].

У інвентары Гнеўчыцкага староства Берасцейскага павета за 1780 г. адзначалася, што стража і варта для двара павінна адбывацца па чарзе з грамады («stróża y warty koleyno do dworu pełni z gromady»)[975].

Д. Л. Пахілевіч звярнуў увагу на тое, што гіберна (падатак на ўтрыманне войска) «збіралася ў эканоміях агулам з абшчын, а апошнія ўжо размяркоўвалі яе паміж сялян паводле іх гаспадарчага становішча»[976]. З аналізу архіўных дакументаў, праведзенага аўтарам дадзенай працы, бачна, што грамада збірала

[968] Тамсама.- P.99-101 v.

[969] LMA BRS. F.11, b b. 30, p. 110.

[970] НГАБ, ф. 1928, воп. 1, спр. 217, арк. 64.

[971] LVIA. F. 11, ap. 2, bib. 55, p. 80.

[972] Тамсама.- P.91.

[973] Тамсама.- P.92.

[974] Тамсама.- P.105, 421, 424 і інш.

[975] НГАБ, ф. 1928, воп. 1, спр. 65, арк. 7 адв.

[976] Похилевич, Д Л Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века.- С 29.

гіберну таксама ў многіх дзяржавах і старoствах. Напрыклад, так было ў Чачэрскім старостве[977]. Пры апісанні павіннасцей насельніцтва Калачэўскага староства Менскага павета ў 1765 г. зказвалася, што гіберну сяляне «павінны самі сабраць»[978]. У Любашанскім старостве ў 1773 г. былі прызначаны «складкі з воласці на гіберну»[979]. У 1753 г. у інвентары Жукаўскага староства Мсціслаўскага ваяводства адзначалася, што «гіберну штогод дзвюма часткамі воласць сама павінна паміж сабой раскладаць паводле даўніх звычаяў, а двор у канцылярыю ці да паслоў ад харугваў аддаваць і квітанцыі адпаведныя на гэта павінен атрымліваць» («Hiberne co Rok dwoma Ratami Włość sama roskładać powinna między sobą podług dawnych zwyczaiow, a Dwór do Kancelarii czyli do Jch m PP. Deputatów Chorągiewnych wnaszac i kwity na imię Pańskie otrzymywać powinen»)[980].

Вельмі выразнымі былі таксама прыметы грамады ў староствах і дзяржавах, размешчаных на ўсходзе Беларусі. Так, у частцы інвентару Чачэрскага староства 1754 г. пад назвай «Павіннасці і звычаі Чачэрскай воласці» пералічваюцца работы, якія выконваюцца сумесна. Паводле тэксту, усе войтаўствы староства павінны былі па чарзе выходзіць на работу для апрацоўкі замкавай валокі, вывазу гною, касьбы сена і малацьбы збожжа, на рамонт замкавага астрога, мастоў і грэбляў[981]. Адзначана, што першы ўлоў рыбы пасля замярзання азёр павінен быў аддавацца ў замак: «перва лёд з азёр сваіх павінен ісці на замак» («Perwolod z Jezior swoich na zamek iść ma»)[982]. Выраз «з азёр сваіх» можа быць сведчаннем таго, што азёры належалі сельскім абшчынам («з азёр сваіх»).

Наяўнасць у старостве грамады пацвярджаецца таксама наступнымі запісамі: у вёсцы Клуды «ўся грамада мае плаціць з капы грунту»[983]; у вёсцы Рыскаў «уся вёска за пустку па вышлым Кандраце Пацуку» чынш плаціць[984]. Вёскі Беляёўка і Будзішча Анісімкаўскае сядзелі на слабадзе і разам плацілі вызначаную суму чыншу. Калі слабада скончылася, з членамі абшчыны («мужамі») дамовіліся аб правядзенні перамервання зямлі: «z umówienia się z tey wsi muzami do wymiaru Gruntu»[985].

У інвентары Чачэрскага староства 1763 г. зафіксаваны яшчэ больш дакладныя факты існавання грамады ў старостве. Па-першае. складальнік інвентару пастаянна называе членаў валаснoй абшчыны тэрмінам «мужы» («włości Mużowie»)[986], як гэта было і у XVI-XVII стст. Па-другое, адзначаецца, што кожная вёска прадстаўляла сабой сельскую абшчыну: «кожная вёска, грамадой сваёй зложыўшыся за мёд, бараны і падводы да прыстані... паводле даўняга звычаю выплаціць павін-на («Włości Poddaństwo każdawieś swą gromadą złoży wszysia miód, Barany, y Podwody

977 ЛНБ. АР. Ф. 5. Ркп. Асалін. 5184 ЯІ, арк. 123.

978 LVIA. F. SA, bib. 3789, p. 42.

979 Тамсама. - Bib. 3297, p. 17.

980 LVIA. F. 1177, ap. 1, bib. 693, p. 8v.

981 ZNIO. Rkps. 5170, p. 16.

982 Тамсама.

983 Тамсама. - Арк. 11.

984 Тамсама. - P. 32.

985 Тамсама. - P. 51v.

986 Тамсама. - P. 54v, 57.

do Przystani przynależą z dawnego zwyczaju... wypłacić»)[987]. Ва ўсіх вёсках быў войт[988], які, верагодна, і быў прадстаўніком сельскай абшчыны перад уладамі.

Яшчэ больш інфармацыі аб існаванні абшчыны дае люстрацыя Чачэрскага староства 1765 г. (Дадатак 8), якая значна дапаўняе звесткі папярэдніх інвентароў. Так, у «Апісанні павіннасцей і звычаяў воласці Чачэрскага староства» дакладна вызначана, што за хмель, курэй, падводы да прыстані, за бараноў і мёд «кожная вёска грамадой, паводле інвентарнага вызначэння. злажыўшыся, аплачвае» («kozim wieś gromadą według oznaczenia inwentarowego złożywszy opłaca»)[989].

Амаль такая ж фармулёўка змешчана ў інвентары Чачэрскага староства 1773 г.: «кожная вёска сваёй грамадой, паводле вызначэння ў сумарыюшах, злажыўшыся, аплачвае» («Każda wieś swą gromadą złożywszy za Miod, Barany i Podwody do Przystani przynależące z dawniego zwyczaju podle wyznaczenia w summariuszach...»)[990].

У Рагачоўскім старостве, паводле люстрацыі 1765 г., насельніцтва сядзіць або на чыншы (мясцовая назва - «куніца») або на прыгоне (Дадатак 8). Усе яны выконваюць работы, вызначаныя ў інвентары. Яна абавязана са сваёй пянькі сплесці невад або, склаўшыся, купіць гатовы[991]. Воласць павінна таксама лавіць рыбу для двара, удзельнічаць у аблавах на звяроў са сваімі сецямі і рабіць складкі на жалаванне і абмундзіраванне двух пахолкаў для замкавых паслуг, а таксама сталовае, грашовае і квітовае «на стол» (на харчаванне) для харунгавага паслан-ца, які прыедзе выбіраць гіберну («ako to na dwuch pachołków do posługi zamkowey jurgielta, barwy, kożuchy, boty, na kwit przyjeżdżającego na Hiberne Jmść Pana Deputata Chorągiewnego ludzi, koni, tomuż na kwitowe y groszowe. Całą włością składaią złłtych 350 prowent Jeneralne użytek. Opłacaią Ruską monitą to jest rachując złoty po szostakow dwa»)[992].

У інвентары Гомельскага староства 1771 г. паведамляецца аб наяўнасці ў вёсках Харашоўка, Камень, Баршчоўка, Азарчыцы, Юркавічы, Весялоўка, Усохі, Мікалаеўка, Дарафееўка, Ніўкі, Пясечна, Добруш і іншых пустак, прынятых на плату грамадой («Pustoszy Pod Gromadą Płatney»)[993]. Адносна некаторых вёсак (Краўцоўка, Студзёная Вада, Маркавічы, Клімава, Прыбыткі, Лагуны) проста ўказана, што грамада аплачвае пэўны ўчастак зямлі («Gromada Opłacaią»)[994].

Сярод павіннасцей насельніцтва ў Гомельскім старостве ў 1771 г., за якія камісары бралі штраф, адзначым 66 злотых 20 грошаў, узятых з войта вёскі Крупец Стары за пралюбадзейства («z Krupca Starego Woyt za Cudzołozstwo popełnione zapłacił winy z decyzyi Imści Pana Komissarza zł. 66, gr. 20»)[995], і штраф селяніна з вёскі Харошаўка Зміцера Бугарка, які за ўтойванне ад абкладання ўчастка зямлі ў

[987] ЛНБ АР. Ф. 5. Ркп. Асалін. 5179/II, арк. 10.

[988] Тамсама.

[989] LVIA. F. SA, bib. 3786, p. 7.

[990] ЛНБ АR Ф. 5. Ркп. Асалін. 5184/II, арк. 23.

[991] LVIA. F. SA, bib. 3786, p. 43.

[992] Тамсама.

[993] ЛНБ АР. Ф. 5. Ркп. Асалін. 5180/II, арк. 29v, 30v, 37v, 41, 43, 45v, 48, 51, 52, 60v, 64, 76 і інш.

[994] Тамсама. - Арк. 62-76.

[995] Тамсама. - Арк. 131.

прысутнасці усей грамады быў вымушаны заплаціць 33 злотых 10 грошаў[996].

Традыцыйна, сяляне грамадой ці паасобку імкнуліся схаваць хоць частку зямлі ад абкладання падаткамі і павіннасцямі. Так, у інвентары Зёлаўскага староства Ваўкавыскага павета за 1767 г. указана на неабходнасць улічваць сялянскія прыробкі, таму што «пры апісанні інвентарным заўжды таіць з выклі»[997] (у прыватнасці, у вёсцы Літоўскія «сяляне прыробкі і польныя моргі патаілі»[998]). Для таго каб кожнае сяло аддавала траццяк, па сёлах былі вызначаны «траццячнікі», якія павінны сачыць за тым, каб ні нога не было «ўтоена»[999].

У дакуменце пад назвай «Спецыфікацыя падаткаў на валашчанах і ключах Гарадзенскай эканоміі ад 1.07.1786 да чэрвеня 1789 гг.» адзначаны шматлікія прыклады сумеснага землекарыстання і выплаты чыншу. Так, каля большасці вёсак пазначана «тая вёска чыншу агульнага заплаціла» або «ўся вёска разам плаціць»[1000]. У вёсках Адэльскага ключа адбывалася выплата «чыншу з грунту агульнага ворыўнага і сенажатнага», у вёсцы Вярхлес Слойкаўскага ключа ўсёй вескай з грунту агульнага»[1001].

Вывучэнне люстрацыі Віцебскай эканоміі 1764 г. паказвае, што змен у землекарыстанні і адбыванні павіннасцей у параўнанні з XVI ст. тут амаль не адбылося. Зямля на валокі не была перамерана, прынцыпы падаткаабкладання і арганізацыі сялянскага жыцця дакументамі не вызначаны. На тэрыторыі эканоміі нават не было аднастайнага грамадска-адміністрацыйнага падзелу. Так, насельніцтва Любашкоўскага войтаўства знаходзілася на «службах», прычым на дзесяці службах гэтага войтаўства «сядзела» 132 гаспадары[1002]. Размер чыншу паказаны агульнай лічбай, але можна толькі здагадвацца. што ён збіраўся агулам, з абшчыны. Падобная сітуацыя была і ў Лемніцкім войтаўстве[1003]. У Віцебскае войтаўства ўваходзілі Лукішская валасць і Узварскае войтаўства, якія ў сваім складзе мелі службы. Зусім верагодна, што адзначаныя ў інвентары Віцебскай эканоміі ў складзе валасцей і войтаўстваў «службы» ўяўляюць сабой ні што іншае, як вёскі-абшчыны. Напрыклад, у Лукішскую валасць уваходзілі пяць служб[1004], кожная з якіх мела назву (Новікава, Акцянская, Трубецкая, Браніцкая, Перавозава) і налічвала ў сваім складзе ад 7 да 14 гаспадарак.

Веліжскае староства Віцебскай эканоміі ў 1765 г. падзялялася адпаведна на войтаўствы, лаўніцтвы і дзярэўні (derewnie)[1005]. Запісы аб згаданых «дзярэўнях» па сваёй структуры поўнасцю адпавядаюць запісам аб папярэдніх «службах» Лукішскай валасці, а таксама Лемніцкага і Узварскага войтаўстваў. Таму з яшчэ большай доляй упэўненасці можна сцвярджаць. што названыя «службы» ёсць не

---

[996] Тамсама.

[997] НГАБ, ф. 1928, воп. 1, спр. 120, арк. 8.

[998] Тамсама. - Арк. 12 адв.

[999] Тамсама.

[1000] AGAD. AK, sign. ШЛ87 p. 3, 5, 14, 17-20, 27.

[1001] Тамсама. - P. 29, 32.

[1002] LVIA. F. SA, b. b. 3805, p. l-lv.

[1003] Тамсама. - P. 2-4.

[1004] Тамсама. - P. 5.

[1005] Тамсама. - P. 8-10v.

зямельныя надзелы, а населеныя пункты. На войтаўствы, лаўніцтвы і дзярэўні шдзяляліся таксама Усвяцкае і Падусвяцкае староствы[1006].

Рындзінскае староства Віцебскай эканоміі ў 1764 г. складалася з Рындзінскага дзесятка, у які ўваходзіла 20 служб і 53 дымы[1007]. Тут у службе было ад трох да шасці дымоў; Гушчанскага і Жаднасельскага дзесяткаў; Негавельскай лавы (Lawa Nehowelska. 9 служб, 61 дым[1008]) і Ушчанскага пагоста (Pogost Uszczański). з якога была ўказана толькі плата 59 тынфаў[1009]. Як адзначыў складальнік інвентару, у Рындзінскім старостве знаходзілася 36 «аселых служб або дзярэўняў» («Służb osiadłych albo Derewni»), 191 гаспадар[1010], пры гэтым указана толькі агульная сума чыншу. У інвентары зафіксавана наяўнасць тых жа дзесяткаў. а ў іх складзе - «служб або дзярэўняў» у Савінскім старостве Віцебскай эканоміі[1011], у Бабінавіцкім старостве былі «дзярэўні або вёскі» («derewni alias wsi»)[1012].

Аналіз інфармацыі люстацыі Віцебскай эканоміі 1764 г. дазваляе выказаць меркаванне, што згаданыя ў дакуменце службы, дзярэўні, лавы, войтаўствы, лаўніцтвы (з падзелам іх на дзесяткі) прадстаўлялі сабой асобныя сельскія абшчыны, якія выступалі перад дзяржавай у якасці падатковых і павіннасных адзінак. На карысць гэтай думкі сведчыць і тое. што чынш тут, як і раней, у XVI - першай палове XVII ст., таксама прызначаўся агулам на сельскую абшчыну.

З разгляду інвентару Багрымаўскага староства Мазырскага павета за 1776 г. вынікае, што, хаця асноўныя павіннасці з сялян вызначаны на асобныя гаспадаркі, шмат заставалася выплат і работ, якія праводзіліся разам, грамадою. Так, насельніцтва вёсак Багрымаўскага староства складалася разам і сумесна плаціла за падарошчызну, жаўнершчыну, календы, валачобнае, уступнае да азёр і палеткаў[1013]. Запіс у інвентары пра чынш, мядовую і збожжавую даніну, ссыпку «і іншыя порубы» сведчыць аб тым, што яны раскладваліся паміж асобнымі гаспадарамі самой грамадой. На рамонт грэбляў і мастоў таксама хадзіла «ўся грамада... колькі з двору скажуць»[1014].

У дакуменце, які называецца «Люстрацыі падаткаў Аршанскага павета 1773 г. з маёнткаў, што не знаходзяцца за расійскім кардонам», было адзначана, якія падаткі збіраліся ў воласці праз сялянскія складкі. Аўтар інвентару аперыраваў выразамі «плаціць воласць» («płaci włość»), «воласць дае» («włość daie»), «складае воласць» («składa włość»), якія паказваюць, што гэтыя падаткі збіраліся ўнутры абшчыны. Так, у Барысаўскім старостве акрамя чыншу з валок і кварты воласць плаціла растаўшчызну, давала пры гіберне пенязі на валоў, збірала вайтовае і лясковае, а таксама грошы для чатырох замкавых жаўнераў і інш.[1015] Да таго ж уся

[1006] Тамсама.- Р.34-46.

[1007] Тамсама.- Р.46v-47.

[1008] LVIA. F.SA, b b. 3805, p. 47-47v.

[1009] Тамсама.- Р.47v.

[1010] Тамсама.- Р.48.

[1011] Тамсама.- Р.49-49v.

[1012] Тамсама.- Р.50-50v.

[1013] LVIA. F.11, ap.2, bib.51, p.5v.

[1014] Тамсама.- Р.5v, 6, 11v.

[1015] LVIA. F.SA, b b. 3297, p. 9v.

воласць павінна была сабраць 126 тынфаў на намесніка («Na namieśnika składa włość 126 tynf.»)[1016].

У інвентары Бярэзінскага і Любашанскага старостваў за 1766 г. указвалася. што адмяняюцца ранейшыя грашовыя платы з воласці, якія былі самых розных назваў («са стаўпа», «з дымшчыны», «са зрубкі, «з воўчых ям», «стральшчызна», «за барана», «запісное», «войтаўскі тынф»), якія мелі больш недахопаў, чым рэгулярнасці. У інвентарах адносна кожнай вёскі запісана, колькі неабходна плаціць чыншу, даваць мядовай даніны і збожжа («Płąta pieniężna ze włości przez rożne Podatków nazwiska wybierana była. iako z Stoupu, z Dymczyzny, z Zrubki, z Wilczych Jam, Strelczyzny, za Barana, zapisnego, woytowski Tynf, które podatki że więcey miały mankamentu, niżeli regularności, więc w oguł zniesione, według wyznaczenia pod kożdą wsią i miasteczkiem specifice położonego. Czynsz płacić, oraz Dań miodowa y zboże wyrażona dawać maią»)[1017]. Такія разнастайныя падаткі звычайна існавалі там, дзе дзейнічала сялянская абшчына. Пасля фіксацыі ўсіх падаткаў у інвентарах з раскладам на кожную гаспадарку абшчынны ўплыў змяншаўся.

У Любашанскай і Бярэзінскай валасцях застаўся, паводле даўніх і да гэтага часу захаваных звычаяў («podług dawnych i doted obserwowanych zwyczajów»), абавязак цэлай воласцю абрабляць дваровыя агароды і разробкі, утнойваць іх, збіраць ураджай[1018].

У гэтым жа інвентары Бярэзінскага і Любашанскага старостваў за 1766 г. ёсць цікавы запіс аб тым, якз біраліся з воласці складкі на сельскую адміністрацыю: старца, падвойскага, падстаросту. Зямля ў вёсках указана ў «чвартках» (колькі гэта складае ў валоках, інвентар высветліць не дазваляе). Пберну збіралі з чварткі па 40 тынфаў і 2 шастакі. У розных вёсках была розная колькасць чвартак. Напрыклад, у вёсцы Клубча на 6 дымоў была адна чвартка, у вёсцы Міластаў на 9 дымоў - тры чварткі, а ў вёсцы Мацевічы на 9 дымоў - адна чвартка, у вёсцы Кукарава на 15 дымоў - адна чвартка, у вёсцы Высокая Гара на 4 дымы - палова чварткі, а ў вёсцы Тылькаўка на 6 дымоў - усяго адна чацвёртая частка чварткі[1019]. Падобная сітуацыя існавала і ў іншых вёсках Бярэзінскага і Любашанскага староств аў. «Усяго ў воласці было 36 чвартак, з якіх па рашэнню па-гапраз складкі, якія тут называліся зрубкі, збіраліся гіберна і іншыя рэгулярныя або выпадковыя зборы, але з кожнай складкі трыццаць шостая частка ішла а ўзнагароду працы старца, падвойскага і іншых, хто знаходзіўся на скарбавых аслугах» («Czwartek wszystkich na Włości z których się podatek Hibernowy y inne fi aacyjne Jub przypadkowe per ŁauósPowJato, czy Jakon3 potrzeba zdarzdtie pustki, seu Zrubki składaią się, iest 36, ale z kożdych składek trzydsieścia szósta idzie w grodęprac Starca, Podwojskiego i innych ... na usługach Skarbowych»)[1020]. З гэтай трыццаць шостай часткі палова ішла на старца, трэцяя частка на падвойскага, чацвёртая - на падстаросту «адпаведна з даўнімі уставамі ізвычаямі» («iako ж ustawy y zwyczay zachowuią»)[1021].

---

[1016] Тамсама.- Р. 10.

[1017] AGAD. APJ, sign. 136, p. 24v.

[1018] Тамсама.

[1019] Тамсама.- Р. 7v-8v, 18v-19.

[1020] Тамсама.- Р. 25.

[1021] Тамсама.- Р. 24v.

Прыведзены вышэй невялікі тэкст дае вельмі карысную інфармацыю аб існанні абшчыны ў Бярэзінскім і Любашанскім староствах. Па-першае, звесткі аб тым, што кіраўніком вясковай адміністрацыі тут быў старац, ніжэй па службовай лесвіцы стаялі падвойскі і падстароста (вывад зроблены па выніках іх аплаты). Па-другое, звесткі аб тым, што пры неабходнасці воласць збірала на свае патрэбы складкі, якія называліся «зрубкі» (хутчэй за ўсё, гэта мясцовая назва ўжо вя-домых «порубаў» і «разрубаў»).

Пералічым некаторыя прыметы грамады адносна іншых уладанняў: у Азарыцкім старостве Мазырскага павета ў 1789 г. грамада збірала грошы і рабіла выплаты за талокі, невады, гусей, а таксама за валачобнае і калляднае[1022]; у Сялецкім старостве Мазырскага павета грамада разам плаціла «за даніну мядовую»[1023].

У люстрацыі 1773 г. Бабруйскага староства ўказана, што тут ужо даўно не было перамеру зямлі, таму нельга даведацца, колькі хто трымае зямлі, і таму кожная вёска разам аддае прызначаныя на іх чынш і даніны («Poniewaź w tym starostwie adney pomiary gruntów nie ma, ani specifiu wiełe który chłop gruntu trzyma y wiełe czynszu płacić powinen z każdego inwentarza dostatecznie informować się niemożna, lecz wsie ogulnie czynsz y inne daniny po niżey wyrażeni oddaią»)[1024]. На жаль, і гэты дакумент не паказвае, як адбывалася размеркаванне падаткаў і даніны ўнутры абшчыны.

Як і ў папярэдні перыяд, у большасці вёсак выганы і сенажаці знаходзіліся ў карыстанні сельскай грамады. Так, выганы на ўсё сяло адзначаны ў 1781 г. практычна ва усіх весках Барысаўскага староства[1025].

Як адзначалася раней, грамада была своеасаблівым кантралёрам дзейнасці трымальнікаў і адміністрацыі. Так, рэвізор Камянецкага староства ў 1761 г. запісаў, што сяўба збожжа павінна праводзіцца ў прысутнасці людзей, назначаных з замка і «пры мужах з грамад абраных»[1026].

Сярод службовых асоб сельскай абшчыны ў дзяржаўных уладаннях у другой палове XVIII ст. найбольш часта сустракаліся на захадзе і ў цэнтры Беларусі войты, падвойты, лаўнікі і дзесяцкія. Менавіта такія пасады былі ўказаны ў інвентарах Станіславаўскага ключа Гарадзенскай губерні 1781 г.[1027] і Кобрынскага староства 1792 г.»[1028]. У другой палове XVIII ст. урад рэкамендаваў для сталовых эканомій надаваць «на ўрад войтаўскі і лаўнічы 6 лаўнікаў і адзін войт. Лаўнікаў і войта насельніцтва павінна абрацьз трох кандыдатаў аднаго штогод..»[1029].

На ўсходзе Беларусі ў некаторых уладаннях (Бабруйскае і Барысаўскае староствы, 1765 г.[1030]) існавалі старцы. Старац у Бабруйскім старостве. паводле люстрацыі 1765 г., за работу атрымліваў 30 тынфаў («Starcowi ex quo Starcuie y па

---

[1022] LVIA. SA, bib. 3363, p. 61-67.

[1023] Тамсама.- P. 80.

[1024] Тамсама.- Bib. 3876, p. 54v.

[1025] НГАБ, ф. 694, воп. 7, спр. 595, арк. 1122.

[1026] Тамсама.- Ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 1629, арк. 21.

[1027] LVIA. F. SA, bib. 11300, p. 4v.

[1028] Тамсама.- F. 110, ap. l, bib. 717, p. 19.

[1029] AGAD. AK, sign. Ul/1484, nienumer.

[1030] LVIA. F. SA, bib. 3801, p. 28v; F. 1177, ap. l, bib. 662, p. 12v.

usługę zamkową bywa używany dla wybierania podatków 30 tynfow»)[1031].

Напрыканцы прывядзём апісанне парадку выбараў старца ў Барысаўскім старостве ў 1765 г., які быў выяўлены аўтарам дадзенай работы сярод архіўных дакументаў (Дадатак 9). «Не пад прымусам, а з прыязнасці і добрай волі падданых, воласць у Вяліканоч рускую ў пэўны час збіраецца каля замка, выбірае звычайным парадкам войтаў і старцаў, а пан староста загадвае даць для воласці некалькі пасудзін зваранага піва і гарэлкі даволі. Пасля выбрання войтаў і старцаў робяць расклад і. каб аддзячыць паноў, робяць складкі ў чатыры тысячы тынфаў і робяць узнос на падстаросту, гадавых старажоў, цівуноў, на чэлядзь фальваркавую і замкавую»[1032]. Аналіз гэтага дакумента дае магчымасць прыйсці да высновы, што ў Барысаўскай воласці сельская грамада дзейнічала ў даволі цесным штакце з кіраўніцтвам староства.

Некаторыя дакументы паказваюць супраціўленне членаў сялянскай грамады імкненню землеўласніка цалкам ператварыць яе ў орган феадальнай адміністрацыі. Так, у 1760 г. сяляне вёскі Вепрын Крычаўскага староства пратэставалі супраць спроб трымальніка прызначыць ім старца. У сваёй скарзе яны адзначалі, што старац выбіраецца сялянамі кожны год: «старац бывае ў нас не вечна, а рочна. Сяляне заяўлялі, што старцам павінен стаць той чалавек, каго пажадаюць выбрацьяны самі. Калі старац людзям «упадобаў», яго можна было выбраць і на новы тэрмін, калі не падыходзіў - выбіралі іншага[1033].

Сялянскія скаргі, як і ў папярэдні час, у асноўным складаліся ад імя грамады. Найболыш захавалася скарг сялян каралеўскіх сталовых эканомій. Пры гэтым пераважаюць скаргі, якія выяўлялі рэакцыю сельскага насельніцтва на мерапрыемствы аграрнай рэформы А. Тызенгаўза. У Камеральным архіве захаваліся цэлыя зборнікі такіх скаргаў, часта разам з адказамі на іх альбо рэзалюцыямі аб неабходнасці прыняцця тых ці іншых мер[1034]. Ёсць рэестры скаргаў (хаця самі скаргі адсутнічаюць), якія паказваюць як іх масавасць, так і тое, што яны зыходзілі менавіта ад імя сельскіх абшчын. Так, вядома, што ў 1768 і 1769 гг. уКамеру паступілі скаргі ад грамад вёсак Дабрынкі, Карошчыкі, Малая Дубровіца, Бакінкі, Палоскі і іншых вёсак Кіявецкага ключа Берасцейскай эканоміі[1035], а таксама грамады вёскі Лазовая Гарадзенскай эканоміі[1036].

Сярод дакументаў Камянецкай воласці, якія адносяцца да другой паловы XVIII ст., захавалася скарга сялян воласці на дзеянні намесніка, які проста тэрарызаваў насельніцтва, забіраў жонак у людзей, збіваў мужоў («żony od mężów odbiral, a mężów kaleczył, od mielnika żonę odebrał i niego skaleczył..»)[1037]. Скаргу складаў, магчыма, валасны войт, бо яна змяшчала словы, якія, на нашу думку, маглі зыходзіць толькі ад яго ці былі ўнесены ў тэкст суплікі па яго ініцыятыве: «чалавека гвалтам войтам паставіў і чалавек просіць вызваліць яго ад таго войтаўства, таму што не як войт упраўляў, а як гайдук, не маючы шводнага

[1031] Тамсама.- P. 28v.

[1032] LVIA. F.1177, ap. L bib. 662, p. 12v.

[1033] НГАБ, ф. 694. воп. 4, спр. 1159, арк. 153

[1034] AGAD. AK, sign. II/37; III/16; III/33; III/112; III14; III/130; Ш/165; Ш/166 - Ш/270.

[1035] Тамсама.- Sign. III/1484, p. 149, 150.

[1036] Тамсама.- P. 166.

[1037] LVIA. R604, ap. L bib. 2, p. 70.

вольнага дня» («człowiek rasz aad tego woytowstwa wyzwolić, że nie iak woit radził, a jak haiduk»)[1038].

У Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве захоўваецца некалькі незапоўненых друкаваных бланкаў стандартных кантрактаў «на арэнду ключа... Гарадзенскай эканоміі» на адзін год ад 1 ліпеня 1794 г. да 30 чэрвеня 1795 г. Тэкст пачынаецца са спасылкі на тое, што «з новага праўлення на вышэйшага начальніка нацыянальных збройных сіл грамадзяніна Тадэвуша Касцюшкі» («Gdy z nowego teraz urządzenia Najwyższego Naczelnika Siły Zbrojney Narodowcy Obywatela Tadeusza Kościuszki»)[1039] для дзяржаўных сялян адменена палова паншчыны.

З пункту гледжання праблемы, даследуемай у дадзенай працы, гэты дакумент уяўляе цікавасць у тым сэнсе, што ён таксама прадугледжваў існаванне ў дзяржаўных маёнтках грамады. У прыватнасці, пры апісанні парадку судаводства ў адносінах да сялян адзначалася, што «грамадзянін трымальнік («Obywatel Dzierżawca») чалавека з чалавекам у сваёй дзяржаве павінен судзіць у прысутнасці войтаў, падвойскіх або старшых людзей з грамады, а большай кары цялеснай прызначаць не можа як да дзесяці бізуноў і штрафу пенежнага да злотых чатырох...»[1040]

Напрыканцы адзначым, што ў другой палове XVIII ст. разам з завяршэннем адбудовы гаспадаркі ў дзяржаўных уладаннях на тэрыторыі Беларусі адбылося пэўнае абмежаванне дзейнасці абшчыны, у першую чаргу ў сферы землекарыстання. Найбольш гэта заўважна ў каралеўскіх сталовых эканоміях і ў многім звязана з характарам правядзення аграрнай рэформы А. Тызенгаўза. Разам з тым, як сведчаць дакументы, абшчына як інстытут сялянскай самаарганізацыі захавалася ў дзяржаўных уладаннях ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, прычым як на вясковым, так і на валасным узроўні.

---

[1038] Тамсама.- P. 71 v.

[1039] AGAD. AK, sign. III/135, p. 239.

[1040] Тамсама.- P. 241.



Рукапісная выява герба г. Ашмяны з інвентару XVIII ст.




Тытульны ліст інвентару вёскі Жабіна Бранчыцкага ключа, 1682 г.




Малюнак з інвентару вёскі Капацэвічы Бранчыцкага ключа з выявай бортніка і мядзведзя, які лезе ў борць, 1682 г.




Тытульны ліст інвентару маёнтка Залессе князёў Агінскіх, 1776 г.



Laudetur JESUS CHRISTUS. In secula seculor[um]. Amen.

Innwentarz Ekonomij Oszmianskiey z Miastem y Wioskami do niey należącemi Dobr Jaśnie Wielmożnego Imci Pana Thadeusza z Kozielska Ogińskiego Pisarza Wielkiego Wielkiego Xięstwa Litewskiego Oszmianskiego Sądowego Babulickiego Przewalskiego Woygowskiego ettc Starosty samey Jaśnie Oświeconey Xiężney Jeymci Izabelli z Radziwiłłów Ogińskiey Pisarzowey Wielkiey W.X.a Litt. Oszmianskiey Sądowey Babulickiey Przewalskiey Woygowskiey etc Staroscinej przezemnie niżey wyrażonego Commissarza Anno 1740 m[ie]s[ią]ca Nowembra sporządzony.

Тытульны ліст інвентару Ашмянскай эканоміі, 1740 г.

# 4

## СЕЛЬСКАЯ АБШЧЫНА У МАЁНТКАХ ПРЫВАТНЫХ УЛАСНІКАЎ

### 4.1. Абшчына ў прыватнаўласніцкіх маёнтках Беларусі ў XVI - першай палове XVII ст.

Прыватнае землеўладанне (уласнасць магнатаў, сярэдніх і дробных феадалаў) пераважала сярод іншых відаў феадальнага землеўладання ВКЛ і складала ў XVI ст., паводле падлікаў Е. Ахманьскага, каля 65% у яго агульнай структуры[1041]. Разам з тым вывучэнне сельскай абшчыны прыватнаўласніцкіх сялян на тэрыторыі ВКЛ і Беларусі як яго часткі практычна не праводзілася.

Асноўнымі відамі крыніц па вывучэнні становішча сялянства і сялянскай абшчыны ва ўладаннях прыватных уласнікаў з'яўляюцца інвентары феадальных уладанняў і сялянскія скаргі. Але гэтыя крыніцы паказваюць галоўным чынам жыццё магнацкай вёскі і вельмі рэдка - сітуацыю ва ўладаннях дробнай і сярэдняй шляхты. Калі дробны шляхціц звычайна сам арганізоўваў працу сваіх некалькіх (ці некалькіх дзесяткаў) сялян, то буйны землеўласнік зусім не быў зацікаўлены ў тым, каб умешвацца ва ўсе галіны штодзённага жыцця вёскі. Для яго было выгадней і прасцей пакінуць справу вырашэння некаторых пытанняў самім сялянам, а то нават і перадаць яе ім сваім распараджэннем. У некаторых выпадках землеўласнік даваў грамадзе права кантролю за дзейнасцю адміністратараў ці арандатараў сваіх маёнткаў. Таму пераважная большасць звестак пра дзейнасць сялянскай абшчыны прыватнаўласніцкіх сялян адносіцца да магнацкіх уладанняў (збіранне падаткаў і чыншу, размеркаванне парадку выканання павіннасцей і інш.).

Натуральна, што грамада такім чынам станавілася больш залежная ад феадала, таму адносна тэрыторыі Беларусі толькі ўмоўна можна гаварыць пра наяўнасць вясковага самакіравання. Але правы грамады разам падаваць скаргі (суплікі), выбіраць кіраўніцтва абшчыны, наяўнасць пэўных элементаў абшчыннага суда (не абавязкова аднолькавых у розных абшчынах) сведчылі якраз пра наяўнасць прымет гэтага самакіравання.

Трэба ўлічваць, што прыватнае землеўладанне складвалася ў асноўным за кошт велікакняжацкіх падараванняў і раздачы шляхце земляў за службу[1042]. У маёнтках, перададзеных ад дзяржавы ў прыватнае ўладанне, сялянская абшчына, як правіла, працягвала дзейнічаць. Больш за тое, кіраўнік дзяржавы у многіх выпадках інфармаваў сельскую абшчыну (воласць, сяло) аб змене ўласніка. Такія прыклады прыводзіліся і ў папярэдніх раздзелах, але прывядзём яшчэ адзін факт часоў праўлення вялікага князя Аляксандра (1492-1506 гг.): «Сам Александр божью

---

[1041] Ochmański, J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Ustrój i uposażenie / J. Ochmański. - Poznań: Drukarnia Uniwersytetu im. A. Mickiewicza, 1972. - S. 107.

[1042] Груша, А. І. «И привильем своим подтвердил»: у вытокаў пісьмовай культуры Вялікага княства Літоўскага // Памяць стагоддзяў на карце Айчыны. Зборнік навуковых прац у гонар 70-годдзя Міхаіла Фёдаравіча Спірыдонава - Мінск: Беларус. навука, 2007. - С. 198-240; Похилевич, Д. Л. Статус домена Великого князя Литовского и его населения в XV-XVI вв. / Д. Л. Похилевич // Тезисы докладов и сообщений XV сессии межреспубл. симпоз. по аграрной истории Восточной Европы, Вологда, 17-13 сент. 1974 г. / Академия наук СССР, Отделение истории АН СССР, Институт истории СССР АН СССР, Вологодское проблемное объединение по агр. истории Европейского севера СССР; редкол.: В. Л. Янин [и др.]. - М., 1974. - С. 51-54; Любавский, М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С приложением текста хартий, выданных великому княжеству Литовскому и его областям / М. К. Любавский. - М.: Синодальная Типография, 1910. - С 113-127.

милостью великий князь литовский, руский, жомойтский и иных. Старцу Червишскому и всим мужом, дали есмо вас з даныю воеводе виленскому канцлеру нашему пану Миколаю Радзивилови и вы бы его послупгаи во всем потому как и самих нас, а увязати его у вас послали есмо дворанина нашего Станчика Ожаковича. Писан в Вильни августа 29 день индикта 10»[1043].

Вялікакняжацкія лісты звычайна зачытваліся на агульным сходзе грамады. Вось як тэта адбывалася, напрыклад, у 1584 г. пры перадачы радзівілаўскага сяла Калоднае Ашмянскага павета пану Стэфану Львовічу Роскаму. Мікалай Янавін Адавец па загаду М. Ю. Радзівіла, які прадаў С. Л. Роскаму маёнтак Калоднае, спецыяльна паехаў «до Колодна, до бояр его м(ило)сти панских колоденских, пану Роскому проданых, до старца Колоденского Андрея Левоновича и там же за росказанем моим бояре, мещане и подданые вси, которые его м(ило)сть пан мой пану Роскому продати рачил зошлися...»[1044] З абодвух прыведзеных дакументаў выразна відаць, што галоўнай асобай грамады быў старац, якому ў першую чаргу і адрасаваліся лісты і які, як можна меркаваць, быў абавязаны забяспечыць іх выкананне.

Большасць прыватных уладанняў знаходзілася ў заходнім і цэнтральным рэгіёнах, дзе былі найбольш урадлівая глеба і добра развітыя шляхі транспартных зносін. Ва ўсходнім рэгіёне ўдзельная вага прыватных маёнткаў была ніжэйшай. Гэта тлумачыцца ў асноўным нестабільнасцю там палітычнай сітуацыі, частымі ваеннымі канфліктамі з Маскоўскай дзяржавай, у выніку якіх маёнткі маглі аказацца ў руках непрыяцеля. Таму вядомы выпадкі, калі шляхта прасіла ўгаспадара «адмену» ў больп аддаленых адграніцы раёнах[1045].

Эканамічнае развіццё многіх прыватных маёнткаў у XVI - першай палове XVII ст. ішло пад уплывам сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, якія адбываліся ў дзяржаўных уладаннях. Тым больш гэта адносіцца да маёнткаў магнатаў, уласнікі якіх як дзяржаўныя чыноўнікі часта займаліся правядзеннем гаспадарчых пераўтварэнняў у дзяржаўнай вёсцы і лепшае з убачанага імкнуліся прымяняць у сваіх маёнтках.

Вялікія магнацкія вотчыны часта мелі ўнутраную структуру, подобную на дзяржаўныя ўладанні: яны падзяляліся на воласці, у якія ўваходзіла некалькі вёсак, або яшчэ і на войтаўствы – трупы вёсак у воласціці ўладанні, што кіраваліся адным войтам. Дробныя ўладанні, якія складаліся з адной ці дзвюх-трох вёсак, такога падзелу, натуральна, не мелі. Былі выпадкі, калі часткі вёсак належалі розным уласнікам, калі ў адной і той жа вёсцы некалькі паноў мелі па дзве-тры сялянскія гаспадаркі. Усе гэтыя сяляне, зразумела, жылі адной сельской абшчынай, якая рэгулявала працэсы землекарыстання, сумеснага выпасу жывёлы і да т. п. Іншыя сведчанні аб функцыяніраванні такіх абшчын сустракаюцца вельмі рэдка.

Некаторыя магнаты, у прыватнасці Радзівілы, мелі ў трыманні за службу значныя дзяржаўныя маёнткі. Яны добра ведалі існуючы парадак адміністрацыйна-тэрытарыяльнай арганізацыі ў дзяржаўных уладаннях, месца ў ім абшчыны і часта ўводзілі такі ж ці подобны парадак у сваіх маёнтках. У якасці падцвярджэння можна назваць «Реестр померы волок имения Ивейского вельможной пани Анны

[1043] AGAD. AR, dz. XV, teka 9, plik l, p. 18.

[1044] Тамсама. AT, sign. C-l, p. 129.

[1045] LV1A. F. 599, ap. l, bib. 116, p. 3, 5-5v.

Радзивиловны»[1046] 1561 г. і «Рэестр» правядзення валочнай памеры 1575 г. ва ўладанні Крыштафа Радзівіла Лебедзева Ашмянскага павета[1047]. Паводле абодвух рэестраў, як і ў дзяржаўных уладаннях, на чале воласці знаходзіўся войт, для якога выдзялялася валока зямлі. Разам з тым прыватныя ўласнікі ў сваіх маёнтках не поўнасцю паўтаралі палітыку дзяржавы ў адносінах да сельскага насельніцтва. Так, З. Ю. Капыскі супаставіў артыкул 7 «Уставы на валокі» ад 1 красавіка 1557 г. іартыкул 15 «Уставы на чынш» згаданага маёнтка Іўе Ашмянскага павета, якія прадугледжваюць смяротнае пакаранне для войта, калі ён за грошы «подданым в работах фолкгу вчинил», і парадак прызначэння новага войта[1048].Даследчык звярнуў ўвагу на тое, што ва «Уставе на чынш» больш «рэзка і катэгарычна падкрэслена паўнаўладдзе пана ў сваім маёнтку.«Устава на валокі» прадугледжвае пры змене войта, каб рэвізоры ставілі «мужа тоеж волости неподозроного, на которого подданые зволять». Іўеўская ж «Устава» знае толькі волю пана,..»[1049] На падставе гэтага вучоны зрабіў вывад аб тым, што «буйны феадал яарываў з традыцыяй... катэгарычна парваўшы з абшчыннай нормай выбара сельскага старшыны»[1050]. Сапраўды, у дадзеным выпадку можна выказаць меркаванне аб абмежаванні права ўсялян маёнтку Іўе пры выбарах кіраўніка валасной абшчыны ў параўнанні з правамі насельніцтва дзяржаўных уладанняў. Разам з тым практыка магла быць і іншай, бо дакумент напрамую не забараняў сялянам маёнтка Іўе выказваць свае меркаванне наконт кандыдатуры войта. На думку аўтара дадзенай працы, не буйныя, а дробныя і сярэднія феадалы больш актыўна ўмешваліся ў справы грамады.

Асноўнымі, найбольш выразнымі прыметамі наяўнасці грамады ў прыватнай вёсцы з'яўляюцца агульнае карыстанне ворыўнымі землямі і ўгоддзямі, а таксама сумесная выплата падаткаў і калектыўнае адбыванне некаторых павіннасцей. Паказчыкам існавання грамады ў асобнай вёсцы можа быць наяўнасць агульных для ўсяго насельніцтва выганаў, сенакосаў, лясных уваходаў, рыбных ловаў і інш. Важным сведчаннем прыналежнасці сялян да грамады пэўнай вёскі ці воласці з'яўляюцца адпаведныя самаідэнтыфікацыйныя запісы («мы, грамада», «мы, мужы»). Аб тым, што ў вёсцы ці воласці дзейнічала грамада як інстытут сялянскай самаарганізацыі ці самакіравання, сведчаць запісы ў інвентарах аб наяўнасці кіраўнікоў абшчын - старцаў.

Так, пры апісанні ў 1556 г. воласці Астрожчыцкага замка Менскага павета. якая належала І. А. Гарнастаю, першым пазначаны «старац Мішко Азыкеевіч, чалавек айчызны»[1051], у сяле Латыголічы першым запісаны старац Іван Якававіч[1052]. Больш ніякіх сведчанняў аб існаванні ў дадзенай мясцовасці грамады няма. У названых вёсках жылі сяляне-даннікі, аснову павіннасцей якіх складала мядовая даніна, І кунічнікі, галоўным абавязкам якіх была выплата грашовай рэнты. Звяртае

[1046] Копысский, З. Ю. Новые документы об аграрном строе Белоруссии в XVI - первой половине XVII века / З. Ю. Копысский // Советское славяноведение.- 1980. -№ 1. - С.63.

[1047] MDR.- S.139.

[1048] Копысский З. Ю. Новые документы об аграрном строе Белоруссии в XVI - первой половине XVII века.- С. 65.

[1049] Тамсама.

[1050] Тамсама.- С 66.

[1051] AGAD. APR, sign. 390, nienumer.

[1052] Тамсама.

на сябе ўвагу, што самыя разнастайныя прыметы абшчыны найперш заўважныя ў маёнтках, дзе сяляне «сядзелі» на даніне ці чыншы, які ўдзяржаўных уладаннях. У 1582 г. у сяле Латыголічы было 14 сялянскіх сем'яў, павіннасці якіх былі вызначаны агулам («павіннасць дань мядовая камені 18 вагі віленскае... плату грашо вага пры той дані коп 4 грошаў 12»[1053]). У «Рэестры спісання падданых сяла Латыголічы, дадзеным ад пана Лапаты», які быў складзены ў 1593 г., у сяле адзначасцца 17 сялянскіх сем'яў з павіннасцю «найперш гроша гатовага коп 20 літоўскіх, а мёду пудоў9»[1054]. У інвентары маёнтка Латыголічы, складзеным у 1634 г., які ўжо належаў пані Фядоры Корсакаўне Паўлавай, указвалася, што сяляне сядзелі на зямельных надзелах з назван «пуд»: «тыя ж падданыя з кожнага пуда зямлі павінны кожны тыдзень на работу з чым скажуць 2 дні мужчына і 2 дні жанчына», плаціць чынш у памеры 3 капы грошаў літоўскіх і даніну з пуда зямлі салянку жыта, аднаго гуся, 2 курыцы, 10 яйкаў[1055]. Можна меркаваць, што ранейшая назва даніны з участка зямлі «пуд мёду» пазней перайшла на сам надзел, які таксама стаў называцца «пуд». Верагодна, што у такой вёсцы, якая разам збірала даніну, магла дзейнічаць сялянская грамада. Але прамым указаннем на гэта з'яўляецца толькі наяўнасць там старца ў 1556 г. Меркаваць, што ў сяле Арэшкавічы Менскага павета функцыяніравала абшчына, таксама дазваляе указание ў інвентары 1599 г. на наяўнасць там старца Селівона, які ў пераліку сялян згаданы першым[1056]. Пасада старца ўпамінаецца таксама ў дакументах аб маёнтку Дзяцел Слонімскага павета пані Якубавай Давойнічавай у 1514 г.[1057], маёнтку Халопенічы Аршанскага павета ў 1620 г.[1058]

Цікава, што зямля з назвай «пуды» сустракаецца яшчэ ў адным уладанні, асноўнай павіннасцю сялян у якім з'яўлялася даніна мёдам і дзе выразна прасочваецца наяўнасць сельскай абшчыны. Гэта ўладанне Божын Менскага павета. Са зместу інвентару маёнтка Божын за 1626 г. вынікае, што ў гэтым сяле «грунту пудоў 92», а «павіннасць з кожнага пуда зямлі па два камені мёду, па аднаму злотаму», збожжавая ссыпка і інш.[1059] Адзначана, што сяляне, якія з ведама войта карыстаюцца засценкамі, павінны за іх плаціць[1060]. У сяле Паложын гэтага ж уладання таксама была у пудах, але адзначаны факт сумеснага землекарыстання: «а асобна ўсім сялом трымаюць 5 пудоў» («A zosobna wszystkim siołem trzymają Pud 5»)[1061].

Неабходна адзначыць, што інвентарныя вопісы прыватных уладанняў XVI - першай паловы XVII ст., асабліва тых, дзе прайшла памера на валокі, сведчаць аб наяўнасні індывідуальных, а не грамадскіх форм надзельнага землекарыстання сялян. Інвентары звычайна не раскрываюць парадак карыстання сенакосамі і

[1053]Тамсама.

[1054]Тамсама.

[1055]Тамсама.

[1056]БЭФ. - Т.1. - С.243.

[1057]РИБ. -Т.XX. - С.71-72.

[1058]НБУ ІР, ф 1, спр. 5962, арк.41 адв. - 45 адв.

[1059]AGAD.APJ, sign. 143, p. 1.

[1060]Тамсама.

[1061]Тамсама.- P.5.

выганамі, указваючы толькі на існаванне ў вёсках. Хутчэй за ўсё, сенакосы і выганы знаходзіліся ў агульным карыстанні ўсёй вёскі. Калі гэта было нормай у дзяржаўнай вёсцы, то, напэўна, і прыватны ўласнік не пайшоў бы на пагаршэнне ўмоў гаспадарання для сваіх сялян у мэтах пазбягнення пратэстаў, бегству і да т. п. Некаторыя выяўленыя аўтарам дакументы пацвярджаюць такое меркаванне.

Сустракаліся таксама асобныя прыклады сумеснага карыстання і зямельнымі участкамі сялян прыватнай вёскі, пра што будзе ўказвацца ў працы ніжэй.

Аўтар паспрабаваў выявіць і прааналізаваць звесткі аб наяўнасці абшчыннай арганізацыі сялянства не толькі ва ўладаннях буйных феадалаў, але і ў маёнтках сярэдняй і дробнай шляхты. Разам з тым адзначым, што гэта ўдалося зрабіць толькі ў той ступені наколькі дазволіла крыніцазнаўчая база.

У документах, якія датычацца прыватных маёнткаў, размешчаных на захадзе Беларусі. складзеных у час да правядзення валочнай памеры, разам з кіраўнікамі абшчын – старцамі ўпамінаюцца, як і адносна дзяржаўных уладанняў, сарочнікі, сотнікі. Так, у падаўчым інвентары 1566 г. сяла Лунінец Наваградскага павета ад пана Станіслава Давойны пану Харлінскаму ўказвалася аб існаванні ў гэтым сяле чатырох «вольных» (без цяглай павіннасці) дымоў з усіх 75 дымоў: «...на старца адзін, на сарочніка адзін, на язоўніка адзін, на рыбалова адзін»[1062].

Агулам на сяло была прызначана мядовая даніна, «даніны мядовай з усяго сяла павінны даць вёдзер дваццаць пяць або за кожнае вядро па грошаў трыццаць, а наўрадніка чатыры, ляснічаму адно, плябану чатыры вядры. Сума платы голага з таго сяла ўсяго коп 28 грошы два. Да таго аўса 60»[1063]. Агульная даніна на сяло разам з наяўнасцю старца і сарочніка можа разглядацца як сведчанне аб існаванні грамады.

Звяртае на сябе увагу той факт, што ў дакументах, складзеных пры правядзенні валочнай памеры ў прыватных уладаннях, вельмі рэдка сустракаюцца запісы аб тым, каб землі, нават выганы ці пашы, выдзяляліся бясплатна ўсяму сялу. Згодна з інвентарамі, складзенымі падчас памеры, зямля і ўгоддзі перадаваліся за плату, няхай і за невялікую. Аб гэтым сведчыць, напрыклад, інвентар 1561 г. радзівілаўскага маёнтка Іўе Ашмянскага павета, дзе ўся зямля раздавалася только за плату[1064]. Але ў такіх выпадках заўсёды заставаліся непрынятыя землі, якія праз некаторы час рэвізоры ўсё ж аддавалі сельскім абшчынам у агульнае карыстанне, каб атрымаць з іх хоць нейкі прыбытак.

Сумесна плацілі за карыстанне сенажацямі і выганам сяляне некаторых вёсак маёнтка Ішкальдзь Наваградскага павета ў 1598 г.[1065], у вёсках Пакаліна і Пятровічы Смалявіцкай валасці ў 1640 г.[1066] У некаторых вєсках сенакосы былі падзелены паміж асобнымі гаспадаркамі, што выразна зафіксавана ў інвентарах адносна вёсак радзівілаўскіх уладанняў Дзераўная ў 1591 г.[1067]. Смалявіцкай валасці ў 1640 г.[1068] У матэрыялах маёнткаў Дзярэчын і Зэльва за 1571 г. ёсць

[1062] LIVA. F.1282, ap. 1, bib. 9991, p. 15v.

[1063] Тамсама.- P. 16.

[1064] НГАБ, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 1467, арк. 2-26 адв.

[1065] Тамсама.- Спр. 1380.

[1066] Тамсама.- Спр. 3871, арк. 66, 78.

[1067] Тамсама.- Спр. 734, арк. 22 адв.-32.

[1068] Тамсама.- Спр. 3871, арк. 41-99.

звесткі, што сяляне вёскі Мошкі «сенажаці... па старому ўжываці маюць»[1069], што, хутчэй за усе, таксама сведчыць аб сумесным карыстанні імі.

Памеры сенакосаў, якія выдзяляліся цалкам на вёску, залежалі ад агульнай колькасці лугоў ці адведзенай спецыяльна для гэтага зямлі. Так, у інвентары маёнтка Ішкальдзь Наваградскага павета за 1598 г. указвалася, што «пры выгане сенажатных моргаў 9/6 трымаюць падданыя сяла Зароўе для пашы валоў і плацяць з кожнага морга па тры грошы..»[1070]

Разам з тым у некаторых інвентарах адзначаліся і факты сумеснага трымання ворыўнай зямлі, што прадугледжвае яе падзел у абшчыне, збор грошаи на выплату прызначанага за карыстанне ею чыншу. Гэта важны паказчык менавіта ўнутрыабшчынных працэсаў. Напрыклад, у інвентары маёнтка Смалявічы за 1640 г. указвалася, што ўсяле Шаметава у пустках ляжала больш за 9 валок зямлі, «з якіх плата ўсім сялом за валоку па 1 капе»[1071]. У інвентары 1628 г. маёнтка Лаздуны Ашмянскага павета, які належаў пані Радзівілавай, ёсць запіс аб сумесным сялянскім карыстанні ў тым ліку і ворыўнай зямлёй. Так, усё сяло Русакі трымала дворны засценак і сенажатныя моргі («s. Rusaki zaścianek pod puszcząŁazduńskiej dwo my dzierży wszystko sioło, płaci kop 3, morgów sianożetnych 25 s którego płaca po gr. 5»[1072]), а ў вёсцы Друднілы - ворыва і сенажаць («przy tym siole zaścianek w Szyłoczach...osobliwie gruntu pasznego y sianożecipoddan iwszyscy tego sioła»[1073]).

Аналіз крыніц паказвае, што як абшчына цалкам, так і яе службовыя асобы нават у адносінах з землеўласнікам звычайна на першы план ставілі інтарэсы грамады, што найбольш яскрава праяўлялася ў барацьбе за «старыну». Неабходныя для грамады рашэнні часта прымаліся на агульным сходзе вёскі, «на грамадзе людзей». Менавіта праз мясцовае самакіраванне арганізоўвалася землекарыстанне ў вёсцы.

Членаў сельскай абшчыны, які ў дзяржаўных уладаннях, называлі «мужамі», «людзьмі вадаснымі». Так, у 1511 г. князь Сямён Адяксандравіч Чартарыйскі накіраваў адказ на скаргу каралю пана Літавора «на наместніка майго Ласаснянскага на Марка Адамовіча і на баяр і на слуг маіх і на ўсіх людзей маіх валасных аб гвалтах і наездах..»[1074]

Сельская грамада была даволі замкнутай, кансерватыўнай структурай і не імкнулася да штучнага пашырэння колькасці сваіх членаў. Вядомы выпадкі, калі з грамады проста «выжывалі» тых, хто быў недаспадобы, не давалі асвоіцца прышлым з іншых вёсак і ўладанняў. Асабліва гэта заўважна тады, калі новыя людзі станавіліся канкурэнтамі старажылаў у сферы землекарыстання ці павіннаснага абкладання (напрыклад, калі апошнім прыходзілася аддаваць свае прыёмныя землі з малым чыншам для навапрыйшоўшых). Часта грамада рабіла так нават насуперак распараджэнням землеўласніка. Вядомы і іншыя выпадкі, калі сяляне для памяншэння павіннаснага ўціску дапамагалі чужому селяніну (часцей гэта былі родзічы ці знаёмыя) уцячы да іх у вёску. Напрыклад, актыўна гэтым

[1069] V UBRS .F . 4, bib .39700 (A 1417), p . lv .

[1070] НГАБ, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 1380, арк.7 адв.

[1071] Тамсама.- Спр. 3871, арк. 61.

[1072] AGAD. AR, dz. XXIX, sign. 98, p. 13.

[1073] Тамсама.- P. 13v .

[1074] Czart. Rkps. S .L. 9145, p . L.

займаліся сяляне-выбранцы са Слуцкага княства Радзівілаў. У 1620 г. рэвізоры склалі цэлы рэестр «падданых, якіх падданыя княства Слуцкага выселілі». Так, «з сяла Юшэвін 13 мая 1620 г. Хведара Локця з жонкай із чатырма сынамі выселілі («wyprowadzili») падданыя сяла Цімошы Слуцкага княства па імені Сямён Лук'янавіч, войт, Аляксей і Ясюк Бусененцяга з выбранцамі і з іншымі іх памочнікамі, якія і зараз ў сяле Цімошах жывуць»[1075]. Усяго рэвізоры зафіксавалі 14 такіх выпадкаў[1076]. На жаль, дакумент не дае магчымасці высветліць прычыну таго, чаму так адбывалася. Можна толькі выказаць меркаванне, што сяляне-выбранцы, якія былі абавязаны не цяглавай, а ваеннай службай, знаходзілі такім чынам сабе паплечнікаў для выканання некаторых іншых феадальных павіннасцей, якія несумненна былі ў княстве.

Звароты да грамады ад уласнікаў таксама сведчаць аб прызнанні імі гэтай формы самаарганізацыі сялянства: «Усим вобец подданым моим Божынским, Положынским, и Рутоницким даю вам ведомость. И же вас за певным постановенем завел его м(ило)сти пану Грыгорю Ленковскому подкоморому Оршанскому. У чом вы ведаючы росказую вам абы его от тот часу скоро вас тое писане мое дойдет во всем послушии были его м(што)сти пану Ленковскому подкоморому Оршанскому и вселякую повинност водлуг давного звычаю его м(ило)сти выполняли, яко мне самому. Писан у Вилни году тисеча шестсот трынадцатого м(еся)ца юня»[1077].

Старцы і войты нярэдка злоўжывалі сваім становішчам, бралі з сялян павышаную плату пры зборы падаткаў і чыншу, а розніцу забіралі сабе. Пра гэта можна даведацца з сялянскіх скарг. Так, у 1628 г. сяляне сапегаўскага сяла Канюхова Аршанскага павета падалі рэвізорам скаргу на войта Мацвея за тое, што «ён браў зверх рэвізорскай уставы з валокі па два орты на працягу 1627 і 1628 гг.»[1078]

Нярэдка на пасаду старца імкнуліся трапіць людзі нядобрасумленныя, якія з дапамогай гэтай пасады намерваліся павялічыць сваю маёмасць. Часта менавіта старцы арганізоўвалі сапраўды рабаўніцкія напады на суседнія вёскі, пра што захаваліся дзесяткі сведчанняў.

Так, дзяржаўца Віцебскай плябані Мікалай Дзеражыяскі падаў ў 1550 г. скаргу ўраду гаспадарскага двара Чарсвяты на старцаў Бялянскіх «напервей на старца пана Ивана Сопеги... именем Лукьяна Сухога, на другого старца... Степана Пушкаря, на третего старца ...Ходора Каркуна. Тыи деи старцы з людми панов своих и з многими помочниками своими нашодшы кгвалтом на имене плебанеи Витебское Лепле»[1079].

Чаго варты толькі расказ гаспадарскага дваравіна Яна Габрыяловіча адносна паводзін старца з маёнтка Пухавічы, занесены ў 1536 г. у кнігі Метрыкі ВКЛ. Падчас сваёй службовай паездкі Ян Габрыяловіч спыніўся ў хаце старца сяла Балоннае (побач з Пухавічамі), куды зайшоў таксама велікакняжацкі наёмны воін («драб»), чэх па нацыянальнасці Марцін Беразавец, які паведаміў аб паводзінах

---

[1075] AGAD. AR, dz. XV, teka 10, plik 9, p. 46.

[1076] Тамсама.- P. 46-51.

[1077] AGAD. APJ, sigii. 144, nienumer.

[1078] LMA BRS. R17. bib. 104. n. 44.

[1079] LMA BRS. R22, bib. 43, p. 1.

пухавіцкага старца. Марцін Беразавец расказаў, што ішоў са службы са Старадуба, а дайшоўшы да Пухавіч, дрэнна адчуў сябе і папрасіўся ў хату адпачыць; «...лежал есми у водного чоловека, проскурника, ноч одну и дал заховати есьми подворницы клумок свой з речми и мечь касовский, ручницу запалистую, и прышол старец пуховский, и выгнал мя з дому и с того села, а так просил есьми того клумка и меча, и ручницы в тое подворницы, и она ми отдати не хотела и отказала ми «иж я тот клумок и меч, и ручницу отдала слузе твоему, и взял слуга твой у мене в ночы», - и я мовил: «Я тобе в руки подал, а так не ведаю, где ты подела, и слугу моего не ведаю, где подели». - И я жаловал старцу, и старец мне отказал: «Ляше, будешь ли ты большей того говорыти, будеш ты у воде седети». - И я с того села пошол, ино тот же мой старец з двема мужыки у лесе нагонившы, избили мя и взяли у мене девять коп грошен и шесть золотых церленых»[1080]. Сапраўды, так і было, «однак, тот старец покривдил мужиков – только им по копе грошей подавал, а все себе побрал, да не первое тот старец чынить...»[1081] На жаль, невядома, які працяг мела гэтая справа.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што матэрыялаў аб дзейнасці грамады ў маёнтках прыватных феадалаў у XVI - першай палове XVII ст. у параўнанні з дзяржаўнымі і царкоўнымі ўладаннямі ўдалося выявіць значна менш, хаця ўдзельная вага прыватных маёнткаў пераважае над дзяржаўнымі і царкоўнымі, нават калі апошнія скласці разам. Часцей звесткі аб існаванні грамады ў прыватных уладаннях можна знайсці ў дакументах адносна былых дзяржаўных вёсак, якія ў далейшым сталі прыватнаўласніцкімі, у якіх грамада як інстытут сялянскай самаарганізацыі існавала да пераходу ў прыватныя рукі. Напэўна, рэжым феадальнай эксплуатацыі, арганізацыя спагнання павіннасцей у прыватных уладаннях у разглядаемы перыяд усё ж былі больш жорсткімі, чым у дзяржаўных і духоўных уладаннях. Разам з тым грамада існавала і ў прыватных уладаннях. Магчыма, гэта толькі не было адлюстравана ў дакументах феадальных маёнткаў, паколькі такой патрэбы для землеўласніка амаль не было. Неабходна адзначыць, што калі неабходнасць апеляцыі да абшчыны ў феадала з'явілася падчас разбурэнняў і войнаў другой паловы XVII ст., то адразу і ў дакументах згадак пра грамаду стала больш.

У дакументацыі прыватных маёнткаў за XVI - першую палову XVII ст. больш сустракаецца матэрыялаў пра наяўнасць у вёсках службовых асоб абшчыннай адміністрацыі (старцаў, войтаў), чым пра дзейнасць самой грамады. Можна выказаць меркаванне, што абшчына ў прыватных уладаннях знаходзілася пад большым, чым у дзяржаўных і царкоўных уладаннях, кантролем феадальнага ўласніка. Кіраванне абшчынай і ўплыў на яе ажыццяўляліся праз кіраўніцтва абшчыны, таму імёны прадстаўнікоў абшчыннай адміністрацыі фіксаваліся ў інвентарах маёнткаў.

### 4.2. Сялянская грамада ў маёнтках прыватных феадалаў у сярэдзіне XVII — першай палове XVIII ст.

Эканамічнае развіццё і гаспадарчае аднаўленне ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст. ва ўладаннях буйных землеўласнікаў ажыццяўлялася як праз далейшае развіццё фальварка, так і праз ачыншаванне сялянства, а ў маёнтках

[1080] LM-6.- P.151.

[1081] Тамсама.- P.152.

дробнай і сярэдняй шляхты - у асноўным праз пашырэнне паншчьшнай гаспадаркі[1082]. Становішча сельскай абшчыны тут у многім залежала ад гаспадарчай накіраванасці маёнтка, таму звестак аб грамадзе значна больш у дакументацыі тых уладанняў, дзе сярод сялянскіх павіннасцей пераважала грашовая рэнта, галоўным чынам у матэрыялах магнацкіх архіваў. Разам з тым аўтар змог выявіць таксама дакументы са звесткамі аб існаванні абшчыны ў маёнтках дробнай і сярэдняй шляхты.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што ўдзельная вага сведчанняў аб існаванні і дзейнасці абшчыны ў прыватных уладаннях захаду і цэнтра Беларусі, знойдзеных аўтарам у гістарычных крыніцах другой паловы XVII - першай паловы XVIII ст. значна меншая, чым ва ўладаннях усходу Беларусі. Гэта можа тлумачыцца тым, што асноўная маса магнацкіх латыфундый, размешчаных у заходнім і цэнтральным рэгіёнах, не была ў разглядаемы час поўнасцю пераведзена на грашовую рэту, як большасць дзяржаўных уладанняў. Так, П.Р.Казлоўскі адзначыў, што ў большасці заходніх і цэнтральных вотчын магнаты захавалі фальваркі на працягу другой паловы XVII - першай паловы XVIII ст., паколькі «магнацкія вотчыны тут менш пацярпелі ад войн, чым іншыя феадальныя ўладанні»[1083]. Поўнае ачыншаванне сялян там адбывалася рэдка, хаця ў структуры сялянскага надзелу магнацкіх вотчын чыншавая доля таксама павялічылася. Аднак у першай палове XVIII ст. у магнацкіх уладаннях захаду і цэнтра Беларусі працэнт цяглых сялян дасягнуў 64%, а на ўсходзе - толькі 20%[1084]. На думку аўтара, менавіта перавага паншчыны ў складзе павіннасцей прыватнаўласніцкіх сялян захаду і цэнтра Беларусі ў разглядаемы перыяд паўплывала на захаванне там ярка выражанай індывідуалізацыі ў сферы землекарыстання і павіннаснага абкладання сялянства. У сувязі з гэтым роля грамады ў гаспадарчым жыцці насельніцтва такіх уладанняў была меншай, чым у тых, дзе пераважалі грашовая рэнта і даніна, што і адлюстравалі крыніцы.

Д. Л. Пахілевіч выказаў меркаванне аб тым, што ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст. становішча абшчыны ў прыватнаўласніцкіх маёнтках на тэрыторыі Беларусі і Літвы было намнога горшым у параўнанні з дзяржаўнымі ўладаннямі, асабліва там, дзе шляхціц сам вёў сваю гаспадарку. Вучоны зрабіў высновы аб тым, што ў вышэйзгаданых маёнтках «абарончая» функцыя грамады «не магла мець месца або была зведзена да мінімуму. У такіх маёнтках войт ці цівун у некаторых выпадках нават жыў на панскім двары на поўным забеспячэнні гаспадара. Ён мог быць нават нічым не звязаным з мясцовым насельніцтвам. Гэта быў тыповы слуга панскага двара. І ўсё ж абшчына існавала, яна была неабходнай арганізацыяй памеснай гаспадаркі»[1085].

Гэтыя словы Д. Л. Пахілевіча, на думку аўтара дадзенай працы, у значнай ступені падыходзяць да ацэнкі становішча сельскай абшчыны ва ўладаннях дробнай і сярэдняй шляхты (і ў некаторых магнацкіх маёнтках) у асноўным захаду і цэнтра Беларусі ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст.

[1082] Голубеў, В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI-XVIII стст. / В.Ф, Голубеў.- Мінск: Навука і тэхніка, 1992.- С.103, 106.

[1083] Козловский, П. Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII-XVIII в. / П. Г. Козловский - Минск: Наука и техника, 1969.- С 23-23.

[1084] Козловский, П Г Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII-XVIII в.- С 192, табл. 13.

[1085] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв. / Д. Л. Похилевич.- Львов: Изд-во Львовского ун-та, 1957.- С.162.

Разам з тым у дакументах некаторых прыватных маёткаў захаду і цэнтра Беларусі ёсць разнастайныя, хоць і не такія выразныя, як у адносінах да дзяржаўных уладанняў, звесткі аб існаванні там абшчыны. Так, аб наяўнасці і значнай ролі грамады ў радзівілаўскім маёнтку Лахва Наваградскага павета сведчаць запісы ў інструкцыі 1741 г., адрасаваныя яго адміністратару. З тэксту дакумента можна даведацца аб тым, што адміністрацыйнымі асобамі грамады там з'яўляліся цівуны, валасны войт, сельскія войты і падвойцкія. Яны назначаліся на свае пасады адміністрацыяй уладання, выконвалі яе распараджэнні і адначасова прадстаўлялі грамаду ў адносінах з дваром[1086]. Складальнікі інструкцыі адзначалі, што людзей, назначаных на такія пасады, не трэба мяняць да правядзення чарговай рэвізіі (камісіі) уладання. Выключэннем мог быць толькі выпадак, калі нехта з іх быў злоўлены на крадзяжы («цівун, або войт, што быў прыпаншыне»[1087]). У такім выпадку патрэбна было сабраць усіх іншых войтаў уладання, разам з валасным войтам і абшчыннікамі («мужамі»), засведчыць факт учынення злачынства і вынесці вінаватаму публічнае пакаранне[1088]. Са зместу гэтага запісу можна зрабіць выснову аб наяўнасці ў згаданым маёнтку двухузроўневай абшчыннай арганізацыі: валасной на чале з валасным войтам і сельскай – на чале з сельскімі войтамі. Абавязкам сельскага войта быў нагляд за працай сялян на паншчыне, цівун працаваў у панскім двары. Валасны войт як вышэйшая асоба валасной грамады, напэўна, каардынаваў і кантраляваў працу сельскіх войтаў і цівуна.

Аб тым, што паўнамоцтвы валаснога войта ў маёнтку Лахва традыцыйна былі даволі шырокімі, сведчыць запіс у інструкцыі адміністратара гэтага ж уладання за 1730 г. У прыватнасці, у інструкцыі ўказвалася, што раней войты самастойна раскладвалі на валасць розныя паборы, прычым невядома, на якія патрэбы і без ведама двара, і гэта стварала пэўныя цяжкасці для сельскіх абшчын (I..a przez to ucienżenie było gromad»)[1089]. Рэвізоры адзначылі, што з моманту выхаду дадзенай інструкцыі без загаду двара «ніводзін войт, валасны або гарадскі, з іншымі войтамі не павінен рабіць такіх, нават найпатрэбнейшых пабораў»[1090].

Даведацца пра існаванне грамады ў маёнтку Лахва дазволілі менавіта адпаведныя запісы ў тэкстах інструкцый адміністрацыі ўладання. Іншыя вядомыя дакументы гэтага ўладання наяўнасці грамады тут не паказваюць, як, напрыклад, «Рэестры выбірання чыншу з горада і валасці Лахваўскай» за прыблізна той жа час (1732, 1734, 1736 і 1737 гг.)[1091] ці сам інвентар Лахваўскага ключа за 1730 г., ладаткам да якога служыла вышэйзгаданая інструкцыя[1092].

Такім чынам, на аснове аналізу папярэдняга дакумента можна прыйсці да высновы аб тым, што ў якасці адной з прымет (пры адсутнасці шырокага спектра іншых) існавання абшчыны ў прыватнаўласніцкіх маёнтках захаду і цэнтра Беларусі можна разглядаць наяўнасць сялянскай адміністрацыі, у першую чаргу войтаў, падвойскіх і дзесятнікаў Так, пасада войта была зафіксавана ў сёлах

[1086] AGAD. AR, dz. XXV, sign. 2172, p. 103.

[1087] Тамсама.

[1088] Тамсама.

[1089] AGAD. AR, dz. XXV, sign. 2171, p. 71.

[1090] Тамсама.

[1091] НГАБ, ф. 694, воп. 2, спр. 4185, арк. 375 адв. -384 і інш.

[1092] AGAD. AR, dz. XXV, sign. 2171, p. 1-70.

радзівілаўскіх уладанняў Копысь і Затур'е графства Мір Наваградскага павета ў 1672 г.[1093], Беразавец Наваградскага павета ў 1681 г.[1094]; у маёнтку Дзярэчын Слонімскага павета, які належаў К. Сапегу ў 1723 г.[1095]; у маёнтку Дубраўляны Ашмянскага павета М. Патоцкага ў 1710 г.[1096] Войты і лаўнікі неслі службу ў 1672 г. у радзівілаўскім маёнтку Чарнаўчыцы Берасцейскага павета[1097] і інш.

Даволі падрабязна адлюстраваў структуру абшчыннай адміністрацыі складальнік інвентару 1688 г. графства Мыш Наваградскага павета, якім валодалі Сяняўскія. Напрыклад, у Жухаўскай воласці гэтага графства было тры вёскі з 182 цяглымі гаспадарамі. На чале воласці стаяў войт, а ў кожнай вёсцы прызначаўся падвонскі, акрамя таго, у воласці былі два цівуны[1098]. У генеральным сумарыюшы Мышскага графства 1692 г. сярод розных збораў ад індывідуальных сялянскіх гаспадарак упаміналіся і зборы ад валасной абшчыны - «туравае», за мёд і за «саляны прыбытак»[1099].

Абавязкам войтаў маёнткаў Вясёлы Двор Наваградскага павета і Здзяцел Слонімскага павета, якія належалі Мікалаю Фаўстыну Радзівілу, паводле запісаў у іявентарах 1737 г., было сачыць за тым, каб у выпадку падзелу сялянскіх гаспадарак «у падзел не ішоў цяглы грунт, а толькі прыёмны»[1100]. Паводле «Рэестра збожжа, дадзенага на дапамогу Дубраўлянскай воласці» (Ашмянскі павет) ад 22 красавіка 1743 г., гэтае збожжа для насельніцтва сваіх сёл («na ludzi») атрымлівалі войты – кіраўнікі сельскіх абшчын[1101].

Пералік назваў пасад сельскай адміністрацыі ў Ярэміцкай воласці Наваградскага ваяводства, якая належала да Слуцкага княства Радзівілаў, таксама дазваляе зрабіць выснову аб наяўнасці там арганізацыі сельскага насельніцтва - грамады. Так, паводле інвентару 1693 г., на чале Ярэміцкай воласці стаяў старац[1102]. У інвентары 1717 г. акрамя старца называюцца таксама войт, лаўнікі і паборцы або дзесятнікі («Poborców alias Dzesiatników»)[1103]. У тэксце інвентару было дакладна зафіксавана, што менавіта гэтыя дзесятнікі збіралі ў воласці падымнае[1104].

У «Бірчых рэестрах» Нясвіжскага ўладання Радзівілаў за 1694-1698 гг. сярод асоб сельскай адміністрацыі амаль у кожнай вёсцы ўпамінаюцца сельскія войты, а таксама падвойцкія, цівуны і паборцы[1105].

У некаторых дакументах адзначалася, што ў разглядаемы час сельская

---

[1093] НГАБ, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 4671, арк. 1-19.

[1094] Тамсама.- Спр. 82, арк. 4-10.

[1095] LVIA. F. 1292, ap. 1, bib. 112, p. 5v.

[1096] AGAD. AT, sign. G22, vol. I, p. 44-45; vol. II, p. 10, 47-49, 69-71, 74-82.

[1097] Тамсама. AR, dz. XXV, sign. 571/4, p. 5.

[1098] Czart. Rkps. S. L. 9169, teka 2, p8.

[1099] Тамсама.- P. 9v.

[1100] LVIA. F. SA, bib. 115, p. 13v; bib. 11363, p. 55.

[1101] AGAD. AT, sign. G22, vol. II, p. 47-498.

[1102] BUW. Rkps, sign. 1933, akc. 592, p. 25v.; Rkps., sign. 1933, akc. 593, p. 22.

[1103] Тамсама.- Akc. 593, p. 22, 39v, 62v.

[1104] Тамсама.- P. 62v.

[1105] AGAD. AR, dz. XV, teka 8, plik 1, p. 6v, 13v, 56, 111, 116, 120, 455.

грамада мела ў агульным карыстанні выганы. Так, агульны на ўсё сяло выган быў у сяле Серафіны маёнтка Здзяцел Ф. Сапегі ў 1737 г.[1106], у сяле Плаўшкінішкі Койданаўскага грэфства Радзівілаў у 1739 г.[1107] У 1672 г. у вёсках Заверанскай і Падлескай радзівілаўскага маёнтка Чарнаўчыцы Берасцейскага павета было па адной «выгановай» валоды, за карыстанне якімі сяляне плацілі разам[1108]. У інвентары 1691 г. маёнтка Цімкавічы Наваградскага павета, якое належала Дамініку Радзівілу, сенажаці «на ўсю вёску» былі адзначаны ў вёсках Кулакоўцы, Бучацін[1109].

За сенажатныя моргі, паводле інвентару 1693 г., разам плацілі сяляне вёсак Дубілаўцы, Засмужжа, Касцюкі Ярэміцкай воласці Слуцкага княства Радзівілаў[1110], у 1717 г. - сяляне вёсак Кабылін, Закальнічы, Забалоцце і Талая гэтай жа Ярэміцкай воласці[1111], а ў 1694 г. - сяляне вёсак Качановічы і Завушша Нясвіжскага княства («усім сялом з засценку сенажатнага»)[1112].

У інвентарах некаторых прыватных уладанняў ёсць звесткі аб фактах агульнага землекарыстання, калі сяло разам трымала значны масіў зямлі. Так. у радзівілаўскім уладанні Дарогі, размешчаным у Наваградскім павеце, паводле інвентару 1678 г., у сёлах Ісаевічы, Мязовічы і Гарадзятычы насельніцтва разам («całym siołem») трымала адпаведна дзве валокі, тры з чвэрцю і дзве трэціх валок зямлі[1113]. Сяляне вёскі Орлева гэтага ж уладання плацілі разам за палявыя і сенажатныя моргі, а таксама за 40 моргаў на рацэ Арэсе[1114].

У маёнтку Цімкавічы ў 1691 г. за засценкі разам плацілі сяляне вёсак Кулакоўцы, Жыліхава[1115], за пусткі – сяляне вёсак Лешня, Руднае[1116].

Аб наяўнасці грамады ў магнацкіх уладаннях захаду і цэнтра Беларусі ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст. у некаторых выпадках сведчаць сялянскія скаргі. Так, сяляне вёскі Засевічы Старыцкай воласці ўладання Капыль князёў Радзівілаў у канцы XVII ст. скардзіліся на тое, што на іх зямлі пасяліўся яўрэй, які ні даніны не дае, ні працы не выконвае, а ўсё сяло разам за той грунт адрабляць і плаціць павінна («Potym żyd w naszej wsi osiadł na naszym gruncie z którego ni dani ni roboty nie daje y nie robi, a my za ten grunt cało wsią wyrabiać i wypłacać musimy»)[1117].

Звяртае на сябе ўвагу тое, што фактаў карыстання сельскай абшчынай (усімі жыхарамі сяла разам) ворыўнымі землямі і разнастайнымі ўгоддзямі дакументы, якія датычаць прыватных уладанняў захаду і цэнтра Беларусі ў другой палове XVII

---

[1106] LVIA. F. SA, bib. 11363, p. 24v.

[1107] НГАБ, ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 1663, арк. 20.

[1108] AGAD. AR, dz. XXV, sign. 571/4, p. 4, 5.

[1109] НМВБ. Тимковичи. - С. 63, 79.

[1110] BUW. Rkps., sign. 1933, akc. 592, p. 28v, 33, 49.

[1111] Тамсама. - Akc. 593, p. 6, 8, 13, 26v, 34v.

[1112] AGAD. AR, dz. XV, teka 8, plik 1, p. 4, 15v.

[1113] AGAD. AR, dz. XXV, sign. 818, p. 2, 15v, 22v.

[1114] BUW. Rkps., sign. 1934, akc. 593, p. 40v.

[1115] PIMBB. Тимковичи. - С. 63, 72.

[1116] Тамсама. - С. 68, 79.

[1117] AGAD. AR, dz. XXIX, sign. 65, p. 76.

- першай палове XVIII ст., называюць значна менш, чым матэрыялы адносна дзяржаўных і царкоўных маёнткаў. Напэўна грамада, у тым ліку і па ранейшых прычынах, тут не мела такой вагі, як у іншых відах феадальнага землеўладання.

Да з'яўлення дадзенай працы менш за ўсё ў навуковае абарачэнне было ўведзена матэрыялаў аб існаванні і дзейнасці грамады ў прыватных уладаннях усходу Беларусі. Складвалася ўражанне, што грамада ў прыватных маёнтках усходняга рэгіёна наогул адсутнічала. Адзінкавыя ўпамінанні пра абшчыну праблему вырашыць не дазвалялі. Тым большае значэнне набывае цэлы комплекс дакументаў XVII-XVIII стст. (інвентары, распараджэнні землеўласнікаў, інструкцыі, сялянскія скаргі, адказы камісараў па выніках іх праверак і інш.) з прамымі сведчаннямі пра функцыяніраванне гэтага інстытута сялянскай самаарганізацыі і самакіравання, якія аўтару ўдалося выявіць у аддзеле рукапісаў бібліятэкі князёў Чартарыйскіх у Кракаве. Гэтыя матэрыялы адносяцца ў большасці сваёй да Шклоўскага графства. Два інвентары таго ж графства за 1727 і 1763 гг. выяўлены ў рукапісным аддзеле Нацыянальнай бібліятэкі імя Асалінскіх у Вроцлаве[1118]. Асвятляючы становішча абшчыны ў прыватных уладаннях усходу Беларусі ў XVII - першай палове XVIII ст., напачатку паспрабуем разгледзець, якую ролю адыгрывала абшчына ў гэты час у жыцці насельніцтва Шклоўскага графства і ваколіц.

Большасць даследаваных аўтарам інвентароў указанага графства даюць такую магчымасць, таму што пісары і рэвізоры звычайна пазначалі наяўнасць у сёлах уладання абшчыннага землекарыстання. Гэта пакуль адзіны такі прыклад адносна магнацкіх уладанняў усходу Беларусі. Цікава і тое, што ў XVIII ст. ва ўладаннях Шклоў і Мыш, якія належалі аднаму і таму ж магнату Сяняўскаму і ў якіх магла праводзіцца аднатыпная палітыка ў адносінах да сялянства, а інвентары маглі складацца аднымі і тымі ж асобамі, у адных (Шклоў) дзейнасць абшчыны паказана выразна, а ў іншых (Мыш) наяўнасць яе амаль не прасочваецца. Зусім верагодна, што на гэта паўплывала гаспадарчая арыентаванасць маёнткаў: на захадзе - фальварак, на ўсходзе - чынш.

Другая палова XVII - першая палова XVIII ст. сталі для Шклова і воласці, як і для ўсяго ўсходу Беларусі, часам цяжкіх выпрабаванняў, звязаных у першую чаргу з падзеямі казацка-сялянскай вайны 1651-1654 гг., вайны Вялікага княства Маскоўскага і Рэчы Паспалітай 3654-1667 гг. і Паўночнай вайны 1700-1721 гг. У Шклоўскім уладанні за яго доўгую гісторыю змянілася некалькі ўласнікаў. Да 1524 г. яно належала Гаштольдам, з сярэдзіны XVI ст. - Хадкевічам, у сярэдзіне XVII ст. перайшло да Сяняўскіх, а з 1731 г. з'яўлялася ўласнасцю князёў Чартарыйскіх. «У канцы XVII - пачатку XVIII ст. уладанне належала Адаму Мікалаю Сяняўскаму і налічвала 160 вёсак, 2 мястэчкі і адзін горад. Яно займала абшар каля 1080 $км^2$ і было размешчана па абодвух баках верхняга Дняпра (паміж Оршай і Магілёвам)»[1119].

Паводле інвентароў 1688, 1715 і 1727 гг., Шклоўскае графства складалася з 12 войтаўстваў (Высоцкага. Чарнаруцкага, Барыскаўскага (Старашклоўскага), Чырыцкага. Вышкаўскага, Галашоўскага. Белаўскага, Александрыйскага, Казловіцкага, Зубрэвіцкага, Шарсціслаўскага і Кішчыцкага)[1120]. На чале кожнага

[1118] ZNIO. Rkps.5167 Л, 5168/11.

[1119] Topolska M. B Związki handlowe Białorusi wschodniej z Rygą w końcu XVII in apoczątku XVIII wieku / M. B. Topolska // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych.- T. XXIX. – Rok 1968.-Poznań, 1968.- S.12.

[1120] Czart. Rkps. S.L. 9246, 9251; ZNIO. Rkps. Ossol 5167 Л.

войтаўства стаяў войт, адным з абавязкаў якога быў збор з сялян падаткаў і розных плацяжоў. аб чым сведчаць, у прыватнасці, квітанцыі аб прыёме ад войтаў грошай, даніны і інш.[1121] Выкарыстаныя аўтарам матэрыялы, на жаль, не даюць магчымасці дакладна вызначыць, хто быў на чале асобных сельскіх абшчын Шклоўскага графства. Магчыма гэта былі сотнікі, якія называліся ў «Інфармацыі для губернатара і намесніка Шклоўскага графства» за 1716 г.[1122]

Па назіраннях М. Б. Тапольскай, у Шклоўскім графстве адказнымі за збор даніны былі войты і лаўнікі[1123]. Калядная і валачобнае сяляне збіралі самі і аддавалі ў панскі двор. Даследчыца адзначала, што сяляне тут «выконвалі судовыя і выхаваўчыя абавязкі»[1124].

Першыя вядомыя інвентары Шклоўскага графства і воласці за 1643-1645 гг. і 1650 г. складзеныя фактычна падчас войнаў. амаль ніякіх звестак пра існаванне грамады у вёсках не даюць[1125]. У інвентарах жа, складзеных пасля войнаў сярэдзіны XVII - пачатку XVIII ст., грамада згадваецца даволі часта. Гэта яшчэ адно пацвярджэнне тэзіса аб тым, што роля сельскай абшчыны ўзрастала ў часы эканамічных крызісаў, з яе дапамогай землеўласнік імкнуўся паскорыць гаспадарчае аднаўленне.

Вывучэнне гісторыі сельскай абшчыны патрабуе пошуку як мага большай колькасці любых фактаў аб існаванні грамады, іх параўнання, праверкі на аб'ектыўнасць аналізу і на гэтай аснове спробы гістарычнай рэканструкцыі, пабудовы мадэлі дзейнасці сялянскай абшчыны. З супастаўлення тэкстаў інвентароў адных і тых жа вёсак Шклоўскага графства, складзеных праз пэўны прамежак часу рознымі (а ў некаторых выпадках тыміж самымі) пісарамі, вынікае, што былі выпадкі, калі адзін і той жа факт абшчыннага землекарыстання ў асобнай вёсцы ў розныя гады апісваўся іншымі словамі і выразамі, а ў некаторых выпадках пра грамаду ў гэтых жа вёсках увогуле не згадвалася, хаця іншыя дакументы сведчаць аб яе наяўнасці там. Так, пры параўнанні інвентароў Шклоўскага графства за 1650 і 1715 гг. высветлілася, што ў інвентары 1650 г. грамада была адзначана ў вёсках Барэйшава, Бранцава. Будзілаў, Клімавічы, Лотва[1126], а ў інвентары 1715 г. пісар там яе ўжо не зафіксаваў Натуральна, што проста так яна знікнуць не магла, але складальніку інвентару, відаць, не было неабходнасці ўпамінаць пра яе. Ёсць адваротныя выпадкі: у 1650 г. не ўказвалася аб існаванні грамады ў вёсках Аўсюковічы, Гарбацэвічы, Шавялёнкі[1127], а ў інвентары 1715 г. такія звесткі ўжо з'явіліся[1128]. Падобныя прыклады можна знайсці і ў іншых інвентарах Шклоўскага графства.

Аўтар паспрабаваў на падставе аналізу інвентароў Шклоўскага графства за

---

[1121] Тамсама.- S.L.9312, teica 5, nienumer.

[1122] Тамсама.- Teka 29, p.1.

[1123] Topolska M. B. Dobra Szklowskie na Białorusi Wschodniej w XVII i XVIII wieku / M. B. Topolska. - Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1969.- S. 31.

[1124] Topolska, M. B. Dobra Szkłowsfciena Białorusi Wschodniej w XVII i XVIII wieku.- S.32.

[1125] Czart. Rkps. S.L, 9234, 9236.

[1126] Czart. Rkps. S.L. 9246; p. 47v, 64v, 65, 92.

[1127] Тамсама.– R52, 94-95v.

[1128] Тамсама.- P. 80v; 134, 138.

1668 і 1715 г. выявіць колькасць вёсак. пры апісанні якіх згадвалася грамада (у асноўным толькі па фактах наяўнасці ці адсутнасці ў іх абшчыннага землекарыстання), прааналізаваць, якую ролю ў тыя часы абшчына адыгрывала ў жыцці вясковай супольнасці. Паказальна, што ў вышэйзгаданых інвентарах складальнікі фіксавалі не толькі сам факт існавання абшчыны, але і шматлікія прыклады грамадскага землекарыстання ўзначнай колькасці вёсак, што з'яўляецца адной з асноўных прымет функцыяніравання абшчыны. Фактычна ўсе ўпамінанні пра грамаду ў інвентарах – гэта запісы аб тым, што пэўная колькасць ворыўнай зямлі ці сенакосаў у вёсцы знаходзілася ў сумесным карыстанні сельскай грамады. Так, у матэрыялах адносна 105 вёсак, узятых аўтарам для апрацоўкі з інвентару 1668 г., у 40 вёсках (38%) адзначана грамада. Калі ж з агульнай лічбы населеных пунктаў выключыць 26, дзе сельскай грамады і быць не магло (два мястэчкі, пустыя, без людзей вёскі, вёскі, дзе жылі толькі адна-дзве сям'і, засценкі і шляхецкія вёскі з адсутнасцю інфармацыі аб сялянах), то працэнт вёсак Шклоўскага графства, у якіх у інвентары 1668 г. адзначаны элементы абшчыннага землекарыстання узрасце да 50%.

Вельмі падобнай была сітуацыя ў воласці Шклоўскага графства і праз 47 гадоў, аб чым сведчаць даныя інвентару 1715 г. У гэтым выпадку аналізаваліся матэрыялы 145 вёсак, у 46 з іх (32%) адзначана грамада. Калі ж з агульнай лічбы у вышэйзгаданых прыкметах выключыць 41 населены пункт, дзе сельскай грама-ды не магло быць, то працэнт вёсак Шклоўскага графства, дзе ў 1715 г. у розных формах існавала абшчыннае землекарыстанне, складзе 44%.

М. Б. Тапольская, якая вывучала гісторыю ўладання Шклоў з выкарыстаннем матэрыялаў з бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве, склала табліцу, у якой падлічыла памеры зямлі (у валоках), што была ў сялян Шклоўскай воласці ў XVII-XVIII стст., выдзеліўшы паасобку апрацоўваемыя пусткі, прыёмныя, старанаезныя, нованаезныя і грамадскія (абшчынныя) валокі. Грамадскія валокі яна аднесла да чыншавых зямель, падкрэсліваючы, што сяляне за карыстанне імі плацілі сумесна. Па яе падліках, у 1650 г. у Шклоўскай воласці было 6 грамадскіх валок з 2903, ці 0,2% ад іх агульнай колькасці; у 1662 г. - адпаведна 14 з 2943 валок, ці 0,5%; у 1688 г. - 250 валок з 2667, ці 9,4% ад агульнай колькасці; у 1715 г. - адпаведна 148 з 2650 валок (5,6%); у 1763 г. - 41 з 3163 валок (1,3%)[1129] Даследчыца чамусьці не адзначыла грамадскіх зямель пад 1771 г. (хаця ў інвентары яны паказаны!), але разам з тым агульную тэндэнцыю росту колькасці зямель агульнага карыстання ў Шклоўскім графстве ў гады войн і пасляваеннага аднаўлення другой паловы XVII - першай паловы XVIII ст. яе падлікі паказваюць, як і пацвярджаюць меркаванне аб узрастанні ролі грамады ў часы крызісаў і пасляваенных аднаўленняў.

Такім чынам, крыніцы сведчаць аб наяўнасці ў Шклоўскім графстве абшчыннай арганізацыі, якая ў дакументах зафіксавана ў асноўным як грамада асобных вёсак (сельская абшчына). Аб'яднанне сельскіх абшчын у войтаўствы мела, хутчэй за ўсё, штучны характар, але воласць тут выразна выступае ў якасці тэрытарыяльнай абшчыннай арганізацыі, аб чым сведчыць, напрыклад, практыка падачы сялянамі скаргаў ад імя войтаўства[1130].

Абшчына ў Шклоўскім графстве існавала з ведама і са згоды яе ўласніка.

---

[1129] Topolska, M. B. Dobra Szkłowskie na Białorusi Wschodniej w XVII i XVIII wieku. - S. 35.

[1130] Czart. Rkps. S. L. 9312, teia 5, niemmier.

Па-першае, аб гэтым сведчыдь фіксацыя ў інвентарах таго, што абшчына карыстаецца зямельнымі ўгоддзямі і выплачвае за гэта чынш. Гэта быў своеасаблівы дагавор паміж землеўласнікам і сялянскай абшчынай. Натуральна, што абшчына не была поўнасцю самастойным інстытутам. Але ў такіх вялікіх латыфундыях, якім было Шклоўскае графства, гаспадарка вельмі часта вялася ці праз перадачу ўла-дання ў часовае трыманне, ці праз спецыяльна прызначаную адміністрацыю. Уласнік хацеў мець больш дакладную інфармацыю аб справах у маётку, таму што часовых трымальнікаў не клапацілі ні перспектыва яго развіцця, ні становішча сялянства, яны толькі імкнуліся атрымаць як мага большы прыбытак, каб не толькі выплаціць арэнду гаспадару зямлі, але і самім як мага больш зарабіць. У такіх выпадках грамада выступала натуральным саюзнікам гаспадара ўладання ў кантролі за выкананнем арандатарам ці адміністратарам умоў трымання і эксплуатацыі сялянства, а землеўласнік часта нават абавязваў абшчыну сачыць за дакладным выкананнем гэтых умоў.

Па-другое, сведчаннем існавання грамады іменна са згоды землеўласніка з'яўляецца тое, што ў некаторых выпадках ён клапаціўся пра грамаду, стараўся ўплываць на яе ўнутраную арганізацыю кантраляваць, а то і арганізоўваць вы-оары яе кіруючых органаў.

Напрыклад, у «Інфармацыі для губернатара і намесніка Шклоўскага графства» за 1716 г. адзначалася. што «губернатар і намеснік павінны сачыць. каб паборцамі, войтамі і сотнікамі выбіралі справядлівых людзей, добрай славы і добрай маёмасці, сумленных і не пітучых... Тыя ж паборцы з людзьмі ў воласці павінны абыходзіцца па-людску»[1131]. Землеўласнік клапаціўся і пра тое, каб было як мага менш бедных людзей. Так. у 1717 г. А. Сяняўскі прама запісаў: «Хачу, каб новікаў і ўбогіх людзей войт і грамада не абцяжарвалі стацыямі і падаткамі» («Nowikow iubożczych ludzi aby woyt i Gromadanieobciążała Stacyami, Podatkami mieć chcemy»)[1132].

Сустракаюцца дакументы, якія сведчаць як пра тое, што самі сяляне Шклоўскай воласці звярталіся да феадала ад імя грамады, так і пра тое, што ён успрымаў яе як аб'ектыўную рэальнасць. Напрыклад, у пачатку XVIII ст. сяляне з вёскі Дабрэйцы Высоцкага войтаўства паскардзіліся пану на тое, што ў іх адабралі 27 моргаў і 12 прутоў зямлі, які яны «мелі ўсім сялом з дзядоў-прадзедаў нашых» і шоргі прылеглыя ў канцы сяла нашага, якія ад веку дзяды нашы і бацькі трышi»[1133]. Цікава, што жыхары вёскі Дабрэйцы самі сябе грамадой у дадзеным выпадку не назвалі, але гэта зрабіў землеўласнік. Сярод пераліку сялянскіх скарг са Шклоўскага графства аўтарам быў выяўлены наступны запіс, зроблены, напэўна, рэвізорам: «Грамада Дабрэйская просіць аб вяртанні 27 моргаў і 12 прутоў, якія здаўна яны трымалі, але праз... Дарашэвіча адабраныя»[1134].

Прааналізаваныя аўтарам матэрыялы сведчаць пра даволі значнае месца сельскай грамады у жыцці насельніцтва Шклоўскага графства ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст. Гэта, па сутнасці, адзіны прыклад такога выразнага ўзаемадзеяння паміж прыватным землеўласнікам і сельскай абшчынан на ўсходзе

[1131] Czart. Rkps. S.L. 9312, 1eka5, nienumer.

[1132] Тамсама.

[1133] Тамсама.- Тека29, р.1.

[1134] Тамсама.- Тека30, р.2.

Беларусі. Падкрэслім, што амаль у 50 % вёсак, размешчаных тут, назіралася наяўнасць тых ці іншых форм сумеснага землекарыстання, што з'яўляецца вышэйшай праявай развіцця ўнутрыабшчынных адносін. Тое, што грамада ў Шклоўскім графстве існавала са згоды і пры пэўнай падтрымцы землеўласніка, можа сведчыць як пра даўнія традыцыі калектывізму на гэтай тэрыторыі. так і пра выгаднасць для феадала выкарыстання гэтых традыцый у сваіх інтарэсах.

Разнастайныя, хоць і не такія выразныя, як па Шклоўскаму ўладанню, звесткі абіснаванні грамады ўтрымліваюцца ў матэрыялах некаторых іншых прыватных маёнткаў, размешчаных на ўсходзе Беларусі. Так, Дубровенскае графства Сапегаў, паводле інвентару 1672 г., было падзелена на войтаўствы начале з войтамі[1135]; складальнік інвентару 1731 г. ва ўсіх вёсках Савінскага і Смыкаўскага войтаўстваў згаданага графства адзначыў наяўнасць дзесятнікаў[1136]. Існаванне абшчыны ў Дубровенскім графстве ўскосна пацвярджае запіс у інвентары 1726 г. аб тым, што валасці павінны разам аддаць правізію на адміністратара. Так, на Дубровенскую валасць прызначалася аддаць шэсць ялавіц на год. Гэты абавязак размяркоўваўся *ў* інвентары слушным чынам: Стрыйкаўскае і Скараходаўскае войтаўствы па паўтары ялавіцы, Кісялёўскае, Падузееўскае і Юхінскае - па палове ялавіцы, войтаўства Пабярэжнае - адну ялавіцу[1137].

У інвентары Смалянскага княства Аршанскага павета 1739 г., якое належала Сангушкам, ёсць дакладны запіс адносна абшчыны: «Паборы на погляд грамады паміж сабой самі складаюць, як і падарожчыну..»[1138] Толькі па ўскосных сведчаннях можна меркаваць аб наяўнасці абшчыны ва ўладаннях таксама суседняга са Шкловам ужо згаданага Дубровенскага графства[1139]. А ў інвентары Смалянскай воласці 1744 г. прама ўказана, што землеўласнік пры зборы падаткаў зрабіў упор на сялянскую салідарнасць. Так, пры апісанні сялянскіх павіннасцей пісар запісаў, што памеры чыншу трэба было адзначыць у інвентары насупраць кожнай гаспадаркі ў залежнасці ад колькасці зямлі, «але калі адзін збяднее, то другі яму дапаможа, няхай тады ў абшчыне самі паміж сабой раскладаюць у прысутнасці прадстаўнікоў з замка» («Pobory lubo by należało w liniach wyrazić y od włoki certum censum ale że Jeden podupadnie, drugi podmoże się. tedy Gromady sami między sobą układaią Przy Zwierchności zamkowey»)[1140].

Цікавыя матэрыялы пра дзейнасць грамады ёсць таксама сярод дакументаў маёнтка Антонава (Антонаў) Мазырскага павета з горадам Нароўляй і ваколіцамі, якія ў XVIII ст. належаў напачатку Сяняўскім, а потым перайшоў ва ўласнасць Дэнгафаў. Рэестр збору чыншу і даніны з Антонаўскай воласці ў 1715 г. дазваляе выказаць меркаванне аб тым, што «бельцамі» называлася і адзінка вымярэння мядовай даніны (за мёд плацілі грашыма, па 6 злотых за белец). Мядовая даніна ў сельскай абшчыне раскладвалася на асобныя гаспадаркі - рабіўся «вялікі поруб»[1141]. Інвентары маёнтка Антонава «пані Соф'і з Гранова Сяняўскай Станіс-

---

[1135] НГАБ, ф.3258, воп.1, спр. 1, арк.11-25.

[1136] Тамсама.- Спр.2, арк 20-54; спр.8, арк.21-28 адв.; спр. 9, арк.24-48 адв.

[1137] НГАБ, ф.3258, воп.1, спр. 6, арк.300.

[1138] ЛНБ АР. Ф.5. Ркп. Асалін. 5182 /Ш, арк.44.

[1139] Тамсама. 6087 /ІІ; НГАБ, ф.3258, воп. 1, спр. 1- 11.

[1140] Тамсама. 5160 Л ;р. 44.

[1141] Czart. Rkps. S.L. 9091, p.21.

лававай Дэнгафавай, ваяводзіны Полацкай і гетманавай польнай ВКЛ» за 1719 і 1728 гг. паказваюць, што ва ўсіх вёсках уладання ізямля вызначана ў «бельцах», з якіх прызначана мядовая даніна ў «камянях» ці «белцах», а акрамя таго, «асабліва ўся вёска паводле Уставы» плаціць чынш, дае ўпісное, плаціць за жыта, ячмень, авёс, грэчку, гарох, дае некаторыя іншыя платы і даніны[1142]. Пры апісанні павіннасцей вёскі Дзямідавіны пісар удакладніў, што паколькі згодна з Уставай работы ў панскім двары няма, то ўсе вышэйзгаданыя выплаты сяляне здаюць разам, агулам[1143]. У гэтым выпадку яскрава відаць. як землеўласнік спрабуе выкарыстаць сялянскую грамаду для забеспячэння сваіх інтарэсаў, у дадзеным выпадку прызборы чыншу.

Пры падліку чыншу з маёнтка Скрыгалава Мазырскага павета ў 1719 г. у вёсцы Слабада зборшчык падаткаў адзначыў падзел гэтай вёскі на асобныя часткі - дзесяткі. У вёсцы было чатыры дзесяткі, прычым падаткі з кожнага збіраліся паасобку[1144]. Гэта яскравая прымета грамады, вядомая яшчэ са старажытнасці, калі вёскі дзяліліся на часткі, узначальваемыя дзесяцкімі, якія падпарадкоўваліся кіраўніку абшчыны - старцу (войту). У канцы рэестра пісар азначыў, што за два разы «сабраў ад грамады 613 зл 20 гр»[1145] Грамада паводле гэтых дакументаў прасочваецца як валасная. у якую ўваходзіла некалькі вёсак Скрыгалаўскай воласці.

Цікавасць уяўляе і праверка суплік (скаргаў) сялян Скрыгалаўскай воласці за 1719 г. на пана падстаросту і Скрыгалаўскага войта. Каб адзначыць, што гэтыя скаргі маюць не індывідуальны, а грамадскі характар, камісар падкрэсліў, што яны складзены «ад усёй воласці Скрыгалаўскай». Паведамлялася, што Скрыгалаўскі войт, адказваючы «перад усёй грамадой», заявіў, што ён ніколі не забараняў сялянам падаваць скаргі да свайго пана і што грамада гэтай яго правіннасці недаказала. У адказ грамада растлумачыла, што таго войта, які быў недаспадобы панскаму двару з-за сваёй зычлівасці да сялян, знялі і паставілі іншага, які хоць і хадзіў з сялянскімі суплікамі да пана, але быў ужо зычлівы панам, а не сялянам. Падстароста да таго ж заявіў, што сапраўды ён прызначыў войтам таго селяніна, які падаваў ад імя грамады скаргі («суплікаваў»), а паколькі той быў бедняком («галота»), то да панскага ўказання ён сам зняў з новага войта палову чыншу[1146]. Натуральна, што пасля гэтага новы войт, хоць сам быў з бяднейшых сялян, пачаў адстойваць інтарэсы перш за ўсё пана і дваровай адміністрацыі, а не сялянства.

Побач у рэестры скаргаў змешчана іншая, якая падпісана наступным чынам: «Іменем усёй грамады Апанас Клевец, войт Слабодскі, Ісай Дубавец, войт Лечанскі»[1147]. Гэта паказвае, што войты выступалі, як правіла, ад імя усёй грамады свайго сяла, дзе яны звычайна выбіраліся насельніцтвам. Калі ж феадальная адміністрацыя пачынала ўзурпіраваць права выбараў кіраўнцтва абшчыны, замяняючы яго прызначэннем, узнікалі скаргі-пратэсты з боку сялянскіх абшчын.

Войты і старцы звычайна былі на баку сялян, якія іх выбіралі, выступалі

---

1142 Тамсама. S. L 9087, p. 3-8v ;9088 , p. 1-28.

1143 Тамсама. S. L 9088, p. 18.

1144 Czart. Rkps. S .L. 9091, teka 2, p. 4-7.

1145 Тамсама.- P8v .

1146 Тамсама.- Teka4 ,p . 1-2 .

1147 Тамсама.- P.4.

разам з імі ў выпадках неабходнасці абараняць свае правы, з’яўляліся лідэрамі ў справе адстойвання грамадскіх інтарэсаў, ставячы сваё імя ў скаргах на першае месца. Пра гэта сведчыць, напрыклад, скарга сялян той жа Скрыгалаўскай воласці на імя пані Соф’і Сяняўскай, якая пачынаецца словамі: «Яснаміласцівая пані наша! Мы, скрыгалаўцы, войт і мужове...»[1148] Уступ і заключэнне скаргі грамады з вёскі Слабада гэтай жа воласці сведчаць як аб тым, што войт выступаў разам з грамадой, так і аб тым, што ён абараняў надзённыя інтарэсы сялян: «Яснавяльможная наша пані! Я, Патап Чарэўка з вёскі Свабада, і мы ўсёй воласцю скардзімся на сваіх арандатараў, за тое, што нам прадаюць гарэлку змяшаўшы яе з вадой, а мы грошы за ваду ім даем...» Далей адзін з арандатараў, па імені Воля, падчас прысягі прызнаў, «што трэцюю частку вады ў гарэлку ўліў». Сяляне прасілі дазволіць ім па-старому тры разы на год вырабляць гарэлку для ўласных патрэб і завяршылі суплiку наступнымі словамі: «Кланяемся табе, міласцівая Дабрадзенка, усен вескан вонт Сваоодскі, і ўсёй воласцю»[1149].

Пра тое, што войты выступалі разам з абшчыннікамі і нават імкнуліся падкрэсліць гэта, сведчаць подпісы пад дзвюма скаргамі сялян Пабярэжнага войтаўства сапегаўскага маёнтка Дуброўна Аршанскага павета за 1737 г. Абедзве скаргі былі звязаныя са злоўжываннямі арандатараў. Адна скарга сялян заканчвалася словамі «ўсе разам, войт і мужы»[1150], а другая - «усе сумесна, вонт з мужамі»[1151]. Хутчэй за ўсё. гэтымі словамі сяляне імкнуліся падкрэсліць сваю згуртаванасць і салідарнасць у змаганні.

Войты не толькі збіралі з сялян свайго войтаўства прызначаныя падаткі і іншыя выплаты, але і адказвалі перад землеўласнікам за іх паўнату і своечасовасць. У некаторых выпадках войту прыходзілася даплачваць недастаючую суму са сваёй кішэні, спадзеючыся кампенсаваць яе пры наступным зборы падаткаў. Менавіта аб гэтым сведчыць скарга Васіля Сухадольскага, войта Мялешкаўскага войтаўства Чарэйскага графства, пададзеная ў 1730 г. камісару. Войт скардзіўся на тое, што сяляне вышэйзгаданага войтаўства, дзе ён 20 гадоў быў войтам, не аддалі яму 33 талеры, якія ён за іх здаў пры зборы нейкага падатку, а таксама «яму засталася войтовства вінаватае 23 злотых падымных пенязяў» і вясковыя пaборцы не змаглі ўсяго гэтага «з сялян адабраць»[1152].

У дакументацыі некаторых уладанняў ёсць звесткі аб тым, што насельніцтва само выбірала кіраўнікоў абшчын - войтаў. Так, камісары, якія складалі ў 1729 г. інвентар маёнтка Кадзін Мсціслаўскага ваяводства, што належаў Антонію і Міхалу Пацеям, адзначылі, што «пасля напісання інвентару Кадзінская воласць выбрала сабе іншых войтаў і мы паводле даўняга звычаю далі ім па паўвалокі вольнай і вызвалілі ад падатку на двор, ад грашовых плат і іншых даюн»[1153]. Палову вольнай валокі мелі таксама войты пацееўскіх уладанняў Астроўна Вялікае і Глазомічы Полацкага павета ў 1729 г.[1154]

---

[1148] Тамсама.- Teka5, p. 1.

[1149] Czart. Rkps. S.L. 9091, teka 5, p.

[1150] LMA BRS. F. 17, bib. 93, p. 14.

[1151] Тамсама.- P. 18.

[1152] Тамсама.- Bib. 97, p. 48.

[1153] ЛНБ АР Ф. 5. РкII. Асалін. 5163 ЛI, p. 54.

[1154] Тамсама.- P. 12, 78.

Некаторыя дакументы сведчаць, што валасныя абшчыны ў прыватных уладаннях часам мелі ў агульным карыстанні не толькі ворыўную зямлю і ўгоддзі, але і іншую маёмасць. Так, у інвентары 1729 г. адзначалася, што сяляне ўладання Тэрэспал Віцебскага ваяводства, якое належала Пацеям, цэлымі войтаўствамі штогод бралі ў арэнду азёры[1155]. Камісары Казімір Крулікоўскі і Андрэй Пламунчук-Задольскі пасля заканчэння рэвізіі Антонаўскай воласці Мазырскага павета склалі ў Нароўлі 15 сакавіка 1716 г. кантракт аб перадачы Антонаўскай воласці ў арэнду на год дзвюх рудняў. Гэты кантракт быў дадзены «ўсім войтам і ўсім мужам Антонаўскай воласці»[1156] ад імя ўласніка Станіслава Дэнгафа. Хутчэй за ўсе, адміністрацыя не змагла арганізаваць працу згаданых рудняў і таму перадала іх у арэнду воласці за 80 тынфаў у год. Як было запісана ў кантракце, «з гэтага часу Антонаўская воласць можа сама трымаць гэтыя рудні, а можа шукаць рудніка і здаваць у арэнду»[1157]. Зразумела, што воласць павінна была разам збіраць грошы на выплату арэнды, разам арганізоўваць работу рудняў, размяркоўваць прыбыткі альбо пагашаць страты. Несумненна, што ў дадзеным выпадку гэта магла рабіць толькі ўсталяваная грамадская структура.У другой палове XVII - першай палове XVIII ст. сельская абшчына працягвала функцыяніраваць у прыватнаўласніцкіх уладаннях Беларусі. Разам з тым роля абшчыны ў прыватных маёнтках на захадзе і ў цэнтры Беларусі прасочваецца менш выразна, чым на ўсходзе, што тлумачыцца ў першую чаргу большай удзельнай вагой паншчыны на захадзе і ў цэнтры, а таксама правядзеннем тут феадальнымі ўласнікамі палітыкі па ўмацаванню індывідуалізацыі сялянскага землекарыстання і падатковага і павіннаснага абкладання. Менш заўважнай у параўнанні з магнацкімі ўладаннямі была таксама роля абшчыны ва ўладаннях сярэдняй і асабліва дробнай шляхты, дзе гаспадары самі жылі ў вёсцы і не толькі рэгулявалі арганізацыю гаспадарчых адносін, але і сам быт насельніцтва. Тым не менш сельская абшчына працягвала існаваць у беларускай прыватнаўласніцкай вёсцы і ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст.

### 4.3. Абшчына ў прыватных уладаннях у сярэдзіне - другой палове XVIII ст.

Даследаванняў аб дзейнасці абшчыны ў прыватных уладаннях Беларусі ў другой палове XVIII ст. у беларускай гістарыяграфіі практычна няма. Вывад аб тым, што ў азначаны перыяд «фальваркавае ўпраўленне абапіралася на службовых асоб сельскай воласці: войта. падвойскага, лаўнікаў, дзесятнікаў, якія прадстаўлялі падпарадкаванню панскаму двару сельскую абшчыну», зроблены П. Р. Казлоўскім пры даследаванні форм упраўлення магнацкімі латыфундыямі ў Беларусі[1158], правільны ў ацэнцы адносін адміністрацыйных асоб грамады з дваром, але ігнаруе існаванне абшчыны як інстытута сялянскай самаарганізацыі. Разам з тым відавочна, што ў азначаны час і прыхільнікі прыгонніцтва, і старонікі новага руху фізіякратаў у ВКЛ і Рэчы Паспалітай імкнуліся выкарыстаць сялянскую абшчыну ў сваіх

[1155] Тамсама.- Р.89.

[1156] Czart. Rkps. S .L. 9092, teka l,p. 13.

[1157] Тамсама.

[1158] Козловский, П. Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в / П Г Козловский.- Минск: Наука и техника, 1974,- С. 101.

планах. Першыя – для павышэння ўласных даходаў, другія, як яны самі лічылі, для паляпшэння жыцця сялян, Сапраўды, ад абшчыны з яе агульнай адказнасцю і кругавой парукай, усталяванымі нормамі маралі і культуры поўнасцю адмаўляцца землеўласнік ніколі не збіраўся.

Як і ў іншых відах феадальнага землеўладання, ступень уплыву абшчыны на сацыяльнае і гаспадарчае жыццё ў прыватных маёнтках залежала ад таго. якая форма рэнты, што збіралася з сялян, там пераважала. У чыншавых вёсках грамада нярэдка выступала ў якасці калектыўнага падатка плацельшчыка, калі і дзяржаўныя зборы і чынш прызначаліся на ўсё сяло разам. А ў тых маёнтках, дзе ў аснове вытворчасці быў фальварак, стаўка рабілася на індывідуальныя гаспадаркі, для кожнай з якіх прызначалася норма працы на паншчыне. Роля абшчыны ў гаспадарчым жыцці такіх уладанняў зводзілася да мінімуму.

Спрыяльныя ўмовы для продажу сельскагаспадарчай прадукцыі на знешнім і ўнутраным рынку, што складваліся ў другой палове XVIII ст., завяршэнне працэсу ўзнаўлення эканомікі пасля працяглага перыяду войнаў і разбурэнняў стымулявалі прыватных феадалаў да ўсё большай гаспадарчай спецыялізацыі сваіх уладанняў, пашырэыня панскага заворвання. Нанбольшае развіццё ў азначаны час, як і ў папярэднія перыяды, фальваравчна-паншчынная сістэма атрымала ў прыватных уладаннях на захадзе і ў цэнтры Беларусі. У магнацкіх уладаннях паўднёва-заходніх паветаў цяглыя надзелы склалі ў другой палове XVIII ст. 80-93% ад агульнай колькасці сялянскіх гаспадарак[1159]. Падобнае становішча назіралася і ў маёнтках дробных і сярэдніх феадалаў. На ўсходзе Беларусі, як і раней, панскае заворванне існавала не ва ўсіх маентках, а там дзе было, то звычайна ў невялікіх памерах.

Рост удзельнай вагі вёсак з абшчынным землекарыстаннем ва ўладаннях прыватных феадалаў можа быць растлумачаны агульнымі тэндэнцыямі да большай дэмакратызацыі жыцця сялянства і нават адмены прыгону ў маёнтках некаторых феадалаў, якія пачаліся распаўсюджвацца сярод эліты Рэчы Паспалітай якраз з другой паловы XVIII ст. разам з ідэямі фізіякратаў. Заўважна, што калі ў каралеўскіх сталовых эканоміях А. Тызенгаўз пайшоў на вяртанне фальварачнай сістэмы гаспадарання, не прынятай сялянствам, то ў некаторых магнацкіх уладаннях, наадварот, пайшлі па шляху памяншэння феадальнага ўціску і павышэння ролі сельскай грамады.

Разам з тым перавод сялян на грашовую рэнту не заўсёды ўспрымаўся за лепшае як сялянамі (вядомы выпадкі адмовы пераходу сялян на чынш з-за яго высокіх памераў[1160]), так і землеўласнікамі. У гэтым сэнсе ўяўляюць цікавасць адказы Міхаіла Златагорскага, прызначанага камісарам Валожынскага і Стаўбцоўскага маёнткаў, на пытанні князя Чартарыйскага аб магчымых шляхах развіцця ў іх гаспадаркі. М. Златагорскі выказаў негатыўную ацэнку таго, што пры пераводзе на чынш у некаторых уладаннях выдаюцца ўставы аб тым, што «за аднаго негаспадарчага ўся вёска адказваць і плаціць абавязана, нядобра тое, калі за рас-пуснага сваволніка адказвае грамада»[1161]. Далей у сваім лісце да князя ён адзначыў, што для валожынскіх вёсак пабудавалі абшчынны зерневы склад, прыблізна за мілю ад Валожына. М. Златагорскі пісаў, што, паводле ўставы землеўласніка, гэты склад аддадзены грамадам, ён з'яўляецца іх уласнасцю і сяляне

[1159] Козловский, П.Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в - С. 109.

[1160] Похилевич., Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века / Д Л Похилевич. - Вильнюс, 1966. - С. 132.

[1161] Czart. Rkps. S.L. 9403, p. 51.

самі могуць вырашаць, прадаць ці надалей захоўваць там збожжа. Усе сяляне хочуць, каб ён заўсёды быў поўны сухога збожжа, а разам з тым кожны просіць нешта адтудь атрымаць, каб прадаць і зарабіць на гэтым («Ustawa Jm Pana Magazynowa do Woli Gromad oddala onym zarządzać, iako ich własnością, sprzedać, lub utrzymać zboże. Wszyscy Poddani życzą, aby zawsze był połen Zboża, ile Suchego, Magazyn. Suplikami tylko chcą z Magazynu sprzedać część iakoś y mieć nagrodą za inko lecy ę swo ią»)[1162].

Д. Л. Пахілевіч адзначаў, што «ва ўсіх прыватнаўласніцкіх маёнтках, дзе праводзіліся рэформы, значнае развіццё атрымала і абшчыннае жыццё: абшчынная адміністрацыя, абшчынныя ўгоддзі, павіннасці, касы, магазіны, школы, шпіталі, суд і г.д.»[1163] Асноўным зместам гэтых рэформ быў перавод сялян на грашовую рэнту і імкненне землеўласніка рэгуляваць усе бакі сялянскага жыцця. Так, у маёнтках Я. Храбтовіча Шчорсы і Нягневіны Наваградскага павета ў 1790 г. была праведзена рэформа, паводле якой сяляне вызваляліся ад паншчыны і атрымалі па 1/3 валокі ворыўнай зямлі на гаспадарку. За гэта яны павінны былі аддаваць трэцюю частку ураджая натуральна грашыма па наваградскіх коштах[1164]. На грамаду ўскладвалася выплата дзяржаўных падаткаў, утрыманне шпіталя, лекара і аптэкі, грамадскага збожжавага страхавога магазіна і інш.[1165]

Больш вядома пра рэформу Паўла Ксаверыя Бжастоўскага, якую ён правёў у маёнтку Мерач (Паўлава), размешчаным у Трокскім павеце, амаль на мяжы з Гарадзенскім паветам у 1769 г. Аб'явіўшы, што галоўнай мэтай рэформы з'яўляецца паляпшэнне жыцця сялян, заснаванае на захаванні дакладна вызначанага і стабільнага павіннаснага і падаткавага абкладання, ён пачаў паступовы пера-вод сялян на грашовую рэнту[1166]. Для насельніцтва ў 1769 г. была выдадзена спе-цыяльная ўстава, у якой рэгуляваліся амаль усе бакі жыцця сялян і местачкоўцаў (уводзілася 51 павіннасць, якія былі абавязковымі для выканання). Стваралася дакладная сістэма адміністрацыйнага кіравання, якая ўключала ў сябе як панскіх чыноўнікаў, так і прадстаўнікоў сялян: губернатар - намеснік губернатара (пісар) - дворны цівун - цэнзар - бурмістр паўлаўскі - лаўнікі (два) - арандата-ры. якія трымалі прапінацыю - ляснічыя (два) - мастаўнічы (два) - дзесятнікі (па патрэбе)[1167]. Устава прадугледжвала існаванне чатырох катэгорый сельскага насельніцтва (чыншавікі, баяры, цяглыя і кутнікі), якія ў штодзённым жыцці павінны былі насіць шапкі рознага колеру. каб адразу было відаць, да якой катэгорыі селянін належыць. Уводзіўся дворны суд, у які ўваходзілі губернатар, намеснік, цівун, лаўнікі. Рашэнне прымаў губернатар, астатнія ўдзельнікі судовага працэсу мелі толькі права выказвацца па справе[1168].

Паводле Уставы для Паўлаўскай воласці 1791 г., некалькі змяняўся склад ураду ўладання і больш дакладна былі вызначаны абавязкі ўраднікаў. Іерархія ўраднікаў была наступная: цэнзар або сотнік - падцэнзар або падсотнік - лаўнікі

[1162] Czart. Rkps. S.L. 9403, p. 51.

[1163] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века.- С 150.

[1164] Тамсама.- С 135.

[1165] БЭФ.- Т. II.- С. 263-264.

[1166] АКР.-Т. XL-S. 411-412.

[1167] Тамсама.- S. 413.

[1168] Тамсама.- S. 414.

(два) -стражнікі (чатыры) - бурмістр - дзесятнікі або войты (чатыры) - паддзесятнікі (па патрэбе) - мастаўнічыя або будаўнічыя (два) - лясніčыя (чатыры)[1169]. Уладанне падзялялася на чатыры дывізіі, кожная пад кіраўніцтвам цэнзара. У дывізію ўваходзілі па чатыры войтаўствы на чале з дзесятнікам або войтам і паддзесятнікамі[1170]. Устава прадугледжвала наяўнасць у маёнтку школы і лекара. Разам з тым жыццё сялян станавілася яшчэ больш арганізаваным на вайсковы лад. Уводзілася зямянская міліцыя і спецыяльная форма для яе. У склад міліцыі ўваходзілі ўсе гаспадары, якія папалудню кожную нядзелю павінны былі выходзіць на салдацкія трэніроўкі («musztr żołnierski»). Дваровыя ўраднікі ў міліцыі атрымлівалі афіцэрскія званні ад паручніка (цэнзар) да капрала (паддзесятнік)[1171]. Кожную нядзелю вечарам лаўнікі праводзілі свой суд, на якім разглядаліся ў асноўным парушэнні парадку штодзённага жыцця насельніцтвам.

Вядомы даследчык абшчыны рускага сялянства В. А. Аляксандраў пры разглядзе падобных памкненняў памешчыкаў на тэрыторыі Расіі паставіць падпарадкаваныя ім вёскі пад кіраўніцтвам панскай адміністрацыі ва ўмовы чыста паліцэйскай рэгламентацыі ўсіх бакоў жыцця насельніцтва даў такім абшчынам назву «вотчынна-паліцэнскі рэжым»[1172]. На наш погляд, такая характарыстыка была б дастаткова справядлівай і у адносінах да рэформаў Паўла Ксаверыя Бжастоўскага ў маёнтку Мерач у другой палове XVIII ст., нягледзячы на «прасялян-скую» рыторыку гэтага дзеяча.

Прыметы наяўнасці грамады, не арганізаванай уласнікам, а існаваўшай традыцыйна, аўтар выявіў у многіх вёсках прыватных уладанняў ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

На захадзе і ў цэнтры Беларусі, як і ў папярэдні перыяд, грамада ў прыватных уладаннях прасочваецца менш выразна, чым на ўсходзе краіны. Тлумачыцца гэта раней названымі прычынамі: перавагай тут фальварка і паншчыны. Разам з тым аўтару ўдалося знайсці дакументы, якія сведчаць аб наяўнасці абшчыны не толькі ў «чыншавых», але і ў «цяглых» прыватнаўласніцкіх вёсках захаду і цэнтра Беларусі. Напрыклад, у «Рэестры разданага ў Яроміцкай воласці збожжа» за 1774 г. (воласць Слуцкага княства Радзівілаў), які, напэўна, быў складзены пасля неўраджаю, бо ўсе сяляне ўсіх вёсак воласці пазычалі ў панскім двары жыта. авёс, ячмень, грэчку і гарох, адносна кожнай вёскі ёсць запіс, які сведчыць аб наяўнасці там абшчыны. Гэта амаль стандартная прыпіска аб тым, што сяляне дадаткова купілі зерне ў Слуцку і рабілі яны гэта грамадою, усёй вёскай разам. Запіс гэты мае два варыянты: «усёй вёскай купленага ў Слуцку ўзялі» («Całą wsią kupnego w Słucku wzięli»[1173]), або «вёска ўсёй грамадой у Слуцку купленага ўзяла»[1174].

Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў другой палове XVIII ст. адбылося значнае ўпарадкаванне сістэмы кіравання па лініі маёнтак - грамада і пэўная ушфіка-цыя яе арганізацыі ва ўладаннях, якія пайшлі па шляху ўмацавання фальварка. Структура адміністрацыйнага падзелу (воласць - войтаўства - вёска), як і назвы сельскіх

[1169] AKR - T. XL - S. 428.

[1170] Тамсама.- S. 419.

[1171] Тамсама.- S. 431.

[1172] Александров, В. А. Сельская община в России (XVII - начало XIX в.) / В. А. Александров.- М.: Наука, 1976.- С. 55.

[1173] AGAD. AR, dz. XXIX, sign. 245, p. 3-8, 10.

[1174] Тамсама.- P. 9.

«урадткаў» (войт - падвойскі (лаўнік)- дзесятнік) у магнацкіх і дзяржаўных уладаннях, заснаваных на паншчыне, у гэты час амаль супадалі. Больш выразньші і зразумелымі сталі і абавязкі названых асоб, У многіх уладаннях з'явіліся спецыяльныя інструкцыі, у якіх рэгламентавалася праца адміністрацыі і былі дакладна вызначаны паўнамоцтвы і абавязкі ўсіх службовых асоб. Так, абавязкам войта, як і раней, была арганізацыя сельскагаспадарчых работ на тэрыторыі свайго войтаўства, кантроль за зборам падаткаў, захаванасцю межаў Войт павінен быў таксама абараняць правы насельніцтва войтаўства ў адпаведнасці з традыцыяй і запісамі ў інвентарах і ўставах[1175]. Памочнікамі вон таў амаль ва ўсіх справах былі падвойскія.

Абавязкі дзесятнікаў даволі поўна раскрывае «Інструкцыя для дзесятнікаў ва ўладанні Боцькі», якое належала панам Патоцкім, складзеная каля 1800 г.[1176] У інструкцыі адзначалася, што дзесятнікі пастаўлены «для дабра грамад, лад трымання належнага парадку, для службы грамадзе, а таксама і двару»[1177].

Дзесятнікамі павінны былі быць абраны людзі заможныя, непітушчыя і не лянівыя ў гаспадарстві. Іх абавязкам было сачыць у першую чаргу за гаспадарчым становішчам людзей у сваім дзесятку, а таксама паводзінамі ў штодзённым жыцці, парадку ў сям'і і г.д. Пра ўсе парушэнні дзесятнік павінен быў інфармаваць двор, у адваротным выпадку ён сам мог быць пакараны[1178]. Дзесятнікі валодалі нават пэўнымі судовымі паўнамоцтвамі ў вырашэнні найпрасцейшых вясковых спраў У выпадку, калі ў вёсцы быў толькі адзін дзесятнік, для разгляду пэўнай справы ён павінен быў запрасіць дзесятніка з іншай вёскі свайго пана і аднаго старога чалавека са сваен вескі і толькі тады разглядаць справу[1179]. І Дзесятнікамі сялян часта прызначалі без іх згоды. Менавіта аб гэтым свед-чыць скарга ад 1797 г. сялян-дзесятнікаў з Дзярэчышскага графства, якое належала Сапегам, на дзяржаўцу пана Шабанскага. Сяляне Дамінік Сіпайла, Антон Русецкі, Міхал Рымша, Тамаш Казлоўскі і Якуб Чаплінскі былі прызначаны дзесятнікамі загадам дзяржаўцы і ім было паабяцана, што за сваю працу яны будуць вызвалены ад выплаты чыншу. У выніку яны гэтай ільготы не атрымалі[1180].

У Валожынскім графстве князёў Чартарыйскіх у 1777 г. было сем войтаў, тры цівуны, два цесляры, два леснікі і паштар, пра наяўнасць якіх сведчыць рэестр затрачаных на іх аплату грошай за «паслугі скарбавыя». Натуральна, што аплачваемая землеўласнікам адміністрацыя і сяляне-слугі – гэта людзі больш панскія, чым належачыя да сельскай грамады. Разам з тым не выклікае сумненняў, што менавіта войты, названыя ў гэтым пераліку, кіравалі таксама сельскімі абшчынамі і рабілі гэта, напэўна, у тых межах, якія вызначаў для іх гаспадар уладання[1181].

Як і ў папярэдні перыяд, у агульным карыстанні насельніцтва многіх прыватнаўласніцкіх вёсак знаходзіліся выганы і лугі. Так, у інвентары 1766 г.

[1175] Похилевич, Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века.- С.144.

[1176] IG.- T. I.- S. 387-392.

[1177] Тамсама.- S. 387.

[1178] Тамсама.- S. 390-391.

[1179] Тамсама.- S. 391.

[1180] LMA BRS. F. 17, bib. 100, p. 12.

[1181] Czart. Rkps. S.L. 9393, p. 72. 112

Дубраўлянскай воласці маёнтка Дубраўляны Ашмянскага павета, які належаў Ёзэфу Любартовічу-Сангушку, у многіх вёсках адзначана, што платы за сенажаці і засценкі прызначаны агулам на ўсю веску[1182]. Гэта не прамое ўказанне на існаванне у весцы абшчыны, але зразумела, што выдзеленыя панам сенажаці сяляне павінны былі падзяліць паміж сабой, а таксама сабраць у абшчыне грошы на іх аплату. Запісы пры апісанні вёсак воласці Дубраўлянскага ключа Ашмянскага павета аб тым, што за сенажаці плацяць разам усёй вёскай, ёсць і ў інвентары 1774 г.[1183] Выган усёй вёскі пазначаны ў апісанні вёсак Паніззе і Жураўцы Валожынскага графства ў інвентары 1772 г.[1184]

У шэрагу інвентароў адзначаны факты сумеснай выплаты за зямлю сялянамі цэлай вёскі. Так, у вёсцы Кубуцы Валожынскага графства ў 1772 г. за 3 $^{2}/_{3}$ валок пустак аплочвала разам вёска, разам плацілі за 2/3 валокі і сяляне вёскі Дубінкі гэтага ж графства[1185].

У прыватных уладаннях, размешчаных на ўсходзе Беларусі, таксама даволі прыкметнай была роля абшчыны. Тут, як і ў іншых відах землеўладання, прыватныя ўласнікі па меры завяршэння працэсу адбудовы гаспадаркі імкнуліся ператварыць абшчыну ў інстытут, максімальна падпарадкаваны панскай волі. Найчасцей на абшчыну (асабліва ў маёнтках, пераведзеных на грашовую рэнту) ускладвалі адказнасць за паўнату і своечасовасць яе выплаты. Так, у інвентары Талачынскай воласні за 1760 г. быў змешчаны запіс аб тым, што сяляне паручыліся, што будуць выплачваць адзін за другога чынш, а калі хто-небудзь без важнай прычыны не выплаціць, то за такога кожная вёска «грамадой сваёй абавязана заплаціць («...poddańs two niezawodne wsiami Birczym Resys treno opisane czynsze ied en za drug iego ręcząc reguliarn ie wypłacać ass ekuraiąsię. Więc gdyby na Którym w Którymkolwiek Roku pokazałsię Deces oprócz tatalnych Przypadków za takowego wiele by było osób każda wieś Gromadą Swoią takowy Deces pod Exekucyą do Skarbu uspokaiąć maią»)[1186].

Захоўвалася значная роля грамады ў сацыяльна-эканамічным жыцці сялянства Шклоўскага графства, у тым ліку ў сферы землекарыстання. Па падліках М. Б. Тапольскай, у сялян Шклоўскай воласці ў 1763 г. была 41 (1,3%) абшчынная валока з усіх зарэпстраваных 3163 валок[1187].

Паводле падлікаў аўтара дадзенай працы, у інвентары Шклоўскага графства за 1763 г. факты абшчыннага землекарыстання былі адзначаны ў 42 (31%) з 136 вёсак[1188]. Пры выключэнні з агульнага пераліку населеных пунктаў двух мястэчак (Александрыі і Зубрэвіч), 13 вёсак, што былі ў заставе, вёсак бсз людзей або з некалькімі сем'ямі агульны працэнт вёсак Шклоўскай воласці, дзе былі прыметы грамадскага землекарыстання, узрастае да 40 %[1189].

Яшчэ больш высокай была ўдзельная вага вёсак з наяўнасцю абшчыннага

[1182] A PW .A S, sign 395/5, nienumer .

[1183] LVIA. F .1135 , ap. 20, bib. 726 .

[1184] Czart. Rkps. S .L. 9389 p . 47 ; 55v.

[1185] Тамсама.- P. 50v .

[1186] A PW .A S, sign. 416/6 , nienumer.

[1187] Topolska, M. B. Dobra Szklowskie na Białorusi Wschodniej w XVII i XVIII wieku.- S. 35.

[1188] ZNTO. Rkps Ossol. 5168/II; p. 57-227.

[1189] Тамсама.

землекарыстання Шклоўскай валасці ў 1771-1772 гг.[1190] Як сведчыць інвентар уладання, са 134 пазначаных там вёсак у 80 (59%) назіраліся факты сумеснага карыстання зямлёй і сумеснага адбывання павіннасцей ці правядзення выплат за карыстанне ёю. Пры выключэнні з агульнай лічбы населеных пунктаў валасці двух мястэчак, адной вёскі, якая была ў заставе, і шасці вёсак, у якіх было ад двух да пяці дымоў, удзельная вага вёсак з абшчынным землекарыстаннем узрастае да 63% (Дадатак 13, табл. 5).

У інвентары Шклоўскага графства 1771-1772 гг. у адносінах да сялянскага землекарыстання выразы «грамада», «усё сяло», «сумесна» прыводзяцца як ідэнтычныя, у некаторых выпадках дапаўняючы адзін аднаго. Так, з 80 вёсак з абшчынным землекарыстаннем, якія адзначаны ў гэтым інвентары, у 40 (50%) запісана, што зямлю альбо сенажаці ўзяло «ўсё сяло разам», у 38 (47,5%), што прыняла «ўся грамада» і ў 2 (2,5%), што за зямлю альбо сенажаці сяляне плацяць сумесна.

Заўважаючы наяўнасць грамады ў Шклоўскім графстве, М. Б. Тапольская, акрамя таго, падлічыла, што ў 1760 г. на 2106 сялянскіх гаспадарак тут налічвалася 44 прадстаўнікі абшчыннай адміністрацыі: 10 войтаў, 32 лаўнікі і два сотнікі[1191]. Яна ж прывяла інфармацыю аб тым, што ў Шклоўскай валасці, па сведчанню крыніц, «кожны з войтаў атрымліваў па вольнай ад павіннасцей валоцы зямлі, для таго, каб прымушаў сялян да руплівага і добрага гаспадарання, сачыў, каб сяляне не пілі і не гулялі ў карты»[1192]. І. Бараноўскі таксама адзначаў, што характэрным для ўладання Шклоў было тое, што тут многія ворыўныя землі і засценкі былі ў карыстанні цэлых сельскіх грамад. Акрамя ворыўных земляў, грамада часта брала ў трыманне таксама сенажаці і балотныя надзелы[1193].

Як адзначалася, з умацаваннем гаспадаркі землеўласнік імкнуўся як мага больш значна узяць пад свой уплыў грамаду. У адказ на гэта ўзрастала імкненне сялянства трымацца разам грамадой, аб чым сведчыць узрастаючая колькасць скаргаў, падпісаных якраз ад імя грамады. Так, сяляне Палонскай валасці Ружанскага графства Сапегаў скардзіліся ў канцы XVIII ст. на тое, што аканом адабраў «ад нас, грамады, на двор зямлю, а таксама і выган»[1194]. Падданыя суседняй Крастынапольскай валасці паведамлялі, што «выган, які нам, грамадзе, належаў з даўніх часоў, пан аканом адабраў і на двор паарау...»[1195]

Грамада працягвала выступаць кантралёрам за дзейнасцю арандатараў трымальнікаў і феадальнай адміністрацыі. Так, з Ружанскага графства ў 1776 г. ад імя грамады былі адпраўлены скаргі з інфармацыяй аб тым, што «дыспазітар свайму сыну ў школу ў Жыровічах даслаў збожжа 28 шанкаў»[1196]. «Мы, грамада, клапоцячыся пра панскае дабро, даносім, што ў мінулым годзе нават невядома колькі збожжа рознага (рэвізор. - В. Г.) на сябе пазабіраў»[1197].

[1190] Czart. Rkps. S.L. 9389, p. 2-56.

[1191] Topolska, M. B. Dobra Szklowskie na Białorusi Wschodniej w XVII i XVIII wieku. - S. 91.

[1192] Topolska, M. B. Dobra Szklowskie na Białorusi Wschodniej w XVII i XVIII wieku. - S. 106.

[1193] Baranowski, I. Wieś i folwark. Studja z dziejów agrarnych Polski / L Baranowski. - Warszawa, 1914. - S. 260.

[1194] LMA BRS. F. II, bib. 80, p. 8.

[1195] Тамсама.- P. 10.

[1196] LMA BRS. R17, bib. 80, p. 3.

[1197] Тамсама.- P. 8v.

У матэрыялах прыватных уладанняў за другую палову XVIII ст. у параўнанні з папярэднім перыядам значна ўзрастае ўдзельная вага сялянскіх скарг, складзеных ад імя грамады. Гэтая тэндэнцыя выразна прасочваецца адносна як захаду і цэнтра, так і ўсходу Беларусі. Так, уся Валожынская воласць разам («My, cala włość Wołożyńska, uskardżaiemsia») скардзілася на тое, што адміністратары паставілі ў воласці залежных ад сябе войтаў і цівуноў, якіх воласць не выбірала, як раней паводле даўняга звычаю, і таму войты і цівуны служаць толькі інтарэсам двара, а не воласці («Donosimy y to Wielmożności Panskiey że Ich Mość Panowie Administratorowie woytow y ciwunow podkupnych sobie maią, a nie obranych od całey włości iako przed tym dawny zbyczay był...»[1198]. Звесткі пра існаванне грама-ды змяшчаюць інвентары і гаспадарчыя дакументы Быхаўскага графства Сапегаў за XVIII ст. Так, у інвентары 1758 г. паведамляецца, што амаль у кожнай вёсцы графства ёсць землі, з якіх плаціць «разам уся вёска», як, напрыклад, у вёсцы Дубовая Слабада, дзе ў агульным карыстанні сялян было $1\frac{1}{2}$ пустых валокі, «з якіх разам уся вёска долю даваць альбо чынш плаціць павінна»[1199].

Такім чынам, сельская абшчына працягвала існаваць да канца XVIII ст. і ў прыватных уладаннях ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. У сувязі са значным умацаваннем у гэты час фальваркова-паншчынных адносін і ўмацаваннем індывідуальнага землекарыстання і падаткаабкладання роля абшчыны як інстытута сялянскай самаарганізацыі некалькі зніжаецца, а яе службовыя асобы трапляюць пад усё большы кантроль землеўласніка. Ва ўладаннях, дзе асноўнай павіннасцю насельніцтва была грашовая рэнта, землеўласнік у многіх выпадках перакладваў на грамаду адказнасць за яе своечасовую і поўную выплату.

[1198] Czart. Rkps. S.L. 9403, p. 2.

[1199] Тамсама.- P. 158.

# 5

## СЕЛЬСКАЯ АБШЧЫНА Ў ЦАРКОЎНЫХ УЛАДАННЯХ

### 5.1. Абшчына ў царкоўных уладаннях Беларусі ў XVI - першай палове XVII ст.

Састаўной часткай феадальнай эканоміка-сацыяльнай структуры ў Беларусі у XV-XVIII ст ст. была ўласнасць царкоўных устаноў: каталіцкай, праваслаўнай, уніяцкай і пратэстанцкай цэркваў. Царкоўнае землеўладанне ў агульнай структуры зямельнай уласнасці ВКЛ, паводле падлікаў Е. Ахманьскага, складала ў XVI ст. каля 5%[1200] Найбольш буйным землеўласнікам сярод царкоўных арганізацый была каталіцкая царква. Яе ўласнасць пачала фарміравацца з выданнем вялікім князем Ягайлам 17 лютага 1387 г. прывілея, па якому Віленскаму біскупству былі нададзены горад Таўрогі не з валасцю, а таксама валасці Дуброўна, Бакшты і Веркі[1201]. Пазней біскупству былі перададзены іншыя маёнткі на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку ў 1391 г. Стрэшынская валасць (Рэчыцкі павет), у 1412 г. Убарцкая валасць (Мазырскі павет), у 1415 г. Камянецкая валасць у Кіеўскай зямлі і Бародзіцкая (Брашэвіцкая) валасць на Кобрыншчыне. якую ў 1559 г. падараваў капітулу Віленскага біскупства біскуп Валяр'ян Пратасевіч[1202].

Такім чынам, уладанні каталіцкан царквы пашыраліся ў першую чаргу дзякуючы дзяржаўным падараванням і ў сярэдзіне XVI ст. уключалі каля 300 вёсак, большасць з якіх знаходзілася на тэрыторыі Беларусі[1203]. Значна раслі зямельныя ўладанні каталіцкай царквы таксама за кошт падараванняў і завяшчанняў прыватных асоб, куплі зямлі і ўладанняў. Да канца XVIII ст. колькасць дымоў каталіцкай царквы ў агульнай структуры зямельнай уласнасці склала 11,8 % (усіх канфесій разам - 13,8%)[1204].

Зразумела, што з прычыны такой матэрыяльнай перавагі ўладанняў каталіцкай царквы ў параўнанні з уласнасцю іншых канфесій і з-за большай забяспечанасці Іх крыніцамі ўасноўным праблема будзе разглядацца на матэрыялах маёнткаў Віленскага каталіцкага біскупства.

Уладанні Віленскага біскупства складаліся з дзвюх частак: 1) сталовых уладанняў біскулства (каля 77% усіх уладанняў). Сюды ўваходзілі такія маёнткі, як Валожын, Старынкі, Біскупіцы, Германішкі, Бакшты, Убарць, Ггумсн і інш.; 2) уладанняў сталовых і прэстыманіяльных Віленскай капітулы (валасці Стрэшынская

---

[1200] Ochmański, J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Ustrój i uposażenie / J. Ochmański. - Poznań; Drukarnia Uniwersytetu im. A. Mickiewicza, 1972. - S. 107.

[1201] Ibidem. - S. 20; Мараш, Я Н. Ватикан и католическая цорковь в Белоруссии / Я. Н. Мараш, - Минск: Вышэйшая школа, 1971. - С. 110.

[1202] KDKDW. - T. I. - S. 88-90; Kurczewski, J. Kościół zamkowy czyli katedra Wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju / J. Kurczewski. - Cz. L - Wilno: Nakład i druk Józefa Zawadzkiego, MCMVIII. - S. 65; Мараш, Я. Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии. - С. 110-113.

[1203] Ochmański, J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Ustrój i uposażenie. - S. 95-97; Мараш, Я Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии. - С, 112; Насевіч, В. Л. Віленскае біскупства / В. Л. Насевіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6т. - Т. 2. - Мінск, 1994. - С. 272.

[1204] Козловский, П. Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII - первой половине XIX в. / П. Г. Козловский. - Минск: Наука и техника, 1982. - С. 70.

і Камянецкая, Волча, Корань. Чарэхи і інш.)[1205]. Як адзначаў Е. Ахманьскі, «напачатку капітульныя маёнткі кіраваліся ўасноўным праз духоўных асоб двума спосабамі. Прэстыманіяльнія ўладанні, якія складаліся з 1-2 вёсак, капітула падзяліла паміж сваіх членаў. Канонік кіраваў сваім prestymonium асабіста або выбіраў сабе аканома (faktor)»[1206]. Сталовыя ўладанні Стрэшын і Камянец знаходзіліся пад на-глядам капітульнага пракуратара. Пракуратар збіраў даніну і чынш ад адміністратараў і насельніцтва, выносіў пакаранні для непаслухмяных і неплацельшчыкаў. Ён аб'язджаў маёнткі асабіста або пасылаў сваіх камісараў, якія ездзілі па два чалавекі разам. Адміністратары з'явіліся ў капітульных валасцях пазней, чым у прэстыманіяльных, прыблізна ўсярэдзіне XVI ст., а ў 1561 г. узнікла пасада генеральнага аканома сталовых і прэстыманіяльных упаданняў, якую займаў прызначаны на яе шляхціц[1207].

У сацыяльна-эканамічным развіцці царкоўных уладанняў (і не толькі ва ўладаннях каталіцкай царквы) было шмат падабенства з тымі працэсамі, якія адбываліся ў дзяржаўных і некаторых магнацкіх уладаннях. З аднаго боку, царква як землеўласнік, таксама як дзяржава і прыватныя феадалы, пастаянна імкнулася да павелічэння даходнасці сваіх маёнткаў і таму праводзіла гаспадарчую палітыку, якая найбольш гэтаму спрыяла. Таму ў сярэдзіне XVI - першай палове XVII ст. у многіх уладаннях, дзе гэта было найбольш выгадна, ствараліся фальваркі, а насельніцтва пераводзілася на паншчыну. З другога боку, царкоўныя ўласнікі звычайна радыкальна не мянялі арганізацыю гаспадарчага і сацыяльнага жыцця ва ўладаннях, перададзеных ім ад іншых уласнікаў. Таму і захоўвалася шмат аднастайнасці ў сацыяльнай і гаспадарчай арганізацыі царкоўных вёсак і суседніх дзяржаўных ці прыватных, у тым ліку і ў ролі абшчыны ў іх. Найбольш гэта праяўлялася ва ўладаннях, размешчаных у Падняпроўі.

Дакументаў са сведчаннямі аб дзейнасці абшчыны ў царкоўных уладаннях захавалася значна менш у параўнанні, напрыклад, з дзяржаўнымі маёнткамі, але дастаткова для таго, каб паказаць яе прысутнасць там і акрэсліць некаторыя асноўныя функцыі. Нават асобныя радкі з грамат аб падараваннях маёмасці могуць утрымліваць падобную інфармацыю. Так, сваім лістом, выдадзеным у снежні 1534 г. князь Іван Юравіч Лынкгвеневіч пацвердзіў наданне свайго бацькі Юр'я і дзеда Сямёна Лынкгвеневічаў на Анофрэенскі манастыр у Мсціслаўскім епіскапстве: «и к тому манастыру придал люди с пашьнями, зь сеножатми и з данники - з дан(ь)ю медовою и серебреною, и з бобровыми гоны, и со всими приходы, што к тым землями) и пашьнямь прислушаеть...»[1208] і дадаў яшчэ людзей пахожых і непахожых у сяле Галоўчыне. Сярод іх былі «ч(о)л(о)в(е)к, непохожый на Коленкове Андрей, тивун – служба полная... а ч(о)л(о)в(е)к непохожый у Коморовичох и старець»[1209]. Дакумент паведамляў, што асноўнымі павіннасцямі гэтых сялян была даніна мёдам, хмелем і прыгатаваным (звараным) з мёду хмяльным напоем - «варам»: «с Воробгевы земли дают(ь) кад меду пят пудовь, а бочка хмелю, а грошовое дани -

[1205] Ochmański, J. Renta feudalna i gospodarstwo dworskie w dobrach biskupstwa wileńskiego od końca XIV do XVI wieku / J. Ochmański // Zeszyty Naukowe Uniwersitetu im. Adama Mickiewicza. Historia. - Zesz. 5. - Poznań, 1961. - S. 38-39.

[1206] Ibidem. - S. 92.

[1207] Ibidem. - S. 93.

[1208] LM-8-S.-P. 150.

[1209] LM-8-S. - P. 151.

полтина грошей без дву, а у варю старцу помогать семь грошей...»[1210] Напрыканцы дакумента Іван Юравіч Лынкгвеневіч запісаў «Мно тых людей манастырских нашымь наместникоми и тивуноми, и всимь нашыми заказникомь и судит(ь) ани радит(ь), и децьких не посылати, а на наше дело ни на которое тым людем не ходити ни зь сохою, ни з косою, ни сь серпомь, ни с топоромъ... никаких мётовь на них не метати...»[1211] Дакумент, выпрымкі з якога былі працытаваны, выразна сведчыць аб наяўнасці абшчыны як у прыватнай вёсцы Галоўчын князя Лынкгвеневіча, так і яе захаванні (з кіраўніком, усталяванымі павіннасцямі) пасля перадачы названых сялян ва ўласнасць манастыра. Больш за тое, можна гаварыць аб перадачы вёскі (ці яе часткі) разам з абшчынай і яе кіраўніком – старцам і селянінам-цівуном, які прадстаўляў ніжэйшае звяно феадальнай адміністрацыі. Выраз «никаких мётовь на них не метати» таксама ёсць сведчанне існавання практыкі прызначэння падатку ці даніны агульнай сумай, каб яе потым падзялілі («мёты зметали») унутры абшчыны. Можна меркаваць, што падобная схема існавала і ў большасці выпадкаў пры іншых падараваннях і наданнях ад дзяржавы і прыватных уласнікаў духоўным.

Асобныя царкоўныя сёлы, як прыватныя і дзяржаўныя, звычайна мелі ў сваім рхпараджэнні не толькі сядзібную зямлю, ворыва і сенакосы, але і лясы, рэкі, азёры – тое, што «прыслухала» да гэтага сяла і было ў карыстанні сельскай абшчыны. Звычайна ў даравальных граматах дакладна агаворваліся межы абшчыннай тэрыторыі. Напрыклад, князь Федар Іванавіч Яраславіч 9 красавіка 1513 г. надаў царкве Раждзаства Прасвятой Багародзіцы ў Пінску дворышчы Гарашковічы, Косціч, Невіровіч і іншыя «с людьми на тых дворивдах седящих, з данин медовыми и поплатами грошовыми и з их службою... су всеми их землями пашными и не пашными, сеножатми, болотами, з озера и гаты на реце Припяти и по всех речнищех, з ловами рыбными, уюнными, пташинными...»[1212]

Унутраная арганізацыя царкоўных вёсак таксама амаль не адрознівалася ад прыватнаўласніцкіх ці дзяржаўных, не мянялася яна і пасля перамены ўласніка. Грамадскае жыццё каталіцкай, праваслаўнай ці уніяцкай вёскі таксама было падобным. Можа толькі ў вёсках, якія належалі да каталіцкай канфесіі, больш заўважным было імкненне з боку кліру аказваць уплыў на паводзіны сялянства ў паўсядзённым жыцці. Так, напрыклад, у 1638 г. сялянству вёскі Волчаўладання Сожыца было прадпісана: каб не пілі, каб не дазвалялі непаўналетнім дзецям браць шлюб, каб у суботу і нядзелю хадзілі на службу Божую ў царкву, умелі пажагнацца і паўтарыць «у імя Айца, Сына і Духа Святога» (у арыгінале: «umieć przydawać «trzy persony ieden Bóg». - В.Г.)[1213].

Кіруючымі асабамі сельскіх абшчын у царкоўных уладаннях у XVI - першай палове XVII ст. былі старцы. Так, «реестр, альбо инвентарь списанья добр именей и сел, владычеству Полоцкому прислухаючых, у земле Полоцкой лежачих», складзены ў 1588 г., паказвае, што ў кожным сяле Полацкага ўладыцтва быў старац[1214]. М. В. Доўнар-Запольскі даволі лагічна тлумачыць гэта тым, што сёлы

[1210] Тамсама.

[1211] Тамсама.

[1212] Описание рукописного отделения Виленской публичной библиотеки.- Выпуск четвертый.- Вильна: Типография «Русский Почин», 1903.- Приложение.- С.3.

[1213] LVIA.F.694 ap.1,b b.1, p.8.

[1214] АС - Т. I. - С.171-173.

ўладыцтва былі «раскіданы» і «адасоблены» на вялікай тэрыторыі[1215]. Натуральна, што кожнае з гэтых сёл жыло асобнай абшчынай. Падаткі ў адных сёлах збіраліся з кожнага дыму персанальна (сяло фальварка на Струны, сяло Усвіца), а ў іншых (сяло фальварка на Тэтчы, сяло Завячэлле) - агулам, з усіх разам[1216]. Прычым у выпадку, калі падатак збіраўся разам, ужываўся тэрмін «зо всего села огулом», а ў сёлах, дзе падатак выплачваўся ў індывідуальным парадку, ладводзіўся толькі агульны вынік сабранага: «сумою чынить грошей коп четырнадцать»[1217]. Для сёл, дзе падатак накладваўся агулам, хутчэй за ўсё, ён раскладваўся сярод асобных гаспадарак самімі сялянамі.

Вядомы даследчык гісторыі Віленскага каталіцкага біскупства Е. Ахманьскі прыйшоў да думкі, што разам з прызначанай адміністрацыяй ва ўладаннях Віленскага каталіцкага біскупства існавала старажытная арганізацыя сялянскага самакіравання[1218]. Але вывад такі ён рабіў толькі на падставе таго, што у дакументах некаторых уладанняў Віленскага біскупства (Стрэшын, Каменьшчызна, Бакшты капітульныя, Ганевічы, Убарць, Шыпяны, Ігумен, Корань) упамінаўся старац[1219]. Е. Ахманьскі таксама звярнуў увагу на сумесныя формы барацьбы сялянства ва ўладаннях біскупства за свае правы і інтарэсы. Даследчык спасылаўся на вядомы прыклад адмовы ў 1538 г. падданых біскупства ўдзельнічаць у надзвычай цяжкой працы на будаўніцтве замка для абароны супраць татар на Каменьшчызне. За гэта яны былі пакараны заключэннем у вязніцу на два месяцы, выплатай 30 рублёў віны і пакрыццём прычыненых страт[1220]. У 1552 г. там жа на Каменьшчызне сяляне спалілі дрэва, нарыхтаванае для будаўніцтва замка[1221].

Адзначым, што справа гэтым не скончылася. Больш поўна пра сітуацыю ў Камянецкай воласці можна даведацца з ліста пралатаў Віленскага касцёла Святога Станіслава да насельніцтва і старца Камянецкай воласці ад 17 ліпеня 1554 г.[1222] (гл. Дадатак 10). Ліст адрасаваны «мужом нашим волости Каменицкой, так теж и старцу нашому Каменицкому Пронию», які працягвалі працівіцца пабудове замка, і ўтрымлівае тлумачэнне старцу і валашчанам неабходнасці яго ўзводзіць: «вам самым, жонам и детям вашим для особливей оборони и схованью вашему от неприятель»[1223]. Пралаты ізноў тады зарукаю трохсот коп грошаў патрабавалі, каб воласць пасля завяршэння збору жыта ішла на будоўлю замка. Пасля завяршэння работ старцу прапаноўвалася разам з некалькімі прадстаўнікамі валасной абшчыны прыехаць для разбору ў Вільню: «А скоро доробивши того города, абы ты, старче,

[1215] Довнар-Запольский, М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке / М. В Довнар-Запольский. - Киев 1-я артель Печатного дела, 1905 .- С 61.

[1216] А С - Т. I. - С. 171-173.

[1217] Тамсама.

[1218] Ochmański, I Renta feudalna i gospodarstwo dworskie w dobrach biskupstwa wileńskiego od końca XIV do XVI wieku. - S. 93.

[1219] Ibidem.

[1220] Ochmański, J. Powstanie i rozwój latyfundium. biskupstwa Wileńskiego (1387-1550). Ze studiów nad rozwojem wielkiej własności na Litwie i Białorusi w średniowieczu / J. Ochmański. - Poznań: Druk Politechnika Warszawska, 1963. -S. 122.

[1221] Kurczewski, J. Kościół zamkowy czyli katedra Wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju / I Kurczewski. - Cz. III. Streszczenie aktów kapituły Wileńskiej. - Wilno: Drukiem Józefa Zawadzkiego, MCMXVL - S. 40; Ochmański, J. Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa Wileńskiego (1387-1550). Ze studiów nad rozwojem wielkiej własności na Litwie i Białorusi w średniowieczu. - S. 123.

[1222] А С - Т. 1. - С. 133.

[1223] Тамсама.

взявши собою мужов пять або шесть, до нас до Вильни приехал». Разам з тым старца папярэджвалі аб тым, што калі грамада не будзе будаваць замак, а ён адмовіцца прыехаць разам са старшымі мужамі ў Вільню, то ў пакаранне ўволасць будуць адпраўлены капітульныя татары: «... о том ведай конечно, же пошлем по тебе татар наших з вюком господарским, который вас и жоны ваша будут имати, на останок вас горлы вашыми будут карати. И ты бысь, старче, скоротобе подасть врадник наш лист, и тогож часу был взявшы собою мужов старших, конечно бысь того не чинил под ласкою и караньем нашим»[1224].

Цытаваны ліст, напэўна, найболып выразна, чым іншыя дакументы, сведчыць аб існаванні абшчыны ва ўладаннях Віленскага каталіцкага біскупства і паказвае адносіны кіраўніцтва біскупства да валасной грамады. З гэтага дакумента відаць, што абшчына на Каменышчызне была добра арганізаваным інстытутам сельскага насельніцтва, якое найменш шаснаццаць гадоў адмаўлялася выконваць нязвыклыя для сябе работы па пабудове Камянецкага замка. Кіраўніцтва біскупства пагражала старцу і членам валасной абшчыны пакараннем, але, напэўна, каб так проста гэта было зрабіць, то пакаранне адбылосяб значна раней.

У Вільні добра ведалі кіраўніка абшчыны і звярталіся да яго персанальна, па імені. У валасной абшчыны на Каменынчызне выразна прасочваецца пэўная іерархія: старац, старшыя мужы і простыя абшчыннікі («мужы»). Напэўна, пры старцы была нейкая рада з найболыш паважаных абшчыннікаў - старшых мужоў. Гэтыя людзі якраз вырашалі асноўныя справы грамады, у тым ліку і праводзілі суд па ўнутрыабшчынных спрэчках. Менавіта так было і ў Стрэшынскай воласці, пра што мы будзем гаварыць ніжэй. Магчыма, гэтыя звесткі пра наяўнасдь фіксаванай рады са старэйшых людзей у грамадзе можна эстрапаліраваць і на валасную абшчыну сялян гаспадарскіх Падняпроўскіх валасцей.

Капітулай Віленскага біскупства 4 красавіка 1554 г. было вырашана будаваць замак у Стрэшыне. Пад 14 ліпеня 1554 г. у рэестры капітульных спраў адзначана, што «стрэшынцы хочуць уцякаць»[1225]. Е. Ахманьскі лічыў, што гэтыя ўцёкі таксама з'яўляліся праявай сялянскага пратэсту, звязанага з будаўніцтвам замка[1226].

Аўтар паспрабуе на больш шырокім матэрыяле паказаць дзейнасць абшчыны ва ўладаннях Віленскага каталіцкага біскупства. Напачатку разгледзім становішча абшчыны на прыкладзе найбольш буйных і лепш забяспечаных крыніцамі царкоўных уладанняў усходу Беларусі. Маёнткі Віленскага біскупства, размешчаныя на ўсходзе Беларусі, у свой час належалі дзяржаве і таму па сваёй гаспадарчай і сацыяльнай арганізацыі захоўвалі падобенства да дзяржаўных Падняпроўскіх і Падзвінскіх валасцей. Больш за тое, дакументы сведчаць, напрыклад, што Стрэшынская воласць пашыралася ў асноўным за кошт падараванняў вёсак са складу Гомельскай гаспадарскай воласці. Суседняя Горвальская воласць як дзяржаўнае ўладанне ўпаміналася ў грамаце вялікага князя Жыгімонта ад 2 кастрычніка 1511 г, да насельніцтва гаспадарскіх Падняпроўскіх і Задзвінскіх валасцей, у якой жыхарам гарантавалася права самім збіраць і здаваць у гаспадарскі скарб даніну[1227], што ўжо сведчыла аб наяўнасці ў іх абшчыннай

[1224]Тамсама.

[1225]Kurczewski, J. Kościół zamkowy czyli katedra Wileńska w jej dziejowym., liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju / J.Kurczewski.- Cz.III. Streszczenie aktów kapituły Wileńskiej.- S.40.

[1226]Ochmański, J. Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa Wileńskiego (1387-1550). Z studiów nad rozwojem wielkiej własności na Litwie i Białorusi w średniowieczu.- S.123.

[1227]БЭФ.- Т.І. - С.188.

арганізацыі. У 1536 г. вялікі князь Жыгімонт адправіў спецыяльныя лісты горвальскаму трымальніку і старцу Горвальскай воласці, у якіх загадваў, каб гаспадарскія сяляне не забаранялі сялянам Віленскага касцёла Святога Станіслава з пагранічнай Стрэшынскай воласці (якія раней напэўна таксама былі ў статусе гаспадарскіх падданых) і свабодна ўжываць сумесныя землі агульнага карыстання: «Жигимонт Божией милостью король польский, великий князь литовский, русский, прусский, жомойдский, мазовецкий и иных. Державцы Горвольскому князю Ивану Юревичу Дубровицкому а в небытности его самого враднику его Горвольскому хто будет тую волость нашу от него завидати и старцу той волости Горвольское жаловали нам каноники и вся капитула костела виленского Святого Станислава о том, што ж дей подданые нашы горвольские на имя Сергей з иншыми помочники своими выгиснули подданых их костельных волости Стрешинское моцно кгвалтом обец всякого права з острова их звечыстаго Шыховского на имя Костеневичы и не только дей тот остров звечыстый з моцы подданых их выняли, але поля и швы их пашнын и сеножати и бобровые гоны в них поотнимали и крывды и шкоды им поделали»[1228]. Вялікі князь загадаў, каб дзяржаўца «захо вал водле обычаю стародавнего..»[1229]

Сярод дакументаў, якія сведчаць аб існаванні грамады ў Стрэшынскай воласці яшчэ ў першай палове XVI ст., з'яўляецца ліст з капітула да насельніцтва датаваны, 1535 г, тэкст якога ўяўляецца важным прывесці. «От всих прелатов каноников каштулы виленское старцом и всим людям волости Стрешинское и иншых волостей капитульных. Тыми разы послали есмо брата нашого князя Андрея Набора каноника виленского выберати всих доходов нашых капитульных так грошовых платов, так теж и медовых даней и инших всих доходов которыи на нас приходят и вы бы его во всем были послушни так яко прослушит на брата нашого и тую моц есмо ему ж давали дали вас судити и радити и винами винных Карага а добрых имовати и на лавах садити и вы бы о том ведали..»[1230]

Гэта тыповы зварот адміністрацыі да сялянскай грамады, кіраўніком якой быў «старац». а членамі - «людзі» ці «мужы». Грамата паведамляла аб прысылцы нейкага князя Андрэя для атрымання даніны ад воласці, але такі зварот звычайна сведчыў, што насельнінтву давалася права самім збіраць і здаваць прызначаную даніну. Зусім верагодна, што ў капітуле Віленскага біскупства, якое здаўна мела і іншыя ўладанні ў Падняпроўі, добра ведалі мясцовыя звычаі і традыцыі і выкарыстоўвалі гэты вопыт у адносінах з насельніцтвам. Дакумент сведчыць не толькі аб тым, што ў Стрэшынскай воласці грамада існавала, але і пра тое, што феадальны ўласнік лічыўся з ёю, інфармаваў аб важных падзеях не толькі кіраўнікоў грамады - старцаў, але і яе паўнавартасных членаў - мужоў.

У царкоўных уладаннях усходу Беларусі, як і ў дзяржаўных, змены ў сацыяльным жыцці насельніцтва ў XVI ст. у многім вызначаліся характарам аграрнай рэформы, якая пачалася ў дзяржаўных уладаннях, але потым пачала праводзіцца і ў маёнтках прыватных і духоўных феадалаў. Прычым кіраўніцтва Віленскага біскупства вызначала шляхі рэфармавання з улікам як геаграфічнага размяшчэння маёнткаў, так і з традыцыямі іх гаспадарчага развіцця. У гэтым сэнсе

[1228] LMA BRS. F.43, bib.17236, p.1-1v.

[1229] Тамсама.- P. lv.

[1230] LMA BRS. F.43, bib.17235, p.1.

паказальным з’яўляецца становішча ў двух уладаннях Віленскага біскупства - у Сожыцы Віцебскага ваяводства і Стрэшыне Рэчыцкага павета.

Першыя мерапрыемствы па перамеру зямлі і аднастайнаму абкладанню сялянства павіннасцямі былі праведзены ў Стрэшынскай воласці, хутчэй за ўсё, пад уплывам рэформы 1560 г. у велікакняжацкай Гомельскай воласці. Інвентар уладання, складзены ў гэты час, сведчыць, што зямля там вызначана ў службах, памеры якіх, як можна меркаваць па велічыні павіннасцей, роўныя службе ў гаспадарскіх уладаннях, г. зн. каля адной валокі. Даніна і грашовая плата тут прызначаліся на ўсё сяло разам, хаця памеры іх залежалі ад колькасці служб у сяле. Ужо па адным гэтым факце, ведаючы, як то было ў XVI ст. у суседніх дзяржаўных сёлах і валасцях. можна выказаць меркаванне, што тут даніна і грашовая рэнта таксама збіраліся і здаваліся сялянамі разам. Не выклікае сумнення калектыўнае карыстанне насельніцтвам звярынымі, рыбнымі ловамі і бабровымі гонамі, аб чым сведчыць сумесная плата сяла за іх[1231]. Пра абшчынны характар землекарыстання сведчыць і запіс аб тым, што меліся выпадкі сумеснага карыстання зямлёй грамадамі некалькіх сёл (напрыклад, Малевічаў і Марморычаў)[1232].

Кіраўніцтва біскупства не толькі прымушала адрабляць павіннасці, але пры неабходнасці і абараняла інтарэсы насельніцтва сваіх уладанняў. Вось, напрыклад, як вырашылася ў 1561 г. справа аб тым, каб сяляне Стрэшынскай воласці не ўдзельнічалі ў работах па будаўніцтву Гомельскага замка: «Выпис с книг справ ревизорских Григория Воловича, маршалка г(оспо)д(а)рского старосты слонимского а. Миколая Нарушевича старосты г(оспо)д(а)рского державцы Марковского и Мядельского. Лета божого нароженя 1561 м(еся)ца августа 5 дня. Тых часов будучи мне Григорию Воловичу а мне Миколаю Нарушевичу в замку г(оспо)д(а)рском Гомельском и становечы платы и всякие пожитки скарбу г(оспо)д(а)рского, приносил до нас лист г(оспо)д(а)рский врадник замку Стрешинского прелатов костела головного светого Станислава у Вильни на йменя князь Павел Кгедройт о том што староста Гомейский пан Каленицкий Василевич Тишкевича а городничий Гомейский Михайло Семичов одержавши лист с канцелярей его м(ило)сти г(оспо)д(а)рское примушают люди подданых их капитульных волости Стрешинское села Скепнаку роботе до замку его м(ило)сти г(оспо)д(а)рского Гомейского которого тые люди робити не повинни бо дей той замок был не власный г(оспо)д(а)рский але княжат удельных ку Великому князству Литовскому прислухаючих. Нижли дей потом кгды тот замок Гомейский в моц и держане неприятельское пришол тогды и тое село капитульное при том же замку в руки неприятельские зашедши тот замок робыти мусило ...»[1233]

Дакумент пад назвай «Лінба Стрэшына і Камянца» за 1579 г. паведамляе, што ў сёлах Салоннае і Ворсічы Стрэшынскай воласці меліся старцы, на якіх было выдзелена па паўтары службы зямлі вольных ад павіннасцей[1234]. Аб тым, што старац з’яўляўся не толькі кіраўніком абшчыны, але адначасова і прадстаўніком ніжэйшага звяна адміністрацыі біскупства, сведчыць тое, што яны атрымлівалі зямлю, вольную ад павіннасцей. Іменна так прадугледжвала і Устава на валокі

[1231] Тамсама.- Р.6v.

[1232] Тамсама.- Р.5.

[1233] LMA BRS. F 43, bb. 17246, p. 1.

[1234] Тамсама.- Bib. 17212, p. 3-3v.

вольныя ад павіннасцей надзелы для войтаў у дзяржаўных уладаннях. Паводле «Лічбы Стрэшына і Камянца», ва ўсіх сёлах Стрэшынскай і Камянецкай валасцей збіралася агулам плата са «стаўпа» ці «за стаўпа» («z tego sioła zapłaczono stołpa kop 10 / 37», «za stołpa»)[1235]. Што такое «стоўп», дакумент не вызначае. Па аналогіі з сітуацыяй у Гарадзенскай эканоміі ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст., дзе «слупамі» называлі ўчасткі зямлі, якія размяркоўвала паміж абшчыннікамі грамада, можна выказаць меркаванне, што і ў Стрэшынскай, і ў Камянецкай валасцях сёлы агулам плацілі за грамадскую зямлю ці за раздадзеныя грамадой надзелы-стаўпы.

Інвентар Стрэшынскай воласці за 1628 г. таксама прыводзіць некалькі прыкладаў існавання тут сялянскай абшчыны. Напрыклад, пры апісанні павіннасцей стрэшынскіх мяшчан адзначана, што яны «стацыю супольна і зароўна з воласцю (збіраюць), порубы ўсялякія і пабор, калі будзе зацверджаны, то з дзесяці служб»[1236] Чынш і іншыя платы прызначаліся з асобных служб. Акрамя стацыі і розных складанак, паводле гэтага інвентару, разам сяляне плацілі толькі за землі і ўгоддзі агульнага карыстання. Так, у сяле Салоннае «за чатыры азярцы ... плацяць агулам 4 капы»[1237], у сяле Праскурнае разам плацілі адну капу за два азярцы («za dwa jeziorka tameczne... ogułem płaca wszyscy kop l»)[1238]. Плату агулам інвентар адзначаў практычна ва ўсіх вёсках воласці[1239], а сёлы Олба Вышэйшая і Олба Ніжэйшая плацілі разам за азёры Прыхабы, Олба, Дняпрышча, Плоцішна, Прораў і Глушэц («obiedzwie sioła płaca ogułem kop 20»)[1240]. На будаванне двара або замка, рамонт млыноў і грэбляў павінна была хадзіць уся воласць разам[1241]. Такая была сітуацыя ўцяглай часткі Стрэшынскай воласці.

У асадных сёлах падаткі звычайна прызначаліся разам на ўсіх. Так, у сяле Шыхаў было адзначана, што «плацяць усе з адной службы разам 16 коп» («Płacą wszyscy z iedney służby ogule kop 16»), а порубы, пабор і стацыю павінны аддаваць з паловы службы[1242]. Увогуле, сяляне многіх вёсак Стрэшынскай воласці грамадою збіралі чынш за зямлю размяркоўваючы яго паміж рознымі гаспадаркамі. Такая сістэма называлася «порубам», адлюстроўваючы парадак размеркавання – поруб, разруб (расклад) на асобныя гаспадаркі ўнутры сельскай абшчыны.

Да ўладання Стрэшын належала таксама сяло Ворсічы, якое знаходзілася на тэрыторыі Мазырскага павета. Арганізацыя грамадскага жыцця ў Ворсічах значна адрознівалася ад астатніх сёл Стрэшынскага ўладання, што заўсёды адзначалі і складальнікі інвентароў. Так, у ім зямля была перамерана на валокі, з іх $^1/_2$ вольная ад павіннасцей была выдзелена войту. Сельская грамада Ворсіч трымала ў арэндзе млын і карчму, з якіх плаціла ў капітульны скарб адпаведна 60 і 20 коп грошаў літоўскіх. У сялянскіх гаспадарках тут жылі і пастаронnія людзі - «каморнікі або чарнакунцы». У інвентары адзначалася, што кожны гаспадар павінен плаціць за

[1235] Тамсама.- Р.4v-8.

[1236] Тамсама.- Bib.17411, p.7.

[1237] Тамсама.- P.7v.

[1238] Тамсама.- P.8.

[1239] LMA BRS. F. 43, bb.17411, p.8-11.

[1240] Тамсама.- P.9v.

[1241] Тамсама.- Rl lv.

[1242] Тамсама.- P.10.

каморніка па 12 грошаў літоўскіх, кантроль за чым ускладваўся на мясцовага войта. Сярод агульных выплат указваліся наступныя: «Тое ўсё сяло, калі чынш будуць здаваць, павінна разам даць скуры чатырох лісаў цудоўных («powinni dać ogułem Lisów czterych cudnych»), а калі па чынш прыедзе ўраднік, то яму даць на страву коп чатыры»[1243].

Сумесная нерухомая ўласнасць была не толькі ў грамады сяла Ворсіны. Як паведамляў інвентар, сёлы Цярэнічы і Уваравічы разам будавалі млын і на гэты час былі вызвалены ад платы «жорнавага» падатку[1244]. Генеральная ўстава абавязвала сялян астатніх сёл Стрэшынскай воласці аддаць раз на год «з кожнай службы ліса цуднага альбо пенядзьмі за кожнага па коп дзве» і ўсяго з воласці 30 коп на ўтрыманне каплана 110 коп на школу пры касцёле ў Стрэшыне[1245]. З кожнага дыму воласці збіралася па прэнтаку жыта на ўтрыманне ўрадніка і падвойскага[1246].

Але ў нейкі час млын і карчму ў Ворсінах кіраўніцтва Віленскага біскупства аддало ў арэнду яўрэю Ёэлю. У лісце рэвізораў з Вільні кантара, прелата Бараша Вазынскага і каноніка Паўла Клячкоўскага ад 22 жніўня 1646 г. паведамлялася, што насельніцтва прасіла адабраць арэнду ў Ёэля і дазволіць самім сялянам арандаваць млын і карчму («... y prosiły nas abyśmy żyda od tey Arędy addaliwszy, onym samym tą arędę trzymać y z niey płat wszelaki pełnić pozwolili»)[1247]. Камісары вырашылі аддаць з 1647 г. арэнду Ворсіцкай грамадзе. Але былі выказаны юўныя ўмовы: арэнду павінны былі ўзяць на сябе тыя абшчыннікі, «мужы», якіх спецыяльна для гэтага выбера ўся воласць («... maiątę Arędę obiąc na siebie Mużowie ktorzysię na to obrali y których wszystka włość obrała»)[1248]. Гэтымі абранымі былі Ян Краковіч, ворсіцкі войт, а таксама Багдан Кракавец, Ласка Туровіч, Навум Паўловіч, Антон Пупковіч, Яўсей Ісайкавіч. Гэта, нагоўна, былі найбагацейшыя лгодзі вёскі, лідэры грамады. Рэвізоры спецыяльна запісалі, што арэнду мядовага шынка, гарэлачнага і тытунёвага аддзелаў, млын і мыта на рацэ Вышы яны здаюць у арэнду на тры гады менавіта гэтым людзям, «а не іншай чэрні і ўсёй воласці» («Którym to muzom samym tyłko mianowanym osobom a nie inszey czerni i wszystkiey włości arędowałiśmy w dobrach naszych Orszyckich szynk miodowy, piony gorzałczany y tabaczny, przy tym młyn na rzece Wyszy będaczy... do tego myto na tey że rzece Wyszy. A to wszystko arędowałiśmy po mienionym muzom na lat trzy...»)[1249] Мыта на рацэ Вышы павінны былі браць ад воза купецкага патры літоускіх грошы, ад кожнага каня, вала, каровы па аднаму грошу, ад барана, казла - па два пенязі, ад іншых рэчаў «паводле звычаю акалічных мыт»[1250]. Рэвізоры папярэдзілі, «каб названыя арандатары чэрні і ўсёй воласці Ворсіцкай да той арэнды не прымушалі і ніякіх складанак ад валасной грамады на тую арэнду не збіралі і самі неслі адказнасць за гэтую арэнду («aby... czerni y wszystkiey włości Orszyckiey do tey Arędy nieprzyrmaszali, ani żadnych składanek od

[1243] Тамсама.- P. 11.

[1244] Тамсама.- P. 11v.

[1245] Тамсама.- P. 11v-12.

[1246] Тамсама.- P. 13v-14.

[1247] LMA BRS. F. 43, bib. 17446, p. 1.

[1248] Тамсама.

[1249] Тамсама.- R1v.

[1250] Тамсама.

włości na tę Arędę nie wyciągali...»)[1251]. Напэўна, рэвізоры, аддаўшы гарэлачную. мядовую і тытунсвую арэнду, а таксама арэнду млына і рачнога мыта людзям выбраным ад грамады, пастараліся не дапусціць размывання адказнасці за гэтыя вельмі даходныя пазіцыі. Рэвізоры адкрыта заявілі, што такую адказную справу, звязаную з грашыма, нельга аддаваць беднякам («чэрні») ці ўсёй грамадзе (значыць, ня ведалі каму).

Каля 1630 г. у Стрэшынскай і ў Сожыцкай валасцях была праведзена валочная памера (інвентары абедзвюх памер напісаны адным почыркам)[1252]. Але калі ў Сожыцы пайшлі па шляху дакладнага вымярэння зямлі на валокі і размяшчэн-ня на іх індывідуальных сем’яў, то ў Стрэшыне захавалася абшчыннае землекарыстанне і праз некалькі гадоў зямля ізноў вызначалася не ў валоках, а у службах, якімі сяляне карысталіся сумесна, Паводле дакумента. які называўся (Памера грунтаў вёсак, якія належалі да Стрэшына», былі проста перамераны на валокі ўсе вядомыя ўчасткі ворыва па вёсках (з указаннем іх назваў) без новага перадзелу паміж гаспадарамі. Усяго ў воласці было намерана 340 валок 18 моргаў і 7 прутаў зямлі[1253]. Аб наяўнасці ў воласці старца ўскосна сведчыць запіс, згодна з якім ў сяле Папкі вымерана «на востраве Старцавым 1 валока і 1 морг»[1254].

Інвентар Стрэшына і воласці за 1635 г. ізноў пералічвае зямлю ў службах, а не валоках, па сёлах названы прозвішчы гаспадароў, якія на іх сядзяць. Вось, напрыклад, апісанне адной са служб сяла Праскурнічы «служба Тышкавіч: Назар Атрашковіч, Сцяпан Атрашковіч, Барыс Атрашковіч, Даніла Цішкавіч, Грышка Мамонавіч, Максім Супрановіч, Івашка Супрановіч, Панцюк Івашкавіч, Сямён Чабановіч»[1255]. Павіннасць таго сяла наступная: «З кожнай службы плацяць чыншу падваццаць дзве капы, а за азярцо ўсім сялом капу плаціць павінны»[1256]. За карыстанне азёрамі, дадатковымі землямі («урокамі») таксама плацілі разам усім сялом[1257]. Цікава, што валокі ў сяле Ворсічы названы ўжо «отчынамі», а плацяць з іх чыншне якраней «агулам усім сялом», а «з кожнай службы альбо валокі»[1258]. Было выказана пажаданне да насельніцтва воласці, каб не было шкоды скарбу, аддаваць ў будучым розныя паборы не са службы, а «з отчыны, рахуючы ў службе чатыры валокі, бо ёсць у службе отчын чатыры, а кожную отчыну трэба разумець як валоку»[1259]. Гэта вельмі паказальна, што ў Стрэшынскай воласці, як і ў іншых мсецах Беларусі, разам з эканамічным умацаваннем у першай палове XVII ст. адбываецца наступ землеўласнікаў на традыцыйныя правы грамады, у тым ліку адносна права сумесшга збору і выплаты чыншу. Дарэчы, кіраўнік грамады – старац згадваецца толькі ў сяле Ворсіны, ім быў Багдан Крук, хаця запісана, што вольных выдзелена по ўатчыны «на войта»[1260]. Магчыма, для складальніка інвентару не было

---

[1251] Тамсама.

[1252] Тамсама.- Bib. 16984, 17479.

[1253] Тамсама.- Bib. 17479, p. 12.

[1254] Тамсама.- Bib. 16984,17479, p .12v.

[1255] LMA BRS. K 43, bib . 17424 ,p . 2.

[1256] Тамсама.

[1257] Тамсама.- P. 2 ,4v, 5,7.

[1258] Тамсама.- P. 9-10 .

[1259] Тамсама.- R9 .

[1260] Тамсама.

розніцы ў назве гэтай пасады. На карысць гэтай думкі сведчыць і тое, што ў інвентары Стрэшына і валасці 1605 г. адзначана выдзяленне $^1/_2$ свабоднай ад павіннасці валокі ў сяле Ворсічы якраз старцу, а не войту («wytraciwszy na starca wolna $^1/_2$ służby»)[1261]. Да таго ж у Ворсічах на бабро выя гоны павінны былі таксама выходзіць усім сялом па распараджэнні старца[1262].

Адносна ўладання Сожыца за XVI - першую палову XVII ст. няма такога значнага масіву дакументаў, як па Стрэшыну, але ўсё ж сведчанні аб існаванні грамады і там аўтару ўдалося выявіць. Так, гэта наяўнасць кіраўніка грамады - старца. У дакументах аб праверцы рэвізорамі колькасці зямлі ў сяле Машанскім за 1613 г. адзначаюць, што ў старца зямлі было 122 бочкі, а ў Мікіты, сына былога старца, «набочак 106, апаведамляў, што на 63»[1263].

Матэрыялы «Памеры маёнтка Сожыца, праведзенай у 1630 г. акрамя Машчонага і Падбароддзя» таксама паведамляюць пра старца Протаса Яновіча, які меў свабодную ад павіннасцей валоку зямлі ў сяле Харпеніны, а таксама трымаў з братам яшчэ дзве валокі ў засценку[1264]. Чынш вылічваўся з валок, але збіраўся, хутчэй за ўсё, агулам. Аб гэтым сведчаць прыпіскі каля тэкстаў апісання ў памеры асобных сёл - «даюць», «плацяць». Такімі ж словамі гаворыцца пра плату з засценкаў. Па аналогіі з інвентарамі іншых уладанняў можна выказаць меркаванне, што чынш плаціла разам уся грамада сяла.

Важнай для вызначэння ролі абшчыны ў жыцці тагачаснай капітульнай вёскі з'яўляецца інфармацыя з ліста на адрас кіраўніцтва Віленскага біскупства ад 17 лістапада 1638 г. Каспара Заліўскага, віленскага архідзякана і познаньскага каноніка (гл. Дадатак 11). Напачатку К. Заліўскі паведаміў, што ва ўсёй Валчанскай воласці ўладання Сожыца завершана правядзенне памеры зямлі. Далей ён перайшоў на асабістыя крыўды да сялян Валчанскай воласці, якія, на яго думку, падавалі на яго кіраўніцтву біскупства несправядлівыя і паклёпніцкія скаргі. Калі ж ён хацеў ім прызначыць за гэта пакаранне (у дакуменце не ўказваецца якое, магчыма, пакаранне бізунамі. - В. Г.) на агульным сходзе грамады, то валасная абшчына гэтага зрабіць не дазволіла («a co gdy na ich chciał z informatiey ich mści na gromadzie karać, tedy ich włość zastąpiła»). Але К. Заліўскі не дараваў гэтага сялянам і налажыў за гэтае непадпарадкаванне штраф на ўсю воласць у памеры 100 коп грошаў літоўскІх і выдаў на імя ўсёй воласці спецыяльны ліст з тэкстам гэтага рашэння. Ліст гэты ён перадаў войту сяла Забор'е і яшчэ двум прадстаўнікам воласці: «Za-biegaiąc temu, aby się taka między niemi z swawola niemnozyła, na wszystkę też włość włożyłem sto kop winy, którą powinni będą do skarbu naszego, pręż ręki urzendnika oddać, w ten czas kiedy rozkazanie moie zaidzie. Na co dla lepszej pewności dałem wszystkiey Włości i co list moy przez ręce SimonaPiecho... wieża z Zaborzawoyta tegoż sioła y Jarmoły Otrochimowicza z Pianego Lasu y Dzimiana Wiereimiowicza z wołosti»[1265].

Гэты дакумент яскрава сведчыць пра існаванне валаснной абшчыны ва ўладанні Сожыца як сацыяльнага інстытута. Менавіта грамада заступілася за абшчыннікаў, якія, напэўна, ад яе імя насілі скаргі ў Вільню. Грамада як

---

[1261] LVIA. F.20, ap.1, bib.353, p. 13.

[1262] Тамсама.- P. 23v.

[1263] LMA BRS. F. 43, bib. 17424, p. 1.

[1264] Тамсама.- Bib. 16984, p. 3.

[1265] LVIA. R604, ap. 1, bib. 24, p. 1.

арганізацыя сельскага насельніцтва Валчанскай воласці і была пакарана царкоўным чыноўнікам. Ізноў спрацаваў прынцып «адзін за ўсіх, а ўсе за аднаго». Даставшчыкі скаргаў у Вільню маглі пацярпець за ўсю абшчыну, але ў выніку ўся грамада не дапусціла іх пакарання і прыняла штраф на ўсіх сваіх членаў. Несумненна, што суму ў 100 коп грошаў літоўскіх у грамадзе ўжо «дзялілі» на ўсіх самі абшчыннікі. Важным з'яўляецца і ўпамінанне пра сход грамады, як і яе рашэнне не падпарадкавацца і не даць у крыўду сваіх членаў.

Некаторую інфармацыю пра функцыі сельскай абшчыны дае «Устава ў адказ на суплікі сялян Стрэшынскай і Машчанскай валасцей, дадзеная 22 мая 1645 г. у Сожыцы»[1266]. Так, у ей адзначана, што, паводле даўняга пастанаўлення, сама воласць павінна даць са сваіх членаў ці наняць цівуна і сабраць на гэта 10 коп грошаў літоўскіх («Ciwuna maią według dawniego postanowienia, ze wszystkiej włości na kożdy rok do dworu dawać albo najmać. Do najęcia ciwuna maią dać kop dziesięć P. Staroście na rok»)[1267].

Адносна ўладання Брашэвічы амаль няма публікацый у гістарычнай літаратуры. Але выяўленыя намі ў розных архівасховішчах матэрыялы дазваляюць правесці гістарычную рэканструкцыю некаторых старон арганізацыі сацыяльна-эканамічнага жыцця ў вёсках гэтага ўладання. У XVI ст. гэтая воласць насіла назву Бародзіцкай з цэнтрам у Бародзічах. Пазней Бародзічы сталі шэраговай вёскай Брашэвіцкай воласці.

У нашым распараджэнні аказаліся некалькі інвентароў і рэестраў збору з чыншу Бародзіцкай і Брашэвіцкай валасцей, а таксама Устава Бародзінкай воласці, выдадзеная за подпісам віленскага біскупа Валяр'яна ў 1559 г. (гл. Дадатак 12).

Вядома, што маёнткі Віленскага каталіцкага біскупства звычайна кіраваліся праз спецыяльна прызначаную адміністрацыю, радзей здаваліся ў арэнду. У абодвух выпадках землеўласнік імкнуўся кантраляваць часовых трымальнікаў і адміністратараў, для чаго выдаваў для іх спецыяльныя інструкцыі, а для насельніцтва ўставы, у якіх агаворваліся многія аспекты гаспадарчага і сацыяльнага жыцця ва ўладанні. Менавіта такія дакументы дазваляюць прасачыць наяўнасць абшчыны, таму што апошняя выступала як бы прадстаўніком уласніка, кантралюючы выкананне яго распараджэнняў і падаючы скаргі ў выпадку парушэння павіннасных норм, зафіксаваных ва ўставах.

Аднавіць карціну наяўнасці грамады ва ўладанні Брашэвічы і ваколіцах дапамаглі звесткі разнастайнага характару. Ні інвентару з дэталёвым апісаннем функцыі абшчыны, ні судовай кнігі сельскай грамады адносна гэтага ўладання выявіць не ўдалося. Але пра наяўнасць тады грамады сведчаць іншыя, як прамыя, так і ўскосныя звесткі.

Адным з найбольш ранніх дакументаў адносна ўладання Брашэвічы з'яўляецца інвентар Бародзіцкай воласці, якая належала Віленскаму біскупу Валяр'яну за 1558 г., апублікаваны ў Актах Віленскай археаграфічнай камісіі[1268]. Інвентар пералічвае пяць сёл воласці: Бародзічы, Нехведскае, Брашэвіцкае, Сіманаўскае, Чарнееўскае. Прамых указанняў на існаванне грамады тут няма. Разам з тым звяртае на сябе ўвагу, што, як і ва ўладаннях Віленскага біскупства Стрэшын, Горваль і Убарць на ўсходзе Беларусі, дзе грамада дакладна існавала, галоўнай

[1266] LMA BRS. F. 43, bb. 17030.

[1267] LVIA. F. 604, ap. 1, b ib. 24, p. 1.

[1268] АНК.- Т. 25.- С. 1-7.

формай рэнты ў вёсках Бародзіцкай воласці была даніна. Дакладней, у аналізуемым інвентары была адзначана даніна, якая, верагодна, збіралася некалькі раней: за сыр, масла, даніну мядовую, крупы, курэй («за кокоше») і за паклоны. У 1558 г. за ўсе гэтыя даніны сяляне ўжо плацілі грашовую рэнту, усе даніны аказаліся пералічанымі на грошы. Хутчэй за ўсе, даніну і чынш з вёсак збіралі агулам, але прамога ўказання на гэта інвентар таксама не ўтрымлівае.

Але пра наяўнасць грамады ў Бародзіцкай воласці адназначна сведчыць выдадзеная ад імя біскупа Валяр'яна Устава, складзеная ў 1559 г., годам пазней за вышэйзгаданы інвентар[1269] (Дадатак 12). Падставай для яе складання стала скарга кіраўнікоўдзвюх абшчын Бародзіцкай воласці, валасной старца Адексы Андросавіча і грамады вёскі Мехведы (Нехведы) войта Пятра Быковіча, на злоўжыванні капітульныхураднікаў пры выбіранні чыншу. Такім чынам, ужо з першага радка згаданага дакумента мы можам даведацца, як называліся кіраўнікі валасной і сельскан абшчын у гэтым уладанні ў сярэдзіне XVI ст. Пра функцыяніраванне абшчыны сведчыць тое, што і плата і прадукты на ўтрыманне ўраднікаў, якія прыязжалі выбіраць чынш, збіраліся насельніцтвам разам: «со всее тое волости». Шкада, што дакумент не паказвае механізма ажыццяўлення гэтых складак, як то было на Стрэшыншчыне, дзе адбываўся «поруб», раздзел прызначага паміж індывідуальнымі гаспадарамі «на грамадзе».

Некаторую падказку таго, як гэта адбывалася ў разглядаемым маёнтку, дае рэестр выбірання чыншу з Бародзіцкай воласці за 1581 г.[1270]. Адметнасцю ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Беларусі з'яўляецца тое, што зямля ў вёсках воласці была паказана ў валоках, а самі валокі разабраныя (раздзеленыя) па жарэбях. Напрыклад: «Сяло Баровічы. Валок чатырнаццаць. Жарэбій Дзмітрыеўскі, валок палова чвартки..»[1271] Жарэбя было характэрнай з'явай як форма землекарыстання якраз для гэтага рэгіёна і ўяўляла сабой землекарыстанне адной вялікай складанай сям'і з прыёмнымі людзьмі і патужнікамі ў складзе суседскай абшчыны - сяла. Жарэбі ўяўлялі сабой сямейныя абшчыны, захаваныя ў гэтым рэгіёне (на суседняй Піншчыне яны насілі назву «дворышча»), і, як правіла, мелі патранімічныя назвы: «Дзмітрыеўскі», «Яхімаўскі» і да т. п. Згаданы рэестр ва ўсіх жарэбях называе прозвішча гаспадара і адзначае, што ён мае патужнікаў. Такім чынам, у Бародзіцкай воласці назіраецца класічны прыклад існавання трохступеннай абшчыны. якая захавалася на дакладна вы-значанай, замкнутай тэрыторыі: сямейнай (жарэбя), суседскай (сяло) і тэрытарыяльнай (воласць).

На жаль, значна менш удалося выявіць матэрыялаў, якія сведчылі б пра функцыяніраванне абшчыны ў Бародзіцкай воласці ў першай палове XVII ст. Інвентар збору чыншу з Бародзіцкай воласці за 1643 г, сведчыць пра іх падымны збор, адзінай магчымай прыметан абшчыны з'яўляеща наяўнасць войта ў вёсцы Брашэвічы[1272].

Заўважна, што, як і ў дзяржаўных і прыватных уладаннях, у маёнтках Віленскага біскупства больш прыкметнай была роля грамады ў чыншавых вёсках. Там, дзе пераважала паншчына, абшчына вельмі хутка ператваралася ў асноўным у

[1269] LMA BRS. F. 43, bb. 6137, p. 1.

[1270] LMA BRS. F. 43, bb. 6139.

[1271] Тамсама.- P. 2.

[1272] Тамсама.- Bib. 6153.

выканаўчы орган феадальнай адміністрацыі, а не сялянскага самакіравання.

Былі і іншыя сведчанні існавання сялянскай абшчыны ва ўладаннях Віленскага біскупства. Так, сярод агульнапрынятых павіннасцей, якія выконваліся разам сялянамі цэлай воласці, як у дзяржаўных і прыватнаўласніцкіх сялян, у царкоўных - існавала падводная павіннасць. Напрыклад, інвентар Стрэшына і воласці 1605 г. паведамляў, што «валашчане паспол з мяшчанамі павінны падводы даваць»[1273]. Другой важнай прыметай наяўнасці абшчыны было агульнае землекарыстанне. Так, пры зборы чыншу ў 1640 г. у Падбародскай воласці маентка Сожыца было адзначана, што сяло Харпенічы «адну валоку ўсё трымае разам для выгану»[1274]. У першай палове XVII ст. факты агульнага землекарыстання знаходзім у сёлах Камянецкай воласці Бягун («за востраў агулам усё сяло плаціць») і Тхорьш («тыя дзве валокі цэлае сяло бярэ»)[1275].

Сярод абавязкаў старцаў як кіраўнікоў абшчыны быў збор падаткаў у сваім сяле ці воласці. Аб гэтым сведчыць ліст вялікага князя Жыгімонта Аўгуста «до князя Валериана, бискупа виленского об сборе побору на оборону земскую от сойму 1568 г.»[1276] У ім, у прыватнасці, гаварылася: «А пры отданью тых податков мает прысега быть чынена через врядников, слуг, тиунов и старцов, хто тые поборы выбирати будет»[1277]. Валасны старац у сёлах, якія належалі Віленскаму каталіцкаму біскупству, у некаторых выпадках узначальваў вясковы і нават валасны суд. Да такога вываду прыводзіць запіс сярод спраў Віленскай капітулы ад 5 лютага 1552 г. аб разглядзе скарг са Стрэшына на адміністратара ўладання. Капітулам было прынята рашэнне аб тым, каб «адміністратар капітульных маёнткаў сам падданых не караў і не разбіраў сам спрэчных спраў паміж падданымі, але прыцягваў да гэтай справы таго старшага з воласці, які называецца «старац», і некалькі старэйшых валашчан («ale wzywał do tego starszego z włości, zwanego «Starzec» i kilku starszych włościan»), з імі праводзіў разгляд справы і выносіў рашэнне паводле меркавання суда. Спагнанне, якое называлася «перасуд», што звычайна плаціць асуджаны, каб сам адміністратар не выносіў, а высылаў справу ў капітулу, а ўжо яна паводле свайго меркавання прыме рашэнне пра пакаранне»[1278]. Старац, як паказваюць крыніцы, быў у гэты час і прадстаўніком грамады і проста афіцыйнай асобай у вёсцы, да якой звярталіся і прадстаўнікі ўлады, і шляхта, і сяляне. Хата, у якой жыў старац ці войт, была своеасаблівым «грамадскім цэнтрам» вёскі. Так, у хатах старцаў пакідаліся розныя распараджэнні ўладаў, праходзілі сходы. У старца захоўваліся грамадскія паперы, рэчы, якія не павінны былі прапасці. Так, у судовай пастанове ад 18 снежня 1551 г. віленскага ваяводы Мікалая Янавіча Радзівіла па справе забойства сялянамі сяла Дуброва Убарцкай воласці служэбніка Федара было зафіксавана, што адабраныя рэчы захоўваліся ў хаце мясцовага старца («...тые речы забранные тепер под печатью дей того дворанина у старца тамошнего в целости суть»)[1279].

---

[1273] LVIA. F.20, ap. I, bib.353, p.25.

[1274] LMA BRS. F.43, bib.17018, p.lv.

[1275] LVIA. F.694, ap. 1, ЫЬ. 13, p. 63-64v.

[1276] LM-9.- C. 108-112.

[1277] Тамсама.- C. 110.

[1278] Kurczewski, J. Kościół zamkowy czyli katedra Wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju / J. Kurczewski.- Cz.III. Streszczenie aktów kapituły Wileńskiej.- Wilno: Drukiem Józefa Zawadzkiego, MCMXVI.- S.40.

[1279] Хроніка Убарцкага Палесся. Складальнік А. І. Атнагулаў.- Мінск: Тэхналогія, 2001. - С40.

Сярод спраў Віленскай капітулы ў святле разглядаемай праблемы выклікае цікавасць і запіс ад 14 ліпеня 1554 г., дзе адзначана, што некаторыя стрэшынскія падданыя збіраюцца ўцякаць з уладання. Капітул загадаў заключаць такіх у вязніцу і выпускаць толькі пад паруку («Poddani strzeszyńcy chcą uciekać; zalecono osadzać ich w więzieniu, a potem brać na poręką»)[1280]. На наш погляд, у такім выпадку на парукі селяніна магла ўзяць толькі грамада, тым больш што падобныя выпадкі былі, калі грамада брала на парукі нават асуджанага на капе да смяротнага пакарання.

Такім чынам, у царкоўных уладаннях на тэрыторыі Беларусі ў XVI - першай палове XVII ст., як і ў маёнтках дзяржавы і прыватных феадалаў, існавала абшчына як інстытут сялянскай самаарганізацыі. У разглядаемы час яна фіксавалася як воласць (абшчына некалькіх сёл), так і сяло (абшчына аднаго сяла). Кіраўнікамі і прадстаўнікамі абшчыны ў царкоўных уладаннях Беларусі ў XVI - першай палове XVII ст., як правіла, былі старцы. Сяляне многіх сёл Віленскага біскупства грамадою збіралі чынш за зямлю, размяркоўваючы яго паміж рознымі гаспадаркамі. Больш прыкметнай была роля грамады ў чыншавых вёсках. Там. дзе пераважала паншчына. грамада спалучала ў сабе функцыі і самаарганізацыі сялянства, і выканаўчага органа феадальнай адміністрацыі.

Паказальныя для гэтага часу факты сумеснага адстойвання грамадой сваіх правоў і інтарэсаў, пра якія найбольш ярка сведчаць дакументы з Камянецкай воласці і ўладання Сожыца XVI - першай паловы XVII ст.

## 5.2. Абшчына ў царкоўных уладаннях Беларусі ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст.

Царкоўныя ўладанні, як і дзяржаўныя, вельмі пацярпелі ў ходзе войнаў другой паловы XVII - першай паловы XVIII ст.[1281] Аднаўленчы працэс у іх ішоў тымі ж шляхамі, што і ў дзяржаўных і прыватных уладаннях, і адрозніваўся толькі рэгіянальнай спецыфікай. Па-рознаму праходзіла тэксама аднаўленне гаспадаркі ў вялікіх уладаннях біскупстваў, калегій, манастыроў, з аднаго боку, і ў дробных царкоўна-прыходскіх уладаннях - з другога. Роля і ўплыў сельскай абшчыны ў жыцці сялянства адрозніваліся ў залежнасці ад велічыні маёнтка. Пра дзей-насць сельскай абшчыны ў маленькіх вёсачках дакументаў не складалася, таму і не захавалася ніякіх сведчанняў аб яе існаванні там.

Раней адзначалася, што ў другой палове XVII - першай палове XVIII ст. узрасла роля абшчыны найперш у жыцці сялянства дзяржаўных уладанняў і буйных прыватных латыфундый. У гады гаспадарчага аднаўлення дзейнасць грамады стала больш актыўнай і ў царкоўных уладаннях, што паспрабуем паказаць у асноўным на прыкладзе асобных маёнткаў Віленскага каталіцкага біскупства.

Найбольш прыкметна было тое, што на ўсходзе Беларусі, дзе аднаўленне гаспадаркі ішло ў асноўным праз павышэнне ўдзельнай вагі грашовай рэнты ў структуры сялянскіх павіннасцей, царкоўныя землеўласнікі працягвалі шырока

[1280] Kurczewski. J. Kościół zamkowy czyli katedra Wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju / J. Kurczewski. - Cz.III. - S. 43.

[1281] Похилевич, Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI-XVIII вв / Д. Л. Похилевич. - Львов: Изд-во Львовского ун-та, 1957. - С. 116; Мелешко, В. Н. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII-XVIII в.) / В. Н. Мелешко. - Минск: Наука и техника, 1975. - С. 19.

выкарыстоўваць абшчынныя традыцыі ў сялянскім землеўладанні. Так, у другой палове XVII - першай палове XVIII ст. чынш у маёнтках Горваль і Стрэшын пачаў накладвацца не на асобныя сем'і і гаспадаркі, а на сялянскія абшчыны[1282]. У выніку ў царкоўных уладаннях усходу Беларусі ў гэты час 70% сялянскіх гаспадарак мелі чыншавыя надзелы, а надзелы з чыншавай доляй складалі 77,7%[1283].

Са зместу інвентару 1702 г. маёнтка Віленскай капітулы Стрэшын вынікае, што ва ўладанні адбыліся значныя змены. Так, у параўнанні з папярэднімі інвентарамі заўважна, што зменшылася колькасць людзей у вёсках. Прычым былыя селы ўжо называюцца тэрмінамі «весь», «вёска». У інвентары ўказваюцца і прозвішчы гаспадароў у вёсках, мы ж для пацвярджэння выказанага раней меркавання адзначым толькі іх колькасць: Зломнае - 3 чалавекі, Праскурнае - 9, Папкі - 7, Салонае - 14, Ніўкі - 4, Слабодка Карпілаўка - 8, Яшчыцы, ці Марморы, - 9, Олба Вышэйшая Слабада - 8, Олба Ніжэйшая - 7, Ворсіны - 30; у вёсках Задняпроўскіх: Елянец - 7, Скепна - 13, Пірэсвічы - 6, Губіны - 11. Уваравічы - 17, Марозавічы - 8, Цярэнічы - 7, Целяшы - 12 чал., Гусевіцы - 3 чалавекі[1284].

Часы ваенных разбурэнняў і гаспадарчага аднаўлення былі і часамі ўмацавання сялянскай абшчыны. Галоўным у гэтым працэсе з'яўлялася тое, што землеўласніку было выгадна ўскласці на грамаду абавязкі, звязаныя не толькі з апрацоўкай зямлі, але і выплатай падаткаў і адбываннем павіннасцей. Паводле інвентару, мяшчане і жыхары вёсак усе разам здавалі прызначаны на іх чынш[1285]. Іменна таму ва ўсіх вёсках, пералічаных у вышэйназваным інвентары 1702 г., адзначана, што яны плацяць чынш агулам. Практычна ў апісанні кожнай вёскі разам з пазначанай сумай чыншу ёсць прыпіска аб тым. што ён выплачваецца разам («ci płacą ogułem czynszu», «ci wszyscy płacą ogułem czynszu», «ta wieś ogułem l płacą czynszu»)[1286]

Асноўныя прынцыпы сацыяльна-эканамічнай палітыкі кіраўніцтва Віленскага біскупства, як і адносіны землеўласніка да насельніцтва, да грамады як інстытута сялянскай самаарганізацыі, былі выкладзены ў дадатках (уставах) да інвентароў маёнткаў разам з пералікам сялянскіх павіннасцей і распараджэннямі на адрас адміністрацыі і святароў. Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў пераліку павіннасцей насельніцтва Стрэшынскай воласці перш за ўсё ўказана не паншчына або чынш, як гэта звычайна рабілася ў інвентарах прыватных ці дзяржаўных уладанняў, а абавязковае наведванне сялянамі-католікамі касцёла, а уніятамі - царквы («Katolicy w Kościele a Ruś w Cerkwi»)[1287].

Напэўна, у кіраўніцтва Віленскага біскупства былі праблемы як з узроўнем рэлігійнай адукаванасці простых жыхароў сваіх уладанняў, так і з традыцыйным ладам жыцця насельніцтва, якія не заўсёды адпавядаў царкоўным правілам і канонам. З тэкстаў устаў біскупскіх маёнткаў усходняй Беларусі можна ўбачыць. што сяляне часта папросту не хадзілі ў царкву ці касцёл і іх прымушалі рабіць гэта,

[1282] LMA BRS. R43, bib. 17408, 17486.

[1283] Голубеў, В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI-XVIII стст. / В. Ф. Голубеў. - Мінск: Навука і тэхніка, 1992. - С. 160.

[1284] LMA BRS. F. 43, bib. 17484, p. 1-8.

[1285] Тамсама.

[1286] Тамсама.- P. 2v-6v.

[1287] Тамсама.- P. 7v.

запісваючы як першачарговую павіннасць. Так, Устава павіннасцей мяшчан і сялян Стрэшынскай воласці з інвентару 1702 г. адзначала. што той, хто адва жыцца працаваць у святы дзень, павінен будзе заплаціць шэсць грошаў штрафу («віны»)[1288]. У нядзелю і на святы ў царкву павінен быў прыйсці хаця б адзін чалавек з хаты. Кожны селянін абавязаны быў хадзіць да вяліканочнай споведзі. За кантролем выканання гэтага прадпісання ў вёсках выбіраліся дзесятнікі, Той з сялян, хто не хадзіў на веліканочную споведзь, павінен быў заплаціць шэсць грошаў лігоўскіх. Такому ж пакаранню падлягалі сяляне з вёсак, блізкіх да Стрэшына, «тыя. хто ў святочныя дні блізка каля царквы жывучы, службы Божай не слухалі»[1289]. Сяляне, якія жылі далёка ад царквы ці касцёла, павінны былі прыходзіць у храм кожны трэці тыдзень і ў дні царкоўных святаў.

Селянін, які не выконваў прадпісанняў названай уставы, павінен быў першы раз заплаціць у царкоўную скарбонку «віны» адну капу грошаў лігоўскіх, у другі раз - удвая, за трэцім разам траякая віна і да куніцы пасадзіць на тры дні»[1290], Напрыканцы складальнік інвентару адзначыў, што. калі ў каго-небудзь з мясцовага насельніцтва ў хаце пражывалі асобы, якія не хадзілі на споведзь, штраф за іх павінен быў заплаціць гаспадар хаты. Рамонт царквы і касцёла ў Стрэшыне ўскладваўся на «мяшчан разам з воласцю»[1291].

Такім чынам, прыведзеныя факты сведчаць, што ўлады Віленскага біскупства імкнуліся рэгуляваць не толькі гаспадарчае жыццё насельніцтва у сваіх уладаннях, але і ўплываць на яго духоўнае выхаванне, замацоўваць у свядомасці і паводзінах людзей хрысціянскія нормы.

У інвентары маёнтка Стрэшын за 1714 г. пры апісанні кожнага сяла таксама адзначалася значнае змяншэнне колькасці людзей і служб, з якіх плацілі чынш. Напрыклад: «Сяло Праскурнае, 5 гаспадароў. Раней тое сяло плаціла з 6 служб, зараз з адной»[1292]. Сяляне ўсіх указаных у дакуменце сел плацілі чынш, які прызначаўся разам на усе сяло[1293], што з'яўляецца важным паказчыкам дзеннасці тут грамады. Ва ўставе, змешчанай у канцы гэтага інвентару. камісары адзначылі шматлікія парушэнні з боку арандатараў уладання. У дакуменце нават ёсць указанне сялянам не выконваць распараджэнні арандатараў аб прызначэнні паншчыны ці іншых не прадугледжаных у інвентарах павіннасцей і адразу падаваць скаргу на адрас капітулы[1294]. Сялянам дазвалялася таксама не плаціць новыя падаткі, уведзеныя трымальнікамі: «Зараз разам з чыншам без згоды капітулы дзяржаўцы прызначылі нейкія бязмяны, іх плаціць падданыя не павінны, таму што яны супярэчаць старым звычаям і ўведзены без дазволу капітулы»[1295].

Адной з прычын таго, што некаторыя сяляне выйшлі з воласці, рэвізоры адзначалі ўнутраную сітуацыю ў грамадзе, калі лідэры грамады, багацейшыя сяляне, дабіваліся раўнамернага размеркавання падаткаў і плацяжоў паміж усімі

[1288] LMA BRS. F. 43, bib. 17484, p. 7v.

[1289] Тамсама - P. 8.

[1290] Тамсама.

[1291] Тамсама.- P. 7v.

[1292] Тамсама.- Bib. 17486, p. 3.

[1293] Тамсама.- P. 2-5 .

[1294] Тамсама.- R6v.

[1295] Тамсама.- P. 7 .

членамі абшчыны, незалежна ад іх маёмаснага стану. Гэта прыводзіла да сапраўднага разарэння беднякоў: «Багацейшыя людзі прымушалі ўбогіх да розных разам з імі падаткаў і плат як быццам ва ўсіх была роўная колькасць зямлі, з-за чаго бяднейшыя людзі пагінулі, а толькі багатыя людзі па вёсках засталіся, але і тыя зраўняліся з убогімі, бо плацяць не толькі за сябе, але і за ўбогіх людзей, якіх самі паразганялі»[1296]. Камісары адзначылі, што для таго, каб надалей пазбегнуць «такой несправядлівасці і непарадку», яны ад імя капітулы пастанавілі, «каб з гэтага часу багацейшыя ўсялякіх падаткаў выплачвалі больш, чым убогія, і павінны паміж сабой размяркоўваць і выплачваць улічваючы не толькі колькасць зямлі ў гаспадарцы, але і борці з пчоламі... колькі рабочых валоў, жывёлы, коней і нават колькасць людзей...»[1297]

Камісары запісалі, што часта ўраднікі або войты, збіраючы падаткі, аддаюць у біскупства не ўсе сабраныя грошы, а частку паміж сабой дзеляць. «забываючы, што гэта слёзы і кроў людскія»[1298]. Таму было прынята і запісана рашэнне аб тым, каб з моманту складання уставы больш ні ўраднікі, ні войты не прыцягваліся да збірання і аддавання «порубу», а каб «самі падданыя і мяшчане з воласцю і старцамі тым займаліся і ў рукі ўрадніка грошы не аддавалі, аднак ураднік павінен быў пра іх ведаць, каб старац з войтамі у сваю чаргу, не кралі і убогіх людзей не крыўдзілі»[1299]. Дарэчы, як сведчаць шшыя матэрыялы Стрэшынскай воласці за XVIII ст.. порубы збіраліся менавіта такім чынам і менавіта ў такім складзе, праўда ў прысутнасці войтаў.

Устава забараняла праводзіць сходы грамады без ведама двара. Судовыя рашэнні грамады таксама павінны былі зацвярджацца панскім дваром («Gromady żadne nicpowinne być, chyba za wiadimością Dworu, a tym bardziey sądy przez Gromady uczynione aby były potwierdzone ode Dworu»)[1300].

На тых жа сходах грамады, якія адбываліся з дазволу ці па ініцыятыве ўласніка ці адміністрацыі ўладання, маглі разглядацца самыя розныя пытанні. Так, Віленскі канонік Крыштаф Белазор, які, напэўна, выязджаў у Стрэшынскую воласць у якасці камісара, аформіў у Стрэшыне 31 студзеня 1736 г. запіс аб тым, штоб абодва арандары воласці шынкавалі кожны асобна. Зроблена гэта было па просьбе сялян, выказанай на сходзе грамады, каб забяспечыць сабе выбар, бо гарэлка дрэнная і разбаўленая была ў абодвух арандатараў: «Na Gromadzie Streszyńskiey włość suplikowała ażeby obadway Arendaże Strzeszyncy osobliwe szynkowali, dla tego bo Garzałka zła j iednakowa z wodą u obodwuch. Co uważaiąc przeszły Komiszarz miał w Inwentarz wpisać, ażeby osobliwie obadwa Arendaże Szynkowali, za czym ja uważaiąc ugodę włości, ordynacią zostawuię żeby obodwa szynkowali y równo Arendę podług kontraktu wypłacaliDworowi..»[1301]

Камісары ў інвентары Стрэшынскай воласці 1714 г. вызначылі парадак замены адміністрацыйных асоб абшчыны: «Замена старца, войтаў, падвойскіх і бірчых павінна адбывацца на сходзе грамады. Трэба як здымаць з пасад, так і абіраць

[1296] LMA BRS. R43, bib. 17486, p. 7-7v.

[1297] Тамсама.- P. 7v.

[1298] Тамсама.

[1299] Тамсама.

[1300] Тамсама.

[1301] Тамсама.- Bib. 17520, p. 1.

на іх ўся воласць такіх, якія былі б богабаязнымі, справядлівымі...»[1302]

Як відаць з тэксту дакумента, абшчына ў 1714 г. у Стрэшынскай воласці ў выпадку неабходнасці разглядала розныя парушэнні сваіх членаў, ажыццяўляла суд грамады. Складальнікі інвентару некалькі абмежавалі судовыя паўнамоцтвы грамады. Так, ва ўставе было запісана. што ў выпадку ўзнікнення нейкага крымінальнага здарэння ні двор, ні грамада не павінны былі самі праводзіць судовае расследаванне («jako Dwór przez się, tak tym bardziey Gromada niemogą skutecznie sądzić y exequować sami przez się»)[1303]. Адзначалася, што ў такім выпадку трэба запрасіць каго-небудзь з суседняй шляхты, хто разбіраецца ў заканадаўстве, і судзіць вінаватага «паводле статута і святой справядлівасці», а не адсылаць да капітулы з-за вялікай адлегласці.

Асноўнымі паказчыкамі абшчыннай арганізацыі ў Стрэшынскай воласці паводле інвентару 1727 г. з'яўляліся дзейнасць валаснога старца, які жыў у вёсцы Зломнае[1304] і наяўнасць у вёсках воласці двух відаў зямельных участкаў-служб; чыншавых і «порубных». З першых збіраўся загадзя ўстаноўлены чынш. Порубнымі службамі мог карыстацца любы член сельскай абшчыны, пры гэтым ён быў абавязаны плаціць грошы з прынятай на бягучы год часткі - поруба. Карыстанне порз'бнымі службамі нечым напамінае абшчыннае карыстанне «пусты-мі» валокамі, характэрнае для насельніцтва Кобрынскай эканоміі ў першай палове XVIII ст., аб чым указвалася ў раздзеле 3 главы 3. Складальнік інвентару адзначаў, што бяднейшыя («убогія») людзі ўладання просяць аб раздачы ворыўнай зямлі роўнымі часткамі і аб дазволе размеркаваць паміж сабой прыёмныя землі і пусткі «колькі хто можа прыняць»[1305]. Напэўна, які ў іншых месцах, пры роўным падзеле агульнай сумы чыншу на ўсіх гаспадароў-абшчыннікаў у пройгрышы заставаліся бяднейшыя, таму яны і звярнуліся з такой прапановай.

Яшчэ больш удакладнялася сістэма раскладкі падаткаў, ці порубаў, у выяўленым аўтарам дакументе, які называецца «Верыфікацыя розных падаткаў ва ўладанні Стрэшын, або порубаў у 1731 г.» У ім, у прыватнасці, адзначалася: « Усе пору-бы раскладваюцца на служб 12. Па ўсёй Стрэшынскай воласці расклад тых служб наступны: Елянец - служб 2, 400 злотых; Салоннае, Папкі, Ніўкі - служб 2, 340 злотых; Олба Вышэйшая і Олба Ніжэйшая - служб 2, 150 злотых; Яшчыцы, Зломнае і Горкі - 1 служба, 170 злотых; Праскурнае - 70 злотых; за Дняпром Пірэевічы - 1 служба, 100 злотых; Скепна - 1 служба, 170 злотых; Губічы - 1 служба, 150 злотых; Марозавічы - 50 злотых; Гусевіца Старая - 50 злотых; Гусевіца Новая - 1 служба, 50 злотых; Цярэнічы - 50 злотых; Уваравічы - 1 служба, 120 злотых; Чудзіна - 80 злотых; Целяшы - 1 служба, 200 злотых. Усяго служб 12, 2050 злотых»[1306] Падымнае, як адзначана ў тэксце гэтага ж дакумента, збіралася з 65 дымоў[1307]. Такім чынам, згаданая «Верыфікацыя» стала яшчэ адным пацвярджэннем таго, што чынш на насельніцтва ў Стрэшынскай воласці прызначаўся агульнай лічбай, а грамады самі раскладвалі яго паміж асобнымі гаспадаркамі. Такія порубы праводзіліся штогадова, а то і некалькі разоў на год.

---

[1302] LMA BRS. F. 43, bib. 17486, p. lv.
[1303] Тамсама.- P. 8.

[1304] Тамсама.- Bib. 17490, p. 6v.

[1305] Тамсама.- P. 24.

[1306] Тамсама.- bib. 17510, p. L

[1307] Тамсама.

Адміністрацыя павінна была захоўваць матэрыялы аб іх правядзенні. Так, у адным з рэвізорскіх дакументаў пад датай 10 мая 1739 г. было запісана, што стрэшынскі дзяржаўца павінен «паказаць порубы, якія былі» («Poruby które były pokazać»)[1308].

Важная інфармацыя аб размеркаванні поруба ў абшчыне змешчана ў «Порубным рэестры Стрэшынскай воласці, складзеным камісіяй, якая працавала ў 1747-1751 гг.»[1309] Перад камісарамі стаяла задача разгаедзець порубныя рэестры («regestra porubowe»), якія адбыліся ў воласці ў час, калі старцам воласці быў Лаўрын Калейнік. Першы поруб, які адбыўся 27 лютага 1748 г.. уключаў у сабе падымнае, складанкі на гонт, на звон, за падводы, грошы на аплату рамеснікам і іні.[1310] У дакуменце было не толькі адзначана, на якія мэты ішоў гэты поруб, але і названа дакладная сума поруба для кожнай вёскі воласці.

Другі поруб пры старцы Лаўрыне Калейніку адбыўся ў тым жа 1748 г. У дакуменце было адзначана, што праводзіўся ён «пры вонтах, мяшчанах і мужах»[1311], значыць, пры актыўным удзеле ўсёй абшчыны. Мэты гэтага поруба: падымнае, квітовае, пасельшчына, «за кафлю на 2 печы пану», за дуб для парома, аплата працы «гаспадыні» пры двары гадавога жалавання старцу («starcowi rocznego Jurgeltu 50 zł»)[1312]. Тут прыцягвае ўвагу запіс аб тым, што воласць збірала грошы на аплату працы старца і што гэтая плата была даволі высокай - 50 злотых на год. Акрамя таго, цікавы самвыніковы баланс гэтага поруба: усяго было сабрана 1373 злотых, патрачана 1334 і засталося 39 злотых[1313]. Гэты запіс дазваляе выказаць меркаванне, што валасная абшчына мела сваю «касу», якая знаходзілася ў старца. Сяляне і мяшчане збіралі разам са сваімі вясковымі войтамі грошы, якія потым размяркоўваліся па патрэбе. Становяцца зразумелымі запісы ў інвентарах аб тым, якім чынам несумленныя войты і старцы забіралі частку грошай сабе асабіста. Яны проста прысвойвалі поўную колькасць сабраных грошай, якія павінны былі захоўваць. Пацвярджэннем таму, што абшчынныя грошы былі ў кіраўніка абшчыны, служаць запісы аб тым, што адміністратар уладання браў у старца грошы на нейкія пільныя патрэбы, якія потым уключаліся ў поруб. Так, запіс за 1750 г. адзначаў, што «я. м. дабрадзей узяў у старца 12 злотых на вароты для цесляра, гэтыя пенязі трэба ўключыць у поруб»[1314].

Трэцім у дакуменце быў змешчаны «расклад поруба ад 23 лютага 1749 г.. калі старцам Стрэшынскай воласці быў Лаўрын Калейнік, пры зграмаджэнні мяшчан, войтаў і мужоў пісаны»[1315]. На гэты раз было сабрана 885 злотых, а патрачана 884 злотых. На старца было выдзелена 50 злотых штогадовай аплаты.

Усяго ўвесь «парубны рэестр» утрымліваў дакладны расклад поруба ў у Стрэшынскай воласці да 1750 г. уключна, адзначаючы ў некаторых выпадках не толькі колькасць сабраных з вёсак грошай, але і рознага збожжа[1316]. Гэты дакумент

[1308] LMA BRS. F. 43, bib. 17532, p. 1.

[1309] Тамсама.- bib. 17511, p. 1-13.

[1310] Тамсама.- bib. 17577, p. 1v.

[1311] Тамсама.- P. 2v.

[1312] Тамсама.- P. 3.

[1313] Тамсама.

[1314] Тамсама.- P. 13v.

[1315] Тамсама.- P. 3v.

[1316] LMA BRS. F. *43*, bib. 17577, p. 14.

паказвае, што валасная грамада фінансавала практычна ўсе затраты, якія адбываліся ў воласці, у тым ліку аплачвала харчаванне рамеснікаў, якія будавалі царкву, пералічвала грошы на выданне павятовых ухвал і інш.

Такім чынам, на падставе аналізу згаданых дакументаў аўтару ўдалося больш поўна раскрыць сутнасць паняцця «поруб» у адносінах да XVIII ст., паказаць механізм правядзення порубаў у сельскіх абшчынах, вызначыць, якія платы маглі прызначацца на сялянскую грамаду ў якасці поруба, і інш.[1317]

Ужо адзначалася, што ў маёнтку Стрэшын былі выпадкі, калі святары ці трымальнікі ўладання прымушалі сялян адбываць павіннасці ці аддаваць падаткаў больш за тое, што было абумоўлена інвентарамі або традыцыяй. Сяляне ў такіх выпадках нярэдка адстойвалі сваю правату грамадой. Так, пад датай 16 чэрвеня 1739 г. зафіксавана данясенне ў Віленскае біскупства ад камісараў Стрэшынскай воласці аб тым, што прадстаўнікі вёсак Уваравічы, Уздзелін, Старыя Стасевічы, Старыя Гусевічы, Гусевічы Слабада і Марозавічы, якія належалі да Уваравіцкай парафіі, паведамілі ім аб тым, «што Уваравіцкі прасвітар ссыпку, якая яму належыць, загадаў збіраць з кожнай хаты»[1318]. Сяляне палічылі гэта несправядлівым і пастанавілі: «Каб не з кожнай хаты, але войты ў сваіх вёсках пэўную колькасць мерак або чвэртак меры стрэшынскай або жлобінскай сабралі, а сабраўшы аддалі з усіх Уваравіч дзесяць чвэртак»[1319]. Зафіксаваны рэвізорамі факт уяўляе значную навуковую каштоўнасць у святле разглядаемай праблемы тым, што паказвае некалькі важных аспектаў дзейнасці сялянскай грамады. Па-першае, калектывізм у дзеяннях сялян, нежаданне падпарадкоўвацца няправільным, на іх думку, патрабаванням. Па-другое, тое, што яны не толькі разам выказалі пратэст, а прынялі сумеснае рашэнне аб іншых памерах і парадку збору ссыпкі. Па-трэцяе, тое, што прадстаўнікі грамад вышэйзгаданых вёсак прынялі сумесную пастанову («пастанаўленне»), даручыўшы выконваць яго войтам усіх вёсак. Гэта першы вядомы аўтару факт прамога распараджэння грамады на адрас яе кіраўнічых асоб, якое, як вынікае з кантэксту дакумента, было абавязковым для выканання. Увогуле ж, згаданы дакумент яшчэ раз паказвае высокую ролю грамады ў Стрэшынскай воласці ў разглядаемы перыяд.

У інвентары Стрэшынскай воласці 1735 г. таксама ёсць шмат прыкладаў сумеснага карыстання сялянамі зямлёй ці супольнай выплаты чыншу. Адносна вёскі Ворсічы пісар адзначыў, што сяляне «сядзяць» на ўчастках розных памераў і «плацяць чынш не з грунту, але з увагі, таму што самі падданыя не ведаюць, на якім грунце сядзяць і як хто можа плаціць сваю частку чыншу» («...płaci czynsz ne z gruntu, ale z uwagi, sami bowiem poddani nie mają wiadomości na jakim gruncie siedzią y jak kto może płaci złożoną cenę czynszu»)[1320].

Адзін з рэвізорскіх запісаў канца XVII ст. адносна той жа вёскі Ворсічы Мазырскага павета адзначаў наяўнасць там старца, які меў палову службы зямлі, вольнай ад павіннасцей. Сяло знаходзілася «на ўрочным» (прызначаным на цэлы год) чыншы і сяляне павінны былі разам плаціць штогод 200 коп грошаў літоўскіх. Акрамя таго, як адзначалася ў тэксце, «тое ж сяло самі арэнду і з млынам трымаюць

[1317] Тамсама.- P. 9-11.

[1318] Тамсама.- Bib. 17531, p. 1.

[1319] Тамсама.- Bib. 17532, p. 1.

[1320] Тамсама.- Bib. 17516, p. 8.

і іншага арандара не хочуць мець. За арэнду асобна даюць 100 коп»[1321]. Пратое, што жыхары Ворсіч атрымалі права на гэтую арэнду яшчэ ў 1647 г., аўтар пісаў у папярэднім раздзеле. Такім чынам, грамада ў сяле Ворсіны працягвала захоўваць даволі моцныя пазіцыі.

У вёсцы Старыя Гусевічы, дзе «грунт» не знаходзіўся ў адным полі, а быў «раскіданы шматамі», сяляне самі зрабілі расклад зямлі і чыншу ўнутры грамады: «Зараз пасля памеркавання паміж сабой плацяць... 124 злотых 20 грошаў»[1322]. У вёсцы Уваравічы было дзве службы зямлі. якія сяляне раздзялілі паміж сабой на восем частак «і так, паміж сабою на часткі падзяліўшы, трымаюць»[1323]. У вёсцы Цярэнічы «падданыя той вёскі маючы службы 1/2 той грунт таксама паміж сабой падзялілі»[1324]. Падобным чынам сяляне самі дзялілі паміж сабой зямлю ў многіх вссках воласці, што несумненна сведчыць аб наяўнасці ў гэтых вёсках грамады як інстыпута сялянскай самаарганізацыі.

Старцы і войты, як паказвагоць дакументы, даволі часта злоўжывалі сваім афіцыйным становішчам. Найбольш захавалася звестак аб тым, што яны выкарыстоўвалі на сваю карысць сабраныя з грамад падчас розных складак грошы, не аддаючы землеўласніку поўную суму сабранага. Пра гэта аўтар ужо ўпамінаў пры аналізе інвентару Стрэшынскай воласці за 1714 г. У нашым распараджэнні ёсць некалькі дакументаў, складеных рэвізорамі Стрэшынскай воласці, з адзнакамі аб зборы порубаў у некаторых вёсках воласці і запазычанасці, якая заставалася на старцу пасл язбірання порубных грошай.

Так, запіс, знойдзены сярод дакументаў Стрэшышскай воласці сярэдзіны XVII ст., адзначаў, што на старцу Дашчанку ляжала запазычанасць у суме 493 злотых 18 грошаў, якія ён не дадаваў пасля кожнага збірання складак (пазначаны канкрэтныя сумы). Пісарам было адзначана, што гэтаму старцу «двор плаціў за старчэнства штогод па 50 злотых. Чатыры гады запар ён уцякаў ад капітульнага камісара Карпа, аж было не ўтрымаць»[1325]. Камісары адзначылі, што яны забралі ад старца 763 злотых 18 грошаў. з якіх 200 злотых за тое, што «двор даваў штогод па 50 злотых»; 493 злотых 18 грошаў. якія, паводле рэестра, запісаны як запазычанасць; 70 злотых, якія старац «быццам быд аў войту на свае патрэбы»[1326].

Такім чынам, даныя тэкстаў інвентароў і іншых дакументаў служаць дадатковым абгрунтаваннем вываду не толькі аб існаванні ў Стрэшынскай воласці сялянскай абшчыны, але і прызнанні яе паўнамоцтваў вярхоўным землеўласнікам. На падставе іх аналізу і сістэматызацыі, а таксама з улікам звестак з іншых дакументаў аўтар атрымаў магчымасць упершыню ў беларускай гістарыяграфіі дастаткова шырока вызначыць функцыі і персанальны склад абшчыны. Прааналізаваныя крыніцы пацвярджагоць вывад аб існаванні ў Стрэшынскай воласці ў XVIII ст. двухузроўневай структуры грамады: валасной, на чале са старцам і абшчын асобных вёсак, якія ўзначальваліся войтамі. Важнымі паказчыкамі высшсай ролі абшчыны ў жыцці тагачаснай вёскі з'яўляецца яе актыўны ўдзел у

---

[1321] LVIA. F.694, ap. 1,b ib.13, p.78.

[1322] LMA BRS. R43, bib. 17516, p. 10v.

[1323] Тамсама.

[1324] Тамсама.- P.13.

[1325] Тамсама.- Bib.17719, p.1.

[1326] Тамсама.

арганізацыі сялянскага землекарыстання і выплаце феадальнай рэнты.

Паспрабуем паказаць наяўнасць і функцыі сялянскай абшчыны і ў іншых царкоўных уладаннях на ўсходзе Беларусі ў XVIII ст. У распараджэнні аўтара маюцца матэрыялы, якія сведчаць аб існаванні сялянскай абшчыны ў маёнтку Горваль Віленскага біскупства. якое таксама знаходзілася ў Рэчыцкім павеце. У рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук Літвы ў фондзе Віленскай капітулы захоўваецца некалькі інвентароў уладання Горваль, у прыватнасці за 1714, 1723, 1727, 1743, 1759 гг.[1327] Аўтарам выяўлены яшчэ адзін комплекс дакументаў аднона ўладання Горваль у дзяржаўным архіве Польшчы на Вавелі ў Кракаве - там захоўваюцца інвентары за 1673, 1739 і 1745 гг.[1328] Інфармацыю з гэтых інвентароў мы таксама будзем выкарыстоўваць для раскрыцця праблемы існавання і дзейнасці сельскай абшчыны ў царкоўных уладаннях Беларусі.

Даныя згаданых інвентароў паказваюць агульную сітуацыю ва ўладанні і ўскосна адлюстроўваюць сацыяльна-эканамічную палітыку, якая праводзілася феадальным уласнікам у дачыненні да насельніцтва воласці. Гэтая палітыка значна адрознівалася ад падобных мерапрыемстваў накіраваных на гаспадарчае аднаўленне, што праводзіліся як ў іншых рэгіёнах Беларусі, так і ва ўладаннях іншых уласнікаў Разам з тым гэтая палітыка ішла ў адным русле з мерапрыемствамі, што праводзіліся ў іншых уладаннях Віленскага біскупства, найперш у суседняй Стрэшынскай воласці.

Уладанне Горваль вельмі пацярпела падчас Паўночнай вайны, яшчэ ў 1731 г. пусткі тут склалі 68,7% ад агульнага зямельнага фонду[1329].

Амаль ва ўсіх вёсках Горвальскай воласці складальнікамі інвентару 1673 г. быў зафіксаваны войт[1330]. У Горвальскім інвентары 1714 г. сярод кіруючых асоб горада і воласці разам былі пазначаны войт і старац: «Астап Бібік, войт; Грышка Рагоўскі, старац»[1331]. Нават адно такое спалучэнне асоб гарадскога войта, які прызначаўся адміністрацыяй, і старца, які выбіраўся насельніцтвам і быў кіраўніком абшчыны (грамады), паказвае, што абшчына як форма сацыяльна-тэрытарыяльнай арганізацыі насельніцтва мела ў Горвальскай воласці ў разглядаемы час пэўную вагу.

Старац хаця і жыў у мястэчку, але з'яўляўся кіраўніком валасной, тэрытарыяльнай абшчыны, пра што сведчаць іншыя матэрыялы з гэтага ўладання. Як і ў Стрэшынскай воласці, амаль у кожнай вёсцы Горвальскай воласці названы войт, які хутчэй за ўсё, не толькі ажыццяўляў на месцах распараджэння адміністрацыі, але з'яўляўся кіраўніком сельскай абшчыны і, у сваю чаргу, выступаў перад адміністрацыяй і валасным старцам у якасці прадстаўніка грамады сваёй вёскі.

Усяго ў інвентары 1714 г. у Горвальскай воласці пералічаны 11 вёсак; Шолкавічы (13 гаспадароў, зямлі 4,5 пуда), Кукуевічы (18 гаспадароў. зямлі 11 пудоў), Свядзкія (8 гаспадароў, зямлі 5,5 пуда). Гавенавічы (14 гаспадароў, зямлі 6,5 пуда), Якімаўская Слабада (13 гаспадароў, зямлі 4,5 пуда), Шупейкі (8

---

[1327] LMA BRS. F.43, bib. 8780, 8782, 8788, 8793, 17486.

[1328] A PW. A S, sign. 193, 544/1, 544/2.

[1329] Мелешко В.Н. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII-XVIII в). - С.30

[1330] A PW. A S, sign. 193.

[1331] LMA BRS. F.43, bib. 17486, p.9v.

гаспадароў, зямлі 2,5 пуда), Алізаравічы (12 гаспадароў, зямлі 3,5 пуда), Баравікі (12 гаспадароў, зямлі 5,5 пуда), Астроўчыцы (13 гаспадароў, зямлі 4,5 пуда). Васілевічы (22 гаспадары, зямлі 7,5 пуда), Таўстыкі (9 гаспадароў, зямлі 4 пуды).

Як відаць з гэтага пераліку вёсак, Горвальская воласць размяшчалася ўздоўж ракі Бярэзіны і была даволі кампактнай. Сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў ёй была вельмі падобнай на тую, якая была ў іншых, у першую чаргу гаспадарскіх, валасцях Падняпроўя, нягледзячы на тое што Горваль ужо перастала быць дзяржаўным уладаннем. Як і раней, калі Горвальская воласць належала гаспадару, асноўнай павіннасцю тут заставалася даніна, якую сяляне збіралі агулам. Пра тое, што насельніцтва штаціла чынш разам, агулам, сведчаць і запісы ў інвентары 1743 г.[1332] Больш за тое, тут захаваўся традыцыйны для гаспадарскіх вёсак Падняпроўя зямельны надзел пад назвай «пуд». Так было і ў многіх іншых уладаннях Падняпроўя. Напрыклад, крыніцы сведчаць пра тое, што ў Любашанскай воласці ў канцы XVII - першай палове XVIII ст., як і ў Горвалі, у насельніцтва таксама захаваліся старыя віды зямельных надзелаў - пуды, якія, як паказваюць матэрыялы, адначасова з'ўляліся і пазямельнай мерай. На аснове гэтых прыкладаў аўтар паспрабаваў звярнуць увагу на аднастайнасць нават у назвах зямельных надзелаў сялян-даннікаў Падняпроўя, якія працягвалі захоўваць традыцыі абшчыннага жыцця. Дарэчы, указанне ў інвентары 1727 г. на выплаты «з пудоў порубных»[1333] гаворыць, хутчэй за ўсё, менавіта пра абшчынныя землі, якія таксама размяркоўваліся ў грамадзе і з якіх плацілася розныя складанкі - порубы. Грамадскія землі маюцца на ўвазе ў інвентары і пры ўпамінанні сенажаці Глушэц, якая знаходзілася на грунтах Таўстыкаўскіх, але была прылучана да мястэчка і «павінна быць на усіх мяшчан падзелена»[1334].

У пераліку павіннасцей насельніцтва Горвальскай воласці, названых у інвентары 1714 г., як і ў суседняй Стрэшынскай воласці, на першым плане пазначана абавязковае наведванне сялянамі царквы. Кожную нядзелю і на святы ў царкву лавінен быў прыйсці хаця б адзін чалавек з хаты, Калі ж з якой-небудзь гаспадаркі ў царкву не прыходзіў ніводзін чалавек, на яе гаспадара накладваўся штраф «віны два сахы, то ест капеек чатыры на царкву заплаціць». Калі ж паўгорыцца «ляніўства да хвалы божан, то павінны быць пакараны куніцай», а за трэці раз павінна прымяняцца болып строгая кара: біццё пастромкамі і адабранне маёмасці на царкву[1335]. Свяшчэннікам даручалася навучаць людзей «веры святой каталіцкай апостальскай»[1336], тлумачыць ім неабходнасць веры ў Бога, ведаць дзесяць божых запаведзяў тлумачыць ім сэнс малітваў і слоў Божых, таму што «тых таямніц увесь люд просты не разумее»[1337]. Разам з тым свяшчэннікам забаранялася прымаць ад сялян на царкву зямлю і борці, «таму што з іх павінна ісці плата на двор»[1338].

У якасці наступнай задачы камісары, якія складалі інвентар, ставілі вяртанне

---

[1332] LMA BRS. R43, bib. 8793, p. 5-12.

[1333] Тамсама.- Bib. 8782, p. 12.

[1334] Тамсама.- P. 12v.

[1335] Тамсама.- Bib. 17486, p. 13v.

[1336] LMA BRS. F. 43, bib. 17486, p. 13v.

[1337] Тамсама.- Bib. 8782, p. 12.

[1338] Тамсама.- Bib. 17486, p. 13v.

насельніцтва, якое пакінула воласць у цяжкія ваенныя часы. Такіх людзей неабходна было «зграмадзіць і сабраць. і воласць, і мястэчка»[1339]. Селяніну, які вяртаўся ў Горвальскую воласць і асядаў тут, двор быў павінен «на столькі даць слабаду і вольнасці, на колькі слабоднік будзе патрабаваць»[1340]. Адначасова рабілася папярэджанне абшчыне аб тым, што «ані воласць, ані мястэчка не павінны да ніякіх работ і складанак» прыцягваць гэтых людзей, пакуль яны будуць знаходзіцца на слабадзе.

Разам з тым камісары, як гэта было і ў Стрэшыне, «даведаўшыся, што папярэднія дзяржаўцы маёнтка Горваль без волі і дэкрэту прэвелебнай капітулы Віленскай, чаго не было ў інвентары запісана, прыцягвалі (да паншчыны. - В. Г.) люд убогі із таго дваякую шкоду і крыўды чынілі капітуле і тым цяжарам людзей разганялі... таму мы камісарскаю нашаю ўладаю ... адмяняем найперш рабацізну паншчыну, як і перад тым не была, так і цяпер не павінна быць, бо тая воласть Горвальская ад вякоў на чыншы як сядзела, так і мае сядзець»[1341]. Больш за тое, камісары так, як і ў Стрэшыне, папярэдзілі сялян, што калі іх усё такі паспрабуюць выганяць на паншчыну, то яны не павінны падпарадкоўвацца, «...а павінны скардзіцца ў капітулу»[1342]. Адзначыўшы неабходнасць прытрымлівацца «старадаўніх устаў», складальнікі Горвальскага інвентару поўнасцю паўтарылі ў ім тэкст з інвентару Стрэшынскай воласці 1714 г. аб тым, што раней «багацейшыя людзі прымушалі ўбогіх выконваць нароўні з сабой розныя падаткі і цяжары», а цяпер трэба, каб «багацейшыя ўсялякія цяжары выплачвалі ў большым памеры. чым бяднейшыя... з разліку не толькі з таго, хто колькі зямлі трымае, але і борці з пчоламі, хто іх болей мае, той павінен больш плаціць, хто менш - павінен менш плаціць»[1343]. Даслоўна супадае таксама тэкст уставы 1714 г. Горвальскай воласці з працытаванымі раней выказваннямі аб судовых функцыях грамады і парадку перавыбараў вясковай адміністрацыі з уставы 1714 г. Стрэшынскай воласці[1344].

Яшчэ больш поўнае ўдакладненне наконт размеркавання ў абшчыне вызначаных для яе падаткаў было зроблена ў дадатках да інвентароў Горвальскай воласці 1727 і 1739 гг.: «Поруб, калі прыпадзе на раскладанне, павінен адбывацца з ведама двара праз старца і сельскіх войтаў не з грунту, а на погляд, як хто чаго м,ае, у каго болей харчоў, жывёлы, коней, валоў, засеўку і нават сена, той больш му сіць даць»[1345]. Тут жа тлумачылася, што пасля збору порубу ці чыншу кожнаму юйту павінны выдаць карту ці квіток з адзнакай, колькі на якім гаспадары недабору застаецца, і квіткі гэтыя павінен быў захоўваць менавіта войт. Прыведзеная інфармацыя пацвярджае выказанае вышэй меркаванне аб тым, што войт (такая асоба была ў кожнай вёсцы воласці) з'яўляўся кіраўніком сельскай абшчыны і падпарадкоўваўся старцу, які ўзначальваў тэрытарыяльную, валасную абшчыну.

Горвальская воласць, хутчэй за ўсё, здавалася ў трыманне, сведчаннем чаму з'яўляецца ўпамінанне ў інвентары 1727 г. дзяржаўцы. Але быў тут і прадстаўнік

---

[1339] Тамсама.

[1340] Тамсама.- Р. 14.

[1341] Тамсама.

[1342] Тамсама.

[1343] Тамсама.- Р. 15.

[1344] Тамсама.- Р7v ,15.

[1345] LMA BRS. F. 43, bib. 8782, p. 1lv .; A PW .A S. sign . 544/1, n ienm ner.

адміністрацыі, які называўся старостам, ці панам адміністратарам, але, як сведчаць матэрыялы інвентароў, роля яго была не такой заўважнай, як старца і войтаў (староста ўсяго некалькі разоў згадваецца ў тэксце). Староста толькі прымаў сабранае валасцю збожжа, а магчыма, і некаторыя іншыя ўнескі і выплаты.

Вышэйвыкладзенае яшчэ раз пацвярджае факт прызнання з боку вярхоўнага землеўласніка вядучай ролі абшчыны (грамады) у жыцці насельніцтва Горвальшчыны. Зусім верагодна і тое, што землеўласніку прасцей было працаваць з абшчынай, чым з дзяржаўцам, бо абшчына кантралявала парадак у валасці, сачыла за тым, каб трымаўца нічога не вывозіў з валасці, не накладваў празмерных падаткаў і, такім чынам, не разараў ні сялян. ні панскую гаспадарку.

Роля абшчыны прызнавалася камісарамі найперш у справе збору падаткаў. Не давяраючы мясцовай адміністрацыі (ці ўлічваючы скаргі насельніцтва альбо старадаўнюю традыцыю), было заяўлена, як і ў Стрэшынскай валасці, што «з гэтых часоў ніводзінураднік не ўмешваецца ні ў справу выбірання, ні ў справу аддавання порубу. Толькі самі падданыя і мяшчане з валасці і старцы аб тым ведаць і рабіць павінны, ніколі да рук урадніка пенязі не даваць, аднак ураднік павінен ведаць аб рахунках. каб старац з войтамі не кралі і ўбогіх лгодзей не крыўдзілі». У інвентарах 1727 і 1739 гг, удакладнялася, што «мяшчане горвальскія да кожнага порубу і складанак са свіх пудоў роўна з валасцю прыкладаць павінны»[1346].

Гэта яскравае сведчанне таго, што мястэчка ўваходзіла ў склад валасной грамады і было толькі адміністрацыйным цэнтрам валасці, з'яўляючыся ў першую чаргу аграрным, а не рамесным ці гандлёвым паселішчам.

Адзначым, что прааналізаваныя інвентары ўладання Горваль уяўляюць значную каштоўнасць, таму што захаваласязусім няшмат гістарычных крыніц, якія ўтрымліваюць звесткі пра існаванне сялянскай абшчыны (грамады) у Беларусі, і таму крыніцазнаўчае значэнне дадзеных інвентароў яшчэ больш узрастае. Адметным у гэтых дакументах з'яўляецца апісанне функцый старца і войтаў, само ўпамінанне сялянскай абшчыны - грамады па яе гістарычнай назве. Факт спробы забараніць сходы грамады ў Горвальскай валасці без дазволу адміністрацыі («грамады ніякай быць не павінна») паказвае, што феадальны ўласнік рабіў чарговую спробу ўзяць яе пад свой кантроль. Пра гэта таксама яскрава сведчыць указанне абавязковага пацвярджэння дваровай адміністрацыяй судовых рашэнняў грамады, якое было зроблена адразу ж пасля забароны яе сходаў. Несумненна і тое, што грамада ў Горвалі, захоўваючы многія свае традыцыйныя рысы (агульны збор чыншаў і раскладка іх унутры грамады, размеркаванне зямлі і сенакосаў, абшчынны суд і інш.), паступова станавілася ўсё больш падкантрольнай землеўласніку структурай. Разам з тым прааналізаваныя матэрыялы дазваляюць зрабіць выснову, што сельская грамада як форма сацыяльна-тэрытарыяльнай арганізацыі сялянства не толькі існавала ў Горвалі і валасці, але і аказвала значны ўплыў на розныя бакі жыцця насельніцтва.

Некаторыя матэрыялы сведчаць аб наяўнасці абшчыны і ў маёнтку Сожыца Віленскага біскупства, размешчанага ў Віцебскім павеце. Так, у 1739 г. у капітулу падалі супліку Сожыцкая і Машчанская валасці аб тым, каб пана Станевіча не пакідалі больш на пасадзе дзяржаўцы. Падпісалі гэтую просьбу Янка Тарадын. сожыцкі войт, Сільвестр Сапежка, стары машчанскі войт. Ярка Плешка, новы машчанскі войт і 24 прадстаўнікі насельніцтва валасцей з прыпіскай «уся валасць

[1346] Тамсама.- Bib. 17486 p.15-15v.; APW. AS, sign. 544/1, p. 4.

Сожыцкая і Машчанская»[1347].

Такім чынам, у разглядаемы час царкоўныя землеўласнікі шырока выкарыстоўвалі абшчынныя традыцыі ў сялянскІм землекарыстанні ўсходу Беларусі. Асноўны паказчык гэтага - то е. што ў другой палове XV1 I-XVIII ст. чынш у вы-шэйзгаданых маётках Горваль і Стрэшын пачаў накладвацца толькі на сялянскія абшчыны і яны размяркоўвалі яго ўнутры грамады праз порубы. Разам з тым грамадзе давалася рэкамендацыя не дапускаць вялікага збяднення насельніцтва, справядліва размяркоўваць чынш па асобных гаспадарках: «Хто больш грунту трымае і больш мае разробак, той і плаціць павінен больш»[1348]. Хаця роля сялянскай грамады з умацаваннем гаспадаркі феадала станавілася менш прыкметнай. яна свайго існавання не спыніла. Феадальны ўласнік працягваў з ёю лічьщца, асабліва ў выпадках увядзення навінаў, змянення сялянскіх павіннасцей.

Аб наяўнасці абшчыны ў царкоўных уладаннях на захадзе Беларусі сведчаць матэрыялы маёнтка Віленскага біскупства Брашэвічы,размешчанага ў Кобрынскім павеце. На жаль. дакументаў з інфармацыяй аб грамадзе ў Брашэвіцкай (Бародзіцкай) воласці ўдалося выявіць значна менш у параўнанні са Стрэшынскай і Горвальскай валасцямі, але і тыя, якія ўдалося знайсці, паказваюць, што абшчына там была.

Найперш гэта звесткі аб тым. што ў вёсках былі землі, якімі карысталася ўся грамада і за якія плацілі ўсе разам. Інвентар Брашэвіцкай воласці за 1659 г. адзначае, што ў сяле Аземевічы з-за таго, што тут зямля дрэннай якасці, за яе ўсё сяло плаціць разам: «агулам», «агулам пенезьмі». Плацілі разам з пустых валок і ў Брашэвічах[1349]. У іншых сёлах воласці чынш прызначаўся на кожны дым паасобку, верагодна, так ён і збіраўся, таму што іншых указанняў у інвентары мы не знаходзім.

Значна больш звестак аб грамадзе дае «інвентар уладання Брашэвіцкага і Бародзіцкага» за 1671 г. Так, сярод службовых асоб грамады ён згадвае «лаўнікаў, дзесяцкіх і гаенных», на якіх быў ускладзены абавязак сачыць за тым, каб «пустыя будынкі у вёсках не разбіралі, не палілі, а захоўвалі у добрым парадку»[1350].

У сяле Тыневічы ўсяго было 15 валок ворыва. З іх восем з паловай пустых валок, за 1 якія сяляне плацілі «агулам паводле добраахвотнай з імі пастановы штогод 82 коп і 9 грошаў літоўскіх»[1351]. Агулам, разам, за пустыя валокі плацілі сяляне таксама ўсёлах Брашэвічы, Сымонавічы, Тулкава, Бародзічы, Свеклічы, Мехнедавічы[1352]. У гэты час, час войнаў і разбурэнняў, капітула Віленскага біскупства рэкамендавала адміністрацыі ўладання Брашэвічы ісці на кантакт з грамадой у справе збору чыншу. Пра гэта сведчыць устава падданым маёнтка Брашэвічы, складзеная ў канцы XVII - пачатку XVIII ст. Адзначыўшы, што «ў цяперашнія нядобрыя часы так памножыліся цяжары і ладаткі, што падданыя скардзяцца, што самі часам не ведаюць, на што падатак складаюць», капітула абавязала адміністратара, каб ён перад усялякімі «падаткамі і складанкамі,

[1347] LVIA. F.694, ap. l, bib. 14, p. 90-91v.

[1348] LMA BRS. R43, bib. 8782, p. 11.

[1349] РА БАН Літвы. Ф.43, спр. 6430, арк.7, 8-8 адв

[1350] LMA BRS. F. 43, bib. 6433, p. 1lv.

[1351] LMA BRS. F. 43, bib, 6433, p. 3v.

[1352] Тамсама.- P. 3v, 5, 5v, 6-9.

пазваўшы да сябе з вёсак старых, разумных і дастойных даверу мужоў, з імі распісваў і рас-кладваў падаткі, маючы на ўвазе, каб бяднейшы чалавек не плаціў роўна з багатым, але кожны па сваен магчымасці і дастатку»[1353]. Падобныя запісы сустракаліся і ў інвентарах маёнткаў Віленскага біскупства, размешчаных на ўсходзе Беларусі. Аналіз падобных выказванняў, як і інфармацыя інвентароў аб гаспадарчым становішчы сялянства, сведчыць аб тым, што ўнутры сялянскай абшчыны не было матэрыяльнай роўнасці, існавала значная маёмасная дыферэнцыяцыя. Але завадатарамі, рэальнымі кіраўнікамі ў абшчыне былі найбольш заможныя сяляне, якія заўсёды імкнуліся да таго, каб абшчынныя складкі рабіліся пароўну. Сапраўды, роўны ўдзел, раўнапраўе былі адной з галоўных прыкметжыцця абшчыны і толькі з умяшальніцтвам адміністрацыі ў абшчыне мог пачаць працаваць прынцып «сацыяльнай справядлівасці».

Гэтая ж устава рэкамендавала выбраць ці прызначыць у кожнай вёсцы спецыяльных паборцаў, якія павінны былі мець адмысловыя карткі, у якіх адміністратар змог бы адзначаць, які пабор яны збіралі, і пазначаць дату. Карткі гэтыя павінны былі застававацца па вёсках у паборцаў, каб капітульныя камісары пры праверцы маглі ўсё зверыць. З тэксту ўставы можна зразумець, што гэтыя рэкамендацыі адносіліся і да збірання складак на патрэбнасці самой грамады.

Менш выразна ў параўнанні з вялікімі ўладаннямі Віленскага каталіцкага біскупства інфармуюць аб існаванні і дзейнасці грамады матэрыялы невялікіх духоўных уладанняў, галоўным чынам тых, што належалі да плябаній, касцёлаў, атаксама маёнткаў уніяцкай і праваслаўнай цэркваў. Напрыклад, інвентар 1664 г. Тураўскай воласці (вёскі Альгомль, Сямёнічы і Радзілавічы), якая належала тураўскаму уніяцкаму епіскапу, адзначаў, што сяляне «за ўсе павіннасці, якія ідуць з Тураўскай воласці, павінны будуць даваць разам 160 злотых»[1354]. Захаваўся дакумент аб тым, што ў 1665 г. грамады Высоцкай воласці, якая належала да Тураўскага уніяцкага епіскапства (вёскі Задвор'е, Падвысочча, Рэчыца, Удрыцк, Мілач, Жадзін, Азёры, Ельна, Клесава Пінскага павета), скардзіліся на пасэсара Бутрымовіча, які на працягу трох гадоў прымушаў сялян купляць у яго соль у вялікай колькасці і па высокай цане, каб сяляне самі яе потым перапрадавалі. Ад такога «бізнесу» пацярпелі грамады усіх вышэйзгаданых весак[1355].

Грамады некаторых вёсак плацілі хабар чыноўнікам і адміністратарам, спадзеючыся на палёгку ў адбыванні павіннасцей і іншыя льготы, але часта гэта не давала станоўчых вынікаў, аб чым сведчаць скаргі ад імя сельскіх абшчын. Так, грамада вескі Азёры Высоцкай воласці «дала дыспазітару Ягалкоўскаму 4 злотых, каб ён ім дазволіў вазіць хлеб у залік паншчыны, а ён і грошы ўзяў і таго ўякасці паншчыны не прынімаў, у чым грамада прысягае»[1356]. «Грамада Ельна напасці за соль заплаціла, якой у вёсцы так і не было, у чым прысягае... Тая ж грамада мае страты на солі за два гады 100 злотых»[1357].

Супольна падаючы скаргі і нават адмаўляючыся выконваць павіннасці, змагаліся за свае правы сяляне Дворацкай каталіцкай плябаніі Наваградскага

[1353] Тамсама.- Bib.6449, p. 1.

[1354] LVIA. R597$_5$ ap. l,b ib. 105, p. 3v.

[1355] LVIA. F.597, ap. 2, bib.96 ,p.62.

[1356] Тамсама.- P.65.

[1357] Тамсама.

ваяводства. Так, ва Уставе для падданых Дворацкага касцёла, зацверджанай віленскім біскупам Аляксандрам Сапегам 6 жніўня 1670 г, адзначалася, што гэты дакумент складзены ў адказ «на частакротныя суплікі і бунты падданых Дворацкай плябаніі, якія з даўніх часоў так і зараз, супраць паноў сваіх прыроджаных плябанаў дворацкіх уздымацца звыклі..»[1358]

Ва Уставе для насельніцтва Біскупскага войтаўства (маёнтак Біскпіцы Ваўкавыскага павета, сталовае ўладанне віленскага біскупа Міхала Яна Зеньковіча) за 1732 г. рэгуляваліся некаторыя бакі жыцця сялян, якія аб'ектыўна ўмацоўвалі абшчыну. Так, ва Уставе падкрэслівалася неабходнасць захавання трохполля, сумеснай, усім сялом, работы па агароджванні выгану і інш. («...загадваем, абы валокі свае ва ўсіх трох зменах у парадку трымалі, межаў і сцен не заворвалі, граніц сваіх пільнавалі, пустых валок не абраблялі без ведама двара пад вінон у пяць коп грошай»[1359]).

Як сведчаць крыніцы, у канцы XVII - першай палове XVIII ст. пазіцыі грамады ўзмацніліся ва ўсіх відах феадальнага землеўладання на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку і ў царкоўных маёнтках. Вельмі часта феадальны землеўласнік не прымаў без згоды грамады рашэнняў, якія б, напрыклад, карэнным чынам змянялі павіннаснае становішча ва ўладанні альбо парадак землекарыстання.

Такім чынам, можна зрабіць выснову, што ў царкоўных уладаннях, размешчаных як на ўсходзе, так і на захадзе Беларусі, таксама як у дзяржаўных і прыватных, на працягу другой паловы XVII - першай паловы XVIII ст. працягваў існа-ваць такі інстытут сялянскай самаарганізацыі і самакіравання, як абшчына. Больш выразна дзейнасць сялянскай грамады прасочваецца ў буйных уладаннях Віленскага каталіцкага біскупства (Сожыца, Стрэшын, Горваль, Брашэвічы і інш.), матэрыялы якіх сведчаць, што абшчына там не толькі была прызнана феадальным уласнікам, але актыўна ўдзельнічала як у арганізацыі ўнутрывясковага жыцця, так і ў збіранні чыншу, выкананні іншых павіннасцей. Дакументы з маёнткаў Віленскага каталіцкага біскупства паказваюць, што ў многіх уласных абшчынах меліся грамадскія грашовыя сродкі, што ўнутрыабшчынныя зборы («порубы») рабіліся не толькі для выплаты чыншу, але і на агульныя патрэбы.

У гады гаспадарчай адбудовы землеўласнік даваў значна большую свабоду сялянству, што выявілася і ва ўзмадненні ролі сельскай абшчыны, калектыўным адстойванні сялянствам сваіх правоў і інтарэсаў. Разам з тым унутры грамады не было роўнасці ў эканамічнай сферы, вядучае месца там адыгрывалі найбольш заможныя сяляне, што адзначалася ў інвентарах некаторых маёнткаў.

### 5.3. Сялянская грамада ў гаспадарчым і сацыяльным жыцці насельніцтва ў царкоўных уладаннях Беларусі ў другой палове XVIII ст.

У другой палове XVIII ст. адбылося значнае гаспадарчае ўмацаванне ва ўсіх відах феадальнага землеўладання, у тым ліку і ў царкоўных уладаннях. Рост попыту на прадукцыю сельскай гаспадаркі на ўнутраным рынку краіны, выкліканы значным павелічэннем колькасці насельніцтва Беларусі (з 1,5 млн чалавек у 1717 г. да 3,6 млн чалавек у 1790 г.)[1360], а таксама пашырэнне экспарту збожжа вялі да

---

1358 НГАБ, ф.694, воп.5, спр. 149, арк.2.

1359 Тамсама.- Ф. 1928, воп.1, спр.22, арк. 5 адв, -6.

1360 Козловский, П. Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII-XVIII в / П. Г. Козловский. - Минск: Наука и техника, 1969.- С. 24, 25.

павышэння цэн на сельскагаспадарчую прадукцыю. Узмацнялася не толькі панская, але і сялянская гаспадарка. Аб гэтым яскрава сведчыць тое, што сярэдні зямельны надзел царкоўных сялян Беларусі склаў 0,45 валокі на гаспадарку і амаль дасягнуў даваеннага ўзроўню[1361].

Разам з тым з сярэдзіны XVIII ст. у царкоўных уладаннях заўважана больш актыўнае, у параўнанні з папярэднім перыядам, развіццё фальварка і перавод сялянства на адработачную рэнту. Асабліва прыкметна гэта было ў вялікіх маёнтках захаду і цэнтра Беларусі, у якія ўваходзілі дзесяткі і сотні сялянскіх гаспадарак. Напрыклад, у Пінскай езуіцкай калегіі ў другой палове XVIII ст. з 684 сялянскіх дымоў 579 (87.9%) былі цяглымі[1362]. На захадзе і ў цэнтры Беларусі ў другой палове XVIII ст. 93,6% сялянскіх гаспадарак мелі ў складзе свайго надзелу цяглую долю[1363]. Відаць, буйныя царкоўныя феадалы даволі паслядоўна арыентаваліся на таварызацыю сваёй гаспадаркі ва ўмовах спрыяльнай рыначнай кан'юнктуры і, там дзе гэта было выгадна, ішлі на пашырэнне фальварка.

Фальварачна-паншчынная сістэма гаспадарання ў царкоўных уладаннях у другой палове XVIII ст. займала пануючае становішча не толькі ў заходнім і цэнтральным рэгіёнах, але і на паўночным усходзе Беларусі, у басейне Заходняй Дзвіны. У 1790 г. у 77 вёсках фальваркаў Гутава, Судзіловічы. Чарсвяты полацкіх базыльянаў пражывала 476 сялянскіх сем'яў, з іх 311 (65,3%) - цяглых[1364]. Разам з тым на паўднёвым усходзе большасць царкоўных сялян заставалася на чыншы, як у Горвалі, Стрэшыне[1365]. Царкоўныя землеўласнікі, як гэта відаць на прыкладзе Віленскага каталіцкага біскупства, не ўзмацнялі празмерна рэжым эксплуатацыі падданства, імкнуліся займацца ў тым ліку і адукацыяй насельніцтва, не забаранялі дзейнасць сялянскай грамады. Некаторыя царкоўныя ўладанні, як маёнткі Ігумен і Убарць віленскага біскупа Ігнація Масальскага, які быў прыхільнікам вызвалення сялян ад прыгону, сталі прыкладам прымянення ідэй асветніцтва ў беларускай вёсцы.

Як сведчаць крыніцы, у другой палове XVIII ст. пазіцыі грамады ва ўладаннях Віленскага каталіцкага біскупства ў параўнанні з папярэднім перыядам заставаліся даволі моцнымі. Аднак звяртае на сябе ўвагу тое, што разам з завяршэннем працэсу гаспадарчага аднаўлення і ў царкоўных уладаннях пачынаецца пэўнае ўпарадкаванне і індывідуалізацыя сялянскага землекарыстання і павіннаснага і падаткавага абкладання. Адбываўся новы перамер зямлі на стандартную адзінку вымярэння - валоку, павіннасці і падаткі паступова пачалі прызначацца не на грамаду, а на асобныя сем'і, што зніжала ступень удзелу абшчыны ў працэсе збору і выплаты падаткаў. Разам з тым у жыцці беларускай царкоўнай вёскі заставалася яшчэ многа сфер, дзе роля грамады была даволі высокай.

У трох войтаўствах уладання Сожыца Віленскага біскупства, размешчанага ў Віцебскім ваяводстве, паводле інвентару 1755 г., было 48 вёсак з было 680

---

[1361] Голубеў, В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI-XVIII стст. - С. 161.

[1362] Мараш. Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии. - С. 193.

[1363] Голубеў, В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI-XVIII стст. - С. 140.

[1364] НГАБ, ф. 1928, воп. 1, спр. 268, арк. 5-79 адв.

[1365] LMA BRS. F. 43, bib. 17590.

сялянскімі гаспадаркамі[1366]. Адной з прымет існавання тут сельскай грамады з'яўляецца наяўнасць у многіх вёсках зямлі, якую разам трымала ўся вёска. Так было ў вёсцы Дашкава, дзе вёска трымала чатыры засценкі і разам плаціла за іх, агульныя засценкі былі таксама ў вёсках Ліхачы, Засожжа, Слабада, Мялешкі[1367]. Сляды абшчыннай арганізацыі ў насельніцтва маёнтка Сожыца прасочваюцца і ў апісанні парадку пабораў і складанак, якія праводзіліся сярод насельніцтва. Аўтары інвентару адзначалі, што адміністратары часта прызначалі паборы, якія поўнасцю забіралі на сябе, пра што сведчылі скаргі сялян[1368]. Таму камісары ўстанавілі для маёнтка Сожыца новы парадак збору пабораў і складанак, «ці яны б соймам Рэчы Паспалітай былі ўстаноўлены... альбо на ўласныя іх патрэбы»[1369]. Адміністратар Сожыцкі быў абавязаны, «...сабраўшы з усіх трох войтаўств па некалькі старых, разумных, веры годных людзей з кожнага войтаўства і кожнай вёскі, згаданыя пабор ы і складкі распісаць і разлажыць ... і кожнаму войту даць картку на збіранне тых пабораў»[1370]. Паводле «даўніх і старых устаў», воласць была павінна «вязаць невад з дваровай пянькі»[1371].

Інвентар Сожыцкі за 1767 г. абавязваў адміністрацыю, як і ў іншых уладаннях. прызначыць дзесятнікаў якія б сачылі за наведваннем сялянамі царквы або касцёла[1372]. У многіх вёсках маёнтка ў 1767 г былі зафіксаваны ўчасткі зямлі, якія насельніцтва вёсак трымала разам. Так было ў вёсках Забелле, Дашкава, Ліхочына, Дуброва, Хелм і інш.[1373] Гэта было сведчаннем наяўнасці калектыўнага землекарыстання ў іх - аднаго з найбольш выразных паказальнікаў існавання грамадскай арганізацыі.

Аналіз інвентару маентка Стрэшын 1751 г. паказвае значны рост колькасці насельніцтва ў вёсках воласці ў параўнанні з папярэднім перыядам: вёска Праскурнае - 26 дымоў, Слабада Рогава - 16 дымоў, Салоннае - 89 дымоў, Слабада Мармо-раў - 7 дымоў, Зломнае - 11 дымоў, Яшчыцы - 22 дымы, Жыліховіца - 12 дымоў, Шыхава - 10 дымоў, Олба Вышэйшая - 15 дымоў, Олба Ніжэйшая - 14 дымоў, Ворсічы - 64 дымы, Скепна - 24 дымы. Пірэсвічы - 20 дымоў, Губічы - 29 дымоў, Елянец - 15 дымоў. Слабада Недзейка - 8 дымоў, Слабада Жытомер - 9 дымоў. Слабада Пястава - 8 дымоў, Слабада Гаўе - 9 дымоў, Марозавічы - 10 дымоў, Пенежын - 23 дымы, Слабада Радзееў - 21 дым, Уваравічы - 39 дымоў, Слабада Запрудоўская - 6 дымоў, Слабада Вялікі Рог - 11 дымоў, Аздзелін - 22 дымы, Гусевіца Новая - 14 дымоў, Гусевіца Старая - 24 дымы, Цярэнічы - 18 дымоў, Горкі - 13 дымоў, Заазер'е - 18 дышоў, Целяшы - 48 дымоў, Сінічын - 7 дымоў. У інвентары амаль пры ўсіх вёсках адзначана, што сяляне чынш здаюць сумес-на, таксама як і тое, што амаль усе вёскі трымалі пэўную колькасць зямлі сумеснага карыстання (сенажаці, выганы, пусткі і да т. п.)[1374]. У сялянскіх гаспадарках

[1366] Тамсама.- P. 15,18,24v, 27v, 33v.

[1367] Тамсама.- P. 46v.

[1368] Тамсама.- Bib. 17144, p. 43v.

[1369] Тамсама.

[1370] Тамсама.

[1371] Тамсама.- P.49.

[1372] LMA BRS. F. 43, bib. 17153, p. 33.

[1373] Тамсама.- P. 1lv, 12v, 16v, 18v, 21v, 23-26,29v, 32v.

[1374] Тамсама.- P. 4-14y.

пазначана наяўнасць коней і вало ў. з тэксту інвентару вынікае, што ў Стрэшынскай воласці нядаўна адбылося вымярэнне ворыўнай зямлі ў валоках.

Аб дзеннасці сельскай абшчыны ў воласці яскрава гаворыць запіс пры апісанні павіннасцей сялян вёскі Рогавая Слабада: «У гэтай вёсцы яшчэ няма належнага размеркавання паміж гаспадарамі, толькі самі сабе землі раздзялілі і не хапіла часу іх вымераць, таму самі паміж сабой чынш справядліва падзяліць павінны... не крыўдзячы адзін другога»[1375]. Складальнікі інвентару ставілі таксама акцэнт на тым, што чынш павінен прызначацца на кожнага гаспадара паасобку, з выдачай квітанцыі аб уплаце. Нельга, як яны лічылі, пакідаць усе «на разсудак войтаў» і на «гуртовыя сумы войтаў», таму што есць звесткі, што войты прывыклі збіраць чынш на сябе, у чым вялікая крыўда лгодзям[1376]. Паказчыкамі дзейнасці грамады тут з'яўляецца і правядзенне ўнутрыабшчыннага падзелу зямлі паміж сялянамі і наяўнасць, як і раней, у вёсках войта, які збіраў чынш з усіх гаспадароў вёскі. Пры апісанні павіннасцей многіх вёсак таксама была адзначана абавязковасць атрымання «квітоў» за здадзенае збожжа і захоўвання іх «ці у вонта ці ў каго з мужоу»[1377].

Устава, змешчаная ў канцы інвентару 1751 г., выказвае забарону падданым займацца «чарадзействам, варажбой, забабонамі, нядобрымі шлюбамі і іншымі падобнымі грахамі» і тое, каб «складкі пабаровыя, не звальваючы адзін на другога, аддавалі»[1378]. Пакаранне за ненаведванне касцёла ці уніяцкай царквы было вызначана такое ж, як і ў папярэдніх інвентарах, пра што аўтар пісаў у раздзеле 5.2. Адзначалася важнасць ролі дзесятнікаў. якія б сачылі за паводзінамі сваіх суседзяў. Тут жа гаварылася і пра неабходнасць сялянскіх складак на дабудову царквы ва Уваравічах[1379].

Ва Уставе заўважаецца спроба ўласніка ўрэгуляваць працэс збірання чыншу з сельскіх грамад. Так, стрэшынскім адміністратару і дзяржаўцу запісвалася ў абавязак выдаваць сялянам квіты з адзнакай таго, колькі хто здаў падатку. Акрамя таго, прадугледжвалася неабходнасць выдаць войту кожнай вёскі агульны «генеральны» квіт. «Тое самае павінен рабіць і пры порубах, не праз старца квіты даваць ад імя старца, а са сваім щдпісам, ці подпісам свайго намесніка»[1380]. У многіх вёсках воласці быў названы войт, які не толькі ажыццяўляў на месцах распараджэнні ўлады, але з'яўляўся кіраўніком сельскай абшчыны і, у сваю чаргу, выступаў перад адміністрацыяй, валасным старцам і войтам як прадстаўнік грамады сваёй вёскі.

Яшчэ больш выразна наяўнасць грамады і яе кіруючых асоб прасочваецца ва Уставе, якая завяршае інвентар Стрэшынскай воласці за 1759 г. Нават калі ў грамадзе ідзе «поруб», ці раскладка, колькі хто павінен заплаціць, землеўласніка цікавіла агульная сума, а не тое. хто якую долю меў абшчыннай зямлі. «Калі пачынаюцца порубы, яны павінны раскладвацца з ведама двара старцам і войтам

---

[1375]Тамсама.- Bib. 17590, p. 3.

[1376]Тамсама.

[1377]Тамсама.- P. 5.

[1378]LMA BRS. R43, bib. 17590, p. 17.

[1379]Тамсама.

[1380]Тамсама.- P. 17v.

усёй вёскі ў прысутнасці стрэшынскага і салешскага прэсвітара, а таксама арандатараў. Павінен лічыцца не грунт, а толькі напрыкід, колькі хто мае і ў каго больш борцяў рабочай жывелы, коней, валоў, кароў, пчол, нават рабочай сям'і, засеву...»[1381] «З гэтага падатку порубнага не павінны быць зборы іншыя, толькі тое, што з валасці ўзяць належыць, а не на пажытак, ці якія чарговыя выдаткі. якія цалкам да валасці не адносяцца. А калі такія порубы будуць у валасці, то войты з паборцамі павінны сабранае аддаць старцу, а старац - да двара, дзе павінен узяць квіт за кожны здадзены поруб»[1382]. «Старац, прызначаны падчас дадзенай камісіі, павінен заставацца кіраваць аж да наступнай, а ў выпадку, калі б дрэнна з людзьмі абыходзіўся, невінаватых біў і п'янствам займаўся, павінен двор пра тое паведаміць пану тэнутару»[1383]. Войт таксама не павінен быў мяняцца ад часу адной камісіі да часу другой[1384].

Камісары выказалі сваё бачанне гаспадарчай сітуацыі ва ўладанні і прычыны эканамічнай няроўнасці сярод сялянства. Апошні перамер зямлі ў Стрэшынскай воласці быў у 1647 г., а агульная плошча ворыва за гэты час праз розныя «прыробкі» павялічылася. Больш зямлі стала ў багацейшых людзей. Але, на думку рэвізораў. ад такой сітуацыі найбольш цярпелі бедныя, убогія людзі, «якія меней трымаюць зямлі, а нароўні з іншымі прыцягваюцца да розных выплат, чыншаў і порубаў»[1385]. Такім чынам, і да гэтага часу сельскія абшчыны ў Стрэшынскай воласці раскладвалі падаткі і іншыя платы на ўсіх абшчыннікаў пароўну, без уліку іх маёмаснага становішча, што камісары лічылі несправядлівым.

У інвентары 1759 г. камісарамі было адзначана, што «некаторыя стрэшынскія валасці, з іх аддаленасці ад двара, ледзве ведаюць, што над імі ёсць дваровая ўлада, і з той прычыны адважваюцца на розныя выступленні і пахвалкі, якія часткова намі былі разгледжаны, а вінаватыя пакараны»[1386]. На жаль, дакумент не паведамляе прычыны гэтых выступленняў, але, мабыць, яны былі калектыўнымі, аб чым дазваляе меркаваць выказванне камісараў аб схільнасці гэтых сялян «да бунтаў»[1387].

Інвентар 1759 г. уладання Стрэшын быў складзены спецыяльнай камісіяй у складзе камісараў Ігната Масальскага, на той час рэферэндара ВКЛ, віленскага пробашча і пралата, архідыякана жмудскай кафедры і Томаша Корсака, віленскага каноніка і ейшыскага пробашча. Камісараў вельмі ўразіла тое, што насельніцтва зусім не імкнулася хадзіць да царквы і людзі «без ніякіх прыметаў веры і абычаяў, цемрай паганскай агорнуты, у забабонах і гуслях жыццё пражываюць і, больш таго, паводле агульнага разумення, займаюцца чарадзействам» (...iż wielu Poddanych tuteyszych świętego zgromadzenia y duchownych Panów nayduie się bez żadney wiadomości wiary y obyczajów w ciemnościach prawieńskich pogrążeni, w zabobonach y gusłach usność pokładający, co większa, według pospólstwa rozumienia, bawiączy *się* czarodzieystwem»)[1388]. Каб неяк выправіць сітуацыю, было прынята рашэнне аб

[1381] Тамсама.- Bib. 17601, p. 43-44v.

[1382] Тамсама.- P. 44v.

[1383] Тамсама.

[1384] Тамсама.- P. 43.

[1385] LMA BRS. F. 43, bib. 17601, p. 45v.

[1386] Тамсама.- P. 50.

[1387] Тамсама.

[1388] Тамсама.- P. 51.

правядзенні спецыяльнай генеральнай місіі з мэтай навучыць сялян хрысціянскай навуцы.

Аб тым, што сяляне Стрэшынскай воласці «сядзелі» на чыншы, які выплачвалі праз порубы, адзначалі інвентары 1779 і 1787 гг.[1389]

Ва Уставе з інвентару Стрэшынскага ўладання за 1787 г. адзначалася, што адміністрацыі забаранялася ездзіць для збору чыншу і правядзення порубаў па воласці. Больш затое, падкрэслівалася, што «толькі даўнім звычаем кожны войт з дзесятнікам і мужам выбраным ад вёскі... чынш з усёй вёскі сабраўшы, да двара прынесці павінен[1390]. Як і раней. указвалася, што «порубы ў інвентарах, абазначаныя ў прысутнасці старца, кожны войт з дзесятнікам і мужам, выбраным ад кожнай вескі, павінен, сабраушы усе, даставіць у замак да пана губернатара»[1391]. Калі ў грамадскай касе не будзе дастатковай колькасці грошай на якія-небудзь патрэбы, то дазвалялася зрабіць яшчэ адзін пабор «з удзелам старца, усіх войтаў і найменш па аднаму мужу з кожнай вёскі»[1392]. Кіраўнік абшчыны ў тэксце Устава быў названы «лянтвойт альбо старац»[1393]. Па сваіх абавязках ён выступае як толькі як прадстаўнік грамады, але адначасова і як панскі ўраднік, які займаўся арганізацыяй усіх работ у воласці, кіраваў размеркаваннем людзей на прац; адказваў за збор чыншаў і падаткаў, сачыў за чарговасцю выхаду прадстаўнікоў весак на старожу і інш.[1394]

У 1787 г. у Стрэшынскай воласці былі і абшчынныя зерневыя склады («магазіны»). Аб гэтым яскрава сведчаць запісы з дакумента «Рахунак збожжа, пазначанага сялянамі з валасцянскага магазіна ў 1787 г.» У дакуменце пералічані прозвішчы стрэшынскіх мяшчан і сялян з пазначэннем таго, хто колькі ўзя жыта, аўса, ячменя і грэчкі[1395]. Ва Уставе з інвентару маёнтка Стрэшын 1787 г. запісаны парадак карыстання «валасцянскім магазінам»: «Стрэшынская воласц і кожны, хто асобна пазычае з валасцянскага магазіна збожжа (ад якога адзі ключ у пана губернатара, а другі ў старца павінен быць), абавязаны штогод вяр таць яго ў магазін, і пасля гэтага свабодна можа ізноў пазычаць»[1396]. Валасцянсь магазін знаходзіўся пад агульным наглядам стрэшынскага мастаўнічага.

Цікава, але ў капітульных вёсках Стрэшынскай воласці грамада захавалас і пасля далучэння гэтых тэрыторый да Расійскай імперыі. Як сведчыць інвента маёнтка Стрэшын, складзены ў 1787-1791 гг., уладанне засталося ва ўласнасці ка пітулы Віленскага каталіцкага біскупства. Праўда, паўсямеснага абшчыннага землекарыстання і сумеснага адбыцця павіннасцей і выплаты падатка ўжо не былс Зямельныя надзелы запісаны за кожным асобным гаспадаром - адбылася індывідуалізацыя сялянскага землекарыстання. Разам з тым пры большасці вёсак ш значаны землі, якія «ўся вёска ўжывае і разам за іх плаціць». У кожнай вёсці пазначаны кіраўнік сельскай абшчыны - войт. падаткі з насельніцтва ў 1787 г.

[1389] Тамсама.- Bib. 17629, p. 15-16; bib. 17637, p. 9-29.

[1390] Тамсама.- Bib. 17637, p. 26v.

[1391] Тамсама.

[1392] Тамсама.- P.27.

[1393] LMA BRS. R43, bib. 17637, p. 28.

[1394] Тамсама.- P.26-28v.

[1395] Тамсама.- Bib. 17639, p. 1-12.

[1396] Тамсама.- Bib. 17637. p. 28v.

збіраліся праз старую сістэму абшчыннай раскладкі - порубы[1397]. Рэестр расходавання грошай, сабраных праз поруб у Стрэшынскай і Ворсіцкай валасцях складзены ў 1787 г., адзначаў наступныя накірункі расходаў: падымнае, чопавае калоднае, паштовае, а таксама выплаты карпілаўскім каменданту, арганісту і парабку, лянтвойту, мастаўнічаму, казаку, гаспадыні, дзеўцы[1398]. Лянтвойт, ці старац, атрымліваў на год 100 злотых, мастаўнічы, казак, гаспадыня і дзеўка - адпаведна па 200, 50, 35 і 25 злотых[1399].

Такім чынам, матэрыялы па ўладанню Стрэшын паказалі, што ў Стрэшынскай воласці ў другой палове XVIII ст. працягвала функцыяніраваць валасна: абшчына на чале са старцам (у канцы XVIII ст. яго называлі таксама лянтвойтам). У склад валасной абшчыны ўваходзілі грамады асобных сёл, прадстаўнікамі якіх былі войты. Паўнамоцтвы абшчыны былі даволі шырокімі, але паступова яна пераходзіла пад усё большы кантроль землеўласніка. Найбольш выразна гэта праяўлялася ў тым, што, паводле сваіх абавязкаў, распісаных ва ўставах канца XVIII ст., старац выглядаў больш як панскі адміністратар, чым прадстаўнік сялянскага самакіравання.

Некалькі па-іншаму выглядала ў крыніцах грамада ў маёнтку Убарць Віленскага біскупства. Як сведчыць інвентар Убарцкага ключа 1760 г., галоўнай павіннасцю насельніцтва тут з'яўлялася мядовая даніна, якую кожнае сяло здавала разам[1400]. Сярод сельскай адміністрацыі названы войты і падвойскія[1401]. У генеральнай уставе сярод агульнавалясных павіннасней адзначалася, што сяляне павінны «сена на двор паводле даўняга звычаю 300 вазоў паміж сабой вызначыўшы, кожнай вёскай складаць і тым парадкам агульна да двора даваць», а таксама вырабіць ад воласці невад[1402]. Ва Убарцкай воласці таксама былі розныя складкі, рабіліся агульнаваласныя порубы, што сведчыць аб існаванні тут валасной абшчыны. Устава адзначала, што тыя людзі, якія не былі членамі абшчыны - «мужамі» і не мелі сваіх гаспадарак, жылі пры цэрквах ці здымалі ў сялянгаспадароў у хатах куты, таксама павінны былі падчас пабораў, прызначаных на воласць, уносіць сваю долю: «Пры паборах усялякіх паповічы і кутнікі павінны складвацца зароўна з воласцю»[1403].

Агульнаваласныя порубы на асобныя вёскі павінны былі ажыццяўляць войты ў панскім двары ў прысутнасці двух прадстаўнікоў ад грамады кожнай вёскі, таксама збіраць і падлічваць і размяркоўваць сабранае: «Розныя порубы, якія толькі могуць адбыцца і здарыцца, войты павінны раскладаць у панскім двары, але не аднаасобна, а разам з уважлівымі мужамі, якіх павінна быць па два чалавекі ад кожнай вёскі, потым выбіраць гэтыя порубы, падлічваць іх у прысутнасці тых жа мужоў і размяркоўваць, на якія патрэбы яны могуць быць накіраваны.

Двор за кожны сабраны доруб павінен даць адпаведныя квітанцыі» («A takowe poniby, jakie się tylko znaleść mogą y zdarzyć woytowie nie sami jedni, ale z

[1397] Тамсама.- Bib. 17666, p. 1-26.

[1398] Тамсама.- P. 26.

[1399] Тамсама.

[1400] Y UBRS. F. 57- Б53-133, p. 3-18.

[1401] Тамсама.- P. 15.

[1402] Тамсама.- P. lóv.

[1403] Тамсама.

muzami uważnemi, których z każdey wsi powinno bydz po dwuch we dworze, rozkładać, a potym wybierać i kalkuliować się przy tych że muzach wiele na co obrócą powinni. Dwór zaś na każdy porub znależyla expressyą, etiam y na same czynsze kwity zawsze ma dawać»[1404]). Камісары, якія складалі інвентар, адзначылі яшчэ два моманты, якія сведчаць аб існаванні грамады ва Убарцкай воласці. Па-першае, гэта тое, што воласць не павінна была рабіць грашовыя складкі для катляра на рамонт лазні, таму што гэта павінна было быць аплачана трымальнікам («włość niesłusznie składała porub pieniężny dla kotlarza na zapłacenie reperowaney Bani de nowo skarbowey, tenutor powinen był to zrobić własnym kosztem»)[1405]. Па-другое, вінаватых у тым, што хадзілі у Кіеў прадаваць валоў, прадпісвалася караць бізунамі пры слупе на сходзе грамады («rózgami u słupa pry Gromadzie»)[1406].

Паводле інвентару сталовага маёнтка Віленскага біскупства Убарць Мазырскага павета за 1763 г.[1407], галоўнай павіннасцю насельніцтва Убарцкай воласці была даніна мёдам і чынш. Мядовая даніна хоць і распісвалася па гаспадарках, але колькасць яе прызначалася на ўсё сяло. Напэўна, сяло разам несла адказнасць за паўнату выплаты гэтай даніны. Аб яе прызначэнні менавіта на ўсё сяло сведчаць наступныя запісы: «пакладзена мёду ўсім сялом даць» (Лейчыцы). «мёду ўсім сялом» (Буйновічы), «пазямельнага мёду сялом даюць» (Дуброва, Сіманічы, Баровае, Мілашэвічы, Картынічы, Ліпляны, Стадолічы, Злодзін)[1408]. Акрамя таго, воласць плаціла падатак, які называўся «калядкавы», і аддавала разам 1600 польскіх злотых[1409], таксама воласць аддавала «з кожнай хаты па вянку грыбоў, які мае ў сабе сто грыбоў, або паўзлотага літоўскага»[1410]. «На падводы пад мед да Вільні воласцю складаюць па 600 польскіх злотых, а на тры падводы пад грыбы, мак, проса і інш. 70 польскіх злотых»[1411]. У маентку ўпаміналіся войт і падвойскія[1412]. Адзначалася, што за даўгі забіраць у сялян маёмасць без згоды на гэта двара нельга, «а калі б двор дазволіў гэта рабіць, то войт з мужамі павінен ацаніць усё справядліва і адпаведна гэтай таксы прапанаваць двару»[1413].

Значна больш звестак аб функцыях сельскай грамады ўтрымлівае інвентар уладання Убарць, падпісаны 18 чэрвеня 1776 г.[1414] У кожнай вёсцы ўладання адзначана мядовая даніна - «палезіўнае», якое кожнае сяло здавала разам. На 379 сялянскіх дымоў у воласці было 2 войты, 11 падвойцкіхі 11 казакоў[1415]. Убарць была сталовым уладаннем Віленскага біскупа Ігнацыя Масальскага, які займаў гэтую

---

[1404] Тамсама.- P.17.

[1405] Тамсама.

[1406] Тамсама.- P.18.

[1407] LMA B RS. F. 43, bib. 18694, p. 12-22; VU B RS. F. 57- Б53 - 135; Хроніка Убарцкага Палесся / складальнік А.І. Атнагулаў. - Мінск: Тэхналогія, 2001. - С.60-77.

[1408] Хроніка Убарцкага Палесся - С.63-72.

[1409] Тамсама.- С 73.

[1410] Тамсама.- С 75.

[1411] Тамсама.

[1412] VUB RS .F.57 - Б53 - 135, p. 5.

[1413] Тамсама.

[1414] Тамсама.- F.57 - Б53- 172.

[1415] Тамсама.- P.3-17.

пасаду з 1762 г. І. Масальскі быў актыўным прадстаўніком ідэалогіі Асветніцтва, першым старшынёй Адукацыйнай камісіі (1773-1780 гг). Ён выступаў за вызваленне сялян ад прыгону і адпаведную палітыку праводзіў у сваіх уладаннях. Мяркуем. што гэта менавіга яго словы ўнесены ў Генеральную ўставу Убарцкай воласці, змешчаную ў інвентары 1776 г.: «Я хацеў бы, каб людзі, якія па волі Бога знаходзяцца пад маёй уладай, былі найшчаслівейшымі, але таго не можа быць без асветы, таму абавязую дваровую адміністрацыю, каб дабіваліся таго, штоб усе гаспадары праз любоў да свайго патомства аддавалі дзяцей зімоваю парою ў парафіяльныя школы, каб там вывучыўшыся адпаведным для свайго саслоўя навукам. лепш разумелі мае погляды і бацькоўскую апеку, з жаданнем павялічыць для кожнага магчымасці, даваемыя лёсам, атрымаць поўную свабоду...» («Iest moim pragnieniem, ażeby Lud władzy moiey od Boga powierzoney, był nayszczęsliwszy, ażе do tego przyjść nie może bez oświecenia, prze to obowiązuje y Dworzką zwierchność aby do skutku koniecznie staralisię przyprowadziś y wszystkich gospodarzow, ażeby przez miłość swoje go potomstwa, oddawali one do szkół Parafialnych zimową porą y gdy się tam wyćwiczą w przy swoitych stanowi naukach, doznaią więcey moich względów y oycowskiego dla siebie serca, przez powiększenie każdego Fortuny y nadania mu zupelney wolności, zostawując zawsze y my pomierney tylko y dobrowolnie postąpnioney daninie»)[1416].

Устава зафіксавала, што ва Убарцкім ключы зямля не вымерана, ніхто не ведае велічыні сялянскіх надзелаў і таму сяляне застаюцца «пры плаце чыншу і дані мядовай»[1417]. Кіраўніком Убарцкай валасной абшчыны, як сведчыць аналізуемы дакумент, быў войт, дапамагалі яму падвойцкія і лаўнікі. Поруб, ці, як ён называўся ва Убарці, «калядкі». у памеры 1600 злотых войт разам з падвойскімі павінен быў раскласці на ўсю воласць («Podatek Porubu czyli koladki zł. Tysiąc szess ett 1600 Woyt z Podwoyskiemi y Ławnikami uczyniwszy roskład na włość całą Importować mają do Skarbu»)[1418]. Збожжавую ссыпку, якая здавалася паводле даўняга звычаю з кожнага сялянскага дыму, збіралі вонты, падвонцкія і казакі[1419]. Сярод агульнаваласных павіннасцей пералічвалася дастаўка да панскага двара сена, дроў, а ў якасці новых павіннасцей «па дамове з воласцю» 300 вазоў руды, кожная вёска да бліжэйшай рудні і 600 бочак попелу[1420]. Абавязкам воласці заставалася пля-ценне невада, рамонт грэбляў і мастоў.

Генеральная ўстава Убарцкай воласці 1776 г. стала першым вядомым у гістарыяграфіі дакументам, у якім дэталёва расπісаны склад і персанальныя абавязкі абшчыннай адміністрацыі на тэрыторыі Беларусі: «Наконт утрымлівання кіравання. Не толькі дваровая адміністрацыя павінна кіраваць людзьмі, таму што яна ніколі не зможа поўнасцю ўспрымаць усіх цяжкасцей і праблем падданых. Для таго, каб найлепшы быў захаваны парадак, але таксама праз вернасць двару, самі паміж сабою павінны клапаціцца аб добрым парадку ў гаспадарцы і ахове скарбавага дабра. Для гэтага воласць павінна абраць войта, які ў ёй будзе за гас-падара і які сумленна прыйме гэты абавязак пасля зацвярджэння сваіх функцый панам

[1416] VUBRS.F.57 - Б53 - 172, p. 19.

[1417] Тамсама.

[1418] Тамсама.

[1419] Тамсама.

[1420] Тамсама.- P.19v.

губернатарам і павінен быць шчырым і верным скарбу, а таксама кіраваць і дапамагаць усёй воласці. У кожнай вёсцы павінны такім жа чынам быць абраны падвойскія. абавязкам якіх будзе назіраць за гаспадаркай сялян. каб добра абраблялі зямлю, рэгулярна засявалі, не марнавалі свайго дабра праз п'янства і неразумнае кіраванне гаспадаркай, каб не мелі запазычанасцей перад скарбам. Гэтых людзей воласць сама павінна будзе поўнасцю ўтрымліваць.

Павіннасцю кожнага падвойскага будзе таксама сачыць за тым. каб не было пустак, а таксама забараняць пакідаць хаты або аб'яднання дзвюх хат у адну гаспадарку, пра што, як толькі даведаецца, абавязаны адразу паведаміць да двара, а пан губернатар праверыць, і калі гэта адбылося праз гультайства, павінен такіх пакараць, а калі праз няздольнасць гаспадарання, то павінен падумаць пра тое, як яму дапамагчы. Калі ў вёсцы з'явіцца якая-небудзь пустка, то ўся вёска абавязана тую зямлю апрацаваць і засеяць, а належнае з яе поўнасцю аплаціць скар-бу... Казакі павінны ездзіць з лістамі ў пасылкі, мець добрых коней, зброю («кульбакі, пісталеты і дзіду»), плата ім па 20 злотых у год» («Co do utrzymania Rządu. Nietylko sama zwierchność Dworska rządzić powinna Ludem, która nigdy tak doskonale postrzedź nie może wszystkich defektów y doległości poddanych aby jak naylie-piey był zachowany porządek, ale też przez wierność Dworowi, sami między sobą mają się starać o przyswoite zachowanie się w gospodarstwie, y w postrzeganie skarbowego dobra, dla tego przez Włość obrany być powinen Woyt za Gospodarza, którzy iako przez obowiązek sumnienia przyjowszy takową Funkcją z potwierzeniem Im Pana Gubenatora ma być szczyrym i wiernym skarbowi, tak też radą y pomocą caley włości. w każdey wiosce ma byś tym sposobem obierani podwoyscy, a ci baczność mieć będą na wszelkie zagospodarowanie każdego, aby grunta należycie wyrabiali regularnie zasiewali, dobra swoiego niemamotrawili, przez piaństwo y zły rząd w Gospodarstwie, oraz aby wypłatnemi byłi skarbowi, gdyż zaciągniony Remanent Włość cała opłacać będzie powinna za każdego.

Będzie powinnością każdego Podwoyskiego postrzegać aby pustek nie było y bronić wyścia z chat lub zeyścia się w jedno domowstwą dwóch gospodarzow, o czym jak skoro tylko dowie się dać wiedzieć dworowi, a Pan Gubernator wyexaminowawszy ieśli to przez Hultaystwo dzieje się, będzie mógł takowego ukarać, ieżeli zaś przez nie sposobność utrzymania gospodarstwa, ma o sposobie myśleć zapomogi dla niego wszelaka, jeśli by się jaka nałaszła pustka cała wieś jest obowiązana ten grunt zarobić y zasiać a należytość zupełnie opłacić skarbowi... Kozacy ezdzić z listami posyłki, mieć dobre koni, kulbaki, pistolety i dzidy, płata onym 20 zł. na rok»)[1421].

Найбольш поўна апісвае сацыяльна-эканамічную сітуацыю ва ўладанні Убарць, у тым ліку і становішча грамады, інвентар, датаваны 1780 г.[1422] Кіраўніком Убарцкай валаснай абшчыны з'яўляўся войт, які жыў у Буйновічах. Ва ўсіх астатніх вёсках воласці знаходзіліся памочнікі войта - падвойскія, якія фактычна былі кіраўнікамі абшчын асобных вёсак[1423]. Устава, змешчаная ў інвентары 1780 г., практычна паўтарае змест Уставы 1776 г. і таксама сведчыць аб высокай ролі грамады ва ўладанні Віленскага біскупа Убарць.

Наяўнасць абшчыны прасочваецца ў царкоўных уладаннях, размешчаных не толькі на ўсходзе, а таксама ў цэнтры і на захадзе Беларусі. Напрыклад, інвентар Ігуменскай воласці Віленскага біскупства, складзены каля 1788-1790 гг., таксама

[1421] VUBRS.F.57 - Б53 - 172, p. 20.

[1422] Тамсама.- R57– Б53- 137.

[1423] Тамсама.- P.3v-23.

адлюстраваў вынікі палітыкі біскупа Ігната Масальскага, прыхільшка ідэй Асветніцтва. Па-першае, усе сяляне ўладання атрымалі свабоду ад паншчыны («nadaję wolnością od pańszczyzny wszystkich włościan»)[1424]. Па-другое, усе сяляне былі абавязаны аддаваць дзяцей вучыцца ў школу («wszysce włościanie mają oddawać dzieci do szkol na naukę») і рабіць складкі на аплату настаўніка («na dyrektora wsie składać powinni»)[1425]. Разам з тым сяляне заставаліся на чыншы, шмат павіннасцей адбываліся сумесна. грамадой (старожы ў двары, рамонт дарог і грэбляў, выплата падымнага падатку).

Абшчыну кожнай з вёсак Ігуменскай воласці ўзначальваў войт, які што месяц павінен быў дакладваць губернатару аб іх гаспадарчым становішчы[1426] Адзначана, што «кожны войт ёсць не толькі суддзя для сваіх сялян, але і зборшчык падаткаў»[1427]. У інвентары было зафіксавана, што «ўся воласць паводле даўняга звычаю складваецца на ўтрыманне ў панскім двары цівуна, гаспадыні, гайдука і трох старажоў»[1428], землеўласнік прадугледзеў мажлівасць правядзення сярод валашчан складак на дапамогу збяднелых сялян. Сабраныя грошы перадаваліся войту, які павінен быў за іх купіць беднякам валоў, коней і іншае па патрэбе («Niepowinni to sobie mieć Gospodarze za krzywdę, kiedy na zapomogę podpadłych i zubożałych gospodarzow za rosporządnieniem dworu szkładkę czynić będą. Która ta składka nie ma być odbierana przez gubiematora. ale przy woicie zastawiona być powinna aby on dla ubogich gospodarzow kupił woły, koni, lub co potrzeba...»)[1429]. Прадугледжвалася, што «кожная вёска павінна сама для сябе выбіраць войта, якога абранне павінен залвердзшь двор і даць яму права разбіраць («судзіць») розныя справы паміж сялянамі і рабіць гэта разам з лаўнікамі і трыма мужамі войтам выбранымі і дваром зацверджанымі, калі іх рашэнне не задаволіць спрэчныя бакі, то яны могуць звяртацца да пана губернатара»[1430].

У інвентары падкрэслівалася, што сялянам далі свабоду ад паншчыны з умовай, каб яны «чыншам за ўсё адплацілі». Разам з тым прадугледжвалася, што калі хто-небудзь не зможа заплаціць чынш, то гэта павінна будзе зрабіць за яго уласная грамада («włość za niego zapłacić powinna»), а калі селянін не заплаціць і другі раз, то яго трэба іноў зрабіць цяглым «wraz obrócimy być taki na ciągłego», каб адрабляў па тры дні паншчыны на тыдзень[1431]. Для ўзаемадапамогі сялянам быў створаны грамадскі склад для зерня («магазін»)[1432]. Адзначалася, што падатак за пустаўшчызны, а таксама іншыя складкі ці порубы неабходна раскладваць так, каб убогім не было вельмі цяжка, таму такія падаткі павінны рабіцца з улікам складу сям'і. колькасці зямлі і да т. п. і збірацца «у прысутнасці старца, вонтау і першых мужах валасцянскіх»[1433]. Інакш чынам, з гэтага дакумента вынікае, што ва ўладанні

[1424] LVIA. F.694, ap. l,b ib. 106, p. 197.

[1425] Тамсама.

[1426] LV1A. F.694 ap. I, bib. 106, p. 198.

[1427] Тамсама.

[1428] Тамсама.

[1429] Тамсама.

[1430] Тамсама.

[1431] Тамсама.- P. 199.

[1432] Тамсама.

[1433] Тамсама.- P. 200.

Ігумен таксама існавала валасная абшчына на чале са старцам, а абшчыны асобных вёсак узначальвалі войты. У шэрагу выпадкаў упамінаюцца лепшыя мужы валасці. якія. магчыма, стваралі нейкі дарадчы орган пры старцу.

Аб тым, што грамада існавала ў многіх вёсках Мінскага езуіцкага калегіума, сведчаць некаторыя запісы ў люстрацыі, праведзенай у 1773 г.[1434] Так, у сяле Сляпянка Менскага павета павіннасць была агульнай: «...павіннасць агульная вёскі Сляпянкі, гвалтаў шэсць летам па двое з паловы валокі з чым двор кажа заслужыць павінны»[1435]. Ва ўсіх вёсках маёнтка Глівін былі войты, за плацы гуменныя ў вёсцы Навасёлкі плацілі ўсе разам[1436], у вёсках Сушкевічы, Гараны, Паджодзіш даніну медовую здавалі агулам[1437].

Інвентар маёнтка Бакшты Ашмянскага лавета, які быў складзены ў 1777 г. пры перадачы ўладання віленскім епіскапам Інакенціем Масальскім Юзефу Сухорскаму, адзначаў, што тут сярод сялянства праводзіліся порубы[1438]. Другім фактам наяўнасці тут валасной абшчыны з'яўляецца запіс аб тым, што нейкі пан Сільвестровіч пазычыў усей воласці 14 злотых, якія воласць да гэтага часу не вярнула («Gotowych Pan Sylwestrowicz pieniędzy w roku 1777 pożyczył na włość zł czternaście, które do tąd zalegają na Włości»)[1439].

Абшчына выразна прасочваецца і у Брашэвіцкай воласці Віленскага біскупст-ва. -Як сведчыць інвентар воласці за 1751 г., усе вёскі знаходзіліся на «голым чыншы», які прызначаўся агулам на ўсю вёску і, верагодна, таксама разам і збіраўся. Устава, змешчаная ў канцы інвентару, сярод абавязкаў дзесятнікаў называе і тое, каб яны сачылі за тым, што б жыхары абавязкова хадзілі ў касцёл[1440].

Інвентар Брашэвіч за 1771 г. утрымлівае спасылку на факт удзелу грамады ў судзе, створаным у маёнтку. У прыватнасці, сярод «Агульных павіннасцей» насельніцтва воласці было запісана, што «крымінальы» будзе судзіць пан адміністратар «з дапамогай дзесяці старцаў, якія кожны год павінны выбірацца на грамадзе ў дзень Святога Марціна»[1441]. Нельга адназначна сцвярджаць, што названыя «старцы» - гэта кіраўнікі абшчыны. Зусім верагодна, што гэта старэйшыя ці найбольш паважаныя члены грамады, якія выбіраліся для таго, каб выконваць ролю своеасаблівых «народных засядацеляў» у адміністратарскім судзе ці «пракуратараў», як гэта было ў суседніх дзяржаўных вёсках. Галоўнае тут тое, што менавіта грамада са свайго асяроддзя выбірала гэтых людзей якраз для пэўнай мэты – удзелу ў разглядзе судовых спраў адносна насельніцтва гэтага ўладання. У інвентары было таксама зафіксавана, што дзесятнікі павінны былі сачыць за тым, каб з хаты найменш чым па аднаму чалавеку хадзіла ў касцёл для навучання навукі Божай.

Устава адзначала, што «аддаўшы Богу Богава. найпершай думкай воласці

[1434] Н БУ Р. Ф. 1, спр. 5981.

[1435] Н БУ Р. Ф. 1, шр. 5981, арк. 83 адв

[1436] Тамсама.- Арк. 33 адв. - 94 адв

[1437] Тамсама.- Арк. 95 адв. - 96 адв

[1438] LYIA. F. 1029; ap. l, bib. 377, p. 6.

[1439] Тамсама.

[1440] РА БАН Літвы. Ф. 43, спр. 64932; арк. 15.

[1441] LVIA. F. SA, b b. 11459, p. 7v.

павінна быць аддаванне таго, што скарбу Рэчы Паспалітай належыць». Таму ў прызначаны тэрмін сяляне павінны, «самі праз сябе выбраўшы», сабраць падымнае і аднесці яго ў Бярэсце[1442]. У інвентары было падкрэслена, што ўсе павінны складвацца пароўну, «толькі самым убогім, якія ад грамады адчулі абцяжарванне»[1443], дазвалялася шукаць справядлівасці ў двара. Дарэчы, квіты аб тым. што селянін здаў падымнае, павінны былі склейвацца ў адну кнігу і захоўвацца. На ўсго воласць разам ускладваўся таксама абавязак рамонту і пабудовы мастоў, а таксама агараджэння платоў. Натуральна, што сама абшчына вызначала, як гэта лепш зрабіць.

Цікава, што ў Брашэвічах нават справу пакарання тых, хто не хадзіў у касцёл (загадвалася, што рабіць гэта павінны былі і католікі і уніяты, значыць, праваслаўных тут не было. - В. Г.), усклалі на валасную грамаду. Так, Устава падданым маёнтка Брашэвічы, складзеная, хутчэй за ўсё, у канцы XVII - пачатку XVIII ст., адзначала, што кожны, хто не прыйшоў у касцёл, павінен будзе за гэта заплаціць тры грошы літоўскія, кінуўшы іх у спецыяльную скрынку, якую абавязана была прадаставіць воласць. Скрынка павінна быць з замком, акаваная ў жалеза і прыбітая да царквы, а сачыць за гэтым павінны былі дзесятнікі[1444].

Напрыканцы прывядзём некалькі прыкладаў таго, што ў Брашэвіцкай воласці і ваколіцах па меншай меры ў XVIII ст. у грамады заставалася права распараджэння зямлёй, якое самімі сялянамі часта расцэньвалася як права ўласнасці. Сапраўды, у некаторых месцах дакумент як быццам адназначна гаворыць пра права ўласнасці грамады на ворыўную зямлю, лес альбо сенакосы. Такое ўражанне ствараецца асабліва тады, калі дакумент, у якім утрымліваюцца выразы кшталту «тал зямля грамадзе належыць», «тую зямлю грамада прадала (купіла)», зыходзіць ад імя феадала. Але заўсёды ў такіх выпадках трэба мець на ўвазе тое, што права карыстання і распараджэння зямлей сяляне мелі толькі пры ўмове выплаты прызначанай з гэтай зямлі рэнты. Натуральна, што сяляне лічылі сваім і надзел. які яны традыцыйна перадавалі па спадчыне, і нанова распрацаваную зямлю. Усе агульныя распрацоўкі сяла, сенакосы, лясныя ўваходы лічыліся грамадскімі, але кожны меў у гэтым грамадскім сваю долю. Такое становішча часта было выгадным для землеўласніка, які «аддаваў» грамадзе за вызначаную суму чыншу ворыва, сенакос і г. д. Грамада сама ўжо дзяліла іх сярод абшчыннікаў і збірала падаткі ці прызначала адпрацоўкі.

Самай галоўнай засцярогай для сялян з боку землеўласніка ў справе распараджэння зямлёй было тое, каб яны не здавалі сваё ворыва і сенажаці чужым людзям, асабліва суседзям, таму што ў такіх выпадках вельмі цяжкімі былі памежныя спрэчкі[1445]. Нам удалося выявіць і некалькі фактаў, якія сведчаць. што і на тэрыторыі Брашэвіцкай воласці былі землі, якія належалі грамадзе, хоць гэтыя факты не такія яркія і паказальныя, як у суседніх дзяржаўных уладаннях. У пераважнай большасці гэта запісы ў інвентарах з інфармацыяй аб тым, што некаторымі землямі карыстаецца ўсё сяло і з іх разам збіраюцца выплаты.

Такім чынам, можна зрабіць выснову. што ў царкоўных уладаннях.

---

[1442] Тамсама.

[1443] Тамсама.

[1444] LMA BRS. F. 43, bib. 6449, p. 1.

[1445] Тамсама.- Rlv.

размешчаных у паўднёва-заходнім рэгіёне Беларусі, таксама як у дзяржаўных і прыватных, у другой палове XVIII ст. працягваў існаваць такі інстытут сялянскай самаарганізацыі і самакіравання, як абшчына. Аб гэтым сведчаць матэрыялы вёсак маёнтка Брашэвічы Віленскага біскупства, размешчанага ў Кобрынскім павеце Берасцейскага ваяводства. Грамада ў гэтым рэгіёне захавала свае паўнамоцтвы не толькі ў арганізацыі паўсядзённага жыцця вёскі, але і ў сферы землеўладання і землекарыстання.

Падагульняючы, адзначым, што ў другой палове XVIII ст. грамада па-ранейшаму актыўна ўдзельнічала ў раскладцы чыншу, рэгулявала карыстанне агульнымі ўгоддзямі, а ў некаторых выпадках і надзельнымі землямі сялян царкоўных уладанняў Беларусі, сачыла за справядлівасцю раскладкі павіннасцей унутры сяла. Царкоўныя землеўласнікі ў шэрагу выпадкаў былі вымушаны лічыцца з грамадою, асабліва ў выпадку змянення сялянскіх павіннасцей. Больш за тое, на прыкладзе ўладанняў Стрэшын, Горваль, Убарць, Ігумен, Брашэвічы, якія належалі Віленскаму каталіцкаму біскупству, выразна відаць імкненне землеўласніка не толькі рэгламентаваць, а нават і пашырыць функцыі грамады, зацвердзіць пэўныя элементы сялянскага самакіравання. Кіраўнікам абшчын уводзілася ў абавязак сачыць за тым, каб захоўвалася роўнасць у выкананні падводнай і іншых павіннасцей, каб памеры чыншу залежалі ад маёмаснага становішча абшчынніка. Напрыклад, чынш у Стрэшынскай воласці ў 1787 г. збіраўся пры абавязковай прысутнасці старца, войта і ўсёй грамады[1446]. Больш шырокія правы, як і у папярэдні перыяд, абшчына мела ў чыншавых вёсках.

[1446] LMA BRS. F. 43, bib. 17608, p. 24.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Такім чынам, у выніку даследавання дзейнасці сялянскай абшчыны як сацыяльнага (а ў пэўным сэнсе і гаспадарчага) інстытута арганізацыі сельскага насельніцт-ва Беларусі ў XVI-XVIII стст. можна зрабіць вывад аб яе значнай ролі ў жыцці сялянства і нават дзяржавы. З дапамогай абшчыны дзяржава, прыватныя і духоўныя ўласнікі імкнуліся найхутчэй адрадзіць эканоміку сваіх маёнткаў у гады эканамічнага заняпаду. Абшчына на працягу разглядаемага перыяду не зкікла, як гэта раней сцвярджалася ў гістарыяграфіі. Яна мяняла свае функцыі, прыстасоўвалася да новых эканамічных і палітычных умоў, але жыла, бо была патрэб-на як сялянству як інстытут яго самаарганізацыі, так і феадалам, якія пастаянна імкнуліся выкарыстаць грамаду ў якасці калектыўнага павіннаснага і падатка-плацельшчыка.

У якасці формы самаарганізацыі сялянства грамада найболып выразна выступае ў першую чаргу ў тэкстах сялянскіх скаргаў як інстытут, з дапамогай якога феадальназалежнае насельніцтва бараніла правы і адстойвала свае інтарэсы. Дакументы сведчаць, што грамада была той арганізаванай структурай, у рам-ках якой праходзіла асноўная частка жыцця сялянства.

Грамада ў Беларусі найбольш выразна прасочваецца ў буйных дзяржаўных, магнацкіх і духоўных уладаннях, якія звычайна кіраваліся праз спецыяльна прызначаную адміністрацыю. Часта такія ўладанні здаваліся ў арэнду, іншае часовае трыманне, і землеўласніку з дапамогай грамады было прасцей весці кантроль за акономамі і арандатарамі, каб яны не нашкодзілі маентку і не абцяжарвалі сялян звыш норм, прадугледжаных у інвентарах. У гэтым сэнсе можна нават гаварыць пра наяўнасць у беларускай феадальнай вёсцы пэўных элементаў сельскага самакіравання. Права грамады разам падаваць скаргі (суплікі), выбіраць кіраўніцтва абшчыны, наяўнасць пэўных элементаў абшчыннага суда (неабавязкова аднолькавых у розных абшчынах) сведчылі якраз пра наяўнасць прымет гэтага самакіравання. Крыніцы сведчаць, што як грамада цалкам, так і яе службовыя асобы нават у адносінах з землеўласнікам звычайна на першы план ставілі інтарэсы грамады, што найбольш ярка праяўлялася ў барацьбе за «старыну». Часта неабходныя для грамады рашэнні прымаліся на агульным сходзе вёскі, «на грамадзе людзей». Менавіта праз мясцовае самакіраванне арганізоўвалася землекарыстанне ў вёсцы.

Ва ўсіх відах феадальнага землеўладання прасочваецца наяўнасць двухузроўневай арганізацыі грамады: тэрытарыяльнай (валасной) і сельскай. У выніку даследавання ўдалося даказаць, што грамада ў Беларусі працягвала дзейнічаць і пасля аграрнай рэформы сярэдзіны XVI ст. ва ўсіх відах феадальнага землеўладання па ўсёй тэрыторыі краіны. Больш за тое, заўважна значнае ўзрастанне ролі грамады ў сацыяльна-эканамічным жыцці ў другой палове XVII - XVIII ст.

Найбольш яркімі рысамі функцыяніравання грамады ў беларускай сярэднявяковай вёсцы сталі факты абшчыннага землекарыстання, сумеснага адбывання павіннасцей і збору чыншу, гандлю сельскімі абшчынамі зямлёй, што адбывалася з ведама і дазволу землеўласнікаў. Прыведзены прыклады валодання абшчынамі і нерухомай уласнасцю (млынамі, васкабойнямі, кузнямі), сумеснай арэнды корчмаў, гутаў, мыта і інш.

Выяўлены ўпамінанні аб тым, што на працягу ўсяго разглядаемага перыяду ў

многіх сельскіх абшчынах меліся агульная грашовая маёмасць, якая фарміравалася шляхам правядзення складанак унутры абшчыны.

Такім чынам, у XVI-XVIII стст. сельская абшчына як інстытут сялянскай самарганізацыі актыўна прысутнічала ў жыцці беларускай вёскі. Дакументы не раскрываюць шырока ўсе яе функцыі j паўнамоцтвы, але і па асобных упамінаннях і апісаннях можна зрабіць высноў аб яе высокай ролі ў жыцці тагачаснага сельскага грамадства. Больш шырокімі былі паўнамоцтвы грамады ў чыншавых вёсках ва ўсіх відах феадальнага землеўладання, але дзейнічала яна і у тых населеных пунктах, дзе асноўнай павіннасцю сялянства была паншчына.

Грамада як інстытут самаарганізацыі сялянства прызнавалася дзяржавай. Найбольш выразным падцвярджэннем таму стала ўключэнне ў Статут ВКЛ 1588 г. тэксту аб функцыяніраванні копных ці абшчынных судоў, а таксама каралеўская грамата для грамады вёскі Рэчыца Берасцейскай эканоміі і факты дазволу сельскім абшчынам на ажыццяўленне грамадамі грашовых аперацый, здзелак па про-дажу і арэндзе зямлі, сенажацяў і іншай нерухомасці.

Напрыканцы неабходна адзначыць, што грамада як інстытут, сфарміраваны сялянамі, а не дзяржавай ці землеўласнікам, праіснавала ў беларускай вёсцы да канца XVIII ст.. да моманту ўключэння беларускіх зямель *у* склад Расійскай імперыі.

# ДАДАТКІ

## *Дадатак 1*

**Прывілей з подпісам караля Яна ІІІ, які пацвярджае ўставу чыншаў і павіннасцей, выдадзеную каралём Міхалам Карыбутам Вішнявецкім у 1649 г. для грамады сяла Рэчыца Берасцейскай эканоміі**

«Przywilej z podpisem Króla Jana III, podtwerdzający ustawę czynszów i powinności, wydane przez króla Michała Korybuta Gromadzie wsi Rzeczycy w ekonomii Brzeskiej.

«Jan Trzeci, z Bożej laski Kroi Polski, Wielki Xiążę Litewski, Ruski, Pruski, Żmudzki, Mazowiecki Kiiowski, Wołyński, Podolski, Podlaski, Inflantski, Smoleński, Siewierski y Czerniechowśki.

Oznaymuiemy teraznieyszym Listem Przywileiem Naszym wszem wobec y każdemu zosobna, komu o tym wiedzieć należy Iż produkowany był przed nami list Parga-minowy, ręką Naiasnieyszego Michała Króla Antecessora Naszego podpisany, y Pieczęcią Wielką Wielkiego Xięstwa Litewskiego stwerdzony, opisanie abo ustawę czynszów y powinności Gromadzie wsi Rzeczycy do Oekonomiey Brzeskiey należącey postanowioną, w sobie zamykający, cały, zdrowy, żadney suspiciey niepodpadaiący. J suppli-kowali Nam imieniem pomienionej Gromady Rzeczyckiey. abyśmy im tenże List powagą Naszą Królewską stwierdzić, zmocnić y approbować raczyli. Którego to listu tenor słowo w słowo wypisany taki iest. Michał z Bożej łaski Kroi Polski Wielki Xiążę Litewski. Ruski, Pruski, Żmudzki, Mazowiecki, Kiiowski, Wołyński, Podolski. Podlas-kiInflantski, Smoleński, Siewierski y Czerniechowśki. Oznaymuiemy teraznieyszym listem Przywileiem Naszym wszem wobec, y każdemu zosobna komu o tym teraz y wpomne czasy wiedzieć będzie należąc. Pokładany Nam był list Papirowy, ręką Wielebnego Andrzeia Uszyńskiego y Urodzonego Andrzeia Kotowicza Sekretarzow y Com-missarzow Naszych Oekonomiey Brzeskiey podpisany y Pieczęciami ich stwerdzony iako też y Wielmożnego Krzysztofa Tyszkiewicza Woiewody Czerniechowskiego ręką approbowany zamykaiący w sobie pewną Ustawę Commissarską Gromadzie Rzeczyckiey służączą. J supplikowano nam imieniem teyże Gromady, abyśmy list wyszmiano-wany powagą naszą Królewską stwierdzić raczyli y przy teyże Ustawie wiecznie zachowali. Którego to listu słowo w słowo iest text takowy. Porządki szczęśliwego Panowannia JeKrMć Pan Nasz Mlciwy zaczynaiąc od wrodzoney swoiey nad utrapionemi łaskawości nas Commissarzow y Rewizorów do Dóbr Oekonomiey Brzeskiey zasłać raczył abyśmy nietylko dochód prowentow zweryfikowali, dobrość gruntów uważyli, ale też krzywdom, ciężarom y częstym z wymysłów Dozorców podatkom Poddanych zabieżeli, mocą tedy z ktorąśmy od JeKrMci wyprawieni aby do ostatka zniszczeni nie byli, a tym przędziey ratować się y pustkiosiadać mogli, wprzód te wszystkie niżej wyrażone ciężary ktor... riwatnie dozorcy na wieś Rzeczycy zaciągnęli, znosiemy jako Sno... szczyznę, Podoroszczyznę, szankową, y pieniężną. Podymszczyzną, narzucania na Włok igorzałek, soli, śledzi, zbór wszelakich iarzyn ogrodnych, przędziwa, maku, oleju, siana, na robotę Sąsiadom poddanych pożyczanie do maiętności y conditiy swych własnych przez PP. Podstarosciow y Substitutow wysyłanie, w'ojtom, sługom dwornym gruntów zarabianie, podwod na furmankę w odległe mieysca jako to dla soli,

